

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Кніга выдаецца з дазволу ўладальніка таварнага знака
«БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР»® МГА «Белкнігазбор»

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



# СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)



Мінск
«Кнігазбор»
2007



# ФЕНОМЕН СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

З'яўленне ў IX ст. пісьменства — пераломны момант у гістарычным лёсе беларускага народа. Пісьмовае слова дало унікальныя магчымасці назапашваць і захоўваць інфармацыю, перадаваць яе нашчадкам. Пісьменства сталася вельмі зручнай і найбольш прыдатнай формай сацыяльнай камунікацыі. Беларусы далучыліся да пісьмовага слова — неацэннага скарбу цывілізацыі, дзякуючы месіянерскай чыннасці хрысціянскіх настаўнікаў. Ужо ў X ст. на землях Полацкага, Тураўскага і Смаленскага княстваў былі закладзены першыя школы і скрыпторыі.

Гісторыя беларускай літаратуры, уласна прыгожага пісьменства пачынаецца крыху пазней, прыкладна з XII ст. Арыгінальныя літаратурныя творы ўзніклі ўслед за перакладнымі біблейнымі і дагматычнымі творамі. На працягу стагоддзяў старажытная беларуская літаратура зазнала істотную эвалюцыю. Мастацка-эстэтычныя крытэрыі дазваляюць вылучыць тры асноўныя этапы ў яе развіцці: Готыка (XII—XV ст.), Рэнесанс (XVI ст.), Барока (XVII ст.). Перыядызацыя айчыннай літаратуры старажытнага часу не супадае з грамадскапалітычнай гісторый краіны, этапамі яе дзяржаўнасці ў мінулым. Аднак перыяды нацыянальна-дзяржаўнага ўздыму, як правіла, суправаджаліся ўздымам усіх праяваў культуры, перадусім росквітам літаратуры. Так, умацаванне дзяржаўнасці ў XV—XVI стст., у перыяд княжання Вітаўта Вялікага, Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта Старога, сталася грунтам, на якім узрасла багатая рэнесансавая, а затым і барокавая мастацкая культура Беларусі.

Беларуская літаратура старажытнага перыяду падзяляецца на дзве асноўныя плыні — свецкую і рэлігійную. У многіх творах дамінуюць грамадскія тэмы, рэалістычныя сюжэты і матывы, у іншых — рэлігійныя і містычныя. Беларуская літаратура XII—XVII стст. стваралася як свецкімі асобамі — урадоўцамі, ваярамі, князямі, шляхтай, так і прадстаўнікамі духоўнага стану — святарамі, манахамі, найвышэйшымі іерархамі.

Прысутнасць на духоўна-культурным ландшафце старажытнай Беларусі асноўных сусветных рэлігій спрычынілася да таго, што старабеларускае прыгожае пісьменства мела выразную канфесійна-рэлігійную вызначанасць і скіраванасць. Паводле канфесійнай прыналежнасці ўвесь корпус старабеларускіх твораў тыпалагічна распадаецца на чатыры асноўныя складовыя і прадстаўлены праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і уніяцкай літаратурамі.

Праваслаўная плынь старабеларускага прыгожага пісьменства знітаваная з выбітнымі імёнамі — Кірылы Тураўскага, Кліма Смаляціча, Ігната Смаляніна, Яфрэма-манаха, Грыгорыя Цамблака, Стафана Збаражскага, Лявона Мамоніча, Стафана і Лаўрэнція Зізаніяў, Лявона Карповіча, Андрэя Мужылоўскага, Афанасія Філіповіча, Іаіля Труцэвіча, Сільвестра Косава, Іанікія Галятоўскага. Вельмі багаты рэестр ананімных помнікаў праваслаўнага пісьменства: «Аповесць жыцця і смерці святой Еўфрасінні Полацкай», «Пытанні і адказы праваслаўнаму з папежнікам», «Аповесць пра пакуты і смерць Афанасія Філіповіча».

Ва ўлонні каталіцкай культуры Беларусі сфармаваліся і расквітнелі творчыя індывідуальнасці Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Аўгустына Ротундуса (Мялешкі), Льва Сапегі, Міхала Карыцкага.

Прызнаныя майстры мастацкага пяра — Сымон Будны, Мікалай Радзівіл Чорны, Пётра Гоняд, Андрэй Валян, Васіль Цяпінскі, Крыштоф Філалет, Войцех Салінарыус, Фёдар Еўлашоўскі, Андрэй Рымша — стваральнікі багатай пратэстанцкай літаратуры старажытнай Беларусі.

Пры канцы XVI ст., з прыняццем Берасцейскай уніі 1596 г., імкліва расквітнела уніяцкая літаратура Беларусі, да якой належалі надзвычай таленавітыя пісьменнікі — Іпат Пацей, Язэп-Вельмін Руцкі, Леў Крэўза, Анастасі Сялява, Ілля Марахоўскі, Язафат Кунцэвіч, Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі, Леў Кішка.

У плане канфесійнай прыналежнасці творчасць паасобных беларускіх пісьменнікаў неаднародная. Творчасць Францыска Скарыны — рэнесансавага пісьменніка і мысліцеля не мела канфесійнай заангажаванасці, яго спадчына належыць агульнахрысціянскай і гуманістычнай традыцыі. У выніку збегу жыццёвых абставінаў, эвалюцыі ідэйна-рэлігійных поглядаў ды асабістага творчага лёсу частка творчай спадчыны бліскучага майстра слова М. Сматрыцкага знітаваная з Праваслаўем, а другая — з Уніяцтвам. Творчасць Касіяна Саковіча таксама дзеліцца на два перыяды — праваслаўны і каталіцкі.

Характар і змест старажытнай беларускай літаратуры — красамоўнае сведчанне рэлігійнай цярплівасці ў нашай старажытнай краіне, выяўленне на практыцы натуральнага права пісьменніка на творчую і светапоглядную эвалюцыю, права на пошук і эксперымент.

Зычлівае стаўленне беларусаў да іншых народаў, адкрытасць беларускага духу да культур суседзяў, блізкіх і далёкіх, спрычыніліся да

ўзнікнення ў нашай літаратуры моўнага полілінгвізму. Значная ступень і прыкметныя маштабы выкарыстання ў літаратурна-пісьмовай практыцы царкоўнаславянскай, лаціны і польскай моваў, дазваляюць лічыць іх, побач з галоўнай старабеларускай, асноўнымі літаратурнымі мовамі прыгожага пісьменства даўніх часоў. Кожная з гэтых моваў мела свой лёс на беларускай зямлі і адыграла пэўную пазітыўную ролю ў духоўнай гісторыі беларускага народа.

Відавая і родава-жанравая сістэма арыгінальнай старабеларускай літаратуры дастаткова разгалінаваная, а корпус твораў прыгожага пісьменства — колькасна і аб'ёмна надзвычай разнастайны. У старажытнай літаратуры Беларусі існуюць усе асноўныя роды і віды. Яна прадстаўлена эпічнымі жанрамі — апавядальнымі і апісальна-белетрызаванымі формамі, паэзіяй і публіцыстыкай.

***Белетрыстыка.*** На працягу васьмі стагоддзяў беларускія майстры мастацкага слова стварылі багатую эпічную літаратуру, шматстайную ў жанравым плане і тэматычна разгалінаваную.

Падзвіжніцкая, ахвярная дзейнасць і справы выбітных асобаў на ніве асветы, абароны Айчыны, Царквы або Касцёла служылі штуршком (а затым станавіліся галоўным аб'ектам мастацкага адлюстравання) да гэтак званых біясаў, або мартырыяў — жанру, які ўзнік у візантыйскай хрысціянскай літаратуры. Сярод найбольш значных помнікаў старабеларускай жыційнай літаратуры: «Аповесць жыцця і смерці святой, дабраслаўнай і найаздобнейшай Еўфрасінні», «Слова пра манаха Марціна», «Памяць святога Кірылы, епіскапа Тураўскага», «Жыццё і цярпенне Аўрама Смаленскага» Яфрэма-манаха, «Жыццё князя Міхаіла Глінскага, маршалка літоўскага» (Любча, 1560), корпус біясаў, прысвечаных асобе пакутніка Язафата Кунцэвіча (С. Касінскі «Жыццё і пакуты дабраславеннага Язафата». Вільня, 1665; А. Суша «Жыццё і барацьба пакутніка Язафата Кунцэвіча». Рым, 1665; Я. Маліноўскі «Залатая карона над параненай галавой Я. Кунцэвіча, архіепіскапа полацкага». Вільня, 1673), «Аповесць пра пакуты і смерць айца Афанасія Філіповіча», напісаная невядомым берасцейскім манахам. Да жыційнай літаратуры прымыкае «Пахвала князю Расціславу Мсціслававічу» (XII ст.)

Падарожжы ў Ерусалім, з мэтай пакланенне святым месцам, а таксама вандроўкі па краінах Еўропы і Афрыкі спарадзілі ў старажытнай беларускай літаратуры жанр хаджэнняў, або перэгрынацыяў. Найбольшую папулярнасць сярод твораў гэтага жанру здабылі: «Хаджэнне ў Царград» Ігната Смаляніна, «Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую Зямлю» Мікалая Крыштофа Радзівіла і «Дзённік, пісаны ў Англіі пра тое, як там вандравалася і жылося» Тэадора Бялевіча, нарэшце два хаджэнні невядомых уніяцкіх пісьменнікаў — «Перэгрынацыя, або Праўдзівае апісанне Зямлі Святой» (Супрасль, 1722) і «Падарожжа да выспы» (Супрасль, 1782).

Старажытныя беларускія гарады-княствы, а затым Вялікае Княства Літоўскае падтрымлівалі шчыльныя дыпламатычныя сувязі з іншымі народамі і краінамі, праводзячы актыўную вонкавую палітыку. Дзейнасць дыпламатычных місіяў і вялікіх пасольстваў спачатку фіксавалася ў выглядзе пратакольных запісаў або справаздачаў перад манархам і Соймам, а ў сярэдзіне XVI ст. нарэшце з'явіліся першыя літаратурныя пасольскія дзённікі. Аўтарства аднаго з іх належыць кіраўніку пасольскай місіі ў Маскву, князю Стафану Збаражскаму. Яго твор мае ўмоўную назву: «Дзённік літоўскіх паслоў» (каля 1556). Да ліку пасольскіх дзённікаў варта адносіць «Рэляцыю пасольства ў Маскву ў 1573 г.» М. Гарабурды. Значны эпічны твор на дыпламатычную тэматыку, прычым у двух варыянтах (празаічным і вершаваным), напісаны сакратаром пасольства Гальяшам Пельгрымоўскім. Гэты твор вядомы ў медыявістыцы пад назовам: «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» (1601).

У XV ст. у беларускай літаратуры пачынаюць узнікаць творы, прысвечаныя палітычным і вайсковым падзеям, барацьбе князёў і шляхецкіх груповак за найвышэйшую ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім. Найперш у летапісах захавалася каля двух дзесяткаў белетрызаваных тэкставых адзінак, найбольш значныя сярод якіх паведамленні: пра князя Кейстута, пра Вітаўта, пра Падольскую зямлю і інш. Напісаныя на падставе вусных паданняў і папярэдніх пісьмовых звестак, яны з'яўляюцца своеасаблівым проталітаратурным элементам у складзе беларускіх летапісаў і хронік.

Беларуская літаратура ў гэты перыяд узбагацілася сапраўдным літаратурным шэдэўрам — «Пахвалой вялікаму князю Вітаўту», які дайшоў да нашага часу ў дзвюх рэдакцыях шасці летапісных спісаў. Твор быў напісаны прыкладна каля 1430 г. напярэдадні каранацыі Вітаўта. Аўтар адлюстраваў цэнтралізацыйную дактрыну Вітаўта Вялікага, яго палітыку, накіраваную на аб'яднанне ўсходнеславянскіх земляў вакол адзінага цэнтра. Пісьменнік пры гэтым ухваляе геапалітычныя планы вялікага князя, вітае далучэнне да ВКЛ новых гарадоў, тэрыторыяў і земляў.

Гераічнаму змаганню беларускіх жаўнераў з маскоўскімі войскамі, славутай перамозе аддзелаў гетмана Канстанціна Астрожскага пад Воршаю ў 1514 г. прысвечана «Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму», напісаная ў панегірычнай манеры.

Побач з агульнадзяржаўніцкімі ідэямі ў беларускай эпічнай літаратуры знайшлі адлюстраванне і праявы мясцовага патрыятызму, выдатным прыкладам чаго з'яўляецца «Баркулабаўская хроніка», што ўзнікла на пачатку XVII ст.

Пашырэнне асветніцкіх ідэяў, культ мастацкага слова, рэнесансавае «адкрыццё чалавека» спрычыніліся да ўзнікнення ў беларускай літаратуры аўтабіяграфічных дыярыушаў, мемуараў і ўспамінаў. Гэтую

плынь нацыянальнай эпічнай літаратуры прадстаўляюць: «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага, «Гісторыя маскоўская пра абраз Прасвятой Багародзіцы» А. Філіповіча, «Дыярыуш» П. К. Абуховіча, «Дыярыуш» С. Маскевіча, «Дыярыуш» Б. К. Маскевіча, «Успаміны» Я. Цадроўскага, «Дзённік падзеяў тлумнага часу» І. Будзілы, «Дыярыуш» А. Каменскага-Длужыка, «Дыярыуш» М. К. Радзівіла Рыбанькі, «Дыярыуш» М. Матушэвіча, «Мемуары» А. С. Радзівіла ды інш.

Асаблівае шанаванне ў Беларусі Божай Маці, вера ў выратавальную моц яе абразоў, паслужыла падмуркам узнікнення цыкла легендарных аповесцяў, у якіх знайшлі адлюстраванне містычныя з'явы, шматлікія цуды: Феадосія Баравіка «Гісторыя, або Аповесць пра абраз Дзевы Марыі Жыровіцкай», І. Галятоўскага «Аповесць пра Купяціцкі абраз Божай Маці», «Аповесць пра Жыровіцкі абраз Божай Маці». Вядомыя таксама дзве сціслыя навелы пра цуды Лукомльскага абраза святога Міколы.

У беларускай літаратуры шмат твораў, у якіх апісваліся падзеі царкоўных сабораў і сінодаў, іх падрыхтоўка, правядзенне і вынікі. Найбольш значныя сярод літаратурных помнікаў гэтага віду наступныя творы: І. Солтана «Сабор у богавыратавальным горадзе Вільні»; С. Буднага «Апісанне сабора ў Іўі 1568 года»; М. Сміглецкага «Апісанне наваградскага дыспута»; І. Пацея «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і Абарона здзейсненых згоды і лучнасці, якія сталіся на сінодзе Берасцейскім у 1596 годзе» (Вільня, 1597) і «Рэляцыя» (Вільня, 1609); П. Скаргі «Апісанне і абарона сабора рускага Берасцейскага» (Вільня, 1597); К. Саковіча «Кіеўскі сабор 1640 года» (1642)

Асобную групу белетрызаваных твораў складаюць: «Патэрыкон» С. Косава, «Апалогія перэгрынацыі да ўсходніх краёў» (1628) М. Сматрыцкага, а таксама ананімныя помнікі — «Эктэзіс» (1597), «Апалея Апалогіі» (1628), «Сінопсіс» (Вільня, 1632), «Суплементум Сінопсіс» (Вільня, 1632).

Да ліку эпічных літаратурных формаў належыць аднесці адмысловы жанр «казанняў на смерць». У іх дамінавалі белетрызаваныя аповеды, якія, аднак, арганічна спалучаліся з панегірычнымі элементамі і публіцыстычнымі ўстаўкамі.

Усяго да нашага часу дайшло звыш 90 «казанняў на смерць». Першы ўзор гэтага жанру у беларускай літаратуры створаны Г. Цамблакам — «Пахвальнае слова мітрапаліту Кіпрыяну». Найбольш каштоўныя ў літаратурных адносінах наступныя: А. Валяна «Надмагільнае слова пра К. Радзівіла» (Вільня, 1604), Я. Зыгровіуша «Казанне на пахаванне М. Дарагастайскага» (Любча, 1616) і «Хрысціянская смерць Еўлашоўскага» (Любча, 1619), Л. Зізанія «Павучанне пры пахаванні Зоф'і, князёўны Чартарыйскай» (1618), Л. Карповіча «Казанне на смерць Васіля Галіцына» (1619), М. Сматрыцкага «Казанне на смерць Лявона Карповіча» (Вільня, 1620), С. Раговіча «Казанне на ўгодкі

яснавяльможнага пана Яна Кароля Хадкевіча, ваяводы віленскага» (Вільня, 1622), І. Бабрыковіча «Прамова ў час пахавання Б. Агінскага» (1625), П. Дамжыў-Лютковіча Целіцы «Казанне на смерць А. Шаптыцкага» (1632), С. Косава «Херувім. Пры акце пахавальным айца Іосіфа Бабрыковіча» (Вільня, 1635), М. С. Савіцкага «Жалобныя цені пасля ясных праменняў пры пахавальным акце Януша Кішкі, ваяводы полацкага» (Вільня, 1640), М. Лаўрыновіча «Дом мудрасці. На пахаванні яснавяльможнага пана Тамаша Сапегі, ваяводы наваградскага» (Вільня, 1646). Рукапісны зборнік Самуэля Даніловіча, што захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве Літвы, уключае некалькі рэдкіх помнікаў гэтага жанру.

«Казанні на смерць» звычайна мелі трохступенную структуру: 1) аналітычнае разважанне на агульнарэлігійную тэму; 2) эпічны аповед пра заслугі памерлага, ягоныя справы і ўчынкі; 3) публіцыстычны зварот да слухачоў і чытачоў з павучаннем, парадамі і рэкамендацыямі. Некаторыя з апублікаваных казанняў уключалі прысвячэнні родзічам памерлага. Так, у творы Я. Куровіча «Тры дамы вечнасці» (Вільня, 1650) змешчанае прысвячэнне Юрыю і Самуэлю Шверынам, братам памерлага Шчаснага Шверына, у якім у панегірычным стылі ўхваляліся заслугі шляхецкага роду. Менавіта на ўзроўні структурнай будовы ў «казаннях на смерць» закладваўся эпічны пачатак.

Да белетрызаванай літаратуры належыць багатая эпісталярная спадчына Ф. Кміты-Чарнобыльскага і Льва Сапегі.

Асобную плынь беларускай белетрыстыкі ўтвараюць помнікі сатырычнай літаратуры. Яна прадстаўлена выдатнымі ў мастацкім плане творамі: «Прамовай Мялешкі», «Лістом да Абуховіча», «Казаннем рускім», «Граматай, напісанай да святога Пятра», «Прамовай Русіна». Сатырычныя творы ўзніклі ў перыяд грамадскага крызісу другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. і ўтрымлівалі дастаткова моцны публіцыстычны струмень.

Старабеларуская белетрызаваная (празаічная) літаратура, такім чынам, паводле зместава-тэматычнага абсягу распадаецца на некалькі тыпалагічных групаў: апавяданні і белетрыстычныя аповесці пра жыццё і пакуты выбітных хрысціянскіх дзеячаў (жыцці, агіяграфія), летапісныя аповесці, легендарныя аповесці пра цудадзейныя абразы, перэгрынацыі, або хаджэнні, хронікі, дыярыушы, мемуары, успаміны, пасольскія дзённікі, апісанні сабораў і сінодаў, «казанні на смерць».

У якасці аб'екта адлюстравання ў эпічных творах, як правіла, выступалі: а) гістарычныя асобы, іх жыццё і дзейнасць; б) буйныя грамадскія падзеі — соймы, пасольскія місіі, царкоўныя саборы, вайсковыя кампаніі, паўстанні; в) незвычайныя здарэнні, містычныя з'явы, рэдкія прадметы.

Белетрызаваныя формы літаратуры дазвалялі старабеларускім пісьменнікам адлюстроўваць у мастацкім тэксце з'явы, прадметы,

падзеі, гістарычных асобаў у пясторава-геаграфічнай перспектыве і часавых зменах. Майстры слова праз эпічныя жанры асвойвалі эфектыўныя сродкі і прыёмы паслядоўнага выкладу мастацкага матэрыялу, вучыліся пабудове складаных сюжэтаў.

Помнікі беларускай эпічнай літаратуры сведчаць аб тым, што ў старажытны перыяд развіцця прыгожага пісьменства адбывалася дастасаванне мікракампанентаў мастацкага тэксту да агульнай жанравай схемы твора, дзякуючы чаму дасягалася цэласнасць, гармонія, унутранае лагічнае адзінства і мастацкая завершанасць тэкстаў.

***Паэзія.*** Як від духоўнай творчасці народа паэзія паўстала ў пракаветныя дагістарычныя часы. Тады ж, у далетапісную пару, сфармаваліся яе асноўныя жанравыя комплексы — рытуальна-магічныя замовы, абрадавыя песні, памінальныя галашэнні ды інш. З прыняццем у Х ст. Хрысціянства і яго пашырэннем на беларускіх землях паралельна з вуснай народнай паэзіяй пачала развівацца кніжная паэзія, найперш літургічная гімнаграфія. Спачатку гэта былі перакладныя творы грэка-візантыйскіх хрысціянскіх паэтаў (Ян Златавусны, Васіль Вялікі, Раман Мілагучны, Ян Дамаскін, Іосіф Песняпісец і інш.), а затым і арыгінальныя тэксты (Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына). Гімнаграфічныя літургічныя творы, а сярод іх — каноны, акафісты, сціхіры, пракімены, славы, тропары, седальны, свяцільны, антыфоны — пашыраліся, як правіла, у складзе Мінеяў, Літургіконаў, Служэбнікаў, Трэфалагіёнаў, Анфалагіёнаў, Трыёдаў, Актоіхаў, Трэбнікаў, Часасловаў, Малітоўнікаў і Псалтыроў з дадаткамі.

У XVI ст. на хвалі Рэнесансу зарадзілася свецкая кніжная паэзія, росквіт якой прыпаў на апошнюю чвэрць XVI—XVII ст. Галоўнае месца ў свецкай паэзіі займалі *панегірычныя* жанры, гэтак званыя «эпікграмы», што суправаджалі выявы гербаў славутых магнатаў і гарадоў. Важкі ўклад у развіццё эмблематычнай паэзіі Беларусі ўнеслі: А. Рымша («На герб яснавяльможнага пана Астафія Валовіча», «На герб пана Льва Сапегі», «На герб яснавяльможнага пана Тэадора Скуміна»), Л. Мамоніч («На герб яго міласці пана Л. Сапегі», «Эпіграма»), С. Зізаній («Эпіграма на герб Вішнявецкіх», «Эпіграма на герб К. Астрожскага», «На герб Саламярэцкіх», «На герб князёў Агінскіх і Валовічаў»), Віталій («Эпіграма на герб Агінскіх»), а таксама ананімныя аўтары Віленскага Святадухаўскага брацтва, якія стварылі «эпікграмы» на гербы паноў Дрэвінскіх, Сапегаў, Максімовічаў-Ломскіх, Кісялёў з Брусілава, Агінскіх, Трызнаў і інш.

Змест «эпікграм», як правіла, цалкам вызначаўся княскімі гербамі, якія мелі форму шчыта з выявамі знакаў годнасці іх уладальніка. Шчыт звычайна абрамляўся вянком, уверсе размяшчалася карона, па баках вялікімі літарамі пазначаліся ініцыялы магната. Часам герб адлюстроўваў сваяцкія сувязі дзвюх знатных сем'яў — у такім выпадку на адным шчыце адлюстроўваліся «кляйноты» абодвух родаў. Знакі змяшчаліся

ў плоскасцях, утвораных лініямі, якія перакрыжоўваліся пад прамым вуглом і такім шляхам утваралі крыж.

Сутнасць эпіграм на гербы ўва ўсёй эмблеме пераважна зводзілася да таго, каб раскрыць сімвалічную ўзаемасувязь паміж знакамі герба і справамі прадстаўнікоў славутага роду. Аднак, нягледзячы на тое, што перад усімі складальнікамі эпіграм стаялі агульныя задачы, творчыя магчымасці паэтаў не абмяжоўваліся. Хутчэй нават наадварот — гэта натхняла іх на пошукі непаўторных, каларытных і запамінальных вобразаў. Каб дасягнуць арыгінальнасці, паэты выкарыстоўвалі самыя разнастайныя мастацкія сродкі: параўнанні, метафары, прыпадабненні, алегорыі, сімвалы і г. д. Асабліва часта ў «эпікграмах» апісваліся кантрастныя з’явы, чым дасягалася стварэнне па-мастацку выразных карцін і вобразаў.

Жанраўтваральны пачатак «эпікграмы» — матыў слаўлення, захаплення і здзіўлення веліччу ды значнасцю з’явы, пра якую апавядалася. Галоўная каштоўнасць «эпікграмы» на фамільныя гербы ў тым, што ў іх знайшлі найбольш поўнае выражэнне пошукі новых літаратурна-мастацкіх сродкаў. Творча пераасэнсоўваючы традыцыйныя шляхі адлюстравання рэчаіснасці, беларускія паэты асноўную ўвагу аддавалі не пошуку новых тэм і прадметаў, а стварэнню арыгінальных спалучэнняў з тымі, што ўжо меліся, выкарыстоўваючы пры гэтым падкрэслена мудрагелістыя сродкі мастацкага абагульнення.

Арыгінальнасць «эпікграм» выявілася найперш у структурна-кампазіцыйнай будове. Яны складаліся з чатырох элементаў, якія размяшчаліся, як правіла, у строгай паслядоўнасці адносна адзін аднаго. Спачатку ішоў уступ-зачын, затым — зварот да памяці продкаў, цэнтральнае месца займалі тлумачэнні знакаў, «кляйнотаў» герба і, нарэшце, завяршала эпіграму заключэнне-пажаданне. Кожны з элементаў «эпікграмы» выконваў пэўную ідэйна-мастацкую функцыю.

Ва ўступе-зачыне часцей за ўсё апісваліся нябесныя свяцілы, касмічная прастора або штосьці велічнае і незвычайнае. Так, «эпікграма» А. Рымшы «На герб Льва Сапегі» пачыналася паведамленнем пра велічнасць і дабрачыннасць мужнага роду Сапегаў. Іхняя слава нібыта не ведала межаў на зямлі і на небе. Другая «эпікграма», «На герб Тэадора Скуміна», адкрывалася тлумачэннем «незямнога» паходжання княжацкага герба. У эпіграме на герб Дарагастайскіх, ва ўступе да яе, С. Будны стварыў карціну непаўторнага ззяння месяца, з святлом якога ён параўноўваў учынкі сваіх апекуноў. М. Сматрыцкі таксама прыпараўноўваў ззянне начных зорак да нягаснучай славы князёў Вішнявецкіх і Астрожскіх.

Для другога элемента «эпікграм» — зваротаў да памяці продкаў — характэрнае тлумачэнне прычын узнікнення герба, указанне часу і абставінаў, пры якіх адбылася знамянальная падзея. Напрыклад, А. Рымша, узнаўляючы гісторыю герба Тэадора Скуміна, падкрэсліваў:

набыццё герба — узнагарода за вялікія подзвігі; яго атрымліваюць толькі тыя, хто, не шкадуючы свайго жыцця, абараняе Бацькаўшчыну. Так, дзякуючы мужнай барацьбе з «нечестивымі татарами», паводле А. Рымшы, набылі фамільны герб слаўныя Сапегі.

Думку пра тое, што кожны дом можа заслужыць гонар і павагу, атрымаць права на фамільны герб, развіваў у сваіх эпіграмах і М. Сматрыцкі. Услаўляючы герб Вішнявецкіх, паэт звяртаў увагу чытача на вялікае мінулае знакамітага роду, славу якога годна прадаўжаюць мужныя нашчадкі.

Род князёў Астрожскіх, на думку беларуска-ўкраінскага паэта Г. Сматрыцкага, таксама меў дастаткова заслуг, каб атрымаць права на свой фамільны герб — сімвал знатнасці. Продкі К. Астрожскага, адзначаў паэт у вершах, напісаных да «Бібліі» 1580—1581 гадоў, не шкадавалі свайго здароўя, «побеждали различных съпостат полки», мужна змагаючыся з ворагамі Бацькаўшчыны.

Абавязковы і, бадай, сама галоўны элемент «эпікграм» на гербы — вытлумачэнне сімвалічнага сэнсу знакаў, «кляйнотаў». Вытлумачэнне ў эпіграмах сэнсу знакаў княжацкіх гербаў — якраз і ёсць раскрыццё іх сімвалічных значэнняў. Праўда, у эмблематычных вершах сімвалы герба не трэба блытаць з паэтычнымі сімваламі, хаця часам матэрыяльныя знакі, пранікаючы ў сферу мастацкай і, у прыватнасці, паэтычнай свядомасці, станавіліся ўстойлівымі вершаванымі тропамі.

Пры раскрыцці значэнняў геральдычных знакаў, бадай, самы галоўны мастацкі прынцып, якім кіраваліся паэты, — усведамленне сімвалічнай узаемасувязі паміж знакамі герба і яго ўладальнікам. Восем груп рэчаў і з’яваў матэрыяльнага свету часцей за ўсё выступалі ў ролі гербавых знакаў, з’яўляліся аб’ектам увагі беларускіх паэтаў-эпіграматыстаў. Галоўныя сярод іх: нябесныя свяцілы («сонца», «месяц», «луна», «зоркі», «венера») і вытворныя ад іх («прамяні», «зара»); прадметы культу і рэлігійнай сімволікі («крыж», «мітра», «тры кормчых»); зброя і ваярскі рыштунак («меч», «лук», «стрэлы», «влочні» (дзіды), «гелм» (шлем), «намет» (палатка); расліны («ружа», «лелея»); жывёлы і птушкі («конь», «арол», «крэчат» (певень); крыніцы вады («мора», «рэкі», «хмары»); унутраныя органы чалавека і канечнасці («сэрца», «рука»); сімвалы дзяржавы («карона»).

Даволі часта некалькі геральдычных знакаў падаваліся на гербах у розных спалучэннях, несучы нейкі адзіны сімвалічны сэнс, напрыклад, «крыж і месяц», «меч і страла», «месяц, зоркі і стрэлы», «два сэрцы і меч», «котвіца» (якар) і «падкова».

Большасць паэтаў у сваіх эпіграмах імкнуліся, як правіла, правесці паралель паміж сонечным святлом, ззяннем месяца, бляскам зорак і дабрачыннасцю, якая, нібы святло, сыходзіла ад уладальніка герба. Так, М. Сматрыцкі лічыў: выявы ззяючых «месяца» і «зорак» на гербах Агінскіх і Валовічаў сімвалізуюць іх слаўныя справы, вядомыя «во всем свете».

Выявы месяца і зорак на гербе Агінскіх выклікалі асаблівае захапленне ў перакладчыка «Дыёптры» манаха Віталія. У «эпікграме» на герб гэтага знатнага роду ён, імкнучыся да мастацкай арыгінальнасці, зрабіў, у параўнанні з Мялетам, крок наперад, стварыўшы новыя семантычныя адценні. Віталій звяртаў увагу чытача на здольнасць месяца і зорак «просвещать ночные темности», недвухсэнсава падкрэсліваючы талент і адукаванасць сваіх апекуноў.

У многіх паэтаў сімвалы сонца, месяц і зоркі выклікалі яшчэ больш арыгінальныя і нечаканыя асацыяцыі. Для А. Рымшы, напрыклад, знакі герба Скумінаў — зорка, размешчаная над яркім месяцам у акружэнні хмары, — сімвалізавалі не толькі славу Скумінаў, але і іх незвычайную шчодрасць.

У адрозненне ад М. Сматрыцкага, Віталія і А. Рымшы невядомы аўтар верша «На герб Агінскіх» («Новы Запавет», 1641), апісваючы месяц і зорку, зусім не надаваў значэння іх здольнасці выпраменьваць святло. Яго зацікавілі іншыя характарыстыкі, перш за ўсё іх размяшчэнне ў прасторы. У выніку паэт прыйшоў да высновы, што род Агінскіх, падобна «месяцу з звездою», «к небу дорогу указывает».

Большасць княскіх гербаў сярод геральдычных знакаў мелі прадметы рэлігійнага культу, таму амаль ва ўсіх эпіграмах на гербы вытлумачэнне ўнутранага сэнсу рэлігійных сімвалаў займала істотнае месца. Найбольш часта ўвагу паэтаў прыцягваў «крыж».

Асноўная ўвага ў «эпікграмах» паддавалася, аднак, не вынаходніцтву новых сімвалаў, а пошуку адметных асацыяцый, паралеляў, што ў значнай ступені абумовілася агульнай эстэтычнай канцэпцыяй барокавага мастацтва.

Да шырокавядомых паэтычных жанраў у літаратуры Беларусі належалі і *вершаваныя звароты* да чытача, жыхароў пэўнага горада, сацыяльнага стану або народа. Пераважна такую форму надаваў сваім вершам Б. Будны. Так, ягоны пераклад на польскую мову твора Цыцэрона «Пра старасць» пачынаўся вершам «Зварот перакладчыка да Сармацыі». У ім паэт, звяртаючыся да чытача, даваў абяцанне накіраваць усю сілу свайго таленту на служэнне Айчыне. У другім творы — «Апафегматы» — Б. Будны ў звароце да чытача разважаў пра сэнс жыцця і прызначэнне чалавека ў Сусвеце. Паэт быў цвёрда перакананы, што толькі высакароднасць у чалавечых адносінах, дабрыня і павага адзін да аднаго, нястомная барацьба са злом, сцверджанне ісціны заслугоўваюць узнагароды і ўсялякіх заахвочванняў; толькі яны маюць сэнс і права на існаванне!

Вершаваныя звароты да чытача змяшчаў у сваіх творах і Я. Пратасовіч. Непасрэдна тэксту яго «Ялмужніка» папярэднічаў верш з характэрным найменнем: «Зварот да Чытача», у якім аўтар коратка выкладаў змест усяго твора, раскрываў сімвалічную сутнасць «ялмужны» (міласці). На думку Я. Пратасовіча, той, хто падае міласціну,

сам урэшце карыстаецца яе пладамі, бо «ялмужна», паводле яго слоў, ачышчае душу чалавека ад грахоў, пазбаўляе яе тагасветных пакутаў. Клапоцячыся пра жабракоў і ўбогіх, пісаў Я. Пратасовіч, чалавек знаходзіць шлях да Бога, у яго сэрцы нараджаецца дабро і вялікая любоў, ува ўсіх зямных справах на дапамогу яму прыходзяць Божыя слугі — нябесныя анёлы. Такім чынам, «ялмужна», урэшце, адчыняе шлях у вечнае жыццё.

Для мастацкага метаду Я. Пратасовіча наогул характэрнае імкненне раскрываць у вершаваным прысвячэнні сэнс усяго твора ў цэлым. З гэтай мэтаю аўтар выкарыстоўваў самыя розныя прыёмы. Адзін з іх — самахарактарыстыка героя. На ім, да прыкладу, пабудаваны ўвесь твор Я. Пратасовіча «Паранімфус». У прысвячэнні, якое мае назву «Паранімфус пра сябе гаворыць», герой паведамляў чытачу пра свае абавязкі шафера, якія ён павінен быў выконваць у часе вяселля. Многія свае творы Я. Пратасовіч прысвячаў канкрэтным гістарычным асобам, пра што й паведамляў у вершаваных прадмовах да іх. Напрыклад, у вершы, які папярэднічаў твору «Кантэрфет», гаварылася пра тое, што ён напісаны ў гонар князя Аляксандра Палубенскага, кашталяна наваградскага. Адрасуючы творы знатным людзям, Я. Пратасовіч спадзяваўся на высокую ацэнку сваёй працы, разлічваў на велікадушнасць і шчодрасць мецэнатаў.

Вялікая група панегірычных твораў XVI—XVIII стст. прадстаўлена *вершамі-прывітаннямі*, напісанымі з нагоды вяселляў. Найбольш яркімі прыкладамі твораў гэтага жанру з'яўляюцца ўжо згаданы твор Я. Пратасовіча «Паранімфус» і «Зорнае неба» А. В. Высоцкага. У вясельных вершах-прывітаннях аўтары, як правіла, жадалі тым, хто бярэ шлюб, шчасця і дабрабыту, сумленнасці і ўзаемнай адданасці, напаміналі пра Божае паходжанне шлюбу, які, на іх думку, дараваны людзям па дзвюх прычынах: дзеля пазбаўлення ад д'ябальскіх думак і распуснасці, а таксама дзеля памнажэння чалавечага роду. Тым, хто браў шлюб, аўтары прывітанняў настойліва раілі пакінуць усе свецкія ўцехі і забавы маладосці, накіраваць свае думкі на клопат пра сям'ю і гаспадарку.

У творах, прысвечаных вяселлям, выявілася барочнае імкненне аўтараў да стварэння нечаканых, часам шматзначных паралеляў і параўнанняў. Так, Я. Пратасовіч праводзіў паралелі паміж сваімі героямі і падзеямі біблейнай гісторыі. Аўтар «Зорнага неба» прыраўноўваў маладых Адама Казаноўскага, стольніка барысаўскага, і Лізавету Слушчыну, ваяводзіну менскую, да нябесных планетаў. Падставай для гэтага параўнання з'явілася, відаць, выказванне Сенекі пра тое, што вядомыя людзі падобныя на яркія зоркі. Супастаўленне знакаў фамільных гербаў з пэўным спалучэннем нябесных планет дазволіла А. В. Высоцкаму стварыць маляўнічую карціну дабрачыннасцяў абодвух родаў. Нягледзячы на літаратурны, мастацкі характар выяваў і апісанняў планет,

яны, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і выяўлялі астранамічныя погляды аўтара. Арбіты сямі касмічных сфераў на тытульным аркушы «Зорнага неба» дазваляюць меркаваць пра тое, што аўтар прытрымліваўся састарэлай геацэнтрычнай сістэмы Пталамея, хаця ўжо амаль стагоддзе існавала прынцыпова новая геліяцэнтрычная тэорыя пабудовы Сусвету, навукова абгрунтаваная польскім вучоным Мікалаем Капернікам.

Галоўная мэта разнастайных паэтычных вытанчэнняў у творах з нагоды вяселляў вытлумачваецца жаданнем паэтаў як мага ярчэй падкрэсліць высакароднасць герояў, абаронцаў «праўдзівай вольнасці». Услаўляючы сваіх герояў, аўтары панегірыкаў, на жаль, у духу свайго часу часцей за ўсё кіраваліся тым, што «чын» і месца ў грамадстве вызначаюць асабістыя якасці чалавека.

Разнавіднасцю панегірычных жанраў, якія атрымалі шырокае распаўсюджанне ў беларускай паэзіі эпохі Адраджэння і Барока, з'яўляліся *дэкламацыі*. Станаўленне жанру дэкламацый адбывалася ў канцы XVI — на пачатку XVII ст., а росквіт яго звязаны з творчасцю Сімяона Полацкага. У беларускай літаратуры, наколькі дазваляюць меркаваць вядомыя на сённяшні дзень канкрэтныя літаратурныя помнікі, гонар заснавання жанру дэкламацый належыць Філафею Утчыцкаму, росквіт творчасці якога прыпадае на сярэдзіну XVII ст. Аднак трэба адзначыць, што ўжо ў канцы XVI ст. у чытацкім асяроддзі дэкламацыі не былі навіною, яны ўспрымаліся досыць звыкла. Праўда, дэкламацыяў гэтага перыяду, напісаных беларускімі паэтамі, не захавалася. Выключэнне складае твор «Прасфанема», які ўзнік на Украіне, але распаўсюджваўся й на Беларусі.

Першая вядомая ўласна беларуская дэкламацыя, што належала Ф. Утчыцкаму, мае шматслоўны тытул: «Стіхи краесогласныя, иже в сретеніе чюдотворныя иконы пресвятой Богородицы Полоцкой, егда быст государя царя і великого князя Алексіа Міхаиловича, всея Великія, Малыя и Белыя Россі и Самодержца». Як вынікае з загалоўка дэкламацыі, яна была напісана з нагоды вяртання ў Полацк абраза Божай Маці.

Дэкламацыя Ф. Утчыцкага складаецца з васьмі частак, кожная з якіх прамаўлялася адным з вучняў брацкай школы ў час тэатралізаванай сустрэчы абраза. Ва ўсіх прывітаннях гучаў напамінак пра ўсеагульную радасць жыхароў горада.

Асноўны пафас дэкламацыі — выяўленне радасці і захаплення ў прадчуванні ўсеагульнай Божай ласкі. Вяртанне абраза Божай Маці ў Полацк, на думку Ф. Утчыцкага, — вынік прадвызначанасці. Невыпадкова ў дэкламацыі вельмі часта праводзяцца паралелі паміж гэтай хвалюючай сустрэчай і падзеямі біблейнай гісторыі: вяртаннем Юдзіфі, уваходжаннем Хрыста ў Іерусалім і інш. У свядомасці аўтара, усіх жыхароў горада вяртанне абраза ўспрымалася як прыход надзейнага абаронцы і ратавальніка, які павінен забяспечыць мір і дабрабыт.

Ф. Утчыцкі параўноўваў абраз Божай Маці з абарончай, непрыступнай для ворагаў «сцяною», «вежаю», «крэпасцю», «зачыненай брамай», «дзвярыма», «непраходзімай дарогай». Звяртаючыся да Багародзіцы, паэт прасіў быць хавальніцай «ад злых ерэтыкоў», абаронцай ад сарацынаў і схізматыкаў.

У тым, што абраз Божай Маці перадаваўся Полацку, вернападданы аўтар бачыў «мудрасць» і «велічнасць» новых свецкай і духоўнай уладаў. Невыпадкова заключныя словы дэкламацыі — гэта зварот паэта да маскоўскага цара і яго сям'і, патрыярха, князёў і баяраў; у іх гучаць пажаданні ім дабрабыту, здароўя і даўгалецця. Асабліва вернападданніцкія пачуцці аўтара выявіліся ў звароце да цара Аляксея Міхайлавіча. Клапоцячыся пра дабрабыт і росквіт Полацка, Ф. Утчыцкі прытрымліваўся, на жаль, гістарычна памылковай канцэпцыі, лічачы, што захаванне самабытнай беларускай культуры, духоўных традыцыяў народа магчымае толькі ў межах праваслаўнай Маскоўскай дзяржавы.

Палітычныя падзеі, што адбываліся на беларускіх землях у канцы XVI ст., з'явіліся непасрэднай прычынай узнікнення *палемічнай* плыні ў айчыннай паэзіі. Асабліва вялікі ўплыў на ходу гісторыка-культурных працэсаў аказала Берасцейская царкоўная унія 1596 г. Яна спрычынілася да ўзмацнення рэлігійнай барацьбы разнастайнай паводле ўдзельнікаў і іх ідэйнай арыентацыі, выклікала да жыцця новыя напрамкі ў палемічнай паэзіі.

Да першых дакладна датаваных палемічных вершаў, што захаваліся, адносяцца «Верши або стихи до того што читал, которым краегранесие сицево: хранися италіан», змешчаныя ў творы «Пытанні і адказы праваслаўнаму з папежнікам» (1603). Да сённяшніх дзён з палемічных вершаваных твораў дайшлі таксама «Кіева-Міхайлаўскі» і «Загараўскі» зборнікі ды асобны рукапісны твор «Скарга жабракоў да Бога». Акрамя таго, палемічнымі паводле свайго характару з'яўляліся некаторыя вершы М. Смятрыцкага, чатырохрадкоўе А. Мужылоўскага, ананімныя «Вершы дададзеныя».

Змест ідэйнай барацьбы часоў Рэфармацыі і Контррэфармацыі шмат у чым вызначыў характар усёй палемічнай паэзіі канца XVI—XVII ст. Спрэчкі вакол пытанняў дагматыкі займалі першараднае месца ў паэзіі таго часу. Апрача таго, паміж рознымі канфесіямі, якія існавалі на Беларусі, распачалася дыскусія, у цэнтры якой апынуліся надзённыя праблемы: аб моўнай сітуацыі і перспектывах развіцця славянскіх моваў, аб сутнасці «навукі» і яе грамадскай значнасці, аб міжнацыянальных і міжнародных адносінах, аб свецкай і царкоўнай уладзе, а таксама звязаныя з імі маральна-этычныя нормы.

Пазіцыю дзеячаў Каталіцкага Касцёла выклаў у агульных рысах Пётра Скарга ў творы «Берасцейскі сабор і абарона яго» (Кракаў, 1597). Супраць твораў П. Скаргі і ім падобных акурат і скіраванае сатырычнае пяро беларускіх праваслаўных паэтаў-палемістаў. Асабліва шмат

вершаў антыкаталіцкага і антыуніяцкага зместу ў «Загараўскім зборніку»: «Аб адступніках ад царквы», «Аб ілжэпастырах», «Аб лацінскай ганарлівасці», «Хрышчэнне без міра ў рымлянаў», «Непакорлівасць папы Хрысту», «Пыха папская», «Царква заходняя блюзнерыць», «Аб памылках рымскіх», «Непрыязь лацінская», «На злую еднасць», «Да праведных» і інш.

У палемічных вершах рэзка крытыкаваліся рымскі папа і іерархі Каталіцкага Касцёла. Праваслаўныя паэты-палемісты называлі каталіцкага ўладыку найвялікшым з грэшнікаў, увасабленнем д'ябла на зямлі, слугою сатаны, антыхрыстам, што імкнецца да сусветнай улады, богаадступнікам, катам чалавечага роду, ілжэпрарокам і ерэтыком. Яны пагражалі яму судным днём і пеклам.

Асаблівае абурэнне ў беларускіх праваслаўных паэтаў-палемістаў выклікалі тыя, хто «здрадзіў» сваёй колішняй веры і нібыта дзеля высокай пасады і царкоўнай улады перайшоў ва Уніяцтва. Паэты, звяртаючыся да ўсяго народа, заклікалі не верыць рымскім настаўнікам і «здраднікам-уніятам», якія быццам бы прапаведвалі «хлусню і ерэсь».

Разважаючы пра вытокі чалавечага пазнання і магчымасці розуму, праваслаўныя аўтары ў палемічных творах ставілі пытанне пра памылковую і сапраўдную «мудрасць». Сваю пазіцыю яны выкладалі ў вострай палеміцы з «вучонасцю» іерархаў Рымскага Касцёла. «Мудрасць», якую прапаведвалі лацінскія настаўнікі сумесна з папам, на іх думку, з'яўлялася хлуснёю, бо яна як быццам бы наскрозь працятая ліслівасцю і вядзе толькі да павелічэння зла, прыўносіць разлад у стасункі паміж людзьмі. Паводле слоў праваслаўных паэтаў, яна падобная да горкага калодзежа, які смярдзіць грахамі.

«Лаціністы» ў сваіх школах, сцвярджалі палемісты, прапаведуюць ерасі, якія, нібы атрута, разбэшчваюць і забіваюць чалавечыя душы. Толькі тая «мудрасць» і тыя навукі могуць быць сапраўднымі, што выхоўваюць дабрачыннасць, выкараняюць зло, абуджаюць у сэрцах людзей любоў і павагу да іншых, пазбаўляюць чалавечы род ад нянавісці, жорсткасці і варожасці! Аддаючы даніну сваёй канфесіянальнай прыналежнасці, праваслаўныя паэты-палемісты лічылі, што сапраўдная «мудрасць» змешчаная не ў рымскім (заходнім), а ў грэка-візантыйскім (усходнім) вучэнні. Яна зыходзіць ад Бога і выкладзеная ў боганатхнёных славянскіх кнігах, якія ёсць «сонца душам», «духоўны рай», «разумныя кветкі». Акрамя таго, менавіта ў славянскіх кнігах, лічылі яны, сканцэнтраваная сапраўдная «навука», «мудрасць», «цнота», «набожнасць», «розум», якія «грехов черность вь людех убеляют», «въ юности премудрыми творять». Таму, падкрэслівалі праваслаўныя аўтары, неабходна вывучаць славянскую навуку, пазбягаць «прэлесці лацінскай», імкнуцца не да «пестраты, а да «прастаты», сімвалам якой з'яўляюцца пакутнік за род чалавечы Ісус Хрыстос, апосталы Пётра і Павел, а таксама біблейны Авель. Та-

кой была пазіцыя праваслаўных паэтаў у ідэалагічнай барацьбе вакол пытання аб ілжывай і сапраўднай «мудрасці».

Лічачы сваёй задачай увядзенне славянскай мовы ў сан свяшчэнных, беларускія праваслаўныя паэты, безумоўна, не маглі пагадзіцца з выказваннем П. Скаргі пра тое, што аніводная са славянскіх моваў не можа стацца моваю навукі. На думку палеміста-езуіта, гэтае права належала толькі лацінскай і царкоўнаславянскай мовам. У адказ на гэтыя высакамерныя словы П. Скаргі праваслаўныя паэты наогул выступілі супраць усялякага выкарыстання славянамі латыні, што, аднак, наўрад ці можна адназначна лічыць вынікам іх невуцтва ў ацэнцы адной з самых багатых старажытных класічных моваў. З боку праваслаўных гэта быў своеасаблівы, досыць катэгарычны адказ тым, хто не прызнаваў маральнага права славянскіх народаў на выкарыстанне сваіх моваў ва ўсіх сферах жыцця. Праўда, прыкра тое, што праваслаўныя паэты выкладалі свае погляды з той жа ваяўнічасцю і непрымірымасцю да апанента, як і каталіцкія пісьменнікі.

У вершах беларускіх праваслаўных паэтаў латынь стала аб’ектам крытыкі перш за ўсё таму, што, пачынаючы з другой паловы XVI ст., яна як бы фармальна стрымлівала працэс укаранення нацыянальных моваў ва ўсе сферы жыцця. Беларускія паэты-палемісты XVI—XVII стст. выступалі, такім чынам, не столькі супраць уласна моўных якасцяў латыні, колькі супраць яе абагаўлення, катэгарычнага сцверджання, быццам толькі яна з’яўляецца моваю навукі і культуры.

Маральна-этычныя аспекты грамадска-палітычных і культурных праблем, якія ўздымаліся ў паэтычных творах, знайшлі найбольш поўнае адлюстраванне ў творчасці манаха Віталія. Своеасаблівасць яго мастацкага метаду ў тым, што ён, імкнучыся да філасофскага абгрунтавання сваёй пазіцыі і поглядаў, даваў у вершах азначэнні першарадных эстэтычных і маральна-этычных катэгорый, такіх, як «прыгажосць», «каханне», «сяброўства», «годнасць», «шчасце», «шчырасць» і інш. Вострая публіцыстычная скіраванасць і эстэтычная завершанасць вершаў-перакладаў Віталія сведчаць пра тое, што ён быў адным з ідэйных кіраўнікоў хрысціянска-праваслаўнага лагера ў палемічнай барацьбе таго часу.

Істотная тэматычная асаблівасць палемічнай паэзіі вынікала з таго, што прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы нярэдка ядналіся ў барацьбе супраць рэфармацыйнага руху. Лютэранства, кальвінізм і іншыя новыя рэлігійныя вучэнні ў аднолькавай ступені зазнавалі ганенні з боку абедзвюх традыцыйных канфесіяў. Антырэфармацыйнымі паводле свайго зместу з’яўляліся многія вершы з «Кіева-Міхайлаўскага зборніка»: «На арыянаў», «Здрада ерэтыкам», «Аб ілжэнастаўніках», «Аб ілжэпрароках», «На нававерцаў», «Дзёрзкасць злое ерасі». У вершах «Кіева-Міхайлаўскага зборніка» праваслаўны аўтар (або аўтары), адзначаючы ідэйную сувязь новых

«адступнікаў» з старыжытнымііі «ерэтыкамі» — Арыем, Петыянам, Маркіёнам, Яўноміем, Македоніем, — востра крытыкавалі вучэнне рэфарматараў пра адзінага Бога-Айца, прапанаваную імі пабудову Царквы, а таксама адносіны да знешніх праяў рэлігійнага пачуцця — царкоўных абрадаў.

Да літаратурных помнікаў, створаных прыхільнікамі Каталіцтва і накіраваных супраць дзеячаў рэфармацыйнага руху, належыць ананімнае «Прывітанне на прыезд Н. Лютэрмахра». Напісанае лацінкай, макаранічнай беларуска-польскай мовай, «Прывітанне» — адзін з яркіх узораў палітычнай сатыры беларускай каталіцкай паэзіі.

На тытульным аркушы «Прывітання» паведамлялася, што яно выдадзена ў «Вітэмбергу», хаця на самай справе было надрукаванае ў Вільні ў 1642 г., а аўтарам яго быў невядомы паэт-езуіт, які выступаў ад імя Санькі Налівайкі.

Вершаванае «Прывітанне» накіраванае супраць лютэранскага пастара, які прыехаў у Вільню і ў сваёй першай казані прывёў некалькі цытат на грэцкай мове. Аўтар «Прывітання» ўсяляк стараўся схаваць сваю канфесійную прыналежнасць. Менавіта таму герой «Прывітання»— селянін, які прамаўляе маналог, — нібыта праваслаўнага веравызнання, што вынікае з яго адмоўнага станаўлення да «ляхаў» і уніятаў.

Аднак змест «Прывітання» ўсё ж сведчыць, што яго аўтарам быў не праваслаўны, а католік, бо, звяртаючыся да пастара, ён пагардліва раіў яму паехаць «к Москве на науку».

Негатыўныя адносіны галоўнага героя «Прывітання» да пратэстанцкага настаўніка суправаджаліся таксама неаднаразовымі пагрозамі і абразамі: «сукін род», «лысы бес» і г. д. Сярод улюбёных прыёмаў аўтара «Прывітання» — каламбуры і гульня слоў. Вельмі арыгінальна і ўдала ён абыграў слова «магіла» і прозвішча вядомага кіеўскага мітрапаліта Пётры Магілы. Дарэчы, гэты прыём — дадатковае сведчанне таго, што аўтар «Прывітання» — чалавек каталіцкага веравызнання.

Найважнейшы кірунак старажытнай беларускай літаратуры — уніяцкая палемічная паэзія, з характэрным для яе філасофска-тэалагічным ухілам. Найбольш яркі прадстаўнік беларускай уніяцкай паэзіі — Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі. Ужо першыя яго трактаты — «Люстра багаслоўя» (1618) і «Евангелле павучальнае» (1618) — уключалі шмат паэтычных тэкстаў, а «Перла шматкаштоўнае» было амаль напалову напісанае вершамі. Прычына таму — імкненне аўтара данесці да чытача ў даходлівай форме вучэнне пра Бога і сусвет, выкладзенае ў ранейшых, даволі складаных творах. Надзелены унікальным паэтычным талентам, ён змог выкласці «ў метрах» сваё вучэнне аб Тройцы, анёлах, растлумачыць кожны радок Гасподняй малітвы «Ойча наш», а таксама перадаць вершамі свае адносіны да святых апосталаў («Па-

хвала апосталам святым»), пакутнікаў за хрысціянскую веру («Пахвала святым пакутнікам»), тэолагаў мінулага («Пахвала свяціцелям альбо багаслоўцам») і манахаў («Пахвала нявіннікам праўдзівым»).

У склад «Перла шматкаштоўнага» ўвайшоў вялікі цыкл вершаў, напісаных з нагоды найважнейшых падзеяў Хрысціянскай царквы: «Пахвала на слаўны дзень Нараджэння Госпада Ісуса Хрыста», «Пахвала на прасветлы дзень Уваскрэшання Хрыстова», «Песня пахвальная на слаўны дзень Узнясення Хрыстова», «Песня пахвальная на прасветлы дзень Зыходу Духа Святога», «Пахвальная песня на слаўны дзень Пераўтварэння Хрыстова», «Пахвала на слаўны дзень Богаз'яўлення».

На працягу XVII—XVIII стст. «Перла шматкаштоўнае», як, дарэчы, і іншыя творы К. Транквіліёна-Стаўравецкага, мела велізарную папулярнасць сярод насельніцтва Беларусі, Украіны і Масковіі. У 1699 г. яно было нават перавыдадзенае ў магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі.

Цікавасць сучаснікаў і нашчадкаў да твораў Транквіліёна-Стаўравецкага зусім невыпадковая. Напісаныя таленавіта паэтам, філосафам і вучоным, яны вызначаліся глыбінёй думкі, высокай мастацкасцю і вытанчанасцю формы. Выключна адметная і манера палемікі К. Транквіліёна-Стаўравецкага. Ён не цытуе сваіх ідэйных праціўнікаў, лічачы, мусіць, залішнім нават гэтакім чынам прапагандаваць іх «памылковыя» погляды. Паэт нібы не заўважае іх і займаецца толькі падборам разнастайных аргументаў на карысць сваіх тлумачэнняў тых або іншых філасофска-багаслоўскіх тэзісаў.

Да уніяцкіх паэтаў акрамя К. Транквіліёна-Стаўравецкага належаў таксама нейкі Якуб Пшаніца, аўтар палемічных вершаў, накіраваных супраць абаронцы Праваслаўя С. Зізанія.

Да палемічнай паэзіі набліжаецца твор «Гутарка ў Маскве» (1601), напісаны, напэўна, сакратаром велікакняскай Дзяржаўнай канцылярыі Г. Пельгрымоўскім.

На скрыжаванні вусна-паэтычнай творчасці і кніжных традыцый у беларускай паэзіі XVI—XVII стст. узніклі *літаратурныя ляманты, або галашэнні* — зусім фенаменальная з'ява мастацкага слова старажытнай пісьмова-эстэтычнай культуры. Найбольш вядомыя помнікі гэтага жанру — «Лямант на смерць Лявона Карповіча» (1620) М. Смятрыцкага, «Рэха жалю на смерць Іосіфа Бабрыковіча» (Еўе,1635) С. Косава, паэтычныя плачы братоў Баніфацыя і Казіміра Пацаў «Вобраз жанчыны» (1642), Міхала і Стафана Друцкіх-Горскіх «Галашэнне сыноў» (1642).

Для абазначэння жанравай спецыфікі вершаваных твораў «на смерць» у мастацкай свядомасці XVI—XVII стст. існавала некалькі паняццяў: «лямант», «трэн», «эпітафіён», «надгробак», «эклога» і інш.

Гнасеалагічнай перадумовай шырокага развіцця літаратурных плачаў у XVI—XVII стст. з'явілася сярэднявечнае ўяўленне пра магчы-

масць з дапамогаю малітваў за нябожчыка і яго памінанняў дасягнуць Боскага Царства. Услаўляючы вялікага Творцу, паведамляючы яму пра богаўгодныя справы нябожчыка, можна было, на думку хрысціянскіх кніжнікаў, здабыць надзею на вечнае жыццё. Акурат гэтай ідэі аўтары плачаў і падпарадкоўвалі ўвесь арсенал існуючых сродкаў мастацкага абагульнення, усю сілу свайго таленту, узбагачаючы і развіваючы пры гэтым літаратурныя формы, адкрываючы новыя магчымасці асэнсавання рэчаіснасці.

Літаратурныя плачы, аказваючы моцны ўплыў на духоўнае жыццё беларускага народа, былі цесна звязаныя з дзяржаўна-палітычнай барацьбой у той гістарычны перыяд, з яго філасофскімі, сацыяльнымі, этычнымі праблемамі. Іх змест немагчыма зразумець у адрыве ад эпохі, ён уплецены ў жывую, супярэчлівую рэчаіснасць, непарыўна знітаваны з барацьбой розных сацыяльных слаёў і груповак.

У літаратурным плачы, як правіла, прысутнічалі тры героі: нябожчык і асоба, якая ўслаўляе дабрачыннасць памерлага, а таксама блізкі, родны чалавек нябожчыка. Аўтар выступаў у ролі героя, які смуткуе, і адначасова з'яўляўся суцяшальнікам. Дзякуючы гэтаму неардынарнаму спалучэнню дасягалася зліццё ў адзіную мастацкую тканку лірычнага і драматычнага пачаткаў, а частыя і шматлікія пытанні ды воклічы стваралі ўражанне непадробнага смутку і жалобы.

Галоўнае месца ў літаратурных плачах займалі матывы «жыцця» і «смерці». Чалавечае жыццё паказвалася ў адпаведнасці з распаўсюджаным уяўленнем пра часовасць, тленнасць, нікчэмнасць усяго існага. Зямное быццё ва ўсведамленні аўтараў плачаў — агіднае, яно нагадвае знаходжанне ў «вогненным пахілым даму», у якім «дах сыплецца», «сцены бурацца». Сумленным людзям, лічылі паэты, доўгае зямное жыццё прыносіць толькі пакуты, бо яно, як і ўсякая іншая рэч, — толькі часовае прабыванне духу ў плоці. Смерць паглынае грэшнае цела, ператварае яго ў «труп зямны», вызваляючы Боскую душу для вечнага жыцця. Пры апісанні чалавечага цела аўтары плачаў ужывалі найчасцей толькі адмоўныя фарбы, што дыктавалася прынятымі тады эстэтычнымі прынцыпамі, згодна з якімі шукаць асалоду і ўцеху належыць не ў атлетычна прыгожым і гарманічна развітым целе, а, наадварот, у агідным і брыдкім. Пагарджанне ўсім цялесным, аскетызм плоці, вярыжніцтва — вось тое, што, на думку аўтараў плачаў, з'ўлялася сапраўдным ідэалам жыцця.

У плачах нязменна гучаў матыў непазбежнасці смерці. Аднак для чалавека таго часу, смерць — не катастрофа, яна ўспрымалася ім як непазбежная з'ява. Сапраўдны хрысціянін павінен быў спакойна аддаць сябе ў яе рукі, спадзеючыся на тое, што ён трапіць у вечнае Божае Царства. Менавіта ідэя вечнага тагачаснага жыцця прыносіла суцяшэнне паміраючаму, давала яму сілу без боязі і перадсмяротных пакутаў пакінуць жыццё. У адваротным выпадку, калі ўяўленне пра

тагачаснае жыццё падлягала сумненню, трагічнае адчуванне смерці набывала ярка выражаны характар.

Аўтары «Рэха жалю» з эпічным спакоем сцвярджалі: нараджэнне і смерць — натуральны стан прыроды. Імкненне пазбегнуць устаноўленага парадку — бяссэнснае, бо як немагчыма перашкодзіць усходу і заходу сонца, так, даводзілі яны, нельга й прадухіліць прыход смерці. Усё ў зямным жыцці часовае, усё прыходзіць і мінае, смерць не спыняецца ні перад чым — над кожным яна мае ўладу, і над багатымі, і над беднымі. Найвялікшы трагізм чалавечага жыцця, — падкрэслівалі паэты, — ва ўсведамленні людзьмі непазбежнасці смерці.

Цэнтральнае месца ва ўсіх без выключэння літаратурных плачах займала тэма ідэальнага чалавека. Нягледзячы на тое, што паводле ідэалу нельга меркаваць аб усім грамадстве, тым больш, калі яно разнароднае ў сваёй структуры, усё ж ён — паказчык пануючага настрою думак, маральных нормаў, прынятых у грамадстве. Ідэал адлюстроўвае сістэму этычных каштоўнасцяў, якой так або інакш кіруюцца яго члены.

Сцверджанне пэўнага ідэалу ў літаратурных плачах беларускіх паэтаў XVI—XVII стст. ажыццяўлялася пры дапамозе шматлікіх сродкаў і ў розных кірунках. Часцей за ўсё выкарыстоўваўся прыём непасрэднага ўслаўлення аўтарам асабістых добрых якасцяў героя. Часта сам герой ператвараўся ў сааўтара, як, напрыклад, у «Лямантце...», і разважаў пра сапраўдныя каштоўнасці жыцця. Пры гэтым пераважнае месца ў плачах займаў аналіз этычных праблемаў. Настойліва сцвярджаючы пэўны этычны ідэал, аўтар «Ляманту...» выкарыстоўваў арыгінальны мастацкі прыём — зварот нябожчыка да жывых.

Надзяляючы Карповіча рысамі ідэальнага чалавека, аўтар «Ляманту...» неаднаразова паўтараў, што ў жыцці заўсёды неабходна прытрымлівацца веры, праўды, набожнасці, святасці, пазбягаць цялесных грахоў, хваробаў, абжорства, «азябласці» душы, «нядбальства». Яму хацелася б убачыць, як людзей назаўсёды пакінуць «гора», «свар», «няміласць», «здрада», «хлусня», «зневажэнне гонару».

Імкненне стварыць вобраз станоўчага героя было характэрна і для аўтараў іншых літаратурных плачаў. Так, Казімір і Баніфацый Пацы ў сваім творы на смерць Зоф'і Зяновічаўны-Слушчынай, як і аўтар «Ляманту...», услаўлялі добрыя якасці сваёй гераіні. Яна, паводле іх слоў, мела неардынарны розум, клапацілася пра бедных, дапамагала свайму мужу ў яго справах, была выключна набожнай.

Адметнай рысай характарыстыкі яе асобы ў творы можна лічыць, бадай, указанне аўтараў на вядомасць імя Зоф'і Зянковічаўны-Слушчынай ва ўсёй Еўропе. Казімір і Баніфацый Пацы, да прыкладу, пісалі, што пра яе шмат чулі ў Іспаніі, Бельгіі, Германіі, Францыі і іншых краінах. Да таго ж шляхецкі род, з якога яна паходзіла, паводле сцверджання аўтараў, заўсёды быў у вялікай пашане, вылучаўся знатнасцю сярод іншых вядомых сем'яў Вялікага Княства Літоўскага.

Аўтары беларускіх літаратурных плачаў асуджалі несумленныя шляхі набыцця скарбаў, заклікалі ўсіх хрысціянаў — гаспадароў і падданых, да стараннай працы. Яны бэсцілі ляноту, лічылі яе «д'яблавым насланнём». У сваіх творах беларускія паэты, не шкадуючы чорных фарбаў, крытыкавалі ліхвяроў, якія жылі за кошт працы іншых.

Найважнейшая ідэйна-мастацкая асаблівасць літаратурных плачаў эпохі Адраджэння і Барока — іх узаемасувязь з народнымі галашэннямі. Для аўтараў беларускіх літаратурных плачаў вусна-паэтычная творчасць з яе шматвяковымі традыцыямі з'яўлялася невычэрпнаю крыніцай натхнення. Зварот да сілаў прыроды: сонца, ветру, зямлі, нябёсаў — прыём здаўна ўласцівы фальклору — шырока выкарыстоўваўся і ў беларускіх літаратурных плачах. Рэлігійна-хрысціянскі светапогляд паэтаў відавочна быў не ў стане прыпыніць працэс пранікнення ў іх творчасць жывога струменю народна-паэтычных уяўленняў. Беларускія літаратурныя плачы яскрава пацвярджаюць, што ідэя аб магутнасці прыродных сілаў, іх незвычайнасці, звышнатуральнасці, народжаная ў часы Паганства, нягледзячы на свой «ерэтычны» характар, працягвала жыць сярод шырокіх колаў насельніцтва і ў эпоху хрысціянскага манатэізму.

У беларускіх літаратурных плачах эпохі Адраджэння і Барока гэтаксама, як і ў народных галашэннях, персанажы толькі прамаўляюць маналогі. Шматразовыя паўторы, прасякнутыя вусна-паэтычнай стыхіяй, і адначасовае выяўленне аўтарскіх адносін да разнастайных з'яваў садзейнічалі стварэнню ў плачах шматпланавых, па-мастацку выразных карцін, якія выклікалі ў чытача і слухача абвостранае, экзальтаванае ўспрыманне тэксту.

Адметнасць літаратурных плачаў яшчэ і ў тым, што для доказу або пацверджання якіх-небудзь думак у іх, у адрозненне ад вусна-паэтычных, мелі месца спасылкі на Біблію, царкоўнае паданне і выказванні вядомых дзяржаўных дзеячаў. У сваіх аргументах аўтары літаратурных плачаў, як правіла, кіраваліся прынцыпам: чым больш старажытнае — тым больш аўтарытэтнае і пераканаўчае. Старажытнасць з'яўлялася для іх неабвержным аўтарытэтам. Аднак не толькі Біблія і вучэнні айцоў царквы былі аўтарытэтам для беларускіх паэтаў. Выхаваныя на ідэях Рэнесансу, які сінтэзаваў культуру Антычнасці й Сярэднявечча, яны звярталіся да рымскай і агульнаславянскай міфалогіі, што прыводзіла да суіснавання ў іх творчасці хрысціянскіх ды паганскіх матываў. Напрыклад, уяўленне аўтара «Ляманту...» пра магчымасць з дапамогай багінь старагрэцкай міфалогіі — Клоты, Лахесы, Атропы — падоўжыць зямное жыццё відавочна ўступала ў супярэчнасць з царкоўнахрысціянскай дактрынай, якая тлумачыла паходжанне і залежнасць усіх рэчаў і з'яў ад адзінага Бога.

Адметная рыса літаратурных плачаў — апісанне псіхалагічнага стану героеў. Унутраныя перажыванні, духоўны дыскамфорт, пакуты

сумлення сталі аб’ектам пільнай аўтарскай увагі. У плачах шматкроць сустракаюцца ўласцівыя літаратуры барока апісанні «цяжкіх стогнаў», «сардэчных боляў», пакутаў і гора, якія суправаджаліся рыданнямі «асірацелых». Літаратурныя плачы мелі своеасаблівую лексіку. Найбольш часта ў іх ужываліся словы: «трывога», «журбота», «слёзы», «уздыханне», «плач», «страта», «боль», «жаль», «смутак», «смерць», «гора», «стагнанне» і інш.

Паэты, імкнучыся дасягнуць максімальнага ўздзеяння на чытача, вельмі шырока выкарыстоўвалі сімволіка-метафарычныя сродкі. Да прыкладу, сімвалічным сэнсам напаўняліся такія паняцці, як «чаша», «дрэва», «мутная вада», «каса», «меч», «трубы», «карабель», «корань», «вуж», «голуб» і інш. Метафары ж выкарыстоўваліся пераважна для характарыстыкі герояў. Характарызуючы Карповіча, аўтар славутага «Ляманту...» называў яго «бацькам стада», «сынам царквы», «маткаю сірот і ўдоў упалых», «братам вялікіх і малых», «усіх вочы», «рукі», «жродла», «рака даброці», «нядошлае бяздонне». Вялікае значэнне ў плачах надавалася параўнанням, часта складаным і шматпланавым. З мэтаю дасягнення мастацкай выразнасці, даступнасці выкладання нярэдка ўжываліся народныя прыказкі і прымаўкі: «смерць у зубы не глядзіць», «з друга вораг, з брата воўк».

У беларускай літаратуры плачы узніклі як вынік уплыву на паэтаў рэлігійна-хрысціянскай ідэі аб магчымасці з дапамогаю малітваў і памінанняў нябожчыка ў пэўныя дні пасля смерці (праз 3, 9, 40 дзён і год — гэтыя лічбы маюць у Хрысціянскай Царкве сімвалічнае значэнне) наблізіць яго да Бога, дапамагчы душы пасля доўгіх пакутаў знайсці сваё месца ў вечным Божым Царстве. Аналіз ідэйнай асновы літаратурных плачаў і прыёмаў мастацкага абагульнення дае ўсе падставы сцвярджаць, што іх стваральнікі абапіраліся пераважна на рэлігійна-хрысціянскі светапогляд, а таксама на традыцыі Антычнасці і вусна-паэтычную творчасць усходніх славян.

Літаратурныя плачы, што атрымалі распаўсюджанне ў Беларусі, з’яўляюцца яскравым увасабленнем агульначалавечых духоўных з’яваў у пэўных гістарычных, геаграфічных і нацыянальных умовах. Яны без сумніву ўзбагацілі сусветную культуру новым зместам, непаўторным паводле формы і эстэтычнай вартасці.

Пра якасна новы крок у развіцці паэзіі Беларусі сведчыла з’яўленне на пачатку XVI ст. лацінамоўных паэмаў Яна Вісліцкага «Пруская вайна» (1516) і М. Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523), а ў канцы XVI — першай палове XVII ст. шырокіх вершаваных, эпічных твораў: гісторыка-мемуарных, рыцарскіх паэмаў — А. Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць пра вайсковыя справы Крыштофа Радзівіла» (1585) і Я. Радвана «Радзівіліяда» (Вільня, 1588). У мастацка-выяўленчым плане яны сталіся новай з’явай у беларускай літаратуры, што паступова вызвалялася ад схематызму і спрошчанасці адлюстравання падзей. Майстры

слова выявілі тэндэнцыю звароту літаратуры да рэальных, абумоўленых жыццёвай сітуацыяй падзеяў. Яны смела звярнуліся да новых тэмаў, вайсковай і палітычнай гісторыі краіны, загаварылі пра складаныя грамадскія працэсы, вострыя міжнародныя і сацыяльныя дачыненні. Праява новай практыкі мастацкага асэнсавання рэчаіснасці ў паэмах А. Рымшы і Я. Радвана — рэалізацыя творчай канцэпцыі матываванасці ўчынкаў герояў рэаліямі жыцця, канкрэтна-гістарычнымі падзеямі. Праўда, майстры слова пры абмалёўцы персанажаў яшчэ не ставілі за мэту стварэнне псіхалагічных партрэтаў, што ўласціва літаратуры Новага часу. Вонкавы свет не праходзіць праз суб'ектыўнае ўспрыманне іхных герояў, яны не ведаюць пакутаў сумлення, не вагаюцца ў выбары шляхоў і сродкаў, а ўсю сваю энергію, як правіла, скіроўваюць на дасягненне пастаўленых мэтаў.

У XVII ст. паэзія Беларусі ўзбагацілася філасофска-публіцыстычным жанрам, узорам якога з'яўлялася паэма магілёўскага паэта Тамаша Іяўлевіча «Лабірынт, або Заблытаная дарога» (1625). Гэты твор — унікальны сваім зместам помнік, бо ў ім, бадай, упершыню ў беларускай літаратуры ў паэтычнай форме прагучаў узнёслы гімн навуцы, адукацыі, асвеце, мудрасці.

Да ліку паэтычных рарытэтаў належаць два вершаваныя творы Г. Пельгрымоўскага: «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» (1603) і «Пасольства да Жыгімонта III Вазы ад вялікага гаспадара Барыса Фёдаравіча Гадунова» (1603). Аўтар здзейсніў творчы эксперымент, спалучыўшы ў адным мастацкім дыскурсе традыцыйна несумяшчальныя, у многім супрацьлеглыя, літаратурныя роды — эпас і драму. Шматлікія драматургічныя дыялогі ў ягоных творах зусім гарманічна перамяжоўваліся з эпічнымі апісаннямі, вершаваныя аповедамі ды аналітычнымі развагамі.

У старажытны перыяд развіцця беларускага прыгожага пісьменства зарадзілася плынь нацыянальнай *патрыятычнай* паэзіі, да якой належыць верш Яна Казіміра Пашкевіча «Польшча квітнее лацінай». Паэт стварыў сапраўдны гімн роднай мове. Я. К. Пашкевіч у сваім выключна патрыятычным вершы адстойваў права беларускай мовы на існаванне і падкрэсліваў яе значэнне ў жыцці ўсяго Вялікага Княства Літоўскага. У творы Я. К. Пашкевіча прагучала актуальная і сёння ідэя пра тое, што народ жыве да таго часу, пакуль жыве яго мова. Патрыятычная традыцыя Я. К. Пашкевіча пазней была прадоўжана ў ананімнай «Песні беларускіх жаўнераў».

***Публіцыстыка***. Аснову публіцыстычнага пісьменства Беларусі складалі *палемічныя* творы. Паводле семантычных дамінантаў яны падзяляліся на шматтыпныя «адказы», «аспрэчанні», «абароны», «абвінавачанні», «выкрыцці», «спрэчкі», «водпісы», «водпаведзі», «заслоны», «пасланні ў адказ», «супакаенні», «засцярогі», «крытыкі», «пратэстацыі». У канцы XVI—XVII ст., са з'яўленнем у беларускай

літаратуры барокавых тэндэнцыяў, для абазначэння семантычных дамінантаў і жанравых формаў найчасцей пачалі ўжывацца грэцкія і лацінскія тэрміны, што, як правіла, выносіліся на тытулы палемічных твораў: «апокрысіс», «антырызіс», «антыдотум», «апалогія», «апалея», «антыграфі», «трэнас», «антапалогія», «парыгорыя», «сінопсіс», «суплементум сінопсіс», «ліфас», «перспектыва», «эленхус», «антыэленхус», «апендыкс», «верыфікацыя», «эктэзіс», «экзетэзіс», «юстыфікацыя», «суплікацыя».

Першым палемічным трактатам у беларускай літаратуры можна лічыць твор мітрапаліта Георгія пад назвай: «Спрэчка з лацінай: 27 абвінавачанняў» (XII ст.). Выразнае палемічнае гучанне маюць два словы Кірылы Тураўскага: «Указанне, адкуль сярод людзей жыццё без жаніцьбы» і «Слова пра кніжнае шанаванне», а таксама «Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Кульгавага», скіраваная супраць епіскапа Феадорца.

Паводле зместу і формы знакаміты твор Кліма Смаляціча «Пасланне прэсвітэру Фаме», напісаны ў XII ст., з’яўляецца палемічным адказам апаненту.

Да жанру палемічнага выкрыцця належыць публіцыстычны трактат сярэднявечнага пісьменніка мітрапаліта Кіпрыяна «Пасланне да ігуменаў Сергія і Феадора з выкрыццём беспадстаўных дамаганняў Маскоўскай мітраполіі архімандрытам Міцяем». Традыцыі палемічнага жанру на Беларусі прадоўжыў наступнік Кіпрыяна мітрапаліт Грыгоры Цамблак, аўтар палемічнага «Слова, якую веру трымаюць немцы».

У пачатку 60-х гг. XVI ст., як водгук на падрыхтоўку падзеяў вайскова-палітычнага хаўрусу Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы напярэдадні 1569 г., узнікла палітычная палемічная літаратура, выдатным узорам якой з’яўляецца трактат А. Ротундуса (Л. Мялешкі) «Размова Паляка з Літвінам» (1562). У жанры палітыка-палемічнага трактата напісаны твор К. Валадкевіча «Паведамленне добрасумленнага Літвіна братам сваім, народу літоўскаму» (1592), а таксама ананімныя помнікі: «Праўдзівы дыялог шляхціца літоўскага пра Інфлянцкую вайну» (1594) і «Патрыёт да Сената і народа літоўскага» (1597).

Асаблівага росквіту палемічная літаратура дасягнула ў другой палове XVI ст., у сувязі з пашырэннем рэфармацыйнага руху на беларускіх землях. Адзін з першых ананімных палемічных твораў «Спісанне супраць лютэраў», напісаны ў сярэдзіне XVI ст., належыць якраз да найбольш ранніх выступленняў беларускіх праваслаўных пісьменнікаў супраць пашырэння Пратэстанцтва.

Пры канцы 60-х гг. XVI ст. узнікла літаратурная палеміка паміж князем Мікалаем Радзівілам Чорным і папскім нунцыем Алоізам Ліпаманам, якая пазней была апублікаваная пад тытулам: «Два лісты» (1599) і змяшчала палемічныя лісты апанентаў.

Некалькі значных палемічных твораў належала пяру С. Буднага: «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з’яўляецца такім жа Богам,

як Бог Айцец» (1574), «Да аргументаў Сімлера і некаторых іншых аб дзвюх прыродах Хрыста» (каля 1575), «Аб асноўных артыкулах Хрысціянскай веры» (1576), «Абвяржэнне Чаховіца, які лічыць, што хрысціяніну нельга займаць дзяржаўную пасаду» (Лоск, 1574), «Адказ на Ліст побажнага мужа, Сеньёра аднаго з польскіх збораў» (1581), «Абарона ўрада» (1583).

Рэдкім помнікам палемічнага жанру з’яўляецца апакрыфічны памфлет віцебскага прапаведніка Кузьмы (Андрэя) Каладынскага «Ліст Полаўца Івана Смеры да вялікага князя Уладзіміра» (пасля 1560 г.). У творы крытыкуецца рэлігійная дактрына Праваслаўнай Царквы і Каталіцкага Касцёла.

А. Валян, падчас дыскусій з езуітамі, у прыватнасці, з Юркевічам, з 1579 да 1593 г. апублікаваў нешта 25 палемічна-публіцыстычных твораў, сярод якіх — «Абарона сапраўднага царкоўнага вучэння» (1579), «Абвяржэнне ідалапаклоннікаў, віленскіх прыхільнікаў Лаёлы» (1593), «Некалькі пасланняў супраць прыхільнікаў Сарніцкага» (1592) ды інш. На палемічна-публіцыстычныя выступы гэтага пратэстанцкага пісьменніка адказалі каталіцкія аўтары: М. Ляшч («Вячэра евангелікаў», 1594; «Іудзіцыум, або Асуджэнне», 1594) і М. Сміглецкі творам «Пра спрадвечную боскасць Хрыста» (1595). З палемічным творам «Пра абразы і рэліквіі», накіраваным супраць пратэстантаў, выступіў праваслаўны пісьменнік Ф. Баравік. Вядомыя таксама некалькі ананімных антыпратэстанцкіх твораў: «Аб абразах і крыжу» (1602), «Пра Тройцу» (1602), «Супраць аповесці цяперашніх ерэтыкоў», аўтарства якіх належала праваслаўным пісьменнікам.

Арыгінальнымі палемічнымі творамі з’яўляюцца «Сціслы адказ» Феадула і «Зачапка» Крыштофа Русіна. Гэта творы праваслаўных пісьменнікаў, накіраваныя супраць каталіцкіх аўтараў, у прыватнасці П. Скаргі. Асаблівае месца ў палемічнай літаратуры займае твор пад тытулам: «Супраць жыдоў і лацінянаў» (1580), у якім праваслаўны аўтар вядзе, побач з антыкаталіцкай, антыіудзейскую дыскусію.

Пасля з’яўлення ў 1595 г. «Катэхізіса» С. Зізанія, супраць яго былі неўзабаве апублікаваныя два палемічныя творы: Шчаснага Жаброўскага «Кукаль, які рассявае Стафан Зізаній у праваслаўных цэрквах Вільні» (1595) і Якуба Пшаніцы «Плевы ерэтыка Стафана Зізанія» (1596). Пісьменнікі выступілі з рэзкай крытыкай і асуджэннем поглядаў і вучэння С. Зізанія.

Новы этап у развіцці палемічнага жанру ў беларускай літаратуры быў звязаны з падрыхтоўкай і падпісаннем Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. Шэраг выдатных палемічных твораў напісаныя ў абарону Берасцейскага Сабора і Уніі: П. Скаргі «Апісанне і абарона Сабора рускага Берасцейскага» (Вільня, 1597), І. Пацея «Адказ на Ліст Клірыка Астрожскага» (блізу 1598), «Ліст да князя Канстанціна Астрожскага» (1598), «Антырызіс» (1600), «Адказ на Ліст Мялета, александрыйскага

патрыярха» (1601), І. Марахоўскага «Парыгорыя», П. Федаровіча «Абарона Фларэнційскага Сабора» (1603), Л. Крэўзы «Абарона царкоўнай еднасці» (1617).

Да найбольш значных палемічных (антыуніяцкіх) трактатаў належаць: «Апокрысіс» (Вільня, 1597) Крыштофа Філалета, ананімныя «Сказ супраць Уніі» (1597) і «Эктэзіс» (1597). Супраць Уніі было скіравана сатырычнае пяро Клірыка Астрожскага, аўтара двух палемічных лістоў да І. Пацея, а таксама ананімныя «Гісторыя пра разбойніцкі Ферарскі, або Фларэнційскі Сінод» (1598) і «Перасцярога» (каля 1600—1605). М. Сматрыцкі ў гэты перыяд напісаў у абарону Праваслаўя два багаслоўскія трактаты «Антыграфі» (1608) і «Трэнас» (1610).

Заўважны ўклад у развіццё палемічнага жанру ў канцы XVI — пачатку XVII ст. ўнеслі: А. Мужылоўскі («Адказ на Ліст віленскіх уніятаў», 1616) і З. Капысценскі («Палінодыя», 1619—1620).

Моцную хвалю палемічных твораў спарадзілі падзеі 1620 г., пасля таго як ерусалімскі патрыярх Тэафан увесну 1620 г. сваёй пастановай узнавіў Кіеўскую праваслаўную мітраполію і, не пытаючыся манархавага дазволу і згоды уніяцкага мітрапаліта Я. Руцкага, 15 жніўня 1620 г. прызначыў мітрапалітам Праваслаўнай Царквы Іова Барэцкага, а таксама пасвяціў на духоўныя пасады шэсць беларускіх епіскапаў.

Палеміку распачаў М. Сматрыцкі. 5 красавіка 1621 г. ён апублікаваў «Верыфікацыю нявіннасці». У адказ на яе уніяцкі мітрапаліт Я. Руцкі выступіў з трактатам «Падвойная віна» (1621). М. Сматрыцкі неадкладна надрукаваў «Абарону Верыфікацыі» (1621). У тым жа годзе Я. Руцкі адгукнуўся на яе «Экзаменам Абароны» (1621). На апошні твор Я. Руцкага «Экзамен Абароны» М. Сматрыцкі адказаў «Апендыксам на Экзамен Абароны Верыфікацыі» (Вільня, 1622).

Да палемікі, што напачатку вялася паміж М. Сматрыцкім і Я. Руцкім, неўзабаве далучыліся вядомыя дзяржаўныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага — браслаўскі староста і найвышэйшы пісар Януш Скумін-Тышкевіч, слонімскі падкаморы Мікалай Трызна, пан Адам Храптовіч, слонімскі харужы Юры Мялешка. У 1621 г. пад іхным аўтарствам з'явіўся «Ліст да законнікаў манастыра Святога Духа», скіраваны супраць палемічных трактатаў М. Сматрыцкага, ягонай «Верыфікацыі нявіннасці» і «Абароны Верыфікацыі». Аўтары «Ліста...» абураліся закідамі М. Сматрыцкага на адрас шляхты, якая пераходзіла ва уніяцкую веру нібыта дзеля атрымання новых прывілеяў. На думку ўрадоўцаў-палемістаў, М. Сматрыцкі дапусціў вялікую нетактоўнасць, апублікаваўшы лісты Жыгімонта Вазы і сенатараў да Тэафана пасля таго, як стала вядома, што «той грэчын — здрайца». Спробы аўтара «Верыфікацыі нявіннасці» абвінаваціць манарха ў парушэнні законаў яны назвалі «дурной смеласцю». Я. Скумін-Тышкевіч, М. Трызна,

А. Храптовіч і Ю. Мялешка запатрабавалі ад М. Сматрыцкага перастаць нарэшце абражаць духоўных айцоў Уніяцкай Царквы, пагражаючы прыцягнуць яго да суда. Да крымінальных учынкаў М. Сматрыцкага яны аднеслі ягоную агітацыю запарожскіх казакаў, людзей рыцарскага стану, заклікі да іх абараняць Праваслаўе. Менавіта з іх удзелам, сцвярджалі ўрадоўцы, М. Сматрыцкі ўчыніў у Полацку «тумульты», не зважаючы ні на якія засцярогі мітрапаліта, ваяводы і камісараў. Публікацыю ж у «Верыфікацыі нявіннасці» Пратэстацыі І. Барэцкага, дзе гучаў заклік да бунту, змагання са зброяй у руках «за веру бацькоў», аўтары «Ліста...» слушна ахарактарызавалі як «найвялікшае дзяржаўнае злачынства», бо гэта сапраўды магло прывесці да развязання грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе. Сярод прычынаў неўтаймаванасці М. Сматрыцкага і агрэсіўнасці ягоных паплечнікаў пісьменнікі-ўрадоўцы назвалі «прагу духоўных сталіц» і дзеля пацверджання свайго меркавання спасылаліся на «самачыннае», паводле іх азначэння, абвяшчэнне сябе духоўнымі пастырамі.

У 1622 г. адбылася літаратурная дуэль паміж М. Сматрыцкім і уніяцкім пісьменнікам А. Сялявам. У працяг папярэдняй дыскусіі М. Сматрыцкі апублікаваў «Эленхус». Супраць рэзкіх выказванняў М. Сматрыцкага ў «Апендыксе» і «Эленхусе», ягоных ацэнак Уніяцтва, выказаных новай Царкве прэтэнзіяў выступіў А. Сялява. У сваім творы «Антыэленхус» уніяцкі аўтар, перадусім, аспрэчыў сцверджанне М. Сматрыцкага, нібыта пасля падпісання уніі ў шэрагу беларускіх гарадоў, асабліва Наваградку, павялічылася колькасць «ерэтыкоў». Аўтар «Антыэленхуса» зняпраўдзіў шматлікія паклёпы, узведзеныя М. Сматрыцкім на базыльянскіх манахаў і ўвесь Ордэн Святога Базыля Вялікага, афармленне якога завяршылася ў 1617 г. Жыццё манахаў-базыльянаў, сцвярджаў А. Сялява насуперак М. Сматрыцкаму, у маральным плане бездакорнае: дачыненні між імі вызначаюцца духоўнай чысцінёй, у іх асяроддзі пануе суладдзе думак і пачуццяў, усе яны паядналыя прагаю служэння Госпаду. Для ўнутранага жыцця ўсяго Ордэна, паводле слоў аўтара «Антыэленхуса», характэрныя не толькі жорсткая дысцыпліна і строгія правілы, без чаго немагчыма ягонае існаванне, але й дэмакратызм, што выяўляецца ў скліканні адзін раз на чатыры гады з’езда (кангрэгацыі) — найвышэйшага органа Ордэна, дэлегаты на які абіраюцца шляхам таемнага галасавання ўсімі сябрамі Закона. А. Сялява выступіў з ідэяй канчатковага замірэння уніятаў і праваслаўных. Патушыць пажар вайны між імі неабходна ўжо хаця б з тае прычыны, лічыў ён, што існуе агульная небяспека — пагроза новага ўздыму Рэфармацыі. Аўтар «Антыэленхуса», цытуючы даўнія лісты і допісы, што трапілі да яго «ад аднаго уніята», коратка прыгадаў шкоды, учыненыя кагадзе рэфарматамі Праваслаўнай Царкве.

У адрозненне ад А. Сялявы другі вядомы уніяцкі пісьменнік-палеміст Я. Кунцэвіч прытрымліваўся іншай стратэгіі. Ён меркаваў, што

з часам усё ж удасца задзіночыць усіх вернікаў нашай Усходняй Царквы на грунце Уніяцтва. Менавіта гэткая пазіцыя полацкага уніяцкага арцыбіскупа выразна відаць у ягоных палемічных лістах да Л. Сапегі (за 21 студзеня 1621 г.) і да Я. Руцкага. Я. Кунцэвіч прапаноўваў мітрапаліту і канцлеру вытрымліваць жорсткую лінію паводзінаў у дачыненні да «схізматыкаў» (праваслаўных). Гэтаксама ён патрабаваў ад урадоўцаў ужыць захады, каб Масква не ўмешвалася ва ўнутраныя справы Вялікага Княства Літоўскага.

Канцлер Л. Сапега, падзяляючы заклапочанасць Я. Кунцэвіча ўзрастаннем напружання ў міжцаркоўных дачыненнях і, абураючыся маскоўскім умяшаннем у царкоўнае жыццё Княства, разам з тым выступіў за мякчэйшае і памяркоўнае стаўленне да праваслаўных. Ён выдатна ўсведамляў, што рэпрэсіі, пераслед праваслаўных не прынясуць карысці Княству і абавязкова будуць скарыстаныя ўсходнім суседам як зачэпка для агрэсіі. Памяркоўная пазіцыя Л. Сапегі, яго арыентацыя на замірэнне выразна выявіліся ўжо ў «Лісце да Я. Руцкага» (9 лютага 1621) і ў «Адозве з нагоды непадпарадкавання магілеўцаў уніяцкаму арцыбіскупу А. Сяляву» (22 мая 1621). У вядомым «Адказе на ліст Я. Кунцэвіча» (12 сакавіка 1622) канцлер наагул асудзіў усялякія спробы ціску на праваслаўных, параіўшы дзейнічаць узважана, кіравацца правам і законамі ВКЛ.

Апошняе слова ў дыскусіях, што доўжыліся блізу трох гадоў і ў часе якіх былі ўзнятыя многія надзённыя праблемы грамадска-царкоўнага жыцця, сказаў М. Сматрыцкі. 6 снежня 1622 г. ён апублікаваў «Юстыфікацыю нявіннасці», адрасаваную непасрэдна Жыгімонту Вазу, а ў 1623 г. «Суплікацыю» — ліст да сенатараў і дэпутатаў Вальнага Сойма.

Шэраг палемічных твораў узніклі ў часе дыскусій вакол праекта «новай уніі» ў другой палове 20-х гадоў XVII ст. М. Сматрыцкі піша «Апалогію» (1628), «Апалею апалогіі» (1628), «Пратэстацыю» (1628) і «Парэнэзіс» (1629). У 1628 г. Тодар Ліцыній Намыслоўскі выдае палемічны «Коўзкі пляц». А. Мужылоўскі, колішні паплечнік М. Сматрыцкага, выступіў супраць яго з палемічным «Антыдотумам» (1629). Ён абрынуў на М. Сматрыцкага шквал абвінавачанняў і нават нечуваных паклёпаў. На гэты твор М. Сматрыцкі амаль адразу адказаў «Экзетэзісам» (1629). Да дыскусіі неўзабаве далучыўся А. Дзіпліц, які надрукаваў палемічную «Антапалогію» (1632) і ананімны аўтар, што падрыхтаваў памфлет пад тытулам «Тропар і кандак».

У канцы 1632 г. уніяты апублікавалі ананімны палемічны твор «Правы і прывілеі», а ў 1633 г. — «Святую еднасць Усходняй і Заходняй Цэркваў». Праваслаўныя адказалі на іх трактатам «Рым, або Рымская сталіца...». У 1634 г. абаронца Уніі К. Скупенскі выступіў з творам «Русін, або Рэляцыя размовы двух русінаў», у якім зноў узняў пытанні пра хрышчэнне ўсходніх славянаў, правы Праваслаўнай Царквы ды інш.

Шэраг літаратурных палемічных трактатаў былі напісаныя ў 40-х гг. XVII ст., падчас новага ўздыму дыскусій у грамадстве. Сярод аўтараў палемічных твораў: Тодар Скуміновіч («Прычыны...», 1643), Іван Крэчмер («Консыдырацыя...», 1648), Пахом Война-Аранскі («Люстэрка, або Заслона», 1645), Ян Дубовіч («Абарона Святой Саборнай Апостальскай Царквы», 1638; «Праўдзівы каляндар Хрыстовай Царквы», 1644; «Іерархія, або Аб першынстве ў Божай Царкве», 1644; «Вобраз Усходняй Праваслаўнай Царквы», 1645).

Істотны ўклад у развіццё палемічнай літаратуры ў сярэдзіне XVII ст. унёс Касіян Саковіч, аўтар некалькіх палемічных твораў: «Стары каляндар», «Дыялог», 1642; «Акуляры старому календару», 1644. Асаблівае месца належыць ягонай «Перспектыве» (Кракаў, 1642), супраць якой выступіў П. Магіла з творам «Літас» (Кіеў, 1644). К. Саковіч адказаў на крытыку П. Магілы творам «Кайло, або Молат на крушэнне камянёў схізмы» (Кракаў, 1646).

У другой палове XVII—XVIII ст. традыцыі палемічнага жанру працягвалі: Тэафіл Рутка, Павел Бойм, Кіпрыян Жахоўскі, Іван Кулеша. Сярод праваслаўных пісьменнікаў-палемістаў эпохі Асветніцтва вылучаліся: Іанікі Галятоўскі, Лазар Барановіч, Інакенці Гізель, Варлам Ясінскі. Палемічная літаратура Беларусі існавала фактычна да канца XVIII ст., да зліквідавання Вялікага Княства Літоўскага як самастойнай дзяржавы і анексіі беларускіх земляў Расіяй.

Да найбольш старажытных, устойлівых жанравых формаў рэлігійнай публіцыстыкі належалі *урачыстыя словы і казанні*, што прамаўляліся ў дні царкоўных святаў. Традыцыя святочных казанняў паўстала ў пракаветныя часы, на зары Хрысціянства, а недзе ў III—IV стст. яны выразна аформіліся як асобны жанр слоўнай творчасці, што быў зместава і функцыянальна знітаваны з унутраным жыццём Хрыстовай Царквы, з'яўляючыся важным элементам богаслужбовай практыкі. Першыя арыгінальныя ўрачыстыя рэлігійныя казанні на Беларусі з'явіліся ў XII ст. Вялікай папулярнасцю ў славянскім свеце на працягу XII—XVII стст. карысталіся казанні велікоднага цыкла Кірылы Тураўскага, у якіх упершыню ў беларускай літаратуры былі акрэсленыя каноны, творчыя прынцыпы і паэтыка гэтага літаратурнага жанру.

Наступны этап развіцця жанру ўрачыстых казанняў лучыцца з імем Грыгорыя Цамблака, які ў беларускі перыяд сваёй творчасці (1414—1419) напісаў шэсць урачыстых пропаведзяў.

Выдатным майстрам прапаведніцкага жанру справядліва лічыцца Л. Карповіч, які пры жыцці апублікаваў два казанні пад тытулам: «Казанье двое: одно «На Преображеніе Господа Бога и Спаса нашего Ісуса Христа», другое «На Успеніе пречистое и преблагословенное владычицы нашое Богородицы присно Девы Маріи, которое мел отец Леонтій Карпович, архимандрит монастыра общежителнаго братского Виленского церкви Сошествія Святаго и Животворящаго Духа, в року 1615, месяца августа» [Еўе, 1615].

Да жанру ўрачыстай пропаведзі звяртаўся ў сваёй творчасці уніяцкі мітрапаліт І. Пацей, які падрыхтаваў для друку асобны зборнік казанняў на старабеларускай мове, але, дзеля розных прычынаў, яны былі апублікаваныя толькі на пачатку XVIII ст. у перакладзе на польскую, а аўтэнтычны аўтарскі тэкст, мяркуючы паводле перакладу, — унікальны з літаратурна-мастацкага гледзішча, на жаль, дагэтуль не знойдзены.

У рукапісным выглядзе да нашага часу дайшоў зборнік урачыстых казанняў Я. Кунцэвіча. Напісаныя на старабеларускай мове, яны адрозніваюцца асаблівай філасофскай заглыбленасцю.

Шырокай папулярнасцю на Беларусі карысталіся творы прапаведніцкага жанру К. Транквіліёна-Стаўравецкага, якія ён пісаў на працягу ўсяго творчага жыцця. Пісьменнік выдаў іх ва ўласнай друкарні асобнай кнігай пад тытулам: «Евангелле павучальнае». Некалькі дзесяткаў казанняў склалі аснову другой кнігі І. Галятоўскага «Ключ разумення». Захавалася таксама мноства рэлігійных урачыстых казанняў, аўтарства якіх невядомае, як напрыклад, ананімны пратэстанцкі зборнік і два уніяцкія зборнікі.

Абсяг тэмаў урачыстых казанняў вельмі шырокі. Іх выбар звычай адпавядаў царкоўнаму календару: кожнае казанне раскрывала сутнасць пэўнай евангелічнай падзеі або нейкі істотны фрагмент Хрыстовай навукі. Асобныя казанні пісаліся ў гонар хрысціянскіх святых і прамаўляліся ў дні іх памяці. Як паказвае аналіз беларускіх прапаведніцкіх тэкстаў, існаваў вызначаны тэматычны расклад пропаведзяў на ўвесь год, у казанні дамінаваў пэўны біблейна-евангелічны матыў: пра мытара і фарысея чыталася ў першую нядзелю, пра блуднага сына — у другую, пра суд над народамі, геенскія пакуты і вечнае жыццё — у мясапусную нядзелю, сутнасць Нагорнай пропаведзі Ісуса раскрывалася ў сырапусную нядзелю, з'яўленне Сына Божага, яго пакуты ў пустэльні ды спробы спакушэння Д'яблам — у першую нядзелю святога паста, пераўтварэнне Госпада на Фаворы — у другую нядзелю паста.

Урачыстыя казанні мелі, як правіла, устойліваю кампазіцыю: спачатку пераказваўся змест біблейна-евангелічнай падзеі, затым вытлумачваўся яе сімвалічна-містычны, патаемны сэнс, і ў заключэнні змяшчаліся дыдактычныя парады, раскрывалася значэнне падзеі для выратавання душы чалавека. Казанні розных аўтараў адрозніваліся стылёва, адны з іх мелі рацыянальнае, лагічна выверанае кампанаванне топікаў, у іншых дамінаваў эмацыйна-пачуццёвы, экспрэсіўны пачатак, што ўплывала на выбар мастацка-выяўленчых сродкаў.

Практыка публічнага палітычнага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім спарадзіла жанр *прамоваў на сойме*, якія распаўсюджваліся ў пісьмовым і друкаваным выглядзе, перавыдаваліся асобнымі брашурамі і ў зборніках. Паводле зместу яны падзяляліся на прывітальныя словы (вітанні), падзякі, віншаванні, прамовы-абвінавачанні, абароны,

словы ў адказ, пратэсты (пратэстацыі), скаргі (суплікі, суплікацыі), развітальныя словы.

Найбольш значныя творы гэтага жанру належаць Я. Хадкевічу, А. Валовічу, Л. Сапегу («Слова да Жыгімонта III пры ахвяраванні друкаванага Статута Вялікага Княства Літоўскага»), А. Філіповічу (тры суплікі), С. Пацу («Вітанне караля ад імя пасольскай палаты праз рэферындарыя Вялікага Княства Літоўскага, маршалка пасольскага, а потым падканцлера», 1630), Я. Крышпіну («Прывітальнае слова польнага літоўскага пісара ад імя пасольскай палаты на Гарадзенскім сойме 1693 г.»), Я. Дольскаму («Падзяка падчашага Вялікага Княства Літоўскага за нададзеную годнасць», 1685), Я. Радзівілу («Прамова пры вяртанні пячаткі і булавы Вялікага Княства Літоўскага», 1681), Ф. Сапегу («Прывітальнае слова канюшага Вялікага Княства Літоўскага да караля Яна III», 1678), Я. Копецу («Падзяка ваяводы полацкага за троцкую кашталянію каралю Міхаілу», 1669), В. Кірдзелю («Развітанне гарадзенскага пісара, маршалка пасольскага, па сарваным сойме», 1639). Вельмі часта соймавыя прамовы мелі калектыўнае аўтарства, што, як правіла, адлюстроўвала пазіцыю дэпутацкіх групаў — прадстаўнікоў паветаў, ваяводстваў, зямель.

Жанрава адметную групу складаюць прамовы дыпламатаў, кіраўнікоў вялікіх пасольстваў у час афіцыйных аўдыенцый на вышэйшым узроўні і пры вядзенні міждзяржаўных перагавораў. Узор гэтага жанру — дыпламатычныя прамовы Л. Сапегі ў Маскве.

Найбольш эфектыўнай мастацка-літаратурнай формай пашырэння хрысціянскіх ідэяў у старажытныя часы справядліва лічылася рэлігійная публіцыстыка *катэхізічнага*, або дыялогавага тыпу. За стварэнне катэхізісаў і дыдаскаліяў браліся, як правіла, найбольш аўтарытэтныя лідэры канфесійных супольнасцяў, вядомыя тэолагі, выбітныя майстры слова. Адзін з першых і найбольш значных помнікаў катэхізічнага жанру належыць пяру С. Буднага, які апублікаваў яго ў 1562 г. у Нясвіжскай друкарні М. Кавячынскага пад тытулам: «Катихисіс, то ест Наука стародавная хрістіаньская от Светого Писма для простых людей языка руского въ пытаніях и отказех събрана».

У жанры катэхізіса спрабавалі творчыя сілы лепшыя майстры мастацкага слова: С. Зак «Рэгулы» (1559), Васіль Цяпінскі «Катехисис, або Сума науки детей въ Христе Исусе» (каля 1576), Пётра Канізій «Катехизм» (1585), С. Зізаній «Изложение о Православной вере» (Вільня, 1600), Л. Зізаній «Катехизіс, албо вызнаніе веры святое, соборное, апостольское Въсходнее церкви» (1600), Я. Кунцэвіч «Катехизм од слуги Божого Іосафата сочетанный», М. Сматрыцкі «Катэхізіс» (каля 1628), С. Косаў «Дідаскаліа, альбо Наука», Л. Кішка «Собраніе припадков краткое и духовным особам потребное» (1722). Шэраг старабеларускіх катэхізісаў, якія дайшлі да нашага часу — ананімныя, не маюць аўтарства, як, напрыклад, «Наука яко верити мает каждый»

(1627). Вельмі блізка да жанру катэхізіса прымыкае ананімны твор «Пытанні і адказы праваслаўнаму з папежнікам» (Вільня, 1603).

Папулярнасць катэхізічных твораў у старажытнай Беларусі была надзвычай шырокай. І гэта зусім невыпадкова: паводле іерархічнай значнасці, катэхізіс для хрысціяніна — другая пасля Бібліі кніга. Катэхізіс смела можна назваць бестселерам старажытнага часу, бо яго чытацкая аўдыторыя была найбольш масавай. Катэхізісы ўзніклі як адказ на шырокае запатрабаванне грамадскай свядомасці — спасцігнуць унутраны сэнс рэлігійных дагматаў, рытуалаў і цэрымоніяў Хрысціянскай Царквы, грамадскіх інстытутаў і сацыяльных з'яваў. Іх мэта была акурат у тым, каб задаволіць духоўную прагу пытлівага розуму, вытлумачыць складаныя рэчы, навучыць чалавека маральным паводзінам і ўчынкам. Дыялогавая форма, з элементамі фармальна-стылёвай спрошчанасці, дазваляла паслядоўна, а галоўнае, даступна, без асаблівай абцяжаранасці лішнімі агаворкамі, данесці да чытача аўтарскую думку, часам у выглядзе гатовага рэцэпта, простай дыдактычнай сентэнцыі або звычайнай маральнай рэкамендацыі.

Для майстроў слова жанр катэхізіса адкрываў новыя магчымасці і творчы прастор. Пісьменнік-мараліст атрымліваў зручную мастацкую форму, надзвычай прыдатную для таго, каб выказаць парады, прапанаваць шляхі ўдасканалення асобы, суполкі, у цэлым грамадства. Пры ўсім вонкавым падабенстве катэхізісы ўсё ж такі мелі істотныя адрозненні: у адных з іх дамінавала аўтарская індывідуальнасць, у іншых — наадварот, выяўлялася ўзгодненая пазіцыя канфесійнага кангламерата, асабісты пачатак быў прыглушаны, пераважала калектыўнае, чым, зрэшты, і вытлумачваецца феномен адсутнасці аўтарства шэрагу катэхізічных твораў.

Адрасаваліся катэхізісы і дыдаскаліі найчасцей усім вернікам, зрэдку толькі святарам, асобныя — дзеткам, што пазначалася на тытулах або агаворвалася ў прадмовах. У такім разе яны, натуральна, выконвалі асветна-педагагічную функцыю, а тыя, што прызначаліся для дзетак, адыгрывалі ролю звычайнай чытанкі. У катэхізісах дамінавала хрысціянска-рэлігійная тэматыка. Аўтары ўздымалі сацыяльныя праблемы, закраналі пытанні тэалогіі, эклесіялогіі, антрапалогіі, маралі і этыкі. Невыпадкова яны звычайна ўключалі раздзелы пра дзесяць запаветаў Божых, пра веру, пра Тайны, пра малітву Госпада «Ойча наш», пра хросны знак. Праўда, паасобныя катэхізісы, да прыкладу «Катэхізіс» Я. Кунцэвіча, не мелі фармальнай падзеленасці на раздзелы, аднак унутрана яны дастаткова структуяваныя паводле традыцыйнай зместавай схемы.

Вельмі блізкім у жанравым сэнсе да катэхізічных і палемічных твораў публіцыстычна-*аналітычныя трактаты*, якія паводле зместу падзяляліся на філасофскія, багаслоўскія, натурфіласофскія, сацыяльна-этычныя. Аўтары гэтых твораў вельмі часта самі вызначалі

іх жанравую прыналежнасць. У якасці жанравызначальных назоваў яны ўжывалі, як правіла, наступныя тэрміны: «навука», «вучэнне», «гутарка», «разважанне», «тэзісы», «філасофія».

Палемічны кампанент у іх адсутнічаў фармальна, вонкава, але яны ствараліся акурат з мэтай абгрунтавання пэўнага вучэння або як альтэрнатыва тым ці іншым дактрынам і канцэпцыям. Да гэтага жанру належалі творы: П. Гоняда «Дасканалае і правільнае вучэнне аб выключным першынстве Хрысціянскай Царквы» (1570), «Аб хрысціянскім Хрышчэнні» (1570), «Пра Сына Божага» (1570), «Аб Трох» (1570); С. Буднага «Вызнанне аб урадзе і урадоўцах» (1583); В. Суражскага-Малюшыцкага «Пра адзіную веру» (1588); М. Сміглецкага «Пра спрадвечнасць божую Сына Божага» (Вільня, 1595), І. Пацея «Унія» (Вільня, 1595) і «Гармонія» (Вільня, 1608); Я. Руцкага «Тэзісы» (1608); В. Салінарыуса «Цэнзура» (Ашмяны, 1616); М. Сматрыцкага «Аб шасці адрозненнях у вучэнні Усходняй і Заходняй цэркваў»; К. Транквіліёна-Стаўравецкага «Люстра багаслоўя» (1646) і «Праўдзівая навука аб Прасвятой Тройцы і адзінага Бога» ў складзе зборніка «Бурштын неацэнны» (1646). Да гэтага ж тыпу дыскурсаў належаць таксама навукова-аналітычныя трактаты Аарона Алізароўскага «Пра палітычную супольнасць людзей» (1651), Тодара Скуміновіча «Філасофія рацыянальная, натуральная і маральная» (Вільня, 1675), працы П. Раізія, П. Шчэрбіца і Б. Граіцкага.

У старажытны перыяд развіцця беларускай літаратуры атрымала пашырэнне *эпісталярная публіцыстыка.* У старабеларускай эпісталаграфічнай спадчыне уздымаліся найважнейшыя агульнаграмадскія праблемы. Менавіта да эпісталярнай публіцыстыкі належаць высокамастацкія лісты Ф. Кміты-Чарнобыльскага («Ліст да Астафея Валовіча», 1 чэрвеня 1574), Л. Сапегі («Ліст да уніяцкага мітрапаліта Я. Руцкага», 9 лютага 1621; «Адказ на Ліст Я. Кунцэвіча», 12 сакавіка 1622), Я. Руцкага («Ліст да кардынала Бандыні», 11 лютага 1624), Я. Кунцэвіча («Ліст да канцлера Льва Сапегі», 21 студзеня 1621), М. Сматрыцкага («Ліст да айца Кірылы, канстанцінопальскага патрыярха», 21 жніўня 1627; «Ліст да кіеўскага мітрапаліта Язэпа Руцкага», 2 сакавіка 1628).

Адметнай жанравай формай старабеларускага публіцыстычнага пісьменства з'яўляліся *прадмовы, прысвячэнні і пасляслоўі*, творы гэтак званага прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. Самастойнымі жанравымі адзінкамі можна лічыць прадмовы, прысвячэнні і пасляслоўі, што змяшчаліся ў выданнях да перакладаў твораў святых айцоў і біблейных тэкстаў. Прадмовы і пасляслоўі да арыгінальных твораў старабеларускіх пісьменнікаў з'яўляліся арганічнай часткай, ідэйна-зместавымі і кампазіцыйна неад'емнымі капанентамі гэтых твораў. Часам, аднак, звароты да чытачоў і падзякі мецэнатам не вылучаліся як самастойныя жанравыя адзінкі, а ўключаліся ў склад агульнай прадмовы ці пасляслоўя.

Творы прадмоўна-пасляслоўнага жанравага комплексу ўзніклі ў перыяд Готыкі. Прадмовы і пасляслоўі ўтрымлівалі ўжо беларускія зборнікі перакладаў XII—XV стст. Выбітным майстрам твораў прадмоўна-пасляслоўнага жанравага комплексу ў беларускай літаратуры лічыцца Ф. Скарына, аўтар 22 прадмоваў, 25 уступных «сказанняў» і звыш 60 пасляслоўяў. Шэраг выдатных прадмоваў і пасляслоўяў належаць пяру С. Буднага: прадмова да выдання апокрыфаў і Новага Запавета 1570 г., «Прадмова да чытача» у Біблії 1572 г., «Прысвячэнне Яну Кішку» і «Прадмова да чытача» ў выданні Біблії 1574 г., «Прадмова да чытача», змешчаная ў выданні перакладу кнігі А.-Ф. Маджэўскага «Аб выпраўленні дзяржавы» (Лоск, 1577), «Прадмова да ласкавага чытача», змешчаная у зборніку «Аб свецкай уладзе» (Лоск, 1583). Захавалася «Прысвячэнне пану Мікалаю Радзівілу» (1572), напісанае братамі Гектарам і Альбрэхтам Кавячынскімі. А. Валян напісаў «Прысвячэнне пану Мікалаю Аляхновічу Монвіду-Дарагастайскаму, старасту ваўкавыскаму і лепельскаму» у выданні кнігі А.-Ф. Маджэўскага «Аб выпраўленні дзяржавы» (Лоск, 1577). «Прадмова» В. Цяпінскага да ягонага перакладу Біблії справядліва лічыцца шэдэўрам літаратурна-публіцыстычнага жанру.

Выдатныя ў літаратурных адносінах прадмовы, прысвячэнні і пасляслоўі напісалі: Рыгор Хадкевіч (Прадмова да «Евангелля павучальнага» 1569 г.), П. Мсціславец (Прадмовы і пасляслоўі да выданняў — «Евангелле», 1575; «Псалтыр», 1576; «Часоўнік», 1574 або 1576), В. М. Гарабурда (Прадмовы і пасляслоўі да выданняў — «Евангелле». Вільня, 1580; «Актоіх». Вільня,1582), Кузьма і Лука Мамонічы (Прадмовы да выданняў — «Зборнік павучанняў», 1585; «Псалтыр з дадаткам», 1586; «Апостал», 1592; «Евангелле павучальнае», 1595), Лявон Кузьміч Мамоніч (Прадмовы да выданняў — «Псалтыр», 1593; «Служэбнік», 1617), Л. Карповіч («Прадмова да чытача» у выданні перакладу малітваў Фікарыя Святагорца), М. Сматрыцкі («Прадмова» і «Прысвячэнне Ганне Хадкевічаўне» да «Евангелля павучальнага», 1616), Іосіф Палоўка («Прадмова» да перакладу «Гісторыі аб Варлааму і Іасафу» Яна Дамаскіна. Куцеін, 1637), С. Собаль («Прысвячэнне Б. Статкевічу» ў «Апостале», 1638; «Да чытача» ў «Актоіху», 1638), Іаіль Труцэвіч («Прадмова» да «Лексіса» П. Бярынды. Куцеін, 1653; «Прадмовы» да выданняў «Дыёптры». Куцеін, 1651 і 1654).

У беларускай літаратуры XII—XVII стст. захавалася таксама мноства ананімных прадмоваў, прысвячэнняў і пасляслоўяў — «Вяльможнаму пану Яну Агінскаму» («Дыёптра». Еўе, 1612), «Да чуллівага чытача» («Анфалагіён». Еўе, 1613), «Вельміміласціваму пану Тэадору Сапегу» і «Да чытача» («Новы Запавет». Вільня, 1623), «Вяльможнаму пану і дабрадзею Аляксандру Агінскаму» («Новы Запавет». Еўе, 1641).

У эпоху Рэнесансу з’явіліся помнікі *экзэгетычнага* жанру. Тамаш Фальконіус адным з першых у культуры Беларусі асвоіў экзэгетычны

жанр, апублікаваўшы ў Берасці дзве кнігі каментароў да новазапаветных твораў, якія зрабілі велізарны ўплыў на ўсю экзэгетычную традыцыю Вялікага Княства Літоўскага. Да экзагетычнага тыпу літаратуры належыць творы А. Валяна «Разважанні пра Пасланне апостала Паўла да жыхароў Эфеса» (1592) і С. Зізанія «Казанне святога Кірылы, патрыярха ерусалімскага «Пра Антыхрыста і знакі яго», з пашырэннем навукі супраць ерасяў розных» (Вільня, 1596).

Такім чынам, мастацкая публіцыстыка, што дзялілася на свецкую і рэлігійную, уключала — палемічныя трактаты розных тыпаў, гутаркі, адозвы, суплікі, прамовы на соймах, панегірычныя вітанні, сатырычна-парадыйныя творы, эпісталы, прадмовы і пасляслоўі, прысвячэнні, словы, катэхізісы, казанні. Публіцыстычная літаратура старажытнай Беларусі — унікальная з'ява нацыянальнай мастацка-эстэтычнай і духоўнай культуры. Паводле колькасных і якасных параметраў — багацця жанраў, літаратурных формаў, ступені ўплыву на найважнейшыя сферы жыцця грамадства — яна належыць да асноватворных родаў старабеларускага пісьменства.

Феномен узнікнення аграмаднай у колькасных і якасных адносінах мастацкай публіцыстычнай спадчыны старажытнай Беларусі тлумачыцца той акалічнасцю, што продкі беларусаў для пераадолення, зняцця натуральных супярэчнасцяў і непазбежных канфліктаў — сацыяльных, этнічных, канфесійных, міжнародных — абіралі не сілавыя, збройныя метады, не шлях фізічнага знішчэння ворага (апанента), а пераносілі барацьбу ў інтэлектуальную сферу, надавалі ёй формы свабоднай, адкрытай дыскусіі на старонках рукапісных і друкаваных твораў, а таксама нязмушанага абмену думкамі на соймах і сойміках, на саборах і з'ездах, на універсітэцкіх і царкоўных кафедрах.

Уздым і росквіт мастацкай публіцыстыкі адбываўся ў перыяд, калі яшчэ адсутнічалі строгі падзел і дыферэнцыяцыя гуманітарных і прыродазнаўчых навук. Менавіта мастацкая публіцыстыка ў значнай ступені ўзяла на сябе і дастаткова паспяхова выканала місію сінкрэтычнага мацерыка, прарадзімы сучасных гуманітарных навук — нацыянальнай філасофіі, літаратуразнаўства, мовазнаўства, этналогіі, культуралогіі, гісторыі, міфалогіі, тэалогіі ды інш. Апрача таго, многія праблемы, якія на сучасным этапе належаць выключна да сферы дакладны навуковых дысцыплін, у старажытнай Беларусі развязваліся нярэдка на старонках мастацка-публіцыстычных твораў.

Публіцыстычная літаратура на ўзроўні зместу, тэматыкі і праблематыкі ўтрымлівала навукова-філасофскія кампаненты, адмыслова дапаўняла, або нават цалкам замяняла асобныя навуковыя галіны і спецыяльныя дысцыпліны. У гэтым сэнсе можна гаварыць аб тым, што яна з аднаго боку — узбагачала старажытнага чалавека новымі ведамі, а з другога — спрыяла развіццю нацыянальнай філасофіі (гнасеялагічныя дактрыны, тэорыі пазнання і адлюстравання, заканамернасці мыслення),

правазнаўства (вызначэнні сутнасці права, тэорыя дамінавання пісанага права ў рэгуляванні грамадскіх дачыненняў, канцэпцыі эфектыўных судовых сістэмаў і інстытуцый, тэорыі гарадскога самакіравання — «магдэбургскае права»), лінгвістыкі (праблема літаратурнай мовы, прынцыпы перакладу Святога Пісання), літаратуразнаўства (абгрунтаванні аўтарскіх творчых дамінантаў, задачаў майстроў слова, прынцыпаў адбору жыццёвага матэрыялу, вучэнні аб мнагастайнасці літаратурных формаў і жанраў), багаслоўя і эклесіялогіі (трынітарныя сюжэты, вучэнні пра адзінага Бога, праўдзівую царкву), гісторыі царквы і грамадзянскай гісторыі (канцэпцыі сусветныхібораў, эвалюцыя уніяцкай ідэі, месца і роля абрадаў, цэрымоніяў і звычаяў у Хрыстовай Царкве, канцэпцыі этапаў хрышчэння ўсходнеславянскіх земляў), паліталогіі і сацыялогіі (праблематыка аптымальных формаў праўлення, канцэпцыі паходжання вышэйшай улады, дыскусіі вакол праблемы дачыненняў паміж урадоўцамі і шэраговымі грамадзянамі, прапановы прынцыпаў рэгулявання дачыненняў паміж сацыяльнымі станамі, багатымі і беднымі, прафесійнымі і этна-рэлігійнымі кангламератамі), псіхалогіі (вучэнне аб уласцівасцях душы, матывацыі ўчынкаў, вытлумачэнні механізмаў сноў і трызненняў), астраноміі (касмаганічныя дактрыны, ідэі пра будову зорнага неба, вытлумачэнне прычын і характару ўзаемадзеяння паміж планетамі), геалогіі (канцэпцыі ўзнікнення і эвалюцыі Зямлі, паходжанне гейзераў, узнікненне акіянічных цячэнняў, марскіх прыліваў і адліваў, прыроды грому і маланкі), матэматычнай храналогіі (праблемы стварэння дакладнага календара, прынцыпы летазлічэння) і нават медыцыны і псіхалогіі (будова чалавечага цела, фізіягнамічныя асаблівасці). Існуюць дастаткова важкія падставы для таго, каб сцвярджаць — старабеларуская публіцыстыка сінтэзавала ў сабе найважнейшыя аспекты ведаў тагачаснага чалавека.

Унікальнасць старабеларускай публіцыстыкі на ўзроўні ідэй, тэматыкі і праблематыкі ў тым, што ў ёй знайшлі адлюстраванне дыскусіі розных узроўняў і кірункаў, напоўніцу адбіўся паўнавартасны дыялог паміж сацыяльнымі станамі, урадоўцамі і грамадзянамі, гаспадарамі і падданымі, прафесійнымі кангламератамі, майстрамі слова і літаратурнымі гурткамі, якія прадстаўлялі чатыры адгалінаванні Хрысціянства — Праваслаўе, Каталіцтва, Рэфармацыю і Уніяцтва, а таксама Іудаізм і Мусульманства.

Дыскусіі на старонках публіцыстычных твораў вакол этычнай праблематыкі прывялі да ўдасканалення антрапацэнтрычнай тэорыі, удакладнення зместу чатырох асноўных этычных катэгорыяў — грэх, дабро, ліха, ідэал.

Менавіта ў публіцыстыцы выкрышталізавалася ідэя пабудовы прававой краіны (А. Ротундус, А. Валян, Л. Сапега), неабходнасці панавання на ўсіх абшарах гаспадарства пісанага права, адзінага закона. Беларускія пісьменнікі-публіцысты абгрунтавалі ідэі свабоды

слова і свабоды думкі, ідэйнай цярпімасці, сацыяльнага партнёрства, прапанавалі галоўныя прынцыпы грамадзянскай супольнасці, даводзілі першаступенную важнасць дасканалай судовай сістэмы, эфектыўных цэнтральнай і мясцовай уладаў, заявілі пра неабходнасць асветы і адукацыі «паспалітага люду», усебакова абгрунтавалі глыбока гуманістычны і дэмакратычны прынцып усеагульнай адукацыі, увядзенне ў навучальныя ўстановы цыкла з сямі асноўных навучальных дысцыплінаў, «вызваленых мастацтваў» — граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі.

У спрэчках па пытаннях дзяржаўна-палітычных пагадненняў Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай і Маскоўскім княствам адназначна перамагла думка на карысць захавання дзяржаўнай цэласнасці краіны, якая, аднак, не заўсёды паслядоўна рэалізоўвалася ў палітычнай практыцы.

У выніку дыскусій па праблемах міжканфесійных дачыненняў сфармавалася гістарычна перспектыўная дактрына рэлігійнай цярпімасці, мірнага суіснавання ў межах адной краіны адрозных канфесіяў, прычым з арыентацыяй на розныя духоўна-культурныя цэнтры: Праваслаўя — на Канстанцінопаль, Каталіцтва і Уніяцтва — на Рым. Развязваючы канфлікт паміж свецкай і царкоўнай уладамі ў сферы размежавання іх паўнамоцтваў, пісьменнікі-публіцысты схіліліся да прынцыпу парытэтнасці, сутнасць якога ў тым, што нутраное жыццё канфесіяў арганізуецца паводле царкоўных правілаў і канонаў, а грамадзянскія аспекты вызначаюцца Статутам, пастановамі соймаў, рэгулююцца прывілеямі манархаў.

Філалагічныя аспекты ў дыскусіях публіцыстаў спарадзілі ідэю грамадскай патрэбы ва ўнармаванай літаратурнай мове, якая б засноўвалася на народнай моўнай традыцыі, з яе лексіка-фразеалагічным і марфалагічна-сінтаксічным багаццем.

Асноўныя рысы паэтыкі старабеларускай публіцыстычнай літаратуры, творчага метаду пісьменнікаў-публіцыстаў на ўзроўні ўнутраной будовы іхных твораў выявіліся праз такія мастацка-кампазіцыйныя кампаненты, як: а) шматузроўневая палемічнасць з разгорнутай сістэмай аргументавання (свецкае і царкоўнае права, юрыдычныя акты, прыклад з гісторыі, схаластычны аргумент, доказ па аналогіі, давядзенне да абсурду «reductio ab absurdum», пытанне з адмаўленнем, «эмацыйныя» доказы); б) разнатыпавыя азначэнні; б) статычны, адналінейны спосаб абмалёўкі герояў і персанажаў у рэчышчы антыноміі «станоўчы — адмоўны»; в) адкрыты, непасрэдны аўтабіяграфізм у форме звестак пра свае ўчынкі, уласныя намеры, наўпроставыя самаацэнкі; г) сем асноўных моўна-апавядальных формаў выкладу мастацкай матэрыі ў наступнай іерархіі паводле ступені значнасці і ролі ў публіцыстычным дыскурсе — разважанне, павучанне, прадпісанне, дыялог, апісанне, зварот (малітва, просьба, падзяка, напамін), апавяданне.

* * *

Такім чынам, паводле паэтыкі, зместу, жанравых формаў і стылёвых рысаў старабеларускае прыгожае пісьменства належыць да пісьменства хрысціянскага тыпу. Генезісам, паходжаннем яно знітаванае з хрысціянскімі — заходнімі і ўсходнімі традыцямі. Да таго ж на працягу шматвяковага развіцця найбольшыя ўплывы яно зазнавала якраз з боку хрысціянскіх аўтараў.

Старабеларуская літаратура ў часе сваёй эвалюцыі паступова звярталася да народных духоўна-культурных традыцыяў. З цягам часу яна ўсё больш запазычвала элементы паэтыкі фальклору (галашэнні), аб'ектам яе адлюстравання станавіліся народныя міфы і паданні. Выкарыстанне народных моўных формаў як грунту для ўнармаванай літаратурнай мовы яшчэ больш акрэсліла змены мастацка-эстэтычных арыенціраў, бо менавіта ў мове найбольш фіксаваўся светапогляд і светабачанне беларусаў. Менавіта мова, разам з сістэмай этычных і эстэтычных грамадскіх каштоўнасцяў беларускага грамадства, спрычынілася да фармавання адметнай мастацкай культуры.

Змест, тэматыка і праблематыка, характар і агульная скіраванасць старабеларускай літаратуры ў многім вызначаліся адмысловым соцыумам, дэмакратычнай будовай старажытных гарадоў-княстваў — Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, а затым і ўтворанага на іх эканамічным і культурным грунце Вялікага Княства Літоўскага, дзе панавала арыентацыя на гуманістычныя каштоўнасці. Беларусы здаўна рэгулявалі грамадскае жыццё звычаёвым правам і вельмі рана, прыкладна ў XV ст., усвядомілі неабходнасць вяршэнства ў поліканфесійнай і шматнацыянальнай краіне пісаных законаў, што выявілася ў Судзебніку Казіміра, а затым — славутых агульнагаспадарскіх Статутах 1529, 1566, 1588 гадоў, палітыка-прававых трактатах, змест якіх сведчаць аб тым, што найвышэйшым грамадскім ідэалам у нашага народа спрадвеку лічыліся свабода і вольнасць, «дамоўленасць» паміж сацыяльнымі станамі, адданасць роднаму краю і Бацькаўшчыне.

Беларускія майстры слова ў старажытны перыяд развіцця літаратуры зрабілі надзвычай важнае мастацка-эстэтычнае адкрыццё, сутнасць якога ў тым, што ўвесь свет — гэта безліч знакаў, невычэрпная крыніца для сімвалатворчасці, утварэння шматлікіх тропаў. Пры гэтым пісьменнікі выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці ўсе асноўныя вядомыя ў паэтыцы віды і тыпы тропаў — метафары, метанімію, параўнанні, эпітэты, сінекдаху, літоты, гіпербалы, перыфразіс, антанамасію, эўфімізмы, алегорыі. Дзякуючы сапраўды віртуознаму валоданню ўсім багаццем тропаў, фігур, рытмікай, іншымі інструментамі літаратурнай тэхнікі беларускія творцы дасягнулі надзвычай высокага ўзроўню ўласна літаратурнага майстэрства.

Старабеларускія пісьменнікі выпрацавалі свой адметны стыль, маючы даволі глыбокія і ўсебаковыя веды пра гэтую асноватворную

лінгва-літаратуразнаўчую катэгорыю, яны вельмі чуйна ставіліся да розных групаў экспрэсіўна-эмацыйных адценняў і плыняў, паспяхова вырашалі праблему моўна-стылёвай унармаванасці ў сферы практычнай літаратурна-мастацкай творчасці. Адным словам, ва ўсіх накірунках закладваўся «код» мастацкасці, які затым у многім і прадвызначыў магістральны шлях развіцця беларускай літаратуры.

Зварот майстроў слова да ўстойлівых словазлучэнняў, усе больш частае выкарыстанне ў творах прыгожага пісьменства прымавак, прыказак, фразем — гэтых інтэлектуальных дыяментаў мовы, сведчылі пра ўзрастанне ў нацыянальнай літаратуры найважнейшай творча-метадалагічнай тэндэнцыі, а менавіта імкненне творцаў абаперціся на народную традыцыю, духоўны скарб народа — жывую гутарковую мову.

Праз імклівае асваенне тропаў, фігур, рытмічных сродкаў, стылёвых дамінантаў старабеларускія майстры слова напрацоўвалі неабходны для іманентнага развіцця літаратуры багаты запас нутраных рэзерваў, назапашваўся асноўны мастацкі матэрыял для ўзвядзення шмат’яруснага будынка беларускай нацыянальнай літаратуры.

Старабеларуская літаратура ва ўсёй яе шматаблічнасці і мнагастайнасці выконвала важныя грамадскія функцыі. Праз рукапіснае і друкаванае слова чалавек старажытнай Беларусі пазнаваў сябе, сваю зямлю і свой край, іншыя народы і шырокі свет. Адшліфаваныя майстрамі слова мастацкія формы выпрацоўвалі густ, фармавалі ўяўленне аб прыгожым, эстэтычным. Гуманістычны змест твораў выхоўваў мараль і этыку. Урэшце, праз творы літаратуры адбывалася шматроўневая камунікацыя, найгалоўнейшы вынік якой — умацаванне ідэнтычнасці, грамадзянскае яднанне і духоўная лучнасць беларускага народа.

*Іван САВЕРЧАНКА*



# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

## *(каля 1130 — 1182)*

Кірыла Тураўскі — найбуйнейшы майстар слова старажытнай Беларусі, асветнік і царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ён каля 1130 г. у Тураве — тагачасным цэнтры княства, у заможнай сям'і. Юнак атрымаў выдатную па тым часе адукацыю, верагодна, у школцы, заснаванай грэцкімі місіянерамі. У маладым веку пастрыгся ў манахі.

Шчырае служэнне Богу, аскетызм, адукаванасць і высокі аўтарытэт сярод насельніцтва паспрыялі таму, што К. Тураўскі ў хуткім часе ўзышоў на пасаду епіскапа. Як інтэлектуальны лідэр і найвышэйшая духоўная асоба, ён развіваў асветніцкія традыцыі Кірылы і Мяфодзія, аказваў дзейсны ўплыў на царкоўнае і грамадскае жыццё, дыскутаваў з арыянамі, прыхільнікамі Паганства і Іудаізму, спрыяў усталяванню мірных палітычных дачыненняў паміж ўсходнеславянскімі княствамі.

Творчая спадчына К. Тураўскага, сінкрэтычная паводле зместу, — на рэдкасць багатая. Яна ўключае каля 70 твораў у сотнях спісаў і шматлікіх выданнях розных стагоддзяў. У жанравых адносінах тэксты К. Тураўскага вельмі разнастайныя.

Першую значную групу твораў К. Тураўскага складаюць малітвы, агульная колькасць якіх набліжаецца да 33. Да жанру малітваў варта адносіць высокапаэтычныя «Дабрэйшыя вершы для тых, хто прагне безупынна і слёзна маліцца за свае грахоўныя ўчынкі», што напісаныя паводле малітоўных узораў. Малітвы К. Тураўскага паводле формы з'яўляюцца зваротамі да Бога і да Маці Божай, але паводле зместу — гэта выключна шчырыя і адначасна па-філасофску заглыбленыя аўтарскія споведзі.

Асобная група твораў К. Тураўскага — тры выразна белетрызаваныя эпічныя тэксты: «Слова на сабор 318 святых айцоў», «Слова ў памяць усіх святых», «Канон і сціхіры на адыход найпадобнай княгіні Вольгі, бабулі Уладзіміра».

Адметнае месца сярод твораў К. Тураўскага займае сінкрэтычная ў жанравым плане «Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага», накіраваная супраць уладных памкненняў растоўскага епіскапа Феадорца, які меў намер пабурыць адзінства Праваслаўнай Царквы, прагнучы самастойнасці. Непасрэдна ў тэксце «Прыпавесці…» ёсць выразнае ўказанне на яе палемічнае прызначэнне:

«Тако бо вниде, яко же се церковник недостоин ерейства и утаив грех свой, не брег же о Божии Законе, но имея деля высока и славна житья на епископскый взиде сан». Але ў творы вельмі значны эпічны кампанент. У аснове белетрызаванай часткі «Прыпавесці…» — сюжэт, узяты з Евангелля паводле Мацвея (21:33—41), што ў сваю чаргу ўзыходзіць да гутаркі імператара Антаніна з равінам, змешчанай у Вавілонскім Талмудзе. На думку К. Тураўскага, менавіта ў старажытнай прыпавесці пра Сляпога і Бязногага было схавана, зашыфравана хрысціянскае вучэнне. Таму ўласную творчую задачу пісьменнік бачыў найперш у тым, каб раскрыць чытачу таемны сэнс старадаўняй прыпавесці, раскрыць значэнне кожнага яе вобраза, кожнага слова і выразу.

«Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага» К. Тураўскага ў структурным плане вельмі складаная. Яна ўключае: разгорнуты ўступ, шэсць частак і выснову-заключэнне. Кожная з шасці частак, у сваю чаргу, мае — зачын, пераказ урыўкаў з прыпавесці, дэталёвыя тлумачэнні іх таемнага сэнсу, цытаты-аргументы з Біблії і аўтарскія адступленні з самаацэнкамі.

К. Тураўскі напісаў каля 12 дыдактычных парадаў і павучанняў і адну споведзь. Найбольш значны ў ідэйна-мастацкім плане дыдактычны твор: «Слова аб тым, каб не забывалі настаўнікаў сваіх».

Пяру К. Тураўскага належаць 16 ўрачыстых казанняў велікоднага цыкла, якія карысталіся асаблівай папулярнасцю ў славянскім свеце. Найбольш значныя з іх: на Вербную нядзелю, на Вялікдзень, на нядзелю святога Тамаша, на першую нядзелю па Вялікадні, на нядзелю Міраносіцаў і Іосіфа Арымафейскага, на нядзелю расслабленага, на нядзелю слепанароджанага, на Узнясенне і на нядзелю Святых Айцоў.

Пяру К. Тураўскага належаць два каноны: «Малітоўны канон» і «Пакаяльны канон» — сапраўдныя шэдэўры нацыянальнай богаслужбовай гімнаграфіі.

Як бачна, пісьмовая спадчына К. Тураўскага сінкрэтычная паводле зместу, ёй уласцівы арганічны сінтэз інтэлектуальнасці і высокай мастацкасці. Творы К. Тураўскага — гэта шэдэўры нацыянальнай філасофіі і літаратуры, створаныя шчырым вернікам і аўтарытэтным іерархам Хрысціянскай Царквы.

К. Тураўскі — выключна таленавіты пісьменнік, выдатны майстар мастацкага слова, бліскучы паэт. Найбольш поўна як паэт-лірык К. Тураўскі выявіўся ў яго малітвах — непаўторных шэдэўрах старабеларускай духоўнай паэзіі. Лірычны герой малітваў К. Тураўскага надзвычай яркі і каларытны. У ім арганічна ўвасабляюцца — неабсяжная інтэлектуальнасць і высокая духоўнасць. Ён усім сэрцам прагне дасканаласці і свабоды, духоўнага ўзвышэння, гармоніі з прыродай і космасам, грамадскага сумоўя і сацыяльнага паразумення, добрай славы, сэнсоўнага зямнога жыцця і несмяротнасці.

Лірычны герой малітваў нязменна ўзносіць хваласпевы Госпаду, Дзеве Марыі, апосталам, святым айцам царквы, ужывае безліч экспрэсіўна афарбаваных эпітэтаў і яркіх азначэнняў.

Асабліва ўражвае героя малітваў хуткаплыннасць зямнога веку, што вымушае яго з адчаем канстатаваць: «Час майго жыцця — кароткі». Лірычны герой малітваў К. Тураўскага выразна ўсведамляе слабасць і грахоўнасць чалавечай прыроды, нязменную схільнасць плоці да ўцехаў і зямных асалодаў, што прыносіць разлад у яго душу. Ён перажывае з-за сваіх памылковых учынкаў, часта дакарае сябе.

Самааналіз, рэфлексія і заглыбленая спавядальнасць героя дасягаюць найвялікшага напружання, абсалютнай адкрытасці. Ён называе сябе пустым храмам, няплоднай смакоўніцай, вертэпам злых учынкаў. Герой малітваў ужывае безліч самапрыніжальных ацэнак, называе сябе найвялікшым грэшнікам, у якога аслеплі душэўныя вочы, цела скрозь забруджана, запэцкана азлобленасцю, саслабела ад ляноты, ногі спатыкаюцца аб камяні славалюбства, увесь ён апынуўся ва ўладзе юрлівасці, розум скіраваны толькі на прагу зямных рэчаў. Герой кажа, што ён пагразнуў у чашчобах пералюбства, заблытаўся ў ціне нядобрых учынкаў, ад якіх калоцяцца ўсе суставы, жахаецца сэрца і адымае мову.

Герой малітваў К. Тураўскага шматкроць звяртаецца да Госпада Бога, Багародзіцы і святых з просьбамі і слёзнымі малітвамі дапамагчы яму пазбавіцца ад мноства грахоў, якія апанавалі яго целам, душой і розумам. Ён просіць выратаваць ад ланцугоў Д’ябла, абараніць ад варожых нападаў, ад праследаў усялякай нечысці, накіроўваць яго ногі да Божых запаведзяў, не траціць надзеі ў момант смерці, заступіцца за яго ў дзень страшнага суда. Герой міласціва просіць даць яму моц і трываласць, паставіць яго ногі на спавядальны камень, ачысціць душу, засцерагчы ад вычварэнняў Д’ябла.

Герой моліць дараваць яму ўсе грахі, нязменна прагне вярнуцца да праведнага і дасканалага жыцця. У якасці ўзнагароды ён хоча здабыць вечнае царства нябеснае.

Чалавек у малітвах К. Тураўскага заўсёды малюецца змучаным ад цяжару зямнога жыцця, бездапаможным і панылым ад неразумення многіх з’яваў. Аднак ён усё ж знаходзіць суцяшэнне і душэўнае супакаенне ў разважаннях пра вечнасць, у частых сузіраннях чароўнай прыгажосці прыроды і велічнай гармоніі сусвету.

Такім чынам, у высокамастацкіх малітвах К. Тураўскага найбольш аб’ёмна і дакладна адлюстраваны духоўны свет чалавека XII ст., яскрава паказаны яго трывогі і хваляванні, спакусы і чаканні, клопаты і сумненні, надзеі і перажыванні.

Талент К. Тураўскага як пісьменніка-эпіка выдатна выявіўся перадусім у белетрызаваных і эпічных творах. Арыгінальнасць К. Тураўскага-празаіка назіраецца на ўсіх тэкставых узроўнях — ідэйна-інтэлектуальнай напоўненасці твораў, іх структурна-кампазіцыйнай будове, выбары топікаў, філіграннай распрацоўцы мікратэмаў.

К. Тураўскі ў «Слове на сабор 318 святых айцоў» звярнуўся да асвятлення гістарычных падзей, мінулага Хрысціянскай Царквы. У прыватнасці, ён раскрыў падрыхтоўку і правядзенне славутага

Нікейскага сабора 325 г. Пісьменнік паказаў сябе як бліскучы майстар гістарычных сцэнаў. Так, ён вельмі яскрава перадаў драматычную сцэну дыскусій на Нікейскім саборы 325 г., падчас якога было асуджана вучэнне Арыя, і ўсе арыяны былі выкінуты з Царквы, як ерэтыкі.

Упершыню ў беларускай нацыянальнай літаратуры К. Тураўскі намаляваў містычныя сцэны. Менавіта ў «Слове на сабор 318 святых айцоў» змешчаны незвычайны сюжэт пра цуд, які адбыўся ў час прамовы епіскапа Спірыдона. Калі герой звярнуўся да філосафаў, прыхільнікаў Арыя, з яго вуснаў пачаў сыходзіць агонь. Уражаныя філосафы, пад уздзеяннем убачанага і пачутага, адмовіліся ад вучэння Арыя і ўрэшце ўверавалі ў Святую Тройцу.

На старонках празаічных і вершаваных твораў К. Тураўскі стварыў яркія і запамінальныя вобразы гістарычных персанажаў і святых. Пісьменнік аддаваў перавагу ацэначнаму прынцыпу вобразатворчасці, пералічваючы заслугі і вартасці сваіх герояў, характарызуючы іх дзейнасць і ўчынкі.

У творы «Канон і сціхіры на адыход найпадобнай княгіні Вольгі, бабулі Уладзіміра» К. Тураўскі стварыў надзвычай яркі вобраз княгіні Вольгі. Ён называе яе — маці ўсіх князёў, параўноўвае з біблейнымі гераінямі — Эсфір і Юдзіф, прыгадвае яе змаганне з ахвярапрынашэннямі. Вольга для пісьменніка — сімвал мудрай гаспадыні і сапраўднай хрысціянкі.

К. Тураўскі ў «Слове на сабор 318 святых айцоў» намаляваў каларытныя партрэты гістарычных персанажаў, удзельнікаў Нікейскага сабора 325 г. Станоўчыя ацэнкі ён дае канстанцінопальскаму патрыярху Мітрафану. Характарызуючы папу рымскага Сільвестра, пісьменнік прыгадваў яго галоўную заслугу — лекаванне шчырай малітвай імператара Канстанціна ад праказы. Пры стварэнні вобраза Канстанціна аўтар карыстаўся ўзнёслымі эпітэтамі, называючы яго «богавыбраным і прававерным цэсарам».

Адмоўным персанажам твораў К. Тураўскага з'яўляецца Арый. Пісьменнік называе яго збанам Сатаны, зверам, царкоўным злодзеем, увасабленнем зла, ваўком, што прыкрыўся авечай скурай. К. Тураўскі, аднак, аб'ектыўна раскрывае сутнасць вучэння Арыя і яго паслядоўнікаў.

У «Малітве ў аўторак на ютрані» К. Тураўскі стварыў вобраз Яна Прадцечы, які паўстае перад чытачом як чысты настаўнік, цудатворца, сапраўдны сябра Хрыста, прапаведнік пакаяння.

Апостал Павел у творах К. Тураўскага — велічная постаць, увасабленне лепшых чалавечых якасцяў. У «Малітве ў чацвер на ютрані» пісьменнік называе яго нябесным чалавекам, зямным анёлам, царкоўным горнам, настаўнікам усіх народаў, высакалётным арлом.

З выключным замілаваннем К. Тураўскі піша пра Марыю Багародзіцу. У «Малітве ў сераду на ютрані» Дзева Марыя паўстае як абаронца ўсіх вернікаў. Яна для пісьменніка — заступніца бедных, карміліца

сіратаў, мудрасць і пакаранне для падлеткаў, набытак для жабракоў, прыстань для маракоў, суцяшэнне для ўсіх маці.

Шматлікія літаратурныя сімвалы і вобразы К. Тураўскі чэрпаў з навакольнага свету, касмічнай прасторы, з аналаў сусветнай гісторыі, твораў філосафаў, айцоў царквы, папярэдніх майстроў мастацкага слова, а таксама з біблейных тэкстаў.

Сярод асноватворных літаратурных вобразаў пісьменніка: «Сонца», «Месяц», «зямля», «нябёсы», «ветры», «моры», «рэкі», «крыніцы», «аблокі», «ціна», «паветра», «пустыня», «агонь», «зіма», «вясна», «семяны», «плады», «дрэвы», «трава», «корань», «кветкі», «пах», «медвяныя соты», «кроў», «ратаі», «рала», «барозны», «хлеб», «авечкі», «ваўкі», «пчала», «птушкі», «святло», «цемра», «дзень», «ноч». Мастацкія вобразы К. Тураўскага мелі шырокі семантычны дыяпазон. Яны ўтваралі ўласна літаратурную аснову яго твораў, выступалі ключавым інструментам літаратурна-мастацкага асэнсавання рэчаіснасці.

Адзін з стрыжнявых элементаў творчага метаду К. Тураўскага — раскрыццё духоўнай сутнасці Бібліі, яе шматлікіх сюжэтаў, сімвалаў і вобразаў, а таксама рэлігійных святаў і галоўнага з іх — Пасхі. У творах К. Тураўскага вельмі пашыраны прыём вытлумачэння, раскрыцця алегарычнага значэння біблейных рэаліяў. Прапанаваныя беларускім пісьменнікам і філолагам-экзэгетам варыянты ўтрымліваюць нечаканыя ракурсы, павароты, адценні.

Асабліва багатыя на семантычную разнастайнасць вытлумачэнні, пададзеныя ў «Прыпавесці пра чалавечую душу і цела, або пра Сляпога і Бязногага». Алегарычная логіка аўтара вельмі стракатая: «Сляпы» — душа чалавека, «Бязногі» — сімвал цела чалавека, «дамавіты чалавек, або гаспадар» — Госпад Бог, «вінаград» — Рай, «вінаграднік» — зямля і свет, «плот» — Закон Божы, «уваход у вінаграднік» — веды розуму, «агароджа вінаградніку» — страх Божы, «ежа» — Слова Божае, «незачыненая брама» — упарадкаванасць дзіўных Божых стварэнняў, шлях да пазнання Бога, «слугі» — анёлы, «дрэва» — ціхмянасць, стрыманасць у памкненнях і думках («смиренномудрие»), «ствол» — добрая вера, «галінкі» — слёзы, пост, чыстая малітва, «плод» — любоў, паслухмянасць, пакорлівасць.

Выдатныя ў філалагічна-экзэгетычным сэнсе каментарыі і тлумачэнні выкарыстоўваліся К. Тураўскім найчасцей як інструмент, творчы прыём для адказу на фундаментальныя праблемы быцця. Такім шляхам пісьменнік імкнуўся вызначыць сэнс чалавечага жыцця і смерці, прызначэнне ўсяго існага. Праз шматлікія каментарыі і ўласнае прачытанне Бібліі К. Тураўскі паказваў шчыльную ўзаемазалежнасць духоўнага і матэрыяльнага, акрэсліваў шляхі развіцця грамадства і ўдасканалення асобы.

Характэрная рыса творчага метаду К. Тураўскага — заніжаныя самаацэнкі. Пісьменнік рэгулярна падкрэслівае ўласныя сціплыя здольнасці, абмежаванасць сваіх ведаў, недастатковую абазнанасць у

прадмеце гаворкі. Ён не прэтэндуе на інтэлектуальнае лідэрства, але яго аргументы і мастацкая логіка твораў, як правіла, дакладныя, вычарпальныя і вельмі пераканаўчыя.

Тэксты старажытнага майстра слова надзвычай дасканалыя з моўнастылёвага боку. Яны ўтрымліваюць мноства літаратурна адшліфаваных мікраэлементаў: трапных эпітэтаў — «мутны ум»; яркіх метафараў — «хмара слёз», «раса даброці»; метанімію — Пасха — «царыца дзён». У якасці сімвалаў ў мастацкіх творах К. Тураўскага найчасцей ужываюцца наступныя прадметы: «камень», «страла», «сякера», «галубіца», «воўк», «пчала».

У «Слове на сабор 318 святых айцоў» К. Тураўскі, з мэтай характарыстыкі ўдзельнікаў гістарычнага Нікейскага сабора 325 г., выкарыстаў комплекс разгорнутых алегорый і полісемантычных эпітэтаў: «разумныя рэкі», «содоўнікі Божага вінаграда», «добрыя пастыры статка», «высакалётныя арлы», «абаронцы святой Царквы», «баганосныя аблокі», «непрыступныя гарады». «трывалыя слупы», «чыстыя збаны», «прыгожыя збудаванні», «кветкі райскага саду», «урадлівыя дрэвы», «прамудрыя лаўцы», «добраўрадлівыя фінікі».

Антытэзы і супрацьпастаўленні — найбольш характэрная рыса творчага почырку і стылёвай манеры К. Тураўскага. Унутраная логіка тэкставых адзінак вельмі часта пабудаваная на супрацьпастаўленнях — дня і ночы, святла і цемры, святасці і граху, жаночага і мужчынскага пачаткаў, зімы і лета, восені і вясны, жыцця і смерці. У творах К. Тураўскага наогул дамінуе матыў вясны і абуджэння прыроды, якія сімвалізавалі Хрыстову веру, яе абнаўляльную моц.

Улюбёныя прыёмы К. Тураўскага — паралелізм і параўнанні, з дапамогай якіх ён намнога паўней мог раскрыць сутнасць многіх з’яваў. Паралелізм і параўнанні ў тэкстах К. Тураўскага выконвалі значную мастацкую функцыю, дазвалялі з асаблівай выразнасцю падкрэсліць, вылучыць аўтарскую думку, што, да прыкладу, вельмі добра бачна ў параўнанні «кніжнага розуму» з мёдам і цукрам: «Сладко бо *медвеный сот* и добро — *сахар,* обоего же добрей — *книгий розум.* Сия убо суть сокровища вечныя жизни». Святых айцоў пісьменнік параўноўвае з багатымі купецкімі караблямі, грозную прамову Арыя — з рыканнем льва, абразлівыя словы — з атручанымі стрэламі.

К. Тураўскі выявіўся, перадусім, як інтэлектуал, выбітны нацыянальны пісьменнік-публіцыст і філосаф. Яго светапоглядныя і ідэйнафіласофскія пошукі адбываліся ў межах універсальных канцэптаў — «розум», «навука», «веды», «жыццё», «смерць», «свабода», «душа», «слова», «законнасць», «злачыннасць», «дабро», «грэх», «блуд», «цнатлівасць», «прыгажосць», «ачышчэнне», «пакаянне», «паслухмянасць». Менавіта акрэсленыя фундаментальныя катэгорыі ў творах К. Тураўскага выступалі ў якасці галоўных семантычных дамінантаў, вызначалі ўнутраную логіку яго сінкрэтычных тэкстаў, перадусім, малітваў як важнейшых філасофска-паэтычных твораў пісьменніка.

К. Тураўскі першым у беларускай філасофскай і навукова-філалагічнай традыцыі найбольш поўна сфармуляваў першаступенную значнасць для жыцця чалавека кніжных ведаў, гуманітарнай навукі і пазнання. У «Прыпавесці пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага» ён выказаў фундаментальную ідэю, якая прадвызначыла развіццё беларускага грамадства ў накірунку ўзмацнення інтэлектуальнасці, духоўнасці, літаратуры і навукі. Пісьменнік заклікаў чытаць кнігі, якія дазваляюць адчыніць браму вечнага жыцця, знайсці невымоўныя даброты будучага веку.

Паводле слушнай канцэпцыі К. Тураўскага, інтэлектуальная і духоўная праца — шлях да маральнага ўдасканалення асобы. Менавіта веды найбольш стрымліваюць чалавека ад злых учынкаў, адводзяць ад граху. Навука — невычэрпная крыніца жыццёвай энергіі і фізічнага здароўя чалавека. Шлях да сапраўднай славы таксама палягае праз навуку. Яна стварае багацці і дабрабыт, дапамагае пераадольваць жыццёвыя перашкоды. У адпаведнасці з азначэннем К. Тураўскага, навука — вонкава нябачная, але яна — вечная і бясконцая, цвёрдая і трывалая.

На думку К. Тураўскага, адукаваныя людзі абавязаныя навучаць іншых, перадаваць набытыя веды, шчодра дзяліцца плёнам уласнага розуму, ні ў якім разе не трапляць у пастку ганарлівасці, інакш Госпад Бог пазбавіць іх таленту і інтэлектуальных здольнасцяў. Выключнае месца мысліцель адводзіў святарам і духоўным настаўнікам, якія абавязкова мусілі няспынна набываць і пашыраць кніжныя веды, бо нават уладары, паводле яго слоў, старанна і настойліва імкнуцца да ведаў.

Сярод інтэлектуальна-эстэтычных прыярытэтаў К. Тураўскі вылучаў чатыры найбольш істотныя элементы: набыццё «дару слова», уменне «даступна пісаць», пазбаўленне «замутнёнасці розуму» і пераадоленне «грубасці мовы». У «Прыпавесці пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага» пісьменнік, звяртаючыся да слухачоў, наступным чынам пісаў пра ўласныя разумовыя здольнасці і творчыя прынцыпы: «Послушайте же со вниманиемь, да по ряду беседу скажемь, и вы со вниманиемь смотрите. Аще бо и *мутен имею ум* и *язык груб*, но ваших надеяйся молитвах, прошю *дара слову*. Аще и недостоин есмь о сих глаголати, но ползы ради послушающих пишем. Аще ли кто зла слуха имать, то не ищеть что бы ему на ползу обрести, но зазираеть, чимь же бы нас потязал и укарял».

К. Тураўскі, выяўляючы сціпласць, як правіла, указваў на абмежаванасць уласных ведаў, пісаў пра сваю няздатнасць пранікнуць у духоўную сутнасць рэчаў, вытлумачыць і апісаць разнастайныя таямніцы зямной прыроды і космасу: «То не воюйте, братье, на *мою грубость*, нелеп образ писания поставляющи ми. Яко же бо и по ногу вязяши птице нест мощно на аиерьскуюе възлетети высоту, тако и мне в телесных вязящю похотех, невозможно о духовных беседовати: не сольнуть бо ся грешнича словеса, не имуща благодати Святаго Духа».

У «Слове пра шанаванне кніг і пра навучанне» К. Тураўскі змясціў рэестр кніг, неабходных для чытання, і пералічыў апакрыфічныя творы: «Спасцігайце і засвойвайце святыя кнігі — Евангелле, Апостал, Парамію, Псалтыр, а хлуслівыя пісанні — адкідвайце прэч. Памылковыя кнігі — гэта Астраномія, Зоркалічэнне, Соннік, Чароўнік, Зялейнік, Замовы, Каляднік, Громнік, Кіданне. У іх — хлуслівыя прадракаванні і паклёп на святыя кнігі».

К. Тураўскі выступіў як яркі сацыяльны мысліцель і мараліст. На старонках сваіх твораў ён прапанаваў агульныя прынцыпы справядлівага ўладкавання грамадства, акрэсліў аптымальную мадэль сацыяльных паводзінаў чалавека. Літаральна кожнае казанне К. Тураўскага заканчваецца дыдактычнай сентэнцыяй агульнамаральнага зместу, наўпраставым павучаннем, заклікамі да пакаяння. Этычная дактрына К. Тураўскага выкладзена ім у межах канцэпта «добрых справаў», сэнс якіх — у прыкладных паводзінах і прыстойным ладзе жыцця.

У творы «Слова пра чалавека і пра нябесныя сілы» беларускі асветнік акрэсліў місію зямнога існавання чалавека, сутнасць якой — у нястомнай духоўнай працы і безупынным тварэнні добрых спраў.

У зямным жыцці, паводле К. Тураўскага, людзі павінны пазбягаць грахоў, якія іх паўсюль падсцерагаюць. Так, «Слова на другое прышэсце Хрыста» завяршаецца заклікам пісьменніка да суайчыннікаў адмовіцца ад грахоўных учынкаў і непрыстойных паводзінаў — п’янства, пераядання, перапюбства, гняўлівасці, зайздрасці, паклёпніцтва, ліхвярства.

У «Слове на Пяцідзесятніцу» К. Тураўскі заклікаў да сціпласці, стрыманасці, міласэрнасці, шанавання ўсіх людзей, трымання пастоў. Асабліва важна, на думку К. Тураўскага, быць спагадлівым і чуллівым, ніколі не адмаўляць ў міласціні жабракам і абяздоленым.

Беларускі асветнік у «Слове аб прамудрасці» падрабязна пералічыў злыя ўчынкі, звыш трыццаці, якіх належыць пазбягаць. У прыватнасці, сярод грахоў ён называе: паклёп, абразы, асуджэнне, гняўлівасць, сваркі, бойкі, зайздрасць, варажнечу, злыя задумы, запоі, крадзёж, рабаванне, разбой, душагубства, чарадзействы, перапюбствы. К. Тураўскі заклікаў адмовіцца ад язычніцкіх вераванняў, якія, на яго думку, створаныя зайздрослівым Д’яблам.

Цалкам этычнай праблематыцы і выхаванню добрых нораваў сярод людзей прысвечаны твор К. Тураўскага «Парада». У ім асветнік даказвае неабходнасць рэгулярнага чытання духоўных кніг і заклікае не апускацца да зайздрасці, узаемных нагавораў і п’янства.

Пра неабходнасць развітання з паганскім ладам жыцця — празмерным ужываннем ежы, распуснасцю і ўцехамі — К. Тураўскі піша ў «Слове на ўзнясенне Госпада». Тут жа ён абгрунтоўвае неабходнасць клопату пра сірот і ўбогіх. Галоўнае ў дачыненнях паміж людзьмі, зазначаў асветнік, — добрыя намеры і ўзаемная павага.

Такім чынам, К. Тураўскі — заснавальнік беларускай філасофскай, мастацкай і навукова-філалагічнай традыцыі. Ідэйны змест твораў

К. Тураўскага, іх паэтыка, семіётыка і стылістыка сведчаць пра яго феноменальныя інтэлектуальныя здольнасці, эстэтычны густ і непаўторны літаратурны талент.

У творах К. Тураўскага дамінавалі эсхаталагічныя, трынітарныя і эклесіялагічныя матывы. Ён першым перанёс на нацыянальную філасофскую і літаратурна-культурную глебу галоўныя хрысціянска-рэлігійныя тэмы, акрэсленыя ў Бібліі і творах святых айцоў царквы, надаўшы ім новае гучанне. Як асветнік, К. Тураўскі ўздымаў асноватворныя антрапалагічныя і сацыяльныя праблемы — праведнага жыцця, грамадскага ідэалу, духоўнай дасканаласці і прызначэння чалавека на зямлі, акрэсліў ролю манахаў у грамадстве, заявіў пра адказнасць чалавека за ўласныя ўчынкі.

У творах Кірылы Тураўскага агульначалавечае дамінуе над канфесійным, духоўнае і нябеснае ў іх шчыльна знітаванае з зямным і штодзённым — матэрыяльнымі патрэбамі і жаданнямі, перажываннямі і страхамі, сумненнямі і супярэчнасцямі.

Надзелены рэдкім талентам аб'ёмнага, цэласнага ўспрымання рэчаіснасці, К. Тураўскі бліскуча ўвасобіў уласныя глыбокія веды пра сусвет і чалавека ў арыгінальных літаратурна-мастацкіх формах. На працягу стагоддзяў яны распаўсюджваліся ў сотнях спісаў і друкаваных выданняў, карысталіся вялікай і заслужанай папулярнасцю ва ўсходнеславянскіх народаў.

*Іван Саверчанка*

## СЛОВА АБ ТЫМ, КАБ НЕ ЗАБЫВАЛІ НАСТАЎНІКАЎ СВАІХ

Памяць пра кожнага свяціцеля — малога і вялікага, якія спрыялі набыццю ведаў, удасканаленню розуму, пошуку праўды, — належыць заўжды трымаць у сэрцы, у душы і ў думках.

Імёны настаўнікаў трэба заўсёды згадваць у малітвах і святых памінаннях, у дзённых і начных зваротах да Бога.

Падчас малітваў нельга забываць ці зняважліва абыходзіць увагай тых, хто паказаў шлях да вечнага жыцця, адчыніў райскія дзверы ведаў, даў ключ кніжнага розуму.

Кожны, хто мае дасканалы розум, не павінен пераступаць гэтую запаведзь.

Тыя, хто выракаўся настаўнікаў, — загінулі.

Нельга пакідаць сапраўдныя вучэнні, каб не страціць сябе назаўжды.

Кожнага разу варта прамаўляць высокія словы пра настаўнікаў.

Мусім уважліва прыслухацца да аповеду апостала Паўла, звернутага да Цімафея, дзе ён кажа пра настаўнікаў. Той, хто пачэрпнуў ад невымоўнага і абранага збана мудрасці і ведаў — здабыў вечнае дабраславенне, атрымаў найвялікшую ўзнагароду.

Заўжды памятай, хто навучыў цябе з малых гадоў чытаць, хто далучыў да кніг. Бо кнігі — гэта тая невычэрпная крыніца, што поіць вечнай мудрасцю, прыводзіць да выратавання ўсіх, хто верыць у Святую Тройцу — Айца і Сына і Святога Духа.

Добры чалавек ад добрага скарбу бярэ дабро, а злы чалавек ад злога скарбу бярэ зло.

Той, хто забываецца на сапраўднае дабро — сваіх настаўнікаў, — падобны да згаладалага і прамерзлага сабакі, якога накармілі і адагрэлі, а ён, у адказ, — пачаў кусаць тых, хто накарміў і абагрэў.

## СЛОВА НА САБОР 318 СВЯТЫХ АЙЦОЎ

Гісторыкі і прамоўцы, летапісцы і песнятворцы заўжды надта ўважліва слухаюць імператараў і ваяводаў, каб дакладна распавесці пра іх мужнасць, вялікія здзяйсненні і слаўныя перамогі ў бітвах над ворагамі. Яны імкнуцца аздобіць свае словы, каб уславіць цэсараў узнёслымі гімнамі.

Належыць і нам велічна ўславіць мужных і вялікіх ваяводаў Божых, што цвёрда стаяць за Сына Божага — свайго імператара Ісуса Хрыста. Дзеля яго святыя епіскапы і архіепіскапы, лікам 318, як даўні Аўрам, узброіліся, з мэтай адкінуць ерэтыкоў.

Аўрам калісьці здзейсніў цялесную перамогу над бачнымі воінамі. А святыя айцы здабылі духоўную перамогу, адужалі нябачных бесаў.

Аўрам пяць цэсараў з іх войскам перамог і сына свайго Лота вызваліў. А святыя айцы ўсіх ерэтыкоў пасеклі мячамі духоўнымі і адарвалі Хрыстову Царкву ад ідаласлужэння.

Аўрама, які вярнуўся з сечы цэсарскай, дабраславіў Мельхіседэк — Божы іерэй, паднёс яму хлеб з віном. А нашых святых айцоў, якія пазбавілі сану і праклялі ерэтыка-багаборцу, сам Бог Айцец дабраславіў і праславіў. Святы Дух увянчаў іх і асвяціў. Сын Божы даў ім хлеб і віно — яго сапраўднае цела і святую кроў, узнагародзіў вечным жыццём іх і ўсіх вернікаў.

Малю вас, браты, аб добрым стаўленні да мяне! Не зайздросце маёй грубасці. Нічога ад свайго розуму тут не ствараю,

а толькі ад Бога і Святой Тройцы. У іх прашу дару слова, бо сказана: «Адчыні вусны свае і Я напоўню іх».

З тым абуджайце ваш розум і слых! Пачынаю слова пра Хрыста, якога Арый задумаў адсекчы ад Бога Айца.

## II

Той поп Арый належаў да Александрыйскай царквы. Ён быў сапраўдны збан Сатаны і воўк, што схаваўся пад авечай скурай. Яму даручылі навучаць людзей Хрыстовай веры. Але ён не пажадаў даглядаць вінаграднік Хрыста, а распачаў сеяць семяны, ад якіх расло пустазелле і нараджаліся ваўчаняты. Паклёпнік ён быў, а не дабравеснік. Арый сцвярджаў: «Усё створанае — ёсць Сын Божы. Бог называе сваім сынам усіх жывых істотаў».

Архіепіскап Пётр, як дазнаўся пра выдумкі Арыя — адрынуў яго ад Царквы.

Арый пачаў склікаць саборы і навучаць народы сваёй ерасі. Бог дапусціў, каб на Святую Царкву зышлі гэтакія спакусы ад Д’ябла. Так працягвалася вельмі доўга. Душазгубная ерась пашыралася. Дасягнула Антыёхіі і Візантыі. І шмат хто з вернікаў пакінуў Хрыстову Царкву і далучыўся да ерасі Арыя.

Богавыбраны і прававерны імператар Канстанцін, калі ўбачыў узбунтаваную Арыем Царкву, надта ўстрывожыўся. Ён загадаў склікаць епіскапаў усяго свету на сабор у Нікею. Імператар спаслаўся на словы прарока: «Збярыце падобных да Яго. Няхай Бог уславіць святых сваіх у гэтым свеце».

Неўзабаве святыя айцы з’ехаліся ў Нікею. Хто плыў морам, хто сухім шляхам дабіраўся. Прыплылі, нібы караблі, поўныя духоўнага багацця! Зляцеліся, нібы арлы, акрыленыя апостальскім вучэннем, лёгкія целам, стрыманыя духам.

Арыю і яго хаўруснікам таксама дазволілі прыйсці ў дом, адмыслова пабудаваны дзеля сабора.

Падчас сабора імператар сядзеў на троне. Праваруч ад яго — вышэйшыя духоўныя асобы Хрыстовай Царквы. Арый, калі ўвайшоў, стаў насупраць.

Моцна ўзброіўся Арый супроць Святой Тройцы. Нібы стрэлы, пускаў ён свае богаабразлівыя словы. Злахітра рыкаў, бы той леў неўтаймаваны. Вусны яго былі поўныя праклёнаў, нянавісці, абразаў і падману. Любіць больш цемру, чымся святло. Не хоча дабраслаўляць, а прагне праклінаць, таму і наліўся праклёнамі. Пакінуў Арый нябёсы і Хрыста, які паклікаў яго да сябе. Пайшоў

у ад, у падысподнюю, да Змія, які спакусіў яго. Вуснамі Арыя прамаўляў на саборы ўвасоблены Д’ябал.

Арый, ваявода Сатаны — вялікі, але гаспадар яго ўжо звязаны! І воіны Сатаны ўжо аслабелі, не трывалыя ў змаганні.

Кідаліся на Хрыста яшчэ й большыя за Арыя філосафы і кніжнікі, але пацярпелі паразу!

Загадаў імператар Арыю выкласці сутнасць яго вучэння, якім той атруціў шмат людзей, ведучы свет да пагібелі.

І пачаў бязбожнік дагматызаваць. Маўляў, Хрыстос не ёсць спакон вякоў з Богам, не аднасутнасны Богу, не роўны Святому Духу паводле існасці, не з’яўляецца ўвасабленнем Слова Божага. Паводле Арыя, Сын Божы — гэта ўсе зямныя і нябесныя істоты. Так пераконваў Арый і яго шматлікія хаўруснікі. Пра апошніх нам не варта пісаць, а вам не варта слухаць.

Супраць Арыя паўсталі нашы святыя айцы. Абураныя, яны ўсклікнулі яму:

— Слухай, Арый, — безгаловы змей, брудная душа, хлуслівы чалавек, новый Каін, другі Юда, увасоблены Дэман, спакуслівы Змій, усім вядомы царкоўны злодзей, апошні разбойнік, закончаны грэшнік, неўтаймаваны воўк на авечак Хрыстовых, бясстрашны разбуральнік святой веры, шкоднік для ўсіх, хто прагне выратавацца, Божы вораг і сын пагібелі! Ты ад свайго розуму гаварыў, а не паводле святых кніг. Гаворыш, як тваё сэрца ўдумала, а не гэтак, як Бог пракрокам і апосталам сваім загадаў напісаць пра свайго Сына. Але даведайся і прызвычайся да таго, што Хрыстос — ёсць Сын Божы, адзін з Тройцы, што ў апошнія гады ўвасобіўся дзеля нашага выратавання [...]

Святыя айцы перамаглі і засарамацілі ерэтыкоў, праклялі багахульніка Арыя, адрынулі яго ад Царквы. Яны ўславілі імя Ісуса Хрыста, Сына Божага, і ўмацавалі Царкву апостальскімі запаведзямі. Заклікалі верыць у Святую Тройцу, адзінасутнасную і непадзельную — Айца і Сына і Святога Духа. Загадалі пакланяцца адзінаму ў Тройцы Богу.

## III

Сабор у Нікеі — першы пры святым імператару Канстанціне — адбываўся ў 20-ы год яго царавання. Сабор пабурыў Арыя, які ганьбіў Хрыста, Сына Божага. На галаву Арыя прыйшла хвароба, і яго ж хлусня прыдушыла яго цела. Таму не будзе даравання, кажа Госпад, ні ў гэтым веку, ні ў наступным. Тут яго праклінаюць, і там ён будзе цяжка пакутваць.

Сабор асвяціў усіх удзельнікаў — 318 святых айцоў і пастанавіў святкаваць дзень яго склікання.

У працы Нікейскага сабора бралі ўдзел найвышэйшыя духоўныя асобы, святыя мужы-цудатворцы: папа рымскі Сільвестр, які праз святое хрышчэнне ачысціў імператара Канстанціна ад праказы, учыніў шмат розных цудаў; канстанцінопальскі патрыярх Мітрафан, які сляпому даў зрок, а нямому, з дапамогай малітваў, вярнуў голас; александрыйскі архіепіскап Аляксандр, адораны прарочым талентам; Яўстафій з Антыёхіі; Макарый з Ерусаліма — дзейны патрыярх і знаманосец; мітрапаліты і цудатворцы — Віт, Вікенці, Пафнуці, Мікалай; іншыя святыя епіскапы.

Сярод удзельнікаў быў і дабраславёны Спірыдон, праз якога Бог учыніў цуд падчас сабора. Калі Спірыдон прамаўляў да філосафаў, што атачалі Арыя, з яго вуснаў пачаў выходзіць агонь. Уражаныя філосафы выракліся Арыя, прынялі Святую Тройцу і праз Божую ласку сталі праўдзівымі хрысціянамі.

Якога гонару і якой пашаны вартыя Хрыстовы святцелі! Моцна стаяць за Хрыста, нібы апосталы! Заслужылі апостальскага прастола і апостальскай славы.

О, дабраславёныя айцы, абаронцы сапраўднай веры, надзейныя ахоўнікі Святой Царквы!

За яе да крыві змагаюцца! Не палохаюцца ні валадара чалавечага страху, ні мучыцеля, што пагражае смерцю! Не выракаюцца Слова Божага дзеля часовай карысці! Не здраджваюць праўдзе, не служаць хлусні! Жывуць паводле навукі апостальскай. Як пачалі, гэтак і скончаць!

Добрыя пастыры Хрыстовага статка! За яго кладзеце сваю душу. Не дазваляеце ваўку да авечак набліжацца. Дзеля карысці Божага закону гадуеце сапраўдных хрысціянаў. Жазлом вашай навукі шмат каго вядзеце да высокага Ерусаліма.

О, дабраславёныя светачы, добрыя гаспадары Божага вінаградніку, з якога дбайна выкараняеце пустазелле! У кожным чалавеку вы сееце богадумнасць, сахою евангельскіх словаў апрацоўваеце зараслую грахамі зямлю нашых сэрцаў!

Вы — рэкі разумнага раю! Вы напаілі ўвесь свет выратавальнай навукай, змылі грахоўныя нечыстоты струменямі вашага пакарання!

Зямныя анёлы! Вы прадстаўляеце перад Божым тронам увесь свет. Вы просіце аб цялесным і духоўным выратаванні нашых добранадзейных князёў. Гэтакжа старанна маліцеся і за ўсіх хрысціянаў!

О, добранадзейныя архіерэі, высакалётныя арлы! Не ля трупаў, а каля жывога цела Хрыстова збіраецеся! Яго спажываеце і здабываеце бясконцае жыццё на нябёсах.

Крыху папрацуеце на зямлі, а ўзамен знойдзеце спачын на ўсе вякі ў нябесным царстве!

Органы Святога Духа! Усім вернікам вы даеце асалоду вашымі душакарыснымі і выратавальнымі галасамі!

Баганосныя аблокі! Цудадзейнымі кроплямі амываеце сэрцы вернікаў і праз пакаянне ўрадлівасць ствараеце!

Вы — непрыступныя гарады! Усе бягуць да вас ратавацца.

Вы — трывалыя слупы! Сутыкнуўшыся з вамі, хлуслівыя ерэтыкі гінуць.

О, дабраславёныя нашы настаўнікі!

Светачы зямлі, настаўнікі тым, хто заблудзіўся!

Павадыры духоўныя для тых, хто страціў зрок!

Ахвярныя лекары душаў і целаў!

Богам навучаныя медыкі, памочнікі пакрыўджаным і ўсім, хто трапіў у бяду!

Вы — разбуральнікі кайданоў і ўсялякіх ідалаў!

Вы — выкрывальнікі хлуслівых вучэнняў!

Празрыстыя збаны, што Божае Слова ў сабе носяць!

Аздобленыя гмахі, у якіх жыве Святая Тройца.

Богаўрадлівыя дрэвы, ад якіх вернікі маюць духоўную і сардэчную асалоду!

Прамудрыя лаўцы, якія ўвесь свет розумам асвяцілі і поўную царкоўную мярэжу да Хрыста прыцягнулі!

За дбайную працу вы атрымалі шчодрыя ўзнагароды.

Вы ўславілі Хрыста — існага Сына Божага — па ўсёй зямлі. А ён уславіў вас на нябёсах, бо сказаў: «Праслаўлю таго, хто будзе ўслаўляць мяне».

Вас выбраў Ісус Хрыстос і, як фінікі добраўрадлівыя, пасадзіў у сваіх храмах, дзеля ўпрыгожвання апостальскага прастола. Каб вы — сцвярджалі святую веру, адводзілі ад грахоў, уздымалі тых, хто трапіў у ерась, выратоўвалі тых, хто паграз у спакусах. Каб вы — умацоўвалі скептыкаў у веры, спрыялі змагарам за Хрыста, дралі сеткі Д'ябла, выводзілі людзей з стану злабліваснці, мірылі варагуючых, лячылі тых, хто патануў у пажаднасцях, ратавалі безразважлівых. Каб вы — давалі ежу згаладалым і адзенне неапранутым.

Вы — добрыя творцы шматстайных богакарыслівых справаў, сведкам і натхняльнікам якіх з'яўляецца Госпад Бог.

Мы, хаця грубыя розумам і бедныя словам, пісалі шчырую пахвалу вашаму святу. Мы нястомна молімся за вас і ўсё робім дзеля вас, святыя патрыярхі, архіепіскапы, епіскапы, найпадобнейшыя іерэі, найчысцейшыя прэсвітэры і ўсе святыя праведныя настаўнікі.

Прыміце нашы сціплыя словы, як Бог прыняў дзве медныя манеты ад беднай удавы!

Прасіце адпушчэння грахоў нашым душам! Каб астатнія гады мы жылі ў чысціні!

У рукі Божыя перадаем свае душы.

## ПРЫПАВЕСЦЬ ПРА ЧАЛАВЕЧУЮ ДУШУ І ЦЕЛА, або ПРА СЛЯПОГА І БЯЗНОГАГА
*(урывак)*

Госпадзе, дабраславі, ойча!

Добра і надзвычай карысна спасцігаць навуку Божага Пісання. Яна ўзгадоўвае цнатлівую душу і вядзе да стрыманасці. Божая навука робіць чалавека ўдзячным, узносіць душу на нябёсы, паабяцаныя Уладаром. Духоўнай працай умацоўваецца цела. Навука — шлях да славы. Яна стварае багацці, дапамагае пераадольваць жыццёвыя перашкоды.

Таму заклікаю вас прылежна чытаць святыя кнігі. Ускорміцеся Божымі словамі — знойдзеце невымоўныя даброты будучага веку! Навука — нябачная, але вечная і бясконцая, цвёрдая і нерухомая.

Не проста чытэльнай мовай пішу, але наважыўся раскрыць сутнасць. Салодкі медвяны сот і дабро — цукар! Але саладзейшы за іх — кніжны розум. У кнігах — скарб вечнага жыцця!

Калі хтосьці знаходзіць зямны скарб і яму дастаецца хаця б толькі адзін каштоўны камень — ён становіцца багацеем і можа без клопатаў пражыць да канца веку ў дастатку. Гэтак і той, хто здабывае скарбніцу Божых кніг — прарочых, псаломскіх, апостальскіх і выратаваных словаў самога Спаса Хрыста — здабудзе выратаванне для сябе і паспрыяе тым, хто будзе слухацца яго.

Таму ёсць пацверджанне ў евангельскай прытчы, дзе гаворыцца: «Усялякі кніжнік, які навучае Царству Нябеснаму, падобны да гаспадарлівага чалавека. Ён дае іншым ад сваіх скарбаў — старых і новых». Чалавек кіруецца адно толькі сла-

вай, калі ён аддае перавагу больш знатным, а беднымі грэбуе! Гэтаксама недасведчанасць выяўляе скарбнік, што пазычае царскае серабро гандлярам, але не ў стане пры гэтым удвая павялічыць багацце гаспадара. Тое ж адносіцца і да чалавечых душаў. Калі кніжнік занадта ўзганарыцца ад свайго розуму, Госпад пазбаўляе яго таленту. Бог не любіць ганарлівых, а даброці пасылае пакорлівым.

Нават уладары гэтага свету і звычайныя працаўнікі настойліва прагнуць кніжнага навучання! Нам жа, кніжнікам, стакроць належыць вучыцца, усім сэрцам імкнуцца да ведаў. Перадусім варта спасцігаць Божыя словы, напісаныя дзеля выратавання нашых душаў.

Але напружваецца мой розум, бедны на разважлівасць і не здатны спараджаць належных узнёслых словаў. Ён, нібы сляпы стралок, з якога ўсе пасміхаюцца, бо ён не можа патрапіць у мішэнь. Не маючы асаблівых здольнасцяў пісаць, буду чэрпаць мудрасць з Божага Пісьма. Напоўнены бояззю, пачну гутарку пра евангелічныя аповеды. Спачатку прыгадаю прыпавесць Госпада, якую Мацвей да Царквы данёс.

I

*Пачатак.* Госпад Бог кажа. Жыў адзін гаспадарлівы чалавек. Ён пасадзіў вінаграднік, агарадзіў яго і наўкол выкапаў роў. Каб можна было ўваходзіць да яго, чалавек пакінуў уваход, зрабіў браму, але не зачыніў яе.

Калі ён зазбіраўся дадому, дык задумаўся, каго пакінуць за вартаўніка. Ён разважыў так: «Калі пакіну некага з маіх ненадзейных рабоў, ён скрадзе маёмасць. Зраблю лепей наступным чынам — пастаўлю ў якасці ахоўнікаў Сляпога і Бязногага. Калі хто з непрыяцеляў маіх захоча ўкрасці мой вінаграднік, дык Бязногі ўбачыць злодзея, а Сляпы — учуе яго. Гэтыя вартаўнікі таксама не здолеюць скрасці вінаграду: Бязногі не можа ўвайсці ў сад, а Сляпы калі пойдзе, дык заблудзіцца і зваліцца з абрыву».

Такім парадкам, пасадзіў Гаспадар вартаўнікоў каля брамы, надзяліў іх уладай над усім, што было наўкол вінаградніку. Пакінуў для іх неабходную вопратку і стравы. На развітанне Гаспадар прамовіў да вартаўнікоў:

— Толькі не чапайце майго вінаграду, што расце ўнутры агароджы.

Загадаў пад страхам смерці не парушаць ягонага загаду. Паведаміў пра час свайго вяртання, паабяцаўшы прынесці ім тады і разлік за працу. З тым і пайшоў.

Але спынімся тут. Паспрабуем усвядоміць евангелічнае слова — вусны плод, што прапануецца вашым вачам на інтэлектуальным абедзе.

*Адказ-тлумачэнне.* «Гаспадарлівы чалавек» — гэта Бог, які ўсё бачыць і ўсё трымае, які сваім словам стварыў увесь бачны і нябачны сусвет. Гаспадарлівым ён называецца, бо, паводле Пісання, мае не толькі адзін дом. Прарок гаворыць: «Твае нябёсы і твая зямля. Сусвет і межы яго ты заснаваў».

Словы «пасадзіў вінаграднік» азначаюць рай, створаны Госпадам. Бо пішаца: «І пасадзіў Бог рай у Эдэме».

Словы «агарадзіў плотам» — гэта няйнакш страх Божы, якім ён агарадзіў створаны рай. Прарок кажа: «Страхам яго рухаецца зямля, рассыпаюцца камяні, дрыжаць жывёлы, дымяцца горы, свяцілы служаць, нібы рабы, аблокі і ўсе нябесныя істоты выконваюць яго волю!»

«Сцяна» — азначае ўсталяваны Божы закон. Закон уключае ўсе Божыя запаведзі. Бо сказана: «Мяжу ўсталяваў, якую не пяройдуць і не перасунуць».

«Пакінуць уваход» — азначае, што Бог пакінуў чалавечаму розуму здольнасць пазнаваць рэчы, спасцігаць іх прызначэнне.

Аніякая істота не парушае Божага загаду. Бо сказана: «Усе ад цябе чакаюць, каб даў ім спажыву своечасова».

«Ежа» — азначае Божае слова. Майсей кажа: «Не хлебам адзіным будзе жыць чалавек, але ўсякім словам, што зыходзіць з Божых вуснаў».

«Незачыненая брама» — гэта дзівосныя Божыя стварэнні, якія можна розумам спасцігаць. Сказана: «Праз створанае — Стваральніка спасцігай!» Не ўласцівасці, а веліч і моц, славу і даброці, якія чыніць для ўсіх, хто ўверсе і хто ўнізе, хто бачны і хто нябачны. Хрыстос таксама называецца чалавекам, але не літаральна, а вобразна. Чалавек не мае анічога агульнага з Богам. Без сумневу, Пісанне і анёлаў называе людзьмі, але ў алегарычным сэнсе. Тыя памыляюцца, хто літаральна разумее словы Майсея: «Сказаў Бог: створым чалавека паводле нашага ўзору і падобнага на нас». Не маючы розуму і належнай логікі, яны надзяляюць бясплотнага Бога целам. Але гэта найвялікшая ерась, што Бог мае аблічча чалавека. Бога нельга ахарактарызаваць, бо ён не мае ані меры, ані якасці. Але пакіну разважанні пра гэта і вярнуся да вытлумачэння прыпавесці.

Наступныя словы, якія прамовіў Гаспадар, вяртаючыся дадому: «Каго пакіну сцерагчы вынікі працы маёй?» Гэта пытанне азначае — Айца, Сына і Святога Духа, а не нейкіх жывых істотаў. Ён гаворыць пра Валадара, якія мае ўладу над ўсімі істотамі. Яму хацеў перадаць зямлю і ўладу над усім жывым. Нават не анёлам, каб яны панавалі над сусветам.

Затым Гаспадар кажа, што пакіне ў якасці вартаўнікоў Сляпога і Бязногага. Што сімвалізуюць Сляпы і Бязногі ў прыпавесці? Бязногі — гэта цела чалавека. Сляпы — гэта яго душа. Спачатку стварыў Бог цела Адама без душы, а затым — удыхнуў душу […]

Як Бязногі і Сляпы былі пастаўленыя ля брамы, каб сцерагчы ўнутраныя багацці, гэтак патрыярхі, архіепіскапы, архімандрыты пастаўленыя паміж Царквою і алтаром, каб сцерагчы святыя тайны ад ворагаў Хрыста, ад ерэтыкоў, ад вытанчаных іншаверцаў, ад бессаромных грэхалюбцаў і вандалаў.

II

Слухайце ўважліва!

Мы ладам гутарку павядзем, а вы ўважліва сачыце. Хоць і замутнёны розум мой і грубая мая мова, але, пакладаючыся на вашы малітвы, прашу дару слова! Напэўна, я не варты разважаць аб тых глыбокіх рэчах, але дзеля карысці слухачоў — напішу. Калі нехта мае злыя намеры, дык ён не шукае дабра, а толькі займаецца тым, каб нечым зняважыць мяне і папікнуць.

*Працяг.* Сядзелі тыя вартаўнікі доўгі час і раптам Сляпы пытае ў Бязногага:

— Што гэта за чароўны пах я адчуваю, які зыходзіць з-за брамы?

Бязногі адказвае яму:

— Шмат даброцяў мае наш Гаспадар унутры агароджы. Пакаштаваць іх — невымоўная асалода. Але Гаспадар наш мудры. Ён пасадзіў тут цябе, які не можа бачыць, і мяне, які не мае ног. Таму мы не ў стане дастаць тых спакусаў.

Сляпы абурыўся:

— Чаму ты раней не паведаміў мне аб гэтым? Мы б не трывалі тут, а даўно спажылі б дадзеныя нам на захаванне прысмакі. Я не маю зроку, але ў мяне дужыя ногі. Таму магу несці і цябе і паклажу (разумей, што «паклажа» — гэта духоўны цяжар, грэх. Як кажа прарок: «Цяжкая ноша душыць мяне»).

Затым Сляпы прапанаваў:

— Бяры кош і сядай на мяне. Я панясу цябе, а ты мне шлях падказвай. Такім чынам збяром увесь скарб нашага Гаспадара. Мяркую, што ён не хутка наведаецца да нас.

Вось прыклад разважанняў тых, хто не Бога шукае, а ўзнагародаў гэтага свету, хто дбае толькі пра цялесныя асалоды! Яны не збіраюцца адказваць за ўласныя ўчынкі! Сваю душу, нібы пару, на вецер выпускаюць. З гэтай нагоды кажа Ісая: «Зайздрасць прымуць неадукаваныя людзі». Мы, грэшныя, зайздросцім гонару і славе праведнікаў, замест таго, каб пераймаць іхнія ўчынкі.

Потым Сляпы прадоўжыў:

— Калі наш Гаспадар з’явіцца сюды, мы зможам лёгка ўхіліцца ад адказнасці. Як ён запытае мяне пра скрадзенае, я адкажу, што не маю зроку, каб нешта скрасці. Калі ж ён запытае цябе, дык ты адкажаш, што не маеш ног, каб увайсці ў агарод. Такім чынам, перахітрым нашага Гаспадара, наўпрост возьмем узнагароду за нашае ўслугаванне.

Затым Бязногі сеў на Сляпога. Так увайшлі яны ў вінаграднік і забралі ўвесь скарб свайго Гаспадара.

Не абурайцеся, браты, недасканаласцю маёй мовы! Напісанае мной сапраўды не надта прыгляднае. Як птушка, якую трымаюць за нагу, не можа ўзняцца ўвышыню, гэтак і я, абцяжараны цялеснымі жаданнямі, не ў стане належна разважаць пра духоўныя рэчы. Не дасягнуць мэты словы грэшніка, бо не мае дабраславення Святога Духа.

## СЛОВА Ў ПЕРШУЮ НЯДЗЕЛЮ ПАСЛЯ ПАСХІ

*(урывак)*

Вялікі настаўнік і мудры наратар патрэбны Царкве дзеля ўпрыгожання свята!

Мы, бедныя на словы, з памутнелым розумам — не маем агню Святога Духа, каб складаць карысныя для душы словы. Аднак, дзеля любові да братоў сваіх, крыху распавяду пра ўзнаўленне Уваскрэшання Хрыстова.

У мінулую нядзелю Святой Пасхі адбылося — здзіўленне нябёсам, запалохванне падысподняй, абнаўленне істотаў, выратаванне свету, разбурэнне пекла, пераадоленне смерці!

У мінулую нядзелю — усё абнавілася! Небам створана зямля і ачышчана Богам ад усялякай нечысці. Анёлы з жанчынамі без-

адказна ўваскрэшанню служаць. Абнавіліся істоты. Ужо не называюцца багамі стыхіі — ані Сонца, ані агонь, ані крыніцы, ані дрэвы. З гэтай хвілі не патрэбна, каб бацькі рэзалі сваіх дзетак на ахвяру, у гонар смерці. Знікла ідалапаклонства. Д'ябальскія гвалты прыпыненыя таямніцай хрышчэння. Чалавечы род не толькі выратаваны, але і асвечаны Хрыстовай верай. З гэтага часу Стары Запавет — збяднеў, адкінутыя цялячая кроў і казліныя ахвяры. Хрыстос стаўся адзінай ахвярай для Айца за ўсіх. Таму прызначана ў суботу свята, а ў нядзелю прыйшла Божая ласка праз уваскрэшанне. Нядзеля сталася царыцай сярод дзён, бо на яе ўваскрос з мёртвых.

Браты! Вітайма царыцу дзён! Прынясём ёй з верай нашай сумленныя падарункі! Дадзім ёй, наколькі зможам, міласціну, шанаванне і дабрыню! Хтосьці прынясе чыстую цнатлівасць, праўдзівую веру і адкрытую пакорлівасць! Хтосьці — псаломскія спевы, апостальскае навучанне, малітвы з уздыханнямі да Бога! Сам Госпад вуснамі Майсея кажа: «Не з'яўляйся перада мной ні з чым у дзень свята». Прынясём яму названыя дабрачыннасці і ўспрымем Божую міласць, бо не пазбавіць дабра тых, хто прыйдзе да яго з верай. Бо кажа: «Тых, хто славіць мяне — праслаўлю».

Ухвалім упрыгожаную новую нядзелю, бо святкуем абнаўленне ўваскрэшання [...]

Сёння старое скончылася. Усё абнавілася — бачнае і нябачнае.

Сёння нябёсы прасвятліліся, пазбавіліся цёмных аблокаў і светлым паветрам спяваюць славу Госпаду! Не пра бачныя зрокам нябёсы кажу, а пра духоўныя. Апосталы на Сіёне на іх узышлі і спазналі Госпада. З таго часу забыліся на самотнасць, іудзейскі страх адкінулі, узмоцненыя Святым Духам ясна прапаведуюць уваскрэшанне Хрыстова.

Зараз прыгожае Сонца на вышыню ўзыходзіць, радасна зямлю саграваe. Так уздымецца з труны праведнае сонца — Хрыстос і ўсіх вернікаў выратуе.

Зараз Месяц спускаецца з верхніх ступеняў, аддае гонар большаму свяцілу. Так Стары Запавет, паводле Пісання, з яго суботамі — зыходзіць, а прарокі Хрыстоваму закону — гонар аддаюць.

Зараз грахоўная зіма, праз пакаянне — скончылася і лёд бязвер'я, праз разуменне Бога — растаў. Зіма язычніцкага куміраслужэння, праз апостальскае вучэнне і веру Хрысто-

ву — скончылася. Лёд бязвер'я Фамы, праз бачанне рэбраў Хрыстовых — растаў.

Сёння вясна красуе, ажыўляе зямную натуру. Бурныя колісь вятры — пяшчотна дзьмуць, плады лашчаць. Зямля — насенне поіць, зялёную траву нараджае. Дзівосная вясна — гэта вера Хрыстова. Яна, праз хрышчэнне — нараджае чалавечую натуру. Бурныя вятры — грэхатворныя думкі, якія, праз пакаянне, пераўтвараюцца ў дабрачынныя, карысныя для душы плады. Зямля — нашая натура. Прыняўшы Слова Божае, нібы семя, яна жыве ў страху і нараджае дух выратавання.

Зараз нованароджаныя ягняткі і цяляткі борздка шлях адольваюць, скокаюць, хутка вяртаюцца да маткі, весяляцца. А пастухі граюць на свірэлях, радасна Хрыста хваляць. Авечкі — гэта негаваркія людзі. Цяляткі — куміраслужыцелі з іншых краін, што вярнуліся да святой царквы дзякуючы ўвасабленню Хрыста, апостальскаму навучанню і цудам. Яны цмокчуць малако царкоўнага вучэння. Пастухі — гэта настаўнікі Хрыстовага статку, яны за ўсіх моляцца і ўслаўляюць Хрыста-Бога, які згуртаваў да аднаго статка ўсіх ваўкоў і авечак.

Зараз дрэвы парасткі выпускаюць. Кветкі духмяныя зацвілі. З садоў зыходзіць водар салодкі. Земляробы з надзеяй Хрыста-плададаўцу клікаюць. Вось, раней мы былі, нібы дуброўныя дрэвы, без пладоў. Цяпер узрасла вера Хрыстова на нашым бязвер'і. Ужо трымаемся кораня Ісаева. Як водар ад кветак духмяных, — зыходзяць ад нас дабрачыннасці! Маем спадзеў на райскае жыццё. Святары, што працуюць ва ўлонні Царквы, дарунку ад Хрыста чакаюць.

Зараз аратыя словаў вядуць пад духоўную ўладу цялятак славесных. І хросную саху ў разумовыя барозны апускаюць. І баразну пакаяння прачэрчваюць. Семяны духоўныя сеюць! Надзеяй на новы ўраджай цешацца!

Сёння старое скончылася, усё абнавілася дзеля ўваскрэшання!

Зараз рэкі навадняюцца і рыбы ікру пускаюць. А рыбакі, што спазналі ўсю глыбіню Божага ўвасаблення, здабываюць поўную царкоўную мярэжу малітваў. «Рэкамі, — кажа прарок, — будзе разрэзана зямля. Убачаць іх і расхварэюцца няправедныя людзі».

Зараз манаскага вобраза працавітая пчала сваю мудрасць паказвае, усіх здзіўляючы. Жывуць пчолы ў пустынях самакармленнем, уражваюць анёлаў і людзей. Ад кветкі да кветкі лётаюць — медвяны сот ствараюць. Прыносяць людзям асалоду, а царкве карысць.

Зараз усе дабраспеўныя птушкі, у царкоўным аблiччы, гняздзяцца і весяляцца!

## МАЛІТВА Ў НЯДЗЕЛЮ НА ЮТРАНІ

Дзякуй табе, Госпадзе, Божа мой,
Што дазволіў мне бачыць дзень
Дзіўнага ўваскрэшання твойго.
Тады вызваліў з пекла
Душы ўсіх праведнікаў.

Тае свабоды, Уладыка, і я жадаю!
Аслабані мяне, скаванага мноствам грахоў!
Няхай разгарыцца святло тваёй даброці
У змрочнай душы маёй!

Ведаю незлічоныя шчадроты твае
І невымоўнае чалавекалюбства тваё.
З небыцця да быцця прывёў мяне,
Упрыгожыў аблiччам сваім,
Словамі і розумам узнёс вышэй за жывёлаў
І зрабіў мяне гаспадаром над усімі істотамі!

Знаўца часу і года жыцця майго,
Ад юнацтва і дагэтуль, апякуне мой!
Каб быў я выратаваны
І з анёламі тваімі, прыгожымі аблiччам, мог размаўляць,
Запаветы даў мне!
І духоўную справу ў чысціні здзяйсняць
Загадаў мне.

Я ж, пракажоны,
Розум пакінуў дзеля жаданняў,
Уцехамі плоці звёў сябе ў смуродную ціну грахоўную
І далёка блудзіў ад ласкі тваёй.

Твой сын — народжаны ў купелі духоўнай —
Цяпер — раб грахоўны!
Крычу з глыбіні сардэчнай!
І рыдаю хворай маёй душой!

Судны час усведамляю і моцна пакутую!
Як я там апынуся?
Якое слова скажу за грахі мае?
Якім будзе мне адказ ад суддзі?

Дзе схаваю мноства маіх беззаконняў,
Бо нямы памочніка і збаўцы.
І што ўчыню, Госпадзе, мой Госпадзе!
Не ведаю, да каго набліжуся.
Няхай выратуецца душа мая!

Час жыцця майго не працяглы.
Моцай сваёй — забі плоць маю!
Каб не бег неапранутым ад добрых справаў,
Дзеля радасці дэманаў!

Нібы падлетак, палонены ворагам маім,
Трапіў у апошнюю пагібель.
Няма чалавека болей грэшнага за мяне.
Каб рабіць злыя справы,
Прагнаў анёла — абаронцу душы маёй.
А прыняў згубцу,
Агіднае запусціў у маё сэрца.

Але не пакінь мяне!
Не дай дарэшты згінуць, Ісусе — добрае імя!
З зямлі стварыў мяне,
Жыццё даравай мне.
Зважай на пакорлівасць маю!

Хоць шмат разоў саграшыў,
Але ніколі не вітаў рукой маёй чужога Бога.
Не адчайваўся, але помніў пра твой, чалавекалюбча, вобраз.
Пакажу на тых,
Што раней саграшылі.

Успамінаю Давыда,
Які, пасля дару прароцкага,
Уваліўся ў роў пералюбства.
Але пасля — павініўся ва ўсім

Перад табой Богам і творцам.
І стаў вартым тваёй ласкі.

А за Ахава сам слова прароку сказаў:
«Не ўчыні зла, калі бачыш яго,
Як ён, наракаючы, ходзіць».

О, уладару мой!
І яшчэ дадам,
Плачучы перад табой,
Вялікіх і невылечных язваў маіх!

Як Манасія беззаконняў шмат учыніў,
Увесь Ізраіль зняславіў,
Цябе, Бога Айца, угнявіў!
Перададзены быў іншапляменніку
На пакаранне.
Яго ў медны жбан пасадзілі,
Нібы скаціну, травою кармілі.
А як адчуў сваю пагібель,
Тройчы пакаяўся ў сваіх грахах,
Узмаліўся ў палоне да цябе, Бога Айца,
І з надзеяй быў выратаваны з няволі.

Гэтак і я,
Усё злое за жыццё маё учыніў.
І зрабіў сябе
Не вартым тваёй міласці.

Як змагу на вышыню тваю
Зазірнуць брыдкімі маімі вачыма?
Як паўстану перад абліччам тваім?
Бо падраў Богам вытканую адзежу маю,
І абразіў целам маім — сподняе.

Але ачысці мяне, як Спас,
І даруй мне, як Бог!
Спагадай на маю пакорлівасць
І не ўспамінай зласлівасці грахоў,
Якія ўчыніў на шкоду душы маёй.

Спадзяюся на тваю ласку
І лямантую да цябе голасам гучным!
Успомні, Госпадзе, найчысцейшых вуснаў тваіх словы,
Як гаварыў:
«Шукайце — і знойдзеце! Прасіце — і дасца вам!»

Але ж не прыйшоў
Клікаць праведных.
Але грэшных — дзеля пакаяння.
Сярод іх,
Я — першы.

І цяпер, спавядаюся
Ва ўсіх беззаконнях маіх.
Нічога не замоўчваю.
А ты, Госпадзе, зваж на гэта.

Звышлітасцівы, прымі мяне,
Як разбойніка і мытара, і блудніцу,
І блуднага сына!
Тыя былі ўсімі адрынуты,
Ты ж — прыняў іх
І зрабіў жыхарамі рая.

Прымі маё пакаянне,
Нікчэмнага раба твайго,
Госпадзе Ісусе Хрысце!
Словам ачысціў пракажоных —
Ачысці заразу з душы маёй!
Будзь мне памочнікам!
Моцай крыжа твайго — абарані мяне!
Духам тваім — умацуй мяне!
І вярні прысаромленых,
Што ваююць са мной.

Няхай гавораць вусны мае
Пра мноства міласцяў тваіх.
Як быў памочнікам мне
Ва ўсялякіх бедах.
І суцяшальнік у дні смутку майго.

І цяпер — не адкінь малітваў раба твайго,
Але выратуй залішне трапяткую душу маю.
І ўсіх хрысціянаў памілуй,
Малітвамі прачыстай тваёй маці,
Уладычыцы нашай, Пані Багародзіцы!

Ты — ёсць наш Бог.
І мы, мілыя табе дзеемся.
Ойча і Сыне і Святы Душа,
Памілуй нас на вякі!
Амінь!



# АПОВЕСЦЬ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

«Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» — унікальны помнік гатычнага пісьменства сярэднявечнай Беларусі, створаны ў XII ст. Аўтограф твора, на жаль, не захаваўся. «Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» дайшла да нашага часу ў больш як 100 спісах XIV—XVIII стст., а таксама шматлікіх старадруках. Найбольшую каштоўнасць у тэксталагічным і літаратуразнаўчым аспектах мае Пагодзінскі спіс*.

Праблема аўтарства «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» дагэтуль не вырашана. Існуюць, аднак, усе падставы гаварыць аб тым, што аўтарам твора быў чалавек, які суправаджаў Еўфрасінню падчас яе вандроўкі ў Ерусалім. Шматлікія дэталі падарожжа, падрабязнасці, якія пададзеныя ў творы — шлях у Святую зямлю, паводзіны і ўчынкі гераіні ля Труны Гасподняй, месца пражывання ў «рускім» манастыры, асабліва апошнія дні і хвіліны зямнога жыцця Еўфрасінні, яе зварот да манахаў лаўры святога Савы з просьбай пахаваць яе там і іх адмоўны адказ, дакладна вызначаны тэрмін працягласці яе хваробы (24 дні) — якраз найбольш выразна сведчаць аб тым, што ўсе нюансы мог ведаць толькі чалавек, які стала знаходзіўся побач з Еўфрасінняй. Верагодней за ўсё твор належыць пяру манаха *Давыда*, які адправіўся з ёй у вандроўку, аб чым сказана ў тэксце: «поимаша с собою брата своего Давыда». У творы, праўда, згадваецца і «слуга» Міхаіл, які таксама суправаджаў Еўфрасінню у Ерусаліме і выконваў адказныя даручэнні: у прыватнасці, ён прасіў патрыярха адчыніць для яе наведвання браму Хрыстову. Але раўнапраўнымі ўдзельнікамі пельгрымкі былі тры асобы — Еўфрасіння, Давыд і Еўпраксія, бо толькі аб іх гераіня прасіла ў малітве да Госпада перад ад’ездам з Полацка. Такім чынам, аўтарам «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» у найбольшай ступені мог быць манах Давыд.

---

* Цяпер рукапіс захоўваецца ў Публічнай б-цы ў Санкт-Пецярбургу, збор Пагодзіна, № 869. Арк. 318 адв. — 332. Менавіта паводле фотакопіі гэтага спісу, які захоўваецца ў аўтарскім архіве, выкананы пераклад і падаюцца цытаты ва ўступным артыкуле.

«Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» належыць да тыпу эпічных апавядальных (ад імя аўтара) твораў, што вызначыла яго паэтыку, унутраныя мастацка-эстэтычныя прынцыпы арганізацыі тэксту. Твор складаецца з зачыну (эксордыум), трох асноўных частак (нарацыі) і заключэння (канклюзіі).

Вызначальная *сюжэтная* лінія твора наступная: галоўная гераіня Прадслава — унучка князя Усяслава, дачка князя Святаслава-Георгія, адмаўляецца выходзіць замуж за роўнага сабе прадстаўніка княжацкага роду і насуперак волі бацькоў прымае рашэнне пайсці ў манастыр. Ігуменя Раманава, убачыўшы прыгажуню, маладосць і квітнеючы ўзрост, адгаворвае яе. Але гераіня настойвае на сваім выбары і, урэшце, пастрыгаецца ў манахіні пад імем Еўфрасінні, становіцца нявестай Хрыстовай. Бацька ў роспачы, але Еўфрасіння праяўляе цвёрдасць у абраным шляху — служэнню Богу.

У манастыры гераіня перапісвае богаслужбовыя кнігі, прамаўляе казанні, спрыяе ўзвядзенню новай бажніцы, выпісвае з Царграда Эфескі абраз святой Багародзіцы. На нейкім этапе жыцця яна прымае рашэнне наведаць Ерусалім з тым, каб пакланіцца Труне Гасподняй. Едзе ў Святую зямлю, але там пачынае моцна хварэць. Аднак хваробу яна ўспрымае як наканаванне і моліць Госпада, каб даў ёй шчасце памерці на Святой зямлі. Праз 24 дні яна памірае. Спадарожнікі Еўфрасінні — Давыд і Еўпраксія — хаваюць яе ў манастыры Феадосія.

«Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» — твор, у якім ёсць *галоўны герой* — рэальная гістарычная асоба, жыццю і справам якой прысвечаная асноўная частка аповеда. Прадслава (Еўфрасіння) — узорная хрысціянка. Ад нараджэння яна надзеленая моцнай воляй. Мае выключныя схільнасці да навукі, аб чым сведчыць адзін з яе маналогаў, дзе гераіня кажа: «И еще же за все имение — имею книги сея. Ими же утешает ми ся душа и сердце веселится». Еўфрасіння здольная самастойна, насуперак жаданням іншых, вырашыць свой лёс. Яе выбар свядомы і канчатковы. Еўфрасіння мае Божы дар пераконваць іншых, здольнасць пераканаўча давесці сваю правату, схіліць на свой бок іншых. Сваімі ўчынкамі яна ва ўсім імкнецца быць падобнай на Сына Божага Ісуса Хрыста. Думкі яе — светлыя, пачуцці — стрыманыя, розум — разважлівы. Яе сэрца перапоўненае любоўю да людзей і да Бога. Еўфрасіння прагне прымірэння ўсіх станаў — князёў з баярамі, баяраў з шляхтай, заможных з простымі людзьмі. Урэшце, нават смерць гераіні — прыклад хрысціянскага стаўлення да драматычнай таямніцы. У яе сэрцы пануе не адчай, не страх, а наадварот — спакой і суцішанасць ад чакання вечнага знаходжання душы ў Нябесным Царстве.

У творы апрача Еўфрасінні (Прадславы) прысутнічаюць яшчэ *16 персанажаў*, таксама рэальных гістарычных асобаў, сярод якіх родзічы гераіні: князь Георгій — яе бацька, маці-княгіня, князь Усяслаў — дзед, князь Барыс — дзядзька, Гарадзіслава (Еўдакія) —

сястра, Вячаслаў — брат, Кірыяна (Агафея) і Вольга (Яўфімія) — пляменніцы, а таксама набліжаныя да яе людзі і духоўныя асобы: епіскап Ілля, ігуменне Раманава, князёўна Звеніслава Барысоўна (Еўпраксія), манах Давыд, слуга Міхаіл, нарэшце, дойлід Іван, цар Мануіл і патрыярх Лука.

Аўтар пры абмалёўцы другасных персанажаў звяртае ўвагу не толькі на ўчынкі, справы, дзеянні, але й імкнецца распавесці пра іх унутраныя, духоўныя пакуты, трывогі, хваляванні. Характэрна ў гэтым сэнсе апісанне адчаю і гараванне князя — бацькі Прадславы, калі ён даведаўся пра пастрыжэнне дачкі ў манахіні: «И уведав отец еа, скоро шед в монастыр. Жалостно терзаше власы главы своея и любезне целоваше ю, глаголя: «Горе мне, чадо мое! Почто се сотворила еси? Люте мне, чадо мое сладкое, жалости сердца моего! О горе мне, чадо мое милое! Како гоньзнеть доброта твоя вражие пронырьство? Уже достоит ми плакатися острупленою душею ко Господу Богу моему, да внидеш в черьтог царства его!»

Пісьменнік перадае велізарнае ўзрушэнне і невымерныя душэўныя пакуты князя Святаслава-Георгія і ў момант, калі ён пачуў, што Еўфрасіння схіліла сваю родную сястру, другую яго дачку Гарадзіславу (Еўдакію), да манаскага жыцця. Паводле характарыстыкі аўтара, князь, «сердцем горя» («палаючы сэрцам»), неверагодна «узьярився» («раз'юшыўся»).

Старажытны пісьменнік робіць акцэнты на барацьбу пачуццяў у душах герояў, падкрэслівае іх нутраныя сумневы, занепакоенасць, адчай. Так, ігуменне Раманава, калі ўбачыла на парозе манастыра Прадславу, скаланулася сэрцам, ледзьве не страціла прытомнасць, на ейных вачах выступілі слёзы і яна з жахам у голасе прамовіла: «Чадо мое! Како могу се сотворити? Отец твой, уведев, со всяцем гневом возложить вред на голову мою. А еще юна еси возрастом. Не можеши понести тяготы мнишескаго житиа».

Пісьменнік вельмі каларытна перадае перажыванні, пакутлівы стан князя Вячаслава і яго жонкі, калі Еўфрасіння загадала пастрыгці іх дзяўчынак — Кірыяну і Вольгу — у манахіні. Князь, па словах аўтара — «сметешеся», а маці — «жалостію терзашеся».

Важны кампанент раскрыцця духоўна-інтэлектуальных праяваў — унутраныя *маналогі* герояў. Аўтар па-майстэрску выкарыстоўвае іх акурат у момант знаходжання героя ў крытычнай сітуацыі, у хвіліны найвышэйшага напружання, напярэдадні прыняцця лёсавызначальнага рашэння або ў час найвялікшае скрухі.

Менавіта ўнутраны маналог прамаўляе Прадслава, калі бацькі пастанавілі выдаць яе замуж за княжыча, што не адпавядала яе жыццёваму выбару: «Воли како се будет, оже отец мой мыслить причтати мя мужеви, то аще тако будеть, то печаль мира сего не гоньзнути ни како же лзе». А затым прадоўжыла разважаць сама сабе: «Но что успеша при нас бывшии родове наши? И женишася, и посягоша, и княжиша,

но не вечноваша. И житие их мимо тече. Слава их погыбе, яко прах, и хужьши паучины. А иже прежнии жены, вземше мужескую крепость и поидоша вослед жениха своего Христа, предаша телеса своя на раны и главы своя мечеви. А другыя паче железу выя своя не преклониша, но духовным мечем отсекоша от себе плотскиа сласти, и предаша телеса своя на пост и на бдение, и коленное поклоняние, и на земли легание, то ти суть памятни на земли. А имена их написана суть на небесех и тако со ангелы безпрестани славять Бога. А си слава есть прах и пепел, яко дым разыйдется, яко пара водная погыбает».

Двухчасткавы ўнутраны маналог Еўфрасінні — філасафічнае разважанне пра сэнс зямнога жыцця чалавека, сапраўдныя і ўяўныя каштоўнасці, вечную славу і часовыя радасці. Маналог утрымлівае ўсебаковы і глыбокі аналіз канкрэтнай сітуацыі, пралік усіх магчымых варыянтаў, агалошанне патаемных думак і меркаванняў, урэшце — прыняцце няпростага канчатковага рашэння, якое немінуча вяло да канфлікту з родзічамі, разрыву з шматвяковай традыцыяй.

Апавядальны тып маўлення ў «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» вельмі часта перарываецца *малітоўнымі зваротамі* галоўнай гераіні да Бога. Усяго ў творы 12 зваротаў-малітваў да Госпада, якія паводле зместу разбіваюцца на чатыры групы: малітвы-просьбы, малітвы-падзякі, малітва-надзея, малітвы-ўслаўленні. Некаторыя малітоўныя звароты ўтрымліваюць адначасна ўсе чатыры тыпы. Гераіня просіць Госпада, каб дапамог завяршыць узвядзенне храма, быў пастырам, надзейнай тарчай ёй ды ўсім астатнім братам і сёстрам, бараніў ад хваробаў і беззаконняў, спрыяў у падарожжы да святога горада Ерусаліма, даў надзею на здабыццё вечнага царства. Яна ўслаўляе Творцу за шчасце бачыць анёла, выказвае спадзяванне, што ён не пакіне яе ў бядзе й пакутах, дзякуе за Эфескую Божую Маці для Полацка. У малітоўным узрушанні Еўфрасіння вымольвае смерці і суцяшэння ў Ерусаліме, з надзеяй на бясконцы Нябесны Ерусалім.

Павучальна-дыдактычная форма маўлення ў творы рэалізаваная ў слове ігуменні Раманавай, звернутым да Прадславы, у часе іх першага спаткання. У ім гучыць парада браць прыклад з святых жачын Хрысціянскай Царквы Фяўроніі і Еўпраксіі.

Напэўна, пад уздзеяннем народных і фальклорных паэтычных формаў аўтар «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» стварыў два *плачы-ляманты*, якія арганічна ўпісаліся ў мастацкую тканку твора. Першы — лямант князя Святаслава-Георгія, бацькі Прадславы, калі ён даведаўся пра пераход дачкі ў манаскі стан. Другі — плач сёстраў і братоў з нагоды ад'езду Еўфрасінні з Полацка ў Ерусалім, каб пакланіцца Гасподняй Труне.

Найважнейшы кампанент паэтыкі твора і яшчэ адзін істотны тып мастацкага выкладу — *дыялогі*. У тэксце «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» іх налічваецца шэсць: дыялогі князя Георгія з жонкай і Прадславай, размова ігуменні Раманавай з галоўнай гераіняй,

дыялог Еўфрасінні з епіскапам Іллёй і пляменніцамі, гутарка дойліда Івана з Еўфрасінняй. У творы ўжываецца і форма палілога, у якім удзельнічаюць епіскап Ілля, князь Георгій, князі і баяры, якія прамаўляюць слова ў адказ на прапанову епіскапа перадаць царкву Святога Спаса ў валоданне Еўфрасінні і, пры канцы, яе заключнае слова-падзяка.

У «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай» выкарыстаны чатыры *містычныя* мікрасюжэты. Аўтар апавядае пра цуды — з'яўленне ўначы анёлаў да галоўнай гераіні, епіскапа Іллі і дойліда Івана. Да Еўфрасінні анёл прылятаў у келлю пры Святой Сафіі. Тройчы за адну ноч паўставаў Божы пасланец перад ёю, клікаў за сабой да цэркаўкі Святога Спаса, прамаўляючы: «Ту ти подобает быти!» Дзівосным чынам анёл данёс Божае пажаданне і да епіскапа Іллі, які безумоўна выканаў волю нябёсаў і падараваў Еўфрасінні царкву Святога Спаса ў Сяльцы. Дойліда Івана анёл натхніў на будоўлю мураванай царквы Святога Спаса, заклікаючы яго некалькі разоў на досвітку прыступіць да выканання Божай волі. Яркая містычная сцэна твора — цудадзейнае з'яўленне, пасля шчырай малітвы Еўфрасінні, у печы будаўнічай пліткі (цэглы), неабходнай для заканчэння работ па ўзвядзенні бажніцы.

Для кампазіцыйна-структурнай стыкоўкі сюжэтных блокаў і мікранавелаў у «Аповесці жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай», побач з плаўнымі семантычнымі пераходамі, аўтар выкарыстоўваў наўпроставыя акрэсленні, накшталт: «скажам спярша пра тое, як яна нарадзілася і гадавалася», «мы ж вернемся да ранейшага», або «затым» ці «пасля».

Аўтар шырока ўжываў сімвалы, метафары і параўнанні. Найбольш яркі ў творы вобраз — «пчалы», якая сімвалізуе працавітасць гераіні. Еўфрасіння параўноўваецца з Сонцам, а яе добрыя ўчынкі для людзей — з сонечным святлом, якое абагравае ўсіх, дае радасць і асалоду жыцця. Для характарыстыкі выключнай здольнасці Гарадзіславы да навук, аўтар у метафарычным значэнні выкарыстоўвае вобраз «урадлівай нівы». «Воўк» у творы выступае сімвалам Д'ябла і злых сілаў, «авечкі» сімвалізуюць хрысціянскую паслухмянасць і пакорлівасць, «квактуха» — сімвал клапатлівай маці, «пшаніца» — добрае навучанне.

*Іван Саверчанка*

Госпадзе, дабраславі!

Дабраславёны Госпад Бог Ізраілеў, Бог Аўрамаў, Бог Ісакаў, Бог Іякаваў! Бог не мёртвых, а жывых!

Праведнікі і пасля смерці застаюцца жывымі, пра што кажа Саламон у прыпавесцях: «Праведнікі жывуць праз вякі. Ад Госпада ўзнагарода ім і пакліканне ад усявышняга. Дзеля вечнага жыцця прымуць вянок з рукі Госпада».

Ніжэй буду апавядаць пра сапраўдных праведнікаў. Збірайцеся ўсе з пустыняў і гор, хто жыве на ўзор анёлаў. Старыя — хваробы адкладзіце! Юныя — імкніцеся, нібы алені! Сыходзьцеся ўсе.

Хачу пачаставаць вас абедам з рэдкіх страваў. Калі будзеце спажываць — узрадуецеся душамі вашымі. Абед згатаваны з найсмачнейшых страваў, якія даюць асалоду вуснам і насычэнне страўніку. Яны — душу суцяшаюць, розум умацоўваюць, скіроўваюць на подзвігі добрых справаў. Хто будзе іх спажываць — добра насыціцца і нічога лепшага ніколі не пажадае. Бо сказана ў Пісанні: «Не заморыць Госпад голадам душы праведнікаў».

Пачнем аповесць сваю.

Вы паслухайце ўсе, людзі добрыя — князі і баяры, царкоўнікі і саборы святых, існыя ў манастырах і простыя людзі. Збярыцеся для новага слухання! Паслухайце ўважліва! Адкрыйце вушы свае і змякчыце нівы сэрцаў вашых. Прыміце выратавальнае жыццё і паслухайце пра святыя подзвігі і працы для Бога тае найпадобнейшае жанчыны.

Будзем распавядаць усё па парадку: як нарадзілася, ад якіх бацькоў, як выхоўвалася і ўзгадоўвалася, якім чынам пайшла за Хрыстом — жаніхом сваім.

## II

Жыў у Полацку-горадзе князь Усяслаў. І меў ён шмат сыноў. І быў у яго сын Георгій, ад якога нарадзілася святая дзяўчынка. Бацькі з усім іх домам цешыліся з яе нараджэння.

Праз колькі дзён загадалі хрысціць немаўляці. Хрысцілі ў імя Айца і Сына і Святога Духа.

Карміла дзяўчынку даіліца, і расла яна дзень за днём. Цела — малако ўсмоктвала, а душа — Святым Духам напаўнялася.

Дзяўчо — міласцівы плод добрай прыроды — надта ўпадабала навукі. Хутка па ўсіх гарадох разляцелася вестка пра яе дбайнае навучанне, кніжную мудрасць і вонкавую прывабнасць, бо была яна надзвычай гожая тварам.

Здабыць каханне прыгажуні прагнулі многія. Абаяльнасць нявесты прыводзіла многіх слаўных князёў да яе бацькі. Яны прасілі аддаць дачку за іх сыноў.

Усім, хто прасіў рукі князёўны, бацька зазвычай адказваў:

— На тое няха будзе воля Гасподняя.

Адзін князь, славуты сваёй дзяржавай і багаццем, даслаў сватоў да бацькі, з просьбай аддаць яе за свайго сына.

Мела князёўна на той момант — 12 гадоў веку. Паклікаў бацька княгіню, жонку сваю, і сказаў ёй:

— Няма лепей, чым аддаць за князя Прадславу.

Яна не пярэчыла князю:

— Няхай будзе гэтак, як хоча Бог і твая воля, княжа.

Калі дачулася Прадслава — так называлі яе бацькі ад нараджэння да хрышчэння, — моцна задумалася, кажучы сабе: «Лепей скажу ад Святога Духа».

Сабралася з думкамі і сказала сабе Прадслава: «Калі здзейсніцца бацькоўская задума аддаць мяне замуж, у такім разе — не здолею ўнікнуць клопатаў гэтага свету».

І яшчэ сама сабе вымавіла: «Чаго дасягнулі продкі мае, што жылі да мяне? Жаніліся, выходзілі замуж, княжылі, але не вечна. І жыццё іх — міма працякло. Слава іхняя — згінула, нібы прах, горш за павуціну. У той жа час былі жанчыны, якія ўзброіліся мужчынскай трываласцю і пайшлі ўслед за жаніхом сваім — Хрыстом. Яны аддалі целы свае для ранаў, а галовы — для мячоў. Іншыя ж свае шыі, цвярдзейшыя за жалеза, не схілілі. Духоўным мячом адсеклі ад сябе цялесныя асалоды, аддалі целы свае на пост і цярпенне, на прыкланенні і паклоны да зямлі. Іх якраз і памятаюць на зямлі. А імёны іхныя напісаныя на нябёсах. Побач з анёламі яны безупынна ўслаўляюць Бога. Зямная слава — прах і попел, як дым разыходзіцца, як вадзяная пара — гіне».

Гэткія думкі клаліся ёй на сэрца. І ўсё больш розум яе скіроўваўся да Божай любові. Даверыўшыся поклічу ўласнага сэрца, яна спытала сябе: «Ці не было б найлепш у жыцці, каб я пастрыглася ў манахіні? Служыла б падігуменняй, спрыяла б сёстрам і навучэнцам. Замацавала б страх Божы ў сэрцы сваім і так скончыла б жыццё». Узяўшы гэтыя думкі сабе на розум, яна пайшла ў манастыр, таемна ад бацькі, маці і ўсіх родных.

У тыя гады ігуменняй служыла княгіня Раманава. І прыйшла да яе княжна, просячы прыняць анёльскі абраз, далучыць да манаскага стану, каб быць у Хрыстовым палоне.

Святая ігумення, уражаная юнацкасцю і квітнеючым узростам князёўны, не наважвалася пастрыгці яе. Усхваляваная і ўзрушаная, з трывогай на сэрцы, ігумення схілілася ніц да зямлі і доўга малілася. Нарэшце ўзняла галаву, кінула позірк на юнацкасць князёўны, уздыхнула, праслязілася і вымавіла да яе:

— Дзіця маё. Як магу ўчыніць такое! Калі даведаецца твой бацька, ён з нечуваным гневам ускладзе шкоду на маю галаву.

Надта ж ты юнага веку. Не зможаш вынесці цяжару манаскага жыцця. А як здолееш пакінуць княжанне і славу гэтага свету?

Цнатлівае дзяўчо адказала ігуменні:

— Божа і маці. Бачны свет надзвычай прыгожы і слаўны. Але прамінае, як сон, як кветка, засыхае. Вечнае і нябачнае — існуе праз вякі, аб чым у Пісанні гаворыцца: «Вока не ўбачыць, вуха не пачуе, на сэрца чалавеку не ўзыдзе, як Бог можа ўзнагародзіць тых, хто любіць яго!» Не палохайся, пані, таго. Не палохайся Госпада, які валодае ўсімі жывымі істотамі, і не адлучы мяне ад анёльскага стану.

Святая ігуменне, здзіўленая розумам дзяўчыны і яе шанаваннем Бога, загадала выканаць яе волю. І абвесціла яе манахіняй. І пастрыгла яе. І дала ёй імя Еўфрасінні. І апранула яе ў чорнае адзенне. Дабраславіла яе ігумення дабраславеннем святых айцоў і сказала ёй:

— Дзіця, будзь паслядоўніцай святых жанок — Фяўроніі і Еўпраксіі ды многіх іншых, што дзеля Хрыста пакутавалі. Госпад Бог дасць табе моц і перамогу над Д’яблам — супраціўнікам нашым.

І гэтак прамовіўшы, ігумення пайшла ў сваю келлю.

Калі бацька даведаўся — кінуўся ў манастыр. У адчаі ірваў валасы на сваёй галаве. Пяшчотна цалуючы рукі дачкі, лямантаваў:

— Гора мне, дзіця маё! Чаму ўчыніла такое, сум душы маёй прынесла? Чаму не адкрыла мне замыслы свае? Балюча мне, дзіця маё салодкае! Жаласліва мне на сэрцы. О, бяда мне, дзіця маё мілае! Як здужае варожыя пасткі дабрыня твая? Давядзецца мне плакаць знявечанай душой маёй да Бога, маліць, каб увайшла ў палац царства яго.

Смутак панаваў ва ўсім бацькоўскім доме аб ёй.

Найпадобная Еўфрасіння не паддалася жаласці да бацькі свайго. Як смелы Храбар яна ўзброілася супраць ворага свайго — Д’ябла. Знаходзілася ў манастыры, падпарадкоўвалася ігуменні і ўсім сёстрам. Вылучалася пастамі, малітвамі і начнымі службамі. І там пачала станавіцца падзвіжніцай, збіраючы добрыя думкі ў сэрцы сваім, як пчала мёд.

Праз нейкі час знаходжання ў манастыры Еўфрасіння звярнулася да тагачаснага епіскапа Іллі, стол якога быў у Полацкай Сафіі, каб дазволіў ёй там, у каменнай царкве, у галубніцы, жыць. Епіскап пагадзіўся.

Перайшоўшы ў Сафію, Еўфрасіння распачала падзвіжніцкі подзвіг постніцтва. Узялася пісаць кнігі ўласнымі рукамі. Перадавала іх тым, хто меў найбольшую патрэбу.

Аднае начы, калі лягла адпачыць пасля доўгіх малітваў, было ёй прароцтва. Узяў яе анёл і павёў да цэркаўкі Святога Спаса, што знаходзілася ў месцы, якое сярод людзей называлася Сяльцо. Там анёл увасобіўся і прамовіў да Еўфрасінні:

— Табе належыць быць тут.

І здзівілася Еўфрасіння і запытала сябе: «Што ён хоча, каб я ўчыніла?»

Тае ж начы з’яўляўся прывід двойчы і тройчы.

Прачнуўшыся ад сну, Еўфрасіння з страхам услаўляла Бога, прамаўляючы: «Слава табе, Божа наш. Слава табе, што дазволіў мне бачыць сёння анёльскае аблічча».

А потым Еўфрасіння пачала псалом паўтараць: «Падрыхтавана сэрца маё, Божа! Падрыхтавана сэрца маё! Да цябе, Божа ты мой, прытулілася яшчэ ў жываце маці маёй! Як хочаш, гэтак і зрабі мне, рабыні тваёй».

Пасля ранішняй малітвы накіравалася Еўфрасіння да епіскапа Іллі.

Той жа анёл уначы звяртаўся і да епіскапа:

— Перавядзі рабу Божую Еўфрасінню ў царкву Святога Спаса, што на Сяльцы. Тое мейсца — святое. Еўфрасіння вартая царства нябеснага. Яе малітва, нібы міра дабравоннае, узыходзіць да Бога. Як вянец на галаве царквы, гэтак Дух Святы — на ёй. Як Сонца ззяе па ўсёй зямлі, гэтак і жыццё Еўфрасінні ззяе перад Божымі анёламі.

Ускочыў епіскап, ахоплены страхам і жахам. Затым пайшоў да Еўфрасінні.

Яна, калі ўбачыла епіскапа, пакланілася яму і папрасіла:

— Дабраславі, святы ўладыка.

Епіскап адказаў:

— Няхай Бог дабраслаўляе цябе, дзіця. Няхай дасць табе трываласць і моц на ўсе выпадкі жыцця — бачныя і нябачныя.

Яна пакланілася і вымавіла:

— Амінь. Няхай будзе ўсё паводле слова твайго святога, уладыка.

Прыселі. Святы архіепіскап пачаў гаварыць ёй пра выратаванне душы. Цнатлівая Еўфрасіння прымала словы яго, як семяны ў жытніцу сваёй душы — і 30, і 60, і 100. Доўгі час размаўляў з ёй. Нарэшце зазначыў:

— Хачу сказаць табе Слова. А ты з шанаваннем прымі яго.

Еўфрасіння з радасцю пагадзілася:

— Ойча найпадобнейшы! Прыму тваё Слова, як падарунак вельмі каштоўны.

Кажа ёй епіскап:

— Ведаеш, дзіця, гэтая царква, дзе ты сядзіш — саборная. Тут збіраюцца ўсе людзі. А табе, дзіця, не варта тут знаходзіцца. У Сяльцы ёсць цэркаўка Святога Спаса, дзе калісьці месцілася епіскапія і дзе нашыя папярэднікі ляжаць. Няхай Бог наведае і ўзнагародзіць тое вялікае месца, дзеля іх малітваў і тваёй працы.

Калі Еўфрасіння пачула ад епіскапа прапанову, узрадавалася душою і ўзвесялілася сэрцам. І паверыла ў з'яўленне анёла, у тое, што бачыла і чула ад яго. І сказала епіскапу:

— Ойча, няхай Бог прыспешыць мяне малітвамі тваімі святымі.

Паклікаў епіскап князя Барыса, дзядзьку яе, і бацьку яе — Георгія, а таксама найпадобнейшую Еўфрасінню разам з сумленнымі і важнымі асобамі. І пры ўсіх абвесціў пастанову:

— Перадаю Еўфрасінні царкву Святога Спаса ў вашай прысутнасці. Пры маім жыцці ніхто не мае права адсудзіць у яе мой падарунак.

Пачуўшы вырак, два князі і баяры пакланіліся епіскапу і ў знак згоды ўсклікнулі:

— Ей! Святы ўладыка! Відаць, Бог падказаў сэрцу твайму, каб ты апекаваўся гэтым дзіцем.

Затым яны звярнуліся да Еўфрасінні:

— Паслухай епіскапа. Што ён загадвае, тое й рабі. Ён — бацька для ўсіх нас. Нам належыць падпарадкоўвацца яму.

Еўфрасіння выслухала, зірнула на іх лагодныя твары і ўсцешана запэўніла:

— Іду. Як Бог загадае мне — гэтак і станецца. Воля Гасподняя няхай будзе пры мне.

Князі і баяры, пачуўшы згоду найпадобнейшай Еўфрасінні, супакоіліся. Прынялі дабраславенне ад епіскапа, пакланіліся найпадобнейшай Еўфрасінні, пяшчотна расцалавалі яе і паехалі дадому.

Еўфрасіння пакланілася Святой Сафіі, выслухала дабраславенне епіскапа і ўначы, узяўшы з сабой адну манахіню, накіравалася да Сяльца, дзе знаходзілася цэркаўка Святога Спаса.

Увайшла Еўфрасіння ў царкву, пакланілася і ўзнёсла вымавіла:

— Ты, Госпадзе, загадваў сваім апосталам: «Не насіце з сабой нічога, апрача жазла свайго». У адпаведнасці з словам тваім, пакінула я ранейшае месца, не ўзяўшы аніякай маёмасці. Толькі словы твае з сабой панесла, каб сказаць: «Госпадзе, памілуй!»

Узяла адно што кнігі з усёй маёмасці. *Кнігамі суцяшаецца мая душа і сэрца весяліцца*. Не маю трох хлябоў, толькі цябе — памочніка, заступніка і карміцеля. Бо ты ёсць: бацька — убогім, распранутым — адзенне, пакрыўджаным — памочнік, расчараваным — надзея. Будзе імя тваё дабраславенным для рабыні тваёй Еўфрасінні ад гэтага часу і да веку! Амінь.

Пасля гэтых слоў Еўфрасіння пачала падзвіжніцкі шлях у малітвах да Бога. Тут яна жыла працяглы час. Затым паслала да бацькі свайго просьбу:

— Пусці да мяне сястру Гарадзіславу (так яе назвалі бацькі), каб я навучыла яе грамаце.

Бацька задаволіў просьбу Еўфрасінні і паслаў да яе Гарадзіславу.

Еўфрасіння прылежна навучала аб выратаванні душы, а сястра, нібы ўрадлівая ніва — прымала навуку, змякчыўшы сэрца сваё.

І сказала Гарадзіслава:

— Няхай Госпад Бог і твае, спадарыня, малітвы, уладкуюць мяне дзеля выратавання душы маёй.

На яе просьбу Еўфрасіння завяла сястру ў цэркаўку і загадала іерэям апрануць яе ў чорныя рызы, і дала ёй імя — Еўдакія.

Праз пэўны час бацька перадаў Еўфрасінні просьбу:

— Ужо адпусці сястру сваю Гарадзіславу назад да мяне.

Еўфрасіння адказала:

— Яшчэ не засвоіла ўсёй граматы.

І ўбачыў бацька, што таемна пастрыгла Гарадзіславу. Раззлаваўся на Еўфрасінню. Успылаў сэрцам. Прымчаў у манастыр і ўзмаліўся да Гарадзіславы:

— Дзіця маё мілае! Што ж ты ўчыніла! Дадала нараканняў да нараканняў душы маёй, самотнасці да самотнасці!

Гаварыў ён з адчаем ў душы яго. Слёзы цяклі ракою з вачэй. Трымаў руку Еўдакіі і спавядаўся ў горы сваім:

— Дзеці мае, ці для гэтага я нарадзіў вас? Ці для гэтага міласціва гадаваў? Няўжо забраў сабе падрыхтаваныя для вас шлюбныя палацы і каштоўныя ўбранні! Дзеці мае мілыя! Якім суцяшэннем можа напоўніцца маё сэрца замест горкага смутку!

Святападобная Еўфрасіння супакойвала бацьку свайго:

— Чаму гэтак адчайна гаруеш? Маем самотніка і памочніка адзінага Бога.

Суцешаны крыху найпадобнай Еўфрасінняй, князь рушыў да палаца свайго. Еўдакія засталася ў манастыры, пад наглядам

сястры. Добрапрыстойная Еўфрасіння шчыра малілася Богу, каб абараняў тое месца і даваў прытулак.

Прайшло колькі часу. Аднаго дня прыйшла ў манастыр княжна Звеніслава Барысоўна. З сабой яна прынесла залатыя рэчы і каштоўныя ўпрыгожанні. Звеніслава звярнулася да Еўфрасінні:

— О, спадарыня і сястрыца! Усе прыгажосці свету нічога не вартыя. Ахвярую свае багацці Святому Спасу, а сама хачу схіліць галаву пад уладу Хрыста.

Еўфрасіння з радасцю прыняла Звеніславу, загадала іерэям пастрыгці яе і дала ёй імя — Еўпраксія. З тае хвілі пачала Еўпраксія манаскае жыццё з адзінай думкай пра малітвы да Бога. І сталіся яны — нібы адзіная душа ў двух целах.

III

Потым Еўфрасіння заклала каменную царкву Святога Спаса. Ад пачатку да завяршэння будоўлі прайшло 30 тыдняў.

Тут хачу вам, браце, пра цуд распавесці. Быў Іван — старэйшы над царкоўнымі будаўнікамі. Да яго шматкроць прыходзіў анёл і загадваў:

— Ужо світае, Іване. Уставай і ідзі на справу да Усемагутнага Спаса.

Іван, вельмі здзіўлены, раніцай аднаго дня накіраваўся да Еўфрасінні і запытаў яе:

— Ці не ты, спадарыня, прысылаеш некага да мяне і змушаеш да справы?

Яна адказала:

— Не.

Затым, крыху падумаўшы, мудрая жанчына заўважыла:

— Не я цябе буджу. Паслухай таго, хто кліча цябе на справу. І рабі — акуратна, з стараннасцю.

Яшчэ пра адзін цуд распавяду вам, добрыя слухачы.

Калі заканчвалі абкладаць пліткай, не было чым даху накрыць. І пашукалі добра, але нічога не знайшлі. Будаўнікі з сумам ўздыхалі, молячы Госпада:

— Слава табе, уладыка чалавекалюбча! Падараваў нам вялікае, дай нам і меншае, каб завяршыць царкву тваю.

Гэтак памаліліся, а назаўтра, праз Божае дбанне, знайшлі пліткі ў печы. І ў той жа дзень завяршылі царкву. І крыж паставілі.

Найпадобнейшая Еўфрасіння, як убачыла ўзведзеную царкву, акрылілася душой. І было асвячэнне, і вялікая радасць усім

хрысціянам. Сабраліся князі і ўплывовыя асобы, манахіні і манахі, простыя людзі. Панавала невымоўная радасць. І святкавалі шмат дзён, пасля чаго раз’ехаліся кожны да сябе.

Сардэчнае жаданне Еўфрасінні здзейснілася. Прыйшла яна ў царкву, упала з малітвай ніц да зямлі. Уздыхнула, праслязілася, а затым ад сэрца, з глыбіні душы, пачала прамаўляць:

— Ты, Госпадзе, які бачыць кожнае сэрца! Дабрадзецель наш, добры і міласцівы! Госпадзе, глядзі на храм свой, які ўзведзены ў імя тваё! Паводле слоў Саламона: «Вышні жыве ў нерукатворных цэрквах». Ты, Госпадзе, звярні свой погляд на мяне, нявартую рабыню тваю Еўфрасінню, і на рабоў тваіх, якія згуртаваліся тут! Прынялі ўладарства тваё лёгкае на шыі свае і пойдуць следам за табой! Зрабі іх авечкамі двара твайго! Будзь ім пастырам і дзвернікам! Няхай ніводзін з іх не будзе спакушаны ваўком — Д’яблам-губіцелем. Будзь ім, Госпадзе, зброяй і абаронай! Няхай не наблізіцца да нас зло і раны не падступяцца да целаў нашых! Не пагубі нас з-за нашых беззаконняў! На цябе пакладаемся, бо ты ёсць Бог для ўсіх, хто спазнаў цябе. Хвалы табе высылаю вечна, да апошняга майго ўздыхання. Амінь.

Сёстрам, што навучаліся, сказала:

— Сабрала вас, як куранятак квактуха, пад крыллі свае; у статак мой, як авечак. Пасіцеся ў запаветах Божых. З радасным сэрцам навучаю я вас. Бачу плады працы вашай і толькі дождж праліваю на вас. Хоць нівы вашыя стаяць яшчэ не ўрадлівыя, нічога не ўзышло на іх. І год завяршаецца, і рыдлёўка на гумне ляжыць. Не баюся, што ўзыдзе пустазелле. Будзе яно знішчана агнём непагасным. Пастарайцеся, дзеці мае, пазбегчы заразаў. Але ўзрасціце пшаніцай, змяліцеся ў жорнах пакорлівасцю, малітвамі і постам. Прынясіцеся чыстым хлебам на абед Хрыстовы!

Навучаючы сёстраў безупынна, Еўфрасіння праяўляла любоў да іх, як сапраўдная маці.

Мы ж, браце, да ранейшых падзеяў вернемся.

Сузіраючы свой манастыр, вельмі зграбна аздоблены, найпадобная Еўфрасіння задумала ўзвесці другую каменную царкву ў гонар Святой Багародзіцы. Так і сталася. Асвяціла яе, аздобіла абразамі і перадала манахам. І ўзнік вялікі манастыр.

Гледзячы на два вялікія і багатыя манастыры, Еўфрасіння вымавіла сама сабе: «Слава табе, Божа! Слава табе, уладыка! Дзякуй табе, усявышні! Што хацела — усё даў мне. Споўніў жаданні сэрца майго, Госпадзе!» І дадала: «Памілуй мяне, Го-

спадзе! Даруй дарэшты просьбу маю. Прагну бачыць прачыстую Багародзіцу Адзігітрыю ў гэтай царкве».

Паслала яна слугу свайго Міхаіла ў Царград да цара Мануіла і да патрыярха Лукі з шматкаштоўнымі падарункамі, просячы ад яго адзін з абразоў святой Багародзіцы. Бо евангеліст Лука пры жыцці намаляваў тры абразы святой Багародзіцы і пастанавіў: адзін — у Ерусалім, другі — у Царград, трэці — у Эфес. Яна ж настойліва прасіла Эфескі абраз святой Багародзіцы.

Цар дазнаўся пра набажнасць Еўфрасінні і паслаў да эфесянаў 100 стражнікаў сваіх, і прынёс святую Багародзіцу ў Царград.

Патрыярх Лука склікаў епіскапаў на сабор у святую Сафію, дабраславіў абраз Багародзіцы і перадаў яго слузе найпадобнай Еўфрасінні. Ён радасна прыняў Багародзіцу і прынёс яе пані сваёй.

Еўфрасіння ўрачыста ўнесла дарагі абраз у сабор Святой Багародзіцы і ўстанавіла яго там. Узнесла рукі і падзякавала:

— Слава табе, Госпадзе! Слава табе, кажу! Слава табе, уладыка, што дазволіў мне сёння сузіраць абраз прачыстай маці тваёй!

Сказала так, упрыгожыла абраз золатам і каштоўнымі камянямі. Пастанавіла, каб кожны аўторак насілі яго па святых цэрквах.

## IV

Пасля таго, як Еўфрасіння ўпрыгожыла Полацкую зямлю манастыром і ўбачыла, што Бог праславіў яе манастыр, узнёсла вымавіла да Госпада:

— Хацелася б дайсці да горада Ерусаліма, пакланіцца труне тваёй, Госпадзе, і ўсім святым месцам. Цалаваць там усё і жыццё сваё скончыць! Убачыць статак Божых авечак, сабраных разам, і радавацца ім, як свайму выратаванню.

Кожнага дня вучыла сёстраў сваіх. Старэйшыя навучаліся трываласці і стрыманасці, маладзейшыя — душэўнай чысціні, цялеснай бясстраснасці, трымценню перад абразамі. Вучыла кроку асцярожнаму, голасу пакорліваму, слову сумленнаму. Каб елі і пілі не размаўляючы, пры старэйшых маўчалі, мудрэйшых слухалі, да старэйшых ставіліся пакорліва, а да малодшых — без крывадушнасці. Каб мала гаварылі, а шмат разумелі.

Быў дадзены Еўфрасінні талент ад Бога: хто папытае яе аб нейкай рэчы, яна заўсёды растлумачыць што да чаго. Хто паслухае яе, той дабро пачуе. Яна не хацела бачыць сутычак князя

з князем, баярына з баярынам, слугі з слугою. Прагнула ўсіх бачыць як адзіную душу.

Паслала яна да братоў сваіх, каб паведаміць пра сваё жаданне схадзіць у Ерусалім. Калі яны пачулі гэтую вестку, прыехалі самотныя да дабротлівай Еўфрасінні і малілі яе са слязьмі, каб яна не пакідала іх сірых. Еўфрасіння суцешыла родных пяшчотнымі словамі, як маці суцяшае любімых дзетак.

Дарагі яе брат Вячаслаў прыехаў да сястры з жонкай-княгіняй і з дзецьмі сваімі. Пайшоў да Еўфрасінні, пакланіўся ёй і зарыдаў:

— Спадарыня мая! Маці і сястра! Чаму пакідаеш мяне, правіцельніца душы маёй, святло вачэй маіх?

Еўфрасіння загадала брату, які абліваўся горкімі слязьмі, паехаць дадому, а дзетак пакінуць на выхаванне сястры Еўдакіі.

Мела Еўфрасіння здольнасць ад Бога: калі ўбачыць каго на свае вочы, адразу вызначае, якому чалавеку лёсам наканавана належыць Богу.

Еўфрасіння звярнулася да пляменніц сваіх:

— Хачу павянчаць вас з жаніхом несмяротным і ўвесці ў палац царства нябеснага.

Словы найпадобнейшай Еўфрасінні прынеслі асалоду іх душам, нібы мёд сотавы. Упалі да яе ног і падзякавалі:

— Няхай будзе воля Госпадняя і твая, спадарыня, святая малітва. Як лічыш патрэбным, гэтак і паступі з намі.

Найпадобная Еўфрасіння з радасцю хутка паклікала брата і сказала яму:

— Я хачу пастрыгчы Кірыяну і Вольгу. — Так бацькі звалі дзяўчынак.

Узрушаны яе словамі, бацька запярэчыў:

— Спадарыня мая! Што хочаш зрабіць са мной? Два плачы кладзеш на душу маю. Першы плач — з-за твайго ад’езду, другі — дзеля лёсу маіх дзетак.

Маці дзяўчынак жаласліва плакала.

Добраславенная Еўфрасіння паклікала епіскапа Дыянісія, які тады займаў стол у Святой Сафіі. І завяла ўсіх у царкву, і назвала Кірыяну — Агаф’я, а Вольгу — Яўфімія. І дабраславіла іх дабраславеннем святых айцоў.

Дзіўна ўпрыгожыўшы абодва манастыры братамі і сёстрамі, перадала іх у падпарадкаванне сваёй сястры Еўдакіі.

Нарэшце пакланілася ў Святога Спаса і Святой Багародзіцы і ўкленчыла:

— Ты, Госпадзе-сэрцабачнік! Пакідаю дом твой, каб не быў зачынены для людзей. А ты, Госпадзе, не зачыні ад нас царства твайго.

І з гэтым Еўфрасіння пайшла ў Ерусалім. Узяла з сабой брата свайго Давыда і сястру сваю Еўпраксію.

Браты Еўфрасінні плакалі горка, калі адпраўлялі сястру ў доўгую дарогу. Усе гараджане выйшлі праводзіць яе.

Старыя выціралі слёзы, звярталіся да Еўфрасінні, нібы да роднай дачкі:

— Адзінока нам, апякунка старасці нашай і прасвятленне душам нашым!

Маладзейшыя гаравалі:

— Куды знікаеш, святло вачэй нашых? Хто ж будзе стрымліваць жарсці юнацкасці нашай? Не пакідай нас, сірых. У малітвах сваіх да Бога не забывайся пра нас.

Еўфрасіння расцалавала ўсіх, дабраславіла, узняла вочы да неба і выдыхнула:

— Ты, Госпадзе-сэрцабачнік, што хадзіў з Аўрамам. Ідзі з намі, рабамі тваімі — Еўфрасінняй, Давыдам і Еўпраксіяй!

І пайшла ў такім атачэнні.

О, дзівосны цуд! Ніколі раней не была нідзе — ані ў якой краіне, ані ў горадзе, ані ў вёсцы. Але ёй, што мела мужчынскую трываласць, усе вялікія князі, праз краіны і гарады якіх яна праходзіла, аказвалі гонар і шанаванне. Так прайшла ўсе краіны. І сустрэў Еўфрасінню цар, які кіраваўся на Венгрыю. З вялікім гонарам паслаў яе ў Царград.

У Царградзе Еўфрасіння пакланілася святым цэрквам, найперш тамашняй Святой Сафіі. Затым пакланілася патрыярху і прыняла яго дабраславенне. Купіла разнастайныя фіміямы, залатое кадзіла. Пакланілася царкве і рушыла ў Ерусалім.

І паслала Еўфрасіння слугу свайго Міхаіла да патрыярха з нагодай:

— Святы ўладыка, зрабі ласку мне, загадай адчыніць браму Хрыстову.

Патрыярх даў указанне выканаць яе пажаданне.

Прыйшла яна да брамы, упала на калені і ўкленчыла:

— Госпадзе, Ісусе Хрысце! Не палічы за грэх маё жаданне, але дазволь прайсці па слядах тваіх.

І ўвайшла ў святы горад. І рушыла да труны Гасподняй. Падышла, нахілілася і цалавала труну Гасподнюю. Усе, хто быў з ёю, таксама цалавалі. Пакадзіла труну залатым кадзілам з шматстайнымі фіміямамі і адышла.

Начавала ў Святой Багародзіцы, у рускім манастыры.

Назаўтра Еўфрасіння зноў накіравалася да Труны Гасподняй. Тое ж зрабіла — нахілілася, пацалавала і вярнулася назад.

І на трэці дзень усё паўтарыла. Паднесла шмат золата. Пакінула ля Труны Гасподняй залатое кадзіла і розныя фіміямы. Крыху пастаяла, затым узнесла рукі да неба, уздыхнула з глыбіні сэрца і прамовіла:

— Госпадзе, Ісусе Хрысце, Сыне Божы, народжаны ад сапраўднай дзевы Марыі. Дзеля выратавання нашага навучаў: «Прасіце і атрымаеце». Я, грэшная, яго прасіла і атрымала ад цябе, уладыка. Яшчэ цябе прашу, уладыка, Госпадзе міласцівы, апошні раз. Прымі мой дух ад мяне ў святым горадзе тваім Ерусаліме і перасялі мяне ў вышні твой горад — Ерусалім! Дай мне супакаенне на ўлонні Аўрама-патрыярха, разам з іншымі ўгоднікамі.

Выказала сваю просьбу і пакрочыла ў царкву Святой Багародзіцы, дзе спынілася. Там, воляй Божай, занядужала і захварэла. Ляжала на ложку сваім і малілася:

— Дзякуй табе, уладыка! Як прасіла, гэтак і ўчыніў мне, рабыні тваёй.

Хворая Еўфрасіння не магла ісці да Іардана. Пайшлі туды брат яе — Давыд і сястра яе — Еўпраксія, а таксама слугі.

Яна засталася ў ложку, хвалячы Бога:

— Госпадзе, зірні на рабыню тваю Еўфрасінню і памілуй мяне!

Нарэшце вярнуліся спадарожнікі з Іардана, прынеслі вады з святой ракі. Еўфрасіння з радасцю ўзнялася з ложка, абліла ўсё сваё цела. Затым зноў паклалася і сказала малітву:

— Дабраславёны Госпад Бог, што прасвятляе кожнага чалавека, які нараджаецца на свет! Табе, чалавекалюбіваму Богу, малюся. Раўную Пятроваму пакаянню. Каб пазбавіцца адчаю, горка плачу. Госпадзе, прымі маё пакаянне! Вазьмі мяне, нікчэмную рабыню тваю Еўфрасінню, што адбіваецца малітвай ад супраціўніка свайго — Д’ябла! Няхай не абгаворыць мяне злы раб на страшным судзе перад табою! Госпадзе, стань нагамі сваімі на яго змееву галаву! Супраціўляюся акаяннай дзёрзкасці яго, спадзяюся на тваё чалавекалюбства, Госпадзе!

І пачуў Бог малітву яе. І паслаў анёла свайго, які паведаміў ёй:

— О, дабрачыннейшая сярод жанчын! Дабраславёная праца твая! Ужо адчыненыя для цябе дзверы парадныя. Усе анёлы згуртаваліся, чакаюць сустрэчы з табой. Узнагароду, аб якой прасіла Бога, дасць табе.

Сказаў анёл і адляцеў ад яе.

Святая Еўфрасіння ўзрадавалася душою і накіравала пасла ў лаўру з клопатам:

— Ужо настаў мой час. Ужо Бог паслаў знак мне. Прыміце мяне, каб ляжала ў царкве Святога Спаса.

Яны адказалі прысланаму манаху:

— Маем забарону ад святога Савы, каб не хавалі тут аніякіх жанчын. Дзеля іх існуе агульны манастыр Святой Багародзіцы. У ім пахаваны жанчыны святога Савы, святога Феадосія, святых Кузьмы і Дзям'яна, у прыватнасці, Феадосія і шмат якія іншыя жанчыны ляжаць там.

Вярнуўся яе пасол і перадаў сказанае яму. Еўфрасіння з тым падзякавала Богу і паслала купіць труну для сябе ў каморы Святой Багародзіцы.

І ляжала 24 дні. Ачнулася перад адыходам і папрасіла:

— Паклічце прэсвітэра. Няхай дасць мне прычасце. Ужо прызвана і блізка стаю. Чакаю на загад уладыкі.

І прыйшоў прэсвітэр, несучы прычасце.

Еўфрасіння ўстала, тройчы пакланілася, прыняла прычасце і на ранейшае месца прылегла.

І аддала душу сваю ў рукі Бога 24 мая. І пайшла на нябесны спачын.

## V

Якімі словамі, браце, належыць нам ушанаваць светлазорную памяць дабраславёнай нявесты Хрыстовай — Еўфрасінні!

Мелі памочніка — пакрыўджаным, суцяшальніка — смуткуючым, адзенне — распранутым, наведніка — хворым, прастору — для ўсіх!

Паўсюль была Еўфрасіння, бо сэрца сваё напоўніла Божай прамудрасцю!

Еўфрасіння — вечная кветка райскага саду!

Еўфрасіння — небасяжны арол, што сягнуў ад Захаду да Ўсходу!

Нібы месяц сонечны, прасвятліла ўсю зямлю Полацкую!

Хваліцца Селун сваім Дзімітрыем, а Вышгарад — пакутнікамі. А мы хвалім, дабраславенны ты, горад Полацк, што ўзгадаваў гэтакі парастак — Еўфрасінню!

Дабраславёныя людзі, што жывуць там!

Дабраславёнае ўлонне, з якога нарадзілася найпадобная Еўфрасіння!

Дабраславёнае выхаванне яе!

Дабраславёны век твой, шматухвальная Еўфрасіння!

Дабраславёныя працы твае і подзвігі ў гонар Бога!

Дабраславёны манастыр твой!

Дабраславёныя людзі, што жывуць у манастыры Святога Спаса і Святой Багародзіцы!

Дабраславёныя людзі, што жывуць дзеля цябе, дабрачынная нявеста Хрыста, Бога нашага!

Маліся да Бога аб статку сваім. Усіх згуртавала да Госпада!

Яму належыць уся слава і гонар і пакланенні — Айцу і Сыну і Святому Духу — цяпер і на вякі!



# ІГНАТ СМАЛЯНІН

*(XIV ст.)*

Ігнат Смалянін — выдатны пісьменнік-белетрыст, аўтар унікальнага «Хаджэння», у якім знайшлі адлюстраванне падзеі паездкі аўтара ў Канстанцінопаль у 1389—1393 гг. Твор вядомы ў дзвюх рэдакцыях і 24 спісах.

Аўтар «Хаджэння» ў строгай храналагічнай паслядоўнасці распавядае аб прыгодах, дзіўных здарэннях і шматлікіх сустрэчах з выдатнымі людзьмі. У творы шмат разгорнутых дыялогаў. Аўтар падае надзвычай каштоўныя гістарычныя звесткі пра прыезд у ВКЛ мітрапаліта Кіпрыяна.

Асабліва каларытна ў творы намалявана сцэна каранацыі цара Мануіла, якая красамоўна пацвярджае бліскучае літаратурнае майстэрства І. Смаляніна.

*Іван Саверчанка*

## ХАДЖЭННЕ

*Шлях Донам-ракою да мора, а морам да Царграда.* …У нядзелю святога Фамы праводзілі з намі тры стругі і насад на колах, якія ў чацвер мы спусцілі ў раку Дон. А на другі дзень прыйшлі мы да Чур Міхайлавых — так завецца месца, дзе раней быў горад. Тут месцічы прынялі нас ласкава, і прывіталі нас дзеля Госпада, і, праводзіўшы нас з жалем і замілаваннем, вярнуліся дамоў. У нядзелю ж святых Жанок-міраносіц селі ўсе мы з мітрапалітам на караблі і пайшлі Донам-ракою, тужачы і сумуючы аб пешым падарожжы, бо мясціны былі вельмі пустэльныя, і не было ні сяла, ні чалавека, толькі звяры — ласі, мядзведзі і іншыя. На другі ж дзень плавання па рацэ мінулі мы дзве ракі — Мечу і Сасну, а на трэці дзень — Вострую Луку, а на чацвёрты — Крывы Бор. На шосты ж дзень дагягнулі мы вусця Варонежа. Раніцою ў нядзелю памяці святога Міколы прыехаў да нас князь Юры Ялецкі з баярамі і мноствам людзей і вельмі

нас усцешыў. Адтуль мы прыплылі да ціхай Сасны і бачылі белыя слупы, што гожа стаяць побач адзін другога, нібы малыя стажкі над ракою Сасной. І мінулі Чырвоны Яр, Бяцюк і Похар. А ў нядзелю Самарыцянкі прайшлі раку Мядзведзіцу, і высокія горы, і Белы Яр; у панядзелак жа — Чырвоныя горы каменныя, у аўторак — Тэрклі, і гарадзішча, і перавоз, дзе ўпершыню сустрэлі татараў. У сераду прайшлі Вялікую Луку і Сырахочзін улус. І тут пачаў нас ахопліваць страх, бо ўвайшлі мы ў зямлю народа Ізмаільцянаў. У чацвер мінулі мы Бекбулатаў улус, у пятніцу — Чырвоныя горы, у нядзелю Сляпога — Акбусін улус. У панядзелак прайшлі раку Бузун, а напярэдадні Узнясення Хрыстова дасягнулі мы мора.

У нядзелю Святых айцоў пагрузіліся мы на карабель у вусці Дона пад Азовам. І, адышоўшы ў мора, апоўначы сталі на якар. Але нехта з горада ўзвёў на нас паклёп, і падплылі да нас на чаўнах фрагі, і ўскочылі на карабель, і быў моцны тупат на апастрэшшы. Я ж, не ведаючы, што здарылася, выйшаў туды і ўгледзеў вялікую смуту. І кажа мне ўладыка: «Ігнацію, што ты стаіш і нічога не чыніш?» Я адказваю: «Што робіцца тут, уладыка?» Той жа мовіць: «Прыйшлі фрагі з горада, узялі і закавалі нашага свяціцеля мітрапаліта з ягоным дыяканам Германам, бо ён аказаўся ім вінаваты, а мы праз яго невінаватыя гінем». І спытаў я старэйшага з фрагаў, што тыя хочуць з імі рабіць. А ён адказаў: «Не бойцеся, вашае мы вам аддамо». І хутка задаволіў іх мітрапаліт, і, атрымаўшы добрую ўзнагароду, яны адпусцілі ўсіх нас. А праз дзень адплылі мы адтуль. Быў жа добры спадарожны вецер, але на трэці дзень пачаў дзьмуць моцны сустрэчны, і мы моцна стаміліся, бо карабель ледзь не патануў, ды і самі карабельнікі не маглі ўжо стаяць, а валіліся, нібы п'яныя, і раніліся. Так прыйшлі мы ў вусце Азоўскага мора, і ўвайшлі ў вялікае мора, і на шосты дзень мінулі Кафінскі заліў і Сураж. Так прайшло чатыры дні. На пяты ж дзень, у чацвер, падзьмуў сустрэчны вецер і пагнаў нас у левы бок, да Сінопа. І ўвайшлі мы ў затоку каля Сінопа і прабылі там два дні. І падзьмуў добры касы вецер, і паплылі мы ўздоўж берага. Там былі такія высокія горы, што аблокі цёрліся аб іх сярэдзіны. І супраць места Амастра загавеліся мы да Пятровага дня.

У аўторак мінулі Понтараклію, а ў сераду падзьмуў супраціўны вецер, і мы вярнуліся ў Понтараклію, дзе і прабылі дзевяць дзён. Там ёсць царква святога Феодара Цірона, што стаіць на месцы ягоных пакутаў, а ў ёй ёсць труна святога. І адтуль пайшлі мы на чаўнах да Царграда ў дзень Нараджэння

Іаана Папярэдніка. У пятніцу ж раніцою мінулі горад Дыяпаль. У суботу палуднавалі ў вусці ракі Сахары. У нядзелю ж мінулі места Дафнусію і Карыфію і прыйшлі ў горад Астравію. І тут спыніўся мітрапаліт, распытваючы навін пра Амарата. Бо Амарат пайшоў вайною на сербскага князя Лазара, і была чутка, што ў бітве загінулі абодва — і Амарат, і Лазар. І паколькі былі мы ў турэцкай дзяржаве, дык, збаяўшыся смуты, адпусцілі: мітрапаліт — інака Міхаіла, а ўладыка Міхаіл — мяне, Ігнація, а Сергій Азакаў — свайго інака. І адышлі мы ад Астравіі ў нядзелю перад Пятровым днём. Раніцою ж пайшлі ад Філі і мінулі Рыву і падышлі да вусця і мінулі Фанар. І вецер быў надта добры, і прыйшлі мы ў Царград з радасцю невыславёнай.

У панядзелак, напярэдадні Пятровага дня, увечары прыйшлі да нас русы, што жылі тут, і была ўсім нам радасць вялікая. Тую ноч бавілі мы на караблі, а раніцою, на самае свята Святых апосталаў, дзякуючы Богу, увайшлі ў горад. І той жа раніцай пайшлі да Святой Сафіі — Мудрасці Божай. І, дайшоўшы да Вялікае брамы, пакланіліся цудатворнаму абразу Найчысцейшай Багародзіцы, які забараніў Марыі Егіпецкай увайсці ў святую царкву ў Іерусаліме. Пакланіліся мы таксама і абразу Госпада ў святой царкве і чэсным святым абразам і цалавалі трапезу, на якую ўскладаюць святыя страсці Хрыстовыя, і святога патрыярха Арсенія, і трапезу Аўрамаву, на якую пасланцы Хрыстовы явіліся ў Троіцы, і ложак жалезны, на якім спальвалі Хрыстовых пакутнікаў. І ўсю раніцу бавілі мы ў царкве, пакланяючыся і дзівячыся цудам святых, велічы і гожасці царквы. І, праслухаўшы Літургію Святую, пайшлі мы на двор Канстанцінаў, і бачылі там царскі будынак, дзе ёсць гульбішча царава, што завецца іпадромам. Там стаіць слуп мядзяны, звіты з трох столак, якія разведзены ўгары, а на кожным канцы — па галаве змяінай. У гэтым слупе закляпаны яд змяіны. Там жа стаяць і шматлікія іншыя слупы каменныя.

Першага ліпеня пайшлі мы ў манастыр святога Іаана Папярэдніка і пакланіліся там. І русы, што там жывуць, добра нас прынялі. Раніцою пайшлі мы ва Улахерну і цалавалі руку, у якой пакладзена рыза і пас Найчысцейшае Багародзіцы, а адтуль пайшлі да Апостальскай царквы і, пакланіўшыся, цалавалі святы слуп, на якім білі Госпада нашага Ісуса Хрыста. Тут жа захоўваюць і Пятроў камень, на якім той аплакваў горка сваё адрачэнне. І памаліліся мы абразу Найчысцейшае Багародзіцы, якая явілася старцу святому ў пустэльні. Ёсць тут таксама дамавіны цароў Канстанціна Вялікага, Феадосія Малога і шмат

якіх іншых. Там жа ёсць і маленькая царква, а ў ёй абраз Вялікаго Спаса, ад якога сышоў голас даравання чалавеку, што ляжаў на пасцелі і каяўся з вераю за аблуды свае. Тут жа ў прыдзеле ляжаць целы святых Спірыдона і Паліеўкта, і мошчы святога Яна Златавуснага, і мошчы святога Грыгорыя Багаслова, захаваныя ў каменных каўчэгах.

Трэцяга ліпеня пайшлі мы да святога патрыярха Антонія і атрымалі яго багаславенне.

4 ліпеня пакланіліся мы абразу вялікага арханёла Міхаіла, які явіўся да хлопца, што вартаваў прылады царкоўных будаўнікоў.

6 ліпеня пайшлі мы да абраза Найсвяцейшае Багародзіцы Адзігітрыі і, пакланіўшыся, цалавалі яго і з радасцю памазаліся мірам. І пайшлі ў вялікі святы манастыр Пантакратара, і цалавалі святую дошку Госпадаву, на якую было пакладзена знятае з крыжа цела Хрыстова і на якой засталіся Яго найчысцейшыя слёзы. Тут жа ёсць і збан з самароднага каменю, у якім Хрыстос ператварыў ваду ў віно; у ім захоўваюць ваду Багаяўлення. Тут жа ляжаць галовы святых Сергія і Вакха і Іакава Перскага.

8 ліпеня пакланіліся мы святому абразу Хрыста, што ўчыніў цуд з купцом Фядорам. 16 ліпеня ў Царград прыйшоў уладыка Міхаіл.

24 ліпеня мы пайшлі ў манастыр святога Яна Прадцечы і цалавалі руку святога Яна Посніка.

30 ліпеня атрымалі мы багаславенне ад уладыкі патрыярха Міхаіла і пайшлі ў манастыр святога патрыярха Афанасія, якому ўручыла посах на патрыяршаства святая Багародзіца, і цалавалі мошчы ягоныя. І адтуль пайшлі да манастыра Перыўлепта і цалавалі шмат мошчаў і цела святога пакутніка Грыгорыя; там жа ёсць і рука святога Яна Прадцечы, што хрысціла Госпада.

31 ліпеня хадзілі мы на вярхі царквы Святой Сафіі і бачылі сорак акон шыйных і змерылі акно са слупам, і аказалася два сажані без дзвюх пядзей.

Першага жніўня хадзілі ў царкву пры двары Канстанцінавым, якая завецца Дзевяць чыноў і мае дзіўныя слупы: у іх можна бачыць усіх, нібы ў люстры. Адтуль хадзілі на бераг мора, дзе ёсць пясок лекавы, а на ім стаіць царква святога Спаса, у якой — цудатворны абраз Госпада і мошчы святога Аверкія.

Другога жніўня цалавалі мы мошчы святога першапакутніка Стафана ў яго манастыры.

5 жніўня хадзілі да Пігіі, дзе пакланіліся святой Багародзіцы і пілі святую ваду гаючую і мыліся ёю.

8 жніўня хадзілі ў Перылепту і цалавалі руку Яна Прадцечы, галаву святога Грыгорыя Багаслова, і лоб Стафана Новага, і абраз Госпада, ад якога быў чуты голас да цара Маўрыкія. Тут замуравана мноства мошчаў святых; тут жа — пацір з тапазу, каменю каштоўнага, і мноства іншых мошчаў святых.

8 жніўня хадзілі ў царкву Пантакратара і ў рызніцу; бачылі святое Евангелле, напісанае рукою цара Феадосія Малога. Тут жа цалавалі кроў Госпадаву, што выцекла з рэбраў Яго на крыжы.

10 верасня ў Халкідоне памёр мітрапаліт Пімен. Цела ж яго прывезлі і пахавалі за Царградам, на беразе мора, насупраць Галаты, у царкве Яна Прадцечы. На яго ж месца мітрапалітам на Русь паслалі Кіпрыяна. І той паехаў першага кастрычніка, а з ім — уладыка Міхаіл, Валынскі ўладыка Іаан, два грэцкія мітрапаліты і Фядор Сіманоўскі. Пасля ж іх адыходу прыйшла вестка, што адзін карабель, на якім плыў мітрапаліт, ўратаваўся, а той, дзе былі ўладыкі, — загінуў без вестак, прычым адныя казалі, што ён патануў, другія — быццам прыплыў да Кафы, а іншыя — што ён у Амастрыі або ў Дафпусіі. І праз колькі дзён прыйшла грамата ад мітрапаліта, дзе апавядалася, якую невыславёную страшную буру давялося ім вытрымаць на моры, які быў гром і трэск ад біцця хваляў, і што раскідала іх так, што не бачылі адзін аднаго. А калі сунялася бура, усе яны ўратаваліся, і прыплылі да Белграда, і шчасліва пайшлі на Русь. І мы, тое пачуўшы, надта ўсцешыліся.

17 снежня бачыў я труну вялікага прарока Данііла і, пакланіўшыся, яе цалаваў. Тут жа стаіць царква святой Багародзіцы, у якой здараюцца дзівы ў пятніцу Перадвялікоднага тыдня. Тут ёсць абраз святой Багародзіцы, пісаны евангелістам Лукою. У нядзелю перад Нараджэннем Хрыстовым бачыў я ў Сафіі Святой, як кідаюць у печ трох святых хлапцоў, і патрыярха, які служыў чэсную Святую Літургію ва ўсім сане святарскім.

22 снежня я цалаваў мошчы святога Анастасія і галаву святога Ігнація Баганосцы.

У 1390 годзе сын Андроніка Калаян пачаў шукаць у Царградзе царства з дапамогаю туркаў. І захапіў ён гарады і вежы, і прыйшоў да Царграда, і якраз перад Вялікаднем пачаў біцца. А ў вялікі чацвер прыйшоў Мануіл, сын старога князя Калаяна, з Лімнаса ў катаргах на дапамогу Царграду. У вялікую суботу ён асудзіў каля 50 крамольнікаў, і адных асляпіў, а іншым адрэзаў насы, і, зачыніўшы ўсе гарадскія брамы з боку поля, пакінуў адчыненыя адны каля іпадрома, і наказаў ашчаджаць прыпасы на два гады.

На другі тыдзень Вялікадня, у сераду, апоўначы простыя людзі адчынілі брамы гарадскія Калаяну Андронікавічу і пусцілі яго з грэкамі, але без туркаў, і не ўчынілі ніякага зла. Мануіл жа на катаргах уцёк з майном на востраў Лімнас (ад Царграда да Лімнаса 300 міль, а ад Лімнаса да Святой Гары бліжэй — 60 міль). Стары ж цар Калаян зачыніўся ў сваім палацы, а баяры яго схаваліся ў царкве Святой Сафіі. І стаяў звон па ўсім месце, і ваяры асвятлялі ўвесь горад ліхтарамі, і ганяліся па ўсім горадзе верхаўцы і натоўпы пешыя, з аголенай зброяй у руках і з падрыхтаванымі стрэламі, ускладзенымі ўжо на лукі, і крычалі: «Слава Андроніку!» Месцічы ж адказвалі: «Слава Андроніку», а калі хто хутка не крыкне таго, — на тых уздымалі з лютасцю зброю. І было дзіўна бачыць і чуць, як кіпіць горад. Адны ў жаху трымцелі, а іншыя радаваліся, прычым нідзе не было бачна забітых: людзі зброю ўзнімалі, толькі каб нагнаць жаху. Толькі раніцою наступнага дня, крыху пабунтаваўшы, некаторых паранілі. Да вечара ўсе пакланіліся маладому цару Андронікавічу, і ўгамавалася места, і смутак стаў радасцю. Цар жа Мануіл у той год яшчэ двойчы прыводзіў фражскую раць да Царграда ў катаргах, але не дамогся нічога. А Калаян сердаваў, і, сабраўшы камнямёты і наёмную раць, аб’яднаўся са старым царом і цэлы год абстрэльваў горад гарматамі, але не дабіўся нічога.

Трэці ж раз прыйшоў Мануіл да Царграда з рымлянамі, бо тыя ўмела ваююць з праціўнікамі; знак жа іхні — нашыты на грудзях белы крыж. І ўвайшлі яны ў ліман (так завецца там гавань), і прыйшоў Мануіл у палац да бацькі. Бо з боку мора былі муры і высокія вежы, і нельга было падысці да горада ворагу ні морам, ні сухазем’ем. Андронікавіч жа біўся са старым царом на полі. 17 верасня апоўдні цар Мануіл выйшаў з замка з усімі сваімі ваёўнікамі і раптам ударыў на Андронікавіча, калі той палуднаваў і быў бяззбройны. І не мог той устаяць і пабег, родзіч жа яго Калатуз біўся і, не адолеўшы ворага, таксама пабег. І ўзяў Мануіл Царград, і шмат якіх прыхільнікаў Андронікавіча паланіў ля Царграда. Тады пайшоў Мануіл да турэцкага цара з паклонам, і турак затрымаў яго ў сябе, і паслаў да бацькі Мануіла, мовячы так: «Пакуль не зруйнуеш палацы свае, Мануіл не выйдзе адсюль». І той наказаў супраць свае волі зруйнаваць палацы, а сам пайшоў жыць у стары царскі двор і ад жалю памёр. І адпусцілі туркі Мануіла, і той царуе і дагэтуль.

15 жніўся 1391 года здарыўся моцны землятрус.

*Аб царскім каранаванні.* 11 лютага 1392 года, у нядзелю Блуднага сына, цар Мануіл з царыцаю быў каранаваны на царства святым патрыярхам Антоніем. І дзіўна было назіраць яго каранаванне. У тую ноч была ўсяночная ў Святой Сафіі. Калі ж разднела, прыйшоў разам з усімі і я туды. І сабралася там безліч народу: мужчыны ў самой царкве, а жанчыны — на хорах. І ўсё было адмыслова: жанчыны стаялі за ядвабнымі заслонамі, і твараў іх з размаітай аздобаю ніхто з народу не бачыў, а яны бачылі ўсё. Пеўчыя ж стаялі, незвычайна ўпрыгожаныя, і мелі шаты шырокія і доўгія, нібы сціхары, аперазаныя; рукавы ж у рызаў былі шырокія і доўгія — адны адамашкавыя, другія — ядвабныя; наплечнікі з золатам і карункамі; на галовах — шапкі з карункамі. І сабралі іх мноства вялікае. Старэйшы з іх быў прыгожы і белы, як снег. Былі тут і фрагі з Галаты, і з Царграда, а іншыя — генуэзцы і венецыянцы. І дзіўна было бачыць іх. І стаялі яны ў два рады, і мелі на сабе адны — ягаты з барвовага аксаміту, а другія — з вішнёвага аксаміту, адзін рад пеўчых меў на грудзях знак жамчужны, а ў іншых — знакі свае. Пад хорамі праваруч — палац з дванаццаццю прыступкамі, шырынёю на два сажані, абабіты пурпурам, а на ім — два слупы залатыя.

Тую ноч цар бавіў на хорах, а калі надышла першая гадзіна дня, ён сышоў адтуль і ўвайшоў у святую царкву праз пярэднюю вялікую браму, якая завецца Царскаю. А пеўчыя ў гэты час спявалі цудоўна, невыслаўёна. І пачаўся ход царавы а трэцяй гадзіне ад пярэдніх дзвярэй да палаца. Вакол цара ішлі дванаццаць вояў, закутых у жалеза з галавы да ног, а перад ім — два чорнавалосыя сцяганосцы; дзяржанні ж сцягоў, іхнія шаты і шапкі былі чырвоныя. А перад двума сцяганосцамі ішлі вяшчальнікі з акутымі срэбрам кіямі.

Цар жа, зайшоўшы ў палац, апрануў парфіру, надзеў дыядэму і цэсарскую карону са слупкамі вакол галавы. Выйшаўшы з палаца, ён пайшоў угору і царыцу прывёў, і яны селі ў крэслы, і пачалася літургія. Цар жа з царыцай сядзяць. І калі павінен быў адбыцца выхад, падышлі да цара два старэйшыя дыяканы і ўчынілі малы паклоп да грудзей. Цар жа ўстаў і падышоў да алтара, а перад ім ішлі сцяганосцы, а вакол яго — вoі. І ўвайшоў цар у алтар, а сцяганосцы і вoі спыніліся перад алтаром па абодва бакі ад святой брамы. І апранулі цара ў малую фелонь барвовую да пояса. І пайшоў цар да выхаду, трымаючы свечку ў руцэ. Тут уваходзіць патрыярх, і яны з царом разам узыходзяць на амбон. Затым прыносяць на сподзе накрытыя цараву і царыцыну кароны. І падыходзяць два старэйшыя дыяканы да царыцы і робяць

ёй малы паклон. І падыходзіць царыца да амбона. І ўсклаў патрыярх карону на цара і даў яму ў рукі крыж. І сышоў цар долу і ўсклаў карону на царыцу, і пайшлі яны на свае месцы і селі ў крэслы, а патрыярх стварыў уваход і іншае. І калі скончыўся спеў херувімскі, пайшлі вялікія дыяканы і пакланіліся цару, як і раней. Цар узняўся, падышоў да алтара, апрануў фелонец і ішоў перад святымі дарамі ў прэнас, трымаючы ў руцэ запаленую свечку.

Хто перадаць можа словамі прыгажосць тую! Шэсце святых дароў доўжылася столькі, колькі спявалі спеў херувімскі. І пасля ўвахода святых дароў пакадзіў цар каля прастола. І быў ён у алтары да святое прычасці. Калі ж надышоў час святое прычасці, пайшлі старэйшыя дыяканы і пакланіліся царыцы. І калі яны сышлі долу з прастола, народ, што стаяў там, разарваў усю заслону з палаца, колькі хто паспеў сабе захапіць. І ўвайшла царыца праз паўднёвую браму ў крыло алтара, і далі ёй святую прычасць. Цар жа са святарамі прычасціўся ад патрыярха каля прастола Хрыстовага. І калі цар ішоў з царквы, асыпалі яго манетамі, і народ хапаў іх сабе.



# ГРЫГОРЫ ЦАМБЛАК

*(1364—1419)*

Яркай постаццю ў беларускай літаратуры XIV—XV стст. з’яўляецца мітрапаліт Вялікага Княства Літоўскага Грыгоры Цамблак, творчая спадчына якога належыць многім славянскім народам. Светапогляд і мастацкі свет пісьменніка сфармаваліся ў атмасферы грамадска-палітычнага і рэлігійнага жыцця паўднёвых і ўсходніх славян, талент прапаведніка разгортваўся на перакрыжаванні дзвюх літаратурных традыцый — паўднёваславянскай і ўсходнеславянскай, якія ўваходзілі ў сферу візантыйскага ўплыву.

Г. Цамблак паходзіў са знатнага балгарскага роду, атрымаў грунтоўную падрыхтоўку ў тырнаўскім манастыры Святой Тройцы, дзе выкладалі дысцыпліны першай ступені — трывіума (граматыку, рыторыку, дыялектыку) і прадметы другой ступені — квадрывіума (арыфметыку, музыку, геаметрыю і астраномію). Вялікае значэнне ў станаўленні пісьменніка меў патрыярх Яўфімій — вядомы кніжнік і асветнік, які ў сваім манастыры стварыў сапраўднае культурнае асяроддзе, ажыццявіў рэформу пісьменнасці ва ўсёй Балгарыі, заклікаў да адраджэння моўных прынцыпаў Кірылы і Мяфодзія.

У канцы XIV ст. краіны Балканскага паўвострава былі захоплены туркамі-асманамі, якія знішчалі матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці славян, насаджалі свае ідэалы. Многія дзеячы культуры вымушаны былі пакінуць радзіму, з 80-х гг. XIV ст. Г. Цамблак вёў падзвіжніцкае жыццё ў іншых краінах — Візантыі, Сербіі, Малдова-Валахіі і Вялікім Княстве Літоўскім. У манастырах Афона і Канстанцінопаля ён стварыў свае першыя пропаведзі — «Слова пахвальнае велікамучаніку Георгію», «Слова пахвальнае прароку Іллі», «Слова пахвальнае сарака пакутнікам», «Слова на вялікі чацвер», «Слова на вялікую пятніцу».

На загад патрыярха Мацвея «честнейшій в иеромонахах» Г. Цамблак быў адпраўлены ў Малдова-Валахію дзеля разбору некаторых спрэчных пытанняў паміж Канстанцінопальскай патрыярхіяй і малдаўскім мітрапалітам Іосіфам. Дыпламатычная місія была выканана паспяхова, і ён некаторы час быў ігуменам Нямацкага манастыра, у шматлікіх творах стварыў культ малдаўскага нацыянальнага героя Іаана Белгародскага («Жыццё Іаана Новага Белгародскага», «Пакуты святога Іаана Новага», «Служба святому Іаану Новаму»).

З 1402 па 1406 гг. Г. Цамблак знаходзіўся ў Сербіі, у той час там уладарыў дэспат Стафан Лазаравіч. На пасадзе ігумена Дзячанскага манастыра Цамблак напісаў творы, у якіх уславіў сербскую зямлю, але сурова асудзіў валадароў і ваявод, якія жорстка абыходзіліся са сваімі падначаленымі («Жыціе Стафана Дзячанскага», «Служба Стафану Дзячанскаму»).

У 1406 г. Г. Цамблак упершыню наведаў Вялікае Княства Літоўскае, калі ехаў у Маскву на выклік мітрапаліта Кіпрыяна, які, відаць, хацеў увесці яго ў склад вышэйшай царкоўнай іерархіі. Даволі абгрунтавана даследчыкі сцвярджаюць, што Цамблак даводзіўся пляменнікам Кіпрыяну. На беларускіх землях («На Нёмне») яго напаткала вестка аб смерці маскоўскага мітрапаліта. Згубіўшы «доброго кормчего, иже корабль къ небесем направляаше», ён вярнуўся ў Сербію, а затым пэўны час знаходзіўся ў Свята-Паўлаўскім манастыры на Афоне.

Пачуўшы, што канстанцінопальскі патрыярх прызначыў Фоція мітрапалітам Кіева і ўсяе Русі (1408), Цамблак зноў наведаў усходнеславянскія землі. У 1409 г. ён стварыў «Надмагільнае слова Кіпрыяну», у якім выказаў глыбокі смутак і, па-майстэрску выкарыстоўваючы шматлікія рытарычныя прыёмы, уславіў дабрачыннасці мітрапаліта: «. . . ибо другога Іосифа лишихомся, его жь препитаніе не пшеницею бяше, но словом учительства и нрава благодатию, его же целомудрие не по оному, но многъ высочайше. . . »

У гэты час слава пра таленавітага царкоўнага дзеяча і прамоўцу дайшла і да князя Вітаўта, у якога асабліва ўскладніліся адносіны з маскоўскім князем Васілём і мітрапалітам Фоціем, і ён вырашыў стварыць у сваёй дзяржаве аўтакефальную царкву. Найбольш прыдатную кандыдатуру на пасаду мітрапаліта ён знайшоў у асобе Г. Цамблака. У 1414 г. Вітаўт склікаў два саборы праваслаўных іерархаў Вялікага Княства Літоўскага і прапанаваў адасобіцца ад маскоўскай мітраполіі, бо Фоцій, «седяху на столе митропольстием всея Руси», не займаецца манастырамі, цэрквы разбураюцца і бяднеюць, «весь Киев и всю землю пусту сотвори тяжкими пошлинами и данми великими и неудобь носимыми». Вітаўт адправіў Цамблака ў Канстанцінопаль па благаславенне, але канстанцінопальскі патрыярх Яўфімій II не пажадаў падзелу ўсходнеславянскай царквы, з Цамблака знялі сан і адлучылі ад царквы.

Між тым 15 лістапада 1415 г. па прапанове князя Беларускай дзяржавы ў Наваградку быў скліканы спецыяльны сабор праваслаўных іерархаў, на якім без згоды Канстанцінопаля на мітраполію «Киева и всея Руси» быў пастаўлены Г. Цамблак. Вітаўт разаслаў «Акруговую грамату», у якой афіцыйна паведаміў аб «поставленіи въ санъ Киевского митрополита Григория Цамблака». Гэтым актам свецкія і духоўныя ўлады ВКЛ прадэманстравалі імкненне да самастойнасці і незалежнасці. Г. Цамблак падзяляў погляды Вітаўта аб стварэнні ў нашай дзяржаве моцнай і аўтарытэтнай Праваслаўнай Царквы, таму праявіў мужнасць і самаахвярнасць, бо мітрапаліт Фоцій у пасланні да епіскапаў аддаў яго імя праклёну. Відаць, Г. Цамблак выношваў і пла-

ны арганізацыі сумеснай барацьбы са шматлікімі ворагамі славянскіх народаў.

Мітрапалітава кафедра спачатку знаходзілася ў Кіеве, але пасля 1416 г., калі Кіеў быў разбураны нагайскай ардой, ён перанёс яе ў Вільню, а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Навагрудак. Царкоўна-палітычная і літаратурная дзейнасць Г. Цамблака у Вялікім Княстве Літоўскім была плённай і шматграннай.

Адным з першых праваслаўных мітрапалітаў ён спрабаваў устанавіць кантакт з кіраўніцтвам Каталіцкага Касцёла. У 1418 г. Г. Цамблак прымаў удзел у рабоце XVI Канстанцкага сабора, дзе сярод шматлікіх канфесійных праблем абмяркоўвалася і пытанне аб турэцкім нашэсці на паўднёваславянскія краіны і ўзаемаадносіны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Тэўтонскім ордэнам. Дэлегацыя праваслаўнага святарства з Вільні, Ноўгарада, Кіева і Малдавіі на чале з Цамблакам прыбыла на заключны этап працы Канстанцкага сабора і праводзіла палітыку Вітаўта і Ягайлы, але падпарадкоўвацца папе не мела намеру. У планы мітрапаліта ўваходзіла ўстанаўленне кантакту з кіраўніцтвам заходняй царквы дзеля таго, каб агульнымі сіламі выступіць супраць татара-мангольскай і турэцкай навалы. На яго думку, у той час гэтая праблема была больш актуальнай, чым канфесійныя разыходжанні.

Г. Цамблак выступіў на саборы з дзвюма прадмовамі — прывітальнай прадмовай і «Словам пахвальным айцам Канстанцкага сабора», якое створана па ўсіх канонах эпідэйктычнага красамоўства. Пасля традыцыйнага рытарычнага звароту да ўдзельнікаў сабора праваслаўны іерарх, шырока выкарыстоўваючы біблейскія цытаты і вобразы, кажа: «Доколе единая церковь християнская на две славе разделяется, како же и наречется християнская церкви не имящия Христово съединение. Христос съедини нас крещением и евангелиемъ, и ко волнои страсти грядыи». На думку мітрапаліта, толькі ў свабоднай дыскусіі можна было вырашыць усе пытанні, якія ўзнікалі паміж католікамі і праваслаўнымі, таму ён прапанаваў склікаць спецыяльны сабор наконт дагматаў веры: «. . . то да подвигнет обоя страны въ собрание, духъ святыи да послет въ сердца ваша, и слово дастъ въ отверзение оустъ вашихъ, да по первому отець преданію, обновете благочестивое исповедание веры не приразившемся ни в чесомже, иже от боговдохновеных отець добръ преданных догматомъ. . . » Але папа Марцін V не ўключыў у парадак дня прапанову Цамблака, верагодна, гэтае пытанне так не хвалявала яго, як мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага.

У маі 1418 г. Цамблак вярнуўся ў Вільню, але неўзабаве ў час эпідэміі моравай язвы ён памёр (1419). Паводле іншых звестак, у гэтым годзе ён пакінуў мітрапалітаву кафедру і доўгі час пад імем Гаўрыіла жыў у адным з малдаўскіх манастыроў (памёр у 1452 г. ), але гэтая версія малаверагодная. Пасля звароту з сабора праваслаўныя царкоўнікі сталі называць Цамблака католікам, яго імя святары не ўпаміналі пры адпраўленні літургіі. Але шматлікія творы пісьменніка

і прапаведніка шырока перапісвалі ўсходнеславянскія кніжнікі на працягу XV—XVIII стст. і ўключалі іх у розныя тыпы зборнікаў («Жыція святых», «Чэцці-Мінеі», «Таржэственнікі»). Паводле сваёй ідэйнай накіраванасці, тэматыцы і праблематыцы творчасць мітрапаліта адпавядала працэсам этнічнай кансалідацыі і палітычнай цэнтралізацыі, якія адбываліся ў гэты час у Беларускай дзяржаве.

Светапогляд пісьменніка сфармаваўся пад уплывам вучэння ісіхазму, якое было тэарэтычна абгрунтавана ў працах афонскіх манахаў — Грыгорыя Паламы і Грыгорыя Сінаіта. Ісіхасты тлумачылі абстрактныя філасофска-рэлігійныя пытанні, але ў іх тэорыі ўзнімалася і праблема чалавека, якога яны ставілі ў цэнтр зямнога свету, успрымалі яго як вянец тварэння, вышэйшую разумную істоту, дзеля якой Бог сатварыў свет. «У ісіхазме,— адзначае Дз. С. Ліхачоў, — праявілася цікавасць да псіхалогіі чалавека, да «ўнутранага» чалавека, да яго індывідуальных перажыванняў, да магчымасці асабістых зносін з Богам». Гэтае вучэнне пабуджала да ўнутранай духоўнай актыўнасці, дынамічнага самазасяроджання ў малітве, да самаўдасканалення асобы.

Пісьменнікі-ісіхасты выключнае значэнне надавалі слову, верылі ў яго магічную сілу, таму заклікалі пісаць прыгожа («в лепоту»), вытанчана, абагульнена, экспрэсіўна. Слову адводзілася роля пасрэдніка паміж боскім і зямным, яно выступала «знакам» нябеснага свету. Стыль «пляценне славес» — гэта своеасаблівы славесны арнамент, які ўяўляе сабой спалучэнне аднакарэнных і сугучных слоў, сінанімікі і рытмікі мовы, складанага сінтаксісу і нагнятання аднародных параўнанняў і эпітэтаў. Асноўным прынцыпам арганізацыі тэксту з’яўляецца паўтор, а на яго аснове ўзнікае скразная тэма і лейтматыў твора. Аўтар паўтарае «ключавыя» словы, асабліва важныя для разумення і рэалізацыі ідэі.

Творчая дзейнасць Г. Цамблака ў Вялікім Княстве Літоўскім была надзвычай плённай. На беларускіх землях ён адчуў сябе паўнамоцным прадстаўніком старажытнага народа, напісаў пятнаццаць твораў розных жанраў — пахвалы святым гістарычным асобам («Слова пахвальнае Дзімітрыю», «Слова пахвальнае Яўфімію», «Надмагільнае слова Кіпрыяну»), пропаведзі («Слова на ўзнясенне Ісуса Хрыста», «Слова на ўспенне Багародзіцы», «Слова на адсячэнне галавы Іаана Хрысціцеля», «Слова ў тыдзень кветканосся», «Слова на Уздзвіжанне», «Слова на Ператварэнне»), палемічны твор («Слова, як трымаюць веру немцы»), прамовы («Сповед веры», «Слова пахвальнае бацькам Канстанцкага сабора»), духоўны верш «На ўспенне Багародзіцы», «Акруговае пасланне князя Вітаўта», «Саборную грамату літоўскіх епіскапаў».

Асэнсаванне гістарычнасці быцця і праблема зямнога прызначэння чалавека знаходзіць мастацкае вырашэнне ў пахвальных словах Яўфімію Тырнаўскаму, Дзімітрыю Салунскаму і Кіпрыяну. За кожным тыпам героя адчуваецца жыццёвы змест, які асэнсоўваецца аўтарам і адліваецца ў дзіўную вытанчаную форму. На фоне трагічных для Балгарыі падзей — яе заняволення асманскімі заваёўнікамі, прымусовага насаджэння ісламу, знішчэння вышэйшага і адукаванага

саслоўя Цамблак услаўляе мужнага абаронцу, палымянага патрыёта, таленавітага пісьменніка, пастыра па «апостальскім і айчынным правілам» — Яўфімія. Тырнаўскі патрыярх гнеўна асуджае вераломства і бесчалавечнасць турэцкага хана Баязета, які люта расправіўся з мірнымі жыхарамі горада. Паказваючы трагічныя моманты народнага бедства, аўтар заклікае змагацца з захопнікамі, якія прынеслі столькі гора і пакут усім славянскім народам.

У аснове мастацкага бачання пісьменніка — новыя адносіны да чалавека, усведамленне каштоўнасці яго ўнутранага свету, яго індывідуальных перажыванняў, якія паказаны абстрактна, у рэчышчы агіяграфнай традыцыі. На думку прапаведніка, просты чалавек не здольны апісаць веліч святога, таму ў «Слове пахвальным Яўфімію» старазапаветны Давід «пляце слова» тырнаўскаму патрыярху.

У пахвалах Яўфімію і Кіпрыяну Г. Цамблак асабліва ўхваляе асветніцкую дзейнасць сваіх настаўнікаў: «пастырь Христова стада Евфімій» перадаў царкве новыя кнігі — «скрижали истинно небесного съкровища», а «светлое ядрило духа Киприан» намагаўся «учение в зрящих душах вселити». Пісьменнік заклікаў сучаснікаў да распаўсюджвання ведаў і пашырэння асветы.

«Слова пахвальнае Дзімітрыю» Г. Цамблак прысвячае асабліва шанаванаму хрысціянамі святому, герою многіх легендарных паданняў грэка-славянскай літаратуры. Яго гістарычным прататыпам быў знакаміты праконсул старажытных Фесалонік, які ў пачатку IV ст. клапаціўся аб распаўсюджванні Хрысціянства ў горадзе. Аднойчы Дзмітрый адкрыта сказаў імператару Максіміляну пра сваю веру ў Хрыста, які яго спачатку пасадзіў у цямніцу, а потым загадаў сваім падначаленым жорстка забіць.

У «Слове пахвальным Дзімітрыю» Цамблак паказвае вялікасць духоўнага подзвігу Дзімітрыя Салунскага, які ахвяруе жыццём у імя хрысціянскіх ідэалаў. Пісьменнік арганічна спалучае каноны агіяграфіі і энкомія, агіяграфічныя элементы праяўляюцца на ўзроўні тэмы, элементы энкомія — на ўзроўні стылю. Пісьменнік у алегарычнай форме выказвае думку, што насілле — праява антычалавечнасці і бездухоўнасці. Ён з вялікім майстэрствам выкарыстоўвае біблейскую сімволіку, традыцыйную фігуру аратарскай прозы — рытарычную ампліфікацыю, пераконвае інтанацыяй і мелодыкай выказвання. Пісьменнік-ісіхаст верыў, што мастацкае слова можа «ўвасабляцца», валодае жыватворнай сілай.

З асаблівай сілай талент рытара праявіўся ў пропаведзях на царкоўныя святы, якія Г. Цамблак стварыў у Наваградку і Вільні. Пропаведзі Г. Цамблака ўражваюць духоўнай глыбінёй і прыгажосцю выказвання, яны складаюцца з рытмічна пабудаваных стылістычных перыядаў, рытмічныя варыяцыі дазваляюць вяртацца да асноўнай тэмы, якая пры гэтым падкрэсліваецца і паглыбляецца. Адметнымі асаблівасцямі «Слоў» на царкоўныя святы з’яўляецца непаслядоўнасць развіцця сюжэту, на працягу ўсёй пропаведзі пераплятаюцца фігуры

думкі (рытарычныя пытанні, звароты і інш. ) і фігуры слова (анафары, градацыі і антытэзы), традыцыйнасць параўнанняў, аналогій, эпітэтаў, сімвалаў і метафар абумоўлена канонамі жанру. Градацыя думкі прапаведніка яскрава прасочваецца ў арганічным пераходзе ад біблейскага сюжэту да асабістых перажыванняў і пачуццяў. Пазіцыя прапаведніка, які радуецца, пакутуе і палемізуе са сваімі героямі, выказана ў форме ўнутраных маналогаў і шматлікіх рытарычных сентэнцый.

Шматграннасць таленту Г. Цамблака праявілася і ў царкоўным песнапенні. Даследчыкі царкоўнай музыкі адзначаюць, што ён увёў у беларускіх храмах балгарскі распеў. Захаваўся адзіны акафіст Г. Цамблака «На ўспенне Багародзіцы», які ўяўляе сабой сінтэз гімна, слова і музыкі, адзінства метрычнага малюнка стварае чаргаванне ікасаў і кандакаў, рытарычных воклічаў і хайрэтызмаў.

Паводле сваёй ідэйнай накіраванасці, тэматыцы і жанравастылістычных асаблівасцях творчасць мітрапаліта, красамоўная і экспрэсіўная, не толькі адпавядала зменам у духоўным жыцці беларускай народнасці, але і добра ўпісвалася ў мастацкія традыцыі агульнахрысціянскага аратарскага майстэрства. Таленавіта развіваючы грэка-славянскую традыцыю ўрачыстага красамоўства, Г. Цамблак у сваіх творах закранаў актуальныя праблемы часу, набліжаў абстрактныя ідэі боскіх кніг да пытанняў грамадскага быцця. Услаўленне хрысціянскіх культурных дзеячаў ва ўмовах турэцкага нашэсця было патрыятычным актам, у яго жыціях створаны ідэалізаваны абстрактнапсіхалагічны вобраз асветніка.

Літаратурная спадчына мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага была добра вядома ўсходнім і паўднёвым славянам, яго творы захаваліся ў шматлікіх рукапісных зборніках. Пропаведзі і жыціі Г. Цамблака шырока перапісваліся ў беларускіх манастырах — Супрасльскім, Слуцкім Свята-Троіцкім, Жыровіцкім, Аршанскім, Лаўрышаўскім і інш., служачы своеасаблівымі літаратурнымі ўзорамі для мясцовых кніжнікаў і прапаведнікаў, духоўна ўзбагачаючы беларускіх чытачоў. Царкоўна-палітычная дзейнасць і літаратурная творчасць мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага спрыяла станаўленню ідэі славянскага адінства, сведчыла аб плённасці міжславянскіх літаратурных сувязей і адпавядала ўздыму патрыятычнай думкі беларускай народнасці.

*Таццяна Казакова*

## СЛОВА НА АДСЯЧЭННЕ ГАЛАВЫ СВЯТОГА І СЛАЎНАГА ПРАРОКА І ПАПЯРЭДНІКА І ХРЫСЦІЦЕЛЯ ІААНА

Пакуль Іудзея жадае прарочыя крыві, пакуль прароказабойствам дыхае, пакуль Іезавель Іллю шукае на смерць, пакуль на калясніцы гоніць і яна не насцігае прапаведнага! Тое беззаконным прашэннем галаву папярэдніка на сподзе пасярод гасціны непатрэбнай насіцца ўстрої: галаву, якая анёлам святая, галаву, якая голас Айца чула и сына хрысціла і святы дух бачыла, галаву, якая бессаромнага Ірада агідную юрлівасць выкрыла, галаву, для вачэй Ірадыяды страшную. О хітрыя жанкі, такую галаву на гулянне мечу і дзясніцы забойцы зрабілі!

І якая яго віна? Бо кажа Іраду: «Нельга табе меці жонку Філіпа, брата твайго». І тым болей, о Ірадзе, благадаць павінен быў спавядаці і болей таго, у пашане павінен быці нябесны гэты, і тым болей — чалавек чалавека, і тым болей любіці яго, бо цябе ад беззаконня адводзіць і грэх адсякае. Ты ж супраціўнае твoрыш. Чысціню настаўніка, пакаянне прапаведніка забіваеш? Калі ж надумаўся таго з цямніцы вывесці і ў яго прасіці даравання і гасціну асвяціці мужа прышэсцем і тых старэйшын галілейскіх і ўсіх, хто прыйшоў павесяліцца, ты вяселле на плач прамяняў і гасціну крывёй, не віном, частуеш. О, апошняга неразумення! Хто бачыў гасціну з крывёю змяшаную, хто бачыў галаву, што на сподзе, як пачастунак, прапаноўвалася?

Гэта бо Ірад кажа: «Вазьмі Іаана, звяжы яго і пасадзі яго ў цямніцу». Казаў бо яму Іаан: «Нельга табе меці яе!» Ірадыяда ж раззлавалася на яго і вырашыла яго забіць і не змагла. Ірад жа баяўся Іаана, ведаючы, што ён муж праведны і святы. І быў у яго ў паслушэнстве і з прыемнасцю яго слухаў. Настаўніка злачынца ў цямніцу закрывае і хоча застрашыць яго і загадвае, каб той не выкрываў яго. Быў звязаны ён, але слова Боскае не звязваецца. Гэты Ірад быў злейшы за лютага Васіліска, род якога шмат дзяцей, што былі ад веку бязгрэшнымі, пабіў і мацярок зрабіў бяздзетнымі. Ад яго Іаан тады быў захаваны і здзейсняў добрыя справы, як рабілі продкі яго.

Чаму не пасаромеўся мужа гэтага, раней баючыся яго, яго, праведнага і святога? Чаму з прыемнасцю не паслухаў яго? Дрыжыш, што ўсе даведаюцца пра пралюбадзейства і прароказабойства, якое агіднае не толькі бессаромнасцю, бо ў законе сказана: тады можна ўзяць жонку брата, калі ён памрэ і семя пасля сябе

не пакіне. Тут жа Філіп памёр і семя пасля сябе пакінуў — тую, што скакала, у якой д'ябал скакаў, і прасіла плату — галаву Іаана.

Гэта адбылося аднойчы, калі Ірад у дзень свайго нараджэння вячэру рабіў старэйшынам галілейскім. «*Быў, сказана, дзень той цемрай*». Інакш кажучы, падахвочаны бесамі, таксама і злахітраю жонкай, ён вырашыў зрабіць незразумелае. І прыйшла дачка той Ірадыяды, той агіднай, той любадзеіцы, нявернай мужу свайму, не прызнаваўшую боскіх законаў, той, якая забыла закон, Богам дадзены. І прыйшла дачка той Ірадыяды, ад Філіпа, а не ад Ірада. «*Калі Філіп яшчэ быў жывы, Ірадыяда была ўзята Ірадам*»,— кажа Іосіф. І што зайшла, о вялікамудрыя евангелісты, хіба дзевам не трэба сарамаціцца і хаваць сваю аздобу, ціхмяна хадзіць, благачынна мовіць і маліць цара з замілаваннем словамі наймудрэйшых. «*Не,— сказана,— не тое зрабіла яна*», скакаць пайшла, скокамі і аздобай вельмі дагадзіла Іраду. Слушна кажа евангеліст: «*Дагадзіла цару*». Такія такім і дагаджаюць, распуснікі грахамі вытанчанымі забаўляюцца. Што ж штурхае іх рабіць гэткія паганыя гульбішчы: скакаць з аголенымі да лакцей рукамі, выкрыкваючы неверагодныя гукі і словы, такія ж распальваюць пажаду, выкручваюцца, скачуць, галавой трасуць туды і сюды, распусціўшы валасы, як шалёнцы, а не цнатліўцы.

О, бессаромная, хіба дзевам можна скакаць пасярод гасціны гэтай, пасярод п'яных людзей, пасярод распуснікаў бегаць бессаромна. Што гэта за цар, калі яму прыемна бачыць бессаромнасць дзяўчыны? «*Прасі ў мяне,— кажа,— што хочаш, і я дам табе*!» І кляўся ёй: «*Калі папросіш мяне, то аддам табе аж да паловы царства майго*!» Ад душэўнага п'янства толькі такія акаянныя, толькі рабскія духам клянуцца. Гэта грэх, калі хто ахвотай аддае ў палон свабодную душу, і толькі глядзіць і робіць тое, што яму прыемна. Так і гэты акаянны не зважае на сваю вялікасць, не памятае царскай велічы, не глядзіць на гасцей, але толькі на вартае смеху дзяўчо, шукаючы любові яе маці.

Яна ж выйшла і сказала маці сваёй: «*Чаго мне прасіць*?» Тая ж кажа: «*Галаву Іаана Хрысціцеля!*» І засумаваў цар, але не захацеў парушаць клятву, якую даў перад гасцямі. І ў той жа час паслаў цар ката і загадаў яму прынесці галаву. Той пайшоў, адсек у цямніцы галаву, прынёс яе на сподзе і аддаў яе дзяўчыне, а тая — маці сваёй. Што робіш, о Ірадзе! Што так безаглядна звязваеш сябе клятваю? Што так спяшаешся, калі ніхто не гоніць цябе? Што клянешся вялікім імем сына божага перад дзіцем? Хіба не мог ты за скокі аддаць некалькі золата або серабра, а не

гэтак абяцаць: «*Што папросіш, таго дам табе аж да паловы царства майго*!» О ганарліўства, о бесаванне! Насяліў Госпад Бог зямлю і даў любаснаму Ізраілю ў спадчыну, дык навошта ты агіднай дзяўчыне дзеля гульбішча бессаромнае прапаноўваеш!

О вар'яцтва! Хіба галаву Іаана Хрысціцеля з паловай царства свайго параўнаеш? Лепей бы ты клятву не выканаў, чым такое беззаконне ўчыніў! А калі б тваю галаву папрасілі, даў бы ты яе адсекчы? Ды не вытрымаў бы і закатаваў бы тую, якая гэтага прасіла! А ты ж клятву не пераступіў і паслаў ката прынесці галаву яго. Сказана: «Па ката паслаў і загадаў яму прынесці галаву Іаана!»

О жахлівасць! Не сказаў пачакаці, не адклаў да наступнага дня, не забараніў, не зірнуў злосна, а як раб паслухаў. Яна ж як валадарка, а не прасіцельніца казала: «*Хачу, каб ты падаў мне*». Яшчэ загадвае: «*Хачу, каб аддаў тут, перад усімі*». Спалохалася, каб не перадумаў цар: «*Хачу, каб мне прынеслі сюды галаву Іаана Хрысціцеля*!» Ён жа ката паслаў і загадаў галаву прынесці. Дзіва, як вымавілі вусны цара, ведаючы, што ў самоце будзе ўся Іудзея? Тады жахнулася ўся Іудзея, зараз — увесь сусвет. Як ішлі ногі забойцы? Якімі вачыма глядзеў на нябеснага пустэльніка? Як падступіў, як выняў меч, як не сарвалася агідная рука, дакранаючыся да святой шыі? Не разумею і здзіўляюся, думаю і знясільваю розум: як можна было ісці і адсекчы, і прынесці галаву на сподзе і аддаць яе дзяўчыне, а тая — сваёй маці.

О агіднае частаванне і мярзотнае скліканне, о нараджэнне бессаромнае, як неабпалена была паганая тая, калі бессаромнымі рукамі святую галаву прыняла? Як не абрынуўся храм, убачыўшы галаву на сподзе, убачыўшы пачастунак забойства? Як тая кроў у цямніцу маўкліва ракою цякла, а не патапіла тут жа Ірада, як калісьці глыбіня Чырвонага мора ганарлівага фараона! Усё, што тут адбылося, патрабуе такой жа адплаты. Ён жа не выгнаў беззаконнікаў і яшчэ на заступніка ўгнявіўся. Гэты ж, найвялікшы з усіх прарокаў, больш за самога Майсея, і ачысціў людзей Хрыстом, і паказаў народам народжанага па запавету, і прапаведваў Госпада. Такога анёла, і большага за анёла, несправядліва забіць! І за гэта трэба адпомсціць, а не маўчаць аб гэтым.

Ты забойства ўчыніў, о Ірадзе, люцейшае, якое не бачыў свет, найвялікшага з прарокаў забіў, найвялікшага з народжаных жанчынай! Голас Слова забраў ад нас, трубу пакаяння прымусіў маўчаць! Але ж ніколі не асіліць ліхата дабрадзейства! І ты гэткае асмеліўся зрабіць злачынства, пра якое гавораць

ва ўсім сусвеце. Ён жа Хрыста прапаведуе, і на сподзе цябе выкрывае пасярод гасціны: «*Нельга табе меці жонку Філіпа, брата свайго*!» Марна Ірадыяда задумамі сваімі агіднае тое робіць, спадзеючыся адсячэннем выкрывальнага пазбегнуць голасу. Зараз многія пачнуць выкрываць, бо галава на сподзе пасярод балявання бессаромнай дзяўчыны ўсіх запэўнівае, што пацярпела за ісціну. Да беззаконня дадала беззаконне, о новая Іезавель, ганьбу да ганьбы і вечнае выкрыццё. Да гэтага адзін язык Хрысціцеля вінаваціў, да пакаяння прыцягваў цябе, зараз жа ва ўсіх цэрквах языкі евангелістаў тваю бессаромнасць выкрываюць: «Яна ж падгаворана маці: «*Дай мне,— кажа,— тут, на сподзе, галаву Іаана Хрысціцеля*!» О прымнажэнне ліхаты, не на плашчаніцы, не на ўбрусе, не на дошцы, а на сподзе, нібы наедак салодкі! Так прагнула тая яго смерці, так моцна, такімі вачыма, у якіх быў нібыта яд духоўны. «*Дзеля гэтага на сподзе і прынясі, — сказана, — галаву яго і аддай яе дзяўчыне*», — і дзяўчо занесла яе да маці сваёй, злая ільвіца, злейшая за скімну, атрымаўшы пажаданага таго ўлову, нясе яго маці.

Прымі павучэнне, прымі, калі пажадаеш, з асалодаю, прымі маю працу, прымі мой дарунак! Не таго бойся, што замоўкне голас, які не дае табе спакою, і ляцяць стрэлы, якія колюць цябе, але не спыняецца тая, што скача, ніколі не спыняецца!

У той час, — сказана, — пачуў Ірад тэтраўладнік пагалоску аб Ісусе і сказаў рабам сваім: «*Гэта Іаан Хрысціцель, які ўваскрос з мёртвых. І валодае ён вялікай сілай*». Глядзі, як спужаўся, калі пачуў гэта. Гэткае апаганенае сумленне ў вечным клопаце было, вечна ў трымценні, вечна ў развагах: «*Ён устаў, — сказана, — з мёртвых*». Раней, калі забойства ўчыніць вырашыў, ты аб уваскрэшанні і не падумаў! Не згадаў ты Саламона, які сказаў: «*Тады адважна паўстане праведнік перад тым, хто зняважыў яго*». Зараз жа ён упэўнівае, што ёсць пакаранне і таму кажа: «*Сілы думаюць пра яго*». Калі б Іаан дзіва не ўчыніў пры жыцці сваім, думалі б, што ён пасля ўваскрэшання стаў цудатворцам. І баяліся, і трапяталі жывыя перад мёртвым, забойцы забітага, які ў парфіры і ў вянцы валасяніцу насіў з поўсці вярблюда, які блукаў па пустыні.

І раней былі забойствы, многія з якіх выкрываліся, але не такія жудасныя: калі ж Ірад гэта зрабіў, то агарнуў яго жах. Тады згадалася Іаанава благадаць, якая ад нараджэння была яму дадзена, які духам святым быў надзелены ад маці сваёй, на Іллю падобны, той жа пустыні жыхар — хрысціцель і прарок, змагар за ўсіх. А пра тое, што быў ён свяцейшы за іншых —

пачуў слова Іосіфа, які сведчыў, расказваючы пра пагібель войска Ірада ад Арэты Араўляніна: «*Нейкія іудзеі задумалі, што пераможана будзе войска Ірада, і сапраўды, пераможана было яно пасля смерці Іаана, званага Хрысціцелем*». Забіў бо гэты Ірад добрага мужа, які іудзеям загадаў дабрачыннасць трымаць і адзін аднаму праўду казаць і да Бога звяртацца, хрышчэнне тварыць, бо і хрышчэнне прыемна здзяйсняць — аб чысціні цела і душы дбаючы. Тут усе ўсвядомілі, які ён быў цнатлівы, які святы! Гэта ўсё не разгледзеў, не заўважыў новы Ахаў. Гэты муж варты толькі пахвалы, а не смерці, але калі ён забіты, калі ўжо выкрывальніку перарэзана горла, тады злачынец сам сябе выкрывае. Ірад кажа: «*Я адсек яму галаву, ён устаў з мёртвых і мае вялікую сілу*». Калі загінуў праведнік, тады грэшнік у чартозе голас пачуў: «*Нельга табе валодаці ёю*». Сказана: «*Ты ўстаў з мёртвых, каб асудзіць забойства няpraведнае*». Чуў бо і Каін боскае слова: «*Кроў Авеля, брата твайго, чую я з зямлі*». І як Каін сем разоў быў адпомшчаны, цябе ж чакае больш жудасная помста. І цябе, і іншых, хто злосць памнажае, той сам сабе ворагам бывае!

Што ж мы пра Хрысціцеля скажам? Як яго памяць ушануем? Якімі вянкамі ўпрыгожым яго галаву? На яе жалеза ніколі не ўзнімецца! Якім мірам яе памазаць, на якую дух святы сыходзіць, як некалі міра сыходзіла на галаву і бараду Аарона? Якімі рукамі даткнёмся той галавы, якую кранала рука Творцы, якімі вуснамі пацалуем, якія песні ёй спяём? Не спасцігае розум, знемагае язык! Хачу ўбачыць месца, на якім была яго святая кроў! Хачу, каб хто занёс мяне туды, каб мог я прыпасці да яго святога праху! Каб гэта здзейснілася!

Дзеля Хрыста Ісуса Госпада нашага, якому слава давеку!

Амінь!



# ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ

«Пахвала вялікаму князю Вітаўту» — унікальны помнік беларускага прыгожага пісьменства, створаны прыкладна каля 1430 г. напярэдадні каранацыі Вітаўта.

Пісьменнік бліскуча адлюстраваў цэнтралізацыйную палітыку Вітаўта, накіраваную на аб'яднанне усходнеславянскіх земляў вакол адзінага цэнтра. Аўтар ухваляе геапалітычныя планы вялікага князя, вітае далучэнне да ВКЛ новых гарадоў, тэрыторыяў і земляў.

На старонках твора Вітаўт Вялікі паўстае як абаронца Айчыны, мужны змагар з ворагамі, тонкі дыпламат і мудры палітык, які карыстаецца павагай і аўтарытэтам.

*Іван Саверчанка*

Таямніцу цара захоўваць пахвальна, а пра справы вялікага гаспадара паведамляць пахвальна. Хачу вам расказаць пра вялікага князя Аляксандра, яшчэ званага Вітаўтам, літоўскіх і рускіх і шмат іншых земляў гаспадара. Але спачатку па пісаным: «Братова, Бога бойцеся, а князя шануйце». Гэтак і я хачу вам расказаць пра гэтага слаўнага гаспадара. Але немагчыма ні расказаць, ні апісаць справы вялікага князя Вітаўта. Каб было магчыма спасцігнуць вышыню неба і глыбіню мора, то можна было б выказаць сілу і храбрасць гэтага слаўнага гаспадара.

Вялікі князь Вітаўт валодаў Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім і шмат якімі іншымі землямі, проста кажучы, усёю Рускаю зямлёю. Ды не толькі ўся Руская зямля [была яму падуладная]. Яшчэ і гаспадар Венгерскай зямлі, гэтак званы цэзар рымскі, у вялікай любові жыў з ім. Аднойчы быў гэты слаўны гаспадар у сваім горадзе Вялікі Луцк і паслаў сваіх паслоў да венгерскага караля, гэтак званага цэзара рымскага, і загадаў яму прыбыць да яго. Ён жа паслухмяна неўзабаве прыехаў да яго са сваёю каралеваю, і пашану вялікую выказваў, і падарункі шматлікія падносіў яму. І з таго часу вялікая любоў умацавалася паміж імі.

Як не дзівіцца славе вялікага гаспадара [Вітаўта]. Няма земляў ні на ўсходзе, ні на захадзе, адкуль не прыходзілі б пакланіцца гэтаму слаўнаму гаспадару. Калі нават ёсць цар над усёю зямлёю, і той, прыйшоўшы, кланяўся слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Аляксандру, яшчэ званаму Вітаўтам. Яшчэ і турэцкі цар пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў [гэтаму] слаўнаму гаспадару. У вялікай любові жыў з ім і прававерны і хрысталюбны цар царградскі. Таксама і Чэскае каралеўства з вялікаю пашанаю ставілася да [нашага] слаўнага гаспадара. А яшчэ дацкі кароль пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Вітаўту.

У тыя ж гады брат яго Ягайла, па-ляшску званы Уладзіславам, валодаў Кракаўскім каралеўствам, і ён з ім [таксама] у вялікай любові жыў. Калі слаўны гаспадар Вітаўт на якую зямлю гневаўся і хацеў пакараць, кароль Уладзіслаў заўсёды даваў яму дапамогу. Служылі яшчэ яму і ўсходнія цары.

Таксама вялікі князь маскоўскі ў вялікай любові жыў з ім. Служылі яму яшчэ і іншыя: вялікія князі нямецкія з усімі сваімі гарадамі і землямі, па-нямецку называныя магістрамі; гаспадар зямлі Малдаўскай і Бесарабскай, па-валашску называны ваяводам; таксама і гаспадар зямлі Балгарскай, па-балгарску называны дэспатам. Яшчэ і іншыя вялікія князі [служылі вялікаму князю Вітаўту]: вялікі князь цверскі, вялікі князь разанскі, вялікі князь адоеўскі, і Вялікі Ноўгарад, і Вялікі Пскоў. Проста кажучы, не знойдзецца ва ўсім Памор’і ні горад, ні край, якія б не слухаліся гэтага слаўнага гаспадара Вітаўта.

Гэтыя вялікія гаспадары, вялікія князі, вялікія землі, пра якія мы тут пісалі, адны ў вялікай любові жылі з ім, а іншыя моцна служылі яму, слаўнаму гаспадару, пашану вялікую [выказвалі] і падарункі шматлікія падносілі яму не толькі кожны год, але і кожны дзень.

Калі слаўны гаспадар, вялікі князь Аляксандр, званы Вітаўтам, на якую зямлю гневаўся і хацеў яе сам пакараць або куды хацеў сваіх моцных ваяводаў паслаць і каму ад тых земляў загадваў да сябе прыбыць, яны неўзабаве паслухмяна са сваёй зямлі да яго прыходзілі. Калі ж якому гаспадару з-за якой-небудзь патрэбы немагчыма было прыбыць [да Вітаўта], ён сваё войска пасылаў яму (Вітаўту. — *В. Ч.*) на дапамогу і на службу.

Гэты вялікі князь Аляксандр, званы Вітаўтам, у вялікай пашане і славе прабываў. [Аднойчы] быў ён у адным са сваіх гарадоў — вялікім горадзе Кіеве, і прыслалі да яго [сваіх

пасланцоў] вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства, бо шмат вялікіх ардынскіх цароў служыла пры яго двары. І даў ён ім цара па імені Салтан. Той жа цар, які быў у Ардзе, учуўшы, што слаўны гаспадар [Вітаўт] паслаў свайго слугу на царства, не пасмеў працівіцца яму, пакінуў царства і ўцёк. Салтан жа, прыйшоўшы ў Арду, сеў на царства паводле волі вялікага гаспадара Вітаўта і вельмі паслухмяна служыў яму і неўзабаве памёр. Старэйшыны ж ардынскія паслалі сваіх паслоў з вялікімі дарамі да слаўнага гаспадара [Вітаўта] і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Салтан Малы. Гэты Салтан, сеўшы на царства, ніяк не смеў не слухацца слаўнага гаспадара: дзе і калі [вялікі князь Вітаўт] яму загадае, ён тады і туды качуе. Прайшло мала часу, і вялікія князі ардынскія, не смеючы нічым разгневаць слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, каб без яго волі не садзіць на трон цара, прыслалі да яго з вялікаю пашанаю і прасілі іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Даўлад-Бярды.

Як рака, праплываючы ўсе землі, людзей і жывёлу поіць, а сама не змяншаецца, так і слаўны гаспадар [Вітаўт] шмат цароў адпускаў у Арду, а ў яго большала цароў. Мы ж да папярэдняга вернемся. Гэты цар Даўлат-Бярды мала часу цараваў, і таму тыя ж старэйшыны ардынскія, калі ішлі каля вышэйзгаданага горада Кіева і ўчулі, што ў гэтым горадзе знаходзіцца слаўны гаспадар, вялікі князь Вітаўт, прыйшлі і пакланіліся яму, і шматлікія падарункі прынеслі, і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Махмет. Як ад мора шмат вады выходзіць, так і ад гэтага слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, мудрасць сыходзіць.



# ПАХВАЛА КНЯЗЮ КАНСТАНЦІНУ АСТРОЖСКАМУ

«Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму» — выдатны эпічны твор старабеларускага прыгожага пісьменства першай паловы XVI ст. У жанравым плане ён з’яўляецца гімнам, словаспевам у гонар вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага, пад кіраўніцтвам якога беларускія харугвы ўшчэнт разграмілі пад Оршай войскі Маскоўскага княства, вярнулі пад уладу ВКЛ беларускія гарады — Мсціслаўль, Крычаў і Дуброўну.

Галоўны герой твора — князь і вялікі гетман Канстанцін Астрожскі — паказваецца аўтарам аб’ёмна, у розных ракурсах. Аўтар імкнецца максімальна поўна раскрыць велічную, але адначасна — супярэчлівую і кантрастную асобу Канстанціна Астрожскага, таму абмалёўвае яго з розных бакоў. Перадусім, Канстанцін Астрожскі паўстае як сумленны грамадзянін, выдатны вайскованачальнік, надзейны і дысцыплінаваны ўрадовец. Аўтар абмалёўвае князя як богабаязлівага хрысціяніна, які перад бітвай наведваў храм, станавіўся на калені і прасіў Бога аб дапамозе. Але, адначасна, перад чытачом паўстае вобраз неверагодна жорсткага і каварнага гетмана, які дзеля перамогі гатовы пайсці на незлічоныя і нават неапраўданыя чалавечыя ахвяры. Аўтар прыпадабняе яго да варварскіх вайскованачальнікаў Антыёха і Аляксандра Македонскага, якія на вайне скарыстоўвалі падман і хітрасць. Пісьменнік, відавочна, прыдумаў, зусім штучна, нібыта Канстанцін Астрожскі накіраваў на бессэнсоўную смерць частку свайго войска пры пераправе Дняпра. У падобных ахвярах не было аніякай вайсковай логікі і патрэбы, тагачасная вайсковая арганізацыя, высокая вывучка і падрыхтаванасць жаўнераў ВКЛ дазвалялі ажыццявіць пераправу Дняпра без аніякіх стратаў.

У цэлым Канстанцін Астрожскі пададзены як валявая і велічная асоба, самаахвярны рыцар і адказны дзяржаўны дзеяч. Мудры чалавек, мужны і загартаваны ў баях гетман, ён напярэдадні вырашальнай бітвы дбайна рыхтуе харугвы і жаўнераў, умела выбірае вайсковую тактыку на Аршанскім полі і ў выніку — перамагае ворага, сілы якога ў некалькі разоў пераўзыходзілі беларускае войска. Князь бярэ ў палон шмат маскоўскіх ваяводаў, вызваляе захопленыя гарады і вёскі. Вераломны вораг, які парушыў дамову аб міры і пераступіў крыжацалаванне, пакараны. Паўсюль на абшарах Княства імя Канстанціна Астрожскага

вымаўляецца з выключнай пашанай, ён атрымлівае заслужаныя ўзнагароды з рук удзячнага вялікага князя.

Аўтар не прыніжае і не абражае непрыяцеляў, хутчэй — наадварот, піша пра іх з павагай, асабліва пра палонных вайскованачальнікаў, пералічвае іх ганаровыя званні і тытулы. Такім шляхам ён падкрэслівае незвычайнасць, веліч князя Астрожскага, які перамог годнага ворага ў сечы, дзякуючы свайму баявому майстэрству, рыцарскаму таленту і мужнасці.

Адметная рыса мастацкага стылю «Пахвалы князю Канстанціну Астрожскаму» — высокая ступень рытмізаванасці тэксту. На сінтаксічным і лексічным узроўнях аўтар арыентуецца на паэтыку ўзнёслагераічнага, быліннага эпасу, што істотна дапамагала яму стварыць каларытны вобраз князя Астрожскага — гераічнага абаронцы народа і краіны.

У творы шырока выкарыстоўваецца прынцып гістарычнага паралелізму. Так, дзеля ўзвелічэння Канстанціна Астрожскага аўтар праводзіць паралель паміж сваім героем і легендарнымі асобамі, што выявілі выключную мужнасць у змаганні з ворагам — індыйскім царом Порам, армянскім царом Тыгранасам, легендарным Антыёхам, біблейнымі героямі.

*Іван Саверчанка*

Успомнім словы вялікага Ніфонта «Царскую тайну належыць хаваць», якое напісаў да верных хрысціянаў. Там кажа: «Таемныя дамовы гаспадарскія нельга ніколі агучваць, але справы і мужнасць добрага і смелага чалавека варта ўсім абвяшчаць, каб іншыя таму навучаліся і смеласць мелі».

У цяперашнія часы пашчасціла нам бачыць добрага і мужнага воіна, сапраўднага страцілата князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, найвышэйшага гетмана літоўскага!

Найперш ён, з Божай дапамогай, на загад і парады гаспадара свайго — вялікага князя Жыгімонта — здзейсніў належнае выпраўленне войска, стварыў братэрскае злучэнне.

Калі ён падышоў да ракі Днепр, пад каменным горадам Оршай, то ўбачыў, што водны шлях непераадольны. Як богабаязлівы чалавек, князь Канстанцін Іванавіч — слаўны і вялікі гетман — кінуўся да царквы Святой Жыватворнай Тройцы і да святога вялікага цудатворцы Міколы, упаў на калені і маліўся Богу. І ўспомніў справу і смеласць храбрага Антыёха і вялікага палкаводца цара Аляксандра Македонскага, як той загадаў персідскаму войску перайсці раку Арсынарскую. Персы — патанулі, а войска Македонскага пераадолела раку, нібы па сухім прайшло. Гэтак жа і князь Астрожскі загадаў першым людзям плысці, а наступныя перайшлі, ніба праз брод.

Надзвычай імкліва гетман ушыхтаваў узброеныя харугвы да бітвы на вялікім Аршанскім полі.

О вялікія, слаўныя візяці літоўскія! Праз справы і навуку князя Канстанціна Іванавіча — другога Антыёха, гетмана войска македонскага — пераўзышлі вы сваёй мужнасцю храбрых македанянаў!

Князь выявіў выключную чалавечую смеласць. Як храбры рыцар і верны слуга свайго гаспадара, на чале велікамужных воінаў літоўскіх, не шкадуючы сябе, ахвярна выступіў і ўдарыў на вялікае мноства непрыяцеляў.

Восемдзесят тысяч людзей варожага войска паразілі і смерці аддалі, а іншых — узялі ў палон: найвышэйшага ваяводу і гетмана войска маскоўскага князя — Міхаіла Іванавіча Булгакава-Голіцу, яго брата — князя Дзімітрыя, Івана Андрэевіча Чаледніна, князя Івана Дзімітрыевіча Пронскага, Дзімітрыя Васільевіча Кітаева, Данілу Андрэевіча Плашчова, Івана і Уладзіміра Семяновічаў, князя Барыса Рамаданаўскага, князя Івана Сямёнавіча Старадубскага, князя Пятра Пуцяцкага, князя Сямёна Яновіча ды іншых, пералік імёнаў якіх тут не змесціцца.

Так, сваёй вернай паслугай учыніў радасць гаспадару свайму, вялікаму каралю Жыгімонту. Божую Хрыстову царкву, многіх мужчын і жанчын абараніў ад здзеку маскоўскага.

Тут спраўдзіліся словы святога айца Яфрэма: «Моцныя — аслабелі, здаровыя — захварэлі, радасныя — заплакалі, а труслівыя — загінулі». Мне, грэшнаму, бачыцца, што падобнае сталася вялікаму князю маскоўскаму Васілю.

Успомнім словы Ісаі, сына Амосава, якія прараказаў пра апошнія дні прадбачаннем Святога Духа: «За памнажэнне людской злобы і няпраўды — пральецца іх кроў, як моцная вада. Храбрыя і ганарлівыя — загінуць ад мячоў. Адзін мужны, але справядлівы — пагоніць 100 несправядлівых. А ад 100 — пабяжыць 1000. І целы іх будуць — на з’ядзенне звяроў і птушак. А косці іх — на сорам усяму жывому». Сёння тым прароцтвам Бог узнагародзіў князя Канстанціна Іванавіча, найвышэйшага гетмана літоўскага. Яго справаю, майстэрскім кіраваннем вайсковых палкоў, яго смелым сэрцам і ўмелымі рукамі маскоўскія людзі былі разбітыя. Іх целы разрываюць звяры і птушкі, косці валочаць па зямлі. А затопленых у рацэ — рыбы з’ядаюць.

О прасветлая, мудрая галава! Як назваць і ўшанаваць цябе! Беднасцю мовы маёй і мастацтвам розуму майго не магу спасцігнуць цябе. Якую славу і гонар надаць здзейсненай справе тваёй! Цвёрдасць тваёй мужнасці роўная вялікаму індыйскаму цару Пору, якому не маглі супрацьстаяць шматлікія цары і

князі, яго справам і славе. Твая веліч выразная выявілася сёння. Міласцю Божай і дзеля шчасця велікаслаўнага гаспадара Жыгімонта, даў адпор вялікаму маскоўскаму князю. Справай рук сваіх, поплеч з храбрымі рыцарамі, удалымі віцязямі, з князямі, панамі і дваранамі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, пры дапамозе і супольна з выдатнымі панамі палякамі, з усімі тваімі добрымі памочнікамі і вернымі сябрамі паказалі мужнасць сваю. Многія замкі сталічныя і слаўныя месты Вялікага Княства Літоўскага і Рускага адстаялі.

За што ж ты — велікаслаўны гетман — ад гаспадара твайго варты вялікай і высокай узнагароды! Роўны вялікім і храбрым рыцарам слаўнага града Радоса, якія сваёй мужнасцю баранілі ад рук паганскіх хрысціянскія замкі. Ваша мужнасць пры змаганні з акрутным ворагам заслугоўвае славы і ўшанавання. Невымоўнае шчасце і радасць гаспадару свайму, вялікаму каралю Жыгімонту прынёс. За такі ўчынак варты не толькі сесці на туташнія сталічныя гарады, але й валодаць самім Божым горадам Іерусалімам.

Твая храбрасць падобная храбрасці Тыгранаса, цара армянскага, пра якога прамудры філосаф Фролас, паводле Лівія, піша: «Прыйшоў Тыгранас, цар армянскі, і секся з Антыёхам, і перамог яго войска, і самога з горада выгнаў. Збег Антыёх у Перскую зямлю». Гэтак і ты, сумленная і надзвычай разумная галава, выйграў сечу з вялікім князем маскоўскім, разграміў войска яго, а самога — выгнаў з Смаленска.

Вялікі князь Васіль збег ад цябе ў Маскоўскую зямлю, у свае ўсходнія гарады, а пасля і свайго епіскапа смаленскага Варсанофія забраў з Смаленска ў Маскву.

Князь Канстанцін узяў Смаленск і вярнуў тыя гарады, якія здаўна служылі Вялікаму Княству Літоўскаму — Мсціслаўль, Крычаў, Дуброўну. Загадаў ім праўдзіва служыць Вялікаму Княству Літоўскаму. А сам пайшоў у Літоўскую зямлю, да гаспадара свайго — вялікага караля Жыгімонта.

Вялікаму гаспадару, каралю Жыгімонту Казіміравічу, на вякі будзе гонар і слава, што перамог непрыяцеля свайго — вялікага князя маскоўскага. А гетману яго — выдатнаму князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму — дай Божа здароўя і шчасця ўперадзе болей, чымся цяпер мае.

Пабіў сілу вялікую маскоўскую, а цяпер — кабграміў дужую раць татарскую, праліваючы кроў іх басурманскую.

***1514***



# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

*(канец 80-х гг. XV ст. — каля 1551 г.)*

Францыск (Францішак) Скарына — культавая постаць беларускай нацыі, народжаная эпохай Адраджэння. Першадрукар, літаратар, паэт, перакладчык, філолаг і самабытны філосаф — ён з'яўляецца сімвалам інтэлектуальнасці і невычэрпнага творчага патэнцыялу беларускага народа, увасабленнем велізарнай духоўнай моцы беларусаў.

Нарадзіўся Ф. Скарына ў Полацку, у купецкай сям'і. Дакладная дата яго нараджэння, на жаль, невядомая, але шматгадовыя пошукі вучоных у архівах і кнігасховішчах, аналіз разнастайных гістарычных крыніц даюць падставы сцвярджаць, што яна прыпадае прыкладна на другую палову 80-х ці пачатак 90-х гг. XV ст. Бацька Ф. Скарыны — Лука і старэйшы брат Іван мелі ўласную справу, гандлявалі футрамі і скурамі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, у краінах Заходняй Еўропы і Маскоўскага княства. Якраз пры дапамозе бацькі і брата здольны юнак яшчэ на радзіме атрымаў базавую адукацыю, а каля 1504 г. паступіў у Кракаўскі універсітэт.

Першым дакладна датаваным дакументам, які пралівае святло на жыццё Ф. Скарыны, з'яўляецца актавы запіс 1504 г. аб паступленні «Францыска, сына Лукі з Полацка» ў Кракаўскі універсітэт. Вучыўся Ф. Скарына ў Кракаве два гады. Настойлівае авалоданне ведамі таленавіты ўраджэнец Полацка завяршыў 14 снежня 1506 г., здабыўшы ступень бакалаўра.

Затым Ф.Скарына шмат вандраваў па краінах Заходняй Еўропы, напэўна, працягваў вучобу ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў. У перыяд з 1506 да 1512 г. Ф.Скарына напружана працаваў, за гэты час стаў магістрам сямі вызваленых навук.

У перыяд з 1506 да 1512 г. Ф.Скарына захапіўся прыродазнаўчымі навукамі, і найперш медыцынай, што пацвярджаецца падзеямі з яго далейшага жыцця. У 1512 г., па прыездзе ў Італію, Ф. Скарына звярнуўся да Вучонай Калегіі Падуанскага універсітэта з просьбай праэкзаменаваць яго ў галіне медыцыны. Экзамены праходзілі ў два туры — 6 і 9 лістапада 1512 г. На ўсе пытанні, нягледзячы на строгасць экзаменатараў, Ф.Скарына даў бліскучыя адказы, прадэманстраваўшы перад найаўтарытэтнейшымі ў тагачаснай Еўропе падуанскімі

вучонымі глыбокія веды ў медыцыне. Беларускаму самародку аднагалосна была прысуджана ступень доктара медыцыны.

Каля 1517 г. Ф. Скарына прыехаў у Прагу, дзе пры падтрымцы мецэнатаў, мусіць, Багдана Онкава і Якуба Бабіча, заснаваў сваю першую друкарню. Ён паставіў за мэту выдаць «Біблію» на зразумелай для ўсходніх славян мове.

Першынцам Скарынаўскай друкарні ў Празе быў «Псалтыр», выдадзены 6 жніўня 1517 г. Усяго ж, на працягу 1517 — 1519 гг., Ф. Скарына надрукаваў 23 кнігі. Беларускі асветнік, здаецца, меў намер ужо ў Празе выдаць усю «Біблію». Магчыма, ён нават падрыхтаваў тут да друку ўсе кнігі Святога Пісьма ці, прынамсі, большую іх частку. Пацвярджэннем таму з'яўляецца «Прадмова да ўсёй «Бібліі»», у якой першадрукар не толькі пералічыў усе кнігі Старога і Новага запаветаў, але і зрабіў іх падрабязны аналіз.

У канцы 1519 ці ў самым пачатку 1520 г. Ф. Скарына быў вымушаны перапыніць кнігавыдавецкую дзейнасць у Празе і перавезці сваю друкарню на радзіму, у Вільню — тагачасную сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. У віленскі перыяд сваёй кнігадрукарскай дзейнасці Ф. Скарына выдаў «Малую падарожную кніжыцу», у якую ўваходзілі «Псалтыр», «Часасловец», восем канонаў і восем акафістаў, «Шастаднеў», «Паслядоўнасць царкоўнага збору», «Канон пакаяльны». Гэтае выданне выйшла з друку без указання даты, але паколькі ў «Малой падарожнай кніжыцы» былі змешчаны святцы на 1523 г. і пазней, то гэта дазваляе сцвярджаць, што яна з'явілася прыкладна ў 1522 г. Апошнім выданнем Скарыны быў «Апостал», надрукаваны ў Вільні ў 1525 г.

У сакавіку 1526 г. «выдатны муж, пан Францыск, доктар медыцыны» выступаў у якасці сведкі на цырымоніі падпісання віленскім каталіцкім біскупам Янам зацвярджальнай граматы, якая ўтрымлівала дазвол і дабраславенне князю Юрыю Слуцкаму на пабудову новага касцёла. У 1529 г. Ф. Скарына на судзе ў Вільні выступаў абаронцам маёмасных інтарэсаў сваёй жонкі Маргарыты, з якой судзіліся родзічы яе першага мужа Юрыя Адверніка.

Дакладна вядома, што ў 1530 г. беларускі першадрукар быў «падданым» (так у дакуменце) прускага герцага Альбрэхта. Праўда, стасункі асветніка з прускім дваром былі быццам бы нядоўгімі: ужо ў другой палове мая 1530 г. Ф. Скарына пакінуў Кёнігсберг і накіраваўся ў Вільню, заручыўшыся падарожнай граматай Альбрэхта, а таксама яго рэкамендацыйнымі лістамі да віленскага ваяводы Гаштаўта і магістрата Вільні. Цалкам верагодна, што Ф. Скарына новым месцам кнігадрукавання хацеў абраць Маскву, аб чым ёсць звесткі, хаця і даволі цьмяныя.

Вельмі трагічным для Ф. Скарыны быў 1532 г. Прыкладна праз тры гады пасля смерці брата Івана варшаўскія багацеі Лазар і Мойша звярнуліся да караля Жыгімонта з лістом, у якім патрабавалі, каб той прымусіў доктара Ф. Скарыну, якому нібыта засталася ўся братава ма-

ёмасць, выплаціць ім дзвесце шэсць коп грошаў (даволі вялікая на той час сума), якія ім быццам бы застаўся вінен нябожчык Іван. Нягледзячы на тое, што Ф.Скарына ў гэты час служыў асабістым сакратаром і лекарам віленскага каталіцкага біскупа, ён быў на загад караля схоплены і пасаджаны за краты Пазнанскай гарадской турмы. І толькі дзякуючы настойлівым хадайніцтвам яго пляменніка Рамана — Іванавага сына, які праз суд давёў, што толькі ён з’яўляецца прамым і адзіна законным спадчыннікам бацькавай маёмасці, Ф. Скарына праз некалькі месяцаў зняволення быў выпушчаны з-пад варты.

Апошнія гады жыцця першадрукар правёў у Празе, працуючы батанікам-садоўнікам і лекарам у батанічным садзе, які належаў Фердынанду I Габсбургу. Там, прыблізна ў канцы 1551-га ці ў самым пачатку 1552 г. ён і памёр, пакінуўшы пасля сябе нейкую «маёмасць, паперы, даўгі і іншыя рэчы», аб чым гаворыцца ў грамаце Фердынанда I, дадзенай сыну Ф. Скарыны Сімяону 29 студзеня 1552 г.

Ф. Скарына зрабіў істотны ўклад у развіццё беларускай літаратуры. Ён значна пашырыў межы і магчымасці традыцыйных літаратурных жанраў — прадмоваў, сказанняў і пасляслоўяў.

У нарацыях пісьменніка адлюстроўваюцца пераважна падзеі старажытнай гісторыі. Так, «Прадмова да кнігі «Юдзіф»» утрымлівае літаратурна апрацаваныя гістарычныя сюжэты пра блізкаўсходнія царствы старажытных часоў. У творах Ф.Скарыны ў белетрызаваным стылі апісваюцца найбольш значныя царкоўныя саборы, дэталёва паведамляецца пра дзяржаўных асобаў, многіх філосафаў і рэлігійных дзеячаў.

Пісьменнік на старонках прадмоваў і сказанняў стварыў яркія і запамінальныя вобразы рэальных гістарычных асобаў — цара Саламона, Юдзіфі, Аляксандра Македонскага, філосафа Філона, апосталаў Пятра і Паўла. Ф. Скарына акцэнтаваў увагу пераважна на дзейнасці гістарычных персанажаў, паказваў значнасць іх спраў і веліч учынкаў.

Асабліва каларытны вобраз егіпецкага цара Пталамея Філадэльфа, створаны Ф. Скарынам у «Прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў»». Пісьменнік звяртае ўвагу на дзейнасць Пталамея па пашырэнні кніжных ведаў, мудрасці і філасофіі, дэталёва апісвае запрашэнне ім з Ерусаліма ў Александрыю 72 вучоных дзеля перакладу кніг з яўрэйскай на грэцкую мову. Ф. Скарына паведамляе пра захапленне Пталамея кнігамі, створаную ім унікальную Александрыйскую бібліятэку, дзе той сабраў звыш сарака тысяч рарытэтных кніг. Пісьменнік паказвае велізарную асветніцкую місію цара Пталамея арнаментаванымі і ўзнёслымі словамі: «Таковый убо был милосник наукы и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах».

Характэрная адзнака творчага метаду Ф. Скарыны — рэгулярнае акрэсленне сваёй місіі перакладчыка і выдаўца. Ён нязменна ўказваў на асветніцкія матывы і адукацыйнае прызначэнне сваёй творчай

працы, у аснове якой — пашырэнне ведаў, мудрасці, навукі, дабрых нораваў. Так, пра высакародную і гуманістычную скіраванасць сваёй нялёгкай працы над кнігай «Ісус Сірахаў» Ф.Скарына пісаў: «Прото ж и я, для похвалы Божией и *для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки,* приложил есм працу выложити книгу сию на рускый язык, елика бо прежде писана быша к нашему научению».

Беларускі першадрукар выявіў сябе як бліскучы нацыянальны *паэт,* сапраўдны майстар паэтычнага слова. У прадмовах да кніг «Іоў», «Зыход» і «Эсфір» змешчаны некалькі цікавых сваім зместам рыфмаваных радкоў, якія не страцілі свайго мастацкага і духоўна-маральнага значэння да нашага часу.

Першы паэтычны твор Ф. Скарыны — вершаванае чатырохрадкоўе на тытуле кнігі «Іоў» (1517):

Богу въ Троици единому ко чти и ко славе,
Матери его Пречистой Марии к похвале.
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению.

У вершаванай форме паэт вельмі сцісла, але надзвычай дакладна сфармуляваў прызначэнне свайго выдання. Істотна, што выкарыстаная Ф.Скарынам рытмічная суаднесенасць радкоў — 16:15, 15:14, дазваляла вельмі лёгка запомніць верш, з’ўлялася эстэтычна прывабнай і дасканалай.

Другі вершаваны твор Ф. Скарыны «Веруй у Бога адзінага» змешчаны ў «Прадмове да кнігі «Зыход»» (каля 1519):

Веруй в Бога единаго,
А не бери надармо имени его,
Помни дни светые святити,
Отца и матку чтити.
Не забивай ни едина
И не делай греху блудна.
Не вкради, что дружнего,
А не давай сведецтва лживага.
Не пожедай жены ближнего,
Ни имения или речи его.

Верш напісаны ў адпаведнасці з логікай біблейных «Дзесяці запаведзяў Майсея», але даступнай для беларускага чытача мовай. Ён мае пераважна паралельную рыфму і адметную рытмічную структуру — 9:12, 9:7, 9:9, 7:11, 10:11, — даволі мілагучную і лёгкую для чытацкага ўспрымання.

Трэці верш Ф. Скарыны змешчаны ў канцы «Прадмовы да кнігі «Эсфір»» (1519):

Не копай под другом своим ямы —
Сам въвалишся в ню.
Не став Амане Мардохею шибинице —
Сам повиснеш на ней.

Паводле зместу прыведзенае чатырохрадкоўе — гэта апрацоўка старажытнага мудраслоўя, у якім гучыць заклік да чалавека пазбягаць злых учынкаў. Дзеля рытмічнай арганізацыі верша паэт ужывае ўдалую суаднесенасць радкоў — 11:5, 13:7.

Такім чынам, першыя паэтычныя творы Ф. Скарыны — гэта няроўнаскладовыя, дасілабічныя вершы, у якіх сустракаецца ізасілабізм — роўнаскладовасць у межах вершаванага перыяду. Метрыка вершаў Ф. Скарыны цалкам адпавядае моўна-фанетычным асаблівасцям беларускай мовы. Яны напісаны паводле прынцыпаў танічнай і сілаба-танічнай моўных сістэмаў.

Вершаваныя ўстаўкі ў прадмовах Ф. Скарыны выконвалі надзвычай важныя эстэтычныя функцыі. Паэтычныя радкі стваралі ўзнёслае ўспрыманне ўсёй кнігі, абуджалі эмоцыі і глыбокія пачуцці ў чытача, рыхтавалі яго да сустрэчы з незвычайным, таямнічым, прыгожым.

Паэтычны талент Ф. Скарыны выявіўся на ніве гімнаграфіі — духоўных вершаў у гонар Бога, Маці Божай, святых, якія ён апублікаваў у «Малой падарожнай кніжыцы». Ф. Скарына пераклаў і творча перапрацаваў творы старажытных паэтаў-гімнографаў — Іосіфа Песняпісца, Яна Дамаскіна, Рамана Мілагучнага.

У «Малой падарожнай кніжыцы» сярод мноства духоўных песняспеваў ёсць два акафісты, якія ўтрымліваюць імянныя акравершы Ф. Скарыны, што сведчаць пра гімнаграфічныя здольнасці паэта. Так, «Акафіст Ісусу» змяшчае акраверш: «*Делал доктор Скоринич Францискус*». Як паказаў аналіз, гэты твор быў складзены Ф. Скарынам з перапрацаваных частак песняспеваў папярэдніх гімнографаў.

«Акафіст Іаану Прадцечу» — арыгінальны паэтычны твор Ф. Скарыны, які ўтрымліваў акраверш: «*Писал доктор Скоринич Францискус*». Гэты паэтычны шэдэўр Ф. Скарыны напісаны паводле ўзораў візантыйскіх гімнаў і вельмі блізкі да іх тэматычна. Біблейны персанаж Іаан Прадцеча паслужыў для Ф. Скарыны незаменнай персаніфікаванай асновай для стварэння вобраза станоўчага героя, ідэальнага чалавека, місія якога — выхоўваць і навучаць, быць бездакорным узорам для пераймання, служыць прыкладам добрых справаў і ўчынкаў. Паводле мастацкай канцэпцыі Ф. Скарыны, станоўчы герой — адукаваны чалавек, духоўна трывалы і інтэлектуальна прасветлены, навучае людзей дабру і справядлівасці, нязменна спрыяе развіццю народаў («разные языки житием просветівый»). Ён смела змагаецца з ворагам, цярплівы і надзейны, захоўвае цялесную чысціню, не злоўжывае віном.

Ф. Скарына валодаў унікальнымі філалагічнымі здольнасцямі, што выявіліся на розных узроўнях. Перадусім, ён першым ва ўсходніх славян падрыхтаваў сістэматызаваны кодэкс кананічных біблейных

кніг, аб чым сведчыць дакладны пералік і вызначэнне місіі кожнай з іх у «Прадмове да ўсёй «Бібліі»». Асветнік слушна вылучыў чатыры асноўныя жанрава-тэматычныя групы кніг, што складалі «Біблію», аб чым ён пісаў у «Прадмове да «Першай кнігі Царстваў»»: першая група — законы, навукі і суды Божыя, другая — гістарычныя і летапісныя кнігі, трэцяя — «кнігі аб мудрасці, розуме і навуцы Старога і Новага запаветаў», чацвёртая — кнігі прароцтваў і ўяўленняў.

Ф. Скарына асабіста ажыццявіў пераклад надрукаваных ім кніг «Бібліі». У «Прадмове да «Першай кнігі Царстваў»» ён літаральна пісаў: «О сих всех книгах, *мною на руский язык ново выложенных* и о именах их ширей, в предисловиах от мене на кожныи роздельно положенных, выписано знойдеши».

Рыхтуючы да друку тэксты Святога Пісьма, асветнік грунтоўна займаўся іх глыбокімі тэксталагічнымі апрацоўкамі, экзэгетыкай і герменэўтыкай — каментаваннем біблейных кніг, тлумачэннем незразумелых мясцін на палях, што з’яўляецца адным з вызначальных кампанентаў яго творчага метаду.

Пра ўласныя філалагічныя прынцыпы і характар апрацоўкі біблейных кніг ён паведамляў у «Прадмове да «Псалтыра»»: «Так же положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое «Псалътыри» ни в чем же. Яко суть «онагри» и «геродеево жилище» и «хлябие» и иные слова, которые суть в «Псалтыри» неразумные простым людем. Найдуть е на боцех русским языком, что которое слово знаменуеть. Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить».

Ф. Скарына зыходзіў акурат з таго, што ў тэксце «Бібліі» існуюць два семантычныя ўзроўні: першы — літаральны, знешні і другі — унутраны, глыбінны, духоўны. Асветнік найперш даводзіў, што не толькі асобныя выказванні, але нават кожнае слова ў «Бібліі» мае свой унутраны, патаемны сэнс, які якраз і патрабуе тлумачэння, пэўнага духоўнага напружання. «Написаны суть воистину сие книги внутрь духовне е, разумеющим о тайнах превеликих Божиих». Такім чынам, ён узаконьваў алегарызм, прытрымліваючыся думкі, што ўнутраны сэнс «Бібліі» здольныя зразумець пераважна духоўныя асобы, адукаваныя людзі.

Ф. Скарына ўказваў таксама і на выключную важнасць літаральнага, вонкавага аспекту біблейнага дыскурсу. На яго думку, знешні бок, літаральнае прачытанне «Бібліі» адрасаваны простым людзям: «Написаны теж и зовнутрь, понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий прстый и посполитый, чтучи их или слухючи, может поразумети, что ест потребно к душному спасению его». Ф. Скарына услед за евангелістам Мацвеем лічыў, што просты чалавек можа ўбачыць у Святым Пісьме тое, што нярэдка застаецца неўспрынятым і добра адукаванымі людзьмі.

Пры перакладзе «Бібліі» Ф. Скарына абапіраўся на глыбокі філалагічны аналіз папярэдніх выданняў і выкарыстоўваў старадрукі,

сярод якіх, несумненна, былі тры вядомыя выданні Святога Пісання на чэшскай мове: пражскае (1488), кутнагорскае (1489) і венецыянскае (1506).

У прадмовах, сказаннях і «надпісаннях да раздзелаў» — якія выконвалі функцыю уступных словаў, Ф. Скарына неаднаразова падкрэсліваў значэнне «Бібліі» ў грамадскім і духоўна-культурным жыцці народаў. З натхненнем ён пісаў пра гэты велічны твор у сваёй «Прадмове да ўсёй «Бібліі»».

У «Бібліі» асветнік слушна бачыў скарбніцу мудрасці старажытных народаў. Беларускі інтэлектуал характарызаваў «Біблію» як аснову ўсіх сямі вызваленых навук. Ён рэгулярна падаваў вычарпальную інфармацыю пра кожную з біблейных кніг, паведамляў пра час, месца і абставіны іх напісання, аўтараў, прызначэнні, выхаваўчую ролю, змяшчаў назвы на мове арыгінала, што было новым у літаратурнай традыцыі ўсходніх славян. Ф. Скарына, як правіла, паказваў сутнасць і найважнейшыя ідэі біблейных філасофска-публіцыстычных тэкстаў, сцісла фармуляваў іх асноўныя тэмы і праблемы, акрэсліваў галоўныя сюжэтныя лініі белетрызаваных твораў «Бібліі».

Ф. Скарына, як правіла, акрэсліваў выхаваўчую і адукацыйную місію перакладзеных і выдадзеных ім біблейных кніг. Напрыклад, прызначэнне кнігі «Ісус Сірахаў» ён вызначыў коратка і дакладна: «Сия же книга сама нас добрых обычаев и дел научает более, нежели иные многые книгы, прото ж потребна ест ея всякому человеку чести». Пры гэтым пісьменнік канкрэтна акрэслівае структурна-кампазіцыйную будову твора, усебакова раскрывае ідэйна-стылёвую спецыфіку і характар кожнай асобнай часткі: «Делится же сия книга на двое. Едина часть от зачала книгы до четырдесят четвертое главы. А в той части приводить нас к мудрости и к добрым обычаем путем разуму. Вторая же часть починается от четырдесят четвертое главы даже до конца. В сей же части приводит нас к святости и к добрым делом путем прикладу, припоминаючи нам жития святых».

Менавіта пачынаючы з Ф. Скарыны падобныя грунтоўныя ўводныя словы сталіся істотным мастацка-кампазіцыйным кампанентам у беларускай, украінскай і рускай літаратурах, а таксама пазнейшых шматлікіх выданнях «Бібліі».

Ф.Скарына — выдатны публіцыст, яркі нацыянальны мысліцель і філосаф, пачынальнік рэнесанснай думкі на Беларусі. Найвышэйшай мудрасцю і вяршыняй ведаў ён лічыў самапазнанне, спасціжэнне загадкавай прыроды людзей, выяўленне місіі чалавека на зямлі, асэнсаванне таямніцы смерці. У «Прадмове да кнігі «Іоў»» Ф. Скарына сфармуляваў уласнае філасофскае крэда: «Прото ж и я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарских науках доктор, знаючи сее, *иже ест наивышшая мудрость — розмышление смерти и познание самого себе,* и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу святога Іова руским языком Богу ко чти и людем посполитым к научению».

Як паслядоўны гуманіст, ён аддаваў перавагу не дзяржаве і ўладным інстытутам, а чалавеку, з яго багатым духоўным светам, інтэлектам,

пачуццямі і памкненнямі. У аснове светапогляду беларускага пісьменніка і філосафа ляжыць ідэя прыярытэту асобы над дзяржавай.

Духоўна-інтэлектуальныя пошукі і жыццёвы досвед вялікага палачаніна прывялі яго да пераканання, што найвышэйшай каштоўнасцю на зямлі з'яўляецца чалавек і чалавечае жыццё. Ідэал Ф. Скарыны — гарманічная, дзейная, свабодная асоба, якой уласціва імкненне да самаўдасканалення, развіцця розуму, асоба, якая прагне ўсталявання справядлівага свету — «научившись мудрости, добре жить на свете». Місія чалавека на зямлі палягае на тым, каб скарыстаць дадзены прыродай талент дзеля памнажэння агульнага дабра.

Ф. Скарына выключнае значэнне надаваў ведам, мудрасці, розуму, навуцы, адукацыі, без якіх намагчыма ўдасканаленне чалавека, прагрэс грамадства, дасягненне грамадскай гармоніі, мір і шчасце. У «Прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» ён, падрэсліваючы прызначэнне перакладзенага твора, піша: «Прото ж и я для похвалы Божией и *для посполитого доброго и размножения мудрости, умения, опатрености, розуму и науки* приложил есм працу выложити книгу сию на рускый язык, елика бо прежде писана быша к нашему научению». Да авалодання навукамі і «кніжнай мудрасцю» Ф.Скарына неаднаразова заклікаў чытачоў.

У пашырэнні асветы, ведаў, адукацыі Ф. Скарына бачыў шлях духоўнага ўдасканалення кожнай асобы, аснову імклівага развіцця нацыі і ўсяго грамадства: «Без мудрасці і без добрых парадкаў, — падкрэсліваў гуманіст, — нельга людзям паспалітым жыць на зямлі!». Вельмі высока ацэньваў Ф. Скарына «Прытчы» цара Саламона, паўтараючы за іх стваральнікам словы, што высока ўзносілі чалавечую мудрасць. Захоплена і ўзнёсла Ф. Скарына пісаў пра значнасць для людзей кнігі Філона-філосафа, з характэрнай назвай «Прамудрасць Божая», якая ўваходзіла ў склад «Бібліі». Асветнік акцэнтаваў увагу на тым, што менавіта веды, пазнанне, мудрасць з'яўляюцца найважнейшымі каштоўнасцямі, галоўнымі чыннікамі пазітыўнага развіцця грамадства. У «Прадмове да кнігі «Прамудрасць Божая»» ён яскрава зазначыў: «Много доброго чинить нам премудрость».

Ф. Скарына выдатна ведаў антычную філасофскую спадчыну. У «Прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» ён надзвычай высока ацэньваў Арыстоцеля, адзначаў канструктыўную ролю яго ідэй і пазітыўны ўплыў на пазнейшых мысліцеляў. Заклікаўшы чытачоў да ўважлівага вывучэння кнігі і шматразовага яе прачытання, асветнік падсумоўваў: «И елико крат в ней будеш чести, по кажном чтении новаго нечто научишся, чего жь есь пред тым не умел, вся бо Саломонова и *Аристотелева* божественная и житейская мудрость в сей книзе краткыми словы замкнена ест».

Але Ф. Скарына смела палемізаваў з антычнымі мысліцелямі. Так, разважаючы пра таямніцу стварэння сусвету, ён наўпрост пярэчыў Арыстоцелю, які меркаваў, што чалавек можа спасцігнуць прыроду ўсіх з'яваў, растлумачыць паходжанне кожнай рэчы: «Кто убо от философов мог поразумети, абы Господь Бог словом своим с ни з чего сотворил

вся видимая и невидимая. Старейшине их *Аристотелю*, глаголющу: «З ни с чего — ничто же бысть»».

Вобразы энцыклапедычна адукаваных людзей старажытнасці — вучонага і філосафа Арыстоцеля, мудрага цара яўрэяў Саламона, збіральніка і ўладальніка славутай Александрыйскай бібліятэкі Пталамея Філадэльфа — нязменна хвалявалі творчае ўяўленне пісьменніка. Беларускі асветнік лічыў вельмі важным для адукаванага чалавека грунтоўна ведаць творы айцоў хрысціянскай царквы — Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова, Яна Златавуснага. Ф. Скарына адзначаў асветніцкія вартасці гістарычных аповесцяў — «Троі» і «Александрыі».

Беларускі гуманіст, адзначаючы разнастайнасць захапленняў і зацікаўленняў людзей, прызнаваў за асобай права на ўласны жыццёвы выбар, аб чым красамоўна сведчаць яго сентэнцыі: «Понеже в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя — едины в царствах и в пановании, друзии в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крепости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии, и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многых речах. А тако единый каждый человек имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит». Сцвярджаючы думку пра першаступенную значнасць на зямлі грамадзянскіх свабодаў асобы, Ф. Скарына адзначаў, што самае галоўнае для ўсіх людзей — «навучыўшыся мудрасці, добра жыць на свеце!».

Антрапалогія Ф. Скарыны ўключала фундаментальную праблему «граху» і «пакаяння». Паводле канцэпцыі асветніка, грахі аслабляюць чалавека, даюць сілу яго ворагам. Пакаянне — надзейны шлях да духоўнага і фізічнага ўмацавання. У «Прадмове да кнігі «Суддзяў Ізраілевых» Ф. Скарына акурат зазначаў: «Егда грешимо пред лицем Божиим — укрепляются врази наши душевныи, яко суть диаволы, и телесные, яко суть — поганы. И внегда каемся грехов своих, то посылаеть нам Господь Бог пастырей и докторов, они же научають нас противитися бесовским покусам. Теже князей и воевод добрых, иже боронят нас от рук поганских».

Ф. Скарына адным з першых на ўсходнеславянскіх землях на поўны голас загаварыў пра самакаштоўнасць кожнага з народаў, заклікаў захоўваць тое лепшае, што створана ўсімі пакаленнямі людзей. Ён марыў пра такі парадак у свеце, дзе будуць панаваць — мір, справядлівасць, узаемапавага, роўныя магчымасці для ўсіх людзей. Паводле яго словаў, ідэальным з'яўляецца тое грамадства, дзе існуе «роўная свабода всем, общее именіе всех».

Ф. Скарына выступаў як паслядоўны прыхільнік прававой дзяржавы. Да гэтай тэмы ён неаднаразова звяртаўся ў сваіх творах. Вялікі гуманіст у прадмовах, пасляслоўях і сказаннях настойліва праводзіў думку пра неабходнасць рэгулявання законамі ўсіх сфераў грамадскага жыцця. Паводле яго філасофскага заключэння, чалавечая натура рэ-

гулюецца двума чыннікамі — Госпадам Богам, гэта значыць уласна прыродай, і пісанымі законамі: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано — от Господа Бога, то ест, прироженым, а написанным». Сутнасць «прыроджанага закону», лічыў ён, палягае на тым, каб не чыніць людзям таго, чаго сам не жадаеш мець ад іх.

Паводле слушнага меркавання Ф. Скарыны, асаблівая роля ў грамадстве належала агульнаму, міжнароднаму, дзяржаўнаму, рыцарскаму, купецкаму, сямейнаму і крымінальнаму праву. Беларускі асветнік упершыню поўна і аб'ёмна акрэсліў фундаментальнае прызначэнне, місію заканадаўства. На яго думку, законы павінны рэгламентаваць дзейнасць асобных людзей і станаў, гарантаваць іхныя свабоды і стрымліваць ліхіх людзей страхам пакарання ад благіх учынкаў: «И вчинены суть права или закон для людеи злых, абы боячися казни, усмирили смелость свою, и моци не имели иным ушкодити; и абы добрыи межи злыми в покои жити могли».

Кожны закон, сцвярджаў асветнік, мусіць адпавядаць традыцыям народа, быць справядлівым, грунтоўным, даступным, накіраваным на агульную карысць: «Абы были права их, или закон, — пісаў ён, — почтивыи, справедливыи, можныи, потребныи, пожиточныи подле прирожения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожии, явныи, не имея в собе закрытости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаныи». У «Прадмове да «Першай кнігі Царстваў» Ф. Скарына паказаў вытокі і гісторыю зараджэння права. Ён назваў імёны першых стваральнікаў грамадзянскага пісанага права — грэцкага цара Фаранея, егіпцяніна Меркурыя Трымеіста, афіняніна Салона Філосафа, лакедыманяніна Лікурга і рымляніна Нумы Пампілія, якія пакінулі для карысці сваіх земляў і дзяржаваў грунтоўныя «книги, писма, уставы, права, науку или закон».

Найважнейшае месца ў інтэлектуальным дыскурсе Ф. Скарыны займала катэгорыя «згоды». Асветнік выступаў як паслядоўны прыхільнік грамадскага і сацыяльнага паразумення. Паводле яго слушнага разумення, згода — прыносіць дабро і парадак, а нязгода («распря») — асноўная прычына разбурэнняў і бязладдзя, якія могуць прывесці да знікнення самых магутных дзяржаў. Канцэптуальныя падыходы да гэтай фундаментальнай сацыяльнай праблемы Ф. Скарына сфармуляваў у каментарыях да «Першага паслання Паўла да карынфянаў», дзе ён літаральна пісаў: «Наипервей пишет о *згоде, с нея же все доброе всякому собранию приходит, незгода бо и найболшие царства разрушает*».

Найважнейшае месца ў творах Ф. Скарыны займала патрыятычная тэматыка. Айчына, родны Полацк, беларускі народ — крыніца натхнення, галоўная тэма і асноўныя вобразы яго твораў. Заклік Ф. Скарыны да сучаснікаў шанаваць Бацькаўшчыну і мову вельмі сугучны духу ўсяго еўрапейскага Рэнесансу. Як духоўны запавет нашчадкам гучаць і сёння надзённыя словы асветніка з «Прадмовы да кнігі «Юдзіф», пра святое пачуццё Радзімы, уласцівае ўсім жывым тварэнням: «Понеже

от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная — боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають».

Самаадданае, ахвярнае служэнне сваёй краіне, роднай Айчыне — найважнейшы абавязак усіх сумленных грамадзянаў. Ухваліўшы подзвіг Юдзіфі, якая рызыкавала ўласным жыццём дзеля свайго народа, Ф. Скарына заклікаў суайчыннікаў, часцей прыгадваць яе гераічны чын, чытаць твор як найлепшы ўзор для пераймання: «Абыхом, яко зеръцало, жену сию преславную пред очима имеющее, в добрых делех и в любви Отчины не толико жены, но и мужи наследовали. И всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для Отчины своея не лютовали». Ідэя велічы Радзімы, патрыятычныя заклікі Ф. Скарыны паслужылі істотным фактарам грамадскага паразумення, сталіся трывалай інтэлектуальнай перадумовай фармавання беларускай нацыі і дзяржавы.

Адна з галоўных тэмаў творчасці Ф. Скарыны — веліч матчынай мовы. У сваіх прадмовах асветнік пры кожным зручным выпадку падкрэсліваў, што Святое Пісьмо ён выдае на той мове, з якой яго «літасцівы Бог на свет пусціў». Філалагічная канцэпцыя Ф. Скарыны пацвярджае рэнесансавы лад яго мыслення. Так, існаванне шматлікіх моваў пісьменнік лічыў не Божым пакараннем, а найважнейшым набыткам цывілізацыі. Патрыятычныя ідэі асветніка, сфармуляваныя ім дакладна і аргументавана, сталіся найважнейшым элементам усёй яго светапогляднай сістэмы. Яны гальванізавалі працэсы нацыянальнай кансалідацыі, стваралі трывалы падмурак для станаўлення гуманістычнага грамадства. Пры гэтым Ф. Скарына заўжды выступаў за мірныя дачыненні беларусаў з суседзямі, заставаўся паслядоўным прыхільнікам узаемаразумення паміж усімі народамі.

Вельмі істотнае месца ў Ф. Скарыны займала *тэалагічная* праблематыка. Пры вырашэнні складанейшай тэалагічнай праблемы пра сутнасць Абсалюта беларускі экзэгет прытрымліваўся трынітарнай канцэпцыі, паводле якой адзіны праўдзівы Бог — Святая Тройца — Бог Айцец, Бог Сын і Бог Святы Дух. Тры Божыя персоны, або іпастасі — адзінасутнасныя, маюць агульную прыроду.

Ф. Скарына выступаў супраць манаполіі іерархаў Царквы на права тлумачыць і пашыраць «Біблію». Такім чынам, падобна іншым заходнееўрапейскім гуманістам, ён рыхтаваў тэарэтычную глебу для Рэфармацыі. Менавіта гэтая рэфарматарская ідэя была падхоплена пратэстантамі. Многія з іх, не маючы царкоўнага сану і, галоўнае, дазволу вышэйшых духоўных улад, браліся за пераклады і выданні Святога Пісання на народных мовах.

Значнае месца ў творах Ф. Скарыны займала праблема міжканфесійных і міжцаркоўных дачыненняў. Аналіз зместу яго прадмоваў, пасляслоўяў і надпісаў да раздзелаў, а таксама асаблівасці яго

перакладаў біблейных твораў паказваюць на тое, што славуты гуманіст быў актыўным прыхільнікам і прапагандыстам ідэі царкоўнай і канфесійнай уніі ў межах Хрысціянства. Беларускі асветнік лічыў цалкам пераадольнымі адрозненні паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквою. Шматлікія выказванні Ф. Скарыны красамоўна сведчаць пра ягоную захопленасць якраз ідэяй задзіночання Хрыстовай Царквы ці, прынамсі, глыбокага міжканфесійнага паразумення і дыялогу.

Ф. Скарына аказаў грандыёзны ўплыў на развіццё беларускай і ўсёй усходнеславянскай кніжна-пісьмовай культуры, літаратуры, філалагічнай думкі, філасофіі, выступаючы як наватар і першаадкрывальнік у многіх галінах і сферах. На працягу наступных стагоддзяў з выданняў Ф. Скарыны на Беларусі, Украіне і Маскоўскай Русі рабіліся шматлікія спісы, многія з якіх захаваліся да нашага часу і цяпер зберагаюцца ў кнігасховішчах і архівах Масквы, Ленінграда, Кіева.

У творчасці Ф. Скарыны арганічна спалучаліся ўсходнія і заходнія традыцыі, на грунце якіх фармавалася адметная нацыянальная філасофія, літаратура і культура.

*Іван Саверчанка*

## ПРАДМОВА ДА ЎСЁЙ «БІБЛІІ»

«Біблія» — грэцкае слова. Па-нашаму яно азначае — кнігі. Святы Мацвей так пачынае «Хрыстова дабравешчанне»: «Бівлос генезеос Ісусу Хрысту», што па-руску азначае — «Кніга радства Ісуса Хрыста». Таму можаце тым імем называць усе кнігі Старога і Новага запаветаў, бо «Біблія» поўная якраз усё тое ў сабе замыкае.

Пра «Біблію» піша евангеліст, паплечнік Хрыста, у сваім «Адкрыцці» так: «Убачыў, праваруч сядзячага, — кнігі, напісаныя ўнутрана і вонкава» (Апакаліпсіс 5:1). Сапраўды, напісаныя тыя кнігі з унутраным, духоўным зместам, пра вялікія таямніцы Божыя, як піша апостал: «О, бездань багацця і мудрасці і ведання Божага! Якія неспасцігальныя суды яго і недаследаваныя шляхі яго!» (Рым. 11:33). Напісаны яны гэтаксама і даступна, вонкава зразумела. Такім чынам, не толькі вучоныя людзі іх разумеюць, але і кожны просты, звычайны чалавек, чытаючы або слухаючы іх, можа зразумець, што ў іх карыснае для яго духоўнага выратавання. Як сам Збаўца сказаў: «Слаўлю цябе, ойча, гаспадар неба і зямлі, што ты ўтоіў гэта ад мудрых і разумных, але адкрыў тое дзецям» (Мацв. 11:25).

Грыгорый Вялікі, сусветны настаўнік, гэтаксама вельмі добра пра тую кнігу піша: «Святое Пісанне пераўзыходзіць усе іншыя навукі, паколькі, калі чытаецца, пад простымі словамі ўтрымлівае вялікія таямніцы».

Такім чынам, «Біблія» — навука дзецям і простым людзям.

Для настаўнікаў і мудрых людзей яна — крыніца здзіўлення.

«Біблія» — дзівосная рака! Яна бывае мелкай, і нават авечка можа яе перайсці! Але адначасна — і глыбокай, калі і слон змушаны плысці цераз яе!

У гэтай кнізе — пачатак і канец усёй існуючай мудрасці, бо толькі праз яе можна спасцігнуць Бога ўсётрымальніка!

У гэтай кнізе — усе законы і правы, якімі карыстаюцца людзі ў зямным жыцці! У гэтай кнізе — усе лякарствы душэўныя і цялесныя разам знойдзеце!

Тут — навучанне філасофіі дабранраўнае: як Бога любіць для самога сябе і для бліжняга свайго!

Тут — справа ўсялякага збору людскога і горада, якія праз веру, ласку і згоду паспалітую дабро памнажаюць.

Тут — поўнае навучанне сямі навук вызваленых!

Жадаеш ведаць граматыку, ці, па-нашаму кажучы, грамату, якая вучыць правільна чытаць і гаварыць, — звяртайся да «Бібліі». Чытай у ёй кнігу «Псалтыр».

Наважышся асвоіць логіку, што вучыць пры дапамозе аргументаў адрозніваць праўду ад хлусні, — чытай «Кнігу святога Іова» або «Пасланні святога апостала Паўла».

Задумаеш авалодаць рыторыкай, якая ёсць само красамоўства, — чытай «Кнігі Саламонавы». Гэта ўсё навукі славесныя.

А калі захочаш вучыцца музыцы, гэта значыць, пеўніцы, — шматлікія вершы і песні святых ва ўсёй гэтай кнізе знойдзеш!

Спатрэбіцца табе арыфметыка, якая вучыць хутка і без памылак лічыць, — чатыры «Кнігі Майсеевы» часта чытай.

Хочаш засвоіць навуку геаметрыю, якая па-нашаму завецца землямеранне, — чытай кнігі «Ісуса Навіна».

А калі патрэбна астраномія, альбо інакш зоркалічэнне — знойдзеш на пачатку гэтай кнігі аб сатварэнні сонца, месяца і зорак. У «Ісусе Навіне» прачытаеш аб тым, як сонца стаяла на адным месцы. У «Кнігах Царстваў» — як сонца вярнулася назад на некалькі ступеняў. У святым «Евангеллі» Матфея паведамляецца аб сатварэнні новай зоркі ў час нараджэння спаса нашага Ісуса Хрыста.

Сапраўды, мусіш болей дзівіцца з незвычайнай Боскай моцы, чым вучыцца!

У «Бібліі» — сутнасць сямі навук вызваленых!

Узнікне жаданне ведаць аб ваенных і багатырскіх справах — чытай кнігі «Суддзі» ці кнігі «Макавеяў». Яны значна шырэй і больш праўдзівыя, чым «Александрыя» і «Троя».

Пажадаеш прасачыць гісторыю за тысячы год, летапісанне, — чытай кнігі «Параліпаменана». Там выпісаны ўсе роды, пачынаючы ад Адама да Седэхіі, апошняга цара Іудзіна.

Спатрэбіцца мудрасць і навука добрых нораваў — часта чытай кнігі «Ісус Сірахаў» і «Прыпавесці Саламона».

Над усім тым мы, хрысціяне, патрабуем рэч вечную — душэўнае выратаванне. Таму мы чытаем для настаўлення святое «Евангелле» і імкнемся ў справах трымацца прыкладу збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. З яго дапамогай шукаем шляхі ў вечнае жыццё і царства нябеснае, падрыхтаванае для абраннікаў Божых.

Патрэбна таксама ведаць, што «Біблія» складаецца з дзвюх частак: Старога запавету і Новага. Стары запавет уключае дваццаць чатыры кнігі. Першая кніга — «Быццё» Майсея. У ёй апісваецца сатварэнне свету і зямлі, пачатак людскога роду, узнікненне розных народаў і моў, распавядаецца аб яўрэйскім народзе аж да зыходу яго ў Егіпет.

Другая кніга — «Выхад». У ёй гаворыцца аб нараджэнні Майсеевым, аб дзесяці язвах фараонавых, аб выхадзе з Егіпта сыноў Ізраілевых, аб дзесяці запаведзях Божых і многіх іншых судах яго.

Трэцяя кніга — «Левіт». Пішацца ў ёй аб храме Божым, аб рызах Ааронавых, аб ахвярах і службах левітаў.

Чацвёртая кніга — «Лічбы». Гаворыцца ў ёй аб злічэнні сыноў Ізраілевых, аб дарах князёў, аб прароцтве Валаама і аб 42 станах, дзе адпачывалі яўрэі ў пустыні.

Пятая кніга Майсеева называецца «Другі закон». У ёй прадказваецца святое Евангелле, а таксама скарочана паўтараецца ўсё тое, аб чым падрабязна гаварылася ў ранейшых кнігах. Гэта і ёсць па-грэцку «Пентацеўхан», альбо «Пяцікніжжа Майсеева». Аб ім апостал Павел піша наступнае: «Лепш у Царкве пяць слоў розумам спасцігаць ды іншых вучыць, чым шмат слоў языком паўтараць!» (1 Карынф. 14:19).

Затым — кніга святога «Іова» — люстра доўгацярплівасці. Усе словы ў ёй поўныя розуму. Вершамі і загадкамі напісана. І аб уваскрэшанні цел нашых з мёртвых у ёй ёсць.

Пасля — «Ісус Навін». Апавядаецца ў кнізе аб пераходзе Іардана, вяртанні сыноў Ізраілевых на зямлю абяцаную,

атрыманні Ерыхона-горада, разгроме цароў шматлікіх, падзеле зямлі паміж многімі людзьмі.

«Кнігі Суддзяў»: Афаніэля, Айофа, Варака, Гедэона, Ептая і Самсона — апісваюць смеласць багатыроў і мужоў магутных.

Пры іх змешчана кніжка «Руф», прабабкі цара Давыда.

Пасля ў «Біблії» знаходзяцца кнігі «Чатырох Царстваў» сыноў Ізраілевых. Першыя дзве — па-яўрэйску завуцца «Шмуэль». У іх пішацца аб нараджэнні Самуіла, аб царстве Саула, аб пабоішчах і царстве Давыдавым. Дзве другія — па-яўрэйску завуцца «Млохім». У іх знойдзеш апісанне падзей ад цара Саламона да Ехоніі і ад Ераама — сына Наватава — да цара Осіі, ад яго плянення — да Асірыі. Тут таксама выпісаны сорак спраў цароў Іудзейскіх і цароў Ізраільскіх.

Затым — дзве кнігі «Параліпаменана». У іх тое, што прапушчана ў кнігах Царстваў. У прыватнасці, тут можна прачытаць пра многія роды ад Адама да плянення Ерусаліма царом Наўхаданосарам.

Дзве кнігі «Ездры» апавядаюць аб вызваленні з перскай няволі людзей яўрэйскіх, аб другім адыходзе з Ерусаліма, аб храме Святая Святых. Асобна апісваюцца народы суседнія, іх справы. Таксама гаворыцца аб левітах, што выйшлі.

Потым — кніжка «Тавіёт», у якой выкладзена навука аб тым, як бацькі павінны вучыць сваіх дзяцей.

Пасля — кніжка «Юдзіф». Гэта была жанчына незвычайнай прыгажосці, якая для вызвалення Айчыны не пашкадавала нават свайго жыцця.

За ёй — кніжка «Эсфір». Гэта царыца, якая пазбавіла людзей Ізраілевых ад смерці.

Услед за гэтымі кнігамі ідуць «Песні цара Давыда». Завецца кніга па-грэцку «Псалцірон», а па-яўрэйску — «Цілім». «Песні» падзяляюцца на дваццаць кафізмаў, сто пяцьдзесят псалмоў, дзве тысячы шэсцьсот вершаў альбо прыпеваў.

Пасля «Псалтыра» змешчаны тры кнігі Саламонавы: «Прыпавесці», «Еклезіяст» і «Песня песняў». У першай — навука малалетнім, у другой — мужам, у трэцяй — старым.

За імі — «Кніга Ісуса, сына Сірахава», якая завецца яшчэ «Царкоўнік». Яна ўтрымлівае навуку аб добрых норавах.

Побач з ёю — кніга «Прамудрасць Божая». Там пераважна пішацца аб цярпенні пакутнікаў Божых і аб жыцці святых.

Пасля — кнігі шаснаццаці прарокаў Гасподніх.

Ісая — першы. Ён не толькі прarakуе аб Хрысце, але і падобны да евангелістаў.

Другі прарок Божы — Ерамія. Яшчэ ў чэраве маці ён быў прасветлены і ўжо ў маладосці пачаў прараkаваць. Да ўсяго ён напісаў кніжку «Плач Ераміі».

Трэці прарок вялікі — Езэкііль. Гэты ў пачатку кнігі сваёй прараkуе аб чатырох евангелістах Хрыстовых, а ў канцы — аб храме божым, хаця і надта таямніча.

Чацвёрты прарок вялікі — Данііл, знаўца гісторыі і апавядальнік пра ўсе царствы. Ён прадказаў сапраўдны час прыходу Хрыста на зямлю і яго смерць.

Іншыя прарокі меншыя.

Осія, сын Верыя — першы.

Іаіль, сын Фатуілеў — другі. Ён пісаў аб сашэсці Святога Духа на апосталаў.

Амос, пастыр і прарок Гасподні — трэці.

Аўдзій, ён жа завецца раб Гасподні — чацвёрты.

Іона, сын Амафаў — пяты. Ён, будучы тры дні ў чэраве кітовым, трохдзённае ўваскрэшанне Хрыстова сімвалізаваў.

Міхей ад Марасхі — шосты прарок сярод меншых; аб ім пішацца ў кнігах «Царствы».

Навум — сёмы. Ён, прарокуючы аб Хрысце, гаварыў: «Тут на гарах ногі таго, хто паспавядае і дабравесціць свет».

Авакум — восьмы. Гэты, прарокуючы, абвясціў: «Бог з поўдня прыйдзе і святы ад гары Фаран. Прыкрыла нябёсы слава яго, і хвалой яго зямля поўніцца!»

Сафонія, сын Хузіеў — дзевяты.

Агей — дзесяты. Ён пісаў: «Вось яшчэ крыху і парушу і зямлю, і мора, і сушу, прыгну ўсе народы, і прыйдзе той, каго чакаюць народы!»

Захарыя — адзінаццаты, прадказаў прышэсце ў Ерусалім Хрыста, сядзячым на асле.

Малахія — дванаццаты.

На канцы Старога запавету змешчаны дзве кнігі «Макавеяў». Вось такія кнігі ўваходзяць у склад першай часткі «Бібліі».

Другая частка «Бібліі» — выратавальны Новы запавет. У ім спачатку ідуць кнігі чатырох евангелістаў, альбо «Святое дабравешчанне»: Матфея, Маркі, Лукі, Іаана, якія, нібы калясніца, нясуць на ўсе чатыры бакі свету святое імя Госпада і прастол жыццядайнай Тройцы.

Потым — «Дзеянні» апосталаў. Святы евангеліст Лука, лекар душы, вучыць аб распаўсюджанні Царквы Хрыстовай.

Затым — «Пасланні апостала Паўла», напісаныя да сямі цэркваў. Восьмае — да яўрэяў. Ён таксама павучае Цімафея, Ціта, Філімона. Крыніца невычэрпная і настаўнік усіх народаў!

Пасля — святых: Якава, Пятра, Яна, Юды. Яны пакінулі нам вялікія павучанні: сем саборных пасланняў напісалі кароткімі словамі.

У канцы «Бібліі» змешчана кніга святога Іаана — «Апакаліпсіс», альбо «Адкрыццё».

Колькі слоў, столькі і тайнаў! Аб усіх кнігах «Бібліі», наколькі дазваляў мне мой розум, я напісаў кароткія звесткі. А калі ў нечым памыліўся, прашу разумнейшых, каб выправілі. Прашу вас, дзеля Бога і людзей.

Канец прадмовы да ўсёй «Бібліі».

## ПРАДМОВА ДА «ПСАЛТЫРА»

Усялякае Слова, Богам натхнёнае, — карыснае! Яно вучыць, выкрывае, выпраўляе і карае! «Няхай будзе Божы чалавек дасканалы і скіраваны на ўсякую добрую справу!» — так піша святы апостал Павел. Менавіта дзеля нашага навучання, духоўнага і цялеснага выпраўлення існуюць святыя пісьмы. Адны — дадзеныя нам у Старым і Новым законах, другія — у «Дзеяннях святых айцоў», іншыя — у выслоўях прамудрых настаўнікаў, некаторыя — у песнях і псалмах Давыда і іншых Божых песняроў, што складаюць «Псалтыр».

Тыя пісьмы, якія пералічаны спачатку, звычайна ўтрымліваюць штосьці адно. Так, закон — вучыць, як людзям дасягнуць вечнага жыцця. Пракрокі прадказваюць будучыню: добрую — добрым, злую — злым. «Дзеянні і жыцці святых айцоў» навучаюць нас цярпенню і патрабуюць жыць у страху Божым. Прыпавесці і выслоўі вучаць малых і старых добрым звычаям.

Псалтыр жа, адзіны, усе тыя рэчы ў сабе замыкае, усяму таму вучыць і ўсё прапаведуе! Яго псалмы — гэта скарб, безліч каштоўных камянёў! Яны розную немач духоўную і цялесную выганяюць! Душу і розум прасвятляюць! Гнеў і лютасць уціхамірваюць! Мір і пакой чыняць! Смутак і скруху адганяюць! Пачуцці ў малітвах даюць! Людзей зычлівымі робяць! Ласку і міласць мацуюць! Д’ябла праганяюць, анёлаў на дапамогу заклікаюць!

Псалом — гэта шчыт супраць начных д’ябальскіх спакусаў і страхаў! Пакой у дзённай мітусні і беганіне! Абарона і вяселле малым, пацеха і песня старым! Жонкам — набожная малітва і ўкраса! Дзецям малым — пачатак усялякае добрай навукі, юнакам — памнажэнне іх ведаў, мужам — умацаванне вялікае!

Псалом — святочна ўпрыгожвае голас усёй адзінай Царквы!

Псалом — усялякую супрацiўнасць дзеля Бога выпраўляе!

Псалом жорсткае сэрца змякчае і слёзы з яго, як струменьчык з крыніцы, выводзіць.

Псалом — анёльская песня, духоўны тэмпан, які цела спевамі весяліць і адначасна душу вучыць!

А што яшчэ ёсць, чаго толькі не знойдзеш у псалмах? Няўжо няма там Божай велічы і ўхвалення яго!

Там — справядлівасць!

Там — чысціня душэўная і цялесная!

Там — навука праўды!

Там — мудрасць і розум дасканалы! І ўсе іншыя добрыя звычаі, нібы з крыніцы, струменяць адтуль!

Там ёсць вялікая тайна пра Бога адзінага ў Тройцы!

І аб увасабленні Госпада нашага Ісуса Хрыста!

І аб пакутах яго без віны, і аб уваскрэшанні з мёртвых!

Там ёсць надзея на вечнае жыццё і выратаванне!

Там — боязь страшнага суда і пякельнага агню!

Там — адкрыццё многіх тайнаў схаваных!

Усе тыя рэчы, як у вялікай скарбніцы, знойдзеш у гэтым малым «Псалтыры»!

Ведаючы такія пажыткі ад гэтае кнігі, я, Францішак, Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, загадаў «Псалтыр» цiснуцi рускімі словамі славянскае мовы. Найперш — для ўшанавання і хвалы Бога ў тройцы адзінага і прачыстай маці яго Марыі, і ўсіх нябесных чыноў, і святых Божых. А таксама — для карысці паспалітага люду. І асабліва з тае прычыны, што мяне літасцівы Бог з гэтае мовы на свет пусціў.

А называецца «Псалтыр» — гудзьба, бо ўвесь падобны да гусляў. Як сам цар і прарок, спяваючы, кажа: «Хваліце Госпада ў Псалтыры і ў гуслях!» (Пс. 32:2). Дзеля гэтага прызначыў цар Давыд чатырох вялікіх іерэяў — Азафа і Амана, Ефана і Ідыфума. Выбраў іх сярод усіх людзей, каб гулі на псалтыры перад кіётам Гасподняга запавету і прыпявалі ўвесь час псалмы, аб чым піша ў першых кнігах «Параліпаменана» (1 Параліпаменан 15—16).

Псалтыр адрозніваецца ад гусляў. Гуслі маюць шмат струн, а псалтыр мае роўна дзесяць струн, як пішацца аб тым: «Хваліце Госпада ў псалтыры дзесяцiструнным» (Пс. 91:3—4).

Гэтая гудзьба была ўсталявана Святым Духам на знак дзесяці Божых запаветаў, якія Госпад даў на гары Сінай. Каб мы, калі пелі, чыталі і прамаўлялі «Псалтыр», заўсёды мелі дзесяць Божых запаветаў перад вачыма.

Няхай вам будзе вядома, што на некаторых старонках «Псалтыра» я змясціў назвы раздзелаў з іншых кніг. Дзеля таго, каб пераканаць, што ўсе іншыя Святыя Пісьмы адпавядаюць «Псалтыру», падмацоўваюць адно другое. Таму, калі будзеце чытаць, то знойдзеце назвы тых раздзелаў, напісаныя збоку. Гэтаксама змясціў узбоч некаторыя тлумачэнні для простых людзей, ні ў чым не парушаючы «Псалтыра». Напрыклад, словы — «анагры», «Герадзеева жыллё», «хлябі» ды іншыя, якія ёсць у «Псалтыры», — незразумелыя простым людзям. Таму збоку падаюцца іх пераклады на рускую мову, або што яны абазначаюць.

Гэтаксама разбіў усе псалмы на вершы, падобна да таго, як гэта зроблена ў іншых мовах.

Канец прадмовы да «Псалтыра».

* * *

Гэты «Псалтыр» скончаны з Божай дапамогай, воляй і працай абранага мужа, доктара ў лекарскіх навуках — Францыска, Скарынінага сына з Полацка, у старым месце Пражскім, шостага жніўня 1517 года.

***1517***

## ПРАДМОВА ДА «ПРЫПАВЕСЦЯЎ» ПРАМУДРАГА САЛАМОНА, ЦАРА ІЗРАІЛЬСКАГА

Піша святы Ян у сваім «Евангеллі», што наш выратавальнік сказаў: «Дагэтуль я гаварыў вам прытчамі. Але настае часіна, калі не буду гаварыць вам прытчамі, а проста абвешчу вам пра Айца» (Яна 16:25).

Раней Госпад Бог шматкроць звяртаўся да нас у прытчах, да часу ўвасаблення ад прачыстай Дзевы Марыі, праз святых айцоў і прарокаў, а найбольш — праз цара Саламона. Бо ён прасіў ад Госпада Бога мудрасці і розуму. І адказаў яму Госпад Бог: «Паколькі хацеў ад мяне мудрага слова, а не прасіў сабе многіх дзён, ані багацця, ані душаў ворагаў тваіх, але жадаў сабе мудрасці для навучання судоў, — гэтак і ўчыніў табе паводле просьбаў тваіх. Даў табе такое мудрае і разумнае сэрца, што ніхто ніколі не будзе падобным да цябе» (3 Царстваў 3:11—12). Гэтак піша ў трэцяй кнізе «Царстваў цароў ізраільскіх», а таксама ў другой кнізе «Параліпаменана».

Такім чынам, Госпад Бог даў цару Саламону вялікую мудрасць, як аніякаму іншаму чалавеку. І таму называецца — прамудры, бо быў мудрэйшы за іншых. Саламон, у перакладзе на рускую мову, азначае — мірны, спакойны. Бо быў мір і спакой у часы царавання яго.

Напісаў цар Саламон тры кнігі для нашага навучання. Першая, названая «Парабале», што значыць — «Прыпавесці». Другая — «Эклезіяст», што значыць — «Зборнік». Трэцяя называцца «Песня песняў». У гэтых трох кнігах, воляй Божай, выказаў уласную мудрасць, аб чым сам у тых «Прыпавесцях» кажа: «Напісаў яе трыма спосабамі».

У першай кнізе — «Прыпавесці» — піша пра мудрасць, навуку, добрыя звычаі, запаветы, як маем спраўляць усё і як маем жыць на гэтым свеце. Кажа: «Прыпавесці Саламона, сына Давыдава — для пазнання мудрасці і пакарання, для спасціжэння слова сэнсоўнага» (Прып. 22:20) і інш.

У другой кнізе — «Эклезіяст», або «Зборнік» піша пра мітуслівасць, пра гультайства і стрыманасць. Кажа: «Слова Эклезіяст, сына Давыдава, цара Ізраіля. Мітусня мітуслівая і ўсё мітуслівае» і гэтак далей. Там нас адводзіць ад марнатраўнага жыцця ў гэтым свеце і прыводзіць да вечнага нябеснага жыцця.

У трэцяй кнізе — «Песня песняў» — кажа, калі даканаем гэтае мітуслівае жыццё з ласкай да міласцівага Бога — будзе душа наша радавацца з Госпадам Богам у царстве нябесным. Дае нам прыклад дачыненняў закаханых, кажучы: «Цалуй мяне цалаваннем вуснаў сваіх!» І гэтак да канца, аб чым у час чытання знойдзеш.

«Прытчы» на яўрэйскай мове называюцца «Масшлоф», на грэцкай — «Парабале», на лаціне — «Правербія», а на рускай — «Прытчы» або «Прыпавесці», паколькі мудрасць і навука выказваецца ў іх праз іншасказальнасць, а не праз звычайныя словы. Больш у сабе схаваных таямніц утрымліваюць, чымся напісана словамі.

Складаецца кніга з трох частак. Першая частка — ад пачатку да дзесятага раздзела, другая — да дваццаць пятага, трэцяя — да канца. Адпаведна, пачаткі тых раздзелаў — першы, дзесяты і дваццаць пяты.

У першай частцы піша, як бацьку належыць навучаць сына мудрасці, розуму, майстэрствам, страху перад Богам і іншым добрым норавам.

У другой частцы Саламон выкладае разнастайныя прыпавесці, што утрымліваюць добрую або кепскую рэч. Кожная з пры-

павесцяў сэнсава самастойная, не мае сувязі з папярэдняй ці наступнай.

У трэцяй частцы падаюцца выслоўі цара Саламона, што былі сабраныя пасля яго смерці ад мужчын, навучаных Езэхіем, царом Іудзіным. У гэтай частцы прыпавесці больш таямнічыя, чымся ў папярэдніх. Таксама яны адрозніваюцца параўнаннямі адных рэчаў з другімі.

Саламон сказаў тры тысячы прыпавесцяў, якія запісаны ў пяці тысячах вершаў.

Ён падаў свае развагі пра паходжанне дрэў і траў, пачаўшы ад кедравых дрэваў, што растуць на Ліванскай гары. Нават распавёў пра траву ісоп, што расце пры мурах.

Мудра Саламон распавёў пра паходжанне звяроў, птушак, паўзуноў і рыбаў. Піша аб іх у трэціх кнігах «Царстваў цароў ізраільскіх».

Гэтыя кнігі карысна чытаць усякаму чалавеку: мудраму і неразумнаму, багатаму і беднаму, маладому і старому. А найперш тым, хто мае намер засвоіць добрыя норавы, спасцігнуць сапраўдную мудрасць і навуку.

Доўгае жыццё, міласэрнасць і праўду Бог дасць людзям у тым выпадку, калі яны прыслухаюцца да прыпавесцяў, выказаных у гэтай кнізе, і будуць трымацца іх. Сам цар Саламон пра тое ніжэй гаворыць. У гэтых прыпавесцях схавана вялікая мудрасць, як моц у каштоўным камені тоіцца, і як золата — у зямлі, і як ядро — у арэху! Хто яе знойдзе, той здабудзе міласць і атрымае дабраславенне ад Госпада, і прыйдзе да яго ўсё добрае.

Хвала і бясконцая пашана мудрасці! Яна — маці ўсіх спраў, настаўнік усякага добрага навыку! У ёй ваісціну ёсць дух — разумны, разважлівы, сціплы, даступны, рухомы, несапсаваны, сапраўдны, салодкі, чысты, сталы, дабротлівы і ўсімі астатнімі добрымі цнотамі мудрасць надзелена!

Я, Францішак, Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, разумеючы, што без страху Божага, і без мудрасці, і без добрых парадкаў нельга на зямлі жыць пачціва людзям паспалітым, загадаў ціснуць рускаю моваю «Прытчы» альбо «Прыпавесці» прамудрага Саламона, цара Ізраілева. Найперш для чытання і дзеля ўхвалы стваральніка, выратавальніка, суцяшальніка, Бога ў тройцы адзінага. А таксама дзеля святой, дабраславеннай, прачыстай яго маці Марыі, дзеля ўсіх нябесных чыноў, святых і свяціцаў Божых. Затым, дзеля карысці звычайных і простых людзей, для пашырэння добрых звычаяў. Каб людзі сталі мудрэйшымі, добра жылі на свеце, хвалілі

міласцівага Бога гэтак, як належыць яго вялікай высокасці і вяльможнасці імя яго святога.

Канец прадмовы да кнігі «Прыпавесці» прамудрага Саламона, цара ізраільскага.

Кніга «Прыпавесці» прамудрага Саламона, цара ізраільскага складаецца з трыццаць аднаго раздзела.

У іх Саламон піша пра мудрасць, страх перад Госпадам, пра службу Госпаду, пра навуку, пра вытокі злых нораваў, пра навучанне цнотам і добрым звычаям, пра жаноцкую хітрасць, пра добрых і злых цароў, пра справядлівасць, пра суды, пра шкодныя рэчы, пра ненасытных, пра нейкіх звяроў і іх дзіўнае нараджэнне, пра цяжкія для пазнання з'явы ды пра іншыя шматлікія і разнастайныя рэчы.

***1517***

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «ІСУС СІРАХАЎ»

Ісус Сірахаў паходзіў з яўрэйскага народа, ад калена Леўгіева. Ён нарадзіўся ў сям'і Сіраха і таму завецца Ісус Сірахаў.

Гэтую кнігу напісаў сам Ісус Сірахаў на яўрэйскай мове, а потым, на просьбу егіпецкага цара Пталамея Эверэета, пераклаў на грэцкую мову.

Сірах быў сын Ісуса, сына Еседэхава.

Таго Ісуса Еседэхава, дзеда Ісуса Сірахава, і яшчэ семдзесят аднаго выбранага вучонага паслаў у Александрыю знатны ерусалімскі яўрэй Елізар, па просьбе егіпецкага цара Пталамея Філадэльфа — другога цара пасля вялікага Аляксандра Македонскага. Гэта былі надзвычай адукаваныя людзі, яны бліскуча ведалі Божы Закон, творы прарокаў і іншыя кнігі. Яны, натхнёныя Святым Духам, дасканала валодалі яўрэйскай і грэцкай мовамі, спасціглі глыбіні філасофіі.

Гэтыя семдзесят два настаўнікі пераклалі з яўрэйскай мовы на грэцкую Божы Закон, дадзены Майсею на Сінайскай гары: пяць кніг Майсеевых, шаснаццаць прарокаў, кнігі суддзяў царстваў, псалмы Давыда, мудрасць Саламонаву і іншыя кнігі, якія, каб быць карацей, няма патрэбы тут ўсе пералічваць.

У адпаведнасці з загадам Пталамея Філадэльфа, усе кнігі былі напісаныя на грэцкай мове. Цар затым размясціў іх ва ўласнай бібліятэцы, побач з іншымі каштоўнымі кнігамі, якіх там налічвалася больш за сорак тысяч.

Цар Пталамей Філадэльф быў незвычайным міласнікам навук і мудрасці. Ён вырашыў пакінуць пра сябе вечную славу і памяць як прыхільнік кніг і навук, а не як збіральнік царскіх скарбаў, што хутка мінаюць.

Пасля смерці Пталамея Філадэльфа ў Егіпце пачаў кіраваць яго сын — Пталамей Эверэет. Менавіта ён паслаў у Ерусалім па Ісуса Сірахава, каб той прыехаў да яго ў Александрыю.

Ісус Сірахаў, праз нейкі час знаходжання ў Александрыі, нарэшце трапіў у царскую кніжніцу і ўбачыў там незлічонае мноства разнастайных кніг. Там ён адшукаў таксама працы свайго дзеда — Ісуса Еседэхава. І нясцерпна захацелася яму таксама пакінуць пасля сябе памяць, як пакінуў продак яго. І каб памяць гэта не згінула праз вякі, аб чым ён коратка кажа ў сваёй прадмове. Таму Ісус Сірахаў напісаў гэтую кнігу, а затым пераклаў з яўрэйскай мовы на грэцкую. Па-грэцку яна называлася «Панарэтас», што перакладаецца як скарбніца ўсіх добрых нораваў.

Такім чынам, Ісус Сірахаў напісаў гэтую кнігу ў часы егіпецкага цара Пталамея Эверэета, за дзвесце дзевяць гадоў да нараджэння Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Пазней, у чатырыста дваццаць дзевятым годзе пасля нараджэння Хрыстова, святы Герасім-прэсвітэр, што быў на Іардане, пераклаў яе з грэцкай на лацінскую мову і назваў «Эклезіястыкус», што па-руску перакладаецца — «Царкоўнік», паколькі святой Царкве гэтая кніга вельмі патрэбная.

У ёй Ісус Сірахаў піша пра царкоўную навуку і добрыя норавы. Найбольш распавядае пра мудрасць, боязь Госпада, пра Божае Слова, аб справядлівасці, веры, любові, надзеі, чысціні, службе Богу, доўгатрыванні, пакорлівасці, міласціны, трываласці, цвярозасці, умеранасці, пачцівасці, шчодрасці, ціхасці, сяброўскасці, пра навуку Божага Закона, аб паслухмянасці да бацькоў сваіх, аб уласных паводзінах, пра злое і добрае сяброўства, пра ўхваленні святых мужоў, пра славу праведных цароў, пра вартасці Божых прарокаў і пра іншаыя добрыя звычаі і норавы знойдзеш, калі будзеш чытаць гэтую кнігу. І колькі разоў будзеш яе перачытваць, кожны раз знойдзеш нешта істотнае для сябе, чаго раней не ведаў, бо ў гэтай кнізе ў кароткім выглядзе сфармулявана і ўтрымліваецца ўся Саламонава і Арыстоцелева божая і жыцейская мудрасць.

Таму і я, дзеля пахвалы Бога, дзеля агульнага дабра, пашырэння мудрасці, ведаў, абазнанасці, розуму і навукі прыклаў намаганні перакласці гэтую кнігу на рускую мову. Бо яна напісана была дзеля нашага навучання, як кажа святы апостал

Павел да рымлянаў: «Міласцівы Бог паслаў нам Пісьмы на розных мовах дзеля таго, каб мы, іх чытаючы, яго шанавалі, яму служылі і ў яго верылі. І каб мелі мы добрыя норавы і добрыя справы чынілі». Бо, як без веры не можам знайсці ласкі Божай, гэтак і вера без добрых спраў — ёсць мёртвая.

Гэтая кніга навучае нас добрым норавам і добрым справам больш, чымся якія іншыя кнігі, таму і належыць чытаць яе кожнаму чалавеку.

Ісус Сірахаў напісаў гэты твор паводле кніг, напісаных царом Саламонам. У сціслых словах замыкае вялікі розум і шырокія пазнанні, аб чым сам піша ва ўласнай прадмове: «Убачыце нас як паслядоўнікаў вобраза мудрасці». І далей: «Гэта ёсць мудрасці Саламонавы».

Дзеліцца гэтая кніга на дзве часткі. Першая частка — ад пачатку кнігі да сорак чацвёртага раздзела. У ёй прыводзіць нас да мудрасці і добрых звычаяў шляхам розуму. Другая частка пачынаецца ад сорак чацвёртага раздзела і да канца. У ёй прыводзіць нас да святасці і добрых справаў шляхам прыкладу, згадваючы жыцці святых, якія добра жылі на свеце, а па смерці дасталі вечную славу.

Канец прадмовы.

*1517*

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ ПРАМУДРАГА ЦАРА САЛАМОНА «ЭКЛЕЗІЯСТ»

Прамудры Саламон, цар Ізраіля, напісаў тры кнігі. Першая па-яўрэйску завецца «Масшлоф», па-грэцку — «Парабале», палатыні — «Правербія», а па-руску — «Прыпавесці Саламона». Другая кніга, якую ён напісаў, па-яўрэйску завецца «Коэлэф», па-грэцку — «Эклезіяст», па-латыні — «Канцыянатар», па-руску — «Зборнік». Трэцяя кніга цара Саламона завецца «Сіра-Сірым», па-латыні — «Канцікум-Кантыкорум», а па-руску — «Песня Песняў».

У першай сваёй кнізе, якая вядома пад назвай «Прыпавесці», піша Саламон аб навуцы для моладзі, аб тым, як усе бацькі павінны вучыць сваіх дзяцей адзінаму, хаця і кожнага паасобку. Пра гэта напісаў я шырэй у прадмове да самой кнігі «Прыпавесці» Саламона.

У гэтай кнізе — «Эклезіяст», або «Зборнік», дае Саламон навуку, якая патрэбна ўсім людзям, што дасягнулі паўналецця.

Ён напамінае кожнаму аб марнасці, цяжкасцях і бедах зямнога жыцця.

Як вядома, усе людзі на свеце скіроўваюць свой розум і сэрца на пэўныя рэчы. Адны — на царствы і панаванне. Другія — на багацці і скарбы. Трэція — на мудрасць і навуку. Чацвёртыя — на цялесную моц і прыгажосць. Пятыя — на набыццё маёмасці і шматлікіх статкаў. Шостыя — на шчодрыя яствы і неўтаймаваныя пралюбадзействы. Іншыя — на дзяцей, на сяброўства, на службу, на вайсковыя поспехі і многія іншыя рэчы. Такім чынам, кожны чалавек мае штосьці такое, што больш за ўсё астатняе яму даспадобы. Асэнсаваўшы ўсё, прамудры Саламон, як у люстэрку, паказаў у сваёй кнізе кароткімі выслоўямі гэтыя рэчы. Вось які галоўны вывад зрабіў ён у канцы: «Марнасць над марнасіцю, усё марнае, нават — прыцясненне духоўнае!» (Эклезіяст 1:2).

У гэтай кнізе мы зможам падрабязна пазнаёміцца з тым, што гаворыць цар Саламон аб людскіх мыслях і схільнасцях. Так, у адным месцы ён, напрыклад, піша: «Няма нічога лепшага, чым ежа, пітво і дабро для душы сваёй» (Эклезіяст 2:24), а ў іншым — наадварот: «Лепей пайсці ў дом плачу, чым у дом балявання» (Эклезіяст 7:2). І яшчэ піша: «Няма вялікай розніцы паміж мудрым і невукам, бо ўсё роўна канец у абодвух аднолькавы» (Эклезіяст 2:12—14). А ў іншым месцы гаворыць супрацьлеглае: «Як свет пераўзыходзіць ноч, так мудры — невука. Мудры мае духоўныя вочы — свой розум, а неразумны — у цемры блукае» (Эклезіяст 2:13—14).

І аб іншых рэчах у гэтай кнізе Саламон піша супярэчліва. Прычынай гэтых разыходжанняў з’яўляецца тое, што думкі і схільнасці ў розных людзей бываюць розныя: адзін любіць адно, таму і ўхваляе гэта, а другі, наадварот, — супрацьлеглае. Але ўсе прывязанасці людскія і іх духоўную адданасць цар Саламон палічыў марнасцю і прыцясненнем душы.

На заканчэнне гэтае кнігі ён выявіў свой розум, калі гаварыў: «Канец гаворкі ўсе разам паслухайце: Бога бойся і запаведзі яго беражы, тады будзеш сапраўды дасканалым чалавекам!» (Эклезіяст 12:13).

Называецца гэтая кніга «Зборнік» таму, што не для нейкага аднаго чалавека напісана, а для ўсяго збору людзей. Яна выяўляе звычкі і схільнасці не аднаго чалавека, а ўсяго збору. Менавіта з гэтай прычыны і завецца гэтая кніга — «Зборнік».

Канец прадмовы.

*1518*

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «ПРАМУДРАСЦЬ БОЖАЯ»

Гэтую кнігу, названую «Прамудрасць», напісаў Філон-філосаф грэцкай мовай, пра што кажа святы Герасім у сваёй прадмове, напісанай да гэтага твора.

Напісана кніга ў 166 годзе да нараджэння Ісуса Хрыста, у часы Пталамея Філапатара, цара егіпецкага. Ён быў шостым царом пасля вялікага цара Аляксандра Македонскага.

Усім вядома, што мудры цар Саламон шмат прытчаў і выслоўяў сказаў, якія занатаваны ў трэцяй кнізе «Царстваў цароў Ізраіля». Гэтаксама і гэтая кніга «Прамудрасць» напісана паводле словаў мудрага цара Саламона, што вынікае з дзевятага раздзела, дзе Філон-філосаф змяшчае словы Саламона, кажучы: «Ты, Госпадзе, паставіў мяне царом над людзьмі тваімі і суддзёй сыноў і дочак тваіх. І загадаў мне ўзвесці храм на тваёй святой гары». Гэтыя словы прамовіў Саламон, калі прасіў у Госпада Бога мудрасці.

Філон-філосаф паходзіў з калена Леўгіева, з горада Александрыі. Ён жыў шмат пазней за цара Саламона, але меў нейкія яго кнігі і акурат паводле іх напісаў свой твор.

Назоў гэтае кнігі — «Прамудрасць», бо пішацца ў ёй пра вечную мудрасць, якая ёсць Божае слова — збаўца наш Ісус Хрыстос. Раней мудрасць зыходзіла ад прамудрага цара Саламона. Вельмі мудрыя рэчы напісаны ў гэтай кнізе.

Кніга можа быць падзелена на дзве часткі. Першая частка — да дзесятага раздзела. Другая частка — ад дзесятага раздзела і да канца.

У першай частцы прыводзіць нас да спасціжэння мудрасці праз розум. Распавядае нам пра справядлівасць, аб Святым Духу, пра злаблівую нараду няверных жыдоў, якія пастанавілі прадаць Сына Божага, пра святых пакутнікаў, што цярпелі дзеля Бога, пра смерць катаў, аб прамудрасці і аб тым, як шмат добрага чыніць нам прамудрасць.

У другой частцы прыводзіць нас да спасціжэння мудрасці шляхам прыкладаў. Распавядае пра ўзорныя ўчынкі святых айцоў, пачынаючы ад Адама і да Майсея, а таксама тых людзей, якіх ён вывеў з Егіпта. Піша аб тым, як шмат дабра і вялікіх цудаў учыніў нам Бог сваёй прамудрасцю. Адводзіць нас ад паганскага ідалапакланення і прыводзіць да пазнання Бога-стваральніка праз бачныя рэчы, створаныя Госпадам. Таксама піша пра ўхвалу сапраўднага і жыватворнага крыжа, пра Божую справядлівасць, пра вялікасць лёсаў яго, пра розныя пакуты грэшных людзей ды пра іншыя дзівосныя і вялікія Божыя шчадроты і міласці, якія

чыніў абраннікам сваім. Таксама піша пра болі, помсту і пагібель злых людзей, бо Бог напускаў на іх грэх. Усё гэта ў кнізе ў часе чытання знойдзеш.

Канец прадмовы да кнігі «Прамудрасць».

*1518*

## ПРАДМОВА ДА «ПЕРШАЙ КНІГІ ЦАРСТВАЎ»

Госпад Бог рознымі шляхамі дае нам, яго людзям, навуку і законы. Даваў іх ад пачатку свету і дае да сённяшнягя дня.

Найперш рукою Майсея, раба свайго, даў яўрэям Стары Запавет. Затым, нам, хрысціянам паслаў дабравешчанне. Як кажа апостал Іаан: «Закон дадзены праз Майсея, а ласка — Госпадам нашым Ісусам Хрыстом» (Яна 1:17).

Божай воляй і стараннямі людзей пісаліся іншыя законы і статуты, яшчэ да Божага ўвасаблення праз прачыстую дзеву Марыю. Так, цар Фараней напісаў законы для грэкаў; Меркурый Трымеіст — для егіпцянаў; Салон-філосаф — для афінянаў; Навум Пампеіус, які стаў царом пасля Ромула, напісаў законы для рымлянаў. Гэтаксама іншыя цары і мудрыя людзі стваралі для сваіх народаў законы, статуты, правы, навукі і розныя кнігі. Дзеля сціпласці, усе іх тут не буду згадваць. Тым больш, што нам належыць чытаць і шанаваць, перадусім, кнігі Старога і Новага запаветаў, якія вядуць нас да выратавання.

Сярод кніг Старога і Новага запаветаў вылучаюцца ў першую чаргу Божыя навукі і суды. Да іх належаць: чатыры кнігі евангелістаў — Мацвея, Маркі, Лукі і Іаана, пяць кніг Майсея. Першая, якая завецца ў яўрэяў — «Брэсшыф», у нас называецца «Быццё»; другая — «Гелесмоф», па-нашаму «Выхад»; трэцяя — «Ваікра», па-нашаму «Левіт»; чацвёртая — «Ваідабэр», па-нашаму «Лічбы»; пятая — «Гелегадборым», па-нашаму «Другі закон». Усе пяць кніг Майсея называюцца «Тора», гэта значыць — «Закон».

Наступная група кніг, дадзеных нам Богам, — летапісы і апісанні падзеяў мінулага. Найперш гэта кнігі, якія называюцца «Дзеянні апосталаў». Затым, у другім шэрагу гістарычных твораў, — кніга «Ісус Навін», якую яўрэі называюць «Эсшуэ Бен нун». Затым «Кнігі Суддзяў», або па-яўрэйску «Сафцім». Да ліку гістарычных належыць кніга «Руф», паколькі ў ёй апавядаецца пра падзеі, што адбываліся з Руф у часы суддзяў. У трэцім шэрагу летапісных кніг Старога Запавету знаходзяцца першая і другая

кнігі Царстваў, якія яўрэі называюць «Самуіл». Пра прычыны такога іх назову гаварылася мною раней. У апошнім, чацвёртым шэрагу гістарычных твораў — трэцяя і чацвёртая кнігі Царстваў, якія інакш называюцца «Малахім». У іх распавядаецца пра цароў, што правілі 12 каленамі сыноў Ізраіля. Пасля іх — дзве кнігі «Параліпаменан», што ў перакладзе з старагрэцкай азначае «Кароткі летапісец». Яўрэі называюць іх «Дыбрэ гаіомін», што літаральна перакладаецца як «Словы дзён». Да гэтай групы належаць таксама кнігі «Ездры», «Нееміі», «Тавіф», «Юдзіф», «Эсфір» і «Іоў». Заключаюць спіс гістарычных старазапаветных твораў дзве «Кнігі Макавеяў».

Трэцяя група твораў, дадзеных нам Госпадам Богам, — кнігі Старога і Новага запаветаў пра мудрасць, розум і навукі. Гэта, найперш, пасланні апостала Паўла: адно да рымлянаў, два да карынфянаў, адно да галатаў, адно да эфесянаў, адно да філіпісянаў, адно да каласянаў, два да селунянаў, два да Цімафея, адно да Ціта, адно да Філімона, адно да яўрэяў. Да гэтае групы належаць саборныя пасланні іншых апосталаў: адно Якава, два Пятра, тры Яна, адно Юды. З Старога Запавету сюды таксама адносяцца шэраг твораў. Тры кнігі Саламона: першая — «Масшлоф», якая ў нас называеца «Прытчы»; другая — «Коэлэф», гэта значыць «Эклезіяст», або «Зборнік»; трэцяя — «Сіра Сірым», што завецца «Песня Песняў». Затым кніга «Прамудрасць Божая». Пасля кніга «Ісус Сірахаў», якая па-грэцку завецца «Панарэтас», або «Эклезіяст». Пра ўсе гэтыя творы, перакладзеныя мною на рускую мову, і падрабязна пра іх найменні чытай у маіх прадмовах, змешчаных перад кожнай з названых кніг.

Чацвёртая група твораў, дадзеных нам міласэрным Богам, — прароцтвы і ўяўленні. У іх прадказваюцца добрыя і кепскія падзеі ў будучыні. Так, у Хрыстовым выратавальным Новым Запавеце прароцкай з’яўляецца кніга Яна «Апакаліпсіс», або панашаму «Уяўленне». Колькі словаў, столькі і таямніцаў Божых гэтая кніга ў сабе замыкае! З кніг Старога Запавету да прароцкіх належаць: «Псалтыр», «Ісая», «Ерамія», «Плач Ераміі», «Варух», «Езэкііль», «Данііл». Потым кнігі дванаццаці пракрокаў, якія яўрэі называюць «Фарэасра»: «Осій», «Іаіль», «Аўдзей», «Іаан», «Міхей», «Навум», «Авакум», «Сафонія», «Агей», «Захарый», «Малахій».

Усе творы Старога і Новага запаветаў, разам сабраныя, называюцца «Біблія», што па-руску азначае «Кніга». Яна мусіць чытацца раней за творы ўсіх святых айцоў.

Я, Францыск Скарына, пры друку падаваў назовы кожнай з біблейных кніг. Прычым на кожнай старонцы ёсць кароткія сведчанні пра прыналежнасць іх да той або іншай кнігі [...]

## СКАЗАННЕ ДА КНІГІ МАЙСЕЯ «ДРУГІ ЗАКОН»

Чалавечая натура рэгулюецца двума чыннікамі: Госпадам Богам, гэта значыць законамі прыроды і пісанымі законамі.

Выкананне прыроднага закона палягае на тым, каб чыніць людзям тое, што самому прыемна атрымліваць ад іх, і таго не чыніць людзям, чаго сам не жадаеш мець ад іх. На гэтым падмурку, як на яснай раніцы, складзены ўсе напісаныя законы. Паводле словаў збавіцеля нашага Ісуса Хрыста, які кажа: «І вось усё, што хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабіце ім; бо ў гэтым закон і прарокі» (Мацв. 7:12).

Гэты закон напісаны ў сэрцы кожнага чалавека, паводле апостала Паўла, які піша: «Бо, калі язычнікі, не маючы закона, ад прыроды законнае робяць, дык, не маючы закона, яны — самі сабе закон. Яны паказваюць, што дзеі закона ў іх напісаны ў сэрцах» (Рымлян. 2:14—15).

Ад пачатку веку, калі Бог сатварыў першага чалавека, напісаў гэты закон у яго сэрцы. Таму Адам і Ева, першабацькі нашыя, усвядомілі свой грэх, што не паслухаліся стваральніка свайго і схаваліся ад Божага вока сярод райскіх дрэваў. Каін таксама змог усвядоміць свой грэх, што забіў брата свайго Авеля, бо сказаў: «Беззаконне маё вялікае, каб пра міласэрнасць маліць» (Быццё 4:13).

Тым жа звычаем і цяпер кожны асобны чалавек, які мае розум, спазнае, што аслушэнства, забойства, пералюбства, нянавісць, збіццё, несправядлівасць, злабліваcць, няволя, шкадлівасць, ганарлівасць, злаcлоўе, лютасць, паклёпніцтва, зайздрасць і таму падобнае — ёсць зло. Бо ніхто не жадае атрымліваць гэтакіх рэчаў ад іншых.

Такім парадкам, раней за ўсе законы і пісанае права Бог даў усім людзям прыроджанае права, сутнасць якога выказана адным сказам: «Шануй бліжняга свайго, як сам сябе» (Галат. 5:14).

Пісаны закон, дадзены ад Бога, — гэта кнігі Майсеевы і святое Евангелле. Законы, устаноўленыя людзьмі, — гэта правілы святых айцоў, напісаныя на саборах, а таксама земскія правы, ухваленыя кожным народам з іх старэйшымі, як ім належыць найлепей уладкоўваць жыццё.

Земскія правы ў кожнага народа маюць свае адметнасці, бо адно пасуе адным, а другое — іншым. Але ёсць у іх і агульнае, усе правы або законы мусяць быць вартымі, справядлівымі, неабходнымі, істотнымі, карыснымі паводле прызначэння, адпаведнымі звычаям зямлі, часу і месцу, прыгожымі, яскравымі, празрыстымі, напісанымі не для аднаго чалавека, а для агульнага дабра.

Пра тое, хто з людзей і якія народы пачалі іх першымі пісаць, сцісла паведаміў у маёй «Прадмове да Першай кнігі царстваў».

Створаны правы або закон дзеля дзвюх мэтаў. Каб злыя людзі, баючыся пакарання, стрымлівалі безадказнасць сваю і не мелі моцы шкодзіць іншым. З другога боку, каб добрыя людзі, жывучы сярод злых, маглі мець спакой, як святы апостал піша: «А мы ведаем, што закон добры, калі хто законна карыстаецца ім. Ведаем, што закон пакладзены не праведніку, а беззаконным і непакорлівым, бязбожным і грэшным, распусным і апаганеным, паглумнікам бацькі і маці, душагубам, блудадзеям, мужаложцам, чалавеказдзірцам, паклёпнікам, скаталожцам, хлусам, крывапрысяжцам і ўсяму, што супраць здаровага вучэння» (1 Цім. 1:8—10).

Належыць ведаць, што закон або права мае розныя віды і найменні.

Першае — агульнае права. Яно названа гэтак, бо ўсе народы агулам маюць яго. Агульнае права ўключае — жаніцьбу мужчын і жанчын, стараннае выхаванне дзяцей, паразуменне суседзяў, вяртанне пазыкаў, супраціўленне гвалту, роўную свабоду ўсім, агульную карысць для ўсіх. Паводле гэткіх законаў жывуць тыя, хто верыць у Хрыста, яго ўзыходжанне на неба, як напісана: «А ў мноства людзей, што ўверавалі, было адно сэрца і адна душа; і ніхто нічога з дастаткаў сваіх не называў сваім, а ўсё ў іх было супольнае» (Дзеянні 4:32).

Другое права — міжнароднае, што ўхвалена многімі народамі. Яно ўключае — заваяванне чужых земляў, заснаванне местаў і гарадоў, прапусканне паслоў без перашкодаў, выкананне мірных пагадненняў, абвяшчэнне войнаў непрыяцелям.

Трэцяе права — царскае. Аб ім піша Самуіл: «Вось якія будуць правы цара, што будзе цараваць над вамі — сыноў вашых возьме і зробіць з іх наезнікаў і ганцоў, паставіць ваяводамі і сотнікамі, зробіць сваімі збройнікамі» (1 Царстваў 8:11—12). Пра тое ж апостал піша: «Дык вось, падпарадкоўвайцеся ўсякаму людзскому начальству, дзеля Госпада. Хай тое цару, як найвышэйшай уладзе, хай тое намеснікам, як ад яго пасыланым на пакаранне злачынцаў і на заахвочванне дабрачынцаў, бо такая

ёсць воля Божая» (1 Пятра 2:13—14). І яшчэ: «Бо начальнік — ёсць Божы слуга, табе на дабро. А калі робіш зло — бойся, бо ён нездарма трымае меч» (Рымлян. 13:4). І ніжэй піша: «Аддавайце кожнаму належнае: каму падатак — падатак, каму мыта — мыта, каму страх — страх, каму гонар — гонар» (Рымлян. 13:7).

Наступнае права — рыцарскае, або вайсковае, якое ўжываецца на вайне. Яно ўтрымлівае правілы, як шыхтаваць палкі, ведаць сваё месца, разумець голас труб, дзяліць заваяванае, аддаваць падаткі. Пра гэта піша евангеліст: «Пыталіся ў яго таксама і воі: а нам што рабіць? І сказаў ім: нікога не крыўдзіце, не паклёпнічайце і задавальняйцеся сваёй платай» (Лукі 3:13).

Іншыя віды права — мескае, марское, купецкае. Але пра іх ды іншыя законы пісаць не буду, дзеля сцісласці.

Але ўсе правы, або статуты, Божы закон у сабе замыкае. Ён складаецца з дзвюх частак. Стары закон уключае пяць кніг Майсеевых, найгалоўнейшая з якіх — «Другі закон», бо ў ёй сцісла фармулюе ўсё, аб чым піша ў астатніх чатырох.

Стары закон дзейнічаў да ўвасаблення Слова Божага, як піша святы Павел: «Але калі споўніўся час, Бог паслаў Сына свайго, які нарадзіўся ад жанчыны і хадзіў пад законам, каб адкупіць падзаконных, каб нам атрымаць усынаўленне» («Пасланне апостала Паўла да галатаў» 4:4—5). Ад гэтага моманту пачаўся Новы закон выратавальны. Ён будзе дзейнічаць да сканчэння веку, бо сам Збаўца кажа: «Неба і зямля мінуцца, а словы мае не знікнуць» (Евангелле паводле Лукі 21:33).

Майсей Святым Духам ведаў пра наступленне Новага Хрыстовага закону. Пасля яго павінен быў быць закон ласкі, гэта значыць святое Евангелле. У азнаменаванне Новага закону ён і назваў сваю кнігу «Другі закон», пра што паведаміў: «Госпад Бог ваш паставіць вам з братоў вашых прарока, як мяне. Слухайцеся яго ва ўсім, што ён не скажа вам» (Дзеянні 3:22).

Пра гэтыя два законы — Стары і Новы да Майсея сведчылі тры святыя прарокі. Апошні закон яны называлі больш значным, чымся першы.

Так, Аўрам меў двух сыноў: аднаго ад рабыні, другога — ад вольнай. Той, які ад рабыні, быў народжаны з-за пахаці, а ад свабоднай — паводле духу. Тут схавана сведчанне пра два законы. Першы — ад гары Сінай дзеля працы народжаны. Сінай — гара ў Аравіі, належыць да цяперашняга Ерусаліма і працуе з дзецьмі сваімі. Вышэйшы Ерусалім — вольны і ёсць маці для ўсіх нас.

Ісак хацеў даць дабраславенне старэйшаму сыну, але даў яго малодшаму. Пра яго сказана: «Старэйшы будзе працаваць на

карысць малодшага» (Пасланне апостала Паўла да рымлянаў 9:12). І яшчэ напісана: «Іякава — палюбіў, Ісаву — зненавідзеў» (Рым. 9:13).

Тое ж сведчыў Іякаў, калі дабраслаўляў сыноў Іосіфа. На малодшага паклаў правую руку, а на старэйшага — левую.Так стварыў крыж Хрыстовы і азнаменаваў, што Новы закон больш важны, чымся Стары закон.

Таксама Майсей, тым, хто трымаўся Старога закону, не абяцаў добрай зямлі, дзе цякуць рэкі з малаком і мёдам. Наш жа Выратавальнік, Ісус Хрыстос, абяцае ўсім, хто выконвае Новы закон — святое Евангелле, — адпушчэнне грахоў, Божую ласку, дары Святога Духа, вечнае жыццё, царства нябеснае. Сам да апосталаў кажа: «Праўду кажу вам, што вы, хто пайшоў следам за мною, — у новым жыцці, калі сядзе Сын Чалавечы на троне славы сваёй, сядзеце і вы на дванаццаці тронах, каб судзіць дванаццаць каленаў Ізраілевых» (Евангелле паводле Мацвея 19:28).

Канец сказанню.

*1519*

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «ЮДЗІФ-УДАВІЦЫ»

Царства Асірскае пачалося з Вела-цара, сына Немрафа, адразу пасля патопу.

Цар Вела быў наймагутнейшым на зямлі. Нінас, Велаў сын, пабудаваў горад і назваў яго сваім імем — Нініва. У тым горадзе пасля яго царавалі трыццаць сем цароў,тысяча трыста гадоў, да цара Сарданапала. Апошняга забіў медыйскі ваявода Арба і далучыў асірскае царства да Медаў.

Гэтак доўжылася да Ціра, перскага цара. Цір таксама валодаў Вавілонскім царствам, бо Дарый-цар, дзядзька яго, перад тым забіў вавілонскага цара Валтазара, што быў шостым царом пасля Наўхаданосара, які захапіў Ерусалім і паланіў іудзейскага цара Седэхію. У першы год заравання Цір адпусціў яўрэяў з вавілонскага палону, — праз семдзесят год, паводле прароцтва Ераміі, — і загадаў ім ісці ў Ерусалім і ўзводзіць там храм Госпаду. Цір вярнуў ім усю царкоўную маёмасць, якую цар Наўхадносар нарабаваў у храме Саламона.

Па смерці Ціра пачаў цараваць яго сын Камвізей. Калі ён узыходзіў на царства, яго празвалі Наўхадносарам. Неўзабаве Камвізей захацеў быць не толькі царом, але й богам, як пішуць пра яго ў гэтай кнізе. Дзеля пашырэння сваёй улады ён паслаў ваяводу Алаферна, каб той заваяваў усе землі.

Яўрэі, аднак, не захацелі мірна падпарадкоўвацца і аказалі супраціў. Як толькі Алаферн увайшоў у іх зямлю, абклаў горад Вефулію, з яго выйшлі войскі пад кіраўніцтвам Юдзіф-удавіцы. Яна адсекла галаву Алаферну і вызваліла людзей Ізраіля ад яго рукі.

Цар Наўхаданосар, або Камвізей, якога Ездра называе ў сваіх кнігах Артаксерсас, загадаў яўрэям, каб яны не ўзводзілі ў Ерусаліме храм у імя Госпада. І гэтая забарона дзейнічала пяцьсот трыццаць дзевяць гадоў, да нараджэння Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.

Потым, на сусветным саборы ў Нікеі, святыя айцы дазволілі нам гэтую кнігу «Юдзіф» чытаць дзеля нашага навучання. Каб мы, нібы люстра, гэтую славутую жанчыну перад вачыма мелі. Каб у добрых справах і ў шанаванні Айчыны не толькі жанчыны, але і мужчыны бралі з яе прыклад. І ўсялякіх намаганняў і скарбаў для агульнага дабра і для Айчыны сваёй ніколі не шкадавалі. Паколькі:

Ад нараджэння звяры, што ў
нетрах блукаюць, —
ведаюць ямы свае!
Птушкі, паветра свідруючы, —
гнёзды свае не губляюць!
Рыбы ў морах бурлівых —
чуюць свой вір без памылкі!
Пчолы і іншая жыўнасць —
вуллі бароняць заўжды!
Гэтак і людзі: дзе нарадзіла іх маці,
на шчасце ўскарміўшы, —
Ласку да месца таго
берагуць заўсягды!

Таму і Юдзіф-удавіца, дзеля абароны месца свайго нараджэння, рызыкавала ўласным жыццём. Госпад Бог, дзеля яе справядлівага ўчынку, дапамог Юдзіф, і яна перамагла непераможнага сярод людзей.

Належыць таксама ведаць, што гэтая кніга «Юдзіф», як і кніга Данілы-прарока і кніга «Ездры», напісана была спачатку леапісцамі яўрэйскімі словамі, але халдэйскімі літарамі.

Канец прадмовы.

*1519*

# ПРАДМОВА ДА «ДЗЕЯННЯЎ СВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ»

Вялікі Лука Антыяхійскі — непераўзыдзены доктар у лекарскіх навуках, выдатны евангеліст Ісуса Хрыста, найбліжэйшы сябра апостала Паўла — славутага настаўніка ўсіх народаў. Як дасканалы лекар, Лука выразна ўбачыў, што ўсе матэрыяльныя рэчы — дачасныя і не трывалыя. Таму пажадаў ён стаць яшчэ і лекарам душаў нашых, якія створаны паводле вобраза спрадвечнага Бога і падобныя да яго.

Лука Антыяхійскі яскрава ўсвядоміў, што чалавек жыве не толькі хлебам і лекуецца лекамі, але заўжды прагне мудрага слова, якое паходзіць з вуснаў Божых, бо Бог стварыў нябёсы, зямлю, акрэсліў межы водаў, даў пачатак усім рэчам — бачным і нябачным, якія з’яўляюцца і знікаюць. Праз усе вякі жыве толькі слова Госпада. Святы Лука напісаў пра Божае слова, што яно — найвышэйшае, найпрыгажэйшае і найсапраўднейшае. Слова адрозніваецца ад усіх іншых рэчаў. На пачатку свайго «Евангелля», у звароце да Феафіла, кажа: «Дазволь і мне, паслядоўніку папярэднікаў, выверана і гладка пісаць» (Евангелле паводле Лукі 1:3).

Пачаў з нараджэння Божага слова, піша пра дзівоснае зачацце Іаана Прадцечы, пра яго нараджэнне, пра дабравешчанне арханёла Гаўрыіла да Марыі, маці Божай. Аб гэтым пісалі ўсе евангелісты.

Затым адметна піша пра нараджэнне нашага выратавальніка Ісуса Хрыста, сына Божага, пра прынясенне яго ў Божы храм, пра разважанні дактароў у той царкве. Потым паслядоўна распавядае пра жыццё Ісуса Хрыста, яго навучанне, добрыя ўчынкі, пакуты, здзекі з яго і аб уваскрэшанні з мёртвых.

У гэтай кнізе «Дзеянняў апостальскіх», упачатку, значную частку святога Евангелля Хрыстовага апісвае. Каб мы ведалі, як Госпад узышоў на неба, паказваючы нам шлях за сабою, як праз сорак дзён паўстаў з мёртвых, на якім месцы на гары Елеон, што за вярсту ад Ерусаліма, хто там прысутнічаў. Піша пра святых апосталаў і мноства людзей з Галілеі, што сведчылі аб тым, хто прыйдзе судзіць жывых і мёртых. Паведамляе пра двух мужчын ў белых вопратках.

Значнае месца ў «Дзеяннях святых апосталаў» займае аповед аб Святым Духу, як зышоў на апосталаў праз розныя мовы, як яны затым пачалі на розных мовах прапаведваць Божае слова і як пачала вера Хрыстова пашырацца. Затым больш дасканала

пераказвае напісанае раней у Святым Пісанні пра нараджэнне Госпада нашага Ісуса Хрыста. Тут больш зразумела, выразней і значна шырэй, чымся іншыя евангелісты, гаворыць пра жыццё Ісуса Хрыста.

Затым пачынае дакладны расповед пра жыццё і дзеянні святых апосталаў, перадусім найвышэйшых — святога Пятра і святога Паўла, з якім таварышаваў. Піша ў гэтай хвалебнай кнізе пра пачатак, усталяванне і пашырэнне хрысціянскай царквы. Тлумачыць, чаму пачалі называцца хрысціянамі, гэта значыць памазаннікамі Божымі і царамі будучага веку. Вытлумачвае, як усталёўваліся святы господнія — Вялікдзень, Узнясенне, Пяцідзесятніца. Як па зыходзе сыноў ізраільскіх з няволі егіпецкай на пяцідзесяты дзень дадзены Стары Запавет, так па выкупленні нашым з улады д'ябальскай на пяцідзесяты дзень пасланы Святы Дух.

Тут знойдзеш пра царкоўную службу, сутнасць якой у прыламленні асвечанага хлеба. Тут знойдзеш пра царкоўную навуку, што павінна быць агульнай для ўсіх хрысціянаў. Тут знойдзеш пра царкоўнае адзінства, як усім належыць супольна маліцца з узаемным шанаваннем. Тут знойдзеш пра першаепіскапаў, першадыяканаў, першых пакутнікаў, першых настаўнікаў, першасвяціцеляў, пра першых цудатворцаў і ўсіх, хто пашыраў веру Хрыстову.

У першых сваіх кнігах святы Лука-евангеліст пісаў пра найкаштоўнейшае зерне ў зямлі, а ў гэтай — пра яго ўзыходы, квітненне і прынясенне шчодрых пладоў. Распавядае, як пасля першага казання святога Пятра да веры Хрыстовай далучыліся і хрысціліся больш за тры тысячы мужчын. Яшчэ нашмат болей прыйшло людзей у Хрыстову Царкву пасля пасланняў і пропаведзяў святога Паўла і іншых святых апосталаў, што ўвесь свет схілілі да веры.

Прарокам быў дадзены дух адной мовай — яўрэйскай або халдэйскай — да людзей звяртацца. Апосталам жа і веруючым у Хрыста быў дадзены Святы Дух усімі мовамі, што існуюць пад сонцам, прамаўляць праўду Божую, словы выратавання і вучыць пра царства нябеснае. Апосталы вызвалілі нас ад складанасцяў і цяжару Старога Закону, навучылі ўсіх жывых новаму, нябеснаму жыццю на зямлі. Яны прапаведвалі веру, надзею, любоў. Вучылі, каб мы збіралі сапраўдныя скарбы, імкнуліся да трывалых крэпасцяў, прагнулі духоўных багаццяў і мудрасці, а не ганяліся за зменлівымі і таннымі рэчамі гэтага свету. Апосталы навучалі не баяцца катаў, не палохацца смерці,

не дрыжаць перад д'яблам, каб мы не гнявіліся, не зласловілі, не крыўдзілі бліжняга свайго. Яны патлумачылі, як мы павінны ставіцца да братоў сваіх, да бацькоў, да старэйшых, да маладзейшых, да нямоглых, да іншаверцаў, наагул, да ўсіх людзей.

У канцы гэтай кнігі святы Лука найбольш дэталёва піша пра дзівоснае далучэнне людзей да веры Хрыстовай апосталам Паўлам. Распавядае пра яго казанні, хаджэнні і плаванні па моры да Рыма. І на гэтым заканчвае сваю кнігу.

Канец сказанню.

***1525***

## СКАЗАННЕ
## ДА «САБОРНАГА ПАСЛАННЯ ІЯКАВА»

Іякаў — апостал Ісуса Хрыста — напісаў гэтае пасланне да ўсіх веруючых у Хрыста, калі служыў епіскапам у Ерусаліме. Рознымі запаветамі ён навучае ўсіх нас, хрысціянаў.

Найперш вучыць, каб дзеля Госпада нашага перамагалі ўсе спакусы, ад Бога чакалі дапамогі, бо ён нікога не спакушае, а зло мы самі спараджаем. Калі нам штосьці добрае дадзена ад Бога, не павінны сябе ўсхваляць, а іншых абражаць. Мусім не толькі словамі, але і справамі даказваць веру хрысціянскую, стрымлівацца ў словах, убогімі не пагарджаць, жабракам міласціну даваць. Вера без добрых справаў — мёртвая.

Гаворыць апостал: не ўсім быць настаўнікам, але належыць вучыцца добра прамаўляць, бо ад мовы паходзяць усе справы — добрыя і злыя.

Потым Іякаў піша пра прамудрасць зямную і прамудрасць вышэйшую — хрысціянскую. Гаворыць, што мы не зможам на гэтым свеце мець спакою, калі не пазбавімся плоцкіх жаданняў. Празмернае захапленне гэтым светам адводзіць нас ад Божай міласці.

Не дазваляе апостал быць ганарлівымі, вучыць набліжацца ў пакорлівасці да Бога, пазбягаць зла, не нагаворваць на сяброў, не асуджаць бліжніх, бо адзіны суддзя для ўсіх нас — Госпад Бог.

Апостал нагадвае пра кароткі век людзей і няўстойлівасць жыцця кожнага. Калі багатыя пакрыўдзяць бедных — будуць пакараныя.

Загадвае апостал Іякаў усё цярпліва зносіць, пакладацца на Бога, таго, хто зблудзіўся — на светлы шлях выводзіць.

Канец сказанню да «Паслання Іякава».

# СКАЗАННЕ ДА «ПЕРШАГА ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА КАРЫНФЯНАЎ»

Карынф — галоўны горад Ахаі, што ляжаў блізу мора. У ім была славутая на ўсю Азію гавань. Менавіта ў Карынфе паўтара года жыў і прапаведваў Хрыстова Евангелле святы апостал Павел. Шмат карынфянаў схіліў ён да хрысціянскай веры.

Пасля таго, як Павел пакінуў Карынф, горад пачалі наведваць розныя людзі, што прыносілі не добрыя, як належала, а злыя звычаі. Першыя — іудзейскія ілжэапосталы. Яны заклікалі карынфянаў вярнуцца да старога закону Майсея. Другія — эліны-мудраслоўцы і гаваруны. Яны прапаведвалі пакорлівае і простае дабравешчанне Хрыстова. Трэція, тыя не ладзілі нават між сабой. Адны з іх называлі сябе паўліянамі, іншыя — сапраўднымі паслядоўнікамі апосталаў.

Ведаючы пра гэткі стан рэчаў, святы апостал Павел і напісаў пасланне да карынфянаў. Апостал зыходзіў з таго, што бацькі павінны не толькі ўхваляць народжаных дзяцей, але і ўсяляк аберагаць іх і навучаць. Паколькі ж менавіта ён нарадзіў карынфянаў для Хрыста ў Святым Духу, пра што сам у эпістоліі сваёй сведчыць, дык усяляк імкнуўся засцерагчы іх ад злога і навучыць добраму.

Найперш Павел піша аб згодзе, з якой усё добрае прыходзіць усякаму гораду і кожнай супольнасці. Бо нязгода нават самыя магутныя царствы разбурае. Паколькі канфлікты звычайна ўзнікаюць з-за ганарлівасці, а ганарлівасць нараджаецца ад свецкай прамудрасці, дык апостал Павел заклікае карынфянаў развітацца з ганарлівымі ведамі і вядзе іх да пакорлівага шляху Хрыста, які ёсць для ўсіх нас выратаванне. Нагадвае, што сам ён не прыйшоў да іх з ганарлівымі ведамі гэтага свету, але з аргументамі Божымі і з мудрасцю Святога Духа. Хоча, каб яны засцерагаліся бязвер'я і элінскай сафістыкі.

Па-другое, піша, як мудры Будаўнік заклаў падмурак Хрысціянства — «Евангелле» Ісуса Хрыста. Каб мы будаваліся на ім, не слухаліся ілжэапосталаў, не прымалі ад іх аніякай хлуслівай навукі.

Па-трэцяе, піша, нібы клапатлівы бацька, заклікаючы да пакорлівасці. Не быць ганарлівымі, калі церпяць за Хрыста, не адступаць ад яго разважлівага вучэння, не трапляць пад духоўную ўладу яўрэйскіх пестуноў, што прыходзяць да іх.

Пра ўсё пералічанае піша ў першых чатырох раздзелах.

У пятым раздзеле дакарае яўнага пралюбадзея. Загадвае асцерагацца гэтакіх грэшнікаў, бо адна каростлівая авечка можа ўвесь статак заразіць.

У шостым раздзеле выкладае навуку пра суды. Калі паміж хрысціянамі адбываецца спрэчка, дык належыць садзіцца адзін насупраць другога і паразумецца. Нельга шукаць праўды ў судах іншаверцаў.

У сёмым раздзеле піша пра жыццё мужа з жонкай, пра ўдоў, няроўны шлюб, разбэшчанасць, дзявоцтва, ухваляе тых, хто прыняў абет трывання, але і не ганіць жанатых. Хто як жадае, гэтак і павінен жыць — у шлюбе або без шлюбу.

Потым кажа не есці ахвярнага мяса, бо ідалы і ахвяры — пустое, толькі для спакусы брата свайго. Загадвае пазбягаць і іншых грахоў. Тут сведчыць аргументамі з Старога Запавету. Заклікае карынфянаў працаваць дзеля ўхвалення Хрыста і пашырэння Хрыстовай веры. Аб гэтым знойдзеш у восьмым, дзевятым і дзесятым раздзелах.

Затым вучыць, як належыць хадзіць да царквы. Мужчыны павінны прыходзіць з непакрытай галавой і з пашанотаю. Жанчыны мусяць накрыць галовы свае, як знак падпарадкаванасці, і маўчаць у храме. Нельга наведваць Божы храм, каб там есці ці піць, але толькі слухаць Божае Слова, спяваць і маліцца. Дома, па вяртанні з царквы, належыць ўжываць ежу і пітво.

Потым усім загадвае, каб не выхваляліся Божымі духоўнымі дараваннямі. Як ўсе ўласцівасці цела ў сукупнасці дапамагаюць чалавеку, гэтак і кожны чалавек павінен дадзены яму талент скарыстоўваць дзеля памнажэння агульнага дабра. Каб шанаваў кожнага і любіў, бо гэта найвялікшы Божы дарунак, без якога нічога не здзейсніцца.

Затым вера, потым надзея. Потым прароцтва, або выкладанне святога Божага Пісання. У часе тлумачэння Пісання загадвае захоўваць парадак: адзін або два гавораць, астатнія — слухаюць.

Жанчыны не павінны ў царкве штосьці пытаць у мужоў, але толькі дома. Пра гэта піша ў адзінаццатым, дванаццатым, трынаццатым і чатырнаццатым раздзелах.

У пятнаццатым раздзеле — пра ўваскрэшанне з мёртвых. Як яно адбудзецца, паказвае сведчаннямі з Пісьма і прыроджаным розумам.

У заключным раздзеле піша пра збіранне міласціны для братоў у Ерусаліме і пра сваё вяртанне ў Карынф. Нарэшце просіць быць ветлівым з Цімафеем.

Канец сказання.

# АКАФИСТ
# ЧЕСНОМУ И ВСЕХВАЛЬНОМУ ПРОРОКУ ПРЕДТЕЧИ И КРЕСТИТЕЛЮ ГОСПОДНЮ ИОАННУ ПОЕМ

*Стих 1*

**П**очинаем славную память твою,
Богом похваленый Іоанне госпожень предтече,
болей всех пророков;
они же словесы Христа проповедяша,
ты убо показавый его перстом глаголя:
«Се агнец Божий во земля и грех миру,
того моли податіи нам велию свою милость».

*Стих вторы*

**И**же зачатием своим отца удивил,
во чреве материне створителя своего познал,
и ко пришествию его яко всесветного царя
радость с поклонением показал
тем же достоин был еси,
от света незаходимаго светлость приняти,
и во утробе посвящен быти,
сего ради приносим тобе радосная,
чесный Іоанне Предтече.

*Стих трети*

**С**ам ты, преблажене Іоанне, от ангела имя принял,
нарождением своим многих людей обвеселил,
во младости единый сын великаго ерея,
Богу послужити избрал,
тем же достойне от него похвален есь,
яко невоста в рожденых же нами болев Іоанна Крестителя,
того моли подати нам на земли мир,
и по смерти Царство Небесное.

*Слава*

**А**нгельское житие явіл еси,
всем нам, пресвятый крестителю господень,
и Троицу живоначальную ясне проповедал,
Бога Отца слыша глас с неба свидетельствуем,

и глаголющь к Сыну:
«Ты есь Сын мой возлюбленный,
в тобе благоизволих Бога сына крещаема»,—
и руками осезаема показал еси.
Бога Святога Духа виде образом,
яко голубя исходяща нань,
тем же вси верни навчихомся пети Бога во Тройци едина.

*І ныне*

**Л**укавый Ірод не хотяй оставити прелюбодейци
жены брата своего,
тобою запрештен быв, пресладкий учителю Іоанне,
повеле ти в темници затворену,
главу всекнут и тую неучтивая плясавица
принесе на блюде на проклятое пирование,
мы же видяште яко свет сияюшти житие твое
й невинное
усекновение святыя главы твоея,
воспеваем ти глаголюште:
Радуйся, чесный рредтече и крестителю Господень!

*Кондак первы*

**Д**остойны сведетелю Христов,
о тобе убо евангелист глаголеть:
«Бысть человек послан от Бога,
имя ему Іоанн;
сей прийде во сведетельство,
да сведетельствует о свете,
да вси веру имуть ему».
Тем же і мы веруюштие во Христа
по твоему сведетельству поем тому вси аллілуіа!

*Ікос первы*

**О** пречудном зачаты твоем Іоанне дивяштеся чтемы,
явися убо отцу твоему ангел Господен
стоя одесную олтаря кодилнаго.
И той смутился видев его,
и страх нападе нань.
Рече к нему ангел:»Не бойся, Захария,
зануж услышана ест молітва твоя,
и жена твоя Елизавет родить сына тобе,
и наречеши имя ему Иоанн,

каторы цябе вывеў з зямлі Егіпецкай, з дому няволі. Не будзеш мець Багоў чужых перада мною. 2. Не ўчыніш сабе куміра, ці якога падабенства, што ёсць на нябёсах высока, або на зямлі нізка, або ў нетрах пад зямлёю. Не будзеш пакланяцца ім і не будзеш служыць ім. Я — ёсць Госпад твой — дужы, раўнівы. Я перадаю грахі бацькоў, што ненавідзяць мяне, на дзяцей да трэцяга і чацвёртага роду. Даю ласку тысячам, тым, хто любіць мяне і якія сцерагуцца маіх запаветаў. 3. Не возьмеш імя Госпада Бога твайго ў славалюбстве. Бо не адпусціць Госпад таго без пакарання, хто возьме імя яго надарэмна! 4. Памятай пра святкаванне дня суботняга! Шэсць дзён працаваць будзеш, усякія справы свае чыніць, а сёмы дзень, субота — дзень Госпада Бога твайго. Не ўчыніш аніякай справы ні ты, ні сын твой, ні дачка твая, ні парабак твой, ні нявольніца твая, ні скаціна твая, ні прышэлец, што за брамай дома твайго. Бо за шэсць дзён стварыў Бог неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх. А ў сёмы дзень спачываў Бог. Дзеля гэтага Госпад дабраславіў і асвяціў суботні дзень. 5. Шануй бацьку твайго і матку тваю. Тады доўга будзеш жыць на зямлі, столькі, колькі Госпад Бог дасць табе. 6. Не забі. 7. Не спі з чужой жонкай. 8. Не крадзі. 9. Не ўзводзь на бліжняга твайго хлуслівага сведчання. 10. Не пажадай дому бліжняга твайго: ані жонкі яго, ані парабка яго, ані асла яго, нічога кольвек, што належыць бліжняму твайму.

*Пытанне.* Дзеля чаго Госпад Бог даў закон, або запаветы свае?

*Адказ.* Каб кожны ведаў, што ёсць грэх, а што — добрая справа. Гэтак святы апостал піша: «Граху не зразумееш, толькі праз закон» (Рым. 7:7). А на іншым месцы кажа: «Праз закон — пазнанне граху» (Рым. 3:20).

*Пытанне.* На колькі частак дзеляцца дзесяць запаведзяў?

*Адказ.* На дзве часткі сам Госпад раздзяліў запаведзі свае. Бо чатыры запаведзі даў на першай дошцы каменнай, а шэсць — на другой дошцы.

*Пытанне.* Дзеля чаго Бог гэтак раздзяліў запаведзі свае?

*Адказ.* Дзеля таго, каб ведалі, што належыць чыніць Богу, а што — бліжняму. Бо нас першая дошка таму навучае, як належыць ставіцца да Бога. А другая паказвае, як патрэбна любіць бліжняга.

*Пытанне.* Як належыць разумець тыя запаведзі?

*Адказ.* Хто хоча дасканала разумець Божыя запаведзі, належыць таму ведаць чатыры рэчы. Першая рэч, што загадвае Бог чыніць. Другая, што забараняе. Трэцяя, як карае тых, хто не выконвае Яго волі. Чацвёртая, як любіць тых, якія выконваюць

Яго волю. Такім чынам, пры кожнай запаведзі належыць памятаць пра гэтыя чатыры рэчы — добрыя справы, грахі, пакаранні і абяцанні.

[1-я запаведзь]

*Пытанне.* Кажы першую запаведзь?

*Адказ.* Не будзеш мець іншых багоў, апрача Мяне.

*Пытанне.* Як належыць разумець тыя словы: «Не будзеш мець чужых багоў»? Няўжо ёсць шмат багоў?

*Адказ.* Бог адзін, той, якому ўсе павінны служыць і мець спадзяванне на Яго. Калі людзі, адрынуўшы Бога, спадзяюцца на іншыя рэчы, то, такім парадкам, у сваіх сэрцах шмат багоў утвараюць. Бо хто на каго мае надзею, той і ёсць яго бог. Напрыклад, калі хтосьці пакладаецца на багацці, дык іх — сабе на месца бога паставіў. Таму апостал называе ліхвярства, або ласункі, — ідаласлужэннем, а ліхвяра — ідаласлужкам (Эфес. 5:5; Кал. 3:5). Гэтакжа і пра тых разумей, хто спадзяецца на ўласную сілу або на штосьці іншае. Чужы бог там паўстае, калі хто праўдзівага Бога выракаецца. Таму апостал, пішучы супраць ілжэнастаўнікаў, іхным богам называе чэрава (Філіп. 3:9). Бо яны толькі дзеля чэрава настаўніцкія пасады сабе пабралі, а не дзеля ўслаўлення Бога.

*Пытанне.* Скажы мне, чаго ад нас хоча Бог у тым першым слове? Або якія добрыя справы таго слова?

*Адказ.* Добрыя справы, якіх ад нас чакае Бог з тае запаведзі, наступныя. Найперш каб толькі Яго самога за Бога мелі, у Яго верылі, спадзяваліся і надзею на Яго пакладалі. Потым, каб Яго баяліся, любілі, маліліся, Яму пакланяліся. Наастатак, каб усе справы, якія робяцца, з радасцю выконвалі дзеля Яго.

*Пытанне.* Якія ўчынкі супярэчаць той запаведзі? Што Бог забараняе?

*Адказ.* Шмат грахоў існуе, якія супярэчаць таму першаму слову, але найбольш тыя, што супроць веры і страху Божага.

Першы грэх — паганых эпікурэяў, гэта значыць, тых, каторыя не вераць зусім, што існуе Бог, які намі апякуецца.

Другі грэх — ідаласлужкаў, якія вераць у шмат багоў. Яны створанаму, нібы стваральніку, служаць. Накшталт таго, як гэта было ў старажытных элінаў, якія слаўных людзей пасля іх смерці ўважалі за багоў, маліліся ім — Дыяэрмію, Апалону ды інш. У наш час у той жа ерасі жывуць тыя, каторыя моляцца памерлым святым.

Трэці грэх — гэта грэх жыдоў і ўсіх басурманаў, каторыя не так Бога вызнаюць, не так Яго спавядаюць, як Ён сам загадаў, але гэтак, як самі сабе выдумалі. Тое ж разумей і пра ерэтыкоў.

Чацвёрты грэх — валхвоў, або чарадзейнікаў, каторыя веруюць у бесаў.

Пяты грэх — гэта грэх тых, якія Бога да пэўных месцаў нібы прывязваюць, мяркуючы, што ў пэўных месцах Ён лепей чуе зварот да Яго, чымся ў іншых месцах. Тое завецца прошчамі. Супраць такога меркавання прарок Ісая піша, сцвярджаючы, што Бог паўсюль аднолькава чуе чалавека, які прыносіць пакаянне (Ісая 66:1—2). І яшчэ сказана: «Я прапаведую вам: Бог, які стварыў свет і ўсё, што ў ім, Ён, будучы Госпадам неба і зямлі, не ў рукатворных храмах жыве і не вымагае служэння рук чалавечых, быццам маючы ў нечым патрэбу, а Сам дае ўсяму жыццё і дыханне, і ўсё» (Дзеі 17:23—25).

Шосты грэх супраць першага слова Божага чыняць крывадушнікі, каторыя не баяцца Божай праўды і Ягонага суда. Таксама тыя, што больш багацці і цялесныя асалоды любяць, чымся Бога, але перад людзьмі выстаўляюць сябе пабожнымі.

Сёмы грэх — не пакладацца на Бога і гнявіцца на Яго, як калісьці цар ізраільскі Саул.

Восьмы грэх — вельмі высока думаць пра сваю праўду або справядлівасць, як той фарысей, што ў малітве праўду сваю вычытваў перад Богам тымі словамі: «Божа, хвалу табе аддаю, як чалавек асаблівы, не такі, як няправедныя, прагныя, пралюбадзеі, або як той мытар. Трымаю пост у суботу двойчы» (Лукі 18:10—12). Такія крывадушнікі, бясспрэчна, грашаць. Перадусім тым, што няпраўдзіва разумеюць, які ёсць суд Божы, і з тае прычыны не ад праўды Бога баяцца. Службу Божую сабе прыпісваюць. Пра тое Хрыстос так сваіх вучыць: калі рабы выканалі загаданае вамі, кажаце, што яны не зрабілі нічога асаблівага, а толькі выканалі свой абавязак; гэтак жа і вы мусіце пра сябе гаварыць, што нічога не вартыя, бо вы зрабілі тое, што мусілі зрабіць (Лукі 17:7—10).

Дзевяты грэх — сумнявацца і не даваряць даброці Божай. Думаць, нібыта Бог пра нас не дбае, адпусціць нашыя грахі не хоча. Такім быў Каін, каторы забіў брата свайго, які не хацеў верыць, што Бог даруе яму (Быцця. 4). Тое ж мусіш разумець і пра Юду, які Хрыста прадаў (Мацвея 27:3—10).

Дзесяты грэх — не цярпець і не прымаць з удзячнасцю таго, што Бог дапускае, або Богу няпраўду і няміласць прыпісваць.

Адзінаццаты грэх — не дбаць пра Божае Слова або адкінуць яго паводле жадання людзей ці з-за страху, як Пётра ўчыніў.

Дванаццаты — пакладацца на ўласную сілу, мудрасць або на штосьці іншае, як Сеннахірыб, які, толькі на сваю моц пакладаючыся, хацеў вярнуць царства Іудзейскае (Ісаі 36).

*Пытанне.* Скажы, як Бог карае таго, хто грашыць супраць першага слова?

*Адказ.* Найперш, карае Бог помстай духоўнай. Як піша апостал: «Ідаласлужкі не здабудуць Царства Божага» (Гал. 5:11—21). Карае Бог ідаласлужэнне таксама голадам, войнамі, моравым паветрам, палонам ды іншымі падобнымі язвамі. Як у Старым Законе Бог часта караў люд ізраільскі толькі за тое, што Яго пакідалі і чужым багам служылі. І цяпер усіх хрысціян пакараў — некаторых слепатою, іншых няволяю пад турэцкім і рымскім Антыхрыстам. І гэтак мусіць быць. Бо так абяцаў Бог, даючы свой запавет, калі гаварыў: Я ёсць Госпад Бог твой — моцны і раўнівы. На тых, хто ненавідзець Мяне, свой гнеў пашлю на бацькоў і дзяцей, да трэцяга і чацвёртага калена.

*Пытанне.* Што Бог абяцае тым, каторыя першай запаведзі трымаюцца?

*Адказ.* Як на бязбожных падвойная помста, гэтак і тым, хто сцеражэцца запаведзі — падвойная ўзнагарода. Адна — вечная, другая — дачасная. Пра вечную Хрыстос так кажа: «Калі хочаш увайсці ў вечнае жыццё — трымайся запаведзяў» (Мацвея 19:17). Ён тут кажа: чыню міласэрнасць над многімі тысячамі тых, хто любіць Мяне і захоўвае запаветы Мае. Міласэрнасць выяўляе Бог да нас, калі нам грахі адпускае, з грэшнікаў пераварае ў праведнікаў, каб былі вартыя вечнага жыцця. Гэтыя рэчы ёсць вечная ўзнагарода. Але і на гэтым свеце Бог не пакідае тых, хто трымаецца Яго запаветаў, Яму служыць, як, напрыклад, Данііл, Ерамія ды шмат іншых.

[2-я запаведзь]

*Пытанне.* Кажы другую запаведзь?

*Адказ.* Другая запаведзь — не ствары сабе куміра, ані якога вобраза таго, што ёсць на небе высока, і на зямлі нізка, і ў водах пад зямлёю.

*Пытанне.* Як тое мушу разумець: ці Бог толькі забараняе яму ствараць абразы, ці толькі паганскім кумірам?

*Адказ.* Найперш, так маеш разумець: як у першай запаведзі Бог забараняе духоўнае ідаласлужэнне, пакідаючы духоўную

службу для сябе, так і ў другой запаведзі — забараняе служыць выявам целаў. А на тое пытанне, якое ставіш — ці толькі паганскіх божышчаў Бог забараняе ствараць — адкажу гэтак: не толькі падманным багам Госпад забараняе чыніць абразы, але й сабе, і анёлам, і людзям святым. Бо дакладна кажа: аніякога падабенства. Пра гэта яшчэ больш аргументавана ў пятай кнізе, дзе Майсею кажа як запавет: «Цвёрда трымайце ў душах вашых тое, што вы не бачылі аніякага вобраза ў той дзень, калі гаварыў да вас Госпад на Харыве з асяроддзя агню. Каб не спакусіліся і не зрабілі сабе куміра — мужчынскага або жаночага полу, звера, што ёсць на зямлі, або птушкі, або гадаў» (5 Майсея 3:15—17). Бачыш, што кажа Майсею. Звяртаючыся да сыноў Ізраілевых, Бог не паўстаў перад імі ў нейкім аблíччы таму, каб яны пазней не чынілі яму абразоў.

*Пытанне.* Ці толькі жыдам забаранялася мець абразы, паколькі аніякага Божага вобраза не бачылі, а потым, калі Сын Божы прыйшоў, увасобіўся цялесна і быў бачны людзям, ці можна нам ужо пасля гэтага мець выявы Бога?

*Адказ.* Праўда тое, што Бог стаў бачны ў Сыне сваім. Бо і сам Хрыстос паведаміў Філіпу: той, хто бачыў Мяне — бачыў Айца, бо Я ў Айцу ёсць, а Айцец ува мне. Пры гэтым колішняга загаду не адмяніў, ані зліквідаваў, а, наадварот, яшчэ больш пацвердзіў, калі мовіў да самаранкі: «Павер Мне, што настане час, калі і не на гары гэтай, і не ў Ерусаліме будзеце пакланяцца Айцу» (Яна 4:21). А крыху ніжэй да тае ж жанчыны кажа: «Бог ёсць Дух, і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе» (Яна 4:24). Тут бачыш, як Госпад пакідае для сябе духоўныя рэчы. Але каб ты ведаў, што і пасля ўвасаблення Сына Божага не хоча Бог, каб яму абразы стваралі. Прачытай прамову святога апостала Паўла, якую ён меў да афінянаў. Там, між іншага, так сказаў: «Бог, які стварыў свет і ўсё, што ў ім, будучы Госпадам неба і зямлі, не ў рукатворных храмах жыве і не вымагае служэння рук чалавечых» (Дзеі 17:24—25).

З прыведзеных словаў яскрава відаць, што апостал гаворыць не пра нейкага фальшывага бога, а пра сапраўднага, жывога. Бо так сказаў: «Бог, які стварыў свет». Пры гэтым патлумачыў, што Бог не прымае паслугаў з рук людскіх.

Абразы, ці як інакш кажуць — іконы — гэта не што іншае, як паслугі, службы ад рук людскіх. Таму, крыху ніжэй, Павел кажа: «Не зважаючы на сваё падабенства да Бога, людзі не павінны меркаваць, што Бог падобны на залатыя, сярэбраныя ці каменныя выявы або іншыя выдумкі людзей». Тут выразна бачыш,

што апостал забараняе з якіх бы ні было рэчаў чыніць выявы Бога — з золата, серабра, камянёў, або людскіх вынаходніцтваў. Хаця, на той момант, Хрыстос — Сын Божы ўжо прыняў чалавечае аблічча [...]

[3-я запаведзь]

*Пытанне.* Назаві трэцюю запаведзь?

*Адказ.* Не возьмеш імя Госпада Бога ў славалюбстве, або без патрэбы.

*Пытанне.* Як тое мушу разумець?

*Адказ.* У першым слове Бог даў нам навуку аб тым, якое мусіць быць нашае сэрца. У другім слове — як павінны ўсе служыць яму целам. У гэтым трэцем слове навучае нас, як павінны сваёй моваю і словамі шанаваць Яго. Гэта значыць, каб мы пад заслонай імя Божага ўласнай славы, карыслівасці ды іншых такіх рэчаў не шукалі. Каб толькі Яго самога праслаўлялі, узносілі Яго і дзякавалі Яму [...]

[4-я запаведзь]

*Пытанне.* Кажы чацвёртую запаведзь?

*Адказ.* Чацвёртую запаведзь Бог так напісаў: помні святкаваць дзень суботні.

*Пытанне.* Як належыць разумець тое слоўка *святкаваць*?

*Адказ. Святкаваць* — маецца на ўвазе не проста бяздзейнічаць, як часам наўпрост разумеюць, а прысвяціць сябе святым справам.

*Пытанне.* Скажы больш аргументавана, каб зразумеў прычыны. Ці лепей Бог любіць святкаванне, чымся працу?

*Адказ.* Не для таго Бог сёмы дзень святкаваць загадаў, што не любіць працы, а любіць забавы, пакольκі на Адама той закон усклаў, калі выганяў яго з раю, каб ён еў хлеб свой з поту працы сваёй, урабляў зямлю ва ўсе дні жыцця свайго. А для таго, каб чалавек меў пэўны дзень, у які мог бы вывучаць Слова Божае [...]

[5-я запаведзь]

*Пытанне.* Кажы пятую запаведзь?

*Адказ.* Пятая запаведзь: шануй бацьку і матку тваю. Тады будзеш доўга на зямлі жыць, колькі Бог дасць табе.

*Пытанне.* Што тут Бог называе *шанаваннем*?

*Адказ.* Святое Пісанне не толькі тое шанаваннем называе, што людзі зазвычай маюць на ўвазе. Бо людзі лічаць тое шанаваннем, калі хто да каго паважліва гаворыць, устае, зняўшы шапку, кланяецца. У Святым Пісанні гонарам называецца не толькі такі звычай, але таксама, калі хто, убачыўшы патрэбы іншага чалавека, выдзяляе яму частку ад сваёй маёмасці.

Пятая запаведзь мае на ўвазе наступнае шанаванне: каб слухаліся і падпарадкоўваліся бацькам сваім, захоўвалі павагу да іх, калі спатрэбіцца — давалі ім парады, нарэшце, працу сваю дзеля іх карысці аддавалі. У тым сутнасць шанавання, якое Бог выказаў у гэтым запавеце.

***1562***

## ВЫЗНАННЕ ХРЫСЦІЯНСКАГА ЗБОРУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА АБ УЛАДЗЕ І ЎСЯЛЯКІМ УРАДЗЕ, КОРАТКА ПАЦВЕРДЖАНАЕ СВЯТЫМ ПІСЬМОМ

Фундамент нашага хрысціянскага набажэнства наступны: вучыць, верыць і вызнаваць пра кожную рэч гэтак, як вучыць, верыць і вызнае Святое Пісьмо — Стары Запавет і Новы Запавет (На полі заўвага да гэтага сказа: «Хрысціянін кожную рэч павінны разумець паводле Слова Божага». — *І. С.*). Таму і аб урадзе, з-за якога зараз паміж намі — вернікамі ў адзінага Бога, палякамі і літвінамі, — разгарэлася спрэчка, належыць вучыць, верыць і вызнаваць не інакш, як пра тое падаецца ў Святым Пісьме. Такім парадкам мы вучым і вызнаем — проста, коратка і шчыра, абапіраючыся на самога праўдзівага Бога і, як ужо казалі, на Яго Святое Слова, сведчанні Яго Найсвяцейшага Духа. Мы не азіраемся ні на якія іншыя аўтарытэты, ні на якіх вучоных — пабожных, святых ці найсвяцейшых людзей; нават не зважаем на цэлыя Зборы — слаўныя ці няслаўныя, старажытныя альбо нядаўнія.

Найперш, кожны ўрад, улада і ўсе правіцелі — ад Бога. Незалежна ад таго, які паводле сваёй сутнасці ўрад — добры ці злы, богабаязны ці, наадварот, сама высокі, сярэдні ці найніжэйшы — усялякі пастаўлены Богам. Бо сам Госпад Бог гэтак мовіў: «Хто пралье кроў чалавечую, таго кроў пральецца ад рукі чалавека» (1 Майсея 9:6), дазволіўшы, такім чынам, урад, які б караў парушальнікаў Закону. Менавіта гэтак тлумачыў зга-

даныя словы Апостал, калі пісаў да рымлянаў: «Няма ўлады не ад Бога; існуючыя ж ўлады пастаўленыя Богам» (Да Рымлянаў 13:1) (У Буднага памылкова ўказана: XIII, 3. — *І. С.*). Таму і Нерон, і Наўхаданосар, і Геліягабал, і Ірад, і ўсе астатнія яшчэ горшыя за іх, што жылі некалі сярод хрысціян і язычнікаў, — усе пастаўленыя Богам, усе атрымалі моц і ўладу акурат ад Яго. Пацвярджаў гэта і Сам Пан Хрыстос, калі, звярнуўшыся да ерусалімскага старасты, мовіў: «Ты не меў бы над Мною аніякай улады, калі б не было табе дадзена зверху» (Яна 19:11).

Мы гэтаксама, у адпаведнасці з Святым Пісьмом, вучым і вызнаем, што ўсе каралі і іншыя вышэйшыя ўрадоўцы — Божыя слугі, прызначаныя Ім пастары, Ягоныя памазанцы (На полі заўвага: «Усе ўрадоўцы — Божыя слугі, пастары і памазанцы». — *І. С.*).

Усе пералічаныя азначэнні ўрадоўцаў знаходзім у Божым Слове. Так, Святы Павел называе кожнага з іх, тройчы ў адным месцы, слугамі альбо служэбнікамі Божымі (Да Рымлянаў 13:5—6). І тытулуе іх не наймітамі, а пачцівымі слугамі, ужываючы тэрмін *diaconos*, а не *dulos*, які азначае нявольнік або раб. У дадатак ён называе ўрадоўцаў *літургамі*, што больш ганарова. Гэтак урад і ўрадоўцаў уздымае Апостал. Сам жа Госпад Бог з большай пачцівасцю ставіўся да перскага караля Корэша, ці Кіра, тытулуючы яго пастарам і памазанцам (Ісаі 45:1). Ён жа і Майсея двойчы называе богам — першы раз у 16 вершы 4 раздзела кнігі Зыход і другі, дзе гаворыць: «Я паставіў цябе богам фараону, а Аарон, брат твой, будзе тваім прарокам» (2 Майсея 7:1). Святы Дух пра ўсіх начальнікаў напісаў у псальме: «Бог стаў у сонме багоў; сярод багоў учыніў суд» (Псалтыр 32:1), а крыху ніжэй: «Я сказаў: вы — багі і сыны Усявышняга ўсе вы» (Псалтыр 32:6; Яна 10:34).

Мы вучым і вызнаем, што ўсе без выключэння абывателі якой-кольвек зямлі, найперш хрысціяне, павінны быць узорнымі падданымі і слухацца найвышэйшага гаспадара — імператара, цара альбо караля ці іхных намеснікаў — і ставіцца да іх з вялікай пачцівасцю. Супроць іх нельга паўставаць, бунтаваць ці дапамагаць бунтаўнікам. Нават калі пан — тыран (ад чаго крый Божа), калі ён без віны сільнічае сваіх падданых, забірае маёмасць ці ўвогуле забівае. У любым выпадку няможна чыніць аніякіх забурэнняў і падтрымліваць тых, хто заклікае не падпарадкоўвацца. Заўжды належыць бараніць сваіх гаспадароў ад бунтаўнікоў на ўзор святога мужа Мардахея і святой каралевы Эсфіры. Гэтаксама паступаў і Давыд. Ён мог двойчы забіць свай-

го гаспадара Саула і дастаць каралеўства, на якое быў памазаны, але ён сцярпеў. Калі ягоныя людзі раілі яму зарэзаць соннага Саула, то Давыд, наадварот, адказаў ім: «Ды не дапусціць мне Госпад зрабіць гэта гаспадару майму, памазанніку Божаму, каб паклаў руку маю на яго. Бо ён — памазаннік Божы» (2 Майсея 24:7). І цяпер кожны падданы не павінны выступаць наперакор свайму пану ці каралю. Не зважаючы на здзек, уціск ці нават смерць ад яго, не можа падымаць рукі на яго.

Вялікае зло чынілі і не ў хрысціянскім звычаі дзейнічалі халопы Нямеччыны, калі ў 1525 г. паўсталі супроць сваіх паноў (На полі заўвага: «Пра тое піша Шляйдан у 4 кнізе». — *І. С.*). Аднак Бог не спрыяў ім: у розных бітвах загінула блізу 100 тысяч сялян («Пра гэта паведамляе той жа Шляйдан у 10 кнізе». — *І. С.*). Стапрэды, ротманы ды іншыя, што зачыніліся ў Вестфальскім манастыры і абралі сабе кіраўніком Голандра, нарабілі дужа зашмат зла. Але ўрэшце й самі яны склалі галовы. У адрозненне ад іх добра чынілі сыны Ізраілевы, калі апынуліся ў цяжкой няволі. Іх прымушалі замешваць цэглу і будаваць замкі, а народжаных сыноў сілай забіралі й забівалі. Але яны і ў гэтакіх невыносных абставінах не паўсталі і не чынілі аніякіх разбурэнняў, адно толькі з плачам звярталіся да Бога сваіх продкаў (На полі заўвага: «Ізраільцяне ў часе пакут не бунтавалі супроць фараонаў». — *І. С.*).

Яшчэ вызнаем і вучым, што падданыя мусяць маліцца Богу за караля і за іншых паноў, не зважаючы на тое, хрысціяне яны ці не. Так, вавілонскі цар быў няверны, але ізраільцяне маліліся за яго і ягонае царства (Ерамії 29:7).

Ведаем, якія каралі былі ў часы апосталаў, аднак Павел у Лісце да Цімахвея пісаў: «Прашу, найперш, каб чынілі малітвы, прашэнні, падзякі за ўсіх людзей. За цароў і за ўсіх правіцеляў, каб жыць нам у побажнасці й чысціні. Бо гэта добра й прыемна Спасу нашаму Госпаду» (1 Цім. 2:1—3).

Хрысціяне павінны маліцца Пану Богу за ўсіх гаспадароў, не дазваляць аніякай абразы іх. Нельга лаяць, сарамаціць ці праклінаць свайго пана, бо сам Бог у Законе забараніў гэта, кажучы: «Суддзяў не абгаворвай, і гаспадара над народам тваім не асуджай» (2 Майсея 22:28). Таму правільна паступіў Давыд, загадаўшы забіць Шымея, сына Герэя, які пярэчыў яму. Гэтксама слушна зрабіў Саламон, калі выканаў запавет свайго бацькі, дазволіўшы замардаваць яго. Бо, як кажа Апостал, слуга Божы носіць меч не дарэмна (Рым. 13:5).

Вызнаем і вучым, што ўсе падданыя, асабліва хрысціяне, павінны плаціць і аддаваць сваім панам і каралям розныя

падаткі — чынш, паборы, пошліну, мыта, перавоз і інш. Падданыя абавязаныя без пярэчанняў ісці на вайсковую службу (Мацвея 22). Сам Хрыстос плаціў падаткі, хоць мог і не даваць іх, бо паходзіў з царскага роду і іншым загадваў плаціць: «Аддавайце кесару кесарава, а Богу Божае» (Мацвея 22:21). Гэтак жа вучыў і яго паслядоўнік апостал Павел: «Аддавайце кожнаму тое, што належыць. Каму падатак — падатак. Каму аброк — аброк. Каму баязнь — баязнь. Каму гонар — гонар. Не заставайцеся нікому ні ў чым вінныя, апрача ўзаемнай любові» (Рым. 13:7—8).

Вызнаем і вучым: паколькі ўрад добрая, патрэбная і карысная рэч, то ён можа быць у Хрыстовым Зборы, вядома, калі ён дадзены Панам Богам. Але калі Пан Бог не даў Збору ўрадоўца, дык нельга гвалтам дамагацца яго. Належыць бездакорна падпарадкоўвацца таму ўрадоўцу, якога паставіў Пан Бог на той зямлі, дзе знаходзіцца Збор. Як, да прыкладу, Ізраільскі Збор, знаходзячыся ў Вавілоне, заставаўся падуладны Наўхаданосару (Данііла 1:2), Бальтазару, Кіру (Ездры 1:1) і іншым, падобным на іх.

Апосталы ды іх вучні не ставілі сабе каралёў і іншых урадоўцаў, а падпарадкоўваліся тым, якіх прызначыў Госпад Бог, напрыклад, Іраду (Дзеянні 12), Агрыпу (Дзеянні 26), Тыберыю, Нерону. Гэтак і зараз мусяць паводзіць сябе хрысціяне: быць узорнымі падданымі, служыць і ва ўсім слухацца ўрадоўцаў, дадзеных Богам. Апрача выпадкаў, калі кароль ці іншы ўрадовец прымушае чыніць штосьці супроць Бога і Ягонага Слова. Тады лепей быць забітым, чымся слухацца гаспадара, бо Пан Хрыстос вучыў аддаць кесару не ўсё, а толькі кесарава. Святыя апосталы даводзілі да бязбожных урадоўцаў, што ім належыць слухацца Бога, а не людзей (Дзеянні 4:10, 29). Гэтак і цяпер трэба папраўдзе чыніць!

Вызнаем і вучым, што кожны сапраўдны хрысціянін можа трымаць урад і служыць урадоўцам. Калі каго-небудзь «Евангелле» захопіць на ўрадзе, то не трэба пакідаць і бегчы ад яго. Наадварот, належыць заставацца на ўрадзе, як піша апостал да Карынцянаў: «Кожны заставайся ў тым званні, у якім пакліканы» (1 Карынц. 7:20).

Усе каралі з прыняццем Хрысціянства павінны заставацца каралямі. Гэтаксама ваяводы ваяводамі, старасты старастамі, гетманы гетманамі, ротмістры ротмістрамі, войты войтамі, бурмістры бурмістрамі. Заўжды ўсе ўрадоўцы, ад найвышэйшага да найніжэйшага, калі яны верныя хрысціяне, павінны мець, як і прыватныя асобы, пакаянне, смерць, адмаўленне ад старога Адама і прыняцце новага, аднаўленне і новае нараджэнне.

Хрысціянскі кароль не павінны, аднак, быць гэтакім, як паганін. Князь або князі, ды і ўсе іншыя ўрадоўцы, калі яны хрысціяне, мусяць адрозніваццa ад паганскіх урадоўцаў. Калі ж хтосьці лічыць, што хрысціянскі манарх або ваявода, гетман, ротмістр, дзесятнік можа быць гэтакі ж, як і паганскія ўрадоўцы, то адкажу ім проста: хрысціянін не можа займаць такой пасады. Паганін бывае каралём з тою мэтай, каб яму ўсе кланяліся, служылі, неслі золата, срэбра, каштоўныя камяні, папаўнялі яго скарбонкі іншымі дарагімі рэчамі. Ён жа прымушае сваіх падданых плаціць яму велізарныя падаткі. Хрысціянскі кароль, вядома, усё можа мець: і золата, і грошы, і каштоўныя камяні, і дарагія шаты (калі Бог тое стварыў недарэмна і не для бестыяў). Аднак, у адрозненне ад паганіна, ён не мае права атрымліваць тыя скарбы з непамернага абцяжарання падданых.

Хрысціянскі кароль мусіць быць богабаязны, справядлівы, міласэрны, бо напісана: «Міласэрнасць і праўда сцерагуць цара, і міласэрнасць — апірышча сталіцы яго» (Прытчы 20:28). Ён павінны бараніць удоў, убогіх і сірот; сачыць, каб судзілі ў адпаведнасці з законамі, заснаванымі на Святым Пісьме; не памыляцца, прызначаючы суддзяў; не распачынаць вайны дзеля пашырэння сваіх уладанняў, а ўступаць у бойку толькі тады, калі вымушаюць абставіны, калі неабходна абараніць падданых. Адным словам, хрысціянскі гаспадар павінны кіравацца інтарэсамі ўсяе дзяржавы, усіх абывацеляў, а не толькі ўласнай карысцю. Узорным гаспадаром быў іудзейскі цар Давыд, а гэтаксама Язафат і Езэкія (На полі заўвага: «Хрысціянскія каралі і іншыя гаспадары мусяць быць падобныя на іх». — *І. С.*).

Хрысціянскі гаспадар павінен дбаць пра памнажэнне Божае хвалы, каб падданыя не жылі без ведання адзінага праўдзівага Бога і Ягонага Сына Ісуса (На полі заўвага: «Каралі аб гэтым мусяць клапаціцца ў першую чаргу». — *І. С.* ) і не цярпелі таго голаду, якім сам Бог пагражаў цераз Амоса: «Вось надыходзяць дні, кажа Господ Бог, калі Я пашлю на зямлю голад. Але не голад без хлеба, не прагу вады, а прагу слухання слоў Гасподніх» (Амоса 8:11).

Найвышэйшы гаспадар, калі ён хрысціянін, абавязаны сцерагчы сваіх падданых ад Паганства, выкараняць балванаў з іх сэрцаў. Святое Пісьмо хваліць акурат Езэкію, які нішчыў балванаў; нават таго меднага вужа, якога зрабіў Майсей з загаду Бога (4 Майсея 21:8—9). Ён знішчыў вужа і ператварыў яго ў пыл (2 Царстваў 18:3—4).

Хрысціянскаму гаспадару належыць сачыць за тым, каб непатрэбныя гультаі, якіх поўна ў нашай Сармацыі й безліч ва

ўсёй Еўропе, не елі дарам хлеба. Трэба таксама клапаціцца пра ўбогіх і сірот, каб яны ад голаду, а зімой ад холаду не цярпелі і нідзе пад платамі не паміралі. Гаспадар абавязаны прымусіць лайдакоў і нядбальцаў працаваць, а калі яны пачнуць хавацца, указаць ім дарогу са сваёй зямлі, бо напісана: «Мудры кароль разгоніць бязбожнікаў» (Прытчы 20:26).

Справа гонару хрысціянскага гаспадара — акружаць сябе мудрымі, вучонымі і вернымі людзьмі, якія б заўжды маглі дапамагчы ці падказаць штосьці ў складаных абставінах. Невыпадкова Святое Пісьмо ўхваляе звычай персаў і медаў, якія ля караля заўжды мелі вучоных людзей, што выдатна ведалі права і ўсе законы. Саламон кажа: «Без парады намеры не спраўдзяцца, а пры мностве დарадцаў яны здзейсняцца» (Прытчы 15:22).

Каралю-хрысціяніну пільна неабходна чытаць Святое Пісьмо, бо й сам Бог праз Майсея загадваў: «Але калі ён узыдзе на трон, павінны зрабіць для сябе спіс Закону таго з кнігі, што знаходзіцца ў светароў левітаў. І няхай ён будзе ў яго, і няхай ён чытае яго ва ўсе дні свайго жыцця, каб навучыцца баяцца Госпада, Бога свайго, і імкнуцца выконваць усе словы Закону гэтага і пастановы гэтыя» (5 Майсея 17:18—19). У тыя даўнія часы Бог загадваў каралям чытаць толькі Закон, бо іншых кніг тады не было. А зараз яны павінны чытаць Біблію цалкам, г. зн. усе кнігі Прарокаў і Апосталаў. Яны могуць гэтаксама чытаць паганскія кнігі, найперш даўніх і нядаўніх гісторыкаў, каб ведаць, як жылі раней. Бо Цыцэрон напісаў: «Хто не ведае таго, што дзеелася на свеце даўней, той заўсёды будзе рабом».

Вышэй пералічылі абавязкі каралёў і ўсіх найвышэйшых гаспадароў. Цяпер скажам аб павіннасцях ваявод, старастаў і суддзяў. Ім гэтаксама належыць быць богабаязнымі, справядлівымі, сумленнымі і міласэрнымі. Яны мусяць ведаць законы, мець высокую адукацыю, быць акуратнымі і спраўнымі, а галоўнае — не ласымі на чужое і не хцівымі. Ім сам Бог у Святым Пісьме даў навуку: «Каб суддзі судзілі народ судом праведным. Не перакручвай закону, не зважай на асоб і не бяры хабару. Бо хабар слепіць вочы мудрых і перакручвае словы справядлівых. Праўды, праўды шукай, каб ты жыў і валодаў зямлёю» (5 Майсея 16:18—20). Тым жа звычаем і Майсей, збіраючыся паміраць і згадваючы ўсяму ізраільскаму войску пра колішнія часы, наконт суддзяў мовіў: «І я сказаў вам у той момант — не магу адзін вадзіць вас. Бог вас памножыў, і вось вас зараз столькі, як зорак у небе. Як жа мне аднаму насіць ваш цяжар, праблемы вашыя і спрэчкі вашыя! Выберыце сабе з кожнага калена сталых

мужоў — мудрых і вопытных, — і я прызначу іх начальнікамі. І сказалі вы мне: добрую справу ты загадваеш учыніць. І ўзяў я галоўных з каленаў вашых, мужоў мудрых і з досведам, і паставіў іх урадоўцамі над вамі — тысячнікамі, сотнікамі, дзесятнікамі і старэйшымі ў кожным калене. І даў я загад суддзям вашым у той час, кажучы: выслухоўвайце братоў вашых і судзіце па справядлівасці, як брата з братам, гэтак і чужынцаў. Не рабіце розніцы на судзе між асобамі. Як малога, гэтак і вялікага выслухоўвайце. Не бойцеся твару чалавечага, бо суд — справа Божая. А справы, якія для вас цяжкія, — прыносьце мне, і я выслухаю кожнага» (5 Майсея 1:9—13). Паслухаем аб тым і Іяфора, Майсеевага цесця. Ён, пабачыўшы ўвесь люд, — болей за 100 тысяч, які Майсей адзін судзіў, нярэдка да позняга вечара, сказаў яму: «Няправільна ты гэта робіш. Ты пакутуеш сам і пакутуе твой народ. Бо надта цяжкая для цябе гэтая справа: ты адзін не можаш справіцца з ёю. Паслухайся слоў маіх, я дам табе параду, і будзе з табою Бог. Будзь ты для народа пасярэднікам перад Богам і перадавай Богу справы яго. Вучы іх артыкулам і Законам Божым, паказвай ім шлях Яго, па якім яны павінны ісці, і справы, якія яны павінныя чыніць. Ты ж выберы з усяго народа людзей здольных, якія баяцца Бога, людзей праўдзівых, не карыслівых, ды пастаў іх над астатнімі тысячнікамі, сотнікамі, пяцідзесятнікамі і дзесятнікамі» (2 Майсея 18:17—21). Пра тое, якія павінны быць каралі, суддзі і ўсе ўрадоўцы, досыць шмат пісалі вучоныя людзі, паганскія філосафы — Платон, Арыстоцель, Ісакрат і цяперашнія — Эразм Ратэрдамскі, Рэйнгард Ларыхій, а асабліва наш Андрэй Фрыч (На полі заўвага: «Андрэй Фрыч у кнігах «Аб выпраўленні рэчы паспалітай». — *І. С.*) і інш.

Тутака я вызначыў абавязкі ўрадоўцаў не затым, каб навучыць усіх каралёў і паноў. Я фактычна толькі давёў, якіх каралёў, сенатараў і іншых урадоўцаў можна дапускаць да Хрыстовага Збору і да святых сакрамантаў. Такім парадкам, мы дапускаем і дапускаць будзем заўжды да Хрыстовага Збору людзей усіх станаў: каралёў, імператараў, князёў або княжат, гетманаў, ваявод, графаў, старастаў, намеснікаў, бурмістраў, войтаў, нават жаўнераў, і наогул усіх іншых службовых асоб і ўрадоўцаў — вялікіх, малых і найменшых. Кожны мае права належаць да Хрыстовага Збору, але, вядома, не кожны зможа, а толькі тыя, што моцна і шчыра паверылі пачутаму Слову Божаму, што каяцца за сваё ранейшае жыццё, выкаранілі з сябе старога Адама і прынялі новага, ды жывуць добра, справядліва і пабажна, гэтак, як гаварыў апостал: «Навучаючы нас, каб разважліва, праведна і бо-

габаязна жылі мы ў цяперашнім веку, адцураўшыся бязбожнасці й пажадлівасці свету, ждучы шчаснае надзеі і з'яўлення славы вялікага Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста» (Ціта 2:12—13). Гэткіх мы гатовыя прымаць, не зважаючы на тое, хто ёсць цар як Давыд (Псалтыр 89:20), ці суддзя як Самуіл (1 Царстваў 12), ці гетман або ротмістр як Карнелій (Дзеянні 10), ці сенатар як Язэп з Арыматэі (Маркі 15:43), ці княжыч як Нікадым (Яна 3), ці сенатар як Сергій Павел (Дзеянні 13), ці мытнік як Закхей (Лукі 19), ці мескі слуга як сторaж вязніцы ў горадзе Філіпы (Дзеянні 16), ці падскарбі або охмістр як негр-еўнух, вяльможа каралевы Кандакіі, ці шафар як Эрастыс.

Вось гэта і ёсць нашае Вызнанне аб каралях і наогул усіх урадоўцах, узятае з грунтоўнага Божага Слова. Многія, згодныя з артыкуламі нашага вучэння, вызнаюць разам з намі, што кожная ўлада ад Бога, таму ўсіх начальнікаў належыць паважаць. Мы павінны іх слухацца, выплочваць і ўносіць усе падаткі, паборы, чынш, адным словам, ні ў чым не супрацівіцца.

Усё, аб чым вышэй ішла гаворка, многія разам з намі вызнаюць. Аднак шэраг выступае супроць нашага сцвярджэння, што кожны хрысціянін з добрым сумленнем можа быць на ўрадзе і караць злачынцаў мячом, а гэтаксама, што Хрыстовы Збор можа мець урадоўца з мячом, калі яго паставіў Бог. Нязгодныя з гэтымі дзвюма прапазіцыямі выступаюць, вучаць і пішуць супроць нас, выдаючы з друку свае творы. Яны даводзяць свае думкі, як і належыць, Святым Пісьмом, а нашыя, тым жа шляхам, бураць. Таму мы задумалі яскрава паказаць, з дапамогай Божай, што іхнія довады не такія ўжо й моцныя, а нашыя не такія слабыя, як яны кажуць і пішуць.

Напачатку, каб палеміка ішла парадкам, прывядзем іх довады, без якой-небудзь хітрасці, нічога не адкідваючы і не апускаючы, а гэтак, як яны самі падаюць у сваіх кнігах ці размовах. Пасля, абапіраючыся на Слова Божае, дадзім свае адказы на іх. Затым, як адкінем іх довады, у чым дапаможа нам Бог, пададзім нашыя і падмацуем іх Словам Божым. Калі апанентам штосьці не спадабаецца ў гэтым трактаце, то яны маюць права сказаць пра тое ж ў сваіх новых творах, як і мы, зараз і потым вольныя ў тым жа будзем.

Канец Вызнанню аб урадах і ўрадоўцах.

*1583*

# АПІСАННЕ СІНОДА Ў ІЎІ 1568 Г.
*(урывак)*

Шаноўны Чытач!

Каб ты не марнаваў дарам часу, падам тут вытрымкі з майго дыспуту ці размовы, якую меў 15 год назад з некалькімі міністрамі на Іўеўскім сінодку. Там абмяркоўвалася наступнае пытанне: ці можа хрысціянін мець падданых і нявольную чэлядзь або не. На той час нейкі Якуб з Калінаўкі выказаў ерэтычныя думкі, нібыта сапраўдным вучням Пана Хрыста нельга трымаць Ураду і мець паднявольную чэлядзь. На свой бок ён схіліў некалькіх асобаў з шляхты, з міністраў і з мяшчан віленскіх. З імі пазней, у 1569 г., ён выехаў з Літвы да нейкага Ракава.

На тым сінодку разглядалася нямала іншых пытанняў, найперш:

1. Аб Пану Хрысту, што не быў асобай да нараджэння Марыяй.
2. Аб тым, што Пан Хрыстос і па лініі Іосіфа і па лініі Марыі — сын Давыдаў.
3. Аб Святым Духу і яго ўжыванні.
4. Аб Хрышчэнні, ці патрэбнае яно верным або досыць таго, што яны хрышчаныя ў дзяцінстве.
5. Пра ганарлівасць свету, пра запіранне саміх сябе, пра падданых і нявольнікаў, ці дазволена іх мець.
6. Аб клятвах, ці могуць прававерныя прысягаць.
7. Аб пасце грамадскім або яўным.
8. Аб выхаванні міністраў і плябанаў.
9. Аб пакаранні з Божага Слова, каб яго ўсе сцерагліся.
10. Аб высылцы міністраў і аб іх выпраўленні.

Вакол кожнага з пунктаў, якія прыведзены вышэй, адбыліся грунтоўныя размовы. Праходзілі яны ад 20 да 26 студзеня 1568 года.

На тым сінодку прысутнічалі наступныя асобы:

Павел з Візны, колішні суперінтэндант віленскі, на той момант міністр пана Давыда Эсмана;

Ян Баптыста Свянціцкі, кейданскі міністр;

Блазіуш Качаноўскі, заслаўскі міністр;

Якуб Каліноўскі, перад тым міністр пана Астафея Валовіча;

Сымон Зыра, лоскі міністр;

Валянцін Еранімовіч, іўеўскі міністр;

Сімяон Міхайловіч, лоскі катэхізіст;

Сымон Будны, хоўхаўскі міністр.

У працы сінода бралі ўдзел таксама шляхцічы і месцічы: Давыд Эсман, Мікалай Карызна, Вацлаў Карызна, Мікалай Станіслававіч, Юры Свянціцкі, Мікалай з Гэмбіна (віленскі аптэкар), Рыгор Вадавазовіч (віленскі месціч) і іншыя асобы.

У гэтай кнізе коратка перакажам толькі змест дыскусій пра падданых і нявольную чэлядзь, апусціўшы размовы пра іншыя артыкулы.

Дыскусіі пра падданых і нявольную чэлядзь адбываліся 23 і 24 студзеня на чацвёртым і пятым пасяджэннях.

*Павел, міністр* (пачаў). Мілыя браты! Спадзяюся, што вы ўсе пры Божым спрыянні добра бачыце, што Антыхрыст, засеўшы ў Божым доме (як аб тым апостал прарakaваў), ніколі не лянуецца, а толькі, мяняючы абліччы, падтрымлівае адступленні ад Бога. Ён, як бачым, усталяваў сапраўдны Вавілон (Каталіцкі Касцёл. — *І. С.*). Таму нам не варта верыць артыкулам яго рэлігіі і яго навукам, бо ўсё там, ад малога да вялікага — сфальшавана або перакручана, знішчана або заражона. Паколькі мы нарадзіліся і выхаваныя ў цемры таго Монстра, то мусім шчыра маліць пана Бога і імкнуцца да таго, каб сярод нас не прытаілася якая-небудзь ерась. Я, дзякуючы ласцы Бога майго і прасветленасці ад яго Святога Духа, бачу мноства рэчаў, якія з’яўляюцца сапраўдным папствам. Сярод іх ёсць адна найгоршая — некаторыя нашы браты дасюль маюць нявольную чэлядзь, трымаюць сабе падобных у няволі, насуперак Слову Божаму. Калі ж хтосьці лічыць інакш, няхай адклікнецца і давядзе адваротнае Божым Словам. Бо я так разумею і веру: прававернаму хрысціяніну нельга мець падданых, а тым больш — нявольнікаў і нявольніц. Панаваць над сваім братам, да поту эксплуатаваць яго, распараджацца яго жыццём — ёсць паганскі звычай. Святое Пісьмо выразна сведчыць: Бог стварыў увесь чалавечы род з аднае крыві (Дзяянні 17:26). Таму мы ўсе роўныя міжсобку. Паколькі мы аднае крыві, значыць — браты адзін другому. А калі браты, дык як можа адзін брат панаваць над іншым! Як можа спажываць вынікі яго працы! Буду рады пачуць, калі хтосьці давядзе іншае.

*Сымон Будны.* Добра, браце, паказаў, што Антыхрыст у доме Божым усё змяшаў, сапсаваў, падмяніў, выкараніў або заразіў. Так, не трэба шукаць хаця б адной рэчы, якая б не была пашкоджаная або трывала ў сваёй праўдзівасці. Мушу прызнаць, гэта ты добра давёў. Але надта памыляешся, сцвярджаючы, што прававернаму хрысціяніну нельга мець падданых і нявольную

чэлядзь. Прыгадваеш Пісанне, што Бог з аднае крыві стварыў увесь род людскі. Ведаю, пра тое апостал Павел сказаў, а Лука запісаў. Але не пра тое гаварыў апостал, да чаго ты прыцягваеш яго словы. Ён там не сказаў: Бог стварыў з аднаго чалавека, ці з аднае крыві, увесь род людскі, каб усе былі роўныя, адзін над другім не панаваў. Апостал гаварыў пра іншае. Ён, кажучы, што ўсё створана Богам і пайшло ад Бога, звяртаў увагу афінянаў на тое, каб яны не маліліся нікому іншаму апрача Бога, аніякім балванам, аб чым ніжэй удакладніў.

*Павел з Візны.* Браце! Не зможаш мяне аспрэчыць, што ад злога чалавека, названага Тыранам, пайшоў звычай панаваць над людзьмі. Маецца на ўвазе Німрад, пра якога Майсей так напісаў: «Хум нарадзіў Німрада. Гэты пачаў быць дужым на зямлі. Ён быў моцны звералоў перад Госпадам, таму і гаворыцца: заўзяты звералоў, як Німрад перад Госпадам. Царства яго складалася з Вавілона, Эрэха, Алкада і Холны ў зямлі Саннар (Майсея 10:8—10)». Тут Святы Дух сведчыць: Німрад быў першы, хто забіраў людзей у няволю, панаваў над імі, прымушаў працаваць на сябе.

*Сымон Будны.* Не абараняю Німрада, бо па ўсім бачна — ён быў тыранам. Але тое зусім не дзіва. Д’ябал мае звычай — добрыя рэчы змяніць на злыя. Прыкладам, Бог узнагародзіў чалавечую натуру, ці прыроду, здольнасцю мілаваць сваю жонку, а Д’ябал павярнуў гэта на іншае — на чужалоства і нікчэмныя пралюбадзействы. Тым жа парадкам Бог стварыў старшынства, або ўладу, дзеля дабра, каб бацька загадваў сваім дзеткам, а яны былі паслухмяныя свайму бацьку і маці. Гэтаксама Бог пастанавіў, каб кароль, ці пан, правіў зямлёй, чыніў справядлівы суд, захоўваў спакой для падданых, а тыя, з свайго боку, — слухаліся караля, ці пана, шанавалі яго, рабілі ўсялякія карысныя справы. Але чорт перайначвае Божыя пастановы і схіляе гаспадароў да тыраніі, і яны гвалтам заганяюць людзей пад сваю тыранію, патрабуюць з падданых невыносныя падаткі і службы, абыходзяцца з імі надзвычай жорстка. Але гэта не Божая пастанова, а д’яблава сфальшаванне.

*Павел з Візны*. Ці ж цяпер у нас не так робіцца? Ці ж не працуюць падданыя на сваіх паноў без перапынку і без спачыну ў нас на Літве і ў Польшчы? Ці не плоцяць цяжкіх падаткаў? Самі бедакі мякіну ядуць, нібы свінні, а зерне на чынш, на сярэбшчыну ды іншыя паборы і выплаты мусяць аддаваць.

*Сымон Будны*. Я не сказаў, што ў нас такога няма. Але ў нас ёсць шмат богабаязных паноў, якія робяць жыццё падданых лягчэйшым, не абцяжарваюць іх невыноснымі падаткамі і пра-

цай. Наш абавязак, калі здзек адбываецца на нашых вачах — не маўчаць, а заклікаць не чыніць тыраніі. А дзе яна ўсё роўна працягвае заставацца, то, нагадаўшы тырану адзін раз, другі, трэці — пакінуць яго і не есці ягонага хлеба. Бо таго, хто будзе маўчаць тырану, або спрыяць яму, несумненна пакарае Госпад Бог.

Выснова. У кожнай рэчы і ў кожным стане ёсць добрыя і злыя, справядлівыя і несправядлівыя. Сярод рамеснікаў, гандляроў, ды, урэшце, і паміж намі, настаўнікамі, ёсць і такія, і гэткія. Але, як з-за некалькіх злых настаўнікаў нельга ганіць і адкідваць усё настаўніцтва, гэтак і з-за тых некалькіх каралёў-тыранаў нельга лічыць вінаватымі ўсіх іншых паноў.



# ФІЛОН КМІТА-ЧАРНОБЫЛЬСКІ

*(1530—1581)*

Філон Кміта-Чарнобыльскі ўвайшоў у гісторыю Беларусі як пісьменнік і выдатны дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ён у заможнай сям'і, атрымаў добрую адукацыю. У 1562 г. Ф. Кміта-Чарнобыльскі быў накіраваны камендантам замка Остэр на Чарнігаўшчыне. За вайсковыя заслугі ў 1567 г. ён атрымаў пасаду аршанскага старасты, а ў 1579 г. быў прызначаны смаленскім ваяводам і ўведзены ў склад Сената. Блізу 1580 г. ён здабыў пасаду намесніка Вялікіх Лукаў. Ф. Кміта-Чарнобыльскі пражыў да канца жыцця ў Оршы і выдатна выявіў сябе ў вайсковай, дзяржаўна-палітычнай і літаратурнай сферах дзейнасці.

З пісьмовай спадчыны Ф. Кміты-Чарнобыльскага захаваліся лісты. Нягледзячы на тое, што лісты пісаліся пераважна з службовымі мэтамі, яны з'яўляюцца выдатнымі помнікамі прыгожага пісьменства.

Эпісталярная спадчына Ф. Кміты-Чарнобыльскага належыць да сінкрэтычных помнікаў пісьменства. У іх арганічна спалучаюцца эпічны і публіцыстычны пачаткі, літаратурна-мастацкі і гістарычны дыскурсы.

У публіцыстычных устаўках Ф. Кміта-Чарнобыльскі, побач з разнастайнымі самаацэнкамі і апраўданнямі, уздымаў важныя грамадска-палітычныя праблемы. Ён прапаноўваў напрамкі радыкальных зменаў і рэформаў вайскова-абарончай дактрыны Вялікага Княства Літоўскага.

Галоўны прадмет белетрызаваных лістоў — падзеі ад 1573 да 1574 гадоў на ўсходняй мяжы, а таксама аналіз становішча ў Маскоўскім княстве. Пра апошнія, як вынікае з тэксту лістоў, аўтар даведваўся ад сваіх агентаў «шпегаў», што дзейнічалі ў суседняй краіне. Ф. Кміта-Чарнобыльскі акумуляваў усе звесткі, апрацоўваў іх, а затым дасылаў сінтэзаваныя даклады Панам-Радзе (Ураду) Вялікага Княства Літоўскага і найбольш уплывовым дзяржаўным асобам.

Лісты Ф. Кміты-Чарнобыльскага адрозніваюцца тэматычнай разнастайнасцю, багаццем сюжэтаў і шматстайнасцю матываў. Аўтар імкнуўся прадставіць і асвятліць з дастатковай глыбінёй ключавыя падзеі свайго часу.

У творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага дамінавала вайскова-мілітарная тэматыка. Пісьменнік шырока распавядаў пра вайсковыя злучэнні

Маскоўскага княства: іх склад паводле нацыянальнасці, рэгіёны фармавання, тыпы вайсковых аддзелаў, іх перадыслакацыі і перамяшчэнні, канкрэтныя маршруты, колькасць аддзелаў, віды ўзбраенняў (лісты 3, 5, 8, 10, 12, 15, 17, 21).

Ф. Кміта-Чарнобыльскі спыняўся ў першую чаргу на падзеях мабілізацыі і вайсковых прыгатаваннях ва ўсходняй дзяржаве. У лісце за 30 чэрвеня 1574 г. (16) пісьменнік паведамляў пра прымусовы набор у маскоўскае войска людзей з завяваных смаленскіх абшараў. Аўтар лічыў мэтазгодным акрэсліваць вайскова-стратэгічныя задачы збройных фармаванняў. Характарызуючы маскоўскую вайсковую групоўку, сканцэнтраваную блізу Смаленска, ён зазначаў, што яна мае намер пачаць наступ на перакопскіх і чэраміскіх татараў, корпус якіх рухаўся на Смаленск і Полацк. Пісьменнік паведамляў пра задуму маскоўскага князя авалодаць Астраханню, а ў лісце да Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага (17) апісваў планы маскоўскіх ваяводаў ажыццявіць вайсковы паход на шведскія землі. Аўтар пры гэтым не выключаў таго, што вораг можа павярнуць на беларускія тэрыторыі.

Адзін з галоўных топаў у лістах Ф. Кміты-Чарнобыльскага — месца дыслакацыі вайсковых фармаванняў, іх асноўныя маршруты. У лісце за 2 сакавіка (5) акцэнт зроблены на з'яўленні вайсковых аддзелаў у Смаленску: «люду, де, военного немало до Смоленска прибыло». У лісце ад 1 чэрвеня 1574 г. (12) пісьменнік ахарактарызаваў геаграфію размяшчэння аб'яднаных вайсковых фармаванняў — татараў і маскоўцаў, іх гатоўнасць да баявых дзеянняў ва ўрочышчы Авечыя Лужкі і ў вярхоўях Акі. У лісце да М. Радзівіла за 16 чэрвеня 1574 г. (15) Ф. Кміта-Чарнобыльскі падаў, на падставе данясенняў агентаў, дэталёвае апісанне вайсковай перадыслакацыі ў раён Серпухава і ўзбярэжжа Акі.

Вельмі важная асаблівасць творчага метаду пісьменніка — імкненне акрэсліць колькасныя параметры войскаў, іх склад паводле месцаў, рэгіёнаў фармавання.

Ф. Кміта-Чарнобыльскі, як правіла, фіксаваў тэрытарыяльныя набыткі маскоўскіх князёў. Часцей за ўсё аўтар паведамляў пра завяванне новых земляў у форме сціслых даведак. Напрыклад, пра здабыццё Казані маскоўскім князем сказана: «Казань одержал». Пісьменнік распавядаў пра паводзіны маскоўскіх заваёўнікаў на акупаваных тэрыторыях. У прыватнасці, ён яскрава апісаў сітуацыю ў завяваным маскоўскім войскам Смаленску: паведаміў пра прыбыццё ў горад вялікай колькасці варожых сілаў, якія з дапамогай ўзбороеных прыставаў пачалі зганяць у горад людзей з наваколляў, з мэтай прымусіць іх адбудоўваць астрог — адзін з галоўных элементаў абарончай сістэмы горада.

Ф. Кміта-Чарнобыльскі асвятляў не толькі варожыя фармаванні, але і становішча войскаў ВКЛ. Ён распавядаў пра Аршанскі гарнізон («почат»), які складаўся з 50 казакаў, акцэнтуючы ўвагу на цяжкасці з іх фінансавым утрыманнем. Пісьменнік раскрываў вайсковыя сутыкненні

і пабаявішчы, якія адбываліся ў тагачаснай Усходняй Еўропе, на мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам. Аўтар зафіксаваў падзеі ўварвання шведскіх войскаў на маскоўскія землі. Ён адзначыў разгубленасць Івана IV, яго няздольнасць аказаць адэкватны супраціў захопніку.

На старонках лістоў Ф. Кміта-Чарнобыльскі звяртаўся да палітычнай тэматыкі. Увага аддадзена двум аспектам палітыкі — соймавым справам і зменам палітычнага кіраўніцтва. Шмат месца адведзена палітычным інтрыгам у суседнім Маскоўскім княстве. Пісьменнік гаворыць пра кадравыя рашэнні і змены ў кіраванні Ноўгарадам Вялікім, куды намеснікам быў накіраваны сын маскоўскага князя: «А сына, де, старшого князя великий посадил на царстве на Новегороде Великом» (5).

Ф. Кміта-Чарнобыльскі ў лісце за 5 жніўня 1574 г. (19), адрасаваным А. Валовічу, звярнуўся да падзеяў раптоўнага ад’езду з ВКЛ вялікага князя Генрыха Валуа. Пісьменнік выказаў сваё стаўленне да ганебнага ўчынка манарха, ахарактарызаваў яго як найвялікшую абразу гонару шляхты ВКЛ, зазначыўшы, што падобнага факту, калі манарх пакідаў сваіх падданых, гісторыя яшчэ не ведала. Аўтар таксама распавёў пра рэакцыю на ўчынак манарха ў суседнім Маскоўскім княстве, якая выявілася ў забурэннях на мяжы і вялікім «шмеру» сярод маскоўскіх палітычных колаў.

Ф. Кміта-Чарнобыльскі ў мастацкай форме вельмі яскрава перадаў атмасферу палітычнага крызісу ў Вялікім Княстве Літоўскім у перыяд безгаспадарання, які ўзнік пасля ад’езду Генрыха Валуа. У лісце за 5 жніўня 1574 г. (19), адрасаваным А. Валовічу, ён падкрэсліваў, што ў перыяд пасля ад’езду манарха ўсё ў краіне пайшло наперакасяк: пачаўся бедлам, парушыліся грамадкая мараль і традыцыі, зніклі справядлівасць, сумленнасць, ахвярнасць, цнатлівасць, а замест іх запанавалі — бяспраўе, эгаізм, злаславасць, скнарасць. Краіна апынулася ў тупіку, на мяжы развалу і поўнага заняпаду. У іншым лісце за 18 жніўня 1574 г. (21) Ф. Кміта-Чарнобыльскі падаў больш стрыманае вытлумачэнне ад’езду Генрыха Валуа, выказваючы спадзяванне на яго хуткае вяртанне ў Княства пасля пахавання брата.

Асвятляючы ўнутрыпалітычныя падзеі, Ф. Кміта-Чарнобыльскі засяроджваецца на шляхецкіх з’ездах. У лісце, адрасаваным віцебскаму ваяводу Станіславу Пацу (30), пісьменнік паведамляў пра з’езд у Моркаве, дзе былі зацверджаныя земскія пастановы для ўнясення паправак у Статут.

У творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага знайшлі шырокае адлюстраванне тагачасныя міжнародныя дачыненні. Пісьменнік раскрыў характар і шматлікія аспекты дыпламатычных стасункаў у Еўропе, перадусім Цэнтральнай і Усходняй, у другой палове XVII ст. Ён асвятляў у першую чаргу візіты паслоў і ганцоў Вялікага Княства Літоўскага ў Маскву. У трох лістах за жнівень-верасень 1574 г. (18, 20 і 26) Ф. Кміта-

Чарнобыльскі раскрыў асаблівасці пасольскай місіі Завадскага і Мацвея Пратасовіча ў Маскоўскае княства.

На другім месцы ў творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага знаходзілася асвятленне дыпламатычных інтрыгаў Масквы. У лісце за 13 сакавіка 1574 г. (7) пісьменнік адлюстраваў падзеі перамоваў паміж маскоўскім князем, з аднаго боку, і пасламі Казанскага і Астраханскага царства — з другога. Аўтар праліў святло на змест таемных дамоваў маскоўскага цара з нагайцамі, якім ён паабяцаў спрыяць у вайне з Вялікім Княствам Літоўскім. У допісах знайшлі адлюстраванне перамовы Маскоўскага княства з Швецыяй. Пісьменнік таксама акцэнтаваў увагу на дачыненнях Масквы з татарамі.

Асаблівы акцэнт зроблены аўтарам на асвятленне візітаў паслоў маскоўскага цара да манарха Вялікага Княства Літоўскага. Пісьменнік раскрыў шматлікія аспекты пасольскай місіі на чале з Фёдарам Елчанінавым (12, 16, 24, 27, 29). У лісце да С. Баторыя, за 27 ліпеня 1580 г. (32), Ф. Кміта-Чарнобыльскі часткова закрануў дыпламатычную тэму, апавядаючы пра чаканне маскоўскіх паслоў у Оршы.

Ф. Кміта-Чарнобыльскі падаваў звесткі пра пасольствы іншых краін, якія перасякалі землі Вялікага Княства Літоўскага. У прыватнасці, у лісце да М. Радзівіла за 16 чэрвеня 1574 г. (15) ён распавёў пра шлях малдаўскага пасла Ісаі, які вяртаўся з Масквы на Радзіму. У лісце да Паноў-Рады за 18 жніўня 1574 г. (21) аўтар асвятляў вяртанне з Масквы праз усходнія рубяжы ВКЛ другога малдаўскага пасла — Івана Лагафета.

На старонках лістоў знайшлі адлюстраванне падзеі некалькіх важных пасольскіх візітаў. У цэнтры ўвагі Ф. Кміты-Чарнобыльскага — міждзяржаўныя дачыненні паміж Вялікім Княствам Літоўскім, Маскоўскім княствам, Швецыяй, Польшчай, Францыяй, Астраханскім і Казанскім царствамі, Крымскім ханствам, Ватыканам.

Апісанні пасольстваў у творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага надзвычай шматпланавыя. Пісьменнік надае вялікае значэнне колькасным параметрам. Ён дакладна інфармуе пра склад вялікіх пасольстваў і дыпламатычных місій, абавязкова называе кіраўнікоў. У прыватнасці, пра дыпмісію на чале з ганцом Фёдарам Елізар'евым у лісце за 1 чэрвеня 1574 г. (12) сказана: «с которым почту двадцать человек, а коней двадцать два».

Аўтар фіксуе храналогію перамяшчэнняў і маршруты пасольстваў, падае дакладныя даты іх праезду праз мяжу, праз гарады і мястэчкі, дакладны час пачатку перамоваў: «Который будет на границах панств в[ашей] м[илости] господарских в сюю *середу пришлую, месяца июня девятого дня*» (12). У лісце да Паноў-Рады ВКЛ, адпраўленым недзе ў верасні 1574 г. (18), Ф.Кміта-Чарнобыльскі фіксуе храналогію паездкі ганцоў Завадскага і Мацвея Пратасовіча ў Маскву. Як правіла, пісьменнік паведамляў пра дасягненне пасламі або ганцамі апошняй кропкі візіту.

Шмат увагі пісьменнік аддае раскрыццю прыгодаў і здарэнняў, якія адбываліся з пасламі ў дарозе. У лісце за 1 сакавіка 1574 г. (3) аўтар асвятляе трагічны канфлікт у Смаленску паміж пасламі маскоўскага цара і месцічамі, які скончыўся раненнямі і забойствамі. У лісце за 1 чэрвеня 1574 г. (12) ён паведамляў пра незразумелую затрымку маскоўскіх паслоў у Смаленску, якія вярталіся дамоў.

Абавязковы кампанент сюжэтаў пра пасольскія місіі — раскрыццё асаблівасцяў афіцыйных прыёмаў і перамоваў, развітанняў. У лісце да Паноў-Рады за 18 жніўня 1574 г. (21) аўтар сцісла распавёў пра прыём у Маскве пасланцаў ВКЛ. Аб асаблівасцях перамоваў ён пісаў ў лісце за 28 жніўня 1574 г. (22). У лісце за 10 верасня 1574 г. (23) аўтар толькі прыгадаў факт перамоваў паслоў ВКЛ з маскоўскім князем.

Абавязковы кампанент усіх сюжэтаў міжнароднай тэматыкі — вынікі перамоваў, змест падпісаных пагадненняў. У лісце за 28 жніўня 1574 г. (22) аўтар распавядаў пра вынікі перамоваў паслоў ВКЛ з маскоўскім князем, якія скончыліся падпісаннем мірнага пагаднення.

Топіка пасольстваў і дыпламатычных перамоваў, што знайшлі адлюстраванне ў лістах Ф. Кміты-Чарнобыльскага, насычаная дэталямі і разнастайнымі падрабязнасцямі. Але ў сукупнасці апісанні пасольстваў уключаюць восем асноўных складовых: раскрыццё намераў і планаў манархаў накіраваць дыпламатычную місію ў іншую краіну; пералік складу пасольстваў, «почата», купцоў і іншых удзельнікаў місіі; акрэсленне паўнамоцтваў кіраўнікоў; апісанне храналогій перамяшчэння і маршрутаў, перыпетыяў і складанасцяў паслоў у дарозе; асвятленне асноўных пытанняў, якія абмяркоўваліся падчас дыскусіяў, раскрыццё характару аргументаў, якія выказваліся кожным з бакоў, узаемных прэтэнзій і ўльтыматумаў; падсумаванне візітаў, фармуляванне асноўных вынікаў дыпламатычных місіяў, дасягнутыя пагадненні.

Асвятляючы міжнародныя дачыненні, аўтар паведамляў пра сувязі на рэгіянальным узроўні, згадваў частыя кантакты паміж кіраўнікамі гарадоў, што знаходзіліся на мяжы суседніх краінаў. У прыватнасці, ён піша пра частыя візіты ў Оршу прадстаўнікоў смаленскага ваяводы, з мэтай урэгулявання памежных канфліктаў.

У творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага знайшлі адлюстраванне гандлёвыя дачыненні паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам. У лісце за 17 сакавіка 1574 г. (9) аўтар падаў сюжэт пра карону для маскоўскага князя, вырабленую ў Швецыі за неверагодна высокі кошт.

На старонках лістоў Ф. Кміты-Чарнобыльскага прысутнічала ўрбаністычная тэматыка. Пісьменнік падаў, перадусім, каларытныя апісанні Аршанскага замка, стан яго абарончых збудаванняў. Ён указаў на поўную занядбанасць фартэцыі: непадрыхтаванасць да баявых дзеянняў гарматаў, адсутнасць неабходных, на выпадак аблогі, запасаў правізіі. У іншым месцы ён адзначыў катастрафічнае становішча каралеўскага палаца, які без належнага дагляду — амаль згніў. Пісьменнік, магчыма, крыху згушчаў фарбы, гаворачы: у выпадку, калі вялікі князь наведаецца ў горад, то яму недзе будзе спыніцца і не

будзе чым харчавацца, бо ў паграбах няма аніякага правіянту. У лісце да Паноў-Рады (17) Ф. Кміта-Чарнобыльскі дэталёва ахарактарызаваў сацыяльна-эканамічнае становішча Оршы, указаў на адсутнасць у горадзе службовых людзей, якія б паўсталі на абарону горада ў выпадку варожага нападу.

На старонках лістоў Ф. Кміты-Чарнобыльскага шмат персанажаў. Асаблівы прадмет увагі пісьменніка — маскоўскі манарх Іван IV. Аўтар часта паведамляў пра месцы яго знаходжання, пераезды, найбліжэйшае атачэнне. Пісьменнік падрабязна спыняецца на палітычных рашэннях і дзеяннях Івана IV, вайсковых планах, загадах і распараджэннях, а таксама — унутраных перажываннях і эмоцыях маскоўскага манарха (3, 8, 10, 12).

На старонках лістоў знайшла адлюстраванне спецыфічная дзейнасць тагачасных «шпегаў» — сакрэтных агентаў Вялікага Княства Літоўскага, якія дзейнічалі на Маскоўскіх землях. Ф. Кміта-Чарнобыльскі называе імёны асобных агентаў. Сярод іх, у прыватнасці, фігуруюць — Іван Труба, Аляксей Надавец, Юрка Жалажковіц, Ламанік, Аксён Драновіч. Пісьменнік раскрыў механізмы сувязі паміж ім, як каардынатарам усходняй разведвальнай сеткі, і агентамі. Аўтар паведаміў, што кантакты ажыццяўляліся праз спецыяльных пасыльных, якія дастаўлялі інфармацыю вусна ці пісьмова. Ён раскрыў аператыўныя асаблівасці працы «шпегаў», характар задачаў, якія ставіліся перад імі: у першую чаргу здабыццё дакладных звестак аб ворагу — «певных и неомыльных». Асобны акцэнт пісьменнік зрабіў на цяжкасцях з аплатай працы «шпегаў», матэрыяльнае і фінансавае забеспячэнне іх дзейнасці. Пісьменнік раскрыў спецыфіку арганізацыі вайсковай разведкі сярод маскоўскіх аддзелаў, якую ажыццяўляў нейкі Ламанік.

Адна з важнейшых рысаў творчага метаду Ф. Кміты-Чарнобыльскага — аўтабіяграфічнасць. У творах пісьменніка аўтабіяграфічнасць выявілася ў аповедах пра ўласныя намеры, пра кожны свой значны крок. Аўтар раскрываў прынцыпы ўласнай дзяржаўнай дзейнасці. Ён зазначаў, што заўжды імкнуўся ўсё ўзгадняць, дакладна прадумваць і аналізаваць, ніколі не займаўся палітычнай і дыпламатычнай самадзейнасцю. Аўтар настойліва аспрэчваў абвінавачанні на яго адрас у супрацоўніцтве на карысць маскоўскага князя, які выступаў адным з прэтэндэнтаў на прастол Вялікага Княства Літоўскага пасля раптоўнага ад'езду Генрыха Валуа. У лісце да Астафея Валовіча за 1 чэрвеня 1574 г. ён раскрыў свае паводзіны, свае задумы і ўчынкі, якія скіроўваліся на клопат пра Айчыну. Аўтар распавёў пра свае заслугі перад Бацькаўшчынай, паскардзіўшыся, што іх ніхто належным чынам не ацаніў. Сярод сваіх слынных справаў ён назваў разгром войскаў Шуйскага і Сярэбранага, а таксама вызваленне-выкуп за ўласны кошт палонных.

Аўтар шмат разоў гаворыць пра ўласнае матэрыяльнае становішча. Амаль у кожным лісце пісьменнік скардзіцца на невыноснае жыццё, амаль ультыматыўна прапануе каму-небудзь іншаму пакаштаваць

ягонага нялёгкага хлеба дзяржаўнага службоўца, акцэнтуе ўвагу на немагчымасць разлічыцца за паслугі ганцоў, выплаціць ганарар вайскоўцам, адрамантаваць гарадскія абарончыя збудаванні. Ф. Кміта-Чарнобыльскі ўказваў, што з-за дзяржаўных справаў ён не меў магчымасці ўпарадкаваць уласную гаспадарку, у выніку чаго Чарнобыльскі маёнтак раскрадзены і расцягнуты. Пісьменнік гаворыць пра свой адчай, апошнюю мяжу трывання, гатоўнасць скласці паўнамоцтвы старасты Оршы, усё кінуць. Аўтар нязменна просіць выплаціць яму ганарар за дзяржаўную службу, а ў лісце да Паноў-Рады (20) акцэнуе ўвагу на немагчымасць утрымоўваць на службе нанятых казакаў. Аўтабіяграфічнасць у творах Ф. Кміты-Чарнобыльскага — наўпроставая, адкрытая. У мастацкай тканцы лістоў яна выявілася ў непасрэднай гаворцы пра сябе і ўласныя праблемы.

*Іван Саверчанка*

## ЛІСТЫ

### Ліст да Астафея Валовіча, кашталяна трокскага (7 снежня 1573)

Яснавяльможны міласцівы пане трокскі, пан мой міласцівы!

Навіны, вартыя абазнанасці вашай панскай міласці, з гэтага краю паведамляю.

Паведамілі мне мае шпегі наступнае. Маскоўскі князь сабраў вялікае войска і пайшоў на Казань, прагнучы авалодаць ёю. Але лугавая чэраміса, што выйшла з-пад яго ўлады, кантралюе водныя і сухапутныя шляхі, не прапускае да Казані, чыніць вялікую шкоду і, урэшце, разбілі васьмітысячнае маскоўскае войска. Гэтаксама нагайцы і іншыя орды адкінуліся ад яго і ўзялі Казань у аблогу.

Пятага снежня, у суботу, на дзень святога Мікалая, з Масквы прыйшоў палонны, падданы пана старасты жамойцкага, па імені Іванец, паходжаннем з Шклова. Ён быў у палоне ў маскоўскіх татараў, сто міль за Масквою — у Мяшчэрску. Той, калі знаходзіўся ў мяне ў Оршы, дэталёва распавёў пра падзеі ў Маскоўскім княстве, што супадала са звесткамі маіх шпегаў. Выйшаў з Мяшчэрска перад Філіпавымі запустамі, ішоў на Аляксандаву Слабаду, адтуль — на Маскву, з Масквы да Смаленска, з Смаленска — да Оршы. Пра вялікага князя паведаміў, што той знаходзіцца з войскам акурат у Аляксандравай Слабадзе, адкуль плануе рушыць на Казань. Паведаміў, што татары-нагай-

цы, лугавая чэраміса ды іншыя татарскія орды ад маскоўскага князя адкінуліся і абклалі Казань. Сам вялікі князь збіраецца ісці туды дзеля выратавання горада, напэўна, мяркуе выправіцца на дзень святога Мікалая.

Іванец паведаміў, што вайсковых людзей па дарозе з Масквы да Смаленска нідзе, ні ў якіх гарадах, не відаць. Простай чэрні гэтаксама няшмат, бо ўсіх пагналі з ім на Казань. На дарогах сустракаў шмат людзей, якія накіроўваюцца ў бок Аляксандравай Слабады. Такім парадкам, з ласкі Божай, спадзяемся на нейкі час мець спакой ад таго непрыяцеля.

Той палонны паведамляе аб тым, што чуў у Смаленску, нібыта ад вялікага князя прыйшоў загад смаленскім ваяводам, каб захоўвалі спакой на мяжы, каб купцам нашых земляў аніякіх крыўдаў не чынілі, ставіліся да іх з ласкай, дазволілі гандлёвыя вольнасці. Каб каштоўныя тавары — пазалочаныя шапкі, аксаміты і іншыя каштоўныя рэчы — набывалі для казны і належным чынам плацілі. Адносна сваіх купцоў загадаў — усе маскоўскія тавары адбіраць — сукно, кажухі, бараннія шлыкі. Для чаго — невядома. Напэўна, каб мець падарункі для татараў.

Ваша міласць, пан мой міласцівы, пра ўсё тое ведаць мусіш [...].

## Да Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага (23 студзеня 1574)

Ушанаваныя і яснавяльможныя Панове-Рада Вялікага Княства Літоўскага, панове мае міласцівыя!

Не маем асаблівых навін з нашага краю для вас. Але шмат звестак даходзіць з земляў непрыяцеля. Ваяводы вялікага князя маскоўскага, што трымалі Астрахань, не змаглі вытрымаць ціску нагайскіх і чэраміскіх татараў. Праз два гады стрымлівання аблогі, з-за недахопу ежы, пораху і куляў, не мелі чым бараніцца ад ворагаў. Дапамогі і паратунку ад гаспадара свайго не дачакаліся. З Астрахані ўцяклі і ўздоўж ракі дайшлі аж да Казані. Такім парадкам, татары і чэраміса Астрахань захапілі і пад сваю ўладу забралі.

Казань бароняць моцна. Хаця ежы не дастаткова. Не хапае дроў, каб грэцца. Усе ўнутраныя замкавыя збудаванні з дрэва — спалілі.

А пра тое войска, якое вялікі князь маскоўскі раней на Казань паслаў — нічога не чуваць. У Казані цешаць сябе, што дапамога неўзабаве падыдзе і гарнізон будзе выратаваны. Войскі, якія

вярнуліся з Інфлянтаў, таксама пад Казань паслаў. З шведскім каралём часовае перамір'е падпісаў. Сам вялікі князь знаходзіцца ў Маскве, але меўся ехаць да Ноўгарада.

Ваша міласць, панове мае міласцівыя, аб тым мусіце ведаць [...].

## Да Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага (1 сакавіка 1574)

Ушанаваныя і яснавяльможныя Панове-Рада Вялікага Княства Літоўскага, панове мае міласцівыя!

Навін з туташняга краю, вартых вашай увагі, цяпер не маем. Адно толькі з непрыяцельскай зямлі шмат чаго чуваць.

Вялікі князь маскоўскі, разам з яго сынамі, выехаў да Аляксандравай Слабады. Ведае пра прыезд яго каралеўскай міласці, пана нашага міласцівага, да Кракава.

Войскі, якія быў распусціў, зноў загадаў збіраць. З нагайскімі татарамі і з чэрамісаю заключыў перамір'е. Даў ім вялікія памінкі і скарбы. Нібыта, каля тых царстваў, вялікае пагадненне з імі падпісаў. Казань утрымаў і накіраваў сваіх ваяводаў на Астрахань.

Паслы вялікага князя маскоўскага і ганец ад яго да Паноў-Рады, паноў маіх міласцівых Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, — цяпер ляжаць у Смаленску.

На мясапусты адбылося непрыемнае здарэнне. У Смаленску быў здзейснены напад на гасцінічны дом, з мэтай авалодаць маёмасцю купцоў з туташняга панства яго каралеўскай міласці. Некаторых купцоў паранілі, а некалькіх забілі. Смаленскія ўлады з сваго боку накіравалі некалькі асобаў ад нашых купцоў да вялікага князя маскоўскага. З скаргай яны паімчаліся на падводах у Аляксандраву Слабаду. Які будзе вынік — таго не ведаю.

Вялікія забурэнні адбываюцца і ў іншых гарадах краю. Ваша міласць, панове мае міласцівыя, аб тым мусіце ведаць.

Раней пісаў вашай панскай міласці пра маё жаданне прыехаць на каранацыю яго каралеўскай міласці, каб паклапаціцца пра патрэбы Аршанскага замка, які належыць гаспадару, і майго староства — Оршы. Але ваша міласць Паны-Рада, дзеля розных прычынаў, палічылі мой прыезд немагчымым, тым больш, што гаспадар на той момант яшчэ не прыбыў да панстваў каронных.

А цяпер па ўсім краі стала вядома, што, з ласкі Божай, яго каралеўская міласць прыехаў да сваіх панстваў і ўжо каранаваны. Дай Пане Божа, каб ён вечна сам, і яго нашчадкі, каралявалі

над намі, вернымі падданымі яго, заўжды нас бараніў, шанаваў і клапаціўся пра нас.

Зараз, як і раней, ласкава прашу дазволу, каб мог прыехаць да замка яго каралеўскай міласці, пакуль нейкі час маем спакой з боку непрыяцеля нашага.

Ласкава прашу, дзеля міласэрнасці Божай, зірніце на нястачы мае, каб яго каралеўская міласць з скарбу яго заплаціў мне тое, што заслужана мной.

Пільна неабходныя сродкі дзеля дагляду замка Орша. Ён надта заняпалы, аніякага паратунку і абароны ад яго не можа быць. Замак поўны недахопаў. У ім няма прыпасаў, адсутнічаюць прыстойныя стрэльбы дзеля абароны, калі ўзнікне патрэба адбіць непрыяцеля.

Усё тое даручаю вашай панскай вялебнасці і пакорна прашу, каб не быў забыты і выкраслены.

Почат у складзе 50 казакаў, паводле вашага загаду, у Аршанскім замку трымаем, але аніякая плата мне за яго ўтрыманне не дайшла. Ці мушу павялічыць почат пры гаспадарскім замку?

На ўсё з ласкі вашай панскай міласці патрэбныя неадкладныя ўказанні.

Напісаны ў Оршы, месяца сакавіка 1 дня.

## Да Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага (13 сакавіка 1574)

Ушанаваныя і яснавяльможныя Панове-Рада Вялікага Княства Літоўскага, панове мае міласцівыя!

Тэрмінова паведамляю вашай міласці, панам маім міласцівым, што ў суботу, трынаццатага сакавіка, прыехаў з Аляксандравай Слабады да Оршы служэбнік віленскага месціча Лукаша Мамоніча — Аляксей. Два тыдні таму ён пакінуў Аляксандраву Слабаду.

Той Аляксей паведаміў, што вялікі маскоўскі князь знаходзіцца акурат у Аляксандравай Слабадзе разам з яго двума сынамі. Паведаміў гэтаксама, што князь узяў перамір’е з чэрамісаю і з нагайскімі татарамі, якія прысягнулі яму і паднеслі каштоўныя падарункі. Князь, з свайго боку, частаваў іх некалькі дзён. Пры гэтым ушанаванні прысутнічалі купцы, сярод якіх знаходзіўся і той Аляксей. Такім парадкам, маскоўскі князь захаваў уладу над Казанню і Астраханню.

Чэраміса і татары далі клятву не толькі не парушаць перамір'я, але і дапамагаць маскоўскаму князю ў змаганні з непрыяцелямі.

Як стала вядома купцам, неўзабаве пасля святцаў, на ўсёй мяжы Вялікага Княства Літоўскага будуць размешчаны войскі нагайскіх татараў і чэраміскія.

У Маскве пагаворваюць, што ў выпадку, калі сёлета не будзе дасягнута згода паміж маскоўскім князем і нашым гаспадаром, дык налета зусім цяжка будзе знайсці паразуменне.

Аляксей паведаміў, што ў маскоўскага князя знаходзіўся пасол ад перакопскага цара. Пасла прымалі ў гарадку Братошні, што знаходзіцца паміж Аляксандравай Слабадой і Масквой. У часе прыёму пасольства вялікі князь сеў на сваё царскае месца, апрануты ў баранні шлык і сярмяжны армяк. У руках перад сабой ён трымаў сякеру. Побач князь пасадзіў і сына, апранутага гэтакжа.

Калі той пасол ад перакопскага цара спраўляў пасольства, ён запатрабаваў ад вялікага князя, каб той выплаціў дань у велізарным памеры — па грыўне ад кожнага чалавека. А таксама вярнуў Казань і Астрахань, інакш не будзе падпісана вечнае замірэнне. У якасці напамінку пасол уручыў князю голы кінжал.

Вялікі князь выслухаў словы пасла і адказаў яму:

— Твой цар патрабуе ад мяне дані. Але ён мяне ужо цалкам абрабаваў, і мне больш няма чаго даваць. Ты сам бачыш, што я застаўся ні з чым. Таму, што маю апошняе, тое аддаю яму.

Пасля гэтых словаў ён зняў з сябе баранні шлык, а другі — з свайго сына і перадаў іх паслу.

І яшчэ князь дадаў:

— Што да царства майго, маіх земляў і гарадоў, тыя ультыматумы — не прымаю. Твой гаспадар абяцае наведаць мяне ў наступным годзе — я чакаю яго. Брагі навару звыш меры. Паколькі паслаў мне нож, я ў адказ пасылаю яму — сякеру.

І з тым выправадзіў перакопскага пасла.

Той Аляксей паведаміў, што неўзабаве пасля ад'езду перакопскага пасла цар паслаў сваіх стральцоў да Смаленска збіраць войскі. Усім загадана рыхтавацца да вайны супроць татараў.

Вашы панскія міласці, панове мае міласцівыя пра тое мусіце ведаць.

З тым зычу вам заставацца пры добрым здароўі і Божай ласцы.

Напісаны ў Оршы, 13 сакавіка 1574 года.

## Да Мікалая Радзівіла, віленскага ваяводы (17 сакавіка 1574)

Яснавяльможны, міласцівы пане, ваявода віленскі, пан мой міласцівы!

17 сакавіка мінскі месціч Аксенці Дронавіч прыехаў з Аляксандравай Слабады і пацвердзіў знаходжанне там вялікага князя маскоўскага разам з сынамі, паведаміў пра яго замірэнне з нагайцамі і чэрамісай, пра пасольства ад перакопскага пасла і пра збіранне войскаў на вайну супроць перакопскага цара. Ва ўсім згодны з Аляксеем, слугою Мамоніча.

Сцвярджае таксама, што маскоўскія войскі пазней будуць накіраваны на Украіну, на Вялікае Княства Літоўскае. Каб усё перайначыць, вялікі маскоўскі князь прапануе падпісаць пагадненне аб сумеснай вайне супроць шведаў.

Але не ведаем напэўна, ці плануе вялікі князь маскоўскі распачынаць вайну з нашым каралём. Дакладна вядома толькі, што перакопскі цар актыўна вядзе з ім перамовы, хоча яднацца з ім, каб мець яго дапамогу ў змаганні за царскі пасад. Таму імкнецца, каб ні пры якіх абстаінах з ім не ваяваць.

Вялікі князь маскоўскі заклікаў нагайцаў, каб яны ўдзельнічалі ў вайне з нашым гаспадаром. І прысягнуў на тым, што ўсіх палонных і заваяваныя імі скарбы не будзе адбіраць, а вольна прапусціць праз свае землі ў іх Арду. Не дазволь, Пане Божа, таму здарыцца!

Прашу выбачыць за тое, што ў папярэднім лісце не паведаміў вашым панскім міласцям пра адну важную справу, аб якой даведаўся ад Аляксея, слугі Мамоніча, і цяпер — ад Аксенція. З Англійскага каралеўства для вялікага князя маскоўскага прывезена карона — надзвычай каштоўная. За яе заплочана 230 тысяч рублёў. Таксама за яе плацілі вельмі каштоўнымі сабалямі.

Той жа Аксенці паведаміў, што маскоўскі князь, перад адпраўкай людзей на Аку, вернецца да Дабравешчання ў Маскву.

Ваша міласць, мой міласцівы пан, пра ўсё тое ведаць мусіш.

Прашу майго міласцівага пана, каб я, найніжэйшы слуга вашай панскай міласці, не цярпеў далей нэндзы ў Оршы. Альбо загадайце зняць мяне з пасады, або надайце годныя ўзнагароды. Паспрыяйце, каб гаспадар загадаў выплаціць мне заслужаныя маёй цяжкой працай скарбы. У адрозненне ад іншых маіх братоў мне не дадзена аніякіх валасцяў і двароў.

Пакорна прашу майго міласцівага пана, каб не быў я забыты і не страціў майго здароўя ў нэндзе.

Напісаны ў Оршы 17 сакавіка 1574 года.

## Да Генрыха Валуа
## (1 чэрвеня 1574)

Найяснейшы міласцівы гаспадар, кароль наш міласцівы.

Пан Бог, стваральнік наш, ласкай і воляй сваёй прывёў вас да нашых панстваў і паставіў вашу каралеўскую міласць гаспадаром на сталіцы слаўнага нашага Княства. Дай жа, Пане Божа, гаспадару нашаму міласціваму шчасліва і фартунна панаваць. Зрабі Божа так, каб быў наш гаспадар — міласэрным, справядлівым і хрысціянскім уладаром, ад усіх непрыяцеляў, якія толькі могуць з'явіцца, абараняў нас.

Пры гэтым вашай міласці паведамляю. Смаленскі ваявода інфармаваў мяне, што да вашай міласці едзе ганец вялікагя князя маскоўскага Фёдар Елізар'еў, сын Елчанінаў. На нашай мяжы ён будзе ў сераду, дзевятага чэрвеня. З ім почату — 20 чалавек, а коней — 22. Ваша каралеўская міласць мусіць пра гэта ведаць.

Ад вас хачу мець указанні, каго паслаць на мяжу для сустрэчы і суправаджэння пасольства. Мясцовая шляхта і туташнія ўраднікі спасылаюцца на свае вольнасці і мне ў тым не жадаюць падпарадкоўвацца. А калі прызначаць да тых паслоў прыставаў, дык ім належыць заплаціць, а адкуль браць? Гэтаксама і пасланцам да вашай міласці, якіх накіроўваю з пільнымі навінамі, трэба на страву даваць. Таму прашу, вашу міласць, гаспадара майго міласцівага, каб не затрымліваўся з аплатай за маю службу.

Таксама вашай міласці, майму міласціваму гаспадару, хачу паведаміць пра справы ў вялікага князя маскоўскага, пра якія даведаліся мае шпегі. Цяпер ён, разам з сынамі, знаходзіцца ў Аляксандравай Слабадзе. Затым, на Тройцу, мяркуе быць у Серпухаве, паміж Калугай і Каломнай, каб выступіць супроць татар, набег якіх чакаецца на Маскву.

Паведамляюць, што татары сабралі велізарнае войска, сярод іх — тры царэвічы. Яны ўжо стаяць на землях маскоўскага цара, ва ўрочышчы Авечыя Лужкі.

Супроць татар маскоўскі князь выставіў велізарную армію, якая дыслакуецца ўздоўж Акі. Набудаваў вялікую колькасць гуляй-garадоў.

Першы полк плануюць узначаліць — князь Мсціслаўскі і Пётр Марозаў, другі полк — Іван Шарамецьеў і князь Іван

Шуйскі. Сам вялікі князь будзе ў дапаможным войску. Малодшага сына накіруе да Масквы. Старэйшага сына з войскам, у склад якога ўвойдуць казанскія і касімаўскія татары, пашле ў Ноўгарад Вялікі, бо засцерагаецца ўварвання шведскіх войскаў.

У такіх абставінах маскоўскі князь надзвычай прагне замірэння з нашым міласцівым гаспадаром.

Паслы маскоўскага князя, што яшчэ ўзімку вярнуліся з Полацка ў Смаленск, там і знаходзяцца да гэтага часу.

Хацелася б ведаць ваша рашэнне, якія паслы павінны ісці да вас з справаю, ранейшыя, або тыя, што едуць цяпер.

Напісаны ў Оршы, 1 чэрвеня 1574 года.



# ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ

*(каля 1540 — 1603)*

Васіль Цяпінскі (Амельяновіч) — беларускі пісьменнік, прадаўжальнік кнігадрукарскіх і асветніцкіх традыцый Ф. Скарыны, выдатны філолаг, унікальны філосаф і таленавіты перакладчык эпохі Рэфармацыі. Ён з’яўляецца выключнай асобай у славянскай і еўрапейскай культуры. З імем В.Цяпінскага лучыцца пачатак якасна новай філасофска-культурнай традыцыі, заснаванай на прынцыпах ідэнтычнасці і грамадзянскай еднасці.

Нарадзіўся В. Цяпінскі ў маёнтку Цяпіна (цяпер Чашніцкі раён). Яго бацька Мікалай Іванавіч і маці Матруна Мікалаеўна належалі да шляхецкага стану. Месца навучання В. Цяпінскага невядомае. У 60-я гг. XVI ст. ён браў чынны ўдзел у баявых дзеяннях пад харугвамі аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнобыльскага і падканцлера Астафея Валовіча супраць войскаў Маскоўскага княства.

В. Цяпінскі, як сведчаць крыніцы, належаў да арыянства — адной з мадыфікацый Рэфармацыі. На Лоскім сінодзе 1578 г. ён востра палемізаваў з лідэрамі тагачасных камуністаў — Аляксандрам Вітрэлінам і Марцінам Чаховіцам. Асветнік адстойваў ідэю моцнай дзяржаўнай улады, прытрымліваўся канцэпцыі памяркоўнага, эвалюцыйнага ўдасканалення грамадства, выступаў супраць догмата Тройцы.

З творчай спадчыны В. Цяпінскага захавалася рукапісная «Прадмова» да Евангелля, адна старонка «Катэхізіса, або Сумы навукі для дзетак», а таксама няпоўны пераклад Новага Запавету з аўтарскімі каментарыямі. Усе яны былі выдадзены ва ўласнай друкарні В. Цяпінскага, аб чым ён паведамляў: «в той убогой *моей друкарни* от мене им выдруковано».

На старонцы «Катэхізіса», якая дайшла да нашага часу, змешчаны акурат назоў твора: «Катехисис, або Сума науки детей въ Христе Исусе» і дзве вытрымкі з пасланняў апосталаў Пятра і Паўла. На гэтай жа старонцы падаецца невялікае паведамленне В. Цяпінскага, у якім ён называе сябе стваральнікам «Катэхізіса», а таксама падкрэслівае, што менавіта асабіста ён з’яўляецца перакладчыкам надрукаванага Евангелля: «Иж се имя свое подписываем. А если то фалы своее ищучи. Хто не всхоч верит, трудно се ему справит. Але въ богобойного, само досыт ясне на тое, што нам для того задавано и о нас мнимано бываеть

вымовит. Яко бысмы або для встыду Словом Божим, або то иж бысмы [...] што се подает Словом Божим, подперети не могли. А наостаток, жебы стараючисе для тое правды, чого естли Бог допустить утерпети, имен наших не смели подписовать. А вед же дал Бог по всеи моеи покоре. И о кождом лепей, ниж о собе розумеючи».

Непасрэдна ў тэксце «Прадмовы» пісьменнік яшчэ больш дэталёва акрэсліў мэты «Катэхізіса», а таксама паведаміў аб сваім намеры змясціць яго акурат у першай частцы выдання: «До чого, абы первей сами и их детки смыслы свои неяко готовали, острили и в вере прицвичали тым часом тот *Катехисис,* а которіи сами зданем своим, яко довнимаю за реч исте потребную, естли не зараз, вжды з своим часом узнают, им вперед подаю. Ова их охотными и хутливыми ку можнеишим наукам в слове своем, ку статочному разсудку и ку умеетности пан учинит и взбудить. А то не без великое се потребы чинит тая, бо тепер межи ними яко устала, яко загинула; обачиване речи жалосных кгвалтом слова до уст гонит».

У асноўным сваім творы — «Прадмове» да Евангелля — В. Цяпінскі сфармуляваў уласную мастацка-эстэтычную канцэпцыю. Пісьменнік і перакладчык перадусім вызначыў мэту выдання — служыць праўдзе і свайму народу.

В. Цяпінскі абгрунтаваў неабходнасць грамадзянскага патрыятызму як асновы для паўнавартаснага жыцця ўсяго грамадства, лучнасці ўсіх сацыяльных станаў. Патрыятызм, на яго думку, з’яўляецца надзейным фундаментам захавання гістарычнай перспектывы народа і дзяржавы. Ён заклікаў быць адданым Радзіме, заўсёды «аказваць зычлівасць Айчызне», ва ўсе часы дбаць пра яе росквіт і ўзвышэнне.

Заслуга В. Цяпінскага перад беларускай культурай у тым, што ён на старонках сваёй «Прадмовы» на поўны голас заявіў пра неабходнасць развіцця пісьменства, літаратуры і навукі на матчынай мове. Пісьменнік і перакладчык фактычна сфармуляваў грандыёзную праграму асветы паспалітага люду, акрэсліў дактрыну развіцця нацынальнай культуры, чым прадвызначыў галоўную тэндэнцыю духоўнай эвалюцыі беларускага народа.

В. Цяпінскі выказваў вялікую занепакоенасць станам школьнага навучання, асветы і адукацыі. Пісьменнік, бадай, упершыню выразна адзначыў, што будучыня краіны залежыць найперш ад узроўню адукаванасці грамадства. Толькі развіццё школы і якасная асвета моладзі, паводле высновы асветніка, выратуюць народ і дзяржаву, дапамогуць пераадолець грамадскі крызіс.

Асноўнай мовай навучання, паводле цвёрдага пераканання В. Цяпінскага, павінна выступаць родная мова. Занядбанне матчынай мовы ў школах — найвялікшая памылка і грэх. В. Цяпінскі дакарае, перадусім, святароў і духоўных асобаў, якія не толькі не паказваюць прыкладу, але і самі пазбягаюць выкарыстання роднай мовы, прамаўляючы казанні і павучанні. Пры гэтым пісьменнік заклікаў вывучаць мовы іншых народаў, што, паводле яго слушнага меркавання, надзвычай спрыяе духоўнаму ўзбагачэнню людзей і росквіту краіны.

Занядбанне роднай мовы, пагарда да яе сярод розных станаў грамадства, асабліва сярод князёў і паноў, на думку В.Цяпінскага — неверагодная рэч, вартая жалю і слёз. Гэткае жахлівае становішча пісьменнік расцэньваў не інакш, як Божае пакаранне. «Бо а хто богобоиный, — усклікаў ён, — не задержить, на такую казнь Божію гледечи, хто бы не мусил плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном руском, а злаща перед тым довстипном учоном народе, езыка своего славнаго занедбане, а просто взгарду».

У сваёй «Прадмове» В. Цяпінскі, абгрунтоўваючы неабходнасць перакладу Бібліі на беларускую мову, згадваў першых славянскіх настаўнікаў, якія «амаль тысячу год таму» пераклалі Новы Запавет на славянскую мову. Пісьменнік гаварыў, што іншыя еўрапейскія народы — італьянцы, немцы, палякі, французы, англічане, іспанцы — якраз услед за прыкладам старажытных славянскіх перакладчыкаў ажыццявілі пераклады біблейных твораў на свае нацыянальныя мовы.

В. Цяпінскі адстойваў меркаванне, што без роднай мовы паспалітыя людзі не зразумеюць Святога Пісання, не спасцігнуць сутнасці Божай навукі.

Ён друкаваў евангелічныя тэксты на царкоўнаславянскай мове і паралельна — на старабеларускай. Пісьменнік абгрунтоўваў выданне паралельнага беларускага і царкоўнаславянскага тэкстаў неабходнасцю паўней і як мага дакладней раскрыць сутнасць Евангелляў, дзеля «лепшага разсудку». Параўноўваючы пададзеныя варыянты, можна бачыць, што перакладчык у якасці галоўнага прынцыпу абраў шырокую замену царкоўнаславянізмаў на беларускія народныя або набліжаныя да іх формы, прычым літаральна на ўсіх моўных узроўнях — лексікі, марфалогіі, сінтаксісу і фразеалогіі.

На прыкладзе шматлікіх глосаў — заўваг і каментарыяў на палях надрукаваных Евангелляў, яскрава відаць экзэгетычныя і біблейнагерменеўтычныя асаблівасці пісьмовай спадчыны В. Цяпінскага. Перакладчык і каментатар адметна тлумачыў біблейныя тэрміны, раскрываў сутнасць многіх з’яваў, падзеяў і рэчаў, пра якія паведамлялася ў тэксце. Перадусім ён дае азначэнні наступным канцэптам: *Сатана*, *геена*, *акрыды*, *кітавы*, *асанна*, *статыр*. В. Цяпінскі робіць моўна-этымалагічныя экскурсы, праводзіць рознабаковыя тэксталагічныя параўнанні, даказвае перавагі ўжытых ім лексем.

В. Цяпінскі прадэманстраваў выдатнае валоданне літаратурнамастацкімі прыёмамі. Ён шырока ўжываў метафары, сімвалы, трапныя азначэнні, рытарычныя пытанні, яркія параўнанні. Улюбёны сімвал пісьменніка — «*свяча*», якая сімвалізуе ў яго веды, абазнанасць, розум. У метафарычным значэнні В. Цяпінскі ўжываў дзеясловы — *вастрыць* (рыхтаваць) і *шчыпаць* (крытыкаваць).

*Іван Саверчанка*

## ПРАДМОВА

Слаўнай манархіі славянскай і асабліва богабаязлівым — ласка і суцяшэнне ад Бога Айца і Пана нашага Ісуса Хрыста.

Рады выявіць веру маю, якую трымаю, перадусім народу майму беларускаму. Той мудрасцю слаўных продкаў сваіх — пацвердзіць яе, а калі ў чымсці памыляюся — выправіць. Трымаюся ва ўсім толькі Евангелляў, дадзеных Богам праз Пана Хрыста і апосталаў. Яны ёсць сума Закона Божага.

Евангеллі выйшлі з друку на славянскай і ўласна беларускай мовах. З дапамогай Пана Бога напісаны не высакадумным і красамоўным выкладам, не ўскладнёнымі і забытымі словамі, але — даступна, зразумела і шчыра, дзеля зычлівасці да маёй Айчызны.

Мітрапаліт і ўладыкі, каму ўласна і належала выканаць гэтую працу, не ўзяліся за яе.

З убогай маёй маёмасці — народу майму ўслугую. На ўласныя сродкі, з даходаў майго маёнтка, хоць і невялічкага, зрабіў наклад. У розных месцах, часта не блізкіх — адшукваў старыя і даўнія кнігі. У папярэднія гады пераадольваў цяжкія шляхі, чыніў усе справы, неабходныя для разготвання друку. Усё даводзілася пачынаць знову. Перадусім належала ўсталяваць друкарскі варштат.

Я не італьянец, не немец, не доктар і не нейкі пастаўлены поп, а звычайны русін, з народнага асяроддзя, які ўслугуе сваёй русі. Мне, як нярэдка здараецца, многія вялікую няўдзячнасць і пагарду выказвалі, а некаторыя, замест дапамогі і падзякі, — зайздрасцю плацілі. Але выконваў мой абавязак не дзеля падзякі, а за ласкай Пана Бога дбаў пра іх выратаванне. Прагнуў памкненні і шчырасць майго сэрца паказаць ім, завяршыць працу, каб ухваліць Бога.

Найбольшыя складанасці паўсталі з-за ўжывання дзвюх моваў — славянскай і беларускай. На той вучонай славянскай мове выдрукаваў ва ўласнай друкарні Евангеллі, напісаныя святым Матфеем і святым Маркам, а таксама пачатак Лукі. Слова за словам падаў, як яны ў сваіх цэрквах чытаюць і ўжываюць, дзеля найлепшага спасціжэння і дзеля іх росквіту. Не без вялікай карысці ўчыніў тое, бо цяпер і славянская мова ў іх вельмі заняпала, амаль загінула. Назіраем жаласлівыя рэчы, як слова гвалтам да вуснаў гоняць.

Напачатку падаю Катэхізіс, каб дарослыя і іх дзеткі ўзбагачалі і вастрылі свой розум, квітнелі ў веры. Лічу яго надта карысным і патрэбным. Калі не цяпер, дык за сваім часам спасцігнуць яго.

Хто з богабаязлівых не спыніцца, гледзячы на гэткае Божае пакаранне! Хто не мусіць заплакаць ад нечуванага занядбання ўласнай мовы, нябачнай пагарды да яе сярод вялікіх князёў, значных паноў, нявінных дзетак, мужоў і жонак! Моцна пакараны вялікі беларускі народ, які быў некалі вельмі адукаваным.

Пакаранне паслаў Пан Бог за пагарду. Ясная Мудрасць, якой беларусы валодалі як прыроджанай, пакінула іх. А на яе месца прыйшло аплаканае невуцтва. Асобныя саромеюцца ўласнага пісьма, асабліва ў Слове Божым.

Нарэшце, які жаль і шкадобу выклікаюць тыя, хто называе сябе духоўнымі і настаўнікамі! Смела кажу — зусім не валодаюць мовай. Аніякага сэнсу не разумеюць. Не толькі не развіваюць мовы, але нават школак для яе пачатковага засваення не маюць. Наведваюць польскія ці якіясь іншыя школы. Асобныя, страціўшы дарэшты сорам, выпраўляюць дзетак, калі нават адно слоўца сваё ад іх пачуюць.

Тут бы мог прывесці шматлікія прыклады вялікіх славянаў, але згадаю Іаана і Грыгорыя, якія выдатна валодалі не толькі сваёй мовай, а ведалі некалькі моваў. За вучонасць іх з удзячнасцю называлі Златавуснымі. Калі б яны былі жывыя сёння — паклікаў бы іх да сябе дзеля ўзору, але, паколькі іх няма — спасылаюся на іх, як на красамоўны прыклад. Каб яны толькі маглі сёння ўбачыць, якой прыгажосці і аздобы пазбаўлены народ! Усё проста ідзе да згубы. Нам трэба злітасцівіцца з саміх сябе.

Калі зірнуць у нашы мінулыя часы, то там убачым высакародны, слаўны, энергічны, сумленны народ. Суседнія адукаваныя народы захапляліся мудрасцю, што панавала тут, нават вучыліся ў нас. Уласнае пісьменства ўжывалі. Тэтра-Евангелле і Апостал на славянскай мове мелі ці не тысячу год таму. Перакладзены яны былі славянамі і пашыраліся па ўсіх цэрквах — сербскіх, маскоўскіх, малдаўскіх, балгарскіх, харвацкіх ды іншых. Шанавалі тых, хто жадаў і умеў чытаць той пераклад! Той муж, наш мілы славянін, знаць, пакінуў пасля сябе перакладчыкаў з лацінскай і грэцкай моваў. Так быў дасканалы, што цяжка сказаць, якой мовай ён валодаў лепей — грэцкай ці славянскай.

Маем нямала прыкладаў, які адукаваны і годны народ славяне! Каб не псаваліся — былі б у чытанні сваіх пісем больш здатнымі. Якую мелі абазнанасць і вышкаленасць! Якія сіноды з папамі рымскімі і з іншымі асобамі, вартымі памяці, мелі! Як шмат людзей да праўдзівай веры з блудаў вывелі! Як у размаітых мовах вывучаныя былі! Якое святападобнае жыццё вялі! Як між

сабой злых і фальшывых у веры братоў выкрывалі, лекавалі і накіроўвалі! Як настаўнікаў сваіх у навуцы Слова Божага ад жаніцьбы адводзілі! І іх, аздобленых, усім народам і верам дасюль, як прыклад і як свечку, што выпраменьвае чысціню, паказваюць.

Заслугоўваюць, каб пра іх шырэй напісаць. Але толькі адзін выразны і яскравы прыклад, варты вечнай памяці, прыгадаю. Ён настолькі значны, што вядомы ўсім і без пісьма. Славяне былі аздобленыя Панам Богам гэткім жыватворным дарам, што пераўзыходзілі не толькі папу рымскага, але і найадукаванейшыя народы ў Лівіі, Антыёхіі, Пентаполіі, Сіцыліі, Месапатаміі, Палесціне, Фінікіі, паўсюль, дзе толькі можна вокам асягнуць. Пераўзыходзілі, ад нас недалёкіх, — італьянцаў, немцаў, палякаў, французаў, англічанаў, гішпанаў! Карацей кажучы — былі над усімі ў свеце хрысціянскімі народамі. Асвечаныя ў Слове Божым самі, усім іншым прыклад паказвалі. Паводле навукі апостальскай, сваёй уласнай мовай даўно Слова Божае выклалі, выкарыстоўвалі і нам пакінулі. За іх узорам усе іншыя народы ў наш век прыйшлі да таго ж, праўда, не без забурэнняў і звадак. І Слова Божае пачалі перакладаць і чытаць на сваіх прыроджаных мовах.

Дай Пане Божа, каб вы — славутыя панове, што заступілі на месца сваіх вялікіх бацькоў — заставаліся вартымі вашых ухваленых продкаў! Няма граху спрыяць народнай мове і дапамагаць простым людзям. Каб вы, з міласці да Айчыны, заўжды гатовыя былі дапамагчы ім, бо прастата беднага чалавека, паспалітага, заўжды стаіць перад вашымі вачыма. Каб вы прыкладам сваім міласэрным дбалі пра патрэбы Айчызны вашай, здужалі прастату і занядбанне навук. Спрыялі, колькі ёсць братэрскай міласці ў вас! Бо сярод людзей няма нічога большага, чымся літасць — знак падабенства да Божай дабротлівасці.

Нарэшце, дзеля атрымання ад Бога вечнай узнагароды, дапамагайце таму чулліваму і сумленнаму народу. Зрабіце так, каб вашы мітрапаліты, уладыкі і настаўнікі вучылі Слову Божаму, а не займаліся подкупам і пасуламі, канкуруючы адзін з другім, здабываючы духоўныя пасады. Каб не займаліся марнатраўствам, а вялі свой народ да высокіх навук. Менавіта да навук, а не гэтак, як цяпер, на вечны свой сорам — толькі каб ледзьве прачытаць, і больш не навучаюцца ў сваёй мове.

Належыць закласці школы. Узняць і ўзвысіць занядбаную на працягу многіх гадоў навуку Слова Божага, як таго прагнулі і дамагаліся браты вашы.

З тымі клопатамі пра Айчызну даручаюся і пакладаюся на вашу пільнасць, кемлівасць і вернасць. Прашу Пана Бога, каб даў моцы, калі Айчызна дарэшты згіне — з ёю разам згінуць. Але калі праз вашы высілкі яна будзе выратавана — з вамі і з ёю разам узняцца!

І тут ужо завяршаю маё слова. Падсумоўваючы, у скрусе кажу: калі за нашыя грахі не будзе міласэрнасці Божай — тое пакаранне ад нас аддаліце. Асабліва цяпер, калі на свае вочы бачым, што ўсе рэчы злымі разважаннямі надта папсаваны. Не можа нічога дасканалым заставацца, калі яно папсаванае. Таксама ніхто не можа пазбавіцца аблуднасці, калі не хоча адступіць ад злых рэчаў.

Звычайна бывае, што жывога адоранага чалавека, асабліва свайго або знаёмага, людзі сярэдніх здольнасцяў без абразы выносіць не могуць. Таму, каб успаміналі мяне праўдзівымі словамі, хачу пазбегнуць злых дакораў, не кажу ўсіх, але часткі. Не прашу, не запабягаю, не ўлагоджваю, аніякімі довадамі пераконваць не хачу. Але, выканаўшы мой абавязак даастатку, мушу да Бога звярнуцца, бо ўсе станем перад ім.

Ні каліва не сумняваюся ў тым, што справядлівы Суддзя справу нашу ўхваліць, хоць непрыяцелі яе моцна абражаюць і выкідваюць.

А цяпер набожнага Чытача, дзеля Хрыста, просім, калі заўважыць нейкія недахопы ў маёй асобе ці ў навуцы, каб дзеля Хрыста дараваў, не прыпісваў іх нашай зласлівасці, а толькі адносіў да людской слабасці і абмежаванасці. Калі ж памылкі, у якіх нас абвінавачвае, — значныя, няхай нас не сарамаціць. Адно толькі ўкажа іх, бо гатовыя ўслед за Іаанам Хрысціцелем здрабнець, каб Пан Хрыстос рос (Яна 3 : 30, 11).

Наастатак, усіх пабожных дзеля Хрыста просім, каб нічога не мелі супроць тых, каторыя нас шчыплюць, знявагамі пераследуюць. Каб не жадалі ім, з Якавам або з Іаанам, зыходжання полымя з неба (Лукі 9 : 52, 54, 55; 48), пазбаўлення маёмасці і пасадаў. У адпаведнасці з Словам Божым і Хрыстовай навукай зычце ім усялякага дабра. Разам з намі прасіце за іх Пана Бога, каб апамятаваліся і былі выратаваныя, каб не пазбавілі сябе, з іх вартасцямі і славай, вялікай Божай ласкі.

Амінь.



# АНДРЭЙ РЫМША

*(каля 1550 — пасля 1599)*

Андрэй Рымша — адзін з асноўных прадстаўнікоў старажытнай беларускай паэзіі другой паловы XVI — пачатку XVII ст. Ён пакінуў значны след у гісторыі нацыянальнай літаратуры і культуры.

Біяграфічныя звесткі пра А. Рымшу вельмі бедныя: нарадзіўся каля 1550 г. у вёсцы Пяньчына Баранавіцкага раёна, з 1572 г. служыў у Радзівілаў — спачатку ў Мікалая Рудога, затым у Крыштофа Перуна, прымаў удзел у вайне 1579—1582 гг. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай

Творчая спадчына А.Рымшы на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах. На старабеларускай мове напісаны так званыя «эпікграмы» — вершы ў гонар знакамітых асоб або на магнацкія гербы. Тут аўтар дасягнуў пэўных мастацкіх вяршыняў. Асаблівай дасканаласцю вылучаюцца творы: «На герб Льва Сапегі» і «На герб Тэадора Скуміна», у якіх строга вытрыманы нормы эмблематычнай паэзіі. У структурна-кампазіцыйным плане вершы мелі чатыры абавязковыя элементы: уступ-зачын, зварот да памяці продкаў: тлумачэнне знакаў — «кляйнотаў» герба, і заканчэнне-пажаданне. Кожны з элементаў верша выконваў сваю мастацка-эстэтычную функцыю.

Уступ-зачын — гэта, як правіла, апісанне бязмежных нябесных прастораў ці нечага іншага, што нельга «оком лацно обачити» і «должыню и шырокость позначити». Напамін аб продках, на думку аўтара, павінен быў нагадаць гаспадару герба пра неўміручую гісторыю яго мужнага роду. Асабліва багатую творчую фантазію ўкладваў А. Рымша ў тлумачэнні гербавых знакаў, сярод якіх «стрэлы», «лініі», «карона», «коннік», «хмары», «зоркі», «рэкі». Так, зоркі над яркім месяцам у акружэнні хмары азначаюць, што славу Скумінаў нельга засланіць ніякімі перашкодамі, а карона ў самым версе герба сведчыць пра дабрадзейнасць і мужнасць старажытнага роду.

Заключныя радкі «эпікграмы» — гэта аўтарскае пажаданне доўгіх гадоў жыцця, справядлівасці ва ўсіх справах і вечнай славы. Як вядома, розныя паэтычныя прысвячэнні і празаічныя прадмовы выконвалі ў тагачасных выданнях не толькі літаратурна-мастацкія функцыі. У іх нярэдка выказвалася ўдзячнасць за матэрыяльную падтрымку,

усхваляліся дабрачыннасці мецэната, што садзейнічала зберажэнню кнігі ад знішчэння яе ідэалагічнымі ворагамі.

Прыхільнасць А. Рымшы да грыгарыянскага календара была для яго падставай для напісання паэтычнага твора «Храналогія», які быў выдадзены ў Астрожскай друкарні ў 1581 г.

А. Рымша пераклаў з лацінскай мовы на польскую твор паломніка ў Ерусалім Анзэльма Паляка «Хараграфія, або Тапаграфія святой зямлі». Ён быў надрукаваны ў 1595 г. у Вільні ў друкарні Яна Карцана.

Асаблівае месца ў літаратурнай спадчыне Рымшы займае гістарычная паэма-хроніка на польскай мове «Дэкетэрос Акроама, або Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў Крыштофа Радзівіла». Паэма была напісана ў 1583 г. і выдадзена праз два гады ў Вільні ў друкарні Данілы Ланчыцкага на сродкі аўтара (Унікальны экземпляр паэмы захоўваецца ў Гданьскай бібліятэцы Польскай АН).

У выданні «Дзесяцігадовай аповесці...» А. Рымшы строга вытрыманы тагачасны літаратурны этыкет: непасрэдна перад тэкстам ідуць разнастайныя прадмовы і прысвячэнні. На адвароце тытульнага ліста змешчана выява герба Радзівілаў з аўтарскім надпісам і эпіграмай на лацінскай мове, якія ў трыадзінстве ўтвараюць эмблему. Затым ідзе панегірык, таксама на лацінскай мове, напісаны акравершам. Пачатковыя літары кожнага радка зверху ўніз складаюць: «Крыштоф Радзівіл Валадар Віленскі». Невялікі верш на польскай мове «Пабудка да ўдзячнасці славы людзей рыцарскіх» напісаны невядомым аўтарам: унізе пад ім стаіць нерасшыфраваны і сёння крыптонім «М. І.». На першых старонках кнігі змешчаны таксама верш «Да аўтара добры прыяцель». Ён падпісаны «J. К.» — хутчэй за ўсё «Ян Казак». Паэма А. Рымшы падзелена на 25 частак, якія складаюць каля 2200 радкоў. Яна ахоплівае падзеі за 10 гадоў, што і вызначае яе назву. Мастацкай асновай «Дзесяцігадовай аповесці...» з’яўляецца прынцып гістарычнай дакладнасці. У строгім храналагічным парадку ў ёй адлюстраваныя найбольш важныя вайскова-палітычныя падзеі, што адбываліся ў Вялікім Княстве Літоўскім ад 1572 да 1582 года.

*Іван Саверчанка*

## КОТОРОГО СЯ МЕСЯЦА ШТО ЗА СТАРЫХ ВЕКОВ ДЕЕЛО КОРОТКОЕ ОПИСАНІЕ

*[Храналогія]*

*Месяца сентебра, по-гебреиску елюль, просто вресень.*
Двадъцать четвертого дня месяца сенътебра
дороблен Еросолим, сталася реч добра.
*Месяца октовріа, по-гебреиску тышри, просто паздерник.*
Арха з Ноим на горе станула на суши,

другіи потоп не будет, такъ нам Писмо туши.
Октоврія 7 дня.
*Месяца ноемврія, по-гебреиску маргеусам, просто груденъ.*
Жидом свято уставил тут царь Еровоам,
мы о свои не дбаем, не велми жъ добро нам.
Ноемврія 5 дня.
*Месяца декаврія, по-гебреиску хашлеу, просто просинец.*
В том месяцы Ісус Христос народился нам,
не хто иныи, тот избавил души наши сам.
Декаврія 25 дня.
*Месяца генуара, по-гебреиску тебет, просто стычень.*
Чужоземъские мудръцы Христа привитали,
злато, ладан и миру, яко Пану, дали.
Генуара 6 дня.
*Месяца февраля, по-гебреиску себат, просто лютый.*
Смотри, якъ то голубка Ноаху служила,
мы о Бога не дбаем, только б злость плужила.
Февраля 18 дня.
*Месяца марта, по-гебреиску адар, просто марец.*
Въ том месяцы Господа жиды крижовали,
собе лихо, нам добро тым Паном зеднали.
Марта 25 дня.
*Месяца априля, по-гебреиску нисан, просто кветень.*
Жидове сухо прошли Чирвоное море,
кормил их Бог напущи, не было им горе.
Априля 14 дня.
*Месяца мая, по-гебреиску іяр, просто май.*
Ной арху готует Божим повеленіем,
абы въ потоп не згинул зъ своим поколеньем.
Мая 10 дня.
*Месяца іюня, по-гебреиску сыван, просто чырвец.*
Ужо воды въсих топят, Ноах въ корабль вошол,
знать, иж Богу кланялъся, про то ласку знашол.
Іюня 27 дня.
*Месяца іюля, по-гебреиску тамус, просто липец.*
Моисей побил таблицы зъ приказаньем Божим,
а мы грешим, што часок, ни ся страхом трвожим.
Іюля 17 дня.
*Месяца августа, по-гебреиску аов либо авъ, просто серпень.*
Въ том месяцы Аарон умер, Божій ереи,
того собе не приклад ты, попе, завжды меи.
Августа 1 дня.

Друковано 5 дня мая, року 1581, въ Острозе.
Писанье Андрея Рымши.

## НА ГЕРБ ЯСНЕВЕЛЬМОЖНОГО ПАНА, ПАНА ОСТАФЕЯ ВОЛОВИЧА, ПАНА ВИЛЕНСКОГО И ПРОЧИХ

Што две стрелы, што врубы, што лелеи значат,
то вси люди мудрые вельми горазд бачать,
Которых зацныи тот дом за герб уживает,
вер мне, иж там господу цнота свою мает.

## НА ПРЕСЛАВНЫЕ А СТАРОВЕЧНЫЕ КЛЕЙНОТЫ ИЛИ ГЕРБЫ ЯСНЕВЕЛЬМОЖНОГО ПАНА, ПАНА ЛВА САПЕГИ ПОДКАНЦЛЕРЕГО ВЕЛИКОГО КНЯЗЬСТВА ЛИТОВЪСКОГО, СЛОНИМСКОГО, МЯДЕЛСКОГО, МАРКОВСКОГО И ПРОЧИХЪ СТАРОСТЫ, ЕПИКГРАММА

Въсе можем своим оком, лацно обачити,
Долъжыню и шырокость, шнуромъ позначити,
И человека можем, познати по твары,
Если въ собе не маеть, лишнее привары,
Але где цнота собе, обрала оселость,
Тамъ ростроп ест до всего, и мужьская смелость,
Которая зацные, завжды домы буди
И клейноты розъдаеть, тыми слынуть люди.
Бо такие николи зъ света не изъходеть,
Але одинъ по другом, во веки славу плодеть.
Хочеш же ся присмотреть, гербомъ праве значным.
За раз можеш познати, иж суть в дому зацным.
Зъ давна славныхъ Сапеговъ, тые зъ предковъ своихъ,
Заквитывали въ цнотахъ, знать во лилиях троих.
При которихъ зъ оружъемъ, конъный воин стоить,
Знакомъ того иж ся з нихъ, ни одинъ не боить.
Служить своимъ сподарем, ку кождой потребе,
Не литуючи скарбовъ, ни самого себе.

Къ тому видишь якъ въ локоть, пострелена рука,
Видишъ ижъ въ скрозь изъ туга, з прострелного лука,
Таки пострелъ никого дома не потькаеть,
Одно хто поганьские, польки розрываеть.
Въ тыхъ же геръбехъ посредку, есть стрела зъ крестами
Двема, а третий блиско, осажономъ лунами.
Тые знакомъ ижъ они, больш для Хрестианства
Клали здоровье свое, несмотречы паньства.
Смотри жъ вышей узриш тамъ, надъ гельмом коруну,
Которая даеть знать, ижъ тамъ Бог фортуну,
И цноту съ сильнымъ мужъствомъ сполне коронует,
Чого у них ани моль, ни ржа не попсует.
Живете жъ Сапегове, вси въ многие лета,
Ваша слава слыть будеть, покуль станеть света.
Подавайте жъ потомъком, што маете зъ предъков,
Ведже и вашихъ цныхъ справъ, въ весь свет полон светков.

*Анъдрей Рымъша.*

*1588*

## НА ГЕРБЫ ЯСНЕВЕЛЬМОЖНОГО ПАНА, ПАНА ТЕОДОРА СКУМИНА, ВОЕВОДЫ НОВГОРОДСКОГО, ЕПИКГРАММА

Не простым людем гербы зъ неба посылают
Яковый Скуминове въ своим дому мают,
Якъ звезда над луною хорошо ся блищить,
А светла месечного бынамне не нищыть,
Такъ обое светятся, ровъно окром хмары,
Якъ слава у Скуминов маеть свои дары,
Бо чим далей, тым ясней въ славу ся подносять,
Урадами зацными под небо выносять.
Мог бы въместо месеца сонцо тамъ отдати
И въсе небо зъ знаменми до него придати,
Бо такъ тот дом Скуминов въ Литве ясне слынеть
И будет завъжды слынуть, поки свет не минет.
Смотри ж, якъ реки текут, а все три зъгодливе,

Вер, иж было где смотреть, а непохлебливе,
Бо не по одной реце плавал и з делами,
Служечы господару розумом, силами,
Не чужому, своему, и Отчызне милой,
Трафлаючи недруга по шыи отылой.
Тот герб здавна въ его дом зъ матки назначено,
Бо такие прыметы у нем обачоно.
Иж водные послуги мел отправовати,
Тым ся господарови и въсим подобати.
К тому еще два гербы видиш быть на споде,
Тых достали предкове его на свободе
Будучи, а цнотою оных доставали,
Веру зъ мужством Отчызне своей заховали.
Вер ми, гербов не дають въ дому седяшому,
Але зъ татарми въ полю часто гулящому
Не зъ голою рукою, зъ шаблею острою,
Завжды будучы готов до смертного бою.
Жыви ж зъ тыми гербами, ты, зацный Скумине,
А буяй въ своей славе навеки и ныне!

*А. Р. Литвин.*



# ЛЕЎ САПЕГА

*(1557—1633)*

Леў Сапега — зорка першай велічыні на духоўна-культурным і палітычным небасхіле Вялікага Княства Літоўскага Яго жыццё і дзейнасць прыпадаюць на перыяд уздыму і росквіту старажытнага беларускага гаспадарства. Нарадзіўся Л. Сапега ў Астроўне, што на Віцебшчыне, у сям'і Івана Сапегі, драгічынскага старасты, і Багданы з роду Друцкіх-Сакалінскіх. Пачатковую адукацыю юнак атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе, уфундаванай Мікалаем Радзівілам Чорным, а ў 13-гадовым веку паступіў у Ляйпцыгскі (Ліпскі) універсітэт, дзе гадоў колькі студыяваў гісторыю права. Па вяртанні на радзіму ён трапіў на службу да вялікага князя С. Баторыя. У 1579—1582 гг. на чале гусарскага аддзела вызваляў беларускія землі ад маскоўскіх агрэсараў, ваяваў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалачам.

Як узнагароду за ратныя справы Л. Сапега ў лютым 1580 г. атрымаў пасаду сакратара, а неўзабаве і найвышэйшага пісара Вялікага Княства Літоўскага. З гэтага часу распачалася кар'ера Л. Сапегі як палітычнага дзеяча, змагара за ўмацаванне Бацькаўшчыны. У 1581 г. ён разам з А. Валовічам ды К. Радзівілам Перуном дамагаецца ўтварэння Трыбунала — найвышэйшага апеляцыйнага суда Княства. Пры яго чынным ўдзеле было падрыхтавана юрыдычна-прававое абгрунтаванне гэтай важнейшай судовай інстанцыі і апублікавана пад тытулам — «Трыбунал» (Вільня, 1581).

У 1584 г. Л. Сапега едзе на чале пасольства ў Маскву, дзе на выключна выгодных умовах падпісвае пагадненне з усходнім суседам і вяртае з маскоўскага палону без аніякага выкупу каля 900 суайчыннікаў. Поспех кіраўніка пасольска місіі быў добра ўзнагароджаны манархам: у 1585 г. ён атрымаў Слонімскае староства і партфель вялікакняскага падканцлера. Новая пасада дазволіла Л. Сапегу здзейсніць яго даўнюю задуму — умацаваць дзяржаву.

Па смерці ў 1586 г. С. Баторыя Л. Сапега ўзяў чынны ўдзел у выбарах новага манарха. На апошнім этапе палітычнай барацьбы ён падтрымаў кандыдатуру Жыгімонта Вазы, і той урэшце выйшаў пераможцам, заняўшы вялікакняскі пасад. Дзякуючы ўзважаным дзеянням падканцлера і ягоных аднадумцаў Вялікае Княства Літоўскае выйшла з палітычнага крызісу без істотных стратаў. Больш за тое,

Л. Сапега дамогся выканання Жыгімонтам галоўнага перадвыбарнага абяцання — зацвердзіць новы Статут Вялікага Княства Літоўскага. 28 студзеня 1588 г. Жыгімонт III Ваза паставіў свой подпіс пад Прывілеем, пацвердзіўшы гэтым юрыдычную моц Статута. Не чакаючы дзяржаўнай падтрымкі, Л. Сапега ахвяраваў уласныя сродкі на выданне Статута. 12 ліпеня 1588 г ён пісаў з гэтай нагоды тагачаснаму канцлеру К. М. Радзівілу: «Статут новы загадаў ужо друкаваць па-руску, хацеў бы яго выдаць і па-польску, аднак, калі б давялося яго перакладаць літаральна, паводле рускіх словаў і сентэнцыяў, то атрымалася б вельмі блага. Ахвотна пачуў бы рады вашае міласці. Прывілеі гэтаксама хацеў бы выдаць пры Статуце, аднак не ўсе яны для нас прыдатныя — у адных пачатак добры, а сярэдзіна дрэнная, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак і канец дрэнныя». Падрыхтаваны Л. Сапегам Статут 1588 г., як найдасканалейшы ва ўсёй Еўропе кодэкс законаў, стаўся гарантам эканамічнай, духоўна-культурнай і дзяржаўна-палітычнай незалежнасці ВКЛ.

Перад тэкстам Статута 1588 г. Л. Сапега надрукаваў два ўласныя публіцыстычныя творы: «Прысвячэнне Жыгімонту Трэцяму» і «Зварот да ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага», у якіх выклаў сваю сацыяльна-палітычную дактрыну і сфармуляваў асноўныя палажэнні прававой дзяржавы.

Шмат высілкаў ад канцлера патрабавала ўрэгуляванне канфліктаў паміж шляхтай і дачыненняў між рознымі канфесіямі. У 1596 г. ён удзельнічаў у Берасцейскім царкоўным саборы ў якасці камісара. Падчас сабора Л. Сапега выступіў з «Прамовай», у якой абгрунтоўваў неабходнасць задзіночання католікаў і праваслаўных, з мэтай дасягнення спакою ў гаспадарстве.

Л. Сапега вёў сталую перапіску з папам рымскім Кліментам VIII, пад эгідай якога тады стваралася еўрапейская кааліцыя хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі. Недзе ў канцы XVI ст. ён распачаў парадкаваць галоўны архіў Княства, гэтак званую Літоўскую Метрыку. На яго загад былі перапісаны спарахнелыя кнігі, сістэматызаваны стосы з найкаштоўнейшымі дакументамі.

У пачатку XVII ст. Л. Сапега актывізаваў усходнюю палітыку Княства, аб чым сведчаць яго шматлікія лісты да ўрадоўца ВКЛ. Увосень 1600 г. ён на чале пасольскай місіі едзе да Барыса Гадунова і падпісвае 24 артыкулы «вечнага міру», каб перашкодзіць хаўрусу Маскоўскага княства з Швецыяй. Канцлераў дыпламатычны манеўр меў поспех.

Л. Сапега, імкнучыся замацаваць пазіцыі Княства на ўсходзе, падчас Варшаўскага Сойму 15 студзеня 1609 г., выступіў з палітычнай «Прамовай», у якой выказаўся за разгортванне вайсковых дзеянняў супраць Масквы. Вайсковая кампаніі 1609—1613 і 1617—1618 гг., у якіх Л.Сапега браў непасрэдны ўдзел, мелі значныя поспехі. Па іх завяршэнні было падпісана Дзявулінскае замірэнне (1 снежня 1618 г.). Як кіраўнік дэлегацыі краіны-пераможцы, Л. Сапега дамогся ўключэння ў дагавор аб міры артыкулаў, паводле якіх Вялікаму Княству

Літоўскаму вярталіся спадчынныя землі і гарады: Смаленск, Белы, Дарагабуж, Старадуб, Папова Гара, Чарнігаў, Трубчэўск, Сярпейск, Невель, Себеж, Красен, Ноўгарад-Северскі, Вяліжская воласць і Манастырскае гарадзішча.

У 1623 г. Л. Сапега атрымаў булаву вялікага гетмана. Лаўры, аднак, не прынеслі спакою. На яго плечы лёг увесь цяжар новай вайны са Швецыяй. У надзвычай складаных умовах, калі да варожага наступу далучыўся страшэнны мор, што ахапіў Вільню, Гародню, Брэст, Наваградак, Мінск, Слуцк, Л. Сапега фармаваў вайсковыя аддзелы, наймаў валанцёраў. Відаць, у многім дзякуючы ахвярнасці вялікага гетмана, Вялікае Княства Літоўскае здолела вытрымаць цяжар ваеннага ліхалецця і падпісаць у Альтмарку (снежань 1629 г.) мір са Швецыяй. Гэта была, бадай, адна з апошніх значных справаў у шматграннай палітычнай, вайсковай і дзяржаўнай чыннасці Л. Сапегі.

Л. Сапега быў надзвычай таленавітым пісьменнікам-публіцыстам і аратарам, аб чым яскрава сведчыць яго пісьмовая спадчына — вялікі корпус эпісталярных твораў і асабліва «Прысвячэнне Жыгімонту Трэцяму» і «Зварот да ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага», што былі змешчаныя ў якасці прадмоваў да Статута 1588 г.

Публіцыстычнае майстэрства Л. Сапегі ўпершыню выявілася ў сакавіку 1585 г. Тады польскія магнаты пачалі беспадстаўна атрымліваць каралеўскія прывілеі на землі Вялікага Княства Літоўскага, вернутыя беларускім рыцарствам падчас баталіяў з Маскоўшчынай. Л. Сапега, абураны дзеяннямі суседзяў, з гневам асудзіў беспадстаўныя эканамічна-маёмасныя прэтэнзіі палякаў і даказваў абсалютнае права беларускага гаспадарства на набытыя тэрыторыі. «Ад таго часу як пачалася вайна за Інфлянты, — пісаў падканцлер, — палякі і гарэлага шэлега не далі нам у дапамогу. А цяпер, калі ўсё ідзе пад канец, дык пан пуляк імкнецца авалодаць Вялікімі Лукамі, Завалачам, Холмам... Яны нас хочуць адпіхнуць не толькі ад заваяванага намі цяпер, але і ад таго, што мы трымалі раней»*. Як бачна, пазіцыя Льва Сапегі была бескампраміснай і выразна патрыятычнай.

Публіцыстычныя здольнасці Л. Сапегі найболь поўна выявіліся падчас абароны ім канцэпцыі прававой дзяржавы, дзе пануюць не сваволя манархаў, а закон, парадак і справядлівасць. Звяртаючыся да жыхароў ВКЛ, ён палымяна пераконваў суайчыннікаў засвойваць права, жыць паводле законаў, бараніць праўду і даваць адпор крыўдзіцелям: «Сорамна народу не ведаць сваіх законаў, асабліва нам, бо не на чужой якой мове, а на сваёй уласнай маем пісанае права! І кожнага моманту, пры патрэбе даць адпор усялякай крыўдзе, мусім ведаць права».

Л. Сапега валодаў выдатным пісьменніцкім талентам, аб чым яскрава сведчаць яго шматлікія лісты, у якіх арганічна спалучаліся белетрызаваныя і публіцыстычныя элементы. Асабліва каларытна,

* Цыт. паводле выд.: Archiwum domu Radziwiiiyw. Krakyw, 1885. T. 8. S. 178—179.

з увагай на дэталі, ён падаваў падрабязнасці свайго візіту ў Маскву: «Прыставы суправаджалі мяне аж да пасольскага двара. Тут мяне хавалі, нераўнуючы як нейкага вязня, нават дзіркі ў плоце пазатыкалі ды паставілі варту, што сачыла за мной удзень і ўначы». Шмат увагі ў лістах Л. Сапегі аддавалася псіхалагічным партрэтам персанажаў. Ён неаднаразова перадае ўласны эмацыйны стан і пачуцці. У адным з лістоў да С. Баторыя, адпраўленых з Масквы, Л. Сапега з болем паведамляў пра палонных беларусаў, пытаючыся дазволу князя ўзняць на перагаворах пытанне аб вызваленні суайчыннікаў. «Над імі трэба злітавацца, — пісаў Сапега з болем. — Я кожны дзень абліваюся слязьмі, калі чую іх енкі, хоць і далёка ад іх стаю».

Л. Сапега нязменна выступаў за міжканфесійны мір і рэлігійную талерантнасць. Ён неаднаразова засцерагаў рэлігійных дзеячаў ад крайніх учынкаў, спробаў прымусовым шляхам вырашаць міжцаркоўныя супярэчнасці. Л. Сапега на старонках сваіх шматлікіх лістоў даводзіў набходнасць сацыяльнага сумоўя, заклікаў апанентаў вырашаць канфлікты не зброяй, а праз дыялог і ўзаемныя саступкі.

Сацыяльна-палітычная дактрына Л. Сапегі, яго гуманістычныя ідэі істотна паўплывалі на грамадскія працэсы, прадвызначылі духоўныя пошукі тагачасных інтэлектуалаў.

*Іван Саверчанка*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ЖЫГІМОНТУ ТРЭЦЯМУ НАЙЯСНЕЙШАМУ ПАНУ, ПАНУ ЖЫГІМОНТУ ТРЭЦЯМУ, БОЖАЙ МІЛАСЦЮ КАРАЛЮ ПОЛЬСКАМУ, ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ЛІТОЎСКАМУ, РУСКАМУ, ПРУСКАМУ, ЖАМОЙЦКАМУ, МАЗАВЕЦКАМУ, ІНФЛЯНЦКАМУ ДЫ ІНШ. ТОЙ ЖА БОЖАЙ МІЛАСЦЮ ГАСПАДАРУ І КАРАЛЮ ДЗЕДЗІЧНАМУ ШВЕДСКАМУ, ГОЦКАМУ, ВАНДАЛЬСКАМУ І ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ФІНЛЯНДСКАМУ, ПАНУ А ПАНУ, ПАНУ МАЙМУ МІЛАСЦІВАМУ

Былі такія часы, найяснейшы, міласцівы гаспадару каралю, калі ў грамадстве, супольнасці людской, якую мы рэччу паспалітай называем, гаспадары і каралі гэтага свету ажыццяўлялі ўладу над людзьмі не паводле якога-небудзь пісанага права або статута, а толькі паводле сваіх уяўленняў і меркаванняў. Але шматкроць ад годнага свайго абавязку адступалі і толькі на сваю карысць справы наварочвалі, пра агульнае дабро для ўсіх мала дбалі. Адтуль пайшло, што ў людзей з’явілася агіда ад іх

улады і кіравання. Называючы такіх валадароў тыранамі, а не гаспадарамі, прыйшлі да прызнання найбольшай бяспечнасці за пісаным правам і неабходнасці заснавання статутаў. Пра тое вялікі і зацны грэцкі філосаф Арыстоцель гаварыў: там пануе *беллуа*, ці па-нашаму дзікі звер, дзе чалавек паводле свайго меркавання ўладу сваю ажыццяўляе, а там дзе права або статут мае вяршэнства — там сам Бог усё накіроўвае.

Прычына ў тым, што права, як яго другі знакаміты мудрэц праславіў, з'яўляецца сапраўднай праявай разважлівасці і мудрасці чалавечага розуму, якім Пан-Бог узнагародзіў натуру чалавека. Каб паводле таго годнага і мудрага адкрыцця ўладкоўвалася жыццё, каб трымаўся заўжды прыстойнага, а што не прыстойнае, таго сцярогся.

Але ж прырода зрабіла так, што не розум пераважае, а большыня ад нараджэння прагне багаццяў, пераймае ў спадчыну памкнені бестыяў. Таму Пан Бог тое вудзіла або муштук у выглядзе права на дзёрзкіх ўсклаў. Каб яны за злачынныя справы свае адпаведнае пакаранне мелі, а прыстойныя людзі, што пацярпелі ад іх, атрымалі належную кампенсацыю. У тым сэнс і прызначэнне ўсіх правоў на свеце! Дзякуючы праву, усе панствы і каралеўствы стаяць, захоўваюць сваю цэласнасць, злачынцы караюцца, а пацярпелыя ўзнагароджваюцца!

Гэтай справядлівасці заўжды баяцца тыя, каму мілая сваволя, а розум ім за ворага. Радыя б тое вудзіла з сябе скінуць і ўсе правы, каб над імі не панавалі, дазвання знішчыць. Праявілася гэта калісьці ў нясталых каралевічаў і юнакоў рымскіх, у час, калі сенатары абдумвалі, як бы скінуць цяжар панавання каралеўскай тыраніі ды абыходзіцца пісаным правам. Усякім чынам юнакі перашкаджалі таму, каб аніякага такога права над сабой не прызнаваць. Сцвярджалі: пісанае права — глухое, яно не дае магчымасці ўпрасіць, калі чалавек аступіўся, не праводзіць адрозненняў паміж бедным і багатым. У гаспадара ж, калі ён судзіць, ёсць месца для спагады і абароны, улік асобы падсуднага. І таму лепей пад непасрэдным каралеўскім самаўладдзем жыць, чымся трапляць у такую небяспеку, дзе чалавек будуе сваё шчасце толькі на справядлівым жыцці і выкананні пісанага права. Такая, кажу, думка ёсць і заўжды будзе ў людзей свавольных і неўтаймаваных, для якіх пагроза права ніколі не даспадобы і для распуснай іх волі заўжды непрымальная.

Мы, усведамляючы ўсё гэта, найяснейшы міласцівы гаспадару, уважаем сябе за шчаслівы народ, якому Пан Бог ласкава

даў такога гаспадара і продкаў вашае каралеўскае міласці, што не толькі паводле волі і спадобы сваёй над намі ўладу сваю гаспадарскую трымалі, але й самі нам прыкладам былі ў тым, каб мы сабе правы, як найвялікшую ахову паспалітай вольнасці, тварылі. І большай вярхоўнай улады гаспадарскай над сабой не дапускалі. Адно толькі пэўную мяжу панавання іхняга над намі замералі. За што славу несмяротную ў памяцях нашых пра сябе пакінулі.

Так асабліва вашая каралеўская міласць, наш міласцівы пан, імя сваё паміж нас праславіў тым, што Статут новы дазволіў увесці. Ён у многіх гарадах мудрымі людзьмі, абазнанымі ў праве, з народа нашага на тое абраных, абмеркаваны і выпраўлены. З моманту заступлення на панаванне сваё зацвердзілі нам яго, каб усе суды ў тым панстве вашай каралеўскай міласці Вялікім Княстве Літоўскім так дзеялі, як вы з ласкі сваёй гаспадарскай пастанавілі.

Таму я, ад імя ўсёй рэчы паспалітай, вашай каралеўскай міласці, свайму міласціваму пану за такую міласцівую ласку пакорліва дзякую. І паколькі ўсклаў на сябе працу, каб той Статут выдрукаваць, прысвячаю гэты кнігадрук вашай каралеўскай міласці, як найвышэйшаму абаронцу ўсіх праў і вольнасцяў нашых, просячы Пана Бога, каб ён узнагародзіў вашу каралеўскую міласць духам мудрасці і ўсялякімі набыткамі. Каб вашая каралеўская міласць над намі доўга і шчасліва панаваў, і хвала Пана Бога Усемагутнага праз вашу каралеўскую міласць павялічвалася, і ўся рэч паспалітая ў цэласці і пакоі захоўвалася! Каб вашай каралеўскай міласці богабаязнае панаванне над намі тут на гэтым свеце набыло несмяротную славу і там, на тым свеце, было ўзнагароджана вечным жыццём!

З тым найніжэйшыя службы мае, з верным падданствам, ласцы вашай каралеўскай міласці пільна рэкамендую.

Пісан у Берасці, лета ад Нараджэння Сына Божага 1588, месяца снежня 1 дня.

Вашай каралеўскай міласці пана, пана майго міласцівага найніжэйшы слуга і верны падданы Леў Сапега, падканцлер Вялікага Княства Літоўскага.

*1588*

# ЗВАРОТ ДА ЎСІХ СТАНАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Усім станам Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега, падканцлер Вялікага Княства Літоўскага, стараста слонімскі, маркоўскі і мядзельскі, пакорлівыя і зычлівыя службы свае ахвярую.

Заўважалі тое ўсіх вякоў мудрыя людзі, што ў кожнай рэчы паспалітай чалавеку прыстойнаму нічога не можа быць даражэй за вольнасць. А няволяй так мусіць гідзіцца, што не толькі скарбамі, але й смерцю самой яе ад сябе адганяць павінен. А таму ўсе людзі прыстойныя не толькі маёмасць, але і жыццяў сваіх супраць кожнага непрыяцеля выносіць не шкадуюць, каб пад іх жорсткае панаванне не трапіць. Каб вольнасці сваёй пазбаўленыя, паводле волі і разумення чужынцаў не мусілі жыць.

Але ўжо мала таго, каб чалавек не быў у няволі вонкавага непрыяцеля, а дамашняга непрыяцеля над сабой трываць мусіў. Таму той муштук або вудзіла дзеля стрымання кожнага нахабніка вынайдзеныя. Каб баяўся закону, усякага гвалту і сваволі ўнікаў. І над больш слабым і горшым не здзекваўся, а таксама не мог прыгнятаць яго. Бо для таго законы ўстаноўленыя, каб багатаму і моцнаму не ўсё было вольна чыніць. Як гаварыў Цыцэрон: «Становімся нявольнікамі законаў для таго, каб свабоды ўжываць маглі».

Калі чалавеку прыстойнаму нічога няма даражэй за тое, каб у Айчыне сваёй бяспечна жыць, не баючыся, каб яго добрай славы не зганьбілі, целу ды здароўю не прычынілі шкоды, каб не маглі пакрыўдзіць яго на ўласнай маёмасці, тады толькі праву, а не чаму іншаму, павінен быць адданы. Дзякуючы законам, чалавек абаронены, аніякага прымусу, знявагі і крыўды не церпіць. Бо мэта і сэнс усіх законаў на свеце, каб кожны добрую славу сваю, здароўе і маёмасць захоўваў ў цэласці, ва ўсім гэтым аніякіх стратаў не меў.

Нашая вольнасць, якую мы хвалім сярод іншых народаў хрысціянскіх, у тым, што маем гаспадара, які пануе не паводле волі сваёй, а паводле права нашага. І як славай добрапрыстойнай, гэтак жыццём і маёмасцю вольна карыстаемся. Бо калі б нехта ў тых трох рэчах нас пакрыўдзіць наважыўся і паводле прыхаці сваёй, а не паводле законаў нашых, узвысіўся над намі, той быў бы не панам нашым, а скажальнікам правоў і вольнасцяў нашых. Мы пры гэтым мусілі б быць яго нявольнікамі.

І слушна за праўду маем, за што дзякуй Пану Богу, што пры панаванні каралёў іх міласцяў і вялікіх князёў, гаспадароў на-

шых, тую ўладу і вольнасць у руках сваіх маем. Творачы права самі сабе, найлепш можам вольнасці свае ва ўсім захаваць, бо не толькі сусед ці просты абыватаць у Айчызне, але і сам гаспадар, пан наш, аніякай тыраніі над намі ўжываць не можа, адно толькі столькі, колькі яму права дазваляе.

Таму, маючы гэтакі скарб у руках нашых, каторы нельга купіць ні за якую суму, належыць кожнаму прыстойнаму чалавеку ведаць пра яго. Каб быў добра абазнаны, сам сябе і жарсці свае стрымліваў, дзейнічаў паводле пісанага права і нікога не крыўдзіў. Калі б быў некім пакрыўджаны, каб ведаў, дзе мусіць шукаць абароны і лекаў у крыўдзе сваёй.

Як адзін сенатар рымскі другога караў за тое, што права Айчызны сваёй не ведаў, гэтак і кожны наш абыватаць заслугоўвае прачуханкі за тое, што вольнасцю сваёй выхваляецца, а законаў сваіх умець і разумець не хоча, тых законаў, якія вольнасць яго дазваляюць захоўваць.

Сорамна народу не ведаць сваіх законаў, асабліва нам, бо не на чужой якой мове, а на сваёй уласнай маем пісанае права! І кожнага моманту, пры патрэбе даць адпор усялякай крыўдзе, мусім ведаць права.

А паколькі паўставалі немалыя цяжкасці ад таго, што не кожны мог мець Статут з-за доўгага перапісвання, тады, кіруючыся патрэбамі кожнага абываталя і служачы карысці рэчы паспалітай, наважыліся тую працу на сябе ўскласці. І, не шкадуючы кошту і накладу свайго, той Статут у друк падаў. Тым самым дарогу зручную і лёгкую да спасціжэння права кожнаму пратарыў. Кожны, хто захоча, зможа мець яго ў руках сваіх.

Прашу вашу міласць, дазвольце тую працу ад мяне ўдзячна прыняць.

Маючы вольнасці свае, добра замацаваныя правам, таго сцеражыцеся, каб да судоў і да трыбуналаў не толькі людзей добрых, але і ў праве нашым глыбока абазнаных выбіралі. Якія баяцца Пана Бога і цнатлівыя. Якія б для карысці сваёй, на шкоду бліжняму, дзеля прагнасці сваёй і дзеля падарункаў права не перакручвалі. Але простым парадкам ідучы, святую праўду і справядлівасць зберагалі. І тую вольнасць, якой гэтак цешымся, цалкам нам захавалі.

З тым братэрскай ласцы і міласці вашых міласцяў даручаюся.

*1588*



# ЛАЎРЭНЦІ ЗІЗАНІЙ

*(каля 60 г. XVI ст. — 1634)*

Лаўрэнці Зізаній — універсальная асоба эпохі Рэнесансу і Барока. Ён выявіў сябе як таленавіты літаратар, выдатны педагог, яркі лінгвіст і прапаведнік. Яго імя займае выбітнае месца ў гісторыі беларускай, украінскай і рускай культур.

Біяграфічныя звесткі пра асобу асветніка не надта багатыя. Вядома, што ў 1592—1595 гг. ён выкладаў у Львоўскай Брацкай школе, затым пераехаў у Берасце, а неўзабаве — у Вільню, сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе таксама займаўся выкладаннем у Брацкай школе.

Менавіта ў Вільні Л. Зізаній завяршае грандыёзную па тым часе лінгвістычную працу і друкуе яе адразу ў трох кнігах: «Азбука» (1596), «Лексіс» (1596), «Граматыка» (1596), якія прынеслі яму славу вучонага-лінгвіста і аўтарытэт сярод тагачаснай эліты краіны. Гэтыя кнігі адразу знайшлі шырокае выкарыстанне ў адукацыйных асяродках старажытнай Беларусі, а таксама на Украіне і ў суседнім Маскоўскім княстве. Яна сталіся паўсюль важкім падмуркам філалагічнай адукацыі. Лінгвістычныя працы асветніка затым неаднаразова перавыдаваліся С. Собалем, Еўеўскай і Куцеінскай друкарнямі. З іх рабілі рукапісныя копіі, шэраг з якіх захаваліся ў архівах і кнігасховішчах да нашага часу.

З 1597 г. Л. Зізаній — хатні настаўнік, «бакалаўр», у князёў Саламярэцкіх. У родавым Баркулабаўскім маёнтку князёў Саламярэцкіх ён навучае княжыча Багдана.

У 1600 г. Л. Зізаній завяршае працу над «Катэхізісам», але надрукаваць аўтарскі варыянт пры жыцці не змог.

У 1612 г. князь Яўхім Карэцкі і яго жонка Ганна Хадкевічаўна запрасілі аўтарытэтнага святара служыць пры саборнай царкве ў мястэчку Карэц (цяпер Ровенская вобл.).

Каля 1624 г. Л. Зізаній завяршае пераклад «Гутарак на Дзеянні апосталаў» Яна Златавуснага і піша да іх уласную прадмову. У 1625 г. у Кіеве працуе над перакладам з старагрэцкай мовы твора Андрэя Кесарыйскага «Тлумачэнне на Апакаліпсіс».

Прыкладна ў сярэдзіне 20-х гг. маскоўскі патрыярх Філарэт, імкнучыся спыніць распаўсюджанне Каталіцтва і Пратэстанцтва ў Масковіі, звярнуўся да беларускага праваслаўнага інтэлектуала з

просьбай падрыхтаваць звод асноўных палажэнняў хрысціянскай веры для Рускай праваслаўнай царквы. Л. Зізаній, які меў досвед і фактычна падрыхтаваны катэхізічны тэкст у форме дыялога, неадкладна выканаў важны заказ патрыярха. Напісаны на старабеларускай мове твор пад назвай «Аглашэнне» неўзабаве быў адасланы ў Маскву, дзе пасля рэдагавання і глыбокай праўкі самім Філарэтам быў перакладзены на царкоўнаславянскую мову ігуменам маскоўскага Богаяўленскага манастыра Іллёй і «спраўшчыкам» кніг Грыгорыем Анісімавым і выдадзены ў Маскоўскай друкарні ў 1627 г. пад загалоўкам «Катэхізіс».

У лютым 1627 г., пасля выдання кнігі, Л. Зізаній быў запрошаны ў Маскву для яе абмеркавання. Там адбыўся трохдзённы дыспут (18—20 лютага 1627 г.) паміж аўтарам «Катэхізіса» і маскоўскімі багасловамі-перакладчыкамі — Іллёй і Грыгорыем Анісімавым. Дыскусія праходзіла пад наглядам царскага баярына Івана Барысавіча Чаркаскага і думнага дзяка Фёдара Ліхачова. Гэтая знакамітая палеміка паміж прадстаўнікамі дзвюх філалагічна-філасофскіх школ, і шырэй — дзвюх культур, знайшла адлюстраванне ў гісторыка-публіцыстычным творы пад назвай «Спрэчкі», які на працягу XVII—XVIII стст. распаўсюджваўся на землях Маскоўскага княства ў шматлікіх спісах і ўскосна знаёміў рускіх чытачоў з поглядамі беларускага асветніка.

У 1628 г. Л. Зізаній удзельнічаў у Кіеўскім царкоўным саборы і выступаў як галоўны апанент М. Сматрыцкага, які падрыхтаваў да сабора «Апалогію». Апошні раз імя Л. Зізанія згадваецца пад 1634 г., які ўмоўна і лічыцца годам смерці асветніка.

Арыгінальная літаратурная і філасофска-публіцыстычная спадчына Л. Зізанія складаецца з узнёслага «Паслання навучэнцам» (1596), вершаванай «Эпіграмы на Граматыку», «Вершаў да юнакоў», паэтычнага «Зварота друкара да падлеткаў» (1596), «Катэхізіса, або Вызнання веры святой, саборнай, апостальскай Усходняй царквы» (1600), «Павучання пры пахаванні Зоф'і, князёўны Чартарыйскай» (1618), «Прадмовы» да перакладу «Гутарак на Дзеянні апосталаў» (1624) Яна Златавуснага.

Рэнесансавая паводле зместу і формы перадусім паэзія Л.Зізанія. Яго паэтычная спадчына ўключае тры творы — «Эпіграму на Граматыку», «Вершы да юнакоў» і «Зварот друкара да падлеткаў», якія былі апублікаваны ў «Граматыцы» (1596).

Для вершаў Л.Зізанія характэрны гуманістычны пафас і асветніцкая скіраванасць. Так, над метафарычнай выявай Граматыкі ў выглядзе жанчыны з чароўным ключом, змешчаны паэтычныя радкі, дыдактычныя паводле зместу:

Прожно ты ся кусиш писмо умети,
который не хочет мене розумети.

Галоўны акцэнт у сваіх вершаваных сентэнцыях Л. Зізаній робіць на неабходнасці засваення вучнямі моваў і граматыкі. У «Эпіграме

на Граматыку» паэт дэталёва раскрывае прызначэнне граматыкі, вытлумачвае задачы і змест асноўных яе раздзелаў — арфаграфіі, фанетыкі, сінтаксісу, этымалогіі:

Грамматіка писма всех научает,
Чтырма частми латвей уразумляет.
Орфографією и просодією,
Синтаксисом и этимологією
А пред реченное ей опаство,
Подает певное искусство.
Которіи прагнут быти доскونали,
В писме и в словах абы не портали.
Але изъвестъно все познавали
И чого ся учат абы добре знали.
Ключем бо ест, отворяючи всем ум,
Къ познанію въ преправый разум.
По которой власне, якъ по всходе пойдет
Каждый, если хочет, всех наук дойдет.

З дапамогай вершаванага слова паэт імкнуўся далучыць моладзь да друкаванага слова, да кніг, якія адкрываюць шлях да пазнання таямніцы рэчаў і з’яваў.

Галоўная ідэя літаратурных твораў асветніка — неабходнасць адукацыі, шырокай асветы грамадства. У «Пасланні навучэнцам», якім адкрывалася ягоная славутая «Граматыка», пісьменнік заклікаў моладзь вывучаць мовы — падмурак усіх астатніх навук, набываць веды пра Сусвет, Бога і чалавека, спасцігаць філасофію і натуральнае багаслоўе, асэнсоўваць увесь досвед папярэдніх пакаленняў, зафіксаваны менавіта ў кнігах.

Л. Зізаній выказаў арыгінальную для свайго часу антрапалагічную ідэю, сутнасць якой у тым, што чалавек — велічная і «неспасцігальная рэч», загадка Божага тварэння, чым выклікаў пратэст з боку шматлікіх апанентаў, якія прытрымліваліся супрацьлеглай канцэпцыі чалавека, у аснове якой — прыніжэнне вартасцяў асобы.

У творах Л. Зізанія знайшла адлюстраванне тэма суадносінаў веры і добрых справаў. У піку многім артадаксальным багасловам, зацятым прыхільнікам «прастаты», што схіляліся да безразважлівага ўспрымання веры, асветнік сцвярджаў, што без добрых справаў вера — нічога не вартая. Не падмацаваная добрымі ўчынкамі, вера траціць сэнс, а то й пераходзіць у супрацьлегласць — бязвер’е. Чакаць выратавання толькі праз веру, без памнажэння дабра — марны занятак, падкрэсліваў Л. Зізаній. Дзеля пацвярджэння сваёй думкі пісьменнік прыгадаў словы Ісуса Хрыста з Евангелля паводле Яна (5:29), дзе Госпад абяцаў паўстанне з мёртвых якраз тым, хто рабіў добрыя справы, і пагражаў вечнай цемрай носьбітам ліха.

Аб'ектам вострай крытыкі ў творах Л. Зізанія выступалі: пыха, ганарыстасць, непамерныя амбіцыі, апломб і фанабэрыя. Выкрыццю гэтых заганаў майстар слова шмат месца адвёў у сваёй славутай надмагільнай пропаведзі на пахаванне Зоф'і Чартарыйскай.

Беларускі мысліцель неаднаразова звяртаўся да анталагічнай тэмы — сутнасці зямнога жыцця і стаўлення хрысціяніна да смерці. Пісьменнік настойліва рэкамендаваў усім хрысціянам не надта захапляцца прыгажосцямі гэтага свету, а часцей разважаць пра смерць. Паводле яго небеспадстаўнага меркавання, падобныя разважанні скіроўваюць чалавека на дабро, расплюшчваюць вочы на сэнс зямнога (дачаснага) жыцця, дазваляюць належным чынам падрыхтавацца да Суднага дня. Л. Зізаній вучыў, што менавіта роздум пра смерць прыносіць неацэнную карысць для душы; ён — надзейная засцярога ад шматлікіх грахоў: пыхі, распуснасці, хлусні.

Л. Зізаній уздымаў актуальныя філасофска-багаслоўскія тэмы, пры гэтым зазвычай надаваў ім арыгінальнае інтэрпрэтаванне. Так, ён выказаў меркаванні пра існаванне двух адаў, пра мажлівасць святога прычашчэння ў звычайнай, непасвяцонай вадзе, сфармуляваў канцэпцыю чатырохступеннага Божага суда, схіляўся да дактрыны універсальнасці першароднага граху. На старонках твораў Л. Зізанія шырока прадстаўленая хрысталагічная тэматыка. Пісьменнік прытрымліваўся думкі пра суіснаванне ў Сыне Божым дзвюх прырод — Божай і чалавечай. Пры гэтым ён абапіраўся на сістэму аргументаў, выпрацаваную гэтак званай натуральнай тэалогіяй (naturalis teologie), высновы якой грунтаваліся на рацыяналістычным аналізе прыродных з'яваў, да прыкладу, распаленага жалеза, у якім адначасна спалучаліся дзве стыхіі — агню і жалеза.

Галоўны сэнс філасофска-публіцыстычных разважанняў Л. Зізанія — спалучыць веру і веды, даказаць, што рэлігійныя догматы не супярэчаць высновам розуму, маюць рацыяналістычныя падмацаванні.

Навуковая, мастацка-літаратурная і перкладчыцкая спадчына Л. Зізанія — узор шырокіх інтэлектуальных пошукаў, творчых памкненняў і шчодрага плёну старажытнага майстра слова і глыбокага мысліцеля.

*Іван Саверчанка*

## ПАСЛАННЕ НАВУЧЭНЦАМ

Знаўцам і ўсім аматарам мілагучнай і прасторнай славянскай мовы!

Як пішуць філосафы — два канцы мае кожная навука: ведаць сутнасць з'явы і раскрываць яе. Гэта значыць, мала толькі ведаць рэч, трэба ўмець іншым пра яе распавесці. Тыя дзве

складовыя часткі кожнай навукі я ўважаў у часе працы за вельмі патрэбную рэч.

Найбольш шануючы братоў сваіх, наважыўся я напісаць і з друку выдаць граматыку нашай мілай славянскай мовы, першую паміж сямі навук, хоць гэтую справу лічу вышэй маіх сілаў.

Кожны, хто засвоіць гэтую граматыку, зможа добра чытаць кнігі на славянскай мове, паколькі яна — ключ да ўсякага разумення сутнасці. Яна аздабляе і прасвятляе чалавечы розум!

Праз яе рыторыка і слоўнае мастацтва (славесніца) разам з філасофіяй і натуральным багаслоўем утвараюць саюз, без якога нельга аніводнай рэчы справіць!

Да таго ж без яе, калі хто нават і чытае шматкроць, унутранай сутнасці дакладна не можа зразумець. Не ўмець чытаць з разуменнем усёй глыбіні — найвялікшае зло для кожнага! Сапраўды, як Катон піша: «Чытаць і не разумець прачытанага — ёсць пагарда і смех». Каб не даваць падставаў для такіх высноваў, возьмемся моцна за навуку і адзін другога ў дабрадзейнай працы будзем пераўзыходзіць.

Адклаўшы прэч зайздрасць і нянавісць, маю малую працу ласкава прыміце. І, пахваліўшы яе, самі сябе найперш узнясеце! О, сябры мае, слаўцеся, а не занепадайце!

## КАТЭХІЗІС, АБО ВЫЗНАННЕ ВЕРЫ СВЯТОЙ, САБОРНАЙ, АПОСТАЛЬСКАЙ УСХОДНЯЙ ЦАРКВЫ

*(урывак)*

Пра крыж: прыцясненні або беды людзей побажных і добрасумленных.

*Пытанне.* Ці патрэбная ў Божай царкве тая навука пра крыж?

*Водпаведзь.* Надзвычай патрэбная. Шматкроць бывае, калі людзі бачаць, як злыя і бязбожныя добра пачуваюцца, а добрыя і побажныя вялікія нэндзы зносяць. Шмат хто з іх у эпікурскія вучэнні ўпадае, бачачы, як перамешаныя рэчы — адны на дол звальваюцца, а іншыя ўгору ўзносяцца. Пачынаюць думаць, нібыта воляй Божай гэты свет так упарадкаваны, і маюць упэўненне, быццам бы выпадкова і дабравольна або з прыгоды тое на людзях бывае. І праз гэта, урэшце, да бязбожнасці даходзяць. Паколькі найчасцей добрасумленныя і побажныя крыжом у Царкве Божай аздобленыя бываюць, то найперш ім гэтая навука пра крыж мусіць быць распаведзеная.

Тое слова крыж належыць выключна пабажным. Бязбожныя і зламыснікі церпяць беды і няшчасці, але гэта для іх пакаранне за грахі, а не крыж, які ёсць пакаранне для праведных.

*Пытанне.* Што ёсць крыж?

*Водпаведзь.* Крыж — ёсць усялякая бяда, якую Бог на гэтым свеце на людзей пабажных і добрасумленных ускладае не для таго, каб страціць іх (не дай таго, Божа), але каб вера іх дазнаная была, а праз пакуты цела Бог праслаўлены і яны самі пераўтварыліся.

*Пытанне аб крыжы.* Колькі ёсць крыжоў?

*Водпаведзь.* Шмат ёсць крыжоў. Размаітымі бедамі і нэндзамі прыцяснёныя бываюць людзі. Наагул жа на дзве часткі, як найвыбарнейшыя, могуць падзяляцца — на ўнутраныя, гэта значыць духоўныя, і на знешнія, або цялесныя.

*Пытанне.* Давядзі тое Пісьмом.

*Водпаведзь.* Апостал Павел пра тое гэтак піша: «Бо, калі прыйшлі мы ў Македонію, цела наша не мела ніякага спакою, а мы былі ўціснутыя адусюль: звонку — напады, а ўсярэдзіне — страхі» (2 Кар. 7:5). І на іншым месцы да эфесаў: «Бо нашае змаганне не супроць крыві і плоці, а супроць начальстваў, супроць уладаў, супроць светапраўцаў цемры свету гэтага, супроць духаў злосці паднябесных» (Эфес. 6:12).

*Пытанне.* Ці апынаюцца пад крыжом выпадкова, без нейкай прычыны?

*Водпаведзь.* Гэта меркаванне эпікурскае, якія хаваюць тое, што ўсё чыніцца ў адпаведнасці з Божай воляй. Бо Пісьмо Святое сведчыць, што пэўным Божым святлом і воляю Яго святою тое ўсё дзеецца.

*Пытанне.* Пакажы сведчанні з Пісьма Святога аб тым.

*Водпаведзь.* Найперш, Ерамія прарок пра тое гэтак піша: «Хто ж так гаворыць: «І тое сталася, чаго Госпад не загадаў». З вуснаў Найвышэйшага ці не выходзіць злое і добрае?» (Плач Ерам. 3:37—38). І Амос кажа: «Ці ёсць якая злосць разам, якую нам учыніў Госпад?» (Амос 3). Тут прарок Амос не пра злосць віны, гэта значыць граху, але пра злосць карання кажа. Бог не чыннік або прычына граху, але толькі карання.

*Пытанне.* Хто ёсць стваральнік крыжа, або хто вынайшаў крыж?

*Водпаведзь.* Сам Бог. Аб тым апостал Павел і Саламон пішуць: «Сыну мой, не пагарджай пакараннем Гасподнім, і не саслабявай ад Ягонага выкрыцця. Бо Госпад карае таго, каго шануе. Калі пакаранне цярпліва зносіце, ставіцца да вас Бог як

да сыноў» (Прыпавесці Сал. 3:11—12). Наагул жа, ці ёсць сын, якога бацька не караў бы?

*Пытанне.* Як жа ты сцвярджаеш, што Бог — прычына крыжа, паколькі Д'ябал і гэты свет ствараюць цяжкасці людзям побажным?

*Водпаведзь.* Бог ёсць найпершая прычына. Без Яго волі і волас з галавы не ўпадзе. Д'ябал і гэты свет — інструменты ды начынне Божае. Яны дазволеныя Богам, каб побажных і добрасумленных людзей выпрабоўваць. Бог межы ім устанаўлівае, якія яны пераступіць не могуць, як яскрава бачым з гісторыі святога Іова. Таму заўжды на Бога, як стваральніка ўсіх рэчаў, мы павінны азірацца, а не на тое начынне, што Бог стварыў. Як псы звычайна робяць: калі ў іх шпурляюць каменем, яны не кідаюцца на таго, хто ў іх запусціў, а гоняцца за каменем. І Іоў праведны, калі пацярпеў ад Шайтана і непрыяцеляў сваіх, вымавіў: «Госпад даў». Не звярнуў на тое ўвагі Шайтан і зрабіў, каб халдзеі забралі ўсё, але ж Іоў сказаў таксама: «Госпад узяў» (Іоў 1:17—22).

*Пытанне.* Чаму моцна Хрыстова Царква і побажныя людзі трапілі пад крыж?

*Водпаведзь.* Дзеля многіх прычынаў. Тут выкладу найгалоўнейшыя. Найперш хоча Бог, каб найхутчэй у Царкве людзі побажныя ўбачылі і зразумелі нікчэмнасць і памеры грахоў, не толькі нутраныя, усім ім вядомыя грахі, але й пачаткі грахоўныя. Каб бачылі строгасць Божага гневу супраць грахоў. Тыя прычыны граху, гэта значыць жарсці злыя, лепей і значней ніколі не могуць быць пабачаныя, як пры пакаранні і прыцясненнях. Ісайя прарок на гэты конт кажа: «Зваліліся, як лісты з дрэва, за беззаконні нашыя. Нібы ветрам развеяла нас» (Ісая 64:6). І Ерамія піша: «Ранаю моцнаю паразіў цябе, моцным пакараннем за грахі твае, бо павялічыліся яны без межаў» (Ерам. 4). І Міхей прарок піша: «Я за цябе сапраўды пакутваў, каб згладзіць праступкі твае» (Міх. 6). Гэтаксама Бог яўна карае і некаторых святых людзей за іхныя грахі, памылкі і праграшэнні, пра што Давыд прарок кажа: «Грэх мой перад сабою ёсць заўжды». Гэта першая прычына, дзеля якой Бог карае побажных людзей.

Затым, побажным і праваслаўным людзям належыць адпавядаць уяўленням Сына Божага, як піша Лука святы: «Калі хто хоча ісці за Мною, адрачыся ад сябе і вазьмі крыж свой і ідзі за Мною» (Лукі 9:23). І апостал Павел кажа: «Браты, абавязаныя не целу, бо не дзякуючы яму жывем. Калі будзеце дзеля цела

жыць — памрэце! Але калі духам справы цела знішчыце — будзеце жыць». Тое ж і апостал Пётра апавядае: «Хрыстос пацярпеў на нас, вам пакінуўшы прыклад, каб наследвалі стапам яго» (2 Пятра 2).

## ПАВУЧАННЕ ПРЫ ПАХАВАННІ ЗОФ'І, КНЯЗЁЎНЫ ЧАРТАРЫЙСКАЙ

### I

Сапраўды, ёсць чаму здзіўляцца, праваслаўныя хрысціяне, бо мы, гэтак часта на памерлых гледзячы і на пахаваннях іх бываючы, карысці сабе духоўнай з такога відовішча не бярэм. Таму што ганарлівыя і праз меру вялікія думкі аб сабе маем. Бачым, як нас смерць прыніжае і з пылам змешвае! Чаму ж закахаліся ў аздобы і дастаткі гэтага свету, хоць ведаем, што ў пэўны дзень пакінуць яго мусім? Хаця б целу свайму не дагаджалі ў яго жарсцях, бо яно імгненна смерцю нішчыцца і, нібы вада, на зямлю вылітая, высыхае!

У пагоні за марнымі аздобамі гэтага свету думаем пра хуткую смерць сваю, а не аб тым, што нас чакае пасля смерці. Па гэтай прычыне без усялякіх засцярогаў упадаем у шматлікія і цяжкія грахі.

Давайце нагадваць сабе прароцкія словы, кажучы: «Што за карысць з крыві маёй, калі ўсё ператворыцца ў гніль» (Псалтыр 29:10).

Дзеля таго паслухаем уважліва Ісуса Сірахава, які ад асобы памерлага ўсім нам нагадвае: «Памятай на мой суд, бо і твой такім жа будзе: што мне ўчора, тое табе сёння» (Сір. 38:22).

Ніводная рэч так не скіроўвае чалавека на дабро, як разважанне пра смерць і пра тое, што за ёй на тым свеце наступае. Пры такім разважанні чалавек адкрывае вочы на тое, што ён тут нарабіў, які ён ёсць, як павінен рыхтавацца да Страшнага суда. А там недастаткова аднае веры, але патрэбныя й добрыя ўчынкі! Адно прашу, разважаючы часта пра смерць, помнячы на кароткі час жыцця нашага, каб ішлі следам за апосталам Паўлам, а не за тымі, пра якіх Саламон у кнігах сваіх, названых «Прамудрасці», напачатку піша. Апостал у першым пасланні да карынцянаў гэтак кажа: «Я вам кажу, братове: час ужо кароткі, так што тыя, што маюць жонак, хай жывуць, як бы не мелі, і тыя,

што плачуць, як бы не плакалі; і тыя, што радуюцца, як бы не радаваліся; і тыя, што купляюць, як бы не набывалі; і тыя, што карыстаюцца светам гэтым, як бы не карысталіся, бо мінаецца вобраз свету гэтага» (1 Карынц. 7:29—31). Гэта карыснае разважанне і напамінак пра смерць, пра імгненнасць гэтага веку.

У Саламона можна адшукаць прыклад таго, як бязбожныя людзі не думаюць пра смерць (Эклезіяст 2:1—11).

Бязбожныя людзі, аднак, розныя бываюць. Так, бязбожныя эпікурэйцы, услед за Эпікурам, усе даброці гэтага свету імкнуцца атрымаць, не чакаючы ўзнагароды ў вечным жыцці.

Святы апостал Павел, сусветны настаўнік, прапаведуючы вечнае жыццё і да яго ўсіх людзей ведучы, нас навучае, каб сабе доўгіх гадоў на гэтым свеце не шукалі, не кахаліся ў шчасці зямным, а, наадварот, баяліся гэтага мізэрнага свету. Бо не доўга будзе тое трываць, усё скончыцца смерцю. Каб рыхтаваліся до добрай смерці штодня праз цнатлівае жыццё. Пакольkі не ведаем апошняй гадзіны нашай, засцерагае нас. Смерць будзе добрая, калі чалавека выратуе чыстае сумленне […]

Таму, каб добраславеннай смерці ад Бога спадобіліся, патрэбна нам, найдаражэйшыя мае, пра яе помніць. Каб чыстымі ва ўсім насупроць яе стаць, належным чынам варта пра яе думаць! Як карабель стырном сваім, што на карме, і рыба выгінаннямі сваімі ўсё цела сваё ўперад вядуць, гэтак і праваслаўны хрысціянін думкай пра канец, разважаннем пра смерць усё сваё жыццё і ўсе справы свае мусіць чыніць, нідзе не грашыць. Ісус Сірах гэтак кажа: «Ва ўсіх справах тваіх памятай пра апошні час твой, і ніколі не саграшыш».

Разважанне пра смерць — вялікую і невымерную карысць нам прыносіць, бо з’яўляецца для нас асаблівaю перасцярогаю, каб не грашылі. Грэх — прычына для вечнай смерці чалавека. Разважанне пра смерць, аб чым цяпер гаворым, аддаляе ад граху, а затым ад вечнай смерці выратоўвае. Таму Госпад Бог продкам нашым прыгразіў яшчэ ў раю смерцю, каб, пра яе памятаючы, не саграшылі [...]

II

Узапраўду шчаслівая тая пані зацная, якая з Панам шчасліва заснула! Шчаслівая Зоф’я, дабраслаўная князёўна Чартарыйская! Імем Зоф’я, што значыць прамудрасць! І паводле імя яе, і слаўнай прыналежнасці, і слаўнай яе прыроды — справы яе ўхвальныя! Шчаслівая тая, якая пайшла ад нас, пайшла на вечны супакой, каб адпачыць ад працаў сваіх. Пайшла да свайго Пана, поўная веры і любові. Таксама ўчынкі яе добрыя ідуць за ёю. Ідзе паслушэнства ў святой веры праваслаўнай каталіцкай! Ідзе тая паўсюдная стрыманасць з пастом і малітваю! Ідзе за ёй ялмужна багатая, з міласэрнасцю і цярплівасцю злучаная! Ідзе вялікая пакорлівасць з набажэнствам і праўдаю, мноствам цнотаў іншых! Ідзе за ёю ўдоўства яе зацнае з чысцінёю і з удзячнаю сарамлівасцю! Ідзе тое невымоўнае суцяшэнне з ужывання святых сакраментаў! Так, о шчаслівая сапраўды Зоф’я, што прадстала перад Госпадам, каб ужо адпачыць ад працаў сваіх!

І як большасць іншых святых, дзеля асаблівых іх справаў, адметным імем кожнага з іх называем: Іова — цярплівым, Іосіфа — прыгожым, Давыда — стрыманым, Іаана — Златавусным, Яна — Міласцівым, гэтак і тую, поўную разнастайных цнотаў, добраславенную пані, слушна і прыстойна можам назваць Ялмужніцаю, дзеля яе выбітных міласэрных учынкаў.

Яна шчодра з спагадлівай рукі сваёй выдзяляла Божых дароў кожнаму, хто прыбягаў да яе з просьбаю. Міласэрнасць яе яшчэ большая і асаблівая ад таго, што яна сама заўважала людскія патрэбы і недахопы іх папаўняла. І не толькі шпітальныя і духоўныя, але ўсім братам і сёстрам Хрыстовым шмат дапамагала, шмат каго выратоўвала. І таго слова пільна трымалася, якое сказана ў Пісьме: «Не мінай вачэй, якія просяць». За гэта годная яна, як тая Тавіфа. Не толькі ад нас, але і ад усіх святых і ад анёлаў Божых вялікай пахвалы заслужыла! Яе сам кароль анёлаў, Госпад наш Ісус Хрыстос з Айцом сваім і Духам Святым у каралеўстве сваім нябесным, паводле абяцання свайго непазбыўнага, супакоіць і праславіць. Бо кажа ў Яна святога Евангеліста так: «Каторы мне служыць, ушануе яго Айцец мой Нябесны» (Яна 12:26). Кажа ў Мацвея святога: «Праўду кажу вам: як што зрабілі вы гэта аднаму з братоў Маіх меншых, дык зрабілі Мне» (Мацв. 25:40), «Прыйдзеце, дабраславёныя Айца Майго, прымеце ў спадчыну Царства, угатаванае вам ад стварэння сьвету» (Мацв. 25:34).

III

Аднак жа і самі мы за яе, паводле абавязку нашага хрысціянскага, молімся Госпаду Богу, каб тое, аб чым вышэй паведамілі, без усялякай замінкі атрымала. І для сваёй карысці духоўнай молімся за яе. Глядзім на яе, — учора з намі была, а сёння ўжо няма яе і больш не будзе. І з намі неўзабаве тое ж станецца. Бо што з ёй сёння, з намі заўтра можа надарыцца. З тым мізэрным светам нам бясспрэчна давядзецца разлучацца.

А паколькі гэта так, не забывайце, прашу вас, праз пакуту святую, Бога Усемагутнага. Задобрыце Яго, пакуль час яшчэ маеце, аддаляйце ад сябе пакаранне, падрыхтаванае нам справядлівым судом за грахі нашыя. Каб не давялося нам (ад чаго, Хрысце Божа, барані), як міне час, за нядбаласць нашу пакутаваць век вечны ў бездані пякельнай, разам з д'ябламі ды іншымі бязбожнікамі. Бо пойдзем адсюль усе — гады нашыя, як вада, сплывуць і ўжо больш іх да нас не вярнуць!

Таму не будзем забывацца як найбольш пра сябе разважаць і зводзіць рахункі з сваім сумленнем. Як паглядзім на сябе, дык убачым, што ў нас вельмі мала добрага, каб рухацца да выпраўлення свайго жыцця. Бог, пэўна ж, мае волю судзіць не толькі злыя, але таксама і добрыя ўчынкі, ба кажа ўсім праз прарока Давыда: «Я справядлівасць суджу» (Псалтыр 74:3).

А паколькі Госпад Бог будзе судзіць і добрыя нашыя ўчынкі, пачне даведвацца, якія яны і хто з якімі думкамі іх учыніў, давайце не забывацца скідваць грахі свае праз пакаянне, а ласку Божую, цераз пыху ад сябе адсунутую, зноў да сябе павернем. Папросім пільна Госпада Бога Усётрымальніка, каб нас сам да сябе дазволіў вярнуць, тых, якія самі дабравольна ад яго запаветаў аддаліліся. Каб у нас сапсаванае сэрца адбудаваў і паправіў, дух наш справядлівы, унутры нас, аднавіў. Духам сваім валадарным, гетманскім, Духам Параклітам у той юдолі свету плачліва праводзіў. Гэтак жа і прарокі з Давыдам святым маліліся, кажучы: «Навярні нас, Божа, Збаўца наш! Навярні нас, а мы да Цябе вернемся». Слабыя й нямоглыя мы, нават пакутаваць і скардзіцца за грахі нашыя самі з сябе без Тваёй падтрымкі, Госпадзе Божа, не можам, хіба за ласкай Тваёй усяго таго дастанем.

Каб ён, пабачыўшы пакорлівасць нашую і пільнасць гарачую, збавіў нас праз ласку сваю святую. Так і апостал Павел у лісце сваім да піліпянаў піша: «Бо гэта Бог учыняе ў вас і хаценне і дзеянне па сваім упадабанні» (Піліп. 2:13) [...]

Госпад Бог наш шукае заўжды стараннасці і руплівасці ў нашых добрых учынках. І лепей адна гадзіна перад Богам у добрай стараннасці, чымся сто ў лянівай паслузе. Бог больш шануе гарачасць справаў, чымся маруднасць. А каб ведалі, што неўзабаве можам шмат чаго знайсці, маем таго разбойніка, таго блуднага сына, таго мытара, якіх Айцец нябесны за гарачае пакаянне з вялікаю міласцю, не замарудзіўшы, іх прыняў. Памятаем, як Марыі Магдалене за вялікую і гарачую адданасць яе даў доўгія гады жыцця. Варта і нам браць з іх прыклад, а не вяртацца па пакаянні зноў да граху, як пёс па свае блявоціны. Але асабліва небяспечна разгнявіць Госпада Бога, учыніць сабе векавечныя пакуты. Такім парадкам, у службе Божай арыентуемся, дзеля карысці нашай душы, не на працягласць у часе, а на вялікую гарачнасць духу, якую ў сабе абуджаем. Хто азябла Богу служыць, у тым Бог не мае карысці.



# ІПАТ ПАЦЕЙ

*(1541—1613)*

Літаратурная спадчына І. Пацея (*Адама Львовіча Пацея*) — пісьменніка, філосафа, багаслова, царкоўнага і дзяржаўнага дзеяча — унікальная з'ява старабеларускай кніжнай культуры, неацэнны мастацкі феномен.

Нарадзіўся І. Пацей на Берасцейшчыне ў 1541 г. у шляхецкай сям'і. Яго бацька — Леў Пацей служыў найвышэйшым пісарам Жыгімонта І Старога, а таксама займаў надзвычай адказную пасаду падскарбія (міністра фінансаў) Вялікага Княства Літоўскага. Маці — Ганна Лашчанка, па сведчанні сучаснікаў, — адукаванейшая жанчына таго часу. Дзяцінства Пацея праходзіла ў асроддзі найвышэйшай арыстакратыі, што паўплывала на выхаванне юнака, шмат у чым прадвызначыла яго будучыню.

Пачатковую адукацыю Пацей атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе. Затым, ужо пасля смерці бацькі, маці накіравала яго ў Кракаўскі універсітэт, дзе юнак паступіў на факультэт свабодных мастацтваў. Па вяртанні на Радзіму Пацей служыў да 1572 г. пры двары Жыгімонта ІІ Аўгуста. У 33-гадовым веку ён пакінуў кальвінскае веравызнанне і вярнуўся ў Праваслаўе. Вядома таксама, што ў 1580 г. І.Пацей займаў пасаду берасцейскага суддзі, а ў 1589 г. атрымаў прывілей на Берасцейскае кашталянства, а разам з ім і месца ў Сенаце — верхняй палаце Вальнага Сойму. Каля 1590 г. аўтарытэтны ўрадовец выступіў ініцыятарам стварэння Берасцейскага брацтва, пры якім адчыняецца школка і шпіталь.

Па смерці жонкі Пацей пакідае свецкае жыццё і пастрыгаецца ў манахі, узяўшы духоўнае імя Іпат. Але ў манастыры ён не знаходзіць чаканага спакою. Увесну 1593 г. атрымлівае духоўнае пасвячэнне і прывілей манарха на займанне пасады ўладзіміра-берасцейскага епіскапа.

У якасці епіскапа І. Пацей далучаецца да праекта падрыхтоўкі пагаднення паміж Праваслаўнай царквой ВКЛ і Каталіцкім Касцёлам, ідэя якога набыла рысы практычнага ўвасаблення пасля з'езда епіскапаў у сакавіку-красавіку 1590 г. Далучэнне ўладзіміра-берасцейскага епіскапа да таемнага праекта мела прынцыповае значэнне, бо на момант раз-

гортвання вастрэйшай царкоўна-рэлігійнай палемікі ён быў найбольш адукаванай асобай у Праваслаўнай Царкве.

Ужо ў 1593 г. уладзіміра-берасцейскі епіскап уключаецца ў распрацоўку прынцыпаў яднання Праваслаўнай Царквы і Каталіцкага Касцёла, вакол чаго сярод саміх прыхільнікаў Уніі не было адзінства. З'яўляючыся ў прынцыпе прыхільнікам ідэі ўсеагульнага яднання Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы, І. Пацей меркаваў, што ва ўмовах канца XVI ст. далучыць да справы Уніі Маскоўскую і Грэцкую цэрквы немагчыма. Пагадненне з рэфарматамі І. Пацей цалкам выключаў, бо знаходзіў іх рэлігійную дактрыну несумяшчальнай з вучэннем Ісуса Хрыста.

Пасля папярэдніх узгадненняў і ўдакладненняў, аб чым вядома з перапіскі тых часоў, І. Пацей дамогся таго, каб праваслаўны сабор 1594 г., які праходзіў у Брэсце, большасцю галасоў, у тым ліку пры згодзе мітрапаліта М. Рагозы, прыняў Саборную Грамату (2 снежня 1594 г.), у якой былі вызначаны асноўныя мэты аб'яднання Царквы і Касцёла. Апрача дасягнення міру і паразумення ў Грамаце падкрэслівалася другая, не менш важная задача — кансалідаванне намаганняў праваслаўных і католікаў у барацьбе з «еретычнымі сектамі» — пратэстантамі ўсіх плыняў.

У 1595 г. І. Пацей, маючы на мэце прыцягнуць да справы Уніі як мага больш прыхільнікаў, піша і выдае ў Вільні твор «Унія, або Выклад галоўных артыкулаў лучнасці грэкаў з Касцёлам Рымскім» (Вільня, 1595), які меў велізарнае значэнне для беларускай і ўсёй славянскай культуры.

Восенню 1595 г. І. Пацей, разам з К. Тэрлецкім і вялікай дэлегацыяй у складзе свецкіх і духоўных асобаў, едзе да папы рымскага. 23 снежня 1595 г. у святочнай атмасферы дэлегацыю прымае Клімент VIII. І. Пацей і К. Тэрлецкі, выконваючы даручэнне сабора, прысягнулі папу рымскаму, за сябе і за іншых, на вечнае злучэнне Царквы і Касцёла пад уладай рымскага прастола.

Улетку 1596 г. І. Пацей завяршыў падрыхтоўку да міжцаркоўнага пагаднення. На Берасцейскім саборы, што праходзіў 6 — 8 кастрычніка 1596 г., адбылося падпісанне пагаднення паміж Праваслаўнай Царквой ВКЛ і Каталіцкім Касцёлам.

І. Пацей у якасці епіскапа, а з 1600 г. і уніяцкага мітрапаліта, надзелены значнымі ўладнымі паўнамоцтвамі, меў дастаткова інструментаў, каб імкліва, з дапамогай сілы прывесці да паслухмянасці ўсіх, хто супраціўляўся яго волі і рашэнням Берасцейскага сабора. Аднак ён, выдатна ўсведамляючы ўсю важнасць распачатай справы, не пайшоў шляхам прымусу. Ва ўсіх канфліктных сітуацыях І. Пацей дзейнічаў выключна ў рамках агульнадзяржаўных законаў.

Уніяцкі мітрапаліт у змаганні з сваімі ідэйнымі апанентамі аддаваў перавагу пяру і пісьмоваму слову, глыбока ўсведамляючы, што справядлівую справу можна ажыццяўляць толькі сумленным шляхам. Так, у 1597 г. І. Пацей піша «Справядлівае апісанне Берасцейскага

сабора» (Вільня, 1597 г.), якое з’яўлялася разгорнутым адказам на «Апокрысіс» К. Філалета. На старонках твора пісьменнік аргументавана паказваў, што падпісанне уніі не супярэчыла царкоўнаму праву і свецкім законам ВКЛ і адбывалася належным чынам, а сабор праводзіўся ў адпаведнасці з даўнімі традыцыямі.

У 1598 г. з’явілася вострае публіцыстычнае пасланне І. Пацея да князя К.Астрожскага. Але асабліва ярка палемічны талент І. Пацея выявіўся падчас літаратурных дыскусій з Клірыкам Астрожскім у 1598—1599 гг. Мітрапаліт выказваў гатоўнасць палемізаваць з сваімі апанентамі літаральна па ўсіх пытаннях, што мелі дачыненне да арганізацыі Царквы. Ён запрашаў Клірыка Астрожскага ва Уладзімір, каб, «гледзячы адзін другому ў вочы, абмеркаваць усе хвалюючыя пытанні». Выключна шырокую вядомасць сярод інтэлектуалаў Вялікага Княства Літоўскага атрымалі канцэптуальныя працы І. Пацея «Гармонія, або Згода веры, сакраментаў і цырымоній святой Усходняй Царквы з Касцёлам Рымскім» (Вільня, 1608) і «Адказ на ліст Мялеція, александрыйскага патрыярха» (1600). У іх пісьменнік на новым тэарэтычным узроўні паказаў, што Усходняя царква «з усімі яе цырымоніямі» вельмі блізкая да Касцёла.

На пачатку XVII ст. І. Пацей вельмі шмат выступаў з пропаведзямі і казаннямі. Ён, як правіла, прамаўляў на беларускай мове, якой валодаў бездакорна. Вельмі шмат энергіі І. Пацей аддае адукацыі і асвеце. Ён развівае заснаваную ў 1597 г. Берасцейскую школу, куды запрасіў доктара багаслоўя Пятра Аркудзія, грэка паводле паходжання. І. Пацей засноўвае калегіум пры Віленскім Свята-Троіцкім манастыры, рэктарам якога прызначыў Пятра Федаровіча-Сумерэтніковіча. Штогод мітрапаліт са сваіх сродкаў выдзяляў значныя сумы для школ ва Уладзіміры.

Усебаковы аналіз учынкаў і дзейнасці І. Пацея дазваляе сцвярджаць, што ён дбаў выключна пра канфесійнае паразуменне, мір і згоду, клапаціўся аб моладзі, шукаў грамадскай гармоніі. Дзеля высокіх мэтаў ён самаахвярна працаваў, а не шукаў багацця і ўласных выгодаў. Памёр І. Пацей 18 ліпеня 1613 г., калі яму споўнілася 72 гады. Пахавалі яго ва Уладзімірскім кафедральным саборы.

Для *мастацкага метаду* І. Пацея характэрна сінкрэтычнае спалучэнне антычных, заходнераманскіх і грэка-візантыйскіх мастацка-эстэтычных традыцый, з глыбіннай арыентацыяй на традыцыйную беларускую культуру, перадусім, гутарковую народную мову з яе лексіка-фразеалагічным багаццем і асаблівым марфалагічна-сінтаксічным каларытам.

Творы І. Пацея ідэйна і тэматычна шматпланавыя. У іх дамінуе царкоўна-рэлігійная і маральна-філасофская праблематыка — тэалагічныя і хрысталагічныя матывы (непадзельнасць Святой Тройцы, выпраменьванне Святога Духа, богачалавечая прырода Хрыста), хрысціянская антрапалогія (сэнс чалавечага жыцця, шлях да Бога, маральны імператыў і аналіз чалавечых учынкаў у святле антынамічных

катэгорый: «шчырасць — хлуслівасць», «пакорлівасць — пыхлівасць», «вернасць — адступніцтва»), сатэрыялогія (Чысцец і Мытарства, Пекла і Нябеснае Царства), эклесіялогія (сапраўдная вера і ерасі у царкве), дэманалогія (вядзьмарства, паганскія багі, панаванне Антыхрыста). Шырока асвятляюцца тэмы Суднага дня, царкоўных цырымоніяў (абедня, вячэрня, павячэрніца, паўночніца, ютрань, славаслоўе, першая гадзіна, трэцяя гадзіна, шостая гадзіна, дзевятая гадзіна), Тайнаў Хрыстовых (Хрышчэнне, Мірапамазанне, Еўхарысція, або Цела і Кроў Хрыстовы, Пакаянне, Чыны святарства, Алеяпамазанне, Жаніцьба), пастоў, абразоў і выяваў Бога, святых мошчаў, каляндарнай рэформы.

У публіцыстыцы І.Пацея ўздымаецца найвастрэйшая для яго часу праблема ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнай уладамі. Пісьменнік адкрыта і ў рэзкай форме выказаўся супраць намераў свецкіх паноў, магнатаў непадзельна кіраваць святарамі. Дыктат над духоўнымі асобамі недапушчальны, меркаваў І. Пацей, бо гэта знявага царквы, невыкананне Божай навукі, здзек з запаветаў Хрыста, што з'яўляецца падмуркам і пачаткам поўнага заняпаду Хрысціянства. Сутнасць яго дактрыны ў тым, каб духоўныя справы цалкам залежалі ад волі святароў, вырашаліся выключна духоўнымі асобамі, а свецкія людзі ішлі за імі без ваганняў, «бо лепш ведае пастыр, што авечкам карысней».

У крызісны для Праваслаўнай царквы Беларусі час І. Пацей, бадай, першым у гісторыі нацыянальнай публіцыстычнай літаратуры сфармуляваў ідэю роўнасці грамадзянскіх і палітычных правоў для людзей свецкага і духоўнага станаў.

Беларускі пісьменнік вызначыў асноватворныя прынцыпы міжканфесійнага дыялога, у першую чаргу паміж вернікамі каталіцкай і праваслаўнай цэрkваў. Ідэя блізкасці, адзінства, адсутнасць грунту для нянавісці — лейтматыў ва ўсіх творах гуманіста. Пераадоленне зусім ненатуральнай варажнечы, непаразуменняў, нечуваных узаемных абразаў сярод хрысціянаў, паводле перакананння пісьменніка, закладзена ў самой прыродзе адзінай Хрыстовай царквы — святой, апостальскай, сусветнай.

На старонках твораў пісьменніка знайшла адлюстраванне агульная для ўсёй старажытнай публіцыстыкі праблема сацыяльнай дыферэнцыяцыі грамадства. І. Пацей выступіў у абарону ідэі грамадскага дыялога, паразумення станаў. Але ён не прымаў і рэзка асуджаў анархію, хаос.

Сацыяльныя супярэчнасці, канфесійныя непаразуменні ды міждзяржаўныя канфлікты, паводле непахіснага пераканання гуманіста, лепш за ўсё пераадольваць мірным шляхам — праз перамовы і ўзаемныя саступкі. Спрадвечную дылему, што лепей — справядлівая вайна або кепскі мір, — ён без ваганняў развязвае на карысць апошняга. Вайна «выварочвае грунт» пад нагамі народа і дзяржавы. І. Пацей, аднак, зусім не пацыфіст. У сваіх сцверджаннях ён кіруецца логікай здаровага сэнсу, які падказвае аптымальную мадэль грамадскага суіснавання.

І. Пацей у сваіх публіцыстычных і белетрызаваных творах дэталёва раскрыў падзеі падрыхтоўкі і падпісання Берасцейскай Уніі 1596 г. Аўтар акцэнтаваў увагу на тым, што гэтая справа не была вынікам таемнай змовы вузкай купкі святароў, а мела шырокае кола ўдзельнікаў і прыхільнікаў сярод духоўных і свецкіх асобаў.

Творчая заслуга І. Пацея як бліскучага літаратара-белетрыста і адначасна выдатнага публіцыста ў тым, што ён па-майстэрску асвятліў драматычны перыяд у гісторыі царквы з 1590 да 1613 г. Усведамляючы ўласную адказнасць перад нашчадкамі і гісторыяй, ён узнавіў храналогію падзей, падаў шырокую панараму найважнейшых, вузлавых момантаў сацыяльнай, палітычнай і міжканфесійнай барацьбы, раскрыў сутнасць палемікі на царкоўных саборах і Вальных соймах, характар перамоваў паміж варагуючымі групоўкамі, абставіны прыняцця лёсавызначальных пастановаў, вызначыў ролю канкрэтных гістарычных асобаў (Канстанціна Астрожскага, Льва Сапегі, Міхаіла Рагозы) у тагачасных падзеях, матывы іх дзейнасці (уяўныя і сапраўдныя), уплыў на царкоўнае ды грамадскае жыццё. Шматлікія факты, акалічнасці і падзеі засталіся вядомыя ў гісторыі толькі дзякуючы яго літаратурнай спадчыне.

Для І. Пацея як майстра слова характэрны анталагізм — імкненне да ўсеахопнасці, паўнавартаснага асвятлення найбольш значных грамадскіх праблемаў, гістарычных працэсаў, жыцця сацыяльных станаў, духоўна-інтэлектуальных пошукаў. Наватарскай з'яўляецца скіраванасць пісьменніка на пошук свежай інфармацыі, імкненне да сенсацыйнасці.

Адна з найбольш характэрных рысаў творчага метаду І. Пацея — палемічнасць, якая ўключала зазвычай чатыры кампаненты: раскрыццё або інтэрпрэтаванне пазіцыі апанента; аспрэчанне, адкідванне памылковага тэзіса; аргументаванне, або пазітыўны доказ; высновы.

Карэктнасць, як прынцып стаўлення да апанента, прымушала пісьменніка дэталёва аналізаваць пазіцыю апанента, паслядоўна выкладаць сістэму яго аргументаў, падаваць асноўныя вывады ў форме пераказу або цытавання, нярэдка з дакладным указаннем нумара аркуша, года выдання твора, месца захавання экземпляра кнігадруку або рукапісу. Для аспрэчання тэзісаў апанентаў і сцверджання ўласнай пазіцыі І. Пацей ужываў шэраг творча-мастацкіх прыёмаў, якія выконвалі ў аналітычна-палемічных тэкстах функцыю аргументаў.

Сістэму доказаў І. Пацей будуе на агульналагічным падмурку, ужываючы ўсе кампаненты і функцыянальныя элементы універсальнай логікі, вядома, з яе адметным выяўленнем у сферы публіцыстыкі і пісьменства таго часу. Паэтыку твораў І. Пацея часам наагул нельга аддзяліць ад логікі, яна надзвычай глыбока ўплецена ва ўсе творы пісьменніка, утварае іх галоўны нутраны стрыжань.

Да найбольш пашыраных тыпаў аргументавання і адначасна мастацка-творчых прыёмаў у І. Пацея належаць гэтак званыя схаластычныя аргументы — спасылкі на аўтарытэты. Для яго гэта прарокі, Ісус

Хрыстос, антычныя мысліцелі (Катон, Піндар), сярэднявечныя тэолагі (Ян Златавусны, Васіль Вялікі, Кірыла Александрыйскі, Марка Эфескі, Еранім, Амброжый, Тэртуліян, Аўгустын, Феафілакт), епіскапы, патрыярхі (Генадзі Схалярый), папы рымскія (Грыгорый Дваяслоў), візантыйскія імператары. Некаторыя цытаты, што мелі выключную важнасць, як ліст папы рымскага Клемента да праваслаўных іерархаў ВКЛ ад 1596 г., аўтар публікуе і на мове арыгінала, і ва ўласным перакладзе.

Вельмі распаўсюджаны ў творах І. Пацея такі тып аргумента, як прыклад — у форме сціслай даведкі або разгорнутага белетрызаванага аповеда. Найчасцей аўтар ужывае гістарычныя прыклады.

Пашыраны тып аргумента ў публіцыстыцы І. Пацея — юрыдычныя акты свецкага і царкоўнага права: соймавыя канстытуцыі, прывілеі і універсалы вялікіх князёў, пастановы сусветных і мясцовых сабораў. Аўтар нярэдка асабіста перакладае іх на старабеларускую мову з моваў арыгінала — грэцкай, стараславянскай, лацінскай. Кожны з іх падаецца ў адпаведным кантэксце і суправаджаецца разнапланавымі, дастасаванымі да канкрэтнай тэмы каментарыямі, высновамі.

У творах І. Пацея шырока ўжываюцца і іншыя тыпы аргументаў: указанні на бяздоказнасць сцверджанняў і некарэктнасць меркаванняў ды высноваў апанентаў; пытанні з адмоўем; адсылкі да крыніцы, дзе нібыта пададзеныя дэталёвыя доказы на карысць выказанай ім думкі; наўпроставыя абвінавачанні супрацьлеглага боку ў хлусні ды няшчырасці; выкрыццё дробных хібаў і памылак апанента з высновай пра адсутнасць у яго глыбокіх ведаў, а то й наагул усялякіх здольнасцяў; пацьвельванні з апанента, сарказм, з’едлівыя кпіны ды ўзвальванне на яго тых жа «грахоў», якія той асмеліўся прыпісаць І. Пацею. Ролю аргументаў у творах І. Пацея вельмі часта выконваюць, побач з уласна мастацкай функцыяй, устойлівыя выслоўі, прыказкі і прымаўкі.

Характэрная рыса белетрызаваных твораў І. Пацея — аўтабіяграфізм, які ў пісьменніка меў досыць спецыфічныя праявы і ўласцівасці. На першым месцы знаходзіцца апісанне публічнай дзейнасці: удзел у падрыхтоўцы Уніі і падзеях Берасцейскага сабора; выкананне абавязкаў берасцейскага суддзі і кашталяна; наведванне соймаў і палітычная барацьба; ліставанне з урадоўцамі, духоўнымі асобамі, паплечнікамі і сябрамі.

Адзін з важных прынцыпаў канструявання тэкста для І. Пацея — зварот. Аўтар звяртаецца да апанентаў, чытачоў, свецкіх асобаў, святароў, Пана Бога. Семантыка зваротаў вельмі багатая. У іх — просьбы, напаміны, пытанні, заклікі, маленні, ушчуванні, дакоры, папярэджанні, асуджэнні, пакепліванні, абразы і інш.

Герменэўтыка персанажаў у творах І. Пацея мае пэўныя асаблівасці. Пісьменнік абмалёўвае толькі рэальных гістарычных асобаў, рэалізуючы лінейную схему: а) асабістыя рысы персанажаў (сацыяльны і грамадскі статус, род заняткаў); б) характарыстыка справаў і ўчынкаў; в) грамадскае і гістарычнае значэнне дзейнасці. Кантрастны падзел

І. Пацеем герояў на станоўчых (Міхаіл Рагоза, Канстанцін Астрожскі) і адмоўных (Ерамія, Нікіфар Тур, Крыштаф Філалет, Клірык Астрожскі, Гедэон Балабан) вызначае тыпалогію яго мастацкай вобразатворчасці.

І. Пацей — таленавіты майстар слова, непаўторны стыліст. Паводле функцыянальна-жанравага крытэрыю ў яго пісьмовай спадчыне вылучаюцца наступныя тыпы стыляў: аналітычна-публіцыстычны, катэхізічны, прапаведніцкі, мемуарна-белетрыстычны і панегірычны. І. Пацей належыць да ліку тых творцаў, хто адным з першых у гісторыі беларускага прыгожага пісьменства зрабіў (у практычнай сферы) надзвычай важнае мастацка-эстэтычнае адкрыццё, сутнасць якога ў тым, што ўвесь свет — гэта безліч знакаў, невычэрпная крыніца для сімвалатворчасці, утварэння шматлікіх тропаў. Гэтым закладваўся «код» барокавага мастацтва, які прадвызначыў магістральны шлях развіцця літаратуры наагул.

У творах І. Пацея ўжываюцца самыя розныя тыпы тропаў — метафары, метанімія, параўнані, эпітэты, сінекдаха, літота, гіпербалы, перыфразіс, антанамасія, эўфімізмы, алегорыі. У якасці аб'ектаў для ўтварэння пераносных значэнняў выступаюць разнастайныя з'явы і прадметы — жывёльны свет (звяры, птушкі, рэптыліі, насякомыя, рыбы): *заяц, змяя, варона, сава, ваўкі, шэршань*; прадметы ўжытку (побытавыя, канфесійныя) і акаляючыя рэчы: *акуляры, камень, фундамент, ярмо*; ежа: *піва, мёд, пірагі*; касмічныя целы і з'явы прыроды: *сонца, вецер;* вайсковы рыштунак: *тарча, кулі;* біблейныя і гістарычныя персанажы: *Аўрам, Лазар, Цыцэрон, Канстанцін Вялікі;* міфалагічныя істоты і паганскія багі: *Цмок, Атропа;* рэлігійныя святы: *татарскі мясапуст;* тэрміны, што абазначаюць сацыяльныя і сваяцкія адносіны: *пан, дзедзіч, матка.* Побач з прадметна-рэчавым светам асновай для вобразатворчасці служылі дзеянні, працэсы, учынкі, пачуцці: *паліць, мыць, прарастаць, садзіцца, замыкаць, шчыпаць, вылятаць, кахаць, штрафаваць, грызці, красці, каркаць, смажыць, лямантаваць, даходзіць, схаваць, дакляраваць.* Нарэшце, апошняя група — зборныя, адцягненыя і абстрактныя паняцці: *ежа, зброя, яд, скарб, смецце.*

Семіётыка тропаў разнастайная: яны ахопліваюць шырокі семантычны спектр і выконваюць у тэкстах І. Пацея шматлікія стылістычна-экспрэсіўныя функцыі. Так, І. Пацей выкарыстоўвае разгорнутую алегорыю, якая ўтрымлівае некалькі сімвалаў-вобразаў — «атрута», «салодкі мёд», «мухі», з мэтай выкрыцця пратэстанцкіх настаўнікаў, якія нібыта маюць ад свайго вучэння толькі асабістую карысць. Каб падкрэсліць няўважлівасць апанента, І. Пацей ужывае сімвал «акуляраў», якіх К. Філалет не меў, калі чытаў ягоную кнігу. Уласныя вострыя словы, скіраваныя супраць апанента, І. Пацей называе «нясмачнай ежай». Вобразы «саламяных стрэльбаў» і «гарохавых куляў» сімвалізуюць слабасць, неправанальнасць крытыкі з боку пратэстанцкіх і праваслаўных аўтараў на яго адрас. Каб узвысіць ролю, паказаць унікальнае гістарычнае значэнне універсала Жыгімонта III Вазы, што быў выдадзены з нагоды Берасцейскай уніі, І. Пацей

праводзіць паралель паміж ім і універсалам Канстанціна Вялікага, падрыхтаваным пасля Нікейскага сабора. Паспяховы вынік выкрыцця фальсіфікацый К. Філалета, які апублікаваў лісты папы рымскага з уласнымі купюрамі, І. Пацей параўноўвае з паляваннем на зайца. Да вобраза зайца, яго здольнасці заблытваць сляды пісьменнік звяртаецца і ў іншым кантэксце, каб абмаляваць творчую манеру апанента, сумбурны выклад ім у «Апокрысісе» вытрымак з яго лістоў.

З мастацкіх фігур І. Пацей найчасцей выкарыстоўвае антытэзу. Супрацьпастаўленні выкарыстоўваюцца ім з наступнымі мэтамі: ухвалення міжцаркоўнай лучнасці; выкрыцця памылак тэалагічнай дактрыны пратэстантаў, якія паразумеліся з праваслаўнымі «турка-грэкамі»; выразнага акрэслення мэтаў царкоўнага сінода.

Дэманструючы бліскучыя здольнасці стыліста, І. Пацей свабодна ўжывае мноства іншых фігур, якія надавалі яго мове каларыт: антыфразіс, гульню слоў (asteia), пералічэнні, аксюмаран, гратэск, анафары, паралелізм, рытарычныя пытанні, сінанімічныя пары і шэрагі назоўнікаў (*баламутня і небыліца; крыўды і ўціскі; пакой і парадак*), дзеясловаў (*заступіцца і замовіць; ганіць і штрафаваць; згвалціць і парушыць; ведаў і бачыў*), прыметнікаў (*мілы і добрасумленны*), прыслоўяў (*уніжана і слёзна; слушна, прыстойна, праўдзіва*).

Пры выбары лексем І. Пацей пазбягае нейтральных слоў, аддаючы перавагу стылёва-экспрэсіўнаым сродкам выражэння. Вельмі часта пісьменнік ужывае жартаўлівыя, пагардлівыя, асуджальныя, іранічныя, ласкальныя словы. Нярэдкая ў палемічных творах грубая, абразлівая лексіка. Пратэстанцкі малельны дом у яго — «шопа ерэтычная»; удзельнікі Берасцейскага праваслаўнага сабора — «духоўныя супастаты», «чужаземцы», «гаспадарскія зрайцы», «выродкі», «атэісты», «арыяны»; пастановы і ультыматумы дызунітаў — «вымоўкі», «плёткі» «безыменны картэлюш»; іншыя веравызнанні — «баламутня», «сцызма», «спросныя ерасі».

Непаўторнасць аўтарскаму почырку І. Пацея надавалі народныя прымаўкі, прыказкі ды ўстойлівыя выслоўі, сентэнцыі, што ўжываліся пераважна ў палемічных блоках: «Які суддзя, такі і дэкрэт яго»; «Рады не рады, а мусіш»; «Апёкшыся на малацэ, на ваду дзьме»; «Сам сябе сваім козікам пілуе»; «Што дзень — то навіна, што чалавек — то вера»; «Што поп, што просты халоп»; «На злодзеі шапка гарыць»; «Паказаў, якога цэху рамеснік»; «Не забірайце таго, чаго не давалі».

Тэксты І. Пацея маюць вельмі высокую ступень рытмічнай арганізаванасці, што ўтваралася за кошт падобнай метрычнай будовы коланаў, амаль роўных паводле колькасці складоў перыядаў і пераважна дзеяслоўных гамеатэлеўтаў (сугучнасці канчаткаў).

Вельмі значны ўклад І. Пацея ў рэфармаванне і развіццё старабеларускай літаратурнай мовы. Ён ажыццявіў значныя змены ў лінгвафілалагічнай сферы на лексіка-марфалагічным, правапісным, сінтаксічным і стылістычным узроўнях. У аснову сваёй літаратурнай мовы пісьменнік паклаў лексічны фонд і граматычныя асаблівасці народнай

мовы, дыялектаў усходнеславянскага арэала, пераважна тых, што ўваходзілі ў склад ВКЛ. Выступаючы за захаванне царкоўнаславянскай мовы ў якасці мовы набажэнства, І. Пацей уласныя казанні і гаміліі пісаў і прамаўляў, аднак, на «простай мове». Зусім выразная тэндэнцыя, характэрная для ўсёй літаратурнай спадчына І. Пацея — інтэнсіўная замена царкоўнаславянскага сінтаксічнага і асабліва лексіка-марфалагічнага фонду на дыялектна-гутарковыя, народныя формы, напрыклад: назоўнікаў (*разарванне, згода, гвалт, крыўда, пакора, няволя, рада, шаленства, артыкулы, абаронца, плёткі*), прыметнікаў (*малёваныя, уласны, нязвыклы, лепшы, чужы*), дзеясловаў (*жадаюць, злажыць, прыходзілі, прагнулі, дзякаваць, згаджацца, ганіць, прызнаваць*), прыслоўяў (*бяспечна, справядліва, пільна, шчыра, непрыстойна*).

Уласным творчым прыкладам І. Пацей адкрываў грандыёзную мастацка-эстэтычную перспектыву для наступнікаў — стварэнне публіцыстычных і белетрызаваных твораў на беларускай літаратурнай мове, з густам апрацаванай і ўнармаванай паводле дамінантаў жывой вусна-гутарковай традыцыі.

*Іван Саверчанка*

## СПРАВЯДЛІВАЕ АПІСАННЕ ЎЧЫНКУ І СПРАВЫ СІНОДАВАЙ І АБАРОНА ЗДЗЕЙСНЕНЫХ ЗГОДЫ Й ЛУЧНАСЦІ, ЯКІЯ СТАЛІСЯ НА СІНОДЗЕ БЕРАСЦЕЙСКІМ У 1596 ГОДЗЕ

Не думалі, каб тая справа згоды і міласці хрысціянскай, якая нядаўна сталася паміж Рымскім Касцёлам і Грэцкаю Царквою ў панстве яго каралеўскай міласці, пана нашага міласцівага, патрабавала якое ўхвалы ці абароны, бо кожны хрысціянін добра ведае, як Ісус Хрыстос, Збаўца наш, шанаваў згоду і міласць у Евангеллі сваім святым. За асаблівы знак, па якім яго верныя пазнаюцца, лічыў акурат згоду і міласць хрысціянскую. А не штосьці іншае. З гэтага вынікае: хто іх шануе і прагне — той ад Бога і можа звацца сапраўдным вучнем Ісуса Хрыста, а хто бегае ад згоды і міласці хрысціянскае, бурыць яе — таго можна называць сынам Д’ябла і ерэтыком.

Паколькі няма на свеце такой добрай рэчы, якую б Д’ябал, імкнучыся нашкодзіць людзям, не рады быў перавярнуць, пэўне, і тую справу згоды і лучнасці святой, якая сталася паміж Рымскім Касцёлам і Грэцкаю Царквою на сінодзе ў Берасці, праз зласлівых людзей абражае рознымі патварамі ды пачаў шырока рассяваць сваё кламства.

Перадусім, нібыта тая рэч новая і ніколі ў нашым панстве раней нечуваная.

Другое, нібыта праз тую лучнасць пачалі ламацца правы і вольнасці хрысціянскія.

Трэцяе, нібыта ў дачыненні да русі чыніцца гвалт, прымус да іншае веры без іхнае згоды.

Чацвёртае, нібыта ўсе цырымоніі Усходняй Царквы адкідваюцца, а замест іх уводзяцца рымскія абрады.

Нарэшце, указваюць, як на нібыта сапраўдны, на нейкі іншы сінод і яго пастановы.

Затым разносяць па краіне нейкія «сінодавыя дэкрэты» патрыярхавых пасланцоў, адводзячы тым хрысціянскіх людзей ад належнага паслушэнства ўласным пастырам, ад Госпада Бога і ад найвышэйшага пана, яго каралеўскай міласці. Усіх падбухторваюць яўнымі выдумкамі, выдаюць хлусню за праўду, парушаюць спакой паспалітага люду, усчынаюць розныя бунты, згубіўшы сорам і страх Божы.

Здалося мне слушным, дзеля поўнай вядомасці ўсіх, тую справу, якую добра ведаю і на якую ўласнымі вачыма глядзеў, коратка занатаваць і выдрукаваць. Каб неабазнаныя людзі ўбачылі шчырую праўду і больш хлусні не ўспрымалі, плётак не слухалі і не дазвалялі рассяваць у сваім асроддзі яўнага падману, што ёсць абразаю для Бога і непрыстойным аслаўленнем святаблівага і ласкавага бацькоўскага панавання яго каралеўскай міласці. Прыступаю тады да аповеду, як пад панаваннем яго быццам бы хрысціянскім вольнасцям якісьці гвалт чыніцца.

Перадусім пра тое, што кажуць, нібыта пачаліся нейкія новыя рэчы, ніколі раней у той краіне нечуваныя.

Слухай, не прыгадваючы далёкіх і чужаземных рэчаў, што датычныя еднасці паміж рымлянамі і грэкамі, дзе ёсць звесткі, як Грэцыя не раз ад тае еднасці адпадала. І хто прагне пра тое ведаць, адсылаем яго да кніжак ксяндза Пятра Скаргі пра парадак і еднасць Божай Царквы, выдадзеных па-польску ў 1590 годзе. Калі захочаш дазнацца праўды, звяртайся да справаў сінодавых. Але не да правілцаў рускіх, што Эманаканонам завуць, бо там таго не знойдзеш, але да метрыкаў і справаў агульных сінодавых і да летапісцаў царкоўных. Там праўду дазнаешся пра тое, на кім ляжыць віна за тую нязгоду.

Я толькі тое пакажу табе яўна, што дзеелася ў панстве пана нашага, Айчызне нашай, каб з таго ўбачыў, ці новыя тыя рэчы і хто дзейнічае супраць права.

Такім чынам, слухай. Фларэнційскі сінод скончыўся ў 1439 годзе. На ім быў гэтаксама і мітрапаліт кіеўскі Ісідар, які меў запрашэнне ад антыяхійскага патрыярха Дарафея і ад сталіцы яго, бо быў ён чалавек у грэцкім пісьме вельмі вучоны і з'яўляўся не толькі мітрапалітам усяе русі, але й сірыйскім, і панства Венгерскага, як вынікае з яго подпісу на тым сінодзе.

Па падпісанні згоды і лучнасці на тым сінодзе, едучы з Італіі да русі з тым святым мірам, на мяжы польскай быў урачыста прыняты кардыналам і біскупам кракаўскім Збігневам і там жа ў касцёле рымскім па-грэцку меў Літургію святую, аб чым чытай сабе Меховіцы новую Кроніку.

Прыняўшы тую згоду і лучнасць, ды доўга ў ёй трываючы, праваслаўныя здабылі сабе прывілей на царкоўныя вольнасці ў караля Уладзіслава. Я наўмысна яго тут змяшчаю, каб не казалі, што Унія — новая рэч.

А той прывілей выдадзены ў 1445 г.

Слухай жа.

«Уладзіслаў, з ласкі Божай кароль венгерскі, польскі, далмацкі, краацкі, ромскі, сірыйскі, склявонскі, галіцкі, а таксама найвышэйшы княжа зямель — Кракаўскай, Сэндамірскай, Сырадскай, Ленчыцкай, Куяўскай і Літоўскай, пан і дзедзіч зямель Паморскай і Рускай.

Загадваем гэтым лістом нашым усім наагул і кожнаму, каму тое ведаць належыць, маючы на думцы нашай паважаць рэчы нябесныя і заўжды іх мець перад вачыма нашымі. Паколькі нам, у адрозненне ад зямных людзей, ні на каго іншага не трэба азірацца, адзінае толькі варта пазбягаць памылак і не трапляць у пастку. Мелі на мэце і ў думках тое ззянне і светласць вечную, якія ўсіх верных абдымаюць і сэрцы яднаюць, здраду і нянавісць усіх людзей затлумляюць. Пра нябесныя рэчы думалі, паколькі маем уладу над кожным урадам, што ёсць у нашым панстве. Каб ад нас абарона была кожнаму. Абавязвае да таго нас наша пасада і прымушае, каб мы рабілі ўсё дзеля пашырэння аздобы і пашаны Божай, а асабліва на яднанне і лучнасць скіроўвалі свой розум, каб здабыць заплату вечную ў Царстве Нябесным, як станем перад усемагутным Богам.

Калісьці за справаю асаблівою Святога Духа, Усходняя Грэцкая Царква, або Руская, што з даўніх часоў пажадана было, бо дзеля некаторых прычынаў знаходзілася ў разарванні веры святой і святых сакраментаў з святым Рымскім Касцёлам, да лучнасці і згоды, за жычлівасцю ўсіх каталікоў, прыступіў. Цяпер жа, за справаю Бога ўсемагутнага і з дэкрэта, або выраку

свяцейшага Яўгена IV, папежа нашага, і іншых многіх святых айцоў, да веры святой вернуты.

Той святы і паўсюдны Рымскі касцёл даўно чакаў і прагнуў уз’яднання. Гэтаксама як і той Усходні Касцёл. Духоўныя таксама. Усіх іерэяў Грэцкай веры, або Рускай, у панствах нашых нам прыналежных, дзе яшчэ некаторыя ў разарванні і беспрадку, хочам схіліць да хвалы Бога ўсемагутнага, зычачы ім ласкі Збаўцы нашага, каб праз іх, як вярхоўных міласнікаў веры святое, у спакоі і ў добрым здароўі за іх малітвамі былі захаваныя. Дзеля гонару і хвалы Бога ўсемагутнага, які нас каштоўнай крывёю сваёй адкупіў. Усім цэрквам іх, епіскапам або ўладыкам, іерэям, настаўнікам і іншым асобам духоўным той Грэцкай рэлігіі, або Рускай, тыя ўсе правы і вольнасці, звычаі ўсе пастанавілі даць на ўсе часы. Гэтым лістом нашым устанаўліваем для іх такія ж вольнасці, якімі карыстаюцца і з якіх весяляцца ўсе касцёлы нашага Польскага і Венгерскага каралеўстваў, арцыбіскупы, біскупы, іерэі ды іншыя асобы касцельныя.

Надта хочам тое мець, што і загадваем гэтым нашым лістом. Каб ад гэтага моманту ніводзін з дыгнігатараў, страстаў, урадоўцаў земскіх ды іншых падданых нашых, якога б кольвек стнау і кандыцыі не былі, асабліва ў каралеўстве нашым Польскім, у землях Рускай і Падольскай і іншых да іх прыналежных не абмежавалі ва ўладзе прызначаных епіскапаў, або ўладыкаў, таго закону Грэцкага ці Рускага. Аніякімі сродкамі не выштурхоўвалі з судоў іерэяў або вікарыяў іхных. Звычаяў іх, якія яны да таго часу ў землях нашых захоўвалі, не ламаючы. З тым, каб тыя епіскапы, або ўладыкі і іншае святарства вышэй згаданай Грэцкай, або Рускай веры, былі больш схільныя і пільнейшыя да хвалы Пана Бога ўсемагутнага, ім і іхным цэрквам, якія ёсць у нашым гаспадарстве — усе вёскі і ваколіцы розных найменняў, якія здаўна належалі тым цэрквам у розных землях і паветах, з ласкі нашай перадаем ім з усімі правамі на вечныя часы.

Для большага сведчання пячатка нашая да гэтага прывілея прывешваецца.

Дзеелася тое і выдадзены прывілей ў Будзыню ў пятніцу перад тыднем перадносным, года 1445, пры бытнасці вялебнага ў Пане Хрысце айца і пана Сымона з Розганава, біскупа агерскага, вяльможных, ураджоных, зацных і шляхетных Ваўрынца з Гедрэвары, каралеўства Венгерскага, Грыцка з Памаран, зямлі Падольскае, ваяводах, Мітку з Таланча, нашых каралеўстваў — Далмацкага, Краацкага і ўсяго Сілавонскага, пане Мікалаю Шарлейскім з Тыбарава, Уладзіславу Дабрагосце з Астарога,

камянецкім кашталяне, Флюрыяне з Пачанова, падстольнікам кракаўскім, і Мікалаю з Барысавічаў, кухмістру нашым, іншых верных нашых сведках.

Выдадзены праз рукі вяльможных Яна з канец Поля, канцлера кароннага, і Пятра з Тыкочына, падканцлера, верных нашых, верна нам мілых».

Вось маеш прывілей Уладзіславаў на вольнасці царкоўныя, якія потым Аляксандр, кароль польскі і вялікі князь літоўскі, на Петрыкаўскім Вальным Сойме пацвердзіў, у сераду перад тыднем сярэдняносным, року Божага 1504, праз рукі вялікага канцлера Яна Ласкага.

З старога прывілея спіс знойдзеш у кнігах гродскіх Альбоўскіх, запісаны року 1537, у пятніцу па святым Андрэю апосталу.

А потым нядаўна кароль Стафан, тыя абодва прывілеі ў свае прывілеі ўпісаўшы, пацвердзіў іх.

Глядзі тут, хрысціянскі браце, ці праўду кажуць супраціўнікі, нібыта новую справу распачалі цяперашнія епіскапы праваслаўныя. Больш чым паўтараста гадоў тая згода ўсталявалася і ў тым панстве немалы час трывала. Бо вядома, у якім годзе адбыўся Фларэнційскі сабор, а ў якім з'явіліся пацверджанні Уладзіслава і Аляксандра.

А калі мала, дык маглі б прывесці датычнае той справы пасольства да Рымв іх міласцяў паноў Сапегаў, якія наведваліся да папежа.

І толькі нядбайнасцю самой русі і духоўных іхных заняпала справа лучнасці, бо самі не пажадалі пачувацца ў сваіх вольнасцях.

Пытаю цябе, ці могуць лічыцца вінаватымі тыя, якія вольнасці царкоўныя ўзнаўляюць, і тое, дзеля чаго тую вольнасць атрымалі? Напэўна, ім таго аніякае права не можа забараніць, бо каралі іх міласці ўсе прывілеі, прыватныя і агульныя, прынялі пад прысягай. Значыць, няма зламання права і вольнасці, як некаторыя кажуць, а наадварот — даўнія ўпрывеліяваныя справы да скутку свайго прыводзяцца. А што аказалася занядбаным настойлівасцю тых, хто ўсё зламаў, мусілі пра ўсе правы нашы нагадаць.

Калі правоў сваіх свецкіх сцеражэцеся, дык не трушчыце і Божай Царквы, яе пракаветных правоў! І не называйце тое навіною, што даўно сталася.

І яшчэ гавораць, маўляў, усё адбылося без ведама іншых. Не разумею, каму яшчэ належала ведаць, апрача пастыраў божай

Царквы — мітрапаліта і ўсіх епіскапаў, якія мелі на руках сваіх прывілеі. Яны добра пра ўсё ведалі і згаджаліся на лучнасць. Праўда, два з іх, перамышльскі і альбоўскі, сталіся супастатамі, але пра іх ніжэй будзе сказана як след.

А пра іншых, малодшых, калі яны супраць Уніі, пытаю: хто кім кіруе, ці папы ўладыкамі або ўсё ж уладыкі папамі? Каму даручаны парадак у Божай Царкве? Бо не да папоў і не да свецкіх асобаў прамаўляў Дух Святы: «Схіляйце сябе і ўвесь статак. Дух Святы паставіў вас епіскапамі, берагчы Царкву Госпада і Бога, якой аддаў кроў сваю».

А калі гаворка пра людзей свецкага стану, дык тыя наагул не маюць да царкоўнай лучнасці аніякага дачынення. Яны павінны за пастырамі сваімі ісці як авечкі і слухацца іх. Бо пастыр лепей ведае, што карысней для авечкі. Таму пажадана, каб яны людзей не абражалі і сэрца сваё супакоілі.

Пакажу ўсё, што тыя і гэтыя ведалі. Як пабачыш, некаторыя галоўныя паны Грэцкай рэлігіі самі ініцыявалі Унію, стаялі ля яе вытокаў. І пастырам сваім дарогу паказалі, аб чым даведацца будзе ўсім вельмі карысна. Хоць усведамляю, ніводны з праваслаўных першасвятароў мне за тое не падзякуе, бо выдам таямніцу. Але мушу праўдзе дагаджаць, а не сабе. Альбо дзеля пагрозаў не адкрывацца з тым перад людзьмі, што тады чуў і на свае вочы бачыў?

Скажу, нядаўна бачыў у яго міласці айца ўладыкі ўладзімірскага ліст князя яго міласці, пана ваяводы кіеўскага з подпісам уласнай рукі яго і пячаткай, у якім яго міласць, за тры гады пішучы да айца ўладыкі, паведамляе, што меў размову з папскім паслом Пасевінам пра згоду і лучнасць. І паколькі з ім нічога не мог пастанавіць, наважыўся да Італіі сам ехаць. І там, месцячыся непадалёк ад папы, пра тую згоду трактаваць, каб яны, як духоўныя асобы, далі дазвол. А ніжэй, на канцы таго ліста, заклікае помстаю Божай айца ўладыку, каб аб тым стараўся. І на тым сінодзе, які тады адбываўся ў Берасці, змаглі пакласці добры пачатак.

Бачыў у яго ж і іншых лістоў нямала. Гэта значыць, што яго міласць шматкроць заклікаў айца ўладыку да тае згоды, пакуль зноў не засведчыў сваю варожасць да яе.

Вядомыя і друкаваныя рускія кніжкі, выдадзеныя пад тытулам «Унія», прыпісаныя яго міласці пану ваяводу навагрудскаму, але ўзапраўду нейкім іерархам Грэцкай Царквы напісаныя. У іх тая лучнасць ухваляецца і ўсе да згоды заклікаюцца. Ці ж не яўным абвешчаннем той справы яны былі!

Не прыгадваю таго, з якой хуткасцю тая справа распачалася. Айцец уладыка ўладзімірскі ва Уладзіміры і ў Берасці заўжды ў казаннях сваіх пра яе сведчыў і ў агульных малітвах прасіў, каб яна здзейснілася. Бясспрэчна, ад яго амаль усе даведаліся пра яе, аб чым ён мне сам казаў. Львоўскае брацтва ён да яе схіляў праз нейкага Красоўскага. Калі ж і іншыя ў сваіх парафіях тое чынілі, навошта дарэмна наракаць на неабазнанасць у той справе. Хіба можа гутарка пра такую абазнанасць, што не пыталіся і не прасілі іхнага дазволу, таго не ведаю. Мо ў праваслаўных такі звычай, каб першасвятары ў свецкіх асобаў пачалі прасіць дазволу і раіцца з імі, як упарадкаваць Божую Царкву і чаго авечак сваіх навучаць.

У Рымскім Касцёле біскупы не пытаюць парадаў у авечак сваіх. Усё, што пастановяць — тое загадваюць сваім авечкам трымаць. А тыя, як і належыць, слухаюць пастыраў сваіх, ведаючы, што акурат біскупам даручаны парадак у Божай Царкве. Таму выконваюць даручанае, а ў справы духоўных іерархаў не ўмешваюцца. Гэтак варта было б рабіць і русі. Каб кожны даглядаў сваёй справы, а ў тыя, якія не належаць яму, не заглыбляўся.

Вядома, што тую справу некаторыя зацнейшыя паны шанавалі. Паводле звестак, якія мы маем, у той год ў Любліне, падчас Трыбуналу, айцец уладыка ўладзімірскі меў размову з князем яго міласцю панам ваяводам кіеўскім у прысутнасці асобных вядомых паноў. І тамака яго міласці лісты і допісы іншых епіскапаў не хаваючыся паказваў. Кланяючыся ў ногі яму, са слязамі прасіў, каб ён, як першая асоба таго веравызнання ва ўсім гаспадарстве, паважнасцю становішча свайго дапамагаў ёй, стараўся пра справу міжцаркоўнае згоды. Выказаў жаданне ва ўсім пакладацца на парады яго міласці і без яго волі нічога далей не чыніць. Яго міласць, мусіць, цалкам пераконаны, на тым спыніўся, каб уладыкі стараліся ў яго каралеўскай міласці пра сінод і абяцаў на тым сінодзе весці ўсе гутаркі пра лучнасць.

Затым уладыкі ездзілі да Кракава, учынілі пра ўсё дастатковую справу ў яго каралеўскай міласці, дамовіліся пра сінод, які засталося толькі абвесціць універсаламі. Дзеля большай надзейнасці, каб хто-небудзь не наважыўся на раскол сінода, прасілі яго каралеўскую міласць паслаць двух сенатараў да яго міласці пана ваяводы кіеўскага з паведамленнем пра той сінод. Бачна, шчырым сэрцам хацеў спрычыніцца да той святой лучнасці і для іншых быць прыкладам. Але потым Торунскі з’езд і інструкцыя, на той з’езд дасланая, якая ўсім вядомая, той

сінод сарвала. Тыя друкаваныя універсалы астрожскія выразна паказвалі, якім будзе сінод. Відавочна, не для зацвярджэння, а для разарвання тае згоды.

Усе прыведзеныя тут звесткі я асабіста чуў. Таму, хто Пана Бога баіцца і праўду шануе, мусіць прызнаць, што ад пастыраў Праваслаўнай Царквы мала чаго залежала, толькі тое, аб чым вышэй было сказана.

З такімі пачаткамі ці ж прыстала збягаць ад такой святой справы, патрэбнай Царкве Божай, з-за ўпору людскога, і ўсё кідаць на зямлю! І яго каралеўскай міласці, і ўсім нам пра тую надзею, якую заўжды выношвалі, задумалі заявіць, каб ніколі ўжо пры іх на тую згоду не спадзяваліся.

Яго каралеўскай міласці, як найвышэйшаму пану, ведаючы добра пра іх патаемныя задумы, якія вялі не да згоды, дзеля спакою ў гаспадарстве сваім, не варта было дазваляць такіх сінодаў, што неслі вялікія беспарадкі, а не згоду і спакой. Бо яны яўна чынілі і ў друку пацвярджалі сваё жаданне пабурыць тую згоду. І што істотней, па парафіях некаторых епіскапаў патаемна рассылалі свае допісы, бунтуючы папоў супраць сваіх пастыраў і ўключаючы іх у свой рэестр.

І таму, панове папы, не маеце падставаў для абурэнняў. З вамі не радзіліся таму, што вы — бунтаўнікі. Вялікая колькасць святароў прагнулі тае згоды, таму ўзгаднілі між сабой усё, не хаваючыся ад іншых. Аднаўляючы тую святую згоду продкаў сваіх, дбалі пра лепшы парадак у цэрквах сваіх і пра лепшага пастыра над сабою і над вамі.

Са згоды і дазволу яго каралеўскай міласці накіравалі двух іерархаў са свайго асяроддзя да Рыма. Яны, як былі там у Рыме, аддаўшы паслушэнства папе восьмаму, усе цырымоніі і ўсе абрады ў царкве сваёй абгаварылі, атрымалі лісты з папскімі пацверджаннямі, з якіх яскрава вынікае, хто што згубіў. Каб потым ніхто не мог сказаць, маўляў, гэта быў дазвол на пэўны час, які той ці іншы наступны папа ўсё адменіць.

Не вер у тое, бо гэта ерэтычныя выдумкі, бо каб чаго моцна не меў волі трываць, дык, пэўна ж, і не дазволіў бы таго адразу. Як іерархам александрыйскім, якія шматлікія ерасі і выдумкі ў царкве сваёй мелі. Яны мусілі год знаходзіцца ў Рыме, пакуль усё наноў не было перагледжана і пакуль некаторыя памылкі іхныя не былі выкінутыя. Навучылі іх асновам веры кафаліцкай і адправілі пасля гэтага дадому.

Але ў нашым выпадку непатрэбна было таго. Адно толькі паасобныя артыкулы, што тычыліся еднасці, выправілі дзеля добрага іх разумення. А ўсё астатняе, ад малога да вялікага —

службу Божую, усе Літургіі, сакраменты, цырымоніі, абрады і звычаі Усходняй Царквы ў адпаведнасці з традыцыяй святых айцоў грэцкіх, якія дасюль мелі, — цалкам і неад'емна захаваныя і навечна зацверджаныя. І ўсё што дазволенае, будзьце пэўныя, ніколі ніводзін з рымскіх папаў не зламае. Але, калі вы самі на нешта замахнецеся, вам гэтаксама не дазволяць.

Каб ніхто не меў сумненняў аб тым, тут выпісаў з таго прывілея папскага словы яго пацвярджэння, ад якіх усё й залежыць. Прадмова да таго прывілея вельмі вялікая, уключае вытрымкі з Святога Пісьма і шмат чым іншым аздобленая. Таму не абцяжарваю цябе, яна пасля будзе цалкам надрукаваная. Тут толькі тое выпісаў, што ўтварае падмурак, пераклаўшы тэкст з лаціны на беларускую мову.

«Клімент, слуга слуг Божых і далей.

Каб было пэўнае і вечнае сведчанне аб пераходзе і ўз'яднанні народа праваслаўнага з Касцёлам Рымскім [...]

І ўжо напрыканцы так зазначае: «Няхай ўжо ніводнаму чалавеку не будзе больш дазволена псаваць або настырнай смеласцю супраціўляцца прыняццю гэтага ліста, нашаму злучэнню, далучэнню, прыстанню і зліццю. Усё дазволенае намі, дапушчана і ласкава даравана. А калі хто адважыцца, няхай ведае— на яго ўпадзе гнеў Божы і дабраславенных Пятра і Паўла. Дадзены ў Рыме ў святога Пятра, року ад увасаблення Гасподняга 1595».

Такім чынам маеш пацвярджэнне ўсіх цырымоній і абрадкаў сваіх, браце русіне. Чаго ж яшчэ больш хочаш. Няўжо будзеш сумнявацца ў тым, што тут бачыш?

* * *

Але ведаю, што яшчэ гаворыце — адступілі ад пастыраў, айцоў і дабрадзеяў сваіх, якія іх Хрышчэннем святым прасвяцілі, вярнулі з Паганства да Хрысціянскае веры, прывялі да пазнання Божай праўды. Знаем тое, але не той добраславенны бывае, каторы пачынае, а той, каторы завяршае.

Як уважліва прыгледзішся, дык убачыш, што не яны адступілі ад патрыярхаў вашых, а патрыярхі ад іх, бо забыліся на свае абавязкі, не захоўвалі парадку паміж вамі.

Скажы мне, якую карысць з тых патрыярхаў мелі, якія добрыя прыклады з іх узялі? Наагул, тыя самі засведчылі ўсё, калі сюды прыязджалі. Чым вас суцешылі? Якую памяць пра сябе пакінулі? Бадай, толькі тую, што халопаў простых, шаўцоў, сядзельнікаў, кажамякаў рукапаклалі ў епіскапы. Аднялі ўвесь парадак царкоўны ад духоўных асобаў і перадалі ў моц свецкім

людзям. Ці ж тое не вялікае прыніжэнне ўрадаў біскупскіх, што напісалі ў сваіх прывілеях, нададзеных новаму брацтву, калі брацкі поп каго звязаў або клятву наклаў, дык і сам епіскап не мае моцы таго развязаць. Ці ж тое не вялікае прыніжэнне ўрадаў біскупскіх, не згадваю іншых лістоў, якія пасылалі да нашага гаспадарства лісты на лісты выдаючы, чым чынілі калатнечу паміж вамі. Нявінных без суда завочна асуджалі, беспадстаўна з урадаў скідвалі, толькі па воўну ды па малако да вас прыязджаючы. А каб навука і парадак у царкве Божай былі, пра тое найменш дбалі.

Таму не лічы злом той учынак сваіх епіскапаў, якія, бачачы вялікі непарадак, а чым далей, то ўсё большае знішчэнне ўсяго ў тых Усходніх краях за пакараннем Божым і няволяю паганскаю, вырашылі адысці ад выпетранага цела да галавы, ад меншых да старэйшых, ад удзельных да пастыра сусветнага, ад нявольнікаў (ці ж мала такіх) да слугі і намесніка Хрыстовага, з непарадку і прымітыўнасці да парадку і навукі ўсяго свету, з плыні перасохлай да крыніцы невычэрпнай, ад новага да старадаўняга, якому загадана «пасі авечак маіх», ад чатырохадзінага да таго, які б і тым чатыром загадваў.

Болей за тое, яшчэ раней, у асобе мітрапаліта свайго Ісідара ўсе паслушэнства аддалі, пад яго апекай былі ласкай Божаю. Маглі б быць тым бедным грэкам, братам сваім, папярэднікамі, дарогу б ім указалі, дабро зрабілі. Дый самі, скінуўшы пыху з сэрца, не марудзячы, Пана Бога аб тым прасіце.

Але замест таго, каб да той святой згоды грэкі самі імкнуліся, праз якую маглі б з тае паганскае няволі выйсці, некторыя з іх яшчэ тут здрады чыняць, адкрыта шпіёняць на карысць паганству. Ведай, аднолькавыя справы яны чыняць, што тут, што ў Італіі.

* * *

Але вернемся да сутнасці. Тыя два епіскапы, як вярнуліся з Рыма, куды былі пасланыя яго каралеўскай міласцю для завяршэння тае справы, прыехалі да Варшавы перад самым сканчэннем сойму, дзе былі прынятыя нашымі з удзячнасцю.

А потым, у нядзелю 5 траўня, у суправаджэнні іх міласцяў духоўных і свецкіх сенатараў наведалі палац. Неўзабаве яго каралеўская міласць выйшаў з касцёла. У палацы, у прысутнасці ледзьве не ўсіх сенатараў духоўных і свецкіх, а таксама многіх іншых людзей зацных станаў каронных, віталі яго каралеўскую

міласць, пана свайго, і распавялі пра ўсё, што ў Рыме здзейснілі, перадалі лісты ад папы. Яго каралеўская міласць з вялікай удзячнасцю іх прыняў, падзякаваў Пану Богу за шчаслівае завяршэнне той святой справы, пакляўся епіскапам і ўсяму святарству Грэцкай царквы быць ласкавым панам і абаронцам. Кожны, хто на той момант там быў, у словах яго каралеўскай міласці, які гаварыў добрую хвілю, мог бачыць вялікую прыхільнасць манархаву да той справы і асобаў епіскапаў. Пра гэта ў маім пісанні кажу не без прычыны, бо некаторыя інакш падаюць у сваіх карцялюшах, якія паўсюль рассяваюць, сцвярджаючы, нібыта кароль тых епіскапаў краем вока вітаў, а потым нават да людзей не паказаўся.

Сапраўды, відаць смелыя тыя людзі, якія несумленна перайначваюць справу, што адбылася навідавоку, у прысутнасці ўсіх станаў. Не дзіўлюся з таго, што іншыя рэчы, пра якія не ўсе людзі ведаць могуць, здатныя перакруціць, абразіць тую святую лучнасць перад людзьмі.

А потым за просьбай тых жа іерархаў, каб ведалі ўсе, што спраўлена ў Рыме, азнаёміліся з тым, яго каралеўская міласць загадаў выдаць універсалы з дазволам мітрапаліту кіеўскаму, як старшаму праваслаўных цэркваў у краі, склікаць сінод у найбольш спрыяльны час у месцы Берасцейскім, дазваляючы ўдзельнічаць у ім кожнаму. Праўда, толькі асобам Грэцкай і Рымскай рэлігіі, не дапускаючы да таго сінода людзей іншых вераў і выпадковых, якія не мелі дачынення да таго сінода.

Затым мітрапаліт, у адпаведнасці з воляй і даручэннем яго каралеўскай міласці, выконваючы свой абавязак, паразумеўся з некаторымі епіскапамі, якія знаходзіліся бліжэй, і прызначыў галоўны сінод на шосты дзень кастрычніка, паводле старога календара, аб чым акуратна паведаміў усім зацікаўленым праз свае лісты да іх.

* * *

На галоўны сінод прыехаў сам мітрапаліт. Таксама прыехалі пяць епіскапаў — уладзімірскі, луцкі, полацкі, пінскі і холмскі. Нямала сабралася архімандрытаў, ігуменаў і прэсвітэраў.

З каталіцкага боку прыехалі на той сінод паслы свяцейшага айца папежа, праслаўленыя ў Бозе асвечаныя панове: яго міласць князь Дзімітры Салікоўскі, арцыбіскуп львоўскі, яго міласць князь Бярнат Мацееўскі, біскуп львоўскі, і яго міласць князь Станіслаў Гамалінскі, біскуп холмскі.

Пасламі на сінод ад яго каралеўскай міласці былі прысланыя: іх міласці яснавяльможныя паны, пан Мікалай Радзівіл, князь на Олыцы і Нясвіжы, ваявода трокскі, пан Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага, і яго міласць пан Дзімітры Халецкі, падскарбі Вялікага Княства Літоўскага, стараста берасцейскі. Яны мелі абавязак сачыць за парадкам і спакоем. Яны паразумеліся з іх міласцю панамі сенатарамі духоўнымі і з мітрапалітам і, дбаючы пра паспаліты мір, напісалі артыкулы. Прызначылі звыклае для сесіяў месца, там, дзе й раней сіноды бывалі — у царкве мураванай саборнай Святога Міколы. Загадалі выконваць тыя артыкулы, прыбілі іх да царкоўных варот, каб усе ведалі.

Прыехаў гэтаксама і супрацьлеглы бок з немалым людам. Яго княжацкая міласць, пан ваявода кіеўскі ў атачэнні зацных паноў і шляхты. Разам з ім два епіскапы, тыя адступнікі — перамысльскі і альбоўскі, якія спачатку тую лучнасць і згоду віталі.

І іншага духавенства немалая лічба.

Сярод паноў і шляхты было шмат розных ерэтыкоў, арыянаў, новахрышчэнцаў.

Завіталі і некалькі чужаземцаў, грэкаў, якія ўсе разам, супольна з ерэтыкамі, у гасподзе князя яго міласці, у даму прыватным — там, дзе звычайна адбываліся і адбываюцца ерэтычныя сходкі, — учынілі іншае кола, асобнае ад мітрапаліта ды іншых епіскапаў, ад паноў і паслоў папы, без дазволу яго каралеўскай міласці і без нагляду з боку ягоных паслоў. Яны там сабраліся, абралі маршалкам, або старшынёй, яўнага арыяніна. І туды заклікалі, і там гуртавалі людзей, а іншых і супроць волі цягнулі.

Потым, шостага кастрычніка паводле старога календара, у дзень, на які быў прызначаны сінод, айцец мітрапаліт з памянёнымі пяццю епіскапамі і з святарствам сваім уранні прыйшлі на прызначанае месца — да саборнай царквы. Тамака чакалі яшчэ тых двух епіскапаў і іншых святароў, спадзеючыся, што і яны прыйдуць на звыклае месца сінодаў. Але не дачакаліся іх, даведаўшыся, што яны чыняць нейкую іншую сходку супольна з ерэтыкамі. Таму, паводле вызначанага парадку, адкрылі сінод.

Найперш гонар і хвалу Пану Богу ўзнеслі. Звыклыя малітвы адправілі. Затым занялі свае месцы ў царкве і зрабілі ўступ да таго сінода. І першую справу таго дня дазволілі запісаць пісару — духоўнай асобе, астатнія справы адклаўшы да наступнага дня.

Назаўтра, іх міласці паны сенатары, паслы яго каралеўскай міласці, якія былі прысланыя на сінод для падтрымання спакою і парадку, бачачы, што прадстаўнікі супрацьлеглага боку абралі для сесіяў прыватны дом, чыняць сходкі з ерэтыкамі, не з'явіліся ў першы дзень напачатку сінода да мітрапаліта як да старэйшага свайго, не прыйшлі да іншых сваіх братоў, паехалі самі да іх. Там прасілі іх, каб яны спынілі прыватныя сходкі, разарвалі з ерэтыкамі, вярнуліся на свае месца, да мітрапаліта як свайго старэйшага, які склікаў той сінод, а таксама да іншых братоў сваіх, вялікага згуртавання святароў і епіскапаў, і там супольна радзіліся ды развязвалі справы Божай царквы.

Але варожы бок не хацеў ні ў якім разе разлучацца з ерэтыкамі. У той дзень, сёмага кастрычніка, калі мітрапаліт з епіскапамі чакалі на двары царкоўным, пакуль іх міласці паны сенатары, паслы яго каралеўскай міласці, прыйдуць да бажніцы, з'явіўся Нікіфар Тур, архімандрыт пячорскі, а разам з ім некалькі асобаў, вядомых усім арыянаў. Яны прынеслі да мітрапаліта і епіскапаў безыменнае пасланне («картелюш»), невядома ад каго накіраванае. У тым пасланні спачатку ганіўся сінод і ўрэшце нагул не прызнаваўся за сінод. А ў канцы, мітрапаліт і епіскапы пазбаўляліся ўрадаў сваіх, патрабавалася ад іх паслушэнства, няведама — каму ад каго.

Мітрапаліт папрасіў, каб назвалі асобаў, ад якіх з такім пасольствам прыйшлі, і перадалі яму тое пасланне дзеля глыбейшага вывучэння, каб ведаць, на што мусіць адказ чыніць. Затым доўга спрачаліся — аддаць ці не аддаваць тое пасланне.

Іх міласці паны сенатары, паслы яго каралеўскай міласці, прыйшлі да царкоўнага двара і хацелі былі ісці ў царкву, але, даведаўшыся пра тых пасланцоў, накіраваліся да мітрапаліта. Там яны сустрэлі толькі ерэтыкоў, бо Нікіфар Тур, як пабачыў іх міласцяў радных паноў, схапіў тое пасланне і вокамгненна ўцёк. Сенатары запыталі пасланцоў, ад каго яны з такім пасольствам да мітрапаліта прыйшлі, прасілі, каб назвалі асобаў. Затым нагадалі ім, што ні мітрапаліту, ні епіскапам, а толькі яго каралеўскай міласці ўсе асобы мусяць падпарадкоўвацца. Бо мітрапаліт і епіскапы не самі ад сябе валодаюць уладай у царкве, над хрысціянскімі людзьмі, авечкамі сваімі, але найперш ад Пана Бога, а затым ад яго каралеўскай міласці, свайго найвышэйшага гаспадара, памазанца Божага, і чаго ім хто не даў — таго і забраць не можа. А хто наважваецца на гэта — самому манарху аказвае супраціў. Таму без іхнага ведама, паколькі яны прадстаўляюць асобу найвышэйшага гаспадара і для ўсталявання парадку на

сінод прысланыя, нічога не можа дзеецца. Урэшце, тыя пасланцы, не паведаміўшы, ад каго яны былі прысланыя, адышлі прэч.

Іх міласці паны сенатары не ўпускалі аніводнай аказіі, праз сябе і праз людзей зацных, паслоў сваіх, заклікалі супрацьлеглы бок прыпыніць удзел у ерэтычных сходках, якія не маюць дачынення да сінода. Каб вярнуліся і разам з мітрапалітам радзіліся. Асабліва іх міласці прасілі тых двух епіскапаў, каб з ерэтыкамі не таварышавалі, ішлі да свайго старэйшага і да братоў сваіх.

Але, калі ўжо знікла апошняя надзея на тое, што яны апамятаюцца, мітрапаліт і ўвесь сінод, назіраючы іх бязмежную настырнасць, дзевятага кастрычніка, у суботу, сышліся з іх міласцю панамі сенатарамі, з пасламі свяцейшага айца, з епіскапамі і святарствам, як сваім, гэтак і Рымскага Касцёла, пры зграмаджэнні вялікім іншых людзей хрысціянскіх, да саборнае царквы. Перад гэтым апавясцілі супрацьлеглы бок, што калі яны не хочуць далучыцца да тае справы, то могуць быць вольныя.

Там, у царкве, усе духоўныя асобы — рымскай і грэцкай веры, — апранутыя ў свае епіскапскія шаты, селі паводле чыну на сваіх месцах для заключэння той святой лучнасці і згоды. Спачатку мітрапаліт з трыма епіскапамі — полацкім, холмскім, пінскім далі клятву, якую раней цераз паслоў сваіх, уладзімірскага і луцкага епіскапаў, прынеслі ў Рыме найсвяцейшаму айцу. А цяпер самі пацвярджалі, прызнаючы папу рымскага за ўласнага свайго пастыра і старэйшага, на вечныя часы. І свае лісты кожны з іх паасобку, з уласным подпісам і пячаткай, аддаў у рукі паноў сенатараў і духоўных паслоў папы рымскага, пацвердзіўшы згоду і святое адзінства з Касцёлам Рымскім. Архімандрыты, ігумены таксама услед за імі падпісаліся ў знак вечнага паслушэнства свайго. Затым з вялікай радасцю і духоўным трыумфам, звонячы ў званы, гонар і хвалу Пану Богу супольна ўзнеслі. Між імі адбылося цалаванне братэрскае, як адзінага Бога людзьмі і адзінай маткі святой сынамі, братамі супольнымі.

Пасля заканчэння цырымоніяў у праваслаўнай царкве ўсе разам у працэсіі, трымаючыся за рукі, парамі, як адзінага пастыра авечкі і адзінай кашары ягняты — ксёндз арцыбіскуп з мітрапалітам, біскупы з епіскапамі, ішлі да каталіцкага касцёла, да фары. Там на латыні «Цябе, Бога, хвалім» з музыкаю і пад арган праспявалі, поўнымі малітвамі гонар і хвалу Пану Богу аддалі. І тую справу ў адзін дзень скончылі.

Назаўтра, у нядзелю, дзесятага кастрычніка, усе іх міласці сенатары, духоўныя і свецкія, паслы папы рымскага і манархавы сабраліся да саборнай царквы на Божы малебен. Там святую

літургію, якую адпраўляў айцец епіскап уладзімірскі са святарамі сваімі, слухалі. Пасля літургіі Слова Божае прапаведваў ксёндз Пётр Скарга, казнадзей яго каралеўскай міласці. Ён ухваляў святое адзінства і згоду, паказваючы, колькі аднолькавых цырымоній у Грэцкай Царкве і Рымскім Касцёле. Пры гэтым заклікаў праваслаўных, каб моцна стаялі за свае адметнасці, ні пра якую адмену іх не думалі. Запэўніваў усіх у тым, што, калі хтосьці надумае ўнесці змены ці нешта адмяніць, гэтага не дазволяць ім здзейсніць Рымскі Касцёл і папа рымскі. Таму што ўсе цырымоніі Усходняй Царквы святыя, устаноўленыя святымі грэцкімі айцамі, да якіх каталікі ставяцца з вялікай пашанай.

Перад агалошанай малітвай мітрапаліт у сваім святочным адзенні ўзышоў на амбон з намерам праклясці двух епіскапаў-адступнікаў, перамыскага і альбоўскага, ды іхных духоўных памочнікаў, пазбавіць духоўных урадаў за непаслухмянасць і за ганарлівасць, якую яны ўчынілі супроць вышэйшых уладаў — духоўнай і свецкай, а найбольш — за пагадненне з ерэтыкамі. Але іх міласці паны сенатары, як духоўныя, гэтак і свецкія, паслы папы рымскага і манарха, усталі з месцаў сваіх, прыступілі да мітрапаліта і да епіскапаў з просьбай адкласці, не спяшацца з такім рашэннем, прапануючы не змешваць таго святога, радаснага дня з сумнымі і жалобнымі рэчамі, адкласці тую справу да панядзелка.

Варожы бок адразу даведаўся, што мітрапаліт склікаў нараду і анафему перанёс на наступны дзень.

Затым служба Божая паводле звычаю скончылася.

Варожы бок упарта стаяў на сваім. Не з’явіліся на той сінод у саборную царкву, ні да мітрапаліта. З тымі ерэтыкамі, з якімі праводзілі супольныя пасяджэнні, з той жа зграяй, з якой на сінод з’ехаліся — з войскам, з гайдукамі, з прапарцамі, — у той жа дзень, у нядзелю, прэч ад’ехалі, трымаючы ў таямніцы справы свае.

Назаўтра, 11 кастрычніка, у панядзелак, мітрапаліт і епіскапы спаткаліся з іх міласцямі панамі сенатарамі, духоўнымі й свецкімі, у саборнай царкве. Занялі свае месцы і ў прысутнасці шматлікага грэцкага і рымскага святарства, а таксама іншых хрысціянскіх людзей, добра, як родныя браты, радзіліся з ксяндзом арцыбіскупам і біскупамі.

Потым мітрапаліт узышоў на амбон і ў адпаведнасці з прынятай цырымоній асудзіў як ерэтыкоў і адшчапенцаў Міхаіла Капысценскага, епіскапа перамыскага, Гедэона Балабана, епіскапа львоўскага, намесніка свайго, а таксама іншых архімандрытаў,

папоў і іх аднадумцаў, што не падпарадкаваліся Божай уладзе — свецкай і духоўнай. Таму што яны, пакліканыя на сінод, апавешчаныя праз універсалы гаспадарскія, не захацелі заняць месцы звыклыя ў сабornай царкве, дзе раней заўжды праводзіліся саборы. Наадварот, яны абралі сабе іншае месца, ерэтычны дом, дзе разам з ерэтыкамі, новахрышчэнцамі і арыянамі сабаравалі, пагарджаючы домам Божым. І што найбольш, — маючы тут пад бокам нямала цэркваў, абмінулі іх, маліліся супольна з ерэтыкамі ў зборы ерэтычным, асмеліліся там адпраўляць святую Літургію. Не зважаючы на шматлікія заклікі паслоў гаспадарскіх і самога мітрапаліта, не пакінулі ерэтыкоў. Дзеля тых прычынаў пракляў іх і паскідваў з духоўных урадаў дэкрэтам сінодавым.

Тым сумным актам скончылі свой сінод — на вечную памяць і для страху ўсіх бязбожных людзей. У гонар і хвалу Бога ў Тройцы адзінага, дзеля радасці верных хрысціянаў, якія той згоды даўно прагнулі!

І тут ўжо кожны чалавек павінен разважыць, нават вораг тае святое згоды, абы толькі не баяўся і праўду хацеў ведаць. Рассудзі, які бок больш вінаваты. Ці ж тыя, што сціпла, годна і не скваплiва дзеялі, на сінод, як на справы святыя і пабожныя без зграі, без гайдукоў, без гарматаў прыехалі? Толькі самі прыехалі і прыйшлі на звыклае месца сінодавае. Пры сабе мелі мітрапаліта як старэйшага цэркваў сваіх, паводле жадання якога быў скліканы сінод. А таксама бальшыню епіскапаў, якія на сінодах першыя месцы маюць. Нарэшце, мелі дазвол манарха, памазанца Божага, воляй якога і загадам той сінод склікаўся. Паслы яго вялікія, зацныя сенатары, ад якіх, паводле гаспадарскага загаду, залежаў спакой і парадак на тым сінодзе, паколькі насілі на сабе асобу манархаву. Не адзін бок, а два, якім той сінод па частках і цалкам належаў, бо адна без другой не маглі яго ўчыніць. Мейсца, дзе адбываліся паседжанні — святое, дом Божы, прызначаны на колькі год мітрапалітам і епіскапамі, дзе ўжо неаднойчы сіноды бывалі. Людзі вольныя, ніякай асобай не змушаныя, праваслаўныя. Хрысціяне шчырыя, а не аблудныя, каталікі, адзінай веры і адзінага веравызнання, Бога ў Тройцы адзінага браты, ціхія, спакойныя, якія прагнулі згоды і міласці хрысціянскай і нічога болей. Ад усялякай ерасі і ерэтыкой далёкія, тыя, якіх папярэджваць не трэба. Пакорлівасць, годнасць, парадак у той справе зберагалі. Бо ані супраць Бога, ані супраць міласці братэрскай нічога не ўчынілі, але ў згодзе і ў міласці ўсё адпраўлялі, да праціўнікаў сваіх ставіліся па-людску, не стамляліся прасіць іх, заклікаць, нагадваць, весці да

згоды, ніякай непрыстойнасці не зрабілі ў іх бок. Ад ерэтыкоў іх адводзілі, самі з імі засядаць прагнулі. Нікога не гвалцілі, нікога не бунтавалі, ні ўключалі ані ў якія таемныя і прыватныя спісы, усё рабілі адкрыта і шчыра. З малітвай і хвалой Божай, паводле канонаў сінодавых зачалі, з малітвай і ўдзячнасцю божай скончылі. Затым спакойна раз’ехаліся.

* * *

Паглядзім на супрацьлеглы бок.

Найперш, прыезд іх, нібыта не да рады, а як да звады — з войскам, з гайдукамі, з татарамі, з чужаземцамі, з ерэтыкамі. І ўжо на першым кроку мандату гаспадарскаму ў лоб далі, не выканалі яго волю і вызначаныя там абмежаванні. Па-другое, як высветлілася, сярод паноў і духоўных асобаў — ледзьве не бальшыня між іх аказалася ерэтыкоў, арыянаў, новахрышчэнцаў. Сярод чужаземцаў быў адзін падазроны, якога сам яго каралеўская міласць сваім і ўсяго Хрысціянства здраднікам называў, забараніў кантактаваць з ім сумленным людзям. Не ўспамінаю тут выклятых банітаў, адлучаных Божым і свецкім правам ад людской супольнасці.

Пяройдзем да ўчынкаў і справаў іхных. Яны зрабілі так, як людзі кажуць: «Прыехалі да места — і за печ». Прыехаўшы да Берасця на той сінод, яны замест саборнай царквы, дзе раней заўжды сіноды праходзілі, улезлі ў ерэтычны дом, дзе ерэтычныя сходкі стала бываюць. Выказалі пагарду Божай Царквой, абмінулі малітвы, з якіх зазвычай сіноды пачынаюцца. Старэйшага свайго — мітрапаліта, лістамі якога склікаўся сінод, зняважылі, хоць правіла дзявятае Антыяхійскага сінода не дазваляе епіскапам нічога чыніць без мітрапаліта. Паслоў яго каралеўскай міласці, пана свайго, якія прыехалі на сінод як гаспадарскае пасольства, палічылі за пустое месца. Братамі сваімі, панамі рымлянамі, якім той сінод гэтакжа як і нам належаў, пагарджалі. Але выбралі замест Божага дому — дом ерэтычны. Замест паслоў манархавых — чарнец, здрайца гаспадарскі. Замест каталікоў — ерэтыкі. Замест мітрапаліта — кіраўнік сінода, яўны арыянін.

Сухай жа далей пра ўчынкі іх, што з тае шопы ерэтычнай вырасла.

Не прыйшлі да другога боку, не выявілі ўвагі, не выслухалі справы, не даведаліся — добрая яна або злая, — без скаргаў, без аспрэчання, без спасылак на права, без суда, без упаўнаважаных

суддзяў, завочна, у нейкіх кутах, па-за саборам, дэкрэт нейкі ўчынілі. Мітрапаліта і пецярых епіскапаў нісклалі з сталіцаў іхных, адмовіліся ад паслушэнства ім і нейкую карту закінулі. І з тым не мелі нават каго паслаць на сход праўдзівых хрысціянаў. Знайшлі толькі аднаго Тура, архімандрыта пячорскага, заклятага вываланца. Разам з ім прыслалі некалькіх арыянаў, якія прывезлі пустую карту, безыменную, нікім не падпісаную, невядома ад каго выдадзеную. А затым, не дачакаўшыся адказу, уцяклі з ёю.

Паглядзі на тую карту, хто яе пісаў? Кожнага яна ўразіць. Бо найперш пішуць у ёй аб тым, што не прызнаюць таго сінода за сінод, падаюць некалькі прычынаў, чаму ён не з'яўляецца такім. А потым адмаўляюцца быць у паслушэнстве і з урадаў скідваюць. Калі той сінод — не сінод, дык пытаю іх: якой уладай яны ўсё чыняць — выламваюцца з паслушэнства, адбіраюць урады, робяць усё, што належыць выключна ўладзе сінода. Як нельга выдаваць канстытуцыі без рашэнняў сойму, гэтак жа ніхто не можа без сінода чыніць такое.

Але праўду кажыце, той сінод для вас сапраўды не сінод, бо сабраліся не на звыклым месцы саборавым, а ў бажніцы ерэтычнай, да якой хрысціянскаму чалавеку і наведвацца не варта. Калі кажаце, што ў Берасці не сінод, дык гэта тое ж самае, калі б прыехалі на сойм і саймаваліся ў бурмістра за печчу, а манарха ды Сенат на палацы пакінулі. Менавіта гэтак вы ўчынілі. У лепшай павазе ў вас аказаліся паслы мескія, чымся гаспадарскія, без кіраўніка, без пастыра, без памазанца Божага, пана свайго, без другога боку, гэта значыць, без паноў рымлянаў.

А калі кажаце, што з намі аніякай справы не хочаце мець, дык і ерэтыкоў трэба было пазбягаць. Дык не! Замест хрысціянаў — ерэтыкі, замест мітрапаліта — калугер і здрайца Хрысціянскі, замест дому Божага — зборышча ерэтычнае. Там, што найгорш, і Літургію святую адпраўлялі, пагарджаючы ўсімі цэрвамі, якіх шмат у Берасці. Карацей кажучы, ва ўсім супраць Бога, супраць манархавай улады, супраць пастыра свайго старэйшага, супраць міласці братэрскай, супраць усіх правілаў святых баганосных айцоў сваіх грэцкіх, супраць яснай справядлівасці, супраць права агульнага — духоўнага і свецкага. Зрабілі сапраўды па-ерэтычнаму, а не па-каталіцкаму, як пачалі, так і скончылі. Ані галавы, ані старэйшага не ведалі. Усе радзяць, усе хочуць быць епіскапамі і пастырамі: «Не знатная авечка — а ў пастыры мкнецца». Не дарам тое ваша зборышча можна хутчэй нейкім ігрышчам назваць, чымся сінодам.

Што да паслушэнства, ад якога адмаўляецеся, дык аб ім даўно мала дбалі. Асабліва вы, два ўладыкі. Адзін з вас разам з Львоўскім брацтвам чыніў забурэнні супраць мітрапаліта і самога патрыярха. А другі, калі выклінаў яго. Вы ерэтыкі, бо даўно адступілі ад паслушэнства не толькі царкоўнага, але і Божага. Таму вы наагул не мелі права нешта прапаноўваць.

Што да папоў. Цяжка вам у чужой парафіі даваць парады, хіба па-ерэтычнаму — гвалтам, бо кожны поп хоча быць епіскапам. Але й папам раю агледзецца. Каб з папоў не сталі халопы, да чаго даўно наблізіліся. Толькі вы, бедакі, таго не бачыце.

Што да адрачэння або скідання ды судоў вашых. Агледзьцеся, якая ваша ўлада? Якое ваша права і супраць каго? Калі духоўныя асобы, дык, пытаю, хто? Нікіфар чарнец, які называе сябе паслом патрыярха? Каму ж лепей верыць, іншаземцу і незнаёмаму ўцекачу або яго каралеўскай міласці, памазанцу Божаму і пану свайму, які лічыць яго здрайцам сваім і ўсяго Хрысціянства і кожнага, хто з ім супрацоўнічае, называе такім жа. Сапраўдная абраза з здрайцам гаспадарскім мець штосьці агульнае! Калі б быў паслом патрыярха, мусіў бы спачатку ўсё зрабіць, як патрабуе звычай, каб зняць падазрэнні. Затым належала прад'явіць лісты ад патрыярха, калі яны былі, і атрымаць дазвол яго каралеўскай міласці. Азнаёміць мітрапаліта і епіскапаў, яскрава давесці, што не калугер, не здрайца і ўцякач.

Ваш знакаміты і вялікі патрыярх Ерамія, які асабіста прыехаў у гаспадарства яго каралеўскай міласці, як чалавек заўважны, ведаў, што без дазволу пана нашага не мог ужываць сваёй улады, бо даўно згубіў яе тут. Таму мусіў атрымаць дазвол яго каралеўскай міласці. Бо, калі б меў уладу звыклую, не спатрэбіліся б яму аніякія лісты. А так ён не мае аніякай улады, аніякіх слушных падставаў і сведчанняў, што ён акурат той, за каго сябе выдае. І наагул, як чалавек падазроны, пад абвінавачаннем, ён не мог мець нават завочнай і ўмоўнай улады над мітрапалітам і ўладыкамі.

А калі, кажаш, маўляў, не адзін быў, а яшчэ з двума ўладыкамі туташнімі ды вялікай лічбай духоўных асобаў. Скажыце мне, панове епіскапы, дзе вы такое вычыталі, што маеце права судзіць мітрапаліта — старэйшага свайго і іншых епіскапаў, якія паводле статуса вышэй за вас, да таго ж не маючы аніякага даручэння судзіць? Але што кажу пра суд! Вы без суда, без права, без позваў здымаеце з духоўных пасадаў! Калі мелі нейкія прэтэнзіі, чаму не прыйшлі да іх? Калі б нават і былі ў вас падставы, дык ці вы забыліся на дзесятае і дванаццатае правілы Трэцяга Карфаген-

скага сабора, паводле якіх абвінавачанага епіскапа маюць права судзіць толькі дванаццаць епіскапаў, шэсць прэсвітэраў і тры дыяканы, і тое ў тым выпадку, калі ўсе епіскапы мітраполіі з-за нейкіх прычынаў не маглі разам з'ехацца. А вы, два малодшыя, наважыліся пакараць шэсць старэйшых! І да таго ж яшчэ й старэйшага свайго — мітрапаліта, пад уладай якога знаходзіцеся.

І што найбольш, адзін з вас наагул быў намеснікам або ўладыкам дворным мітрапаліта, слугой пана свайго. Ці не вы раней за іншых патрыярхаў сваіх адракліся? Адзін у Берасці на першым сінодзе, а другі праз два гады ў Сокалю, пра што мала не ўсё места ведала. Вы найбольш вінаватыя ў той справе, якая здзейснілася, бо, як найвышэйшыя пастыры, стаялі ля яе вытокаў. А тое, што сталі адступнікамі, да таго няма нікому аніякай справы. І не дзіўна, бо на два бакі слова не стрымалі, таму заслугоўваеце найбольшага пакарання. Калі гаворыце, што аб тым нічога не ведаеце, чаму ж тады не сталі на пляцы перад сінодам, а схаваліся ў куце? Там бы вам і пячаткі і подпісы рук вашых паказалі. Не пасаромелісія б сказаць вам праўду ў вочы — пра час і месца, дзе тое адбывалася, прыгадаць вашыя ўласныя лісты, давесці пры дапамозе сведкаў і паканаць вас.

Але вы святло спаганілі, таму баяліся вочы іншым паказаць. Пра тыя завочныя суды вашыя глядзіце што кажа трыццатае правіла Карфагенскага сабора: «Суддзі царкоўныя няхай асцерагаюцца таго, каб у адсутнасці падсуднага завочна разглядаць справу. Бо такі суд нічога не варты».

Хто ж з вамі тыя дэкрэты прымаў? Кажаце — архімандрыты, ігумены, прэсвітэры і дыяканы. Падобна што нейкае новае правіла з Грэцыі прыляцела да вас. Нібыта мае быць такая паслядоўнасць: міранін — дыякана, дыякан — прэсвітэра, прэсвітэр — епіскапа, а епіскап — свайго мітрапаліта? А чаму ж бы і мітрапаліт не мог скінуць патрыярха? Так па-вашаму! Сапраўды, не навіна такое ў Грэцыі. Акурат гэтак зрабілі са святым Златавуснам ягоныя папы, за што папа Інакенці І пракляў імператара з імператрыцай і ўсё святарства.

Але ў праваслаўных каталікоў зусім не так. Слухай, што Ігнаці, святы вучань апостальскі да міранаў у дзевятым лісце пра парадак царкоўны кажа: «Калі таго, хто паўстае супраць цара, або ўстаноўленыя законы парушае, належыць прыцягваць да суда, дык яшчэ ў большай ступені заслугоўвае цяжкога пакарання той, хто наважыўся чыніць штосьці без епіскапа». І далей кажа: «Таму няхай усталяваны парадак паміж вамі будзе. Міраны няхай слухаюць дыякана, дыякан — прэсвітэра,

прэсвітэр — епіскапа. Епіскап жа падпарадкаваны Хрысту, як Хрыстос Айцу».

Але мілыя шаноўныя суддзі, можа, затрымайцеся з выкананнем прысуду, памятаючы на правіла чацвёртае Сардыкейскага сабора, якое кажа: «Пасля пазбаўлення епіскапа сану і пасады праз суд яшчэ і рымскі папа павінен прыняць канчатковую пастанову». Глядзіце таксама і трэцяе правіла Сардыкейскага сабора: «Пра папежскія суды».

Але для вас гэта не аўтарытэт. Вы жадаеце, каб вас Магамет судзіў.

Пастар сусветнай Хрыстовай Царквы той, каго Хрыстос прызначае. Да яго неаднаразова патрыярхі ўцякалі ў крыўдах сваіх. Прыклад таму — Златавусны. Тое ж і пра іншых патрыярхаў даведаешся, чытай толькі летапісцаў царкоўных.

Цяпер, што да папоў, якіх немалую лічбу пры сабе мелі. На Нікейскім саборы іх было нашмат болей, але іх нават у рэестр не ўпісалі.Толькі трыста васемнаццаць святых айцоў, не папоў, а епіскапаў. На іншых саборах, сусветных і мясцовых, тое ж самае, хоць там і было шмат прэсвітэраў, але, апрача епіскапаў, якія ўваходзілі ў склад сабораў, нікога не ўносілі ў рэестр. Бо не да папоў сказана ў Дзеях апостальскіх і не да свецкіх людзей: «Схіляйце сябе і ўвесь статак. Дух Святы паставіў вас епіскапамі, берагчы Царкву Госпада і Бога, якой аддаў кроў сваю» (Дзяянні. 20). А калі нейкі прэсвітэр або дыякан і быў дзесьці ўпісаны, ды толькі ў тым выпадку, калі ён быў або паслом ад нейкага епіскапа, або меў нейкае даручэнне на сінодзе ад епіскапаў. Таму не асабліва ганарыцеся вялікасцю папоў сваіх, сярод якіх ёсць праклятыя баніты, нягодныя ўцекачы. Паказалі б вам іх нямала, калі б разам з імі сышліся і ў вочы ім зірнулі. Яны ніколі сярод нас не мелі месца, і для вас яны нічога не значаць, гэтак жа як і ерэтыкі.

Свецкіх людзей, знакамітых князёў і паноў, урадоўцаў і шляхту шаноўную, не кранаю, бо яны не належалі да тае справы. Іх міласці мелі права прыехаць на той сінод або не прыехаць. Не выключаю, аднак, што нехта з іх міласцяў хацеў праз той суд для сябе большай улады здабыць, мяркуючы, што гэта сфера ягоных паўнамоцтваў. Не спрачаючыся з ніводным з іх міласцяў, дзеля перасцярогі толькі адну рэч, вартую памяці, прыгадаю, якую вычытаў у кнігах першых сінодаў, у прадмове да I Нікейскага сабора на аркушы 235. Яна тычыць святога хрысціяніна, цэсара Канстанціна Вялікага. Прыгадаю тое, што можа мець дачыненне да нашай цяперашняй справы, пра што

ўсім свецкім людзям варта памятаць і ў справы, якія ім не належаць, каб не ўмешваліся. Слухай, аб чым там напісана: «Пра ўчынак цэсарскі на тым сінодзе не ўдасца мне змоўчыць. Калі з’ехаліся з усіх краін епіскапы і, як звычайна бывае, пачаліся паміж імі сваркі, яны часта бегалі да цэсара, кожны паасобку падаваў скаргі яму, адзін другога абвінавачвалі, займаючыся больш пабочнымі справамі, чымся тымі, дзеля якіх прыехалі на сінод. Убачыўшы, што звадкі перашкаджаюць справе, ён прызначыў дзень для выслухоўвання іхных скаргаў. Усеўшыся на сваім месцы, узяў усе іхныя скаргі, якія за пазухай трымалі, але не стаў іх чытаць, а звярнуўся да епіскапаў: «Пан Бог паставіў вас іерэямі і даў нам уладу над намі, нас судзіць, і таму вы нас слушна судзіце. Але самі не можаце быць асуджаныя свецкімі людзьмі, чакайце Божага суда над сабой. І ўсе тыя сваркі вашыя захавайце для Божага азнаямлення, бо Пан Бог даў нам вас замест багоў. Нельга, каб чалавек багоў судзіў, толькі самому Богу гэтае права належыць: «Бог стаяў у гурце багоў; сярод багоў правіў суд» (Псал. 81: 1). Таму спыніце сваркі, абмяркоўвайце тыя справы, якія належаць да веры. Затым пералічыў усе іхныя скаргі і загадаў іх спаліць, каб нікому аблуднасць, нянавісць і абгаворы іерэйскія не былі вядомыя».

Калі мала сказанага, слухай другога цэсара хрысціянскага — Феадосія Меншага, што ён напісаў да Эфескага сабора, паслаўшы на яго зацнага пана, раднага свайго Кандыдыяна. Сярод іншага ён такія словы кажа: «Кандыдыяну, набожнейшаму з чэлядзі нашай, на той сабор загадаў ехаць. Але не даю яму права і паўнамоцтваў весці спрэчкі вакол веры, бо непрыстойная рэч, калі той, хто не належыць, не ўпісаны да рэестра епіскапаў, мог вырашаць царкоўныя справы».

Глядзі ж, браце мілы, да якога стану належаць тыя святыя хрысціянскія цэсары? Хоць маглі судзіць і караць духоўных, бо яны памазанцы Божыя. Маючы панаванне над імі, не рабілі гэтага. Таму што яны ведалі значнасць стану духоўнага, асабліва епіскапскага.

Даў бы Пан Бог, каб цяперашнія канстанціны, якія ад Бога маюць свецкую ўладу, не толькі назвай, але і ўчынкамі пераймалі таго святога Канстанціна Вялікага. Варта было б і меншым браць з іх прыклад, не заходзіць так глыбока, мо хутчэй бы згоды мы з нашымі адверсарамі дасягнулі.

Але мае Пан Бог моц з непадобных падобныя рэчы ўчыніць. Ерэтыкі ўсё перавярнулі, аказваецца, іх больш слухаем, чымся прававерных хрысціянаў.

А вас іншых простых людзей, якія туляецеся паміж зацнымі і шляхетнымі станамі, што пакінулі рамяство сваё, шыла і дратву, дзеля чаго вас Бог спадобіў, адсылаю да варштатаў вашых, каб вы перасталі радзіць Царкве і святарству, не ўмешваліся не ў свае справы. Пільнуйцеся кожны свайго прызначэння, каб не забыліся на сваё рамяство! А калі дбаеце пра выратаванне, дык слухайцеся старэйшых сваіх, седзячы дома, не лётаючы па свеце і не бунтуючы людзей хрысціянскіх. Бо лепей ведае пастыр, што авечцы трэба. І не адступай ад пастыра, бо будзеш у ваўка ў зубах. Напэўна, паміж вас знойдуцца бязбожныя і бяспамятныя, што наважацца ўголас блазнаваць, прасіць Пана Бога на сваю пагібель, каб аддаў вас пад уладу турэцкую, каб вамі не папа, а патрыярхі кіравалі. О, праклятае бяспамятнае сэрца! О, разбэшчаныя вусны, не ведаеце, чаго просіце! Разгневаўшыся на блох, кажух хочаш спаліць! Альбо надакучыў вам спакой, надакучыла вольнасць хрысціянская? З раскошы і свавольства не ведаеш, што пляцеш? Затулі вусны свае зламоўныя і бязбожныя! Лепей схавай за зубамі свой паганы язык, які вымавіў такія брыдкія словы! Добра бачым, якімі нявартымі справамі служыце Богу. Але Бог доўгацярплівы, шматміласцівы, не дапусціць зніштажэння сваёй годнасці. Калі не перадумаеце і не пакаецеся, вас забярэ Бес. Тое, што Пан Бог дзеля хвалы святой і дзеля пашырэння Каталіцкай Царквы загадаў учыніць і завяршыць, навякі застанецца. *Не пераможа хлусня праўды!* Не перамогуць д’ябальскія змовы і ростыркі Божай справы і згоды хрысціянскай, з якой малыя рэчы перарастаюць у вялікія. Пры нязгодзе ды варажнечы занепадаюць і вялікія рэчы. Няхай ўпадзе хвароба ваша на галаву вашу і няпраўда ваша на вас саміх абваліцца!

*1597*



# ГАЛЬЯШ ПЕЛЬГРЫМОЎСКІ

*(другая палова XVI — каля 1611)*

Гальяш Пельгрымоўскі — беларускі пісьменнік і паэт эпохі Барока. Нарадзіўся ў Вялікім Княстве Літоўскім, служыў сакратаром С.Баторыя, а затым пісарам ВКЛ. Яго родавы маёнтак — Меднікі. Г. Пельгрымоўскі ўдзельнічаў у вайсковай кампаніі 1579—1582 гг. у складзе корпуса К.Радзівіла. У чэрвені 1583 г. у якасці спецыяльнага пасланніка ВКЛ наведваў Маскву. У 1597 г. абіраўся маршалкам Слонімскага сойміка. У 1600 г. Г.Пельгрымоўскі ўваходзіў у склад дыпламатычнай місіі на чале з канцлерам Л.Сапегам у Маскоўскае княства. Візіт у Маскву паслужыў гістарычнай асновай для напісання Г. Пельгрымоўскім двух твораў: «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» і «Гутаркі аднаго Паляка з Маскалём на Маскоўскім замку ў годзе 1601».

У «Гутарцы ў Маскве» ўпершыню ў беларускай паэзіі выкарыстаны дыялог дзвюх асобаў. Дыскусію вядзе рускі, якога завуць Ігнат, і «паляк» Іван. Са зместу твора відаць, што Іван добра ведае рускую мову. На прапанову Ігната размаўляць «по нашому» ён адразу ж дае згоду. Разам з пытаннямі рэлігійнага плана Ігнат і Іван абмяркоўваюць міждзяржаўныя адносіны і, перш за ўсё, — стасункі Маскоўскай дзяржавы і Вялікага Княства Літоўскага. У выніку спрэчак яны прыходзяць да высновы — трывалай падставай для вырашэння ўсіх праблемаў могуць быць толькі ўзаемны давер і шчырасць.

«Гутарка ў Маскве» ўтрымлівае выразныя драматургічныя элементы. У ёй таксама прысутнічае вельмі моцны сатырычны струмень. Сатыра накіраваная адначасна супраць Праваслаўнай Царквы і супраць Каталіцкага Касцёла.

*Іван Саверчанка*

# ГУТАРКА АДНАГО ПАЛЯКА З МАСКАЛЁМ НА МАСКОЎСКІМ ЗАМКУ Ў ГОДЗЕ 1601

Раз гаваркі Маскаль звярнуўся да Паляка,
Што пасланцом літоўскім быў, каб пабалакаць.
І госць той адазваўся прывітальным словам,
І рускаю, дзе мог, ён карыстаўся мовай.

*Паляк.* А як цябе завуць? Ты, можа, сын баярскі?
*Маскаль.* Ігнатам зваць мяне, халоп я гаспадарскі.
*П.* Ці да тваіх памесцяў дальняя дарога?
*М.* Да аднаго вёрст трыццаць, сорак — да другога.
*П.* Цікава, як даўно, і што тут парабляеш?
*М.* Пра гэта не скажу табе, пра што пытаеш.
*П.* Сказаць баішся праўду, топчашся наўкола.
*М.* Здароўя дай Гаспадару, святы Мікола.
Адзін змоўк і другі. Нічога не параіш.
А я табе скажу пра тое, што пытаеш.
*П.* Ды ад цябе я праўды і чакаць не буду,
Бо ў вас яе няма, а ёсць адна аблуда.
*М.* Не разумею я. Па-нашаму — не можаш?
*П.* Магу, ды мацюкаць па-вашаму нягожа.
А як ваш Гаспадар, ці ўсё недамагае?
*М.* Тут я не вінават, калі што дакучае.
*П.* Ты адказаць збіраўся на маё пытанне.
Ды, бачу, абыходзіш як мага старанна.
*М.* Як прозвішча тваё?
*П.* Адказваю: Іван.
Бо ты мяне ўсе роўна можаш клікаць: Ян.
*М.* Хрысціянін ці лях?
*П.* Лях і хрысціянін.
Не думай, што я нейкі басурманскі сын.
*М.* А хрысцішся ці так, як усе мы, нябогі?
*П.* Ў імя Айца і Сына і Духа Святога.
*М.* І Багародзіца у вас — матухна Ісуса?7
*П.* Ды так.
*М.* Ну, калі так, яшчэ я запытацца мушу:
А колькі, хрысцячыся, пальцаў ты складаеш?
*П.* Тры пальцы, бо так вучыць вера прасвятая,
Жагнаючыся імі злева ды направа,
Мы Усемагутнага у сваіх малітвах славім.

*М.* А злева ды направа славіць Створца свету,
Дык не па-божаму вы робіце ўсё гэта,
Бо на святым Саборы так пастанавілі,
Каб толькі ўсе сябе па-нашаму хрысцілі.
*П.* А як даўно усё гэта адбылося, вашаць,
Калі і на якім такім Саборы вашым?
Ды тое, што мы з вамі хрысцімся іначай —
Не перашкода ў справах справядлівасць бачыць.
Яшчэ скажу табе: прычын нямала маем,
Што сваім крыжам справы ўсе мы завяршаем.
*М.* А ў вас чаму папы бароды пазбрывалі?
Нягодна, каб яны такімі выглядалі,
І чалавечы вобраз свой гублялі, шкода,
Бо поп які з яго, калі ён безбароды.
*П.* Хоць мудры ты мужык, ды сорамна, што блудзіш.
Казёл, знаць, барадаты першы ў небе будзе,
Як нейкі чалавек сумленны, не псяюха.
Што іншае кажы, мне досыць басні слухаць.
З татарамі ваш Гаспадар не памірыўся?
*М.* Хан са сваёй ардой перад Царом скарыўся
І дань штогоднюю з сабой прывёз ён нашым.
Панам-паслам было б на што дзівіцца вашым.
Цар мог бы Індыю сабе ўжо падначаліць,
Каб толькі немач пальцаў не перашкаджала.
А да таго яшчэ дакладна мы не знаем,
Дзе Індыя — краіна казачная тая.
І Кесар хрысціянскі ў граматах-трактатах
Цара ўжо называе сваім старшым братам.
А шведскі Кароль хоча быць халопам царскім.
І многія другія прагнуць яго ласкі.
Калі б яшчэ Інфлянты вы нам адступілі,
Вялікую ў Цара тады б займелі міласць.
Пятнаццаць тысяч вёрст зямлі ў Цара на свеце,
А у іншых, можа, толькі дзевяць набярэцца.
Шмат мае Гаспадар людзей і руд багатых,
Шмат золата і срэбра, шмат звяроў рагатых.
На берагах адных рэк — яханты, рубіны,
На берагах другіх — алмазы ды бурштыны.
Ніхто не пералічыць і ніхто не знае,
Ён колькі рознага дабра, багацця мае.
*П.* Знаць, прысягнуў Цару ты ўсім хлусіць без меры,
Ды я скажу, Ігнат, ні ў чым табе не веру.

А будзеш і далей мне баіць небыліцы,
Параю табе лепей імі падавіцца.
Разойдземся давай, бо розныя мы людзі.
Расстаўшыся, ніхто з нас сумаваць не будзе.

Тут падышоў яшчэ ў персідскім сарафане
Адзін Маскаль і кажа:

*М.* Што, не верыш, пане?
Пра Царскае вялічаства пытаеш?
Цьма цьмой ў яго ўсяго...
*П.* І ты мне байкі баіш.
Ды не пытаюся пра гэта я ні ў кога.
Ніколі наш Кароль не пазычаў нічога:
Ні сёл, ні гарадоў, ні золата, ні хлеба.
Ён мае, як і Цар ваш, усё з ласкі неба.
Пра цноту і сумленне не напамінаю,
З якімі дружым мы, а у вас амаль не знаюць.
І мужнасць ходзіць не ў прыспушчаных рукавах,
Якая у дружбе з цнотай множыць Польшчы славу.

Тут перарваў Маскаль, наёжаны, другія
Ўзяліся памагаць падбрэхічы ліхія.

*М.* Кручыніцца табе, Іване, я не раю.
Што чалавек сумленны ты, я гэта знаю.
І не дзівіся, што Цара мы велічаем.
У вас — такая воля, ну, а ў нас — другая.
*П.* Я знаю вашу праўду, знаю вашу волю,
У якой аблуды рознай і тыранства болей.
Ды што тут гаварыць! Скажы, ці доўга будзем
Яшчэ мы ў вас сядзець, бо нешта Цар марудзіць.
Нібы яму і вам яшчэ ўсё невядома,
Што лепш па-добраму нас адпусціць дадому.
Няўжо ў вас граматы Гаспадара самога
З баярскімі — хлусня, не вартая нічога?
*М.* Ты, брат, не гарачыся. Бачу, знаеш дзела.
Нікому не кажы, што вымаўлю я смела.
І ў вас так, як і ў нас, скажу табе я шчыра:
Людзей няпраўда сварыць, толькі праўда мірыць.
І хоць яна ў загоне, але толькі з ёю
Патрапіце ў нас дзела завяршыць сваё вы.

А што марнуем многа часу, не дзівіся.
Усё наладзіцца, дасць Бог, і не журыся.
Ніхто вас тут не крыўдзіць, усяго хапае,
І жалаваннем Цар (тут рыгнуў) надзяляе.
*П.* Мне смешна гэта ўсё. Мо і далей бы слухаў,
Каб толькі так у твар ты мне пітвом не хухаў.
Якая праўда ў вас, і воля ў вас такая ж.
Хоць ты пра ўсё і мудра свае байкі баеш.
У нас заўсёды праўда на пачэсным месцы,
А ў вашага Цара яна ў закутку дзесьці.
І хай ён не хітруе, скажа «Дзякуй Богу»,
Што стрэў паслоў ён годных у сваіх чартогах,
Каб потым за няўдзячнасць не пашкадавалі.
Паслы ж Літвы і Польшчы вас не так прымалі.
Чытайце летапісцаў.

Тут баяры выйшлі,
За імі і паслы са сваёй світай пышнай
З адказнае палаты. Што там вырашалі,
Пра гэта толькі тыя, што былі там, зналі.

Аднойчы ў дзень святочны ў замку ля сабора
Маскаль, Паляка зноўку ўбачыўшы, гавора:
*М.* Але я раіў бы яшчэ вам не спяшацца,
Лядовым нашым горадам палюбавацца,
Што цудадзейнымі майстрамі збудаваны.
А Цар да вас, паслоў, адносіцца з пашанай.
*П.* І мы такія ўзводзім гарады і замкі,
Калі ў сняжкі гуляем, коўзаемся ў санках.
Ніякім адамашкам толькі не футруем
І ўсіх гасцей прысутных фрашкамі частуем.
Ваш Цар палацам гэтым мудра намякае,
Што сонечная сіла ўсё перамагае.
З такой жа лёгкасцю ўзламае сілы вашы
І дапаможа Бог умацавацца нашым.
*М.* Ты словы свае выплюнь і забудзь, Іване.
Не тое кажаш ты.
*П.* Хай сказанае стане. І зноў званы гудуць.
*М.* Чуць Рэвутаў раскаты.
*П.* Бо досыць доўгую са мной бяседу маеш,
Чаго, я думаю, другім забараняюць.
*М.* Прызнаюся, дазвол на стрэчу з вамі маю

Таму, што царскую вялікасць услаўляю
І, карыстаючыся дадзеным мне правам,
Па-добраму магу пра ўсё паведаць я вам.
*П.* Тады скажы, чаму ад самага світанку
Калоціце ва ўсе званы бесперастанку,
Што нават і ўначы заснуць перашкаджаюць.
Знаць, і Цару яны нямала дакучаюць.
Напэўна і папы ахрыплымі ўсе сталі б,
Каб так без адпачынку голасна спявалі.
*М.* Я не магу судзіць, што добра, а што блага.
Але пытаешся з любоўю і развагай.
Скажу: няспынна біць ва ўсе званы ў ваколлі
Цар не даваў загаду званарам ніколі.
Але, паколькі вы прыехалі ў сталіцу,
Мы пастараліся званіць ва ўсе званіцы,
Як да ўрачыстага малебену якога,
Хоць ад такога гулу не чуваць нічога.
А трэба гэта нам усё не для забавы,
Але для славы нашай і Міколы славы,
Якому нат з арды паклоны прысылаюць,
Хоць нашага Хрыста Збавіцеля не знаюць.
Таму і ведайце, што не без дай прычыны
Сягоння б’ём і б’ём ва ўсе званы няспынна.
Адно не гавары пра гэта ты нікому,
Нібы табе зусім нічога невядома.
*П.* Вер, не скажу Цару я і баярам вашым,
Адно калі сяму-таму ў пасольстве нашым.
*М.* Калі пачулі, што вы едзеце, то вельмі
Мы рады былі вам, нібы сватам вясельным.
Калі ж прыехалі ды і яшчэ зайгралі,
Ад радасці ўсе нашы ледзьве не скакалі,
Таму і ўдарылі ў званы з такою сілай,
Каб ласка боская нас, грэшных, асяніла.
І хоць не ведаем, што нас яшчэ чакае,
Усё ж на лепшае надзеі не губляем.
*П.* Ты нашай прыказкі хіба не чуў ніколі:
Відаць, памые Пашку лазня на Міколу.
Ды больш аб гэтым я і гаварыць не ўмею,
Пра тое лепш скажы, чаго не разумею.
Скажы, чаму ваш Цар тут доўга нас трымае?
Няўжо ён граматаў сваіх не паважае?
Праз сына абяцаў нас адпусціць дадому,

Ды цяжка яго словам верыць, як вядома.
Дакучылі ўжо нам бясконцыя турботы.
Няма ні праўды у вас, няма ніякай цноты.
Дзе, скажаце, што суха, пыл курыць дарожны, —
Там багнішчы, ў якіх і захлынуцца можна,
Дзе, скажаце, вада па самыя атосы, —
Ледзь выберашся праз пясчаныя наносы.
*М.* У гэтакіх і вера грэшная заўсёды.
Ды ехаць нельга вам без міру і без згоды.
Пытаеце, чаму вас Цар не адпускае?
Прызнання тытулу свайго ад вас чакае.
Даўно ўжо на радзіме вы адпачывалі б,
Калі б Цара Царом усёй Русі прызналі.
Без гэтага і вам і нам клапот нямала,
Ды і Цара хвароба горш апанавала.
Ніякай шкоды вам, каб так Цара назвалі —
Усіх бы мардаваць і мучыць перасталі,
І вас бы абдарыў ён шчодра і багата
І развітальны пір наладзіў бы ў палатах.
*П.* Не ведаю, ці толькі ў тытуле тут справа,
Знаць, хочацца Цару яшчэ прыдбаць і славу.
Апанавала вас пражорлівасці ліха,
А вам яшчэ здаецца, што замала пыхі.
Баярын можа князем стаць, але ніколі
Царом, бо звычаяў свінячых не адоліць.
Шкада, што ў гэтыя я ўліп перагаворы.
Калі б вы бачылі Літоўскія прасторы,
Смаленск і Лукі з сёламі сваімі —
Ці можна параўнаць пасёлкаў вашых з імі?
І хоць на ўсё вы наракаеце тут часта,
Б'яце ва ўсе званы і затрымалі нас тут,
Хай сам Царом Русі сябе Цар велічае,
Мы так не будзем зваць, і хай нас не змушае,
Бо да таго нікога — дзякуй ласцы боскай —
Не велічаў, не называў наш Кароль Польскі.
І ў нашым каралеўстве рускіх земляў спора,
Таму лічыць сваімі іх ці ж вам не сорам?
Яшчэ ж ёсць Кіеў — Рускіх княжычаў сталіца,
Які да тытулу хацелі б далучыць вы.
Усе яшчэ мы помнім, як Іван Сярдзіты
Бяспраўна сам сабе прысвоіў гэты тытул.
Спыніцеся! Няўжо, што маеце — замала?

Каб ганарыстасць гэта вас не пакарала.
*М.* Пра тое, што казаў ты, я замала знаю.
Пайду прэч, да наступнай стрэчы пачакаю.
Даруй і не карай, Бог літасцівы, строга
За тое, што пра ўсё нагаварыў замнога.
Калі пра гэта з нашых зможа хто дазнацца,
Напэўна, давядзецца з бізуном пазнацца.
*П.* Ідзі смялей, не бойся, я табе не здраджу,
А праўдай даражыць табе заўсёды раджу.
Калі ж падзелішся пры стрэчы навіною,
Я буду па-сяброўску гаварыць з табою.
Калі ж пачнеш зноў славіць сваю веру, мову,
Дык ведай, на мякіне ты мяне не зловіш.



# МІКАЛАЙ КРЫШТОФ РАДЗІВІЛ СІРОТКА

*(1549—1616)*

Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка — аўтар знакамітай «Перэгрынацыі, або Паломніцтва ў Святую зямлю». Сын лідэра беларускай Рэфармацыі, князя Мікалая Радзівіла Чорнага, ён выхоўваўся ў кальвінскім духу, у асяроддзі адукаваных пратэстанцкіх літаратараў Дж. Б'яндраты, Ф. Станкара, Я. Тэнанда, Дж. Шомана і інш., запрошаных у Нясвіж для працы над перакладам біблейных тэкстаў, якія пазней былі надрукаваны ў вядомай Берасцейскай Бібліі 1563 г. М. К. Радзівіл Сіротка (гэтую мянушку даў яму вялікі князь Жыгімонт Аўгуст) атрымаў бліскучую адукацыю спачатку ў бацькоўскім доме, а затым у славутым Ляйпцыгскім універсітэце. Пасля заканчэння універсітэта юнак доўгі час вандраваў, наведаў ледзьве не ўсе краіны Заходняй Еўропы.

У 18-гадовым веку М. К. Радзівіл паступіў на дзяржаўную службу. Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст ля 1567 г. прызначыў яго надворным маршалкам. Падчас Полацка-Інфлянцкай вайны Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай М. К. Радзівіл удзельнічаў у аблозе Улы (1569) і вызваленні Полацка (1579) ад маскоўскіх захопнікаў. У момант штурму Полацкага замка быў цяжка паранены.

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, М. К. Радзівіл меў някепскія здольнасці дыпламата. У 1573 г. ён узначальваў пасольства ў Парыж да Генрыха Валуа, якому перадаў запрашэнне нашых радных паноў на велікакняскі прастол. У сталым веку М. К. Радзівіл займаў найгалоўнейшыя пасады ва ўрадзе Вялікага Княства Літоўскага — трокскага ваяводы (з 1590 г.) і віленскага ваяводы (з 1604 г.). Напрыканцы 60-х гадоў XVI ст. М. К. Радзівіл, пад уплывам Скаргі, Камендонія і Гозія, прыняў каталіцкае веравызнанне. Неўзабаве пасля гэтага перадаў Нясвіжскую друкарню свайго бацькі віленскім езуітам.

У 1582—1584 гг. М. К. Радзівіл здзейсніў падарожжа ў Ерусалім. Усё ўбачанае і перажытае там ён занатаваў у эпічнай «Перэгрынацыі, або Паломніцтве ў Святую зямлю», якая ўпершыню выйшла ў свет на лаціне ў 1601 г. у Бруксбергу («Hierosolymitana peregrinatio ill. p. Nicolai Christophori Radziwili, ducis in Olyka, epistolis comprehensa»). Пазней «Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю» двойчы перавыдавалася на лаціне, у 1610 і 1753 г. У перакладзе на польскую

мову вядома восем яе выданняў (Кракаў, 1607, 1609, 1611, 1617, 1628, 1683, 1745; Вроцлаў, 1847). У першай палове XVII ст. з 4-га польскага выдання 1617 г. з'явіўся пераклад «Перэгрынацыі, або Паломніцтва ў Святую зямлю» на рускую мову. У Расіі твор доўгі час распаўсюджваўся ў рукапісах. Захавалася шэсць яго спісаў. У 1879 г. паводле аднаго са старыжытных маскоўскіх арыгіналаў «Перэгрынацыю, або Паломніцтва ў Святую зямлю» М. К. Радзівіла апублікаваў П. А. Гільтэрбрант («Похождение в Землю Святую князя Радивила Сиротки: 1582—1584». СПб., 1879).

Пісьменнік абраў для літаратурнага самавыяўлення адметны жанр — лісты да сябра (усяго 4) — надзвычай удалы з камунікатыўнага гледзішча, у аспекце: пісьменнік — чытач, бо акурат гэткая мастацкая форма дазваляла найлепшым чынам здымаць умоўныя бар'еры, набліжаць чытача да аўтарскай рэфлексіі.

Найбольш ярка асаблівасці творчага метаду М. К. Радзівіла выявіліся ў характары выбару ім прадметаў і аб'ектаў літаратурнага адлюстравання, мастацка-тэматычных прыярытэтах.

Выключна важнае месца ў творы займае геаграфічна-геалагічная тэматыка. Яна выявілася найперш у апісаннях гістарычных земляў — Галілеі, Самарыі, Бэтаніі. Апісваючы Галілею, аўтар, да прыкладу, падаваў звесткі пра яе ландшафт, ворныя землі, расліннасць, нацыянальны склад насельнікаў, іх асноўныя гаспадарчыя заняткі. Не засталіся па-за ўвагай пісьменніка знакамітыя вадаёмы: моры — Албанскае, рэкі — Іярдан, Ніл, Абана, Фарфар, азёры — Генісарэт, крыніцы — Егіпецкая крыніца. Як правіла, М. К. Радзівіл звяртае ўвагу на іх памеры — працягласць, глыбіню, даўжыню і шырыню.

У «Перэгрынацыі, або Паломніцтве ў Святую зямлю» надзвычай шмат месца адводзіцца горам, у прыватнасці, згадваюцца — Аліўная гара, Бэтанія, Табар, Кармэль ды інш. Сярод ключавых топікаў — вышыня гораў, формы іх вяршыняў, расліннасць, пабудовы на схілах. Аўтар дэталёва апісвае выспы Крыт, Карцыру, Кіпр і Сіцылію, Фану. Пісьменнік падаваў звесткі пра вятры, вядомыя пад мясцовымі назовамі — Каўрэн, Афрык.

Другое па значнасці месца ў «Перэгрынацыі, або Паломніцтве ў Святую зямлю» займае ўрбаністычная тэматыка. М. К. Радзівіл асабліва дбаў пра тое, каб занатаваць звесткі пра гарады і месты. На старонках твора можна знайсці падрабязныя звесткі пра Каір, Тыр, Яфу, Ерыхон, Александрыю, Ерусалім, Трыполь, Баальбэк, Дамашак, Сэфэр, руіны Гартына, Астун. Найважнейшыя топікі ў апісаннях гарадоў — геаграфічнае размяшчэнне горада, колькасць жыхароў, іх роля як гандлёвых і вытворча-прамысловых асяродкаў, абарончыя збудаванні, дагледжанасць вуліц, хто і калі быў валадаром места.

Аўтар засяроджваецца на асобных пабудовах, перадусім, цэрквах і манастырах — Ерусалімская царква, царква св.Яна Хрысціцеля, царква св. Марыі дэ Карпіньяна; апісвае порты — Далмацыя; палацы і жы-

лыя дамы — Саламонаў палац у Баальбэку, Юдаў дом, Ірадаў палац. Асаблівае захапленне выклікалі ў пісьменніка Егіпецкія піраміды.

Выбітнае месца ў творы, як паказвае аналіз, належыць біяморфнай тэматыцы, што выявілася ў паведамленнях пра ўласцівасці жывёл і птушак — хамелеона, кракадзіла, страўса, марскіх коняў, чыжа, вярблюда, курапатак. Аўтар маляўніча апісвае знешні выгляд свойскіх і дзікіх жывёл, іх паводзіны.

Вельмі шырока прадстаўлены ў творы раслінны свет. Пісьменнік імкнецца занатаваць звесткі пра дзікія і культурныя расліны, іх уласцівасці, вонкавы выгляд, пах і смак. Так, аўтар паведамляе пра манну, плод маўза, дрэвы касія, бальсан, пальмы, спалат, ерэхонскую ружу.

На старонках твора значнае месца займала этналагічная тэматыка, раскрыццё нораваў і звычак блізкаўсходніх і афрыканскіх народаў — турак, арабаў, друзіянаў. Аўтар, як правіла, піша пра ўклад жыцця, сацыяльную іерархію, гаспадарку, стравы і харчаванне, вопратку, рэлігійныя абрады, хваробы, выхаванне дзяцей, вайсковыя турніры, сацыяльнае становішча жанчын, пахавальныя звычаі, вяселлі, танцы і скокі, паводзіны свецкіх валадароў і царкоўных іерархаў, дачыненні з суседнімі народамі. З унутраным пратэстам пісьменнік паведамляў пра гандаль на Блізкім Усходзе нявольнікамі.

Імкнучыся заінтрыгаваць чытача, падтрымаць яго чытацкае зацікаўленне, М. К. Радзівіл засяроджваўся на розных авантурных момантах, экстраардынарных падзеях, прыродных катаклізмах — бурах, штормах, сутычках з разбойнікамі, небяспечных сітуацыях.

Аўтар пераказвае біблейныя легенды, а таксама сюжэты з рымскай і грэцкай міфалогій, шматлікія народныя паданні — пра скарб, знойдзены чарнакніжнікам у памеры 30 тысяч дукатаў літым золатам, пра заснаванне Парысам места Парэнцыі, пра султана Асана. М. К. Радзівіл змяшчае напаўвыдуманыя аповеды і гісторыі людзей, якіх ён нібыта сустракаў, пра розныя дзівосы і незвычайныя з’явы.

Як бачна, творчы дыяпазон М. К. Радзівіла быў надзвычай шырокі. Як сапраўдны майстра слова ён адлюстроўваў шматаблічнае жыццё ва ўсіх яго праявах і вымярэннях, імкнучыся напоўніцу задаволіць эстэтычныя густы і пазнавальныя памкненні сваіх чытачоў.

*Іван Саверчанка*

# ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ, або ПАЛОМНІЦТВА Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

*(урывак)*

## Ліст трэці

Напісаўшы і даслаўшы табе ліст мой, выехаў я з Трыполя дня трыццатага ліпеня а дваццаць трэцяй гадзіне бацікам да караблёў, каб рэчы на тое падарожжа егіпецкае патрэбныя прыгатаваць. Калі ж прыплыў я туды, такі моцны вецер узняўся, што я вярнуцца не мог і мусіў там заначаваць. Як толькі паўночны вецер сціх, я, забраўшы патрэбнае, паплыў на джэрму, у якую селі мы на самым світанні. Але ў ёй люду вельмі шмат было, якога бяспечна ўтрымаць не магла, а яе толькі сабе я наняў, дык араб марак іх павыганяў, і, як развіднела, мы выплылі ў мора. Тым часам моцны вецер, сярэдні між заходнім і паўночным (валохі называюць яго панэнтэ мазетра), узняўся збоку, дзеля якога (бо інакш нельга было) скіраваліся мы да Кіпра і шэсць гадзін ніякай зямлі болей не бачылі. Узяў я быў з сабою з Трыполя маўра аднаго за тлумача ды наняў таксама аднаго янычара, дык было нас у судзіне каля сарака. Цяжкі то быў у нас дзень і дзеля ветру, і дзеля вяровак, з лазы дрэва дактыльнага кручаных, якія вадою морскай аблітыя смярдзелі нясцерпна, дзеля чаго мы і той і другі дзень мусілі хустку ў воцаце змочаную трымаць няспынна пры носе, нават калі спалі. Усю ноч вецер той дзьмуў, яшчэ і назаўтра цэлую раніцу.

**Жнівень**

Першага дня жніўня раніцай убачылі мы Кіпр, а каля поўдня мінулі Фамаўгусту, якое, аднак, дзеля далечыні не маглі мы добра бачыць. Пад вечар, як вецер суняўся, прысталі і мы да берага, дзе, трохі пахадзіўшы, вярнуліся на джэрму. А як заўсёды, гэтак улетку як і ўзімку, ад выспы гэтае вецер гоніць караблі звычайна ўночы, то ж і мы нямала за ноч праплылі і прыбылі ў Ларніку, дзе соль (як ужо раней гаварылася) збіраюць. Небяспечна было тут высаджвацца дзеля кады, на той час маслочніка, і дзеля грэкаў магаметанаў, якія, калі мы першы раз тут былі, клопаты нам чынілі; то ж і сядзелі мы ў джэрме, а ўначы плылі з лёгкім ветрам. Назаўтра апоўдні спыніўся марак ля берага пры нейкай царкве грэцкай, амаль зруйнаванай, дзе мы і павячэралі, і на ноч засталіся. Але ўночы, як вецер быў спадарожны, плылі і

раніцаю прыбылі ў Леміс, дзе вецер аціх, а мы, шмат гандляроў валошскіх знаёмых тут маючы, выйшлі і стаялі там цэлы дзень. У тым месце карабель карамужан з дваццаццю паломнікамі, што ў Ерусалім плылі, заспелі, за тры дні перад намі выправіліся яны з Трыполя. Быў сярод іх святар нейкі кс. Сымон Белагорскі — паляк, пра якога ніжэй будзе гаварыцца. Пасля заходу сонца марак наш зноў вырушыў. А як на Кіпры найболей пільнуюць, каб хто з выспы не з'ехаў, з тае прычыны сам падпаша прысутны быў на беразе. Пасля карамужан з паломнікамі пайшоў да Яфы, а мы плылі ўздоўж берага аж да мыса Феліс, які валохі capo delle Gatte, Кашэчым мысам, называюць. Тут я не прапушчу, як, калі карамужан а першае ўночы выйшаў у мора, мы пры беразе плылі ў джэрме. Марак наш, пасварыўшыся з таварышам сваім, далей з месца рушыць не хацеў, дык я загадаў янычару, каб напомніў яму, што хай часу спрыяльнага не марнуе і дарма не бавіцца. Але ён заўпарціўся і ехаць не хацеў, дайшло між імі да слоў грубых, пакуль той янычар яму кулаком у твар не ўдарыў, што ў таго турбан ўпаў на зямлю. Схапіліся тады за зброю і так былі разлютаваліся, што мы ледзьве іх развялі. Марак (бо янычары тут свабоду вялікую маюць), бачачы сябе ніжэйшым, супакоіўся і вырушыў з месца. Але я, абодвух гэткіх раз'юшаных бачачы, спрабаваў неяк іх пагадзіць, у чым цяжкасць меў напачатку досыць вялікую, і толькі апоўначы дайшло да згоды. Як жа пекна было глядзець, як яны паводле звычаю па-рознаму прысягалі, што даруюць адзін аднаму ад шчырага сэрца. Дзіўна ў абодвух змяніліся твары, вочы, позіркі, калі прабачылі адзін аднаму. Перад ад'ездам маім з Кіпра бачыў там і тое, як бавоўну сеюць, з чаго штогоду надзіва вялікія прыбыткі ідуць. Бо караблі адтуль нічога іншага не вывозяць, як толькі соль (пра яе гаварылася) і бавоўну, як і той Тарнэліянаў карабель, на якім мы былі сюды прыплылі, пясок выкінуўшы, увесь бавоўнаю нагрузіўся, у Трыполі яе частку на пурпур выгандлявалі, частку прадалі, а пасля аксаміту і іншых заморскіх тавараў накупілі і паехалі. Як бавоўну сеюць і як яе збіраюць, ужо іншыя пісалі, я дадам толькі тое, што як яе пасеюць, дык толькі на трэці год радзіць пачынае, і тады збіраюць. Дзеецца гэтак з таго, што, калі збіраюць, насенне выпадае на зямлю і так родзіць, але з кожным годам меней, і гэтак да чацвёртага года: тады ўжо, калі хочаш збіраць, мусіш нанова сеяць.

І тое трэба ведаць, што на Кіпры няма белых вінаў, а ў Ерусаліме чырвоных, а што калі ў абодвух месцах іначай тра-

пляецца, дык вельмі мала, і ягады хутчэй да ядзення, а не да віна прыдатныя бываюць. Віны чырвоныя кіпрыйскія, а белыя ерусалімскія добрыя, адно што прыкра даўкія, што хоць іх і вадою разводзяць, не такія бываюць прыемныя, чырвонае саладзейшае, але пярнейшае. А як на Кіпры склепаў няма, дык ніякім чынам нельга іх да наступнага ўраджаю захаваць (белыя на тое ад прыроды прыдатнейшыя), толькі вынаходлівасцю. Бо перш чым мушч наліваць бочкі гумаю або жывіцаю нейкай, якая смалісты пах мае, абкурваюць, дзеля чаго тыя віны заўсёды смалою тхнуць, як сцвярджаюць тутэйшыя жыхары, пах гэты галаве вельмі здаровы, бо і моцнасць віна паслабляе, і псавацца яму не дае. Мне і тым, хто там са мною быў, здаліся тыя віны надта смярдзючымі, а як пах той занадта востры, дык галаве хутчэй шкодзіць, а не дапамагае. Ягады вінныя на Родзе і большыя і смачнейшыя, але ці бочкі гэтаксама абкурваюць, не ведаю, бо вінаў там не каштаваў. На плады ўсялякія Кіпр багаты. Дыні на тры чвэрці локця (большых я нідзе не бачыў) надзвычай добрыя і прыемнага смаку.

Цэлы дзень прабавілі мы, плывучы да мыса Кашэчага, вецер адусюль ловячы, што для джэрмы і не навіна, і хутчэй плыць дапамагае, хіба толькі, калі б шторм надарыўся, лёгка перакуліцца можа. Надвячоркам прамінулі мы тое месца, а другой гадзіне ўночы павярнулі да Егіпта, проста праз мора, да места Даміяты, ад таго мыса добрых восемдзесят міляў.

Раніцаю мы яшчэ ледзьве бачылі Кіпр, апоўдні яго ўжо болей не было відаць. Таго дня і ночы мелі мы вецер пагодны, але назаўтра настала банацыя, або супакаенне такое, і такая ціхасць стаяць. Адвячоркам, аднак, узняўся вецер, што паміж захадам і поўначчу вее, трымаўся ён да канца дня і ноч.

Дня восьмага жніўня апоўдні спадзяваліся мы ўбачыць Егіпет, але да берага было яшчэ занадта далёка. Пасля а другой гадзіне прыбыў вецер вельмі добры, і так каля дзевятнаццатае гадзіны ўбачылі мы здалёк зямлю, таксама і вада ў моры здалася мутная, бо тут Ніл упадае, які называецца ў пісанні: fluvium turbidum, qui irrigat Aegyptum.

Каля дваццаць другой гадзіны ўвайшлі мы ў браму Нільскую (гэта быццам апошняе яго рукаво ад усходу), маючы з левага боку ад мора і ракі да Даміяты прыналежны і дзеля абароны яе змураваны квадратам замак добра абаронены, было перад тым у ім каля двухсот чалавек, цяпер жа ледзьве дваццаць ёсць дзеля вайны Персідскай. Уваходзячы ў Ніл, бачылі мы з правага

боку на моры колькі судзін невялікіх, бо тут вялікія караблі не ходзяць, таму што порта няма, а толькі прычал да часу, пакуль тыя невялікія разгрузяць і пасля дзеля бяспечнасці на Ніл выцягнуць. Стаялі пад самым местам тры карамужаны, невялікія судзіны, чаму іх так і называюць.

Плывучы па Ніле, вялікае мноства буслоў бачылі мы на берагах, бо сюды ад нас яны заўсёды адлятаюць гэтай парою, гэта значыць у жніўні, калі Ніл, наплываючы, з багнаў змеяў незлічоную колькасць на пажыву ім прыносіць. Качак зялёных і чырвоных на высокіх нагах (з якіх адну падараваў мне быў той біскуп у Яфе, як пра тое ўжо гаварылася) па берагах таксама вельмі шмат хадзіла. З левага боку сады густыя з дастаткам пладоў растуць, асабліва ж рыс, які тут найболей сеюць пры берагах, дзе рукавамі той Ніл у мора ўваходзіць. За мілю ад места стаіць замак, за чатыры мілі адтуль бачылі мы ў рацэ чатырох морскіх коней. Да зуброў нашых паставаю, поўсцю і велічынёю вельмі падобныя, толькі што без рагоў; шкоду вялікую чыняць у рысе, дзеля чаго равы глыбокія вакол палёў выкопваюць, каб гэтыя звяры, ногі кароткія маючы, вылезці на бераг не маглі.

Калі чалавека ў полі заспеюць, кусаюць і заядаюць. Стрэлілі па іх з колькіх мушкетаў, але ці забілі, няведама, бо звяры тыя вялікія і дужыя і іх толькі якой вялікаю куляю і раптоўным стрэлам зваліць можна. Мяркуюць некаторыя, што імя іх сапраўднае адонтатыраны, значыць зубныя тыраны. Грэкі называюць іх амфібія, гэта значыць звер, які і вадою і паветрам дыхае, які на зямлі і ў вадзе жыве. Піша Цэдрэн, што звер той такі вялікі, што слана зжэрці можа, але гэта мала да праўды падобна. Бо хоць таго краю жыхары (якія з намі ў джэрме былі) аднаго надта вялікага бачылі між тых чатырох і дзівіліся яму, той, аднак, за слана вялікшы не быў, удоўжкі яму роўны. Калі я быў у Каіры, аднаго такога каня, недалёка адтуль забітага, галаву прынеслі, сапраўды жахлівую і на спазор страшную, разяўленую пашчу мела на паўтара локця, адкуль і зубы дужа вялікія тырчалі.

А дваццаць трэцяй гадзіне прыплылі мы ў Даміяту, якую даўнімі часамі называлі Пэлюзій, або Геліопаль, завуць яе таксама брама Пэлюзійская. Гэта першае месца егіпецкае, над Нілам у прыгожай мясціне разлеглася на паўмілі. А як позна было, то спыніліся мы каля мытні, дзе гэбраі мыта збіраюць, і там адразу да нас мытнік прыбег, думаючы, што мы гандляры (як мы таксама сябе і называлі дзеля бяспекі, якую людзі гандлярскага стану ў тым краі маюць), там жа і начаваў з намі на джэрме.

Раніцаю пайшлі яны да нашых рэчаў, і, калі нічога не знайшлі, мы сказалі ім, што тавары нашыя ў Каіры, куды мы і едзем. І так вызваліўшыся, пайшлі мы (высадзіўшыся на бераг) да віцэконсула венецкага, якім быў на той час Тамаш Кандыёт Грэк. Цэлы дзень прабавілі мы ў месце, але не было чаго глядзець, асабліва старасветчыны. Пасля нанялі мы сабе меншую джэрму да Каіра і, сеўшы ў яе перад вечарам, там і заначавалі. Узяў я з сабою двух янычараў дзеля бяспечнейшае дарогі на Ніле.

Як узышло сонца, паволі рушылі мы супроць вады. А як у тым часе Каўр (валохі называюць яго маэстра) дзьмуў звычайна, а Ніл з поўдня цячэ, то, падняўшы ветразі, мелі мы добрую дарогу; а дзе набліжаліся да берага, там маракі вяроўкамі судзіну цягнулі. Перад поўднем прамінулі мы злева места Фэркін вельмі вялікае, а на ноч прыплылі ў нейкае мястэчка (пакінуўшы справа вялікае места Сэрбін) і там, бо ўжо апускаўся змрок, заначавалі, там жа агледзелі мы печы, у якіх людзі куранят з яек без кур вялікай дасціпнасцю выводзяць. Зробленыя тыя печы круглыя з саломы, зверху адусюль залепленыя глінай, угары невялікае вакенца маюць, каб сонца, проста праменне пускаючы, яйкам не шкодзіла, якія б лёгка і зварыліся, бо апоўдні зямля ад сонца такая гарачая бывае, што і ў чаравіках ледзь адзін пацер можна вытрываць агонь такі вялікі. Жыхары тутэйшыя босымі нагамі ходзяць, бо з дзяцінства прызвычаіліся, дый падэшвы ў ног маюць ад гарачыні ўжо такія ссохлыя і скамянелыя, што не болей удары молата адчуваюць, чым коні, калі іх падкоўваюць, што і мы засведчылі. Печы тыя дзверцы маюць з поўдня, а жарало з поўначы, праз якое гной валовы або буйвалавы закідаюць, якім уночы грэюць, каб холад яйкі не сапсаваў. Удзень сонца праз гліну дадае цяпла ў печы, дзе яйкі ў рад адно ад аднаго далёка раскладзеныя ляжаць, каб адно аднаго не датыкалася; і так значна лягчэй кураняты выводзяцца, чым калі на іх курыца сядзіць. Ва ўсіх местах і вёсках пры сваіх дамах будуюць такія печы, а часам і такія вялікія, што да трох тысячаў яек у іх кладуць.

А як пра гарачыню краю Егіпецкага ўжо гаварылася, дык з таго яшчэ можна пабачыць, якая яна моцная. З Даміяты едучы, прыглядаліся мы вельмі ўважліва да месцаў пясчаных (бо на дзесяць міляў і далей ад мора дый па ўсім Егіпце паміж садамі, вёскамі і ў вёсках увесь грунт пясчаны, у якім дактыльныя дрэвы добра растуць). Тыя здаліся нам нібы якой вадою кіпучаю, і так той пясок свяціўся, як тое шклянае рэчыва, калі ў печы гутнай мякне і блішчыць. Падумалі мы спярша, што там возера

нейкае дзівоснае гарыць, але пасля зразумелі, што вецер пясок той сонцам спалены і святлісты перавяваў і ўздымаў угору, так што здалёк, у гушчыні сваёй бліскаючы, агнём нам здаваўся.

Стоячы ж пад тым местам, так як і ў Даміяце некаторыя, дый сам марак наш раіў, усю ноч мусілі вартаваць. Бо егіпцяне не толькі на сушы крадуць, але і, дасканалымі нырцамі будучы, у рэках і моры хаваюцца, пад вадою да джэрмы падплываюць, бяруць, што могуць, і ў ваду цягнуць. Трапляецца, і часта, што чалавека ў джэрме на лаве заснулага бяруць і, з сабою ў ваду зацягнуўшы, жыццё і адзенне ў яго забіраюць. А калі назбіраюцца яны грамадою, у джэрмы з вады залазяць, людзей заснулых забіваюць і забіраюць здабычу, як і незадоўга перад нашым прыездам здарылася, калі чацвёра французаў гандляроў такім чынам загінула, якія з Каіра ў Александрыю плылі. Вось жа, каб і на нас якое ліха не навалілася, чуйнавалі мы ўсю ноч, паўгакі напагатове трымаючы, у чым нам і марак дапамагаў. Апоўначы мы выплылі, а апоўдні прамінулі места Талха, якое між равамі, дзіўна і разнастайна выкапанымі, стаіць, ніхто там добры не жыве, адныя толькі нягоднікі і злачынцы, якія і на вадзе і на сухазем'і сваволяць так, што тою дарогаю егіпецкай спакойна і бяспечна прайсці немагчыма. Бо па ўсіх Нілавых рукавах або затоках, з абодвух берагоў і на палях надзіва вялікае мноства людзей, статкаў, буйвалаў, валоў, авечак, коз, кароў паўсюль ходзіць, і гэтак забяспечыўшыся, той, хто едзе, хутка ў пастку трапляе. Таго самага дня бачылі мы каля сотні рыбакоў, якія, скочыўшы ў ваду тую каламутную, рыбы хапалі і адных у руках, другіх у зубах з вады выносілі. Былі адныя з рыбаў тых лакотніцы, да ментузоў нашых падобныя, другія да ласасёў і розныя іншыя. Рыбы з Ніла тлустыя і смаку добрага, але нездаровыя, бо дно ў рацэ багністае; вада, аднак жа, бо здалёк і разнастайна плыве і ачышчаецца, здаровая. І хоць каламутная, як ужо гаварылася, аднак жа, у начынні пастаяўшы, праз дзве гадзіны адстойваецца і стаецца празрыстая, а калі ўсю ноч пастаіць, дык як крышталь будзе, і да піцця смачная. Прыроду Ніла і дзівосы, што ў ім пабачыць можна, апісалі гісторыкі, я ж прыпомню толькі тое, што сам бачыў. Рыбакі, калі адпачыць хочуць, галовы з вады не высоўваюць, а толькі, рот раскрыўшы, дыхаюць. Пэўна, што дзень цэлы могуць трываць у вадзе і, на верх са дна ўсплыўшы, хоць галавы не паднімаюць, дыхаць, а калі мы іх у вадзе бачылі, загадаў марак стрэліць з мушкетаў, каб пад джэрму не падплылі і не перакулілі. Пад вечар праплылі

мы каля моста Абузін, вельмі прыгожага будовамі сваімі і размяшчэннем, і, кінуўшы катвігу пасярод ракі, спыніліся мы там на ноч. Бо пры беразе было небяспечна, дый тыя нырцы ўжо пра нас пачалі былі намысляць і да нас кіравацца, але, убачыўшы нас асцярожных і чынных, ні на што не наважыліся.

Удзень пасля ехалі мы шчасліва, але пасля заходу сонца разбойнікі ў лодцы на нас напалі і дзіду кінулі, якая каля янычара ўпала, калі ж мы з мушкетаў стрэлілі, уцяклі. Папярэдняю ноччу хацелі напасці на нас нырцы, але, пабачыўшы мушкеты, якіх вельмі баяцца, ды чуйнасць нашую, не пасмеліліся.

Мелі мы вецер пагодны, і таму а дваццатай гадзіне пабачылі піраміды Каірскія, якія хоць і за местам стаяць, аднак жа дзеля гор і дзеля іх уласнае вышыні заўсёды раней за само места відны. Быў відаць таксама і замак на гары. І тут мы з рукава Нілавага ў сам Ніл выплылі, які гэтак шырокі, як два разы Дунай пад Лінцам, местам аўстрыйскім. Каля чатырох міляў ад Каіра адной плынню ідзе, пасля надвое падзяляецца і славуты трохкутнік утварае, то значыць, вакол аднае выспы такою формай цячэ і так яе трохкутнаю. Дэльтай называнаю, робіць. Пасля за пяць міляў ніжэй адна частка той дэльты дзеліцца на чатыры рукавы, другая па тры, праз якія ў мора ўпадае. А дваццаць трэцяй гадзіне прыплылі мы ў Булгах (за восемдзесят міляў ад Даміяты), дзе з джэрмы на бераг высаджваюцца. А як места тое каля Каіра ляжыць, дык напішу, якое яно вялікае. Не толькі туркі, але і еўрапейскія гандляры сцвярджаюць, што тут жывуць, нібыта штодня за дваццаць чатыры гадзіны тут у порце гэтым да двух дзесяткаў тысяч людзей праходзіць сюды і туды і што кожнага дня да трох тысяч джэрмаў праплывае, сярод якіх часта трапляюцца і такія вялікія, што шэсцьсот бочак змяшчаюць. Таксама і са старога Каіра (ляжыць вышэй, неўзабаве будзем пра яго гаварыць) такія судзіны прыходзяць вельмі густа, якія з краіны Саіт і з вялікіх дзяржаваў прэсвітэра Яна або Папіяна збожжа, кінацэфалаў, або людзей з сабачымі галовамі, малпаў, папугаяў, living рознае іншае птаства, і зверыну, і тавары прывозяць. Тыя ж, што маюць на продаж мурынаў, з Барбарыі ў Расэт, а адтуль праз Ніл у Каір іх вязуць, пасля ў Булгаху выстаўляюць; мы ж туды позна прыплылі, дык і начавалі ў джэрме і за нейкія паўгадзіны бачылі, як з дзесятак судзін адплыло і прыплыло.

Раніцай, калі я з двума маімі (бо іншых я пакінуў у джэрме, пакуль не знойдзецца прытулак) высеў на бераг, адразу схапілі двое туркаў нас, каб звязаць, ды пільна шукалі за пазухаю і ў

іншых месцах, ці мы пры сабе якіх тавараў не маем, думаючы, што мы французы-гандляры, якія іх часта (як нам самі туркі апавядалі) ашукваюць. Але, пабачыўшы, што мы нічога такога не маем, адчапіліся. Мы ж тым часам гаварылі між сабою па-польску, а там гэбрай-мытнік (на загад якога туркі былі нас схапілі), мову разумеючы, казаў туркам адысці далей і па-польску да нас азваўся, кажучы, што з Холма ён, места рускага. Прасіў, каб мы яму прабачылі, што ён нас так незвычайна прывітаў, пасля паабяцаў, што надалей служыць нам будзе, і сапраўды, пакуль мы ў Каіры былі, часта нас наведваў. Тады, сеўшы на аслоў, паміж садамі паехалі мы ў места, у дом консула венецкага Юрыя Эма, у якога мы прасілі, каб параіў, дзе нам наняць прытулак. Удзячна ён нас прыняў, і слухалі мы з ім Найсвяцейшай імшы, але як і сам ён нядаўна быў туды прыехаў і яшчэ не быў там абазнаны, даў раду, каб мы да французскага консула звярнуліся, Паўла Марыяна, таксама венецыянца. Той, жывучы ў Каіры больш за дваццаць гадоў, пра ўсё ведаў дый яшчэ турэцкаю і арабскаю мовамі валодаў. Заспелі мы пры ім двух айцоў таварыства Ісусавага, Яна Батыста Эліяна, які (як вышэй гаварылася) царкоўныя ўборы прывёз быў маранітам у Дамашак і патрыярху, што на гары Ліване жыве, папам Рыгорам XIII пасланыя, і Францішка Саса. Той, калі мы ў Венецыі выходзілі ў мора, ад таго самага Св. Айца ў Александрыю ехаў. Было таксама і трох францішканаў, бо ў сваім доме меў той консул каплічку. І так той Марыян у другім доме сваім, які насупраць венецкага консула быў, даў нам прыстанак, дзе мы і ўсталяваліся, іншых з джэрмы паклікаўшы. Пасля пайшлі мы ў места пагледзець, якое яно вялікае і люднае, пра тое толькі той меркаваць можа, хто сам яго пабачыць. На маю думку, яно ўтрая большае за Парыж у Францыі, хоць і не так выгодна размешчанае і такіх прыгожых будынкаў не мае.

Бо адзін толькі новы Каір мурам абведзены, Булгах жа і стары Каір неабмураваныя стаяць. Новае места шмат палацаў мае, здаўна яшчэ вялікім коштам збудаваных, хоць і цяпер мурыны-гандляры не горшыя будуюць. Адзін з іх бачылі мы яшчэ нясканчаны, казалі пра яго, што тры разы па сто тысячаў дукатаў каштаваў. Гаспадаром у ім быў адзін гандляр, які і чаравікі рэдка насіў, а хадзіў толькі ў паркалёвай кашулі і турбане, як і іншыя гандляры егіпецкія. Туркі ў Егіпце або на якім урадзе сядзяць, або гандлем займаюцца, самі ж егіпцяне — хто ратаі, хто гаспадары, арабы ж — разбоем жывуць, мурыны — амаль усе гандляры.

Шмат еўрапейскіх гандляроў, валохаў і французаў, якія тут больш за дваццаць гадоў жывуць, сцвярджаюць, што ў новым Каіры дамоў трыццаць тысячаў, а калі яшчэ і з тымі лічыць, што па прадмесцях, разам са старым Каірам, з Булгахам, а таксама з меншымі дамкамі, якіх мноства вялікае, дык усіх два разы па сто тысячаў будзе. Вуліц тут шаснаццаць тысячаў, цэркваў або машэяў прыгажэйшых, якія вежы маюць (не лічачы простых без вежаў або без даху, якіх таксама вельмі багата), разам шэсць тысячаў восемсот. На адным прадмесці на ўсход ад замка тых машэяў тысяча дзвесце, на другім, што на поўдзень, семсот. Сярод іх багата тых, што некалі хрысціяне змуравалі, перш чым дзяржава тая перайшла ў бязбожныя рукі сарацынаў, дзе цяпер іншыя егіпцяне мадзеюць.

Гандляр той, чый палац мы аглядалі, пра сваё жыццё нам праз тлумача апавядаў. Маю (кажа) жонак белых дванаццаць, а мурынак васемнаццаць, кожную асобна трымаю і ключы сам ад іх нашу. Бо калі б яны разам былі, самі б сябе передушылі. Ежу ім праз акно падаюць. Калі я да якой уваходжу, пільна за сабою дзверы замыкаю, каб іншыя за мною неяк не ўвайшлі, бо без сумнення забілі б мяне, а пасля і адна адную не пашкадавалі б. Кожны з гэтага пабачыць можа, у якой цемры жывуць тыя людзі, якія з гэткае марнае прычыны пад такою вартай жывуць. Калі мы сказалі яму, што гэтак ён у заўсёднай небяспецы перабывае, адказаў, што так ёсць, але што пільна іх сцеражэ і мог бы ўсіх набіць, калі б хацеў, бо купіў іх, а з купленай рэччу можна кожнаму рабіць што хоча. Можна было б тут шмат напісаць, як непрыстойна ўжываюць такіх купленых нявольнікаў, але пашкадую цнатлівыя вушы.

Цікава таксама і варта здзіўлення, якая там падозранасць і недавер паміж родзічамі. Калі той гандляр, палац свой паказваючы, быў пры нас, прыйшоў мурын, нявольнік ягоны, і сказаў, што вось старэйшы сын твой тут, хоча цябе наведаць. Выйшаў тады ён разам з намі да яго ў прысенак, дзе яны і гаварылі. Апавядаў нам пасля, што заўсёды з ім так гаварыць звык, ніколі да сябе яго не пускае. Пыталіся мы, што за прычына? Не давяраю яму, кажа, мог бы мяне забіць, дый ён гэтаксама са мною абыходзіцца, і з другім я гэтак жа гавару. Бо хоць абодва жанатыя і патомства маюць, давяраць, аднак, ім не магу. Трэці сын малодшы заходзіў да яго, аднак з ім не жыў. Старэйшаму было ўжо амаль трыццаць гадоў. Мурыны маюць гэта за звычай, і калі б нават няведама як блізкія і родныя між сабою былі, аднак жа адзін аднаго сцера-

гуцца. І з тае прычыны на вуліцы адзін з адным размаўляюць, у дом не пускаючы, хіба што пры вялікай варце. Той гандляр толькі трох слуг меў у доме, якія там і спалі, але ён іх, перш чым сам клаўся спаць, моцна замыкаў, баючыся, каб яго не забілі. Раніцаю прыходзілі тры рамеснікі, што ў палацы працавалі.

Над усім каралеўствам Егіпецкім стаіць паша. Майго часу быў Ібрагім, якога туды на тры гады імператар быў паслаў, каб сабе пасаг за дзеўку, якую яму за жонку даў, назбіраў дзе хацеў, апроч прыбыткаў, што на ўрад ягоны ішлі, і яму агулам з садовых падаткаў стол спраўлялі. Меў на той час конных адну тысячу, другую — пешых і часта з пыхаю па мосце ездзіў, з вялікім дастаткам і почтам. Было пры ім трыста чаўшаў дзеля пасыльных патрэбаў. Санджакаў дваццаць чатыры, якія местам кіравалі, бо яно на гэтулькі частак падзеленае.

А паколькі тут у месце надта баяцца арабаў (нават і на мяне чатыры разы пры самай браме нападалі і, шмат туркаў пабіўшы, самі цэлыя адыходзілі), таму раней заўсёды шэсць тысячаў жаўнераў конных і гэтулькі ж пешых тут трымалі, цяпер жа толькі тры тысячы конных і тры пешых дзеля вайны Персідскай. Конныя маюць трох каштанаў, адзін пад сваёй камандаю тысячу канейшчыкаў мае, другі чаркасаў (пра гэтых кажуць, што гэта рэшткі тых хрысціянаў, якія раней у Егіпце жылі, цяпер усе яны абрэзаныя) гэтулькі ж, трэці туркаў таксама тысячу лёгкіх жаўнераў. Такі самы парадак і ў пешых палках, дзе адны янычары служаць. Кожнае пятніцы колькі сотняў туркаў у поле над Ніл едзе на практыкаванне рыцарскае, аднак яно там неасцярожна і бязладна дзеецца, і заўсёды або хто з іх саміх, або з тых, хто глядзіць — гіне. Бо коням на скаку так лейцы папускаюць, што пасля ўтрымаць іх не могуць, і таму або ўпаўшы, або раздушыўшы каго, або інакшым якім чынам гінуць.

Гэбраяў таксама тут вельмі шмат, з якіх пагалоўнае збіраюць. За час майго побыту быў іх разам з жанчынамі і дзецьмі адзін мільён і звыш таго шэсць разоў па сто тысячаў, што пацвердзіў і той гэбрай мытнік, бываючы ў нас. Загадаў быў некалі злічыць насельніцтва Асан-паша, і налічылі сем мільёнаў, хацеў бо ведаць дакладную колькасць падданых, але дзеля няспынных перамен не можа яна быць пэўная.

Сярод гэткага вялікага мноства народу ледзьве трэцяя частка мае здаровыя вочы, астатнія хварэюць на іх дзеля ядзення пладоў, якімі чалавек просты жывіцца, вады дадаўшы. Да таго яшчэ, хоць краіна вельмі гарачая, носяць яны на галаве турбан,

і з таго, што цяжкая гэта шапка, ад поту вочы ў іх запаляюцца, да чаго пасля і пыл вулічны прычыняецца. Восем тысячаў вярблюдаў носяць у места ваду дзвюма бочкамі скуранымі, з абодвух бакоў прывешанымі, а бочкі тыя такія вялікія, як нашыя звычайныя драўляныя. Прадаюць гэтую ваду мяшчанам тыя, хто ў пашы арандуе; што застаецца, разліваюць па вуліцах ад пылу. Ёсць на тое і іншыя вярблюды санджакаў, чаўшаў і гандляроў, нічога за іх не плацяць, а ўсяго іх каля васьмі тысячаў. Ёсць таксама і насільшчыкі, якія таксама ваду ў казіных скурах носяць і прадаюць, бярэ з іх нешта паша за тое. Кажуць, што іх каля трыццаці тысячаў. І тое яшчэ варта здзіўлення, з чаго і пра велічыню места меркаваць можна, што хоць Ніл плыве і чатырма або пяццю каналамі праз места ідзе, усе калодзежы напаўняе; аднак жа заўсёды столькі вярблюдаў і людзей ваду носяць і кажуць, што хоць з гэтага меншаюць у пашы прыбыткі, але толькі напалову або трацiну. Кухняў мястовых тут каля дваццаці тысячаў. Хто заможнейшы, дома сабе гатуе, просты люд, аднак, з кухні жыве, дзе вялікі дастатак мяса, асабліва бараніны, курэй, гусей, рысу, печыва, на алеі смажанага, і г. д. Харчоў усялякіх гэтая краіна поўная. Валовага мяса добрага на смак досыць, бараніны аж замнога, гусей, курэй без ліку, якіх выводзяць так, як я вышэй згадваў. Віна ў Егіпце няма, бо дзеля разліваў Ніла вінніцы ў полі расці не могуць, а пагоркаў або гор тут няма. Адную толькі вінніцу хрысціяніна нейкага (пра што ніжэй) бачыў я, а таму хрысціяне звычайна віно з Крыта ўжываюць, хоць еўрапейскія консулы з Валошчыны сабе прывозіць кажуць. А як некаторыя цвердзяць (з чаго таксама пра велічыню места меркаваць можна), што падчас пошасці тут за дваццаць чатыры гадзіны дваццаць тысячаў людзей аднойчы памёрла, дык пра тое Ян Леанард, гандляр венецкі (які ўжо тут у месце гэтым дваццаць пяты год жыў), гэтак нам апавядаў, што не толькі так шмат, але і болей як на мой час, калі была пошасць, за дваццаць чатыры гадзіны кожнага дня памірала, і трывала гэтак два тыдні. Дзівіцца з гэтага не трэба, бо туркі не звыклі засцерагацца ад пошасці, сцвярджаючы, што так мае быць і што гэта Божая кара, якая нікога не абміне, дык трэба паслушным быць. І так смяюцца з хрысціянаў, якія часам і сцерагуцца, ды ўсё роўна паміраюць ад тае заразы, бо промыслу Божаму супрацiвяцца. Цікава і тое ведаць, што ў Егіпце пошасць па-рознаму лютуе да трэцяга года такім чынам. Першы год, калі сонца ў Вагу ўваходзіць, лёгка пачынае і найбольш лютуе ў снежні, студзені, лютым і сакавіку,

калі цеплыня памяркоўная. Але калі цяплей стаецца (у наступным годзе) на ўваходзе сонечным у Льва, адразу сунімаецца, і так нават калі б хто і меў якую немач памарочную і да таго ўваходу сонечнага дажыў, ад усялякае небяспекі ратуецца, што вельмі дзіўна. Дзеля чаго гандляры нашыя тым часам дадому вяртаюцца, бо як у нас халады, так тут гарачыня пошасць сунімае, і так два месяцы бязбоязна жывуць. Калі ж сонца зноў у Вагу ўваходзіць, пачынаецца лёгкая зараза і трымаецца гэтак, як у першым годзе, але лягчэйшая бывае. І на трэці год гэтаксама трывае, толькі значна меней шкодзіць. Пасля, калі яе хто адкуль не занясе, чатыры наступныя гады жывуць ад пошасці вольныя, а часам нават і долей. Але часта праз сем гадоў вяртаецца, у чым дзіўную дабрыню Божую кожны пазнаць можа, бо хрысціянаў сваіх значна лягчэй за паганцаў карае.

Але шмат хто пісаў пра тое каралеўства, і як яго рака Ніл абцякае, таму і я таксама крыху прыгадаю, бо і сам якраз там быў тымі часамі і ад хрысціянаў, што там жывуць, шмат чаго наслухаўся.

Наняўшы ў Булгаху невялікую судзіну, праплыў я мілю супраць плыні па Ніле да старога места (з гандлярамі, што ведаюць ваколіцы), дзе паміж ім і выспаю Мульхіяс, дзе сам паша жыве, пайвялікшыя ўрачыстасці бываюць.

Каір той стары, калі Ніл разліваецца, амаль над яго берагам стаіць, а калі сваім звычайным рэчышчам плыве, дык ад яго за стрэл лучны. А так Ніл невыпадкова, ні праз здарэнне якое (як некаторыя мяркуюць) па палях плыве і разліваецца, але з задумы чалавечае равамі паміж грэбляў, на тое згатаваных, цячэ і палі вадою жывіць, што і мы тут бачылі. Тое ж і з самога размяшчэння вёсак (якіх, апроч места, у адной толькі Дэльцэ дванаццаць тысячаў налічваецца), няцяжка пабачыць.

Дэльтаю называюць месца, дзе спачатку Ніл падзяляецца надвое, ніжэй за Каір чатыры мілі, пасля (як гаварылася) адное ягонае рукаво на чатыры, другое на тры часткі дзеліцца і так нібы праз сем брамаў у мора ўпадаюць, апошняя ж яго частка ад усходу каля Даміяты цячэ, мы там плылі, другая ад захаду пад Расэтам, які ў старажытнасці Canopicum ostium называўся, і кажуць, што ад Даміяты да яго дваццаць пяць міляў, Даміята ж ад Каіра за восемдзесят, Каір ад Расэта за шэсцьдзесят з лішкам. Уся гэтая мясцовасць Дэльтаю завецца. Вакол абодвух тых рукавоў (я па адным да Даміяты супраць вады, па другім да Расэта плыў) такое мноства вёсак, што злічыць іх немагчыма, ад адной да

другой ідзе там грэбля, дзеля праходу зладжаная, бо рака палі залівае. А грэблі тыя ад свае даўнасці здаюцца нібы пагоркамі, самою прыродаю ўтворанымі, а не людзьмі насыпанымі, аднак жа, пільна прыгледзеўшыся, можна заўважыць, што некалі чалавечая рука над імі працавала. Бо і да вёсак вядуць, і дамы ў вёсках на вышэйшых пагорках кругам насыпаных стаяць. Да таго ж грэблі тыя пэўным парадкам стаяць. Бо калі ваду праз вадаспускі (якія ў грэблях паробленыя) выпускаюць, Ніл найперш тыя палі насычае, якія імператару або пашы належаць; і добра іх напаіўшы, тады толькі ў другой грэблі заслону расчыняюць, а пасля і ў іншых, а зачыніўшы заслону, адразу варту ставяць, каб хто крадком не расчыніў, з чаго вялікая шкода і клопат надарыцца б маглі, бо нельга было б стрымаць вады. Там, дзе Ніл выцякае насупраць старога Каіра, выспа ўтварылася, называюць яе Мульхіяс, або Мельхіяс (як друзы), што значыць мера, бо ў тым месцы бяруць меру вады на той час. Людзі, аднак, прызвычаіліся да тае выспы хадзіць, калі Ніл уласным рэчышчам сваім цячэ, бо, як ужо гаварылася, там ніякае вады не бывае. Так і у самім месце па каналах ездзяць і ходзяць, калі рака не разліваецца, так, як і па іншых вуліцах, з тым толькі адрозненнем, што каналы за простыя вуліцы глыбейшыя. У канцы памянёнае вышэй выспы стаіць вялікі, шырокі і прыгожы палац, дзе на той час паша жыве, дзе ён таксама і машэю мае, а ў ёй піраміда або слуп стаіць, які вада падземнаю плынню абмывае і па якім відаць, як хутка ўбывае або прыбывае вады. Але як усё гэта дзеецца і што там за мера, даведацца цяжка, бо хрысціянаў туды не пускаюць дый самім туркам свецкім туды нельга заходзіць, апроч святароў іхніх сантонаў, пашы і начальнікаў нейкіх, на тое абраных. Апавядаюць бо, што тое месца Святое, таму што ідзе адтуль вада, дабрадзействам якое дзяржава плоднасць і багацце захоўвае, а дажджу ў тым краі (хіба толькі ў снежні разоў колькі кропне, дый тое без усялякага пажытку зямлі, як ніжэй гаварыцца будзе) не бывае. Над морам, дзе Ніл недалёка Даміяты або Расэта цячэ або дзе пяццю іншымі рукавамі ў мора ўпадае, бываюць, аднак, і дажджы, як у Александрыі пры мне здарылася; дваццаць сёмага дня верасня выпаў невялікі і вельмі пажаданы, бо паветра ачышчае і перамяняе. Калі пры памянёнай выспе рака пачынае збірацца, адразу высылаюць колькі сотняў хлопцаў з навіною ў места, якія, прыбегшы, крычалі на вуліцах, як хутка і колькі прыбывае вады. Бо калі без затрымкі прыбывае, за добры знак тое маюць, бо незадоўга будуць грэблі расчыненыя, з чаго і

багатага ўраджаю налета можна чакаць будзе; калі ж павольна прыбывае і мала, тады баяцца няўроду, дарагоўлі і голаду, бо малая колькасць вады не можа паўсюль дастаткова паліць пасевы, што вельмі патрэбна, бо калі больш за звычай і за патрэбу вады бывае, дык у зямлю размоклую зярняты глыбей западаюць, калі сеюць, бо аруць тут няшмат і не ўсюды.

На вышэйшых мясцінах, як і ў гародах (якія толькі на ўзгорках ёсць, куды Ніл не даходзіць), аруць, ды ўвесь час іх паліваюць (дзеля чаго гадуюць валоў), і так двойчы на год ураджай там збіраюць. Ваду з глыбокіх студняў валамі выцягваюць, а вядзерцы выцягнутыя адразу ў каналы выліваюцца, па якіх ідзе вада ў агароды. На тое адмысловыя калаўроты зробленыя, якія валы (вочы завязаныя маюць, таму самі, хоць ніхто іх не паганяе, хадзіць звыклі) увесь час круцяць. Гною ралля ніякага не патрабуе (часткова дзеля сваёй плоднасці, часткова таму, што пасля жніва незлічоныя статкі рознай жывёлы ў тых палетках ходзяць).

Жніво пачынаецца ў канцы сакавіка, а канчаецца ў апошніх днях красавіка, бо ўвесь травень паўднёвыя вятры веюць, якія б лёгка ўсё збожжа спалілі.

Калі я быў там у Каіры, казалі, што паводле меры ў Мульхіясе Ніл на дваццаць адзін локаць падняўся, таму чакаўся добры ўраджай, бо калі на дваццаць чатыры, дваццаць пяць або дваццаць шэсць паднімаецца, празмерная вільгаць палям пагражаць будзе, калі ж да дзевятнаццаці не даходзіць, дарагоўлі і голаду трэба баяцца. Ніколі, аднак, ніжэй за шаснаццаць локцяў не бывае, а тады ўжо зусім непазбежнага голаду чакаюць. Падняцце яго заўсёды здараецца ў жніўні, але пэўнага дня няма, звычайна гэта ў сярэдзіне памянёнага месяца бывае. З чаго б, аднак, такі дастатак вады браўся, як даведаліся, ад дажджоў, якія ад пачатку травеньскіх дзён аж да канца жнівеньскіх пад тропікам Рака выпадаюць, пра што касмографы тых мясцінаў падрабязней пішуць; бо як у нас узімку, так у іх у чатыры вышэйпамянёныя месяцы мора да плавання закрытае. Апавядаюць таксама, і гэта напэўна так, што тыя воды дажджавыя хутчэй бы да Егіпта даходзілі, калі б іх Вялікі Ян Прэсвітэр, або Папіян, кароль Абісінскі, у сваіх дзяржавах для палёў таксама не забіраў, але каб ён іх гэткім чынам не памяншаў, Егіпет праз вялікую вільготнасць ніякага збожжа са сваіх палеткаў не меў бы. І з таго можам мы нявыслаўлёную дабрыню і мудрасць Божую пабачыць, які так дзівосна ўсяго свету часткамі кіруе, што кожная

з іх сваё дастатковае пажыўленне мае. Звычайна на Св. Андрэя сеюць, калі Ніл невысока паднімаецца, калі ж бачаць, што вады меней, сеюць раней, з чаго ўраджай добры бывае дзеля страшнае гарачыні, так што ў канцы лютага магло быць жніво, калі ўжо таксама першы раз садавіну і гародніну збіраюць. Калі здараецца, што Ніл не паднімаецца дастаткова, тады не на ўсе палі праз грэблі ваду выпускаюць і зямля як след не вільгатнее, улетку ж так высыхае, што стаецца як найцвярдзейшая скала. Калі ж вады бывае дастаткова, пазней сеюць, каб зерне ў зямлю глыбока не западала, і так да траўня жніво зацягваецца, а паўднёвыя вятры вільгаць высушваюць. Дзіўна ж, аднак, тое, што хоць у Каіры Ніл паднімаецца, аднак у яго рукавах таго не відаць, цякуць яны неяк сваёй плынню, хіба што рэдка калі, дый тое не болей, чым на локаць, прыбывае ў іх вады. Там жа, куды Ніл не даходзіць, каб звычайным спосабам зямлю паліваць, дзівосна Госпад Бог справіў, што дажджы праходзяць і зямлю наталяюць.

І так усю тую ноч прабавілі мы, плаваючы па Ніле, да цікавейшых рэчаў прыглядаючыся, тады ж і людзей незлічонае мноства ўдзень і ўначы па рацэ плавала. Бо то былі часы агульнае радасці, нібы тут мясапуст які або кірмаш быў, і танней усё купіць можна, і ежу лодкамі возяць.

Раніцаю а трэцяй гадзіне на дзень зноў прыплылі мы ў Булгах і, сеўшы на аслоў, паехалі ў места.

Пасля за гадзіну перад світанкам паехалі мы з заезду нашага ў стары Каір, які за чвэрць мілі ад новага размешчаны. Праз дзве гадзіны пасля ўсходу сонца, праз Ніл перабраўшыся і праехаўшы пятую частку мілі, апынуліся мы проста каля пірамідаў, пра якія шмат пісалася, я ж, што сам бачыў, каротка згадаю. Пагаджаюцца ўсе аўтары на тым, што места Мемфіс, у Святым Пісанні і ў свецкіх кнігах славутае, на гэтым месцы было, аднак (апроч рэшты руінаў на поўдні) тут ужо і знаку ніякага няма, бо няплодныя і сухія пяскі ўсё пазасыпалі. Засталіся, аднак, піраміды, і дагэтуль цэлых семнаццаць ацалела, з якіх дзве большыя, а трэцяя, якую Радопа распусніца паставіла (форму і будову яе апісвае Пліній, кн. 36, р. I2), напраўду вельмі прыгожая, хоць увышкі ледзьве шэсцьдзесят або семдзесят локцяў мае.

Тыя тры піраміды ва ўсім цэлыя, і я лічу іх сярод тых рэчаў, якія свет за нейкія дзівосы мае. Дзве большыя цудоўна і неверагодна вялікія, адна з іх, аднак, большая, кажуць, што ўдоўжкі, ушыркі і ўвышкі трыста локцяў мае. Унутры прыгожыя і шырокія сходы мае, па якіх, гэтаксама як і па вонкавых,

узыходзілі мы звычайна аж да самага верху і на гару. Мае таксама і склепы, а два найбольшыя, адзін над адным, дзе былі пахаванні цароў егіпецкіх; у ніжэйшым і дагэтуль труна досыць вялікая, у якой цела нейкае ляжала. Але што там за цары, якім коштам або ўмельствам, і ці не гэбраі то, у няволі егіпецкай будучы (што амаль усе аўтары сцвярджаюць), тыя піраміды паставілі, а да таго ж ці тыя самыя гэбраі грэблі вышэйпамянёныя і равы (бо відаць працу рукі чалавечае, а не прыроды) нарабілі; пра ўсё тое ў гісторыкаў трэба пытацца, якія гэта, як належыць, апісалі. Сапраўды варта здзіўлення тое, што піраміды на высокай гары пастаўленыя, аднак жа, наколькі бачыць можна і меркаваць, з іншага каменю былі збудаваныя, але ж невядома і здагадацца цяжка, адкуль і якім чынам гэткае надзіва вялікае мноства камянёў на месца гэтае прывезена, бо хоць Ніл і паднімаецца, аднак да яго ад пірамідаў амаль цэлая міля. Цяжка зразумець таксама і тое (бо кожны камень тры локці ўшыркі і ўдоўжкі, а ўвышкі паўтары і болей мае), якім рамесніцкім умельствам ды якім яго досціпам і працай на такую вышыню падняты і наверсе пакладзены мог бы быць. Найбольшая з усіх пірамідаў з такіх часаных квадратных камянёў змураваная, і хоць ідзе гранавіта ад долу аж да верху, аднак тыя квадратныя камяні дасціпны і ўмелы рамеснік так няроўным радам злучыў і ўклаў, што ўся грамадзіна здаецца хутчэй гарою, што сама прырода нарадзіла, чым умельствам і працай чалавечаю спраўленай. Ступанне дзеля таўшчыні камянёў нязручнае і цяжкае, але бяспечнае; і я хоць досыць добра ступаў, аднак жа ледзьве за паўтары гадзіны на верх піраміды здолеў дайсці, на тым версе роўніца квадратная, па дзесяць локцяў з кожнага боку. Ад той найбольшай піраміды ідучы да другой, з правага боку пабачыць можна памяшканні прыгожыя і аздобныя, у жывой скале высечаныя, скляпенне ў іх нібы з дошак выраблена, бэлькі паўкругла абчасаныя, не гранавіта, на сценах таксама нейкія ўзоры вычасаныя. Сцвярджаюць некаторыя, што гэта былі гмахі царскія або княжны егіпецкай.

Другая піраміда крыху меншая, за два лучныя стрэлы ад першай стаіць. Усярэдзіну ў яе цяпер няма ўвахода адкрытага і ўсім вядомага, але кажуць, што ёсць схаваны і патаемны і што некаторыя пра яго ведаюць. Ззаду можна ўзысці на яе да паловы, бо там камяні мае гэтак, як у першай, укладзеныя, толькі што крыху больш пляскатыя і раўней пакладзеныя. Але спераду камяні ідуць угору роўна, не выступаюць з муру, таму і лезці

немагчыма, як, напэўна, і хацеў раместнік. Пасля трэцяя яе частка, аж да самага верху камяні мае нейкія шурпатыя, нядбалыя і без парадку добрага ўкладзеныя; калі б не тая сярэдняя роўная частка, што камянёў, якія, нібы прыступкі, з муру выступаюць, не мае, такой перашкоды на колькідзесяць локцяў не чыніла, можна было б лёгка на вяршыню залезці, як і на тую першую.

Трэцяя піраміда стаіць побач з другой з боку места, гэта піраміда тае Радопы распусніцы, уся з камення гладка зробленая, так што залезці на яе ніхто не можа. Ад яе за тры лучныя стрэлы слуп стаіць з каменю жывога на сем локцяў увышкі, а з яго наверсе галава з шыяй і плячыма тае самае Радопы, постаццю дзіўнай, на места глядзяць. Апавядаюць некаторыя, што з той большай піраміды, дзе мы ўнутры былі, праз лёхі падземныя, у камені высечаныя (бачылі мы іх каменнем заваленыя), вузкі і патаемны праход быў у тую галаву, а там адказы божышчаў паганскіх даваліся, бо меркавалі паганцы, што галава тая сама гаварыла. Вакол галавы некалькі камянёў пастаўлена, на якія складалі ахвяры. Цяпер ніхто не можа ўведаць, што гэта было.

Чуў я ў Каіры ад тых, хто так сцвярджаў, што на свае вочы бачылі (сам я не бачыў) на поўдні, дзе, як кажуць, ускраіна Мемфіса была, два слупы чалавечыя, кожны на дваццаць локцяў увышкі, з аднаго каменя цэлага, надзіва прыгожыя, адзін фараона нейкага, а другі царыцы, напэўна, жонкі ягонай, ужо паваленыя і, аднак жа, абодва цэлыя ляжаць. А ад тых слупоў піраміды памянёныя за пяць нашых міляў, з чаго здагадайся, якое вялікае было тое места, бо і самі піраміды, калі глядзець на руіны, далей, чым за чытыры мілі,стаяць. Вось жа калі з таго боку Ніла такое вялікае было места, а з Другога Каір (як цяпер стаіць) быў з ім злучаны (бо ад вялікіх пірамідаў, якія над местам стаяць, да новага Каіра паўтары вялікія мілі); без усялякага сумнення было яно наўкола некалькі міляў, а пасярэдзіне цёк Ніл. Пасля, калі Мемфіс праз даўнасць і войны заняпаў, султаны егіпецкія (паводле прароцтваў Святых, асабліва ж Езэкіэлевых) побач з садамі пачалі будаваць палацы, і так лёгка людное места ўтварылі.

Дзіўлюся я вельмі гэбраю Бэньяміну, які чатырыста гадоў таму жыў, шмат краін свету наведаў, а што на свае вочы бачыў, падрабязна апісаў (хоць апісаў таксама і што чуў, і таму часам памыляўся), дзіўлюся, што пра тыя піраміды ніводнае згадкі ў кніжцы падарожжа свайго не пакінуў, асабліва ў Каіры быўшы, які, за звычаем старых і новых гэбраяў, ён Міцраім называе. Падобны гэты гэбрай да тых трох, якія сцвярджаюць, што ме-

ста Баальбэк д’яблам Асмадэем змураванае, таму што з такіх вялікіх камянёў людзі б не маглі мураваць. Але, напэўна, тое самае ён мусіў бы і пра мураванне пірамідаў сказаць, якія і вялікасцю камянёў, і цяжкасцю збудавання, і коштам сваім палацы баальбэцкія перавышаюць. Бо хоць і тыя вартыя падзіву, але незраўнана больш вартыя здзіўлення піраміды, якія і ўшыркі, і ўдоўжкі, і ўвышыню дзівосным умельствам выраблены і пастаўленыя. Я так лічу, што гэбрай той наўмысна і так пра піраміды не згадваў, бо (як вышэй гаварылася) гэбраі, продкі ягоныя, будучы ў няволі егіпецкай, іх змуравалі; а ён, добра тое ведаючы, ганьбу народа свайго замаўчаў і не адкрыў, калі ўжо і д’ябла Асмадэя мулярам моста Баальбэка ўчыніў. А што са праўды ў такой цяжкай і невыказнай былі няволі, слупы тыя дзівосныя і невыносная над імі праца сведчыць. Часта бывае ў Бэньяміна, што, калі толькі надарыцца нагода, пільна славу крыві сваёй бароніць, і дзе ў якім месце гэбраяў болей бачыў, не без гонару апісаў, нават імёны іхнія назваўшы.

Ідучы адтуль направа, праз нейкую вёску, вярнуліся мы ў Каір за тры гадзіны перад вечарам і, параехаўшы ў старое места, зноў з консулам Марыянам ездзілі ў барцы па Ніле. Тым часам часта з’язджаліся адусюль вялікія баркі санджакаў, бо назаўтра паша меўся адчыніць грэблю і частку вады праз каналы мястовыя пусціць. З тае прычыны вячэралі мы ў старым Каіры і засталіся там на ноч, хоць амаль і не спалі, бо паўсюль у бубны білі і ў сурмы трубілі. Якраз бо такім часам кожны сабе як найболей музыкаў наймае, асабліва ж дваццаць чатыры санджакі, якія яшчэ за дзень перад тым у барках сваіх вялікіх сюды-туды сноўдалі, вывесіўшы ў іх дзве харугвы вялікія, якія кожны мець павінен, адну дому Атаманскага з чырвонае і белае тканіны, другую якая каму падабаецца, а пры лаве тае віціны або баркі натыкаюць іншых меншых сцяжкоў да дваццаці, саму ж барку розным ядвабам вышываным накрываюць. З абодвух бакоў па дзесятку хлопцаў стаіць, якіх кожны паводле свайго густу як пахолкаў выстройвае; сам санджак усярэдзіне сядзіць, шаблю сабе над галавою павесіўшы. У барцы або джэрме больш за дзесяць чалавек вяслуе, за ёю меншая, доўгай вяроўкаю да яе прывязаная, музыку, то значыць два бубны і тры або чатыры сурмы (нявольнікі мурыны звычайна музыкамі бываюць) вязе. Таксама і вялікія паны турэцкія свае баркі і хлопцаў цудоўна ўбраных маюць, некаторыя і музыкаў, але сцяжкі нікому, апроч санджакаў, не дазволена вывешваць. Санджакі на той час усе

былі прысутныя, апроч аднаго хворага, які, аднак, сына свайго малодшага замест сябе выслаў, а той, пасярэдзіне седзячы, кнігі ў руках трымаў, бо да шаблі яшчэ гадоў яму не ставала. Судзіна ў яго была найпрыгажэйшая. Сядзяць з санджакамі абапал прыяцелі або родзічы, якіх да сябе запрашаюць. Бо чым хто болей вакол сябе сваіх хатніх мае і чым большае таварыства, тым у большай важнасці ўважаецца, так што некаторыя тыя баркі вялікія да ста чалавек на сабе змяшчаюць, разам з маракамі.

Тры гадзіны было на дзень, калі Ібрагім-паша, з палаца на выспе Мульхіяс выйшаўшы, на галеру досыць аздобную сеў. Вакол той галеры вельмі багата было меншых сцяжкоў, а з бакоў, калі сядзеў, дзве вялікія харугвы стаялі, адна зялёная Магаметава, другая чырвоная з гербам роду Атаманскага, белым паўмесяцам; замест азнакаў сцяжных на тых харугвах хвасты коней марскіх віселі. Было там таксама трыста янычараў-мушкетнікаў, убраных у чырвонае, з кітамі за шапкамі, стаялі яны побач з пашою, іншыя ў белым далей з дзідамі стаялі. Чаўшы і віднейшыя туркі стаялі вакол яго, сам ён сядзеў, хлопец яму махалам паветра халадзіў. Наперадзе гэтай галеры шэсць вялікіх гармат стаяла, з якіх і стрэлілі колькі разоў. Вакол галеры дваццаць чатыры джэрмы плыло, у якіх санджакі сядзелі, і іншых меншых судзін пры іх амаль да тысячы. Грэбля, якую расчыняюць (стаіць пры вежы, пад якою каналы, па дарозе да нізкага замка, ад палаца Мульхіяс за тры лучныя стрэлы), удоўжкі больш за трыццаць локцяў мае, досыць шырокая, канал пад ёю глыбокі, хоць і не вельмі шырокі. Калі паша да таго месца даплыў, галеру тылам або стырном павярнуўшы, каля самай грэблі стаў, куды ўжо незлічонае мноства людзей сабралася; так што ўся зямля тая здавалася ўкрытаю снегам ад белага акрыцця галоваў, гэта значыць ад белых турбанаў. Хоць я і Рым, і Парыж, і багата местаў людных перад тым бачыў, аднак жа не бачыў, наколькі магу памятаць, каб на адным месцы гэтулькі людзей сабралася. А як цырымонія тая штогод ладзіцца, дык лічылі людзі свядомыя з таго дворышча, на якім народ стаяў, што было ўсіх там да двух мільёнаў. І як толькі паша знак рукою даў, скочыла ўсё тое мноства, і кожны чым хто мог у грэблі раскоп рабіў і разграбаў; з чаго напачатку паволі, а пасля мацней цякла вада ў канал. Калі ён супраць вады на Мульхіяс у палац свой вяртаўся, кідалі з ягонае галеры паўсюль у ваду розныя кандызаты, цукры і канфекты ў скрыначках круглых, якія люд просты з вады хапаў, часам і за валасы адзін аднаго цягаючы і б'ючыся там у вадзе. Пасля гэтае

цырымоніі рушылі мы да новага места, а адтуль пехатою да заезда, а як ён амаль над самым каналам вялікім стаяў, то бачыў я, як паволі вады прыбывала, якую (паводле звычаю паганскага), нібы вітаючы госця і вестуна ўраджаю, вялікае мноства людзей праводзіла, адны па рацэ плывучы ў судзінах і на знак радасці ўсё места крыкамі напаўняючы, другія насустрач ім з дамоў выходзячы і таксама гукаючы і радуючыся. Цэлы дзень і ноч судзіны плылі, везучы харчовыя тавары і іншыя рэчы на продаж. Іншыя ў машкарах па рацэ на той час ездзяць, музыку пры сабе маючы, простыя людзі замест музыкі ў далоні пляскаюць, іншыя ж чаропкамі ляскаюць, такім чынам нейкі гук у тахт чыняць, збольшага па рацэ плаваюць, некаторыя з верху дамоў сваіх, якія ў іх надта высокія, у раку скачуць; дзіўна, як каторы з іх не разаб'ецца, але маюць тое егіпцяне (чаму з дзяцінства прывучаюцца), што і дасканала, і вельмі доўга гэтак па Ніле, як і па каналах, плаваць могуць. Часта тут пабачыць можна, што вось чалавек дарослы і веку паважнага плыве цераз раку з дзіцем аднагадовым, што яго за шыю абхапіла. А калі дзіця крыху большае, дык, руку яму падклаўшы, а часам і прыняўшы, вучыць яго плаваць, сам адной рукой грабучы. Некаторыя з верхніх вокнаў купляюць тавары ў тых, што плывуць па рацэ, асабліва плады і прысмакі, на вяроўцы грошы апускаюць і купленую рэч зацягваюць, некаторыя сабе ваду цягнуць, што за вялікую выгоду маюць, бо не купляюць яе. Вось жа пакуль тая вада каналамі плыве па месце (а трывае тое аж да лістапада), поўна паўсюль бывае лодак. Але вада з тых каналаў, места мінуўшы, у Дэльту не плыве, але направа на ўсход сонца вялікую мясцовасць абцякае, у якой імператаравы і пашавы вёскі (кажуць, што іх колькі тысячаў) ляжаць. То ж бо за Дэльтаю (якая сама дваццаць тысяч вёсак мае) ёсць вельмі шмат (а кажуць жыхары, што да сарака тысячаў) у Егіпце ніжэй і вышэй Каіра вёсак, палі і пасевы якіх жывіць Ніл. Некаторыя лічаць, што ваколіца гэтая ёсць тая зямля Гесэн, якую фараон быў даў Якубу патрыярху. А ўраджай тут такі, і дастатак усяго такі вялікі, калі плённы год надарыцца, што жыхары, даніну заплаціўшы і сабе прыпасаў на год пакінуўшы (а пэўна тое, што за Егіпет люднейшае дзяржавы няма ва ўсім свеце, апроч Хіны, якая таксама гэтым славіцца, чаму, аднак, не паверыш, пакуль сам не пабачыш), яшчэ вялікую частку ўсяго куды-небудзь прадаюць, пшаніцу, рыс, цукар, дактылі, касіі і іншыя плады, што разам два мільёны складае. Пра тое самі хрысціяне, гандляры еўрапейскія, нам апавядалі, якія, рамяством тым здаўна і стала займаючыся, дакладныя звесткі пра ўсё мелі.

Хадзіў я па месце, бо панядзелак быў, а ў дзень гэты і ў чацвер бывае рынак і нібы кірмаш. Шмат розных тавараў тут было, жывёлы рознае, людзей таксама ўсіх народаў і моваў вялікае мноства. Нездарма ж пра тое места кажуць, што дзеля тлуму надта вялікага цяжка тут праз вуліцу перайсці, якую пешыя, конныя, жывёла, а асабліва ж распусніцы (прыгожа ўбраныя, з закрытым тварам, на мулах едучы) напаўняюць. Кажуць (бо мыта з іх, як і паўсюль, збіраюць), што іх тут да ста тысячаў. Іншыя жанчыны, каторыя замужнія, з дома на вуліцу не выходзяць, нават у машэі. Нельга ім таксама праз акно глядзець на вуліцу, хіба толькі праз краткі драўляныя.

Ёсць тут і рынкі, дзе мурынаў абедзвюх плоцяў, маладых, старых і сярэдніх прадаюць. Было ў той панядзелак мужчын на продаж семсот, жанчын шэсцьсот, і ўсе голыя стаялі, апроч дарослых, і тое толькі жанчын, якія ніз цела свайго ледзь якім рыззём прыкрывалі. Ва ўсіх праколатыя вушы і ноздры, з якіх шкляны шарык вісіць. Паміж жанчын шмат хто з ніжняй губою праколатай, у якой колца з шарыкам вісіць, а калі цяжкае, дык так губу адцягвае, што зубы відны. Вельмі танна тавар гэты прадаюць. Бо за дзесяць дукатаў у золаце хлопца або дзеўку, якая купцу спадабаецца, бярэ. Хрысціянам, аднак, пад пагрозаю смерці тых нявольнікаў з дзяржавы вывозіць забаронена. Маўраў, ці мурынаў, тых з Барбарыі прывозяць, тады спачатку ў Алжыры або Трыпалі прадаюць, а адтуль морам у Александрыю або Расэт, а пасля праз Ніл у Каір вязуць. Хто мужчыну або жанчыну купіць, можа з ёй што хоча рабіць, або жыццё захаваць, або забіць, то ж гняўлівыя і злосныя шмат і забіваюць. І так чаго толькі хто не захоча купіць, як падчас кірмашу, гэтак і ў іншыя дні, заўсёды ў вялікім дастатку знойдзе. Натрапіў я ў той самы дзень на аднаго, які маслок еў перад буданом, дзе тое зелле прадавалі, маслок той нібы нейкі зялёны, даваў нам таксама гандляр і ахвяраваў, ці не хацелі б мы пакаштаваць. Той маслочнік рукамі вакол галавы, нібы што ловячы, махаў, крыва глядзеў і нічога не казаў, да шалёнага падобны. Пытаўся я, што гэта было, і адказаў гандляр, што чалавек той надзіва моцны боль у галаве цярпеў, але, з'еўшы крыху таго зелля, паздаравеў. Здаецца яму часам, што пад дрэвам стаіць і плады рве, і з таго відаць, што здаровы. Сапраўды дзіўна. Той кажа, што паздаравеў, а мы бачылі, як яго фурыя і манія ахапіла.

Прамінуўшы замак, што з правага боку быў за брамаю, прыехалі мы ў адну машэю, што звалася Магара, у якую

хрысціянам можна заходзіць, чаравікі скінуўшы і які падарунак даўшы. Бо ёсць там старадаўніх нейкіх дзіўных егіпцянаў магілы. Машэя тая ў скале ўся цалкам высечаная, пячор і лёхаў падземных, што далёка ідуць, вельмі багата мае. Адтуль ехалі мы да адной гары высокай (стаіць насупраць замка), з якой большая частка места і прадмесці з машэямі вельмі добра відаць. Напраўду пекны з яе спазор, асабліва ж бо праз усе часткі места дый за імі далёка відаць; вельмі шмат дрэваў дактыльных стаіць, апроч новага места, дзе яны радзейшыя, такія высокія, што па-над дамамі ўзнімаюцца. Якое прыгожае пальмавае дрэва, не кожны ведае. Ідуць проста ўгору галіны, і там толькі пры самім верху трохі нахіляюцца дадолу, плады не каля лісця, а як у нас жывіца пры дрэве, гэтак пры галінах сваіх растуць. І на сады тут таксама (якіх тут незлічонае мноства вакол места) цудоўны спазор, дзе цукар сеюць, і ён расце як трыснёг. Палііваюць іх (як ужо гаварылася) вадою, што валы выцягваюць. Цукар збіраюць у канцы кастрычніка, як і дактылі, хоць тыя часам і ў верасні збіраюць, яны ж бо зямлі тлустай і палівання ніякага, як цукар, не патрабуюць, бо ў пясчанай глебе растуць і гарачае сонца любяць; таму ў Сірыі і Александрыі не такія добрыя, бо менш сонца маюць. Калі свежыя, дык вельмі салодкія, крыху пернасці маюць, якая смаку не псуе і, наадварот, вельмі прыемная. З аднаго дрэва так іх багата набіраецца, што можна нашую адну піўную бочку насыпаць. А што некаторыя апавядаюць, нібыта пальмы толькі праз сто гадоў пасля прышчэпу родзяць, дык гэта байкі, бо яны, як і іншыя дрэвы, праз тры або чатыры гады плод даюць, асабліва калі невысокія. Ёсць іх тры гатункі, адныя нізкія, невысокія, на якіх звычайныя плады; другія вышэйшыя (як у нас ігруша) родзяць жоўтыя і круглыя надта добрага смаку дактылі, але доўга яны не ляжаць, бо хутка гніюць; трэція вельмі высокія, а плод даюць даўгі і смачны, які нам не прывозяць. Тыя апошнія да ста гадоў родзяць, пасля няплодныя стаяць, з чаго відаць, што ім ужо сто гадоў мінула.

Вельмі пільнуюць егіпцяне гаспадарства тое вакол дрэваў і надта яго любяць. Ёсць таксама на гары машэя невялікая, завуць яе Сэксаін, то ж калі мы з яе не маглі на места нагледзецца, паслаў да нас адзін сантон, каб мы яму там на нешта скінуліся, але адзін хрысціянін, што з намі быў, казаў нічога адразу не даваць, ці то на ўцеху нейкую, ці то каб паказаць нам, як туркі дзеля грошай усё гатовыя ўчыніць. Вось жа калі мы яму нічога не далі, паслаў зноў, кажучы, што хоча нас перад пашою абвінаваціць

як шпегаў, што з месца нязвыклага да места прыглядаюцца. Але мы ані не зважалі на яго пагрозы. Дык той чалавек сівы, на асла сеўшы, паехаў у места, а мы павярнулі направа да заезда, кудою дарога ёсць да мора Чырвонага. А крыху ад'ехаўшы, зноў паслаў ён да нас і глядзеў, ці мы яму чаго не вышлем, высылалі мы тады раз-пораз па шэлегу, а як тое замала яму здавалася, то гнаў далей асла да места, і мы так яго аж да брамы пусцілі, дзе далі яму колькі грошай, за што ён падзякаваў і, не быўшы ў пашы, вярнуўся, а што чалавек стары добрыя паўмілі натрэсся, то дармо.

Сантонаў, што голыя ходзяць (пісаў я, што бачыў іх і ў Дамашку), тут у Каіры вельмі шмат. Бываюць яны, што праўда, розныя, але найагіднейшыя тыя, што, не закрываючыся, зусім гэтак без сораму валочацца. Неяк раніцай, за местам будучы, натрапілі мы на аднаго маладзёна, які набажэнства сваё неяк агідна і дзіўна спраўляў. Бо то, да сонца павярнуўшыся, глядзеў на яго, рукі скрыжаваўшы, а то кланяўся і хістаўся, бы нейкі шаленец. Крыху далей бачылі мы другога, і калі з глупства ягонага (што не заўсёды бяспечна) смяяліся (бо каля жывата брыдка рукамі пляскаючы, неяк забаўляўся), дык і ён сам, на нас паглядзеўшы, голасна зарагатаў і пайшоў прэч. Тыя, як нейкае быдла, паўсюль па месце валочацца, а што ім спадабаецца, на пажыўленне сабе свабодна бяруць, як, прыкладам, хлеб, плады, калі там прадаюць, таксама і ваду ў ваданосаў, калі далёка да яе, забіраюць. Той жа, у каго бяруць, мае за вялікае шчасце, што святы чалавек чагосьці ў яго захацеў. А як у Каіры ў скураных мяхах ваду носяць на продаж, дык прытрапілася мне (на што я глядзеў), што сантон адзін голы, узяўшы ў некага мех, піў, за што гандляр яму дзякаваў, галаву схіляў, рукі склаўшы, паднімаў, радаваўся, што яму гэткае шчасце выпала. Хрысціяне, якія доўгі час у Каіры жывуць, апавядалі нам, казалі і самі туркі, што тыя сантоны голыя ўдзень ва ўсіх людзей навідавоку з жанчынамі справу маюць, спачатку нейкія свае надта агідныя чары (пра якія я дзеля ўчцівасці пісаць не буду) справіўшы.

Пачаўшы ад прадмесця, якое ідзе да Чырвонага мора, праехаў я ўздоўж усё места, і хоць прышпорваў асла, аднак ледзьве за дзве гадзіны паспеў да краю новага места даехаць; адтуль жа праз старое места і апошняе прадмесце за цэлую гадзіну да гэбрайскага могільніку прыехаў, то ж і высветліў я, рознымі часамі ездзячы, што з прадмесцямі места старое і новае, калі проста праз яго ехаць, амаль заўсёды ўдоўжкі тры нашыя мілі

мае. На тым памянёным прадмесці, што да Чырвонага мора ідзе, ёсць і дагэтуль тэатр (цяпер ужо на біты шлях пératвораны), але інакш, чым тут у нас у Еўропе, змураваны. Бо ўшыркі ледзьве сто локцяў мае, а ўдоўжкі, як кажуць тыя, хто мераў, тры тысячы, з чаго меркаваць можна, што некалі на тым месцы коней навыперадкі пускалі і вазы. Паабапал ёсць прыступкі, на якіх людзі сядзелі, але мала іх і нізкія. Машэі ўсе (тыя, што з вежамі, а іх вельмі шмат) на самым версе купалы маюць, апроч адной побач з тэатрам, якая, як апавядаюць, з гэткай вось прычыны яго не мае. Даўнейшымі часамі (бо і машэя старая вельмі) чарнакніжнік адзін егіпцянін змураваў яе сабе на пахаванне, то ж яго там і пахавалі, а пад купалам па самым версе ўнутры іерогліфамі егіпецкімі (або абразкамі нейкімі вымаляванымі, якімі егіпцяне, літарамі не пішучы, шмат патаемных рэчаў звыклі былі запісваць) так загадаў напісаць: «Галава без мозгу нічога не вартая». Стаяла гэтак тая машэя колькі соцень гадоў, пакуль Селім Першы каралеўства тое і места не заняў, а тым часам нейкі чарнакніжнік, зайшоўшы туды і пісанне тое, што яно значыла, зразумеўшы, пайшоў да Селіма і прасіў, каб падараваў яму тую мішэю. Клопату ніякага не было такую нязначную і дробную рэч у Селіма атрымаць, які нядаўна такую вялікую дзяржаву сабе здабыў, таму і дазволіў.

А чарнакніжнік той верх яе адразу разабраў, а пад ім невыказна вялікі скарб залаты знайшоў, за што пасля дамоў, садоў і шмат іншай зямлі накупіў, а на памяць аб тым верх машэі гэтак пакінуў, і толькі адна яна такая ёсць ва ўсім месце да гэтага часу. Акно мае ніжэй да вуліцы, сама досыць светлая, але заўсёды зачыненая; ці там туркі якія чары свае спраўляюць, невядома, бо туды, дзе хаваюць, не любяць заходзіць, апроч сантонаў, просты ж чалавек або рэдка ходзіць, або ніколі.

На світанні селі мы з консулам Марыянам у барку і паплылі па большым канале, праплыўшы паўмілі за местам, а каля палаца Гаўрэя сеўшы на аслоў, ехалі мы невялікую мілю да вёскі вельмі шматлюднай, якая называлася Назарэя. Гэта тая вёска, у якой Найсвяцейшая Маці Гасподняя з Сыночкам сваім (калі была ў гэтым краі, Мацв. 3) жыла сем гадоў, як лічаць багасловы. Ёсць тут дом вельмі стары, у якім з аднаго боку ў муры паказваюць нібы шафу, доўгую і шырокую, куды Збаўцу Госпада Нашага клала Найсвяцейшая Маці. Пад той шафаю ёсць алтар невялікі дзеля Святое імшы. Бо туркі месца гэтае вельмі шануюць, і хоць недалёка там машэя ў іх стаіць, аднак жа ад даўніх часоў

(ніякіх запісаў не засталося) святарам нашым дазваляюць Святую імшу спраўляць; і праўда, у той дзень нядзельны чытаў пры нас Францішак Сас, багаслоў таварыства Ісусавага, святар. Не вельмі далёка адтуль ёсць крынічка, адзіная на ўвесь Егіпет, на колькі локцяў удоўжкі і ўшыркі, досыць глыбокая, вельмі халодную і чыстую ваду мае, якую колам выцягваюць для палівання садоў, бо іх тут вельмі шмат. Носяць яе таксама на вярблюдах пашы і сайджакам да піцця, бо здаровая яна і празрыстая. За добры кідок каменем ад таго дома стаіць дрэва лясной фігі, тоўстае і высокае, завуць яго фараонавай фігаю. Дрэва гэтае дзіўным цудам Боскім так ад самага кораня аж да верху пашчэпленае, што, калі яго злучыць, абедзве палевы лёгка паяднаюцца, бо на адной рэбры выступаюць, а на другой для іх паглыбленні засталіся. Нізка пры самым пні ёсць нібы нейкі пакойчык у дрэве, які ніводзін раменснік вырабіць не мог; сам так утварыўся, прытулак Найсвяцейшай Маці Божай і Творцу свайму даўшы, калі яна туды з ім прыйшла, чакаючы, пакуль Святы Язэп што іншае ў вёсцы знойдзе. Сапраўды, дрэва гэтае вялікае здзіўленне выклікае. Туркі ў ім свяцільню сваю павесілі. Прызнаюць бо яны (што і кожны, паглядзеўшы, зразумее), што цудоўна яно раскрылася было, калі Дух Божы (так яны Госпада нашага называюць) разам з Маці сваёю яму пакланіўся. Стаіць тое дрэва ў садзе, дзе перад тым быў бальсан, і цяпер яшчэ ёсць тут нейкія дрэўцы на два локці вышынёю, але ўсе ўжо пасохлыя. То ж бо Асан-паша (які тут перад цяперашнім Ібрагімам быў гаспадаром) мурына, які вакол таго бальсана даглядаў за тое, што багата грошай быў пазбіраў, загадаў задушыць, а таму, бо ніхто пасля ў той гаспадарцы нічога не разумеў, усё пасохла. Аднак жа ў зямлі Арабскай, якую шчаслівай Арабіяй называюць, стараннем Саліманавым у дастатку вялікім бальсан збіраюць, найбольш той, што з гэтага саду быў перанесены; прывозіць яго сюды караван з Мекі, і я яго з сабою нямала дадому прывёз.

Вярнуліся мы пасля ў палац Гаўрэя на абед, і калі елі, бачылі з левага боку караван з колькіх соцень вярблюдаў, што да места Суэс ішоў, якое недалёка да мора Чырвонага ляжыць. Палац той таму Гаўрэя называецца, што яго султан Гавур, вельмі магутны цар егіпецкі, вялікім коштам некалі змураваў, а разам і цудоўную машэю з двума вялікімі купаламі, дзе яго і пахавалі; і машэя тая (пасля Арамэлі, пра якую ніжэй будзем гаварыць) з усіх найпрыгажэйшая. Мае той палац і надзіва прыгожыя галерэі, на вялікіх і аздобных слупах пастаўленыя, а ўсярэдзіне ёсць

купальня, пяцьдзесят локцяў шырынёю і даўжынёю, шэсць глыбінёю, якую памянёны цар кожнага разу, як двару свайму і народу банкет ладзіў (што часта здаралася), вадою, цукрам саладжонаю, напаўняў, каб з яе кожны сабе наліваў і піў, колькі захоча. І дзеля таго з усіх бакоў былі мармуровыя прыступкі, каб па іх, калі вады меншала, людзі спускаліся; пад тымі галерэямі ім стравы падавалі, на што зверху цар пaглядаў. Жыве тут часам цяперашні ўладар Ібрагім-паша, калі можа каналам Нільскім сюды зручна заехаць.

Стаіць таксама пры тым палацы касія, дрэва вельмі высокае, вышэйшага за яго няма ва ўсім Егіпце. Да ліпы, зважаючы на яе таўшчыню і вышыню, тая касія падобная. Пад вечар, плывучы супраць вады, вярнуліся мы ў места, агледзеўшы некаторыя палацы і сады прыгажэйшыя пры беразе. Іншыя дні хадзілі мы па месце, дзе заўсёды нешта новае можна было пабачыць. Агледзелі мы машэі важнейшыя, хоць у іх і не заходзілі, а найгалоўнейшыя з іх наступныя.



# ФЁДАР ЕЎЛАШОЎСКІ

*(1546 — пасля 1616)*

Фёдар Еўлашоўскі — выдатны беларускі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ён 7 лютага 1546 г. у Ляхавічах (цяпер раённы цэнтр Брэсцкай вобл.) у шляхецкай сям'і. З пяці год пачаў вучобу, засвоіў родную і польскую мовы, а затым ідыш. Пасля прадоўжыў навучанне ў галіне юрыспрудэнцыі, матэматыкі і справаводства.

Ф. Еўлашоўскі належаў да кальвінскага веравызнання, меў сям'ю, жонку Ганну Балатоўну, 9 сыноў і 5 дачок.

У час беларуска-маскоўскіх войнаў Ф. Еўлашоўскі пайшоў у войска, браў удзел у паспалітых рушаннях. Пад кіраўніцтвам Мікалая Радзвіла Рудога змагаўся ў шэрагах беларускіх ваяроў пад Улаю, дзе ў 1564 г. харугвы Вялікага Княства Літоўскага здабылі бліскучую перамогу над маскоўскімі войскамі.

У 18-гадовым веку Ф. Еўлашоўскі звальняецца з войска і паступае на дзяржаўную службу. Вялікі князь і кароль С. Баторый у 1577 г. прызначае яго пінскім і сервецкім мастаўнічым. Працяглы час ён займаецца гаспадарчай дзейнасцю, ажыццяўляе збор падаткаў, інвентарызуе маёнткі, што належалі манарху. Затым выконвае абавязкі судовага абвінаваўцы, абіраецца на пасаду падсудка Наваградскага павета (1592—1613), удзельнічае ў якасці дэпутата на шматлікіх сойміках і соймах. Выдатны правазнаўца і дасведчаны юрыст-практык, Ф. Еўлашоўскі разам з Андрэем Трызнам рыхтуе «Трыбунал» (Вільня, 1586) — статут (палажэнне) вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага Княства Літоўскага.

У пісьмовай культуры старажытнай Беларусі «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага займаюць выбітнае месца, як адзін з першых значных помнікаў мемуарнага жанру нацыянальнай літаратуры эпохі позняга Рэнесансу. «Гістарычныя запіскі» — адзіны вядомы твор з літаратурнай спадчыны пісьменніка.

У жанравым плане «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага — класічны мемуарны твор з элементамі мастацка-літаратурнага вымыслу. Зараджэнне аўтабіяграфічнага жанру ў беларускай літаратуры XVI ст. — выразная праява рэнесансавай эстэтыкі, якасна новага погляду на чалавека, увасабленне мастацкай канцэпцыі індывідуалізму.

Талент Ф. Еўлашоўскага як белетрыста, здатнага да пабудовы сюжэтнага аповеду, найбольш поўна выявіўся ў навеле пра паўстанне Налівайкі. Аповед уключае наступныя топікі: паведамленні пра час і месца, дзе яно пачалося, указанні асноўных маршрутаў паўстанцаў, пагромы шляхецкіх маёнткаў, пералік асноўных сутычак з рэгулярнымі войскамі пад кіраўніцтвам ваяводы Мікалая Крыштофа Радзівіла, звесткі пра гібель у баях з налівайкаўцамі знакамітых шляхціцаў.

Здольнасць Ф. Еўлашоўскага да літаратурнага вымыслу выявілася ў сюжэце пра з'яўленне прывіду, «агністага чалавека», з якім адбылася сустрэча ў 1566 г. падчас небывалай пошасці. Апавяданне пра містычнае здарэнне мае наступны змест: аўтар, вяртаючыся з Вільні, заначаваў у вёсцы Дарагава. Як толькі заснуў, «агністы чалавек» рушыў на яго. Ні кінжал, ні іншыя сродкі не спынілі прывіду, толькі пад раніцу сонечнае святло, што трапіла ў пакой праз расчыненае вакно, выратавала Еўлашоўскага. З гэтай сцэны «Гістарычных запісак» фактычна пачынаецца містычная тэма ў беларускай літаратуры.

Галоўная рыса творчага метаду Ф. Еўлашоўскага — аўтабіяграфічнасць. Яна выяўвілася ў аповедах аўтара пераважна пра тое, што ён асабіста назіраў, у чым удзельнічаў або з чым асабіста пазнаёміўся. Ф. Еўлашоўскі непасрэдна ў тэксце «Гістарычных запісак» змясціў уласную біяграфію, у якой паведаміў пра месца і час нараджэння, навучанне, службу ў розных асобаў, удзел у вайсковых рэйдах, маёмасныя канфлікты і судовыя разбіральніцтвы, наведванне соймаў, сямейныя справы, дачыненні з родзічамі, візіты ў розныя гарады з асабістымі і службовымі мэтамі.

Упершыню ў беларускай літаратуры Ф. Еўлашоўскі здзейсніў спробу перадаць уласныя духоўныя пакуты, незвычайны эмацыйны стрэс, выкліканы жорсткім забойствам сына Яна, які загінў ад рукі пана Олбрыхта Бруханскага. Паводле словаў мемуарыста, калі яму данеслі страшную вестку ў час судовага працэсу, дык ён страціў волю і сілы, не мог рухацца і прадпрымаць нейкія дзеянні: «А ям не толко не слал никого, але ани ведял о ничием еханю и о свете: жив лим был або не». І праз доўгі час, свой чарговы дзень нараджэння сустракаў у суме і адзіноце, «с плачем и велкой жалостей», а не як звычайна, калі ў такі дзень вакол яго было шмат сяброў.

Аповед Ф. Еўлашоўскага пра ўласную хваробу ўключае разгорнутую сістэму топікаў — звесткі аб яе працягласці, самаадчуванні за ўвесь перыяд хваробы, цялесныя пакуты, лекаванні рознымі сродкамі, рэцыдывах праз усё жыццё. Мемуарыст на старонках твора пераказвае свой дзіўны сон: нібыта ён апынуўся ў далёкай краіне Італіі, дзе назіраў прыгажосць горада Мантуі: «Положене замку, места, вод, мостов мурованых».

Сярод іншых герояў «Гістарычных запісак» Ф. Еўлашоўскага — рэальныя гістарычныя асобы, прадстаўнікі розных сацыяльных станаў: вялікія князі і манархі — Жыгімонт Аўгуст, Стафан Баторый; магнаты і ўрадоўцы — Ян Кароль Хадкевіч, Дзімітры Палубенскі,

Астафей Валовіч, Леў Сапега, Міхаіл Гарабурда, Сямён Слуцкі; вядомыя навукоўцы і кнігадрукары — Ян Ліцыній, Албрэхт Кавячынскі; лекары — Барталян, Марцін Фокс, Лаўрэнціуш; прапаведнікі — Вендрагоўскі і Касцяніцкі; суддзі — Іван Маскевіч, Анікей Уніхоўскі, Мікалай Падароўскі; блізкія і сваякі аўтара.

Найбольш поўна ў творы пададзены вобраз жонкі мемуарыста — Ганны Балатоўны. Яе справы, паводзіны, учынкі ва ўсім узорныя: яна клапатлівая маці, цнатлівая жонка, яе сэрца ніколі не ведала злаблівасці і пыхі, заўжды са спачуваннем і міласэрнасцю яна ставілася да хворых, абяздоленых, паказвала прыклад канфесійнай цярплівасці. Пісьменнік ужывае прыём адкрытага, наўпроставага ідэалізавання Ганны Балатоўны праз пазітыўныя азначэнні: «В маетностисмы се з обу строн ровной знесли были, але з благословенства Божого была нам спора и помножаючаяся над працу и надею нашу. Мэлям з нею добру жонэ. Не уприкрыли ми се для ней дни живота моего, была бо вем у пригодах и хоробах сэрца мэжнего, цноты велкей. Пыха и зле мысли, снать, онэй нигды до сэрца не наступовали. Ку убогим, хорым и засмучоным людям упреймого милосердя, же и в ночи, спать не могучи, о таковых рятунку мыслила и старане чынила. А хоть у вере руской трвала, але так бачне и не упорне, же то намнейшей незгоды не указовало».

У «Гістарычных запісках» Ф. Еўлашоўскага яшчэ няма эвалюцыі характараў. Аўтар абмяжоўваецца кароткімі звесткамі, характарыстыкамі, у цэнтры яго ўвагі — выбітныя ўчынкі гістарычных асобаў (рыцарскія подзвігі, выданне кніг), характар заняткаў у пэўны перыяд, паведамленні пра заняцце важных дзяржаўных пасадаў, жаніцьбы і вяселлі, згадкі пра час, акалічнасці і прычыны смерці (быў забіты, памёр у гарачцы, затануў), дзень і месца пахавання.

У творы Ф. Еўлашоўскага падкрэсліваюцца асабістыя рысы персанажаў, пераважна пазітыўныя. Так, пра Яна Адахоўскага сказана, што ён «вельцэ чловек добрый». Князь Дзімітры Палубенскі, які загінуў у баі пад Дэрптам, — «чловек значне рыцерскі». Нядзведзіцкі ўрадовец Васіль Рагачоўскі — «чловек мудрый и велкего захованя у люди».

Да ліку адмоўных персанажаў «Гістарычных запісак» належыць жамойцкі кашталян Ян Нарушэвіч, яскравая характарыстыка якога вынікае з заўвагі, маўляў, пра яго можна толькі «с пострахэм велким успоминать», а таксама Таццяна Скуміна, жанчына «надта скупая», прагная да грошай.

У шэрагу выпадкаў аўтар дае агульную ацэнку дзейнасці гістарычнай асобы. Ф. Еўлашоўскі станоўча характарызуе плён жыцця і чыннасці вялікага князя і караля С. Баторыя, рэзідэнцыя якога колькі гадоў была ў Горадні: «Шкода кролю, жесь по велких працах, кторых ест се был з млодости приучил, и тэ лят килка Городном се у отпочиваню своим забавил. А моим зданем, где бысь звыклэй працэй уживал, еще бысь был далей потрвал. Але певней ведял то Пан Бог, чому так, а не иначей меть хтял».

Мастацка-кампазіцыйную аснову «Гістарычных запісак» утвараюць кароткія аповеды пра падзеі, што адбываліся ў Вялікім Княстве Літоўскім з 1566 да 1604 года. Яны падаюцца ў строгай храналагічнай паслядоўнасці. Выбар падзей у якасці аб’екта адлюстравання — яшчэ адна важная праява творчага метаду мемуарыста.

Адно з галоўных месцаў у творы належыць соймам, шляхецкім соймікам і з’ездам. У «Гістарычных запісках» знайшлі адбітак, у рознай ступені, падзеі васьмі вялікіх соймаў — Гарадзенскага 1568, Варшаўскіх 1570, 1572, 1578, 1602, элекцыйнага сойма 1575 г. у Стэнжыцы, Торуньскага 1576, Кракаўскага 1603, а таксама двух павятовых шляхецкіх соймікаў — Цырынскага 1592 г. і Наваградскага 1602 г. Пры абмалёўцы падзеяў соймаў аўтар падае час і месца іх правядзення, указвае канкрэтны дзень пачатку — «съем зачатый был стычня 20», дату апошняга пасяджэння — «докончил се тот сэйим 9 стычня 1580», або, зрэшты, называе агульную працягласць сойма ў тыднях — «и змешкавши там *три неделе* розехали се в розэрваню». Звесткі пра ўдзельнікаў, дэпутатаў і гасцей соймаў, а таксама прадстаўнікоў, паслоў, ад Наваградчыны займаюць значнае месца на старонках твора: «Потом в декабры был съем у Вашове, на котором пан *Андрей Тризна и я с повету Новгородского* послами были». Ф. Еўлашоўскі абавязкова ўказваў, ці прысутнічаў на сойме манарх, хто маршалкаваў (старшыняваў) у часе правядзення дыскусій, асабліва калі рэй вёў прадстаўнік Вялікага Княства Літоўскага — «На местцу кролевским арцыбискуп гнезненский Якуб Уханский седял», «Маршалковал межи послами *наш литвин*, князь Лукаш Болько Свирский». Аўтар пералічвае найбольш значныя выступы дэпутатаў, характарызуе змест прамоў, адзначае, на якой мове прамаўляліся выступы — лацінай, па-польску, па-беларуску.

У цэнтры ўвагі мемуарыста — палітычныя вынікі соймаў, прынятыя статуты, канстытуцыі, пастановы і юрыдычныя дакументы, асабліва тыя, над якімі яму самому як паслу даводзілася працаваць: «На сэйме тым, кром намов о кгданщах, ничого не справивши пожекгнали послове кроля его милость»; «И працовалисмы, пишучи Трибунал, яко ж увес написаный и корол его милость подписал его нам, але выдать се не могл без констытуцэий, кторей с того сэйму не было, толко унивэрсал поборовый». Між іншым, згадвае пісьменнік і пра прыватныя маёмасныя праблемы, якія ўдавалася развязаць на соймах яму асабіста ды ягоным знаёмым падчас сустрэчаў з вялікім князем, а таксама пра давядзенне да ладу тых судовых справаў, што дзеля розных прычынаў нельга было закрыць на павятовым або ваяводскім узроўнях.

На старонках «Гістарычных запісак» знайшла адлюстраванне мілітарная тэматыка, пераважна ў форме занатовак, асобных штрыхоў пра вайсковыя падзеі, паведамленні пра месцы знаходжання, дыслакацыю баявых харугваў: «Тое ж осени король его милость был з войском и в шиху под Радошковичами». Перамогу беларускіх харугваў над маскоўскімі заваёўнікамі пад Улаю ў 1564 г. пісьменнік называе

«шчаслівай», згадаўшы пра свой ўдзел у ёй: «А потом, за наступленем и поднесенем войны от короля его милости Жигимонта Августа с князем Иваном московским, былэм первшыи раз на войне, где и битва была нашим щаслива над москвою, року 1564, месяца генваря 26, на Иван-полю, над рекою Улою».

Мемуарыст фіксуе час вяртання замкаў і гарадоў, захопленых раней маскоўскімі войскамі: «Року того ж 80, вресня 5, король его милость под московским Луки взял был». Уласны вайсковы досвед аўтара спрычыніўся да стрыманых ацэнак вынікаў вайны, пазбягання ўсялякай яе гераізацыі.

У творчым інтэрпрэтаванні мемуарыста вайна — прычына шматлікіх бедаў, неверагодных чалавечых пакутаў, псіхалагічных стрэсаў, незлічоных стратаў. Яна не вядзе да станоўчых вынікаў. Аўтар упэўнена сцвярджае, што вайна не прыносіць карысці асобнаму чалавеку, і дапускае, што ад яе няшмат карысці для краіны: «А потом аж до уприкреня были ми частые язды на тые войны, а яко юж тераз упатруе, мало потребные, бо вем, же и речи посполитой пожитку не веле тэ войны приносили. А мне паметнэ зостали для утерпеня велких пригод, трудности, шкод и невыповеданых невчасов». Пазіцыя Ф. Еўлашоўскага набывае ледзьве не пацыфісцкую скіраванасць, калі ён дзякуе Богу, што той пазбавіў яго няшчасця ўдзельнічаць у чарговых вайсковых кампаніях.

Тэму міжканфесійных дачыненняў у Вялікім Княстве Літоўскім Ф. Еўлашоўскі раскрывае праз ідэалізаванне адносінаў паміж вернікамі розных веравызнанняў у мінулыя часы, калі яны маглі сустракацца і мірна весці супольныя справы, з павагай ставіліся адзін да другога. Пісьменнік называе той час «залатым векам»: «Для чого самого том тот век *злотым* ми ся види от нинейшого веку». Працягам гэтай добрай традыцыі, на думку аўтара, былі ягоныя шчыльныя кантакты з каталікамі — Янам Макавецкім, канонікам віленскім, і Баўтрамеем Нядзвецкім. Пры развязанні праблемы міжканфесійных стасункаў аўтар «Гістарычных запісак» ужывае публіцыстычны пасаж, у якім выказвае спадзяванне на тое, што ўлады Княства зробяць усё магчымае, каб не дапусціць грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе.

Ф. Еўлашоўскі не абышоў тэмы сацыяльных канфліктаў, на якія вельмі моцна хварэла тагачаснае грамадства. У творы яна адбілася ў форме аповедаў пра судовыя справы паміж магнатамі, шляхтай з-за маёмасных прэтэнзіяў, маральных траўмаў, крыміналу.

Міждзяржаўныя дачыненні паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам таксама знайшлі адлюстраванне на старонках «Гістарычных запісак». Аўтар асвятляе ракурс дыпламатычных зносінаў: маскоўскую місію 1567 г. на чале з Фёдарам Калычовым, Грыгорыем Нагім, Васілём Шчалканавым; вялікае сумеснае пасольства беларускага гаспадарства і Польшчы ў Маскву да Івана IV, у 1570 г., на чале з Мікалаем Тальвошам, кашталянам менскім, Андрэем Івановічам, пісарам, Янам Кратоскім і Рафалам Ляшчынскім. Мемуарыст у абавяз-

ковым парадку называе кіраўнікоў дыпламатычных місіяў, агульную колькасць гасцей — «сума всих людей 1225, а коней — 1629», галоўныя вынікі, дасягнутыя падчас перамоваў, не асвятляючы, аднак, ні характару дыскусій, ні абставінаў, пры якіх яны адбываліся.

Пісьменнік выдатна паказаў тагачасныя звычаі і рытуалы пры двары вялікага князя. Ён, у прыватнасці, перадае сцэну аўдыенцыі ў С. Баторыя князя Сямёна Слуцкага, які вітаў манарха арацыяй.

Ф. Еўлашоўскі — заснавальнік мемуарнага жанру і новай мастацкай традыцыі ў беларускай літаратуры, якая ў наступныя часы атрымала імклівае развіццё, істотна паўплывала на развіццё празаічных мастацкіх формаў.

«Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага — выдатная гістарычная крыніца, найкаштоўнейшы помнік нацыянальнай пісьмовай культуры.

*Іван Саверчанка*

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗАПІСКІ
*(урывак)*

Самому Пану Богу майму за ўсялякія яго дабрадзействы няхай будзе вечны гонар і хвала, дзякуючы клопатам якога і я, Фёдар Еўлашоўскі, нарадзіўся ад вышэйпамянёных родзічаў маіх у Ляхавічах у 1546 годзе ад нараджэння Сына Божага месяца лютага сёмага дня ў ноч з нядзелі на панядзелак. І дадзена мне было імя паводле свята праваслаўнага, якое было на той час у панядзелак месяца лютага восьмага дня, а ў рымлян прынята месяца сакавіка другога дня — Тэадора гетмана, Ліцыніушам замучанага.

А як меў звесткі ад родзічаў, што ў год пасля нараджэння майго прамовіў да бацькі майго «абба», чаму яны абрадаваліся. Але я потым нікольki не гаварыў, аж на чацвёртым годзе ад нараджэння майго пачаў гаварыць.

А на пятым годзе пачалі мяне бавіць навукаю рускаю, бо ў тыя часы ў той нашай старане не было яшчэ іншых навук. І таму прыйшлося мне застацца з рускай і польскай навукай і па-яўрэйску пісаць умеў. Але тое пісьмо іх патрабуе ведання яўрэйскай мовы або хоць нямецкай, бо ўжо цяпер Біблія яўрэйская нямецкай мовай і літарамі іх выдадзена, чаго польскай мовай зрабіць было немагчыма з-за пісьма, якога ў іншых мовах няма.

А потым, калі я падаўся на службу, траплялiся мне такія паны, якія мяне прыцягвалі да збору падаткаў і вядзення рахункаў,

убачыўшы, што я ад прыроды на тое здольны. А Пан Бог быў заўсёды са мною.

А потым, кароль яго міласць Жыгімонт Аўгуст калі распачаў вайну з князем Іванам Маскоўскім, я быў першы раз на вайне, дзе і бітва закончылася перамогай нашых над масквою. У 1564 годзе месяца студзеня 26 дня, на Іван-полі над ракою Улаю. А потым былі ў мяне аж да прыкрасці частыя паездкі на тыя войны, а як я цяпер бачу, малапатрэбныя, бо і рэчы паспалітай карысці няшмат тыя войны прыносілі. А мне засталіся памятнымі з-за вялікіх прыгод, цяжкасцей, шкод і невымоўных нягод, якія мне давялося перацярпець.

Самому Пану Богу слава, што мяне з усіх іх выбаўляць, а дакладней нават на некаторых месцах цудоўна ахоўваць меў ласку, даўшы мне, дапраўды, ва ўсіх людзей удзячнасць, ласку, зычлівасць звыш маіх спадзяванняў. А непрыяцеляў, якія некалі з зайздрасці ўзнікалі і галовы свае задзіраць хацелі, значнымі плягамі адводзячы, а настойлівых і са свету зжываючы, так што, дапраўды, такою ласкаю Божаю не толькі абаронены, але і распешчаны будучы, ніколі да абароны ад непрыяцеляў маіх не рыхтаваўся, не звяртаў увагі на іх словы, чакаючы ўласнай нашай помсты Божай, якая таксама ніколі не затрымлівалася. А іншы раз і ва мне самім аж плач і вялікае ўзрушэнне ў духу рабіла, памятаючы, што так усемагутны вялікі Бог не забывае мяне між незлічоным людам, як маленькага чарвячка, а не шкадуе згубы мацнейшых за мяне для маёй абароны.

У 1566 годзе жыў у месце Віленскім, збіраючы подаць, якая завецца пагалоўнай, дзе меў вялікую ўцеху, слухаючы Слова Божае ў зборы хрысціянскім ад міністраў вучоных Вендрагоўскага і Касцяніцкага.

А з-за няшчаснага выпадку зазнаў ласку мужа, дастойнага памяці, князя Яна Макавецкага, архідыякана варшаўскага, кусташа і каноніка віленскага, пісара ў скарбе караля яго міласці, які мяне хуценька навучыў вядзенню рахункаў і прынёс мне вялікую карысць і пазнаёміў мяне з многімі людзьмі, адрэкамендаваў мяне ім, бо на той час розніца ў веры не рабіла ніякай рознасці ў міласці прыяцельскай, з-за чаго той век залатым мне бачыцца (у адрозненне) ад цяперашняга веку, дзе ўжо і між адной веры людзьмі двудушнасць усё замяніла, а пагатоў між рознымі верамі ані пытайся пра міласць, шчырасць і сапраўдную добрую павагу. А найболей паміж свецкімі станамі.

Бо памятаю і нядаўна мінулыя часы, калі цяперашні папеж Клеменс яшчэ кардыналам быў у караля яго міласці Стафана.

[...] Сядзеў я за сталом у князя Баўтрамея Нядзвецкага, каноніка віленскага, з галоўнейшымі слугамі яго валахамі. Тыя ж, калі даведаліся, што я евангелік, дзівіліся вельмі, як смеў князь канонік запрашаць мяне на свой абед. А калі ім ён пераклаў, што ў нас з таго ніякая нянавісць не бывае і любім мы адзін другога, як добрыя прыяцелі, хвалілі тое валахі, мовячы, што тут Бог жыве, і ганілі свае хатнія законы, а дакладней сваркі.

О Бог бы тое даў, каб і цяпер ласкавейшыя вякі наступіць маглі, каб хрысціяне, хоць у частках або звычаях веры адрозныя, але ўсё ж хрысціяне вышэйстаячага і найвышэйшага манарха хрысціянскага, айца папежа ў лепшым ушанаванні мелі. А ім, як айцом мудрым і ласкавым улагоджваемыя да згоды і любімыя былі па прыкладу бацькі дамовога, які сыноў сваіх і розных (іншых людзей) ад сябе і ад іншай брацці ў звычаях паважаць умеў.

У 1566 годзе пошасць у Княстве была. У тым жа годзе вышэйпамянёным увосень пошасць гвалтоўная ў месце Віленскім была. Я жыў пры ім нямала, бачачы там доктара Сэрпца і іншых канонікаў і людзей розных нямала, якія таксама ў той пошасці засталіся былі жывымі. А маючы ад памянёнага доктара перасцярогу, каб між іншымі рэчамі асцерагаўся перапуду, бо дзеля спакусы паяўляюся там, дзе пошасць, але калі б што здалося, каб я паводзіў сябе насуперак таму бяспечна, не асцерагаючыся таго, і добра сябе не адчуваў, і тое павінна было згінуць.

І так я, прыняўшы для сябе рашэнне, едучы з Вільні дадому, менавіта ў Дорагаве, начуючы ў стадоле, ужо на світанні, убачыў у хаце агністага чалавека, да якога калі кінуўся, ён таксама ішоў да мяне і, сышоўшыся з ім сярод хаты, схапіў у запале нож і ўдарыў яго. А ён, знікнуўшы, у тым жа куце паказаўся і зноў ішоў да мяне. А я кінуў у яго шапкай і адчыніў акно, бо ўжо віднела. А тое згінула. А там, у хаце, быў гаспадар з жонкай і слуга дарожны. Але таго не чулі.

Потым я баяўся ехаць дадому, разумеючы, што заразіўся, таму вырашыў там бавіцца даўжэй, для чаго і прычына дробная знайшлася: згінула ў мяне была стрэльба кароткая з футаралам з воза майго ў стадоле, аб якой я рабіў расследаванне копным звычаем. А перш расказаў усім пра тую маю здань.

Потым убачылі стрэльбачку маю над возам у самым версе падвешаную, аж драбіну з вёскі прынёсшы, знялі яе.

Затым нявеста, старая шляхцянка неякая жаўнерава, калі я ёй гаварыў пра тую здань, і што, маўляў, баюся, каб дзе не заразіўся (бо і ў Наваградку была пошасць), яна мне кажа:

«Не бойся, не пошасць!» Але, паказаўшы недалёка сваю хатку, «З акна, — кажа, — бачыла, як нячысты прыходзіць да той нявесты гаспадаравай».

І так, будучы ёю перасцярожаным, ехаў я дадому, дзе з ласкі Божай разам з усімі быў здаровы. Адно ж потым, праз тры чвэрці года, пачало са мной у сне здарацца дужа прыкрае ўдушша. І называлі дактары тую хваробу інкубусам. І лячылі мяне ад таго ў розных месцах. Але, хаця ужо і не так часта, як было спярша, аднак жа цераз усё сваё жыццё адчуваю я ў сабе тую напасць.

У тым жа годзе (1566 — *У.С.*) на першыя рокі земскія на святога Міхала, а наваградскіх з-за заражанасці места Наваградскага ў Ляхавічах судзілі. А старостаю на той час быў ляхавіцкім пан Уладзімір Сямёнавіч Забалоцкі, знатнага роду чалавек з Масквы.

Года 1567, а веку майго 21-га былі летам у караля яго міласці Жыгімонта Аўгуста паслы вялікія маскоўскія, а менавіта, па імені: Фёдар Іванавіч Калычоў Умны, намеснік суздальскі, чалавек з ім 727, а коней 922; Рыгор Іванавіч Нагой, дварэцкі, людзей з ім 269, а коней 370; Васіль Якаўлевіч Шчалканаў, дзяк або пісар, людзей з ім 229, а коней 332. Сума ўсіх людзей 1225, а коней 1629, з якімі аб міры нічога не было вырашана.

Той жа восенню кароль яго міласць быў з войскам і ў пастраенні пад Радашковічамі.

Году 1568 пасля сойма Гарадзенскага і з’езда воінскага ехаў кароль яго міласць да Любліна для скончэння уніі. Адкуль у 1569 годзе на другім тыдні посту вялікага паны сенатары літоўскія, бачачы многа рэчаў, якія іх не задавальнялі, ад’ехалі былі з Любліна. Аднак жа пасля Вялікадня праз універсалы, з кароннай пячаццю выдадзеныя, зноў да Любліна сабраны будучы, завяршылі унію жніўня месяца 11 дня.

А перад тым яшчэ зямля Кіеўская, Валынская і Падляшская да Кароны прысуджаны і спісамі прылучаны былі не адразу, але паасобку, па адной зямлі ад Літвы адрываючы, як сведчаць прывілеі, ім даныя. У Падляшскай — найпершая дата, або дакладней анексія сакавіка пятага. Затым у Валынскай зямлі — дваццаць шостага дня мая. А Кіеўская зямля трохі далей затрымалася была, аж ёй прывілей выдадзена шостага дня чэрвеня ў тым жа 1569 годзе.

У 1570 годзе быў сойм у Варшаве, але раз’ехаліся без канстытуцыі з-за нязгоды. А ў той жа час паслы былі ў Маскоўскага (Івана. — *У. С.*). А менавіта з Польшчы — пан Ян з Борчына, Кратошскі, ваявода інаўроцлаўскі, пан Рафал

Ляшчынскі з Лешна, стараста радзееўскі. А з Літвы — пан Мікалай Тальвош, кашталян менскі, і пан Андрэй Іванавіч, пісар караля яго міласці, якія князю вялікаму маскоўскаму Івану Васільевічу аб заканчэнні уніі нашае паведамілі і перамір’е на тры гады прынеслі. Смяяўся маскоўскі ў адказ на паведамленне пра унію, кажучы: «Даўно я гэта ведаў, што ляхі і літва — каралеўскія».

У тым жа годзе я быў вярнуўся ненадоўга з Варшавы дадому летам і на пачатку восені зноў жа ехаў да Варшавы і жыў там усю восень, дзе пастаўляў наложніц на патрэбу караля яго міласці, хоць мне тая паслуга брыдзіла.

Прыехаў я дадому апошняга дня снежня ў 1570 годзе, дзе, застаўшы пана бацьку і пані маці за вячэрай, адразу ж не мог пасядзець за сталом. Напала на мяне моцная ліхаманка, бо ў дарозе меў пры сабе хворых людзей і заразіўся ад іх яшчэ ў Венграве. А праз тыдзень пасля гэтага ехаў, не паддаючыся (хваробе), аж мяне (яна) гвалтоўна дома зламала. І гэта была дзіўная справа Божая, што мне ў дарозе пастараўся зрабіць лягчэй. Ляжаў у той хваробе сем тыдняў, і за гэты час тройчы мне лепшала і горшала, прычынай чаго была неабачлівасць мая, як у маладым веку. Ледзьве выбіўся (з той хваробы) і пачаў папраўляцца перад Постам у 1571 годзе.

У тым 1571 годзе, пасля Вялікадня, ехаў я да Варшавы і жыў пры двары; аж 17 ліпеня ехаў дадому. І, пры ехаўшы да мястэчка, што завецца Добрым, захварэў на ліхаманку і загадаў везці сябе аж да Бранска, маючы там добрага чалавека, гаспадара Яна Манзіка, дзе даляжаў да прапацення і сканчэння той хваробы. А пані маці мая, не ведаючы аба мне, дзе я быў і што са мной дзеелася, але сэрцам мацярынскім чуючы тое, вельмі затурбавалася і здароўе сабе папсавала, асабліва пасля першых хвароб маіх і турбот сваіх значна здароўе сабе падарвала пры прыездзе маім дадому. Але пасля першага прывітання я быў засмучаны, бо разумеў, што жыць ёй засталося нядоўга. Аж пасля таго ў сакавіку мінулым век свой даканала.

А я яшчэ восенню той мусіў Варшаву наведаць, бо там кароль яго міласць Аўгуст жыў. А мне патрэбы караля яго міласці судовыя да выканання даручаны былі.

На пачатку 1572 года быў заняты патрэбамі яго міласці пана Мікалая Крыштофа Радзівіла, маршалка дворнага, князя на Алыцы і Нясвіжы і цяперашняга ваяводы трокскага. Каторых патрэб, як у пана вялікага, досыць было. Але мне больш за іншыя напрыкрала справа якогасьці Шахна, зямяніна яго кня-

жацкай міласці з маёнтка Свержанскага, які, пасварыўшыся з панам Мікалаем Служкам, старастам крычаўскім, суседам таго ж маёнтка Свержанскага, дзіўныя рэчы вытвараў і панам турбот набавіў, аж, на шчасце, яго міласць пан маршалак (асабліва як чалавек у маладым сваім узросце), даведаўшыся, з панам Служкам да роўнасці прыяцельскай прыйшоў і пану Шахну выказаў незадаволенасць.

А ад тых часоў заўсёды служыў патрэбам яго княжацкай міласці пана ваяводы цяперашняга трокскага, хоць потым не заўсёды свядома, аднак верна і пільна аж да тэй старасці маёй, у якой, а менавіта ў годзе панскім 1603, пішу і дзеткам сваім параду сваю пакідаю, каб пры мне і пасля мяне яго княжацкай міласці і дзеткам і сям’і яго княжацкай міласці па прыкладу майму служыць не адмаўляўся.

У тым 1572 годзе, дня 8 лютага, споўнілася мне ад нараджэння майго год 26 і настаў дваццаць сёмы.

У тым жа годзе нешчаслівага месяца сакавіка другога дня ў нядзелю на досвітку памерла наймілейшая маці мая Фядора, асіраціла, на вялікі жаль, пана бацьку нашага і нас, дзяцей іх мілых, цела якой з прыстойнаю пачцівасцю пахавана было ў Ляхавічах у царкве рускай.

А тут з-за смерці пані маці маёй сталася другі раз крушэнне маіх задум, былі: ехаць у Венгрыю і Турцыю, наведаць іншыя краіны далёкія, навучыцца рамёстваў розных, бо я быў засмучаны смерцю наступіўшай таксама і бацькі майго.

А потым жа з-за смерці пана бацькі майго і дзетак выхаванне, гадаванне або апека, дзетак іх, братоў і сясцёр маіх, на мяне зваліўшыся, пабываць у тых кутках свету мне не дазволілі.

У тым жа годзе месяца (назва месяца прапушчана. — *У. С.*) быў сойм вальны у Варшаве, але сам кароль яго міласць Аўгуст ужо быў хворы, таму ж там нічога не было вырашана. Быў і чавуш на сойме ад турка. Слухалі яго панове радныя самі, на месцы каралеўскім арцыбіскуп Якуб Уханскі сядзеў. Мовіў турак, слуга чавушаў, па яго (чавуша) указанні на турэцкай мове па латыні, і прызналі, што добра гаварыў. А пры адпраўленні яго чыніў яму адказ пан канцлер Валенты Дэмбінскі па-польску. І татарын наш падрыхтаваны хацеў яму перакладаць. Але чавуш не дазволіў, сказаўшы, што сам разумее па-польску. Многія людзі ўказвалі на тое, што туркі ў Парыжы французскім пільна латынь вучаць. А Божа мой, каб не пераносіліся да іх навукі , як пераносіліся раней ад адных народаў да другіх, што цяпер мы чуем аб вялікім навук размнажэнні ў панствах турэцкіх, хоць і многа хрысціян,

да турак прылягаючых, мовай іх турэцкай захапляліся. Хто ведае, да чаго тое Пан Бог прывесці пажадае ў свой час.

У той жа час кароль яго міласць пусціў фрымаркам у абмен на Свіслач Ляхавічы яго міласці пану Яну Хадкевічу, на той час старасту жамойцкаму, і ўзяў іх (Ляхавічы) яго міласць 12 чэрвеня ў тым жа 1572 годзе. Таксама ў той жа дзень чалавек паважаны, які паблізу Ляхавіч пражываў, Фёдар Юрага, памёр. Я быў у Варшаве пры двары, дзе таксама пошасць значна паяўлялася. Кароль не хацеў быў выехаць, аж дворня і на замку мерці пачала. Памерлі слугі Баліцкі і Канарскі, а чэрвеня 19 памёр князь Масальскі, які на той час быў у караля ў ласцы. Тады кароль яго міласць, напалохаўшыся, дазволіўў сябе вывезці на ноч да Прагі за раку Віслу, і так далей перавозілі караля ў возе вялікім, для таго зробленым з вокнамі, а ў ім ложак з каралём ляжачым вісеў. Прыехалі з ім так да Кнышына, дзе ён ледзьве з той ліхаманкі ачуняў.

Памёр кароль яго міласць Аўгуст у панядзелак, ліпеня 7 дня, а 18 гадзіне або трэцяй з паўдня, смерці якога не ўтойвалі, што чакалі, але зараз усім аб ёй аб’явілі. 8 дня ліпеня ў адзенне каралеўскае цела ўбралі. 9 ліпеня яшчэ без труны на стале пры сцяне ўсім людзям, хто хацеў бачыць, цела караля было паказана. 10 ліпеня цела было пакладзена ў труну. А з-за той смерці караля яго міласці і хваробы маёй засталіся лісты мае непадпісаныя, якія мне кароль яго міласць на маёнткі мне дадзеныя хацеў загадаць напісаць, што здарылася па прычыне вялікага майго няшчасця.

Пасля таго з’езды ў Польшчы і Літве бывалі. Паслы цэсарскія і іншых паноў прыязджалі. Пільна асцерагаліся разрыву туркамі адносін з Літвою, баяліся, каб Літва з Маскоўскім (царом Іванам Жахлівым) не змовіліся. І таму ж былі ад палякаў у Гародні пан ваявода падольскі, пан камянецкі, дзе дамовіліся аб прымальных выбарах. Апускаю я гэта, ведаючы, што гэта дастаткова апісана ў іншых. У тым жа 1572 годзе, бачачы пана бацьку майго асірацелага і вельмі з-за смерці жонкі сваёй засмучанага, радзячыся і дамаўляючыся з ім, пагадзіўся з ім, каб ён зрабіў ласку на якім епіскапстве дажыць свой век. Даведаўшыся аб вакансіі епіскапства Пінскага, я прыкладаў вялікія намаганні, не лічачыся з працай, выдаткамі, рознымі парадамі, бо ж тое ўсё для дабрадзея бацькі майго мілага быў абавязаны рабіць. Але, калі мне на выдаткі грошай не хапіла, быў такі няшчасны, бо тут, каля Ляхавіч у людзей тых, якім часта ў іх патрэбах дапамагаў, не мог дамовіцца аб пазыцы грошай. Аж ад каго менш надзеі меў, пан Андрэй Ждановіч Дароўскі, і пасля смерці няхай аб ім

добрае слова застаецца, што мяне грашыма быў выратаваў, і я тое епіскапства пінскае пану бацьку атрымаў, на якім ён у 1573 годзе снежня 18 дня ў Наваградку мітрапалітам Іонам Пратасовічам быў пасвячоны. Да Пінска прыехаў на сталіцу сваю 26 снежня ў панядзелак. За тыя рэчы няхай будзе навекі самому Пану Богу гонар і хвала, амін.

І так, адправіўшыся з Пінска, пачаў старацца аб набыцці (ўласнасці) у Тураве, дзе князь Канстанцін, ваявода кіеўскі, не дазваляў. З-за чаго зноў раз’ездаў і выдаткаў нямала быць мусіла. Быў у Тураве ў князя, і пакінуў (ён) мяне яшчэ на абедні. І так доўга затрымаў, аж у Кракаве, на каранацыі караля Генрыка ў 1574 годзе, калі я яму аказаў паслугу ў набыцці Астрога і іншых праз пана Ласкага, ваяводу Серадзкага, каралю Аўгусту закладзеных, таксама ж быў у Тураве пану бацьку майму зрабіць казаў.

Там жа, як быццам супакоіўшыся, пан бацька мой быў на той годнай сталіцы епіскапства Пінскага ва ўсялякай людской павазе, добрай славе і аздобе. Але нядоўга, бо ў 1574 годзе, будучы ў Тураве, упаў у хваробу і з паўгода ў ёй быўшы, памёр у Пінску ў 1575 годзе, 9 дня сакавіка ў сераду раненька, дзе пасля і цела яго пахавана ў царкве святой Прачыстай. А мне выпала выхаванне яго дзяцей і аплата многіх даўгоў яго. Але Пан Бог мой не пакідаў мяне і ў тых рэчах, для розуму майго цяжкіх, але мяне вельмі ратаваў і з усіх іх выбаўляць стараўся. Няхай будзе за ўсе дабрадзействы свае Пан Бог пахвалён навекі, аман.

У тым жа годзе памёр у Ляхавічах сын пана Віленскага, пан Яраш, гадоў, відаць, каля 15. А ў той маладосці сваёй поўны быў мудрасці і кемлівасці вялікай. Памёр таксама пан Андрэй Рыгоравіч Хадкевіч, падстолі Вялікага Княства Літоўскага, вельмі цнатлівы і рыцарскі пан, за якога вырашана было аддаць замуж ваявадзянку віленскую X (тут указаны толькі ініцыял. — *У. С.*) Радзівілаўну. Але гэта з-за той смерці было скасавана. І вылічыў нябожчык пан Віленскі, што гэта ўжо была на яго ведаме адзінаццатая пара людзей з дому іх хадкевічаўскага, якая, прыходзячы да параднення з домам радзівілаўскім, распалася.

У тым жа 1575 годзе ў маі, з’ехаўшыся панове і рыцарства да Сценжыцы, вырашыўшы абраць каралём Генрыка, больш ужо не чакаць, да выбараў новага пана (караля) прыступілі і, прабыўшы там тры тыдні, раз’ехаліся ў нязгодзе, нічога не зрабіўшы. Я ехаў па волі пана майго да мястэчка Острава, што знаходзіцца ля Любліна, на права, там з шляхтаю Казноўскімі ад іх братавае, дачкі годнага памяці мужа Стафана, мастаўнічага, бацькі цяперашніх суседзяў маіх паноў Вадашынскіх. А адтуль, едучы

да Берасця, перад Палюбічамі, быў у вялікім страху ад грому, так што мусілі мы пад частымі і грознымі перунамі, якія часта паміж намі білі, ехаць міль з паўтраця, не маючы дзе спыніцца. Потым, прыехаўшы дадому, быў у таго пана мастаўнічага, а менавіта ліпеня 24, у нядзелю. А між іншымі размовамі я прыпамінаў той страх ад грому, як мы нацярпеліся. Ён на гэта паведаміў, што яму яшчэ маладому ў Кракаве ад якогасьці прыезджага астролага прадказана, што меў мець смерць ад грому ў шасцідзесятым годзе жыцця свайго, але быццам яму ўжо з ласкі Божай год шэсцьдзесят мінула. І так пагладзіў сябе па барадзе. Ад чаго адчуў я ў сэрцы да яго жаль. І пытаю, ці баіцца ён, калі яму трапляецца аказацца пад навальніцай? Ён мне на гэта адказаў, што не дбае ніколі, і, калі будзе патрэба, будзе з душэўным збавеннем.

А праз дзесяць дзён пасля тых размоў і раз'ездзе нашым, а менавіта 4 жніўня, чацвер, таго пана мастаўнічага гром забіў у полі пад сасною, пад якую ён быў ад дажджу, пад'ехаўшы, стаў.

У тую ж восень быў пан Віленскі з войскам у Інфлянтах, забраўшыся ў Зэлборк. А я быў на Валыні і ў Алыцы. А па волі пана Стафана Лозкі, маршалка мазырскага, быў з ім у Бабіне, у шляхетнага мужа пана Андрэя Бабінскага, сасваталі мы за яго сястру пана Лозкі, панну Тамілу, у тым 1575 годзе, кастрычніка 18 дня.

У 1576 годзе, 8 лютага, споўнілася мне год трыццаць і настаў год трыццаць першы.

Паводка ў тым годзе гвалтоўная была. І трапілася мне прысутнічаць, калі перашкаджалі, каб не сарвала мост ля млына ляхавіцкага, названага Новым, дзе Януш-млынар, стаўшы на крайняй бэльцы, адбіваючы ў вадзе пешняю ледзяную крыгу. А за ім два халопы паленам вялікім з моста таксама таўклі лёд. І ўпусцілі той паль, які, выпаўшы ў іх з рук, ударыў Януша-млынара ў патыліцу. А ён упаў у ваду ў стаў. І адразу праз шлюз пранесены ўніз у глыбіню вялікую, і не хутка з яе паказаўся, несены далёка вадою, а пешню перад сабой трымаў у руках сваіх. Аж так і выйшаў з вады і неспадзявана для ўсіх нас, людзей, што там былі, жывым застаўся, бо немагчыма яму было ніякага ратунку даць.

Тым жа летам ад якогасьці Пацкевіча Сцяпана і Міхайла Зверава, масквіціна, і ад іншых непрыяцеляў маіх, якія шчасцю майму, хоць і малому, зайздросцілі, меў я немалыя турботы, з якіх мяне толькі Пан Бог, хвалы вечна годны, вызваляў.

У тым жа годзе, 11 верасня, быў на камісіі ў Менску. Паміж князем Саламярэцкім і местам Менскім была спрэчка вялікая. І там таксама Пан Бог абараніў.

5 кастрычніка выехаў з дому да Торуня і дабіраўся да Белай, дзе была справа вялікая яго міласці пану Радзівілу з апекунамі Цяцерскага за маёнтак Свержна. Адтуль ехаў я на Варшаву і быў у Торуні 23-га таго ж месяца кастрычніка. Там быў ужо кароль Стафан, які 15-га дня таго ж месяца прыехаў і сеймаваў. А цэсар Максімілян памёр 12 кастрычніка. На сойме тым, акрамя перагавораў аб гданчанах, нічога не справіўшы, развіталіся паслы з каралём яго міласцю 2 снежня. Я нямала спраў судовых меў (вырашаць) з каралём яго міласцю, і шчасціла мне з ласкі Божай.

Пазнаёміўшыся таксама з каралём Стафанам і яго венграмі, якіх найчасцей панове да сябе на абеды запрошвалі. І памятаю я: Закейды Януш, Барыці Юргой, Нодах Петэр, Баторы Петэр, Бурноміса Януш, Кэнды Петэр, Вяржэвіч Марцін, паляк Мігал, кухмістр Крычэк, і слугі Ферэнцый і Сэмерый.

Там жа ў Торуні прывітаў Новы 1577 год, а ў ім прыехаў дадому ў нядзелю 13 студзеня. А стомлены ўжо будучы працамі і цяганінамі пастаяннымі, памятаючы таксама пра волю і загад Бога ўсемагутнага, уступіў у шлюб святы з цяперашняю жонкаю маёю Ганнаю Балатоўнаю, сястрою пана Данілы Балотавіча з Русі ў тым жа годзе 10-га лютага, продак якіх, чалавек значны, яшчэ пры каралю Казіміру з Масквы быў прыехаў, на імя Антоній Балота. І быў слаўным мужам, і нашчадкі яго праз час немалы. А іншыя з іх, разрадзіўшыся, разышліся розна і, пад панамі некаторымі аселасці баярскія пабраўшы, як быццам у Шклове і яшчэ недзе жывуць.

Маёмасці мы з абодвух бакоў пароўну знеслі былі, але з благаславення Божага была нам спор і памнажалася яна больш, чым мы працавалі і спадзяваліся. Меў я з яе добрую жонку. Не напрыкралі мне для яе дні жыцця майго, бо была ў прыгодах і хваробах сэрца мужнага, ноты вялікай, пыхі і злыя думкі, відаць, ніколі да сэрца не ўступалі. Да ўбогіх, хворых, засмучаных людзей любага міласэрдзя была, так, што і ўночы спаць не могучы, аб такім ратунку мысліла і старалася. А хоць у веры рускай была, але так уважна і не цвёрда, што гэта найменшай нязгоды не выяўляла.

І людзі ведаць таго не маглі. Тым жа болей, гледзячы на наша спакойнае, ціхае і вясёлае жыццё, у зайздрасць упадаючы, размовамі сваімі няпраўдзівымі нас даймалі, і рознымі спосабамі іншымі, а, нарэшце, і чарамі перашкодзіць гэтаму стараліся.

Але Пан Бог, які мяне пасвіў аднаго самога, не занядбаў мяне і з тою жонкаю маёю, і не кідаў нас на волю непрыяцеляў нашых. Але іх саміх рознымі плягамі даймаючы, як ад скалы, ад нас адпаўшымі і пасаромленымі рабіў. А нас з ласкі сваёй найсвяцейшай у дзетачках памнажаў, а менавіта найперш на вялікую ўцеху даў нам першароднага сына Яраша. А потым іншых сыноў і дачок, так што да цяперашняга 1604 года, як я гэта пішу, стала ў мяне сыноў 9, а дачок пяць, з якіх ужо маем Яраша, сына нам мілага, жанатага з дачкой пана Станіслава Петрашэўскага, а дачку нашу Раіну замуж за пана Яна Грушаўскага выданую, аб чым будзе ніжэй, потым, на месцы сваім шырэй.

У тым годзе я заставаўся ў доме пана яго міласці, часцей за ўсё жыў у Ляхавічах.



# МЯЛЕЦІ СМАТРЫЦКІ

*(каля 1572 — 1633)*

Мялеці (Максім) Сматрыцкі — выдатны беларускі пісьменнік, філосаф і таленавіты лінгвіст эпохі Барока. Яго бацька — Герасім Сматрыцкі, першы рэктар Астрожскай школы. Пачатковую адукацыю М.Сматрыцкі атрымаў у Астрожскай школе, затым вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, пазней у Ляйпцыгскім і Вітэнбергскім універсітэтах. Нейкі час служыў настаўнікам пры двары князёў Саламярэцкіх, выкладаў у школе Віленскага Святадухаўскага брацтва, займаў пасаду рэктара Кіеўскай брацкай школы.

Жыццёвы і творчы шлях М. Сматрыцкага быў надзвычай плённым. Пісьменнік пакінуў надзвычай багатую літаратурную і навуковую спадчыну, ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх празаічных, вершаваных і філасофска-публіцыстычных твораў на беларускай, польскай і лацінскай мовах.

Першы твор М. Сматрыцкага — палемічны трактат «Антыграфі» (1608), напісаны ў адказ на «Гармонію» І. Пацея і страчаны твор, які меў тытул: «Ерасі, ігнараванні і палітыка папоў ды мяшчан Віленскага брацтва». Трактат М. Сматрыцкага ўключаў прадмову і сем аб'ёмных раздзелаў, якія засведчылі выдатны палемічны талент аўтара.

Другі значны твор М. Сматрыцкага — «Трэнас» (1610), напісаны надзвычай пафасна ў абарону Праваслаўя. Твор прысвечаны князю М. Вішнявецкаму. Дзякуючы шырокай эрудыцыі і бліскучаму літаратурнаму стылю аўтара, «Трэнас» атрымаў вялікі розгалас у краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

У 1616 г. у перакладзе на старабеларускую літаратурную мову М.Сматрыцкі выдаў зборнік хрысціянскіх павучанняў пад тытулам: «Евангелле павучальнае» (Вільня, 1616) з уласнай прадмовай.

Глыбокі знаўца антычнай і заходнееўрапейскіх культур, няўрымслівы прапагандыст кніжных ведаў, М. Сматрыцкі прадоўжыў асветніцкія традыцыі папярэднікаў і ў 1619 г. надрукаваў сваю «Граматыку», якая справядліва лічыцца найвышэйшым узорам філалагічнай думкі ўсяго славянскага свету часоў Барока.

У 1620 г. пабачылі свет літаратурныя шэдэўры М. Сматрыцкага — празаічнае «Казанне на смерць Лявона Карповіча» і яго вершаваны адпаведнік — «Лямант на смерць Лявона Карповіча».

Пасля аднаўлення праваслаўнай мітраполіі ў 1620 г. і нападак на яе з боку уніятаў М. Сматрыцкі апублікаваў шэраг палемічных твораў у яе абарону. Ён распачаў палеміку 5 красавіка 1621 г. публікацыяй «Верыфікацыі нявіннасці», затым надрукаваў «Абарону Верыфікацыі» (1621) і «Апендыкса на Экзамен Абароны Верыфікацыі» (Вільня, 1622).

У 1622 г. адбылася літаратурная дуэль паміж М. Сматрыцкім і уніяцкім пісьменнікам А. Сялявам. У якасці працягу папярэдняй дыскусіі М. Сматрыцкі апублікаваў «Эленхус», у якім дакараў уніятаў за распальванне сацыяльнай варажнечы і за тое, што яны чыняць бязбожныя ўчынкі — «нацкоўваюць падданых на паноў, а паноў на падданых», чым «абвастраюць сэрцы ўсіх жыхароў Вялікага Княства».

6 снежня 1622 г. М. Сматрыцкі апублікаваў «Юстыфікацыю нявіннасці», адрасаваную непасрэдна Жыгімонту Вазу, а ў 1623 г. «Суплікацыю» — ліст да сенатараў і дэпутатаў Вальнага Сойма. Паводле свайго зместу «Юстыфікацыя нявіннасці» і «Суплікацыя» — звароты да найвышэйшых урадоўцаў і дзяржаўных дзеячаў. Але гэтыя творы — не шэраговыя канцылярскія дакументы з сухой інфармацыяй. Яны з’яўляюцца бліскучымі літаратурна-публіцыстычнымі працамі, глыбокімі філасофскімі трактатамі і неацэннымі гістарычнымі крыніцамі. «Юстыфікацыя нявіннасці» і «Суплікацыя» справядліва могуць лічыцца апагеем публіцыстычнай творчасці М.Сматрыцкага, скіраванай у абарону Праваслаўя.

Пасля наведвання ў 1623—1624 гг. Канстанцінопаля М. Сматрыцкі нечакана для многіх падтрымаў ідэю новай Уніі і праект утварэння самастойнай велікакняскай Патрыярхіі, пад уладай якой планавалася аб’яднаць усіх вернікаў усходняга абраду. М. Сматрыцкі неўзабаве стаў адным з галоўных абаронцаў ідэі паяднання.

Пасля трох год таемнага супрацоўніцтва з Я. Руцкім — уніяцкім мітрапалітам, М. Сматрыцкі 21 жніўня 1627 г. публічна абвясціў свае намеры. Пісьменнік звярнуўся з лістом да канстанцінопальскага патрыярха (быў апублікаваны пры жыцці аўтара і захаваўся да нашага часу), у якім заклікаў найвышэйшую духоўную асобу спрыяць задзіночанню вернікаў усходняга абраду Вялікага Княства Літоўскага з мэтай утварэння Патрыярхіі. Тэарэтычныя аспекты новага пагаднення М. Сматрыцкі разгледзеў у трох фундаментальных філасофска-багаслоўскіх трактатах — «Апалогіі» (1628), «Аб шасці адрозненнях у вучэнні Усходняй і Заходняй Цэркваў» (1628) і «Катэхізісе» (каля 1628). Шляхі і сродкі практычнага задзіночання праваслаўных і уніятаў знайшлі адлюстраванне пераважна ў ягонай перапісцы з Я. Руцкім, а таксама ў палемічных творах — «Пратэстацыя» (1628) і «Парэнэзіс» (1629).

Выключныя літаратурныя здольнасці М. Сматрыцкага як *літаратара-белетрыста*, майстра мастацкага слова найбольш поўна раскрыліся ў празаічным «Казанні на смерць Лявона Карповіча», разгорнутых прадмовах і прысвячэннях, а таксама ў шматлікіх белетры-

заваных устаўках, змешчаных у складзе палемічных і аналітычных трактатаў.

На старонках эпічных твораў М. Сматрыцкі стварыў яркія вобразы станоўчых і адмоўных герояў свайго часу, абмаляваў тып ідэальнага чалавека і тып грэшніка. Так, галоўны герой казання — Лявон Карповіч паўстае як выключна станоўчая асоба. Вось як пісьменнік характарызуе Л. Карповіча ў празаічным казанні з нагоды яго пахавання: «Кламства, фалшу, здрады, подступку, потвары, пыхи, самолюбства, лакомства, зазрости, речий добрых ненависти отинюдь не знал. Скромность зась, трезвость, покора, людскость, укладность, склонность, литость, милость, а наособливей — щирость, правда и любовь в души его вечное собе мешкане услалы».

М. Сматрыцкі апрацоўваў і падаваў у складзе сваіх твораў разнастайныя гістарычныя аповеды. У «Трэнасе» ён распавёў пра буйнейшыя шляхецкія і княжацкія роды, якія да 1610 г. пакінулі Праваслаўе. Сярод названых ім — князі Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыскія, Пронскія, Ружанскія, Саламярэцкія, Крашынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны, а таксама шляхецкія сем'і — Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храптовічы, Трызны, Гарнастаі, Бокія, Мышковы, Госцы, Сямашкі, Гулевічы, Ярмолінскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Багавіцінавічы, Паўтовічы, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі ды інш.

У «Суплікацыі» М. Сматрыцкі дэталёва апісаў падзеі ўваходджання ў 1569 г. ў склад Польшчы — Кіеўшчыны, Валыні, Падолля, а таксама пра хаўрус праваслаўнай шляхты велікакняскіх земляў з польскім народам, у чым, вядома, была значная доля гістарычнай праўды.

М. Сматрыцкі пакінуў выдатную *паэтычную* спадчыну. Захаваліся яго эмблематычныя вершы: «эпіграмы» на герб Канстанціна Астрожскага, князёў Агінскага і Валовічаў, а таксама «На старожитный клейнот их милостей княжат Соломирицких» і «На старожитный клейнот их милостей панов Ходкевичов», у якіх паэт раскрывае сімвалічную сутнасць гербавых знакаў, узносіць дабрачыннасці і выказвае ўдзячнасць мецэнатам выданняў.

М. Сматрыцкі стварыў вершаваны «Лямант на смерць Лявона Карповіча» (1620) — жамчужыну беларускай барочнай паэзіі. У плачы прысутнічаюць тры героі: нябожчык, асоба, якія ўслаўляе дабрачыннасць памерлага, а таксама блізкі, родны чалавек нябожчыка. Аўтар часам гаворыць ад свайго імя, смуткуе, перажывае і суцяшае. Дзякуючы гэтаму неардынарнаму спалучэнню дасягалася зліццё ў адзіную мастацкую тканку лірычнага і драматычнага пачаткаў, а частыя і шматлікія пытанні ды воклічы стваралі ўражанне непадробнага смутку і жалобы.

Цэнтральнае месца ў «Ляманце...» належала галоўнаму герою, ідэальнаму чалавеку — Лявону Карповічу. Для абмалёўкі героя паэт часцей за ўсё выкарыстоўвае прыём непасрэднага ўслаўлення аўтарам

асабістых добрых якасцяў Л. Карповіча. Часта сам герой разважаў пра сапраўдныя каштоўнасці жыцця.

Галоўную вартасць Карповіча аўтар «Ляманту...» бачыў у тым, што той надзелены душэўнымі «шчадротамі», быў добрым і незласлівым: «У дабрыні — шчодрым, у злосці — скупым». Заўсёды клапоцячыся аб людзях, ён дапамагаў ім, абараняў ад ворагаў. З выключнай пяшчотай, паводле слоў паэта, Карповіч адносіўся да сваіх бацькоў: аддана любіў іх пры жыцці і не пакінуў без увагі пасля смерці — пачціва пахаваў, выканаў неабходныя абрады. Бязмежна паважаў ён сваіх духоўных настаўнікаў, старанна і ўважліва вучыўся ад іх, усё сказанае імі глыбока западала ў яго душу і сэрца. Дасканала авалодаўшы навукамі, Карповіч стаў незаменным пастырам, духоўным бацькам для многіх людзей. Без зайздрасці і абурэння рабіў ён добрыя справы, захоўваў пасты, паважаў святыя дні і святы, выпрабоўваў сваю духоўную сілу ўсяночнымі малітвамі, спавядаўся ў грахах. Шмат сілаў аддаваў барацьбе за чысціню Царквы, мужна пераносіў усе пакуты, што выпалі на яго долю. Сярод іншых служкаў Царквы Карповіч выдзяляўся асаблівым стараннем у справядлівых, богаўгодных справах, клапоцячыся пра бедных і ўбогіх, усяляк дапамагаючы ўдовам і сіротам.

М. Сматрыцкі, ствараючы ў «Ляманце...» грамадскі ідэал, нязменна адзначаў: Карповіч — найсумленнейшы чалавек, усе яго памкненні, думкі і справы заўжды шчырыя, дзякуючы яму, ніхто і ніколі не зазнаў духоўнага голаду, яго высакароднага сэрца хапала на ўсіх.

М. Сматрыцкі выкарыстоўваў арыгінальны мастацкі прыём — зварот нябожчыка да жывых. Вуснамі Карповіча, які звяртаецца з павучаннем да дзетак, М. Сматрыцкі даводзіў неабходнасць сумленнага жыцця, адданага служэнне Богу, шанавання бацькоў, павагі да гаспадароў, праўды ў словах, сціпласці ў паводзінах, памяркоўнасці ў пачуццях. Ён папярэджваў маладое пакаленне аб небяспецы ўлады цялесных страсцей над духам. Ні ў якім разе, гаварыў ён, нельга дазваляць гэтаму «дзікаму коніку» авалодаць сабою. І галоўнае, нягледзячы на маладосць, сілу і здароўе, неабходна памятаць пра непазбежнасць смерці і ўвесь час рыхтавацца да яе.

Надзяляючы Карповіча рысамі ідэальнага чалавека, аўтар «Ляманту...» неаднаразова паўтараў, што ў жыцці заўсёды неабходна прытрымлівацца веры, праўды, набожнасці, святасці, пазбягаць цялесных грахоў, хваробаў, абжорства, «азябласці» душы, «нядбальства». Яму хацелася б убачыць, як людзей назаўсёды пакінуць «гора», «свар», «няміласць», «здрада», «хлусня», «зневажэнне гонару».

Ствараючы ў сваіх вершах узор для пераймання, паэт папярэджваў, што ў Дзень Страшнага Суда ў пякельным агні будуць гарэць ганарліўцы, зайздроснікі, хітруны, няверныя, абжоры, п’яніцы, забойцы, жорсткія злодзеі, рабаўнікі, разбойнікі, нячыстыя, прагныя, пралюбадзеі, ілгуны, клятвапарушальнікі, блюзнеры. Ніхто з іх, рытарычна падкрэсліваў М. Сматрыцкі, не выйдзе з пекла. Страшная расплата за непазбежнае пакаранне, якое чакае ўсіх, хто выракаецца

царквы і не захоўвае агульначалавечых маральных нормаў, павінна была напалохаць чытачоў і слухачоў выклікаць у іх страх, скарыць, паставіць на калені.

Адметная рыса «Ляманту…» — апісанне псіхалагічнага стану героя. Унутраныя перажыванні, духоўны дыскамфорт, пакуты сумлення сталі аб'ектам пільнай аўтарскай увагі. У плачы шматкроць сустракаюцца ўласцівыя літаратуры Барока апісанні «цяжкіх стогнаў», «сардэчных боляў», пакутаў і гора, якія суправаджаліся рыданнямі «асіpацелых».

Характарызуючы Карповіча, паэт выкарыстоўваў адмысловую лексіку, шматлікія метафары і сімвалы, называючы героя — «бацькам стада», «сынам царквы», «маткаю сірот і ўдоў упалых», «сполбратам вялікіх і малых», «усіх вочы», «рукі», «жродла», «рака даброці», «нядошлае бяздонне».

На старонках «Ляманту…» М. Сматрыцкі ўздымае праблемы сацыяльнай няроўнасці, заклікаючы да партнёрства і дыялога станаў. Паэт разважае пра прыроду багацця і беднасці. Так, на яго думку, Бог, убачыўшы паганства і злосць у сэрцы адных людзей, не даў ім багаццяў, бо яны, з іх дапамогаю, нібыта ажыццявілі б свае д'ябальскія намеры. Тыя ж, хто атрымаў багацце, павінны памятаць пра нэндзных і ўбогіх. Праз міласціну багатыя маглі зменшыць свае грахі. Выкупляючы першародны грэх, багатыя не павінны цешыцца сваімі «добрымі» ўчынкамі — сцвярджаў паэт-гуманіст. Яны мусяць рабіць дабро гэтак, як рабіў яго Сын Божы Ісус Хрыстос і як робяць яго сапраўдныя хрысціяне.

М. Сматрыцкі асуджае несумленныя шляхі набыцця скарбаў, заклікае ўсіх хрысціянаў — гаспадароў і падданых — да стараннай працы. Ён бэсціць лянівых, называе ляноту «д'яблавым насланнём», не шкадуючы чорных фарбаў, крытыкуе ліхвяроў, якія жылі за кошт працы іншых.

У «Лямансе…» адно з галоўных месцаў займала ключавая філасофская тэма «жыцця» і «смерці». Чалавечае жыццё паказваецца ў творы адпаведна з распаўсюджаным уяўленнем пра часовасць, спарахнеласць, нікчэмнасць усяго існага. Зямное быццё ва ўсведамленні М. Сматрыцкага — агіднае, яно нагадвае знаходжанне ў «вогненным пахілым даму», у якім «дах сыплецца», «сцены бурацца». Сумленным людзям, лічыў паэт, доўгае зямное жыццё прыносіць незлічоныя пакуты, бо яно — толькі часовае знаходжанне духу ў плоці. Смерць паглынае грэшнае цела, ператварае яго ў «труп зямны», вызваляючы Божую душу для вечнага жыцця. Пры апісанні чалавечага цела аўтар «Ляманту…» ужывае найчасцей толькі адмоўныя фарбы, што дыктавалася прынятымі тады эстэтычнымі прынцыпамі, згодна з якімі шукаць асалоду і ўцеху належыць не ў атлетычна прыгожым і гарманічна развітым целе, а, наадварот, у агідным і брыдкім. Пагарджэнне ўсім цялесным, аскетызм плоці, вярыжніцтва — вось тое, што, на яго думку, з'яўлялася сапраўдным ідэалам жыцця.

Шчасце, лічыў паэт, не ў тым, каб прадоўжыць дні свайго існавання, а ў тым, каб пражыць адмераны час з карысцю для людзей. Можна пражыць і сто год і адзін дзень з аднолькавым вынікам — сцвярджаў вуснамі галоўнага героя паэт. Доўгі век не мае сэнсу, калі чалавек чыніць зло і беззаконні. Сапраўднае богаўгоднае жыццё не ў задавальненні дробязных запатрабаванняў, а ў актыўнай духоўнай дзейнасці, бо толькі панаванне духу над целам пазбаўляе ад страху смерці. Сутнасць чалавечага існавання ў дабрачынных справах: толькі той пражывае сапраўднае жыццё, хто кожны дзень чыніць дабро.

М. Сматрыцкі прытрымліваўся сярэднявечнай ідэі: «жыццё — тэатр, людзі — акторы ў ім». Усё мінае, «марнасць-марная» пануе ў зямным свеце.

У «Ляманце…» нязменна гучаў матыў непазбежнасці смерці. Адносіны да смерці ў паэтычным ўсведамленні М. Сматрыцкага былі супярэчлівымі. З аднаго боку — выяўленне гора і смутку, з другога — адчуванне радасці ад хуткай магчымасці трапіць у Божае Царства, знайсці ў ім вечны спакой. Паводле аўтарскай канцэпцыі, смерць — не катастрофа, яна зусім непазбежная і натуральная з'ява быцця. Сапраўдны хрысціянін павінен спакойна аддавацьсябе ў яе рукі, спадзеючыся на тое, што ён трапіць у вечнае Божае Царства. Менавіта ідэя вечнага тагачаснага жыцця прыносіла суцяшэнне паміраючаму, давала яму сілу без боязі і перадсмяротных пакутаў пакінуць жыццё. У адваротным выпадку, калі ўяўленне пра тагачаснае жыццё падлягала сумневу, трагічнае адчуванне смерці набывала ярка выражаны характар. Плачы і «стагнанне» з нагоды смерці апраўданыя толькі ў тым выпадку, калі нябожчык быў выключна неабходны ў зямным жыцці для іншых людзей, калі разам з яго смерцю знікаў узор служэння Богу. Але адносіны паэта да смерці заставаліся пераважна пагардлівымі.

Імкнучыся вытлумачыць прычыны таго, чаму добрыя, прыстойныя служыцелі царквы паміраюць заўчасна, М. Сматрыцкі абапіраўся на біблейскае меркаванне, згодна з якім існуюць тры прычыны заўчаснай смерці дзеячаў царквы: непадпарадкаванне «статка» свайму духоўнаму пастыру, ганенні з боку «ерэтэкоў» і несупраціўленне вернікаў д'ябальскаму ўплыву.

Для М. Сматрыцкага, як паэта Барока, невычэрпнай крыніцай натхнення з'яўлялася народная вусна-паэтычная творчасць з яе шматвяковымі традыцыямі. Невыпадкова ў «Ляманце...» паэт шырока выкарыстоўваў звароты да сілаў прыроды: сонца, ветру, зямлі, нябёсаў — прыём здаўна ўласцівы фальклору.

Выхаваны на ідэях Рэнесансу, які сінтэзаваў культуру Антычнасці і Сярэднявечча, М. Сматрыцкі шырока звяртаўся да рымскай міфалогіі, што прыводзіла да арганічнага суіснавання ў яго творчасці хрысціянскіх і паганскіх матываў. Напрыклад, уяўленне аўтара «Ляманту...» пра магчымасць з дапамогай багінь страгрэцкай міфалогіі — Клоты, Лахесы, Атропы — падоўжыць зямное жыццё відавочна ўступала ў супярэч-

насць з царкоўна-хрысціянскай дактрынай, якая тлумачыла паходжанне і залежнасць усіх рэчаў і з'яваў ад адзінага Бога.

Імкнучыся дасягнуць максімальнага ўздзеяння на чытача, М. Сматрыцкі вельмі шырока выкарыстоўваў сімваліка-метафарычныя сродкі. Да прыкладу, сімвалічным сэнсам напаўняліся такія паняцці, як «чаша», «дрэва», «мутная вада», «каса», «меч», «трубы», «карабель», «корань», «вуж», «голуб» і інш. Метафары выкарыстоўваліся пераважна для характарыстыкі галоўнага героя. На старонках «Ляманту…» М. Сматрыцкі ужываў характэрную лексіку, выкарыстоўваючы найбольш часта словы: «трывога», «журбота», «слёзы», «уздыханне», «плач», «страта», «боль», «жаль», «смутак», «смерць», «гора», «стагнанне».

Вялікае значэнне ў «Ляманце...» надавалася параўнанням, часта складаным і шматпланавым. Узорам адметных параўнанняў з'яўляюцца супастаўленні пакутаў тых людзей, што засталіся жыць, з пакутамі і мукамі парадзіхі, а таксама «блуду помыслаў» з «густой пушчаю». З мэтаю дасягнення мастацкай выразнасці, прастаты і даступнасці выкладання паэт нярэдка ўжываў народныя показкі і прымаўкі: «смерць у зубы не глядзіць», «з друга вораг, з брата воўк». Дакладныя і арыгінальныя эпітэты, удала выбраныя параўнанні, метафары, сімвалы безумоўна прадвызначылі высокі мастацкі ўзровень твора.

«Лямант на смерць Лявона Карповіча» атрымаў шырокае распаўсюджанне на беларускіх землях. Прычына папулярнасці заключалася ў яго адметнай ролі ў тагачаснай ідэйна-палітычнай барацьбе, унікальным мастацкім патэнцыяле, моцным ўздзеянні на эмоцыі чытачоў і слухачоў. Услаўляючы вялікага Творцу, панарамна асвятляючы богаўгодныя справы нябожчыка, паэт выкарыстоўваў шырокі арсенал існуючых сродкаў мастацкага абагульнення, усю сілу свайго таленту, узбагачаючы і развіваючы літаратурную форму «казанняў на смерць», адкрываючы новыя магчымасці асэнсавання рэчаіснасці. Акрамя неацэнных эстэтычных вартасцяў «Лямант на смерць Л. Карповіча» мае вялікую гісторыка-культурную каштоўнасць, ён вельмі маштабна адлюстроўвае стан духоўнага і сацыяльнага жыцця грамадства таго часу, раскрывае характар ідэйных, філасофскіх і эстэтычных пошукаў у беларускай літаратуры эпохі Барока.

У многім, дзякуючы якраз паэтычнаму таленту М. Сматрыцкага, літаратурныя плачы вылучыліся ў самастойны жанр і занялі выбітнае месца ў беларускай і ўкраінскай літаратурах эпохі Барока.

М. Сматрыцкі выявіў сябе як надзвычай таленавіты *публіцыст і філасаф.* У поглядах на грамадства ён кіраваўся гуманістычнымі прынцыпамі. Пры гэтым, як прадстаўнік хрысціянскай духоўнай культуры, М. Сматрыцкі дазвання адкідваў нормы паганскай этыкі. Ён наагул не прымаў антычнага культу фізічных уцехаў, славы, багацця і нагароды, дзеля якіх старажытны чалавек, не задумваючыся, ахвяраваў жыццём. «Погане, — пісаў М. Сматрыцкі ў прадмове да «Евангелля павучальнага» — при самой толко з цноты походячеи теню славы, и то

барзо короткій час, взглядом вечности застали, Бога не доступили... они маетности и здорове взглядом дочаснои славы в отвагу пускати за утеху мели». Ён раіў будаваць жыццё на іншым фундаменце — на знітаванні з Богам, роўнага якому паводле надзейнасці і трываласці не існуе.

Вельмі важнай для кожнага чалавека М. Сматрыцкі лічыў *свабоду*. У «Юстыфікацыі нявіннасці», цытуючы старажытных мудрацоў — Дыягена, Плутарха ды інш., ён стварыў сапраўдны гімн Свабодзе, перадусім свабодзе сумлення, вольнага выбару чалавекам веры і канфесійнай прыналежнасці: «Салодкая, вельмі салодкая Воля! Дзеля яе можна ахвяравацца не толькі маёмасцю, але й самім жыццём!» М. Сматрыцкі бясспрэчна меў рацыю, калі сцвярджаў: «Воля — гэта жыццё паводле агульнапрынятых законаў, а не паводле капрызаў валадароў». Лічачы волю сама каштоўным дарункам прыроды, ён катэгарычна не прымаў тыраніі — неабмежаванай улады адной асобы. Яго ідэал — прававая дзяржава, такая супольнасць людзей, дзе пануюць права і закон.

На старонках публіцыстычных твораў М. Сматрыцкага неаднаразова гучала тэма фармавання *літаратурнай мовы*. У «Прысвячэнні Ганне Хадкевічаўне» («Евангелле вучыцельнае», 1616) ён абгрунтаваў ідэю перакладу твораў айцоў Царквы на «простую» мову. Паводле яго меркавання, царкоўнаславянская мова стала «малакарысная», не задавальняе духоўных запатрабаванняў вернікаў у адрозненне ад «простай» мовы, на якой казнадзеі павінны навучаць людзей, і не розным «дышкурсам» ды «незразумелым таямніцам веры», а рэчам патрэбным у штодзённым жыцці. «Кгдыж то ест каждого хрістіанского казнодеи повинность не дишкурсы о непонятных веры таемниц скрытостях строити, — пісаў М. Сматрыцкі, — але воли и приказням Бозским простых и неуких людей учіти. Бачный и мудрый казнодея не славы з быстрости довтепу своего у слухачов, але самого, в збавеню их, пожитку шукати, и на оную, выбраного начиня Божаго, повест, иж пят слов вырозуменым, а неж тмами непонятым языком (в науце звлаща до народа) мовити пожитечнейшая реч ест, помнети повинен. И найкоштовнейший або вем в землю закопаный клейнот, хоть старане до найденя себе порушает, пожитку однак жадного утаенною скрытостю своею не чинит». Усебакова абгрунтаваная прапанова М. Сматрыцкага смела выкарыстоўваць беларускую літаратурную мову ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і царкоўнага, з'яўлялася гістарычна найбольш перспектыўнай.

М. Сматрыцкі прапанаваў уласнае тлумачэнне фундаментальных канцэптаў *жыцця і смерці* людзей у залежнасці ад характару іхных паводзінаў і скіраванасці ўчынкаў. У «Казанні на пахаванне Лявона Карповіча» (1620) ён вылучаў найперш тры праведныя віды жыцця — «прыроджанае», «ласкі» і «славы», да якіх, паводле ягонай схемы, стасаваліся лёгкія формы смерці — «прыроджаная», «цноты» і «адчаю» («изступленія»). Затым ішлі два няправедныя віды жыцця — «сэнсаў»

(«смыслов») і «жыцейскі», якім адпавядалі пакутлівыя, цяжкія формы смерці — «граху» і «геены». Прапанаваная М. Сматрыцкім абагульненая схема тыпаў жыцця і смерці відавочна досыць штучная. Яна каштоўная, аднак, як першая спроба класіфікацыі і сістэматызавання мнагастайных паводзінаў і ўчынкаў чалавека эпохі Барока.

На старонках твораў М. Сматрыцкага знайшла адлюстраванне вострая грамадская дыскусія вакол пытання аб тым, хто мае права прызначаць на царкоўныя пасады ў Княстве — манарх або вышэйшая духоўная асоба Усходняй Царквы — канстанцінопальскі патрыярх. Выступаючы ў абарону ўзноўленай праваслаўнай мітраполіі, М. Сматрыцкі ў сваіх творах даводзіў, што першынства ў прызначэнні на царкоўныя пасады бясспрэчна належыць патрыярху, а вялікі князь як найвышэйшы ўрадовец абавязаны ў кожным разе фармальна пацвярджаць ягоны выбар. «Духоўны сан, паводле царкоўнага і свецкага права, — сцвярджаў М. Сматрыцкі у «Верыфікацыі нявіннасці», — можа быць атрыманы толькі з рук канстанцінопальскага патрыярха». Аргументуючы сваю думку, аўтар «Верыфікацыі нявіннасці» прыгадаў шэраг царкоўных пастановаў: шосты канон першага Сусветнага Сабора, другі і чацвёрты каноны другога Сабора, восьмы канон трэцяга Сабора, 28 канон чацвёртага Сабора. Права вернікаў усходняга абраду мець сваіх мітрапалітаў гарантавалася, паводле слушнага сцверджання М. Сматрыцкага, Прывілеямі 1600, 1607 і 1609 гадоў, Соймавай Канстытуцыяй 1607 г. і Трыбунальскімі Дэкрэтамі 1605 і 1609 гг. Аўтар «Верыфікацыі нявіннасці» відавочна памыляўся, калі пісаў, што ў Каталіцкім Касцёле біскупскія пасады раздаюцца без манархавай прэзентацыі. Гэтае сцверджанне, як і публікацыя асабістых лістоў Жыгімонта Вазы, а таксама сенатара Станіслава Жалкоўскага, кароннага канцлера і гетмана, да ерусалімскага патрыярха Тэафана, сталася аб’ектам крытыкі з боку апанентаў.

М. Сматрыцкі, не пагадзіўшыся з Я. Руцкім, у «Абароне Верыфікацыі» настойліва даказваў, што прызначэнне праваслаўнага мітрапаліта патрыярхам, узнаўленне праваслаўнай мітраполіі — цалкам законны крок. Ён гэтаксама адкінуў усе абвінавачанні на адрас праваслаўных і выказаў свой погляд на праблемы, што дыскутаваліся раней у літаратуры канца XVI — пачатку XVII ст.: аб духоўным праве канстанцінопальскіх патрыярхаў на вялікакняскія землі, аб прыняцці жыхарамі ВКЛ Хрысціянства з Усходу. «Што да Літвы , — пісаў М. Сматрыцкі, — дык няма аніякага сумневу: напачатку Хрыстова вера была тут прынятая з Усходу. Першая жонка літоўскага князя Альгерда Вулляна (дачка віцебскага князя) і другая Марыя (дачка цвярскога князя) належалі да праваслаўнага веравызнання. Пад іхным уплывам і Альгерд схіліўся да Праваслаўя. У Віцебску ён змураваў дзве багатыя бажніцы: адну ў Ніжнім замку, а другую за Ручаём. Дзяцей, якіх меў ад Вулляны і Марыі, Альгерд ахрысціў паводле праваслаўнага абраду».

Тэма дачыненняў паміж Усходняй Царквой і Каталіцкім Касцёлам, паміж вернікамі розных канфесій — адна з асноўных у творчасці М. Сматрыцкага. У творах, напісаных ў «праваслаўны перыяд», ён

бараніў гонар усяе Усходняе Царквы, абгрунтоўваў асноватворныя ідэі праваслаўнай рэлігійнай дактрыны, у тым ліку неабходнасць захавання старога (юліянскага) календара, незалежнасць патрыярхаў ад Рыма ды інш.

У «Апендыксе на Экзамен Абароны Верыфікацыі» (Вільня, 1622) М. Сматрыцкі адкінуў неабгрунтаваныя прэтэнзіі уніятаў да Віленскага праваслаўнага брацтва, падкрэсліўшы законнасць ягонай дзейнасці па ўзвядзенні бажніцаў, заснаванні школаў, шпіталяў і друкарняў у Вільні ды іншых гарадах Вялікага Княства Літоўскага. Глыбока заклапочаны лёсам Праваслаўнай Царквы, аўтар «Апендыкса...» звярнуўся з палымянай прамовай да Я. Руцкага і уніятаў. «Вы, — усклікваў ён, — нашу святую, старажытную веру з грудзей вырываеце! Мандатамі, баніцыямі, інквізіцыямі, камісіямі ды дэкрэтамі задворнымі малога кола тэрарызуеце нас, няславіце і ганьбіце... Гвалтам пазбаўляеце нас права вольна здзяйсняць набажэнства, зачыняеце цэрквы, хапаеце прэсвітэраў ды без усялякіх падставаў пазбаўляеце духоўных пасадаў».

Канкрэтнымі праявамі несправядлівацi і бяспраўя М. Сматрыцкі назваў уціск праваслаўных, пазбаўленне іх «адвечных правоў, свабодаў і вольнасцяў». Звяртаючыся ў «Суплікацыі» да шляхты і сенатараў, ён заклікаў іх быць міласцівымі, «працягнуць руку дапамогі пакрыўджаным і зганьбаваным». Наракаючы на нешчаслівы лёс праваслаўных, аўтар «Суплікацыі», перапоўнены пачуццямі, пісаў: «Наш праваслаўны народ заплаціў за вольнасці і свабоды сваёй крывёю. Не шкадуючы жыццяў, праваслаўныя сваімі персямі шматкроць баранілі Айчыну ад ворагаў».

У колішнія часы, паводле ягонай слушнай заўвагі, вялікія князі і каралі — Казімір, Ян Альбрэхт, Аляксандр, Жыгімонт І Стары, Жыгімонт Аўгуст, Генрых Валуа і Стафан Баторый — шанавалі сваіх падданых, высока цанілі і не раз адзначалі заслугі праваслаўных перад Айчынай; ім, прынамсі, ніколі не забаранялася мець свайго мітрапаліта і епіскапаў, падпарадкаваных духоўнай уладзе Канстанцінопаля.

Грубым парушэннем прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці М. Сматрыцкі назваў манархаў загад аб арышце ерусалімскага патрыярха Тэафана, нічым не пацверджаныя абвінавачанні яго ў антыдзяржаўнай дзейнасці, нібыта падбухторванні праваслаўных жаўнераў (казакаў) да збройнага выступу і асабліва выдумкі пра шпіёнства патрыярха на карысць турэцкіх султанаў. На думку М. Сматрыцкага, вялікай памылкай было б расцэньваць пасвячэнне патрыярхам праваслаўных на духоўныя пасады як абразу манарха. «Патрыярх не меў ні ў думках, ні на сэрцы, каб нейкім чынам зняважыць Жыгімонтаву ўладу», — пісаў Мялет у «Юстыфікацыі». Сапраўды, пасвячэнне адбылося без манархавай прэзентацыі, але ў гэтым, лічыў ён, вінаватыя тыя, хто незаконна пазбавіў праваслаўных магчымасці мець сваіх духоўных пастыраў. Парушэнне аднаго закону пацягнула за сабой ланцуг іншых парушэнняў: «Дзе фундамент бурыцца, там і сцены мусяць упасці». М.Сматрыцкі запэўніваў, што ні ён, ні патрыярх, узнаўляючы права-

слаўную мітраполію, не шукалі ўласнай карысці, а толькі «дбалі пра вечныя рэчы».

У творах «праваслаўнага перыяду» М. Сматрыцкі шырока асвятляў дыскусіі па праблеме прыярытэту паміж двума цэнтрамі Хрысціянства — Канстанцінопалем і Рымам. Ён не згаджаўся з канцэпцыяй дамінавання Рымскага біскупства над усім хрысціянскім светам. Для палемічнага адказу, які даў абаронцам папы рымскага таленавіты майстар слова М. Сматрыцкі, характэрная грунтоўнасць і ўсебаковасць. У трэцім раздзеле свайго славутага «Трэнаса» ён дэталёва прааналізаваў пазіцыі прыхільнікаў ідэі першынства папы рымскага і доказна адкінуў аргументы апанентаў. М. Сматрыцкі таксама лічыў памылковым сцверджанне, нібыта рымскім біскупам належала права склікаць Сусветныя Саборы. Гэта, паводле яго меркавання, не адпавядала рэчаіснасці, вынік празмернай ганарлівасці і прэтэнзіяў на валоданне не толькі нябесным, але й зямным. «Каб пераканацца, што тое права належала імператарам, а не біскупам, — пісаў ён, — чытай пра падзеі першага Сусветнага Сабора». Падмацоўваючы сваю думку, ён на некалькіх аркушах «Трэнаса» падаў шматлікія вытрымкі з старадаўніх крыніцаў па царкоўнай гісторыі.

У сваім знакамітым «Трэнасе» М. Сматрыцкі таксама адкінуў папрокі на адрас Усходняй Царквы і, што вельмі істотна, зняпраўдзіў усе «12 адшчапенстваў», несправядліва прыпісаных ёй каталіцкімі і уніяцкімі пісьменнікамі. Сярод жа «грахоў» Усходняй Царквы яе апанентамі называліся: дзейнасць «ерэтыкоў» Арыя, Несторыя, Яўціха, Македонія, манафелітаў, яўнаміянаў, навука патрыярха Фоція пра крыніцу выпраменьвання Святога Духа, усталяванне адметнага чынення Хрыстовай Вячэры ў часы імператара Канстанціна ды інш. М. Сматрыцкі прааналізаваў кожнае з «адшчапенстваў» паасобку і аргументавана давёў, што адказнасць за разбурэнне царкоўнае лучнасці нясе Рым, а не Канстанцінопаль.

Пазней, у «Абароне Верыфікацыі», М. Сматрыцкі прыйшоў да высновы пра бессэнсоўнасць міжканфесійнай барацьбы і паказаў велізарную шкоду для дзяржавы і народа нутраных забурэнняў. Няспынныя канфлікты паміж праваслаўнымі і уніятамі, а таксама непаразуменні паміж свецкімі і духоўнымі станамі, паводле яго пераканання, абяскроўліваюць гаспадарства, шкодзяць умацаванню Хрыстовай навукі, «спрычыняюцца да глыбокага заняпаду нашага зацнага народа».

У «Юстыфікацыі нявіннасці» і «Суплікацыі» выразна выявіліся, аднак, і светапоглядныя абмежаванні М. Сматрыцкага. У перыяд, калі ідэя фармавання адзінай палітычай нацыі жыхароў ВКЛ усё больш станавілася панавальнай, а рэгіянальны патрыятызм пад уздзеяннем цэнтралізацыйных чыннікаў саступаў месца агульнадзяржаўнаму, ён пачаў настойліва гаварыць пра падзел адзінага народа паводле канфесійнай прыналежнасці на «рускіх» — праваслаўных і «літвіноў» — каталікоў, чаму, напэўна, не ў малой ступені паспрыялі гістарычныя фантазіі М. Стрыйкоўскага.

М. Сматрыцкі закрануў вострую ва ўмовах тагачасных грамадскіх рэаліяў тэму стасункаў паміж верай і добрымі справамі. Пісьменнік наагул прыйшоў да высновы, што адно без другога не можа існаваць, вера без добрых справаў — мёртвая, бо толькі па ўчынках можна меркаваць пра глыбіню веры. Крытэрый веры — справа, а не словы.

М. Сматрыцкі імкнуўся вытлумачыць прыроду дабра (дабрадзейства, цноты) і ліха. Так, ён даводзіў, што крыніца цноты — вера ў Госпада Бога і ягоную невымерную моц. Той, хто не верыць у Бога, сцвярджаў філосаф у «Прысвячэнні Б. Саламярэцкаму» — не чалавек, а монстр і няшчасная істота.

Такім чынам, М. Сматрыцкі ўнёс значны ўклад ў развіццё нацыянальнай літаратуры, філалагічнай і філасофскай думкі. Гуманістычныя ідэі беларускага інтэлектуала эпохі Барока і сёння надзвычай актуальныя.

*Іван Саверчанка*

## ЛЯМЕНТ У СВЕТА УБОГИХ НА ЖАЛОСНОЕ ПРЕСТАВЛЕНІЕ СВЯТОБЛІВОГО А В ОБОИ ДОБРОДЕТЕЛИ БОГАТОГО МУЖА, В БОЗЕ ВЕЛЕБНОГО ГОСПОДИНА ОТЦА ЛЕОНТІЯ КАРПОВИЧА, АРХІМАНДРІТА ОБЩІА ОБИТЕЛИ ПРИ ЦЕРКВИ СОШЕСТВИЯ СВЯТОГО ДУХА, БРАТСТВА ЦЕРКОВНОГО ВІЛЕНСКОГО, ПРАВОСЛАВІЯ ГРЕЧЕСКОГО

Поведают же: радость в след за смутком ходит,
А з утехи, з веселя фрасунок ся родит.
Ведлуг слова псалмисты: «З вечера плач будет,
Рано радость настанет, свет смутку забудет».
На том умысл, мысль моя с довтепом устает,
Згола ли то всем, во всех и завжды бывает.
Таковы абовем подчас на чловека
Жали, смутки бывают, же их и довека
Ледве может забыти албо и неколи.
Кгды му штодня новыи в сердцу родят боли.
Речій, альбо персоны, в которих кохане
Свое мевал по Бозе, любое уфане
Кгвалтовная, наглая, по мусу утрата,
Отца, матки, сыначка единого, брата.
Там, где мило, всих очи. Где болячо, руки.
Хто вымовит, якіи терпят матки муки,

Кгды ся з плодом в утробах недозрелым коят,
Хотячи их вывести в живот, жывот ронят.
Большій нам жаль, срожший боль, тяжейшая мука,
В одной отаца особе зо всеми розлука.
З отцем стада, з маткою сирот, вдов упалых,
З сыном церкви, з сполбратом великих и малых.
Обы нам Бог дал очи, где отец наш, мети,
Были быхмо з щасливых щасливіи дети
Невымовный фрасунок в души, в серцу маем,
Много мыслій, як почать плакати, не знаем.
Чили як бы перестать, бо вже плачем много,
И над меру, не в меру, а еднак ничого.
Плач наш, плач всих, плач Церкви, плач сирот, вдов болю
Не уймуют, и овшем зо всих речей молю.
До внутрности, до души громадами сыплет,
Ах стогнане тяжкое, аж за серце щиплет.
Первей воды слезами твари умываем,
Первый хлеба вздыханем душу посиляем.
По молитве «Отче наш» отца, дети, плачте,
Учителя учневы слезами урачте.
Споведника — грешныи, побожныи — раду,
Ялмужника — нищіи, ах пастыра стаду.
Мнишеского з прикладу побожности, цноты,
З праци, чутя, молитвы, день и ноч роботы.
Але, ох нам, што живо и хто одно Богу
Верит, выйми, просим вси, з души, з сердца трвогу.
Для початку ляменту, принамней, для трену
Мужа святобливого, свет ли взял отмену.
Же ся з блуду помыслов, як з пущи густое,
Выблукати не можем? Чиль жаль броит тое,
Што в том же в нас и неба, елемента, твари,
Без литости (боль мовить) зготовали мари.
Так зацному, чудному, святому человеку,
Утявши му пред часом, без часу нить веку.
Повежте нам, небеса, чи он вас злым словом,
Помышленем образил, в розмысле здоровом?
Чи не так вам звыкл мавять: «Неба, небес Пана
Пойте в хвале, вам сличность от него ест дана!»
Чи на тебе негодне, Солнце, глядел, справу
Дай нам: умел он Богу з тебе мети славу?
Повтрея, чи вас зле уживал, скажите,
Елемента, справтеся, мовте, не молчите.

Земле, повеж, чи тебе он топтал негодне
З молодых лет до селе, скажи нам сегодне.
Хто ж, хто знает до него? Жаден з вас не скажет.
А чому ж так от всех вас опущене стражет?
Так ли ему вси вдячность за его послуги
Отдаете, будучи повинни, як други.
Задержати силами своими здоровье:
З друга ворог, з брата волк — старое послове.
Чи вас, парки (елисте у Бога такими,
В живот и смерть можными з силами своими),
Образил чим? Над меру питья и еденя?
Торовал он за всех вас дорогу збавеня.
КЛОТО, в першых срокгая, чомуж ся схилила,
Двигаючи дух его, чомусь упустила?
Безбожная ЛАХЕСИ, и ты сь его нити
Не хотела до конца статечне довити.
Тыранская АТРОПО, чомусь перервала
Клубок веку живота, якобысь не знала,
Же нам много на его житле залежало?
Што вам его от смерти боронить пристало,
Тосте его выдали, от всюль опустили
И нам есте, сестрички в том не подружили.
Чи што годного тебе, о слепая смерти,
Рек, учинил? Могла бы с вжды очи продерти.
Иж тот тебе неколи не боялся, бачил,
Правда, але так сам Бог зезволити рачил.
Прейзревши то от веку, немся в свет облуды,
Дочаснои, марнои, достал на вси труды.
Кресу назначоного термину, годины
Минуть трудно, престанте лямент той детинный.
Не престанем, и еще с жалем речем, пане
(А уфаем, же с того греха не достанем).
Жродло, реко доброти, недошлая бездно,
Доброе сь все, як добрiй створил неизследно.
Напочатку нечого не далесь нам злого,
Добрым зразу невинным чловека самого
Учинилесь, хотелось, же быть в доброи добрiй
Раю, свете жил, в доброть завжды былесь щодрiй.
В злости скупым, нищачи злыи речи злого
Человека, доброго для себе самого
Ховаючи, для добрых, як за веков старых.
Злыи прудко гинули, добрiи лет трвалых

Дознавали тысячами, мели за каране
В полвеку смерть, з душею, з сим светом розстане.
О што тя твой коханый пророк и кроль, Боже,
Просил колись, слезами покропивши ложе,
Хотяй беды (мовячи) штоденныи муки
Терплю, пред ся в полвеку боюся розлуки,
Не бери мя пред часом. Тот без часу сходит,
Который сам сходячи, другого не родит.
В раннем веку заправды и наш отец милый
Сшел, хотячи выдати з душевнои силы
Церкви Божой потомство духовное з роду.
Умер, недозрелого, недошлого плоду.
Добрым нам был. Доброго чому, добрій Боже,
Взялесь от нас без часу? Хто оплакать може?
Потребным был. Чому ж той нас бедных потребе
Не погадаеш, знаючи, же о земном хлебе
Живы быти не можем, присмаков потреба,
Наук твоих духовных, небесного хлеба.
На пожиток света — свет, все а все створене
Далесь, пожиточного на наше збавене.
Чому ся отнял? А звлаща, иж таких о мале,
Которіи б так честно, так побожне стале
Жили, люд твой учили. О всесилный Боже?
Судбы твоих таемниц, хто познати може?
Отца, матку наболей росказалесь чтити,
Хотячому на земли долголетне жити.
Чи наш отец родичов обоих, по теле
И по духу, не умел шановати! Смеле
Мовим, же был послушным, як Исак Авраму,
Уставичне готов был бы в огонь и яму
На кинене родичов, которих учтиве
Сам погребши, жил по них чисто, святобливе.
То телесных. Духовных як цаловал следы,
Несытым был их наук, их цнот, их беседы.
Слова, шкрипта, образы, живот их пред очи,
В мысли, в душу и сердце клал во дни и в ночи.
Ова згола зовсем был добрим нам, всем, свету
Атоли юж доброго межи нами нету.
Знать для злостій, для грехов, за негодность нашу,
Тот церковный учитель, перед часом, чашу
Смертную пьет, без часу и в силах устает.
Домовых всех, подручных и нас напавает

Горкопамятливого пелынного плачу.
Оле плачу, мы плачем, а в плачу не бачу,
Доступим ли утехи, хто подставит мехи
Под зреницы крвавыи? Немаш нам утехи.
Полны домы, улици болю, ох, стогнаня,
Полны куты жалости, полны нареканя.
Ах, ах, всюды по стежках. Церковныи стены,
Бо мовити умели, плакали б от мены.
Вдячно милых голосов, трубы золотой,
Побожного прикладу, з науки святой,
Чого учил. Заисте сам чинил пред всеми,
Без зависти, без гневу з обчими, з своими
Жил на свете за светом, научил постити
Дни святыи, праздники чесно обходити,
На всеночных молитвах трвати нетескливе,
Хутне ходить до церкви, жити святобливе.
Грехов споведатися, таемниц Христовых
Заживати начастей справил был готовых.
Што у наших пред леты было неподобно,
На то душу и сердце отдал всех сподобно.
Да того нас, як добрый, добре был заправил,
Добрыи Боже, всесь то сам в нем през него справил.
А того ж, так доброго, от нас одыймуеш,
Добрій Боже, чому нас над меру фрасуеш?
Для трех причин пред часом добрій з света сходит,
Мовит мудрец, зосталцем горкій смуток родит.
Пренегодность невдячных. И мы признаваем,
Жесмо его не были годными. Пытаем:
А могла ж быть отмена в нем? Тому не веру.
Гоненіе ль тяжкое на правдивых веру
Повстать мело, а ему сь того оглядати
Не хотел дат? Умел он при вере стояти,
Других утвержаючи, готов быть на раны,
Будучи раз о неи вязенем скараный.
Емусь, Боже предобрій, по его желаню
Дати рачил, нас еси зоставил в вздыханю.
Его сь душу от смерти вечнои избавил,
Нас есь повседневнои всех смерти набавил.
Очи его з слез плачу вызволилесь, Кролю,
Нам початок до плачу, початок до болю
Учинилесь. А ноги его з послизненя
Уболнилесь. Певен ест своего збавеня

Пред тобою, пред твоим маестатом в небе.
Будь милостив, Боже наш, и нашой потребе
З его молитв. Леч, Боже, хто может поняти
Судбы твои? Мысль наша мусить в них устати.
Его душа, як пташок, от тенет таемных
Ловцов ушла, порвала сети засад земных,
Нашла себе мешкане, голубица тиха,
Гнездо в небе. Леч наша, ах, терпила лиха,
От дня, часу розстаня души его з тела,
Так есть смутна, жебы з ним умереть волела.
По утрате вдячного его сполкованя
Не устает в жалосным ляменте гуканя,
На дереве зеленых утех не сядает,
Водою ся мутною жалю напавает,
На остаток ищучи конец плачу дати,
Прагнет вечне при тоби опоце зостати.
Леч, о Боже милости, Боже злитованя,
З жалостного не рач ся ображать стогнаня.
Не можем ся утулить, не можем забыти
Его, тебе зо всех справ годне похвалити.
Тяжкий в том боль, трудная до згоеня рана,
Таемница розумом людским не подана.
Штось то у нас под сесь час на вечный жаль справил?
Жесь, нас, сирот убогих, в хлеб слова зоставил.
Як их много на свете, што смерти жадают,
А вжды еи в старости згривелой не мают.
Не суть тобе, ни собе, ни людем, ни свету
Потребными, згожими, еднак смерти нету.
Сто лет и болш в слепоте, в глухоте другіе,
В ослабеню сил члонков тягнут лета зліи.
Сесь чтырдесту от роду не дошол зуполна.
Оле, смерти срокгая, то жесь неумовна,
Неумовна и слепа. Чему сь на нас радней,
Люб одного, люб колку не зострила снадней
Косы свои зядлая, на жоны, на дети.
Которим смерть за живот, негде ся подети.
Тяжар земли незгожій, хлебы дармо псуем,
О жалости, о болю, тепер тебе чуем.
Тепер знаем, як была солодка и смачна
Манна его науки, ах душе невдячна,
По утрате доброго доброботь познаваеш,
Рада бысь му тепере, прожно ся змагаеш.

По забитю баранка вонтробы ядали,
Живого ся жидове палцем дотыкали.
Так по смерти пророков их писма науки
Вспоминавти почали, читать, брати в руки.
Вспомним и мы, леч не в час его напомненя,
Поднебеню нашему горкіи збридзеня,
Аппетыту кламного, з суменя заразы,
Иж нас громил, оттинал душевные сказы.
Наметности, налоги, духовные тревоги
Тлумил, губил, прилоги, просто до дороги
Збавенной провадил. Боже, што сь урадил,
Жесь нас з мыслми нашими так сродзе повадил,
Же сь згола отняти им ни утулити
В жалю своем не можем. Што ж далей чинити?
Плакать смутне, а вплачу знову к тобе слово
Реклесь бовем просити з верою. Готово
Все у меня наидете. Беда ж нам, чи мало
Плачу, прозбы, слез, лканя от церкви бывало
За живота хорого по Давыдску праве.
Судбы твои, Боже наш, дивны и в тои справе.
Аврааму для пяти перед леты, Пане,
Хотелось дать в Содоме свое змилование.
Чи не было при нашои церкви пяти, Боже,
Справедливых, з которих одни свое ложе
Струменем слез горячих омывали,
Другіи сна в тескници очам не давали.
А вждысь то все як творец предивныи пребачил,
В прозбах наших подобнось зезволить не рачил.
Исусови Наввину на битве з чужими
Будочому, под вечор с променми своими
Солнцу над бег врожоныи росказалесь стати,
Пятнадцать лет кролеви рачилесь придати
До живота, для панства и для полепшеня.
Промысльнику добр наших, людского збавеня,
Владцо смерти, живота, слушне б и Леону,
Под час войны противных схизмы, Гедеону.
На схилку лет и света, еще посветити
Должей троха, поки бы мог выкоренити
Злости з сердца озяблых, поки бы направил
Житло наше, до веры кгрунтовне заправил,
Овы еще хоть пять лет досыть быхмо мели,
Далей быхмо о твою ласку просить смели.

Не постав нам, Боже наш, за грех нареканя
    (Жаль наш мовить), не кар нас з такого баданя:
Боячимся сыновско тебе, Творца-Бога,
    В долгій живот певная бывала дорога.
Хто над него пристойней, прилежней и милей
    Тебе любил, дивился твоей чудной силе!
Ты сам сердца скритости чловечіи знаеш,
    Члены, мозкги, внутрности, кости проникаеш.
Ведать рачиш о его подвигах, о потах
    В начнодневном стояню, о працах, роботах,
Як в винници церковной, з паствы повереня,
    Всех нас, своих, своего впрод шукал збавеня.
Якое он о нищих, убогих старане
    Мел, о вдовах, маючи и сам выховане
З жебранины нендзной. Гроша не брал в руки,
    О ялмужну при дверях не терпел докуки,
Хто попросил, казал дать остатнюю шату,
    Копу разом и што мел упалому брату.
Мел в реестре, в памяьим всех бедных, зболелых,
    Слал, навежал штотыдень вдов, осиротелых.
Кгды рек шафар: «Не маш што» — дивился невере.
    Ялмужнику, подобне Іоанну в той мере,
Так был щодрим. А ведь же голоду неколи
    Не узнали, братія, з так доброи воли.
А того так доброго, Боже вечный, хвалцу,
    Огороду своего и добр твоих справцу,
Взялесь от нас. Если же для личбы чиненя?
    Выличался он штодня з своего сумненя.
И нас к тому провадил, абыхмо впрод спаня,
    З помыслов, з слов, з учинков чинили баданя.
Если будеш рахунок з него за нас брати,
    Для его цнот, молимся, не рач нас карати,
Бо был добрым шафаром, урадником верным,
    В дарах твоих был гойным, в страфованю мерным,
Знал час, меру, особу, коли коли хлеба,
    Кому мякких потравок, легких было треба.
А тому так мудрому, Строителю-Боже,
    Перед часом смертнее далесь услать ложе,
Елементом, живелом, попрадухом ниток
    Сил душевных, телесных. А што ж за пожиток
З умерлого, Боже наш? Зали может хвалу
    Давать тобе? Живым ест, видит мою славу,

И молится за вами. Бо пред ним уснулым
Святым моим, за родом о собе нечулым,
Спикрилося просити. Нового причинцы
Потребуют давніи до мене безчинцы.
Не стыскуите, абовем он ваши потребы
Отправует, готует на ваш голод хлебы
В земли живых окфітой, а для наполненя
Личбы з веков презраных поднял смерть усненя.
О, если так, Боже наш, мней плакати будем,
Его, себе, в молитвах, никгды не забудем.
Отче, отче, потщися (поневажесь в славе
Святых божих) меть печу о нас. О забаве
Сегосветнеи ведаеш клолпоты, фрасунки,
Знаеш беды, утиски, припадки, трефунки,
Былесь з нами над нами старейшинство в духу
Духовных справ маючи. Добрую отуху
При надеи маемо, же нам болш поможем
Молитвами своими, в бедах нас вспоможеш.
Причиняйся, молися, молимся о стаде
Своим, чине церковном, о домовом раде
И о нашом пристрастном дочасном мешканю,
О забвеньи, абрыхмо по рихлом везваню
Были годни местечка, хотяй под стопою
Ноги твоеи, в небе быть навек з тобою.
Аминь, аминь, рач то дать, Боже милосердный,
Просит тебе кгмин нищіи, люд у света бедный,
Тот нагробок кладучи пастыреви стада.
Умер отец, опекун, убогих отрада.
Живет з Богом, живет, Бог — вышній оборонца,
Тот нам не даст в том жалю гинути до конца.
Дасть и слову інструмент, оному подобный,
Меймо веру Божую, Пан на все способный
Не дасть верным над силу покусы терпети,
Не дасть, верте, духовным голодом нам тлети.
Выдасть з скрини небесных таемниц, з спижарни
Духовнои, пастыра стаду до овчарни,
Выпустить нам феникса з арки свое певне,
Дасть лебедя. Час престать нарекати ревне,
Час заволать з вечора напал на нас смуток,
Зрана радость настанеть.Тот отмены скуток
Будет з Бога, в правици найвышшой силы.
Якось хотел, так стало, о Пане наш милый.

Имя твое святое нехай ся в нас славит,
А што тобе, нам любо, за дніи наших справить.

ГОЛОС ОТЦА ДО СЫНОВ
Што за плач? Братія наймилшая в Бозе!
Што за лямент? Што за гук? Дивно ми той трвозе.
Увы, увы, по ком то? По ком тое горе?
З уст жалосных, по ком слез обфетое море?
Зали по мне? Неслушне, российский народе,
Нарекаеш, стыскуеш о моем отходе.
Ям ся смертю на зживот неровно дорожшій
Над свет, хутне отменил, хотяй не дошолши
Лет зуполных. Добре так. Смерть тая пожрала
Живот марный, мне вечный путь уторовала.
Конец сего бедного, утешного вступом,
Што свет мает, меть может, ест робацтву лупом.
Щасливый, хто пред смертью дознавает,
Бовем смерти, для смерти, в смерти не мевает.
Не долгом жил, мовите, пробог, досить много
На сесь побыт дочасный и того лихого.
Абы теж хто жил сто лет, один день жил певне,
Не тот живет, хто живеть на свете мизерне.
Леч хто свято, побожне живот свой провадит,
Тому некгды смерть, як сон померный, не вадит.
Житло наше на земли ровно комедіи,
Албо рачей жалосной света тракгедіи.
За отятем личины, што был королем, паном,
По старому ковалем, шевцем, цимерманом.
Выйдет дух наш, али ж ти, труп земный, труп гнойный,
Гнюсу, робацтв, мерзячки и брыдкости полный.
Мало вчасне погодне на морю плывает,
Которого штурм носит, фаля заливает,
Кресу замероного, порту не доходит,
Часом, отколь отступил, в том же местцу бродит.
Хто долго жил, а зле жил, доброго ничого
Не учинил — мало жил, а был барзо много.
Престанет тых плачов, туги занехайте,
Души моей для свое любый покой дайте.
Долго жити за муку справедливый мает,
Хто ж з розумных, побожных смерти не жадает?
Хто в огнилом похилом дому жить зезволит?
Хто ся смеле до него на мешкане склонит?

Кгды обачит, а оно стены уступуют,
Дах сыплется, фундамент, филяри филюют,
Балки трещат, а весь дом зовсем упадает.
Хто з розумных в таковых руинах зостает?
А не рачеи бежить вон, забывши и хлеба.
Весь свет, земля хвеется, вонтпит непотреба,
Же упадает невдолзе, а его руины
Конец веку ест знаком, не волос седины.
Знаком валки внутреніи, посторонных погрозки,
Знаком полон, вязеня, кайдалы, поврозки,
Которими не толко христиан погане,
Леч, што тяжша, свои своих, хрістиан хрістяне
Вяжут, вязять, кров точат. Пойзри на суседы,
Што ся деет, якіи зо всех сторон беды.
Плачет наша братія, доставшися в руки
Врага креста Христова, и то не без муки.
Домовыми неснаски, ненависть терпети
От своего своему, близкій конец, дети.
Роскош, збытки, лакомство, сваволя, немера,
Всеми тыми острит ся смертная секера.
Ты сам, Боже всесилный, рач забечи злому.
Не дай дознат напасти з хрістиан никому.
Роскажи пса дикого увязать при гробе
Своем, врага кождого, в мамлюцкой особе.
Якобы все хрістианство, яким колвек складом
Порозненя в вызнаню, ставши твоим стадом,
Было волно от страху, от слуху, от трвоги,
Огня, меча, нещастя, поламали злых роги.
Уйми гнев свой правдивый, гнев срокгий, гнев панский,
Рач вывышшить в том панстве народ хрістианский.
Если хто з них, як чловек, заслужил на раны,
Руки твое розчкою нех будет скараны.
По отцовству в милости, а не в розгневанью,
Под час света руины, и вже при сконаню.
Але ми час до детей, до братіи знову
З знапомненем, з прозбою обернути мову,
Жебы старост, сивизну облудного мира,
Выследивши дознали, же вже и секира
З давных часов острится, ест в корен утята
(Неподному дереву во огни мук заплата)
І жебы в ним юж далей жити не хотели,
До отчизны з выгнаня охотне ся мел.

До отчизны, детонки, квапится потреба,
Не хочете ль для земли утратити неба.
Ям рад жем ся повторе вырвал з беды, мовлю,
З нендзы света, в которой полно страха молю.
Полно беды, которім на том стопню стану,
За всех винен будучи личбу здавать Пану.
По ввесь тот час на столку ног подпилованых
Седелем, ах, на дошках помосту зламаных.
Подо мною дол, в ним стос дров смоложаристый,
Над шиею, на нити, меч висел сталистый.
З обу боков з страшными влочнями рицере,
Хто ж бы мене щасливым наменил в той мере,
Бы и ест, пить, роскоши заживать казано,
Музыкою труб, бубнов хути додавано.
А на том бы сходило, же ся рушит згола
Страшно было достатся не смертныи кола.
Столком живот кождого, в елементах рабых,
Слизкій бег, ход, поступок, в павиментах слабых.
Скоро кого опустят, страх ямы, страх муки
Огня, з боку рицеров, в тыранскіе руки
Теола, света, дьвола, а меч Божий з неба.
О злый живот на нити! Помыслить бы треба.
Хто ся з живых на земли фундовати смеет,
Роскошовать, подносит брви, што свет умееть.
Бы набарзей утехи светніи на смехи
Подбияли бубенка, нет на нем утехи,
Нет отрады, боязни полно, бед, стогнаня,
На кождоденный потоп, на смерть ожиданя.
Як в округе, срокгими валами розбитом,
От шифара без стыру, без жакглю забытом.
А хто ж, пробог, зезволит в том кораблю плыти,
Хиба отнюд которій не захочет жити.
Седеть в небе, на столци кролевском безпечне,
Без боязни отмены, на век веком вечне.
Дайте ж покой, прошу вас, болш мя не турбуйте,
Собе очю, головы, умыслу не псуйте.
О умерлых не тужить, Писмо научило,
А зажте мя згубили? Же вам плакат мило
Без пристанку. Прошу вас, братія, престанте
Мене плакат, рачей ся до Бога удайте
На молитвы о собе, бысте бег короткій
Тут пелькгримства своего збавенными сродки,

Як доселе и чулей, при обоей славе,
И небесной и земной, могли кончит, в справе
Житла святобливого, жебы вам сам з неба
Дал такого пастыра, якого потреба
Церкви его, през его собраному стаду.
(До чого теж и вам даю тую раду,
Жебысте ся на его презренье спустили,
А кого он укажет, щире улюбили,
Опустивши старіи звычай, налоги,
Которіи зстручают з збавеня дороги).
А на жниво зо всех мер, зо всех сторон стале
Дозрелой пшеници для зебраня в цале,
Работника чулого зеслат рачил скоро,
При котором бы всем вам во всем пошло споро.
З серпом наук правдивых, не з везкгловем слова
Под локти душ. Ку тому (з прозбою к вам мова).
Памятайте мой побыт, мой отход за вдячне
Пріймовати об Бога, сами жити бачне.
Над все теды впрод очом, фортце злых згинен,
Воли, устом, языку смелого мовеня
Не давайте, а уши тернем от слов прожных
Затумайте, вси смыслы страхом казній грозных.
Узбройтеся верою, данною от века
Вам от Бога, от церкви, а всего чловека
Внутреннего и зверхнего духом отновляйте,
Целком себе на службу Богу отдавайте.
Руки в дела добрыи уготовте. Ноги —
На проповедь до веры, на долгость дороги.
По отдейстью на он свет на терпливость злого
В гоненіи для церкви, для Христа самого.
Будте духом, умыслом и телом здоровы,
Зо всем на смерть по нендзы дочасной готовы.
Богатыи, богатством купуйте збавене,
Убогіи, з убоства мейте полепшене.
Ов шафаром от Бога. Сесь тому дорога
През опатрность до неба, а обои з Бога.
Недостатніи, так мнимай, же тя тым скарано
За негодность, на пробу, богатства не дано.
Видячи злость, неправду в сердци твоем тайне,
Што бысь певне в могутстве мог выполнить явне.
Души твоей Христос-Бог в том забечи рачил,
Жебысь его для земных богатств не пребачил.

Не стыскуй же, не тужи, зноси крест свой скромне,
Пошемреш ли на Бога, на щасте упорне.
И тут в нендзы зостанеш, и там небо стратиш.
Знесши скромне, убозством пришлый свет заплатиш.
Можный в копу так держи, жеть Бог дал убогих
На поправу, на окуп злостій твоих многих.
Не ты для убогого, для тебя убогій
Посажон ест об Бога пред дом твой, пред ноги,
Жебысь свои выступки щодробливым датком
Змазал, грехи окупил ялмужны достатком.
Всем то мовлю, заровно слузе, як и пану,
Обоей плоти кондыціи вшелякого стану.
Абысте ся зо всих сил о чистость сумненя,
Души, тела старали, зычачи збавеня
Своим обчим, щасливых радою вспирали,
Жебы з гори богатства тяжко не упали.
Вспомагали убогих помочю ратунку,
Жебы в роспач не впали з нендызы, от фрасунку.
А найпервей, млоденци, до вс моя мова,
Памятайте на мои зычливые слова:
Яком ся я вас кохал, яком вас до цноты
Запровал, додавал в побожность охоты,
Яком громил розпустность, пьянство, злост, сваволю,
Быстe тому дикому коникови, в полю
Широко престронного омылного света,
Не давали виркгати, а на свои лета
Молодыи, на силу, на розум, здорове
Не уфали, помнечи на оно послове:
«Смерт у зубы не гледить». Болш скурок телячих
Переробят Кгарбари, ниж волобыдлячих.
За слонцем тень — за каждым смерть дыбком чугает,
А з нас на нас оселки до косы шукает.
Непевный день, певна смерть, а иж о године
Не ведаем, так живит, як умереть ныне.
Готовности молитва в трезвости а в вере
Каждого з нас научит, кгды ся в слушной мере
Пядю стану своего мерачи побожне
В поволаню жить, служить будете остражне.
Давши Богу божое, зверхности поволность,
Родичом честь, зычливость пану, правду, скромность
В шатах, в пітю, в еденю, боячися Бога
И тых дверей, где низко рез порог дорога.

Болш для славы доброи, ниж з мусу, з боязни,
Добрій з цноты не грешит, злый з построху казни.
Того всего абы вас Христос-Бог избавил,
В душах ваших побожность, святобливость справил.
Жебысте ся, яком рек, на свет не садили,
Собе, Пану-Богу в прод в простоте служили,
От голуба — щирости, от овци — покори
Позычали, мудрости — от ужа. Не скори,
Што все снадне, з помоцю Всесилного справит,
Хто в сей марней облуде не будет ся бавит,
А тым светом, як конем, на день узычоным,
Робить будет, як Нилом, гадом загущоным.
Омерзится, утечет, ледве конецем пальца
И языка ткнувшися, потопчет зухвалца,
Як лихвяра спросного, который звык брати
Одным око, слух, руку, ногу усушати,
Другим целком забирать живот и здорове,
О, бедажку, так нам з ним товаришство злое!
Головным ест, окрутник, противником нашим,
Товаришом, неверным, хотячи быть старшим
Над душею нашею, трапит нас уставне
Роботою, покою противится явне.
З добр, з добытков, з прац наших кгвалтом обирает,
А сами никгды ничого доброго не мает.
Добрим страшон, злосливым ласкове ся ставит,
Назбыт щодрим в чужих, сам ляда чим ся давить.
Автор злости, сваволи, тыраном на цноты,
Своим в кламстве похлебством додает охоты.
Обчих к собе чачкою штучне завабает,
Всех вшеляко зводити не переставает.
Славу змерлых скрадает, живых з неи лупит,
Дармо берет, ценою ничого не купить.
Зо всех личбу збирает, а сам ся никому
Не справует, як Баро. Беда тому дому,
Той господе в проезде, где господар кламца,
Злодей, збойца, вшетечник и явный потварца.
Беда и тым, хто бы з ним хотел накладати,
Ведаючи то о нем, на ночлег въеждати.
А хто ж, прошу, з вас того до света не знает?
Иж он завжды, весь, зовсем, марностю воняет,
Марност, прожност, под небом все, што око видит,
Мудрец мовит, хто ж ся з ним з хрістіан не збридит?

Зезволенем, умыслом з него уступует,
Хто в ним живет по теле, духом не сполкует,
Компаніи з ним складу, не мевает справы,
Такій в небе вечной доступует славы,
Которая абы вас, россійскій народе,
Всех подкала, Бог дай так по моем отходе.
Вера, правда, побожност, святобливость [...]
Як от веков, за мене, межи вас [...]
Же бы з души вашой озяблость, недбалство,
От тела грех, хороба, от бруха об [жарство]
Уступило, от домов вашего мешканя
Незгода, свар, немилость, з границ па[нованя]
Кроля-пана наезды неприятел, здрада.
Зместа фалши, неправда, вшелякая вада,
Во всех справах немерность, непостережене,
Побожности, пожитков, чести зневажане.
Все то згола, огулом, нехай проч уступит,
З души, з тела, з сел, з домов. Нехай вас заступит
Аггел, певный проводник, чулый сторож в Богу,
Укажет вам простую до неба дорогу.
Зратуеть вас от рибы, з пащек беса, света,
Уяснит вам зрок внутрніи, а пан в ваши лета
Дасть свой покой, дасть згоду, преложоным в Раде
Чулость, печу пастыром о розумном стаде,
В послушенстве зе всходу, где початок вери
В Христа-Бога. Збавеню оттворono двери.
Откуль звезда трем вещком Христа означает,
Откуль Слонце бег звыклый зрана зачинает,
Откуль Христа повторе прійти оижаем,
Хвалит Бога, же оттуль духовенство маем.
Того ся вси держите, не вступуйте кроку,
До остатнего тху духа, очій ваших змроку.
При том стале стоячи, до згоды з другими
Так ся мейте, як усты апостол своими,
[И Христос-Бог научил], шукайте покою,
[. . . . . . . . ] можна зо всеми, болш еднак з собою
[. . . . . . . . ] и верное подданство чините,
Преложных прикладов добрих ся учити.
Сами себе во всем вси зо всем в дозор Богу
Отдавайте. Шествуйте тесную дорогу,
Ведучую до царства небесного миле,
Где самого всех Творца и аггелов в силе

Обачите. Тому вас и я полецаю,
А тым мой день остатний, мову замыкаю.

Епітафіон
Тута зложил кость в теле
Муж праведный, ач смеле,
Смерти береш штоть дано,
Не озмеш болш, заслано
Пред тобою до неба,
Где жил, там был, так треба.
З земли мертвых, з выгнаня
По пелкгримстве, з мешканя
Мизерного, в палацы
Небесныи, по працы,
На роскоши отходит.
В землю живых заводит
Мысли наши. Рукою
Держит кветок, другою
Книгу, там же кадило.
Так умерет мне мило
(Мовит до нас) як к Богу
Жертва святых дорогу
Береть. Живот нетрвалый,
Значит тот квет опалый.
Книга чистость сумненя
Кажет мети. Збавеня
В добрых делех чекати.
За ним в небо ступати.
Тело его дол земный
Покривает, незменный
Кветок души у Бога.
И нам там же дорога,
З его молитв готова
Ест запевне, дость слова.



# ЯЗЭП РУЦКІ

(1574—1637)

Язэп Вельямін Руцкі — выдатны пісьменнік-палеміст, філосаф, педагог, тэолаг, трэці уніяцкі мітрапаліт. З імем Я. В. Руцкага лучыцца ўмацаванне Уніяцкай Царквы Вялікага Княства Літоўскага, час яе росквіту і заўважнага ўплыву на духоўнае жыццё беларусаў.

У асобе Я. В. Руцкага арганічна спалучаліся талент тонкага дыпламата, майстэрства літаратара, рэдкія здольнасці практыка-арганізатара і лідэра, здатнага праводзіць глыбокія рэформы.

Нарадзіўся Я. Руцкі ў 1574 г. у родавым маёнтку Рута, што паблізу Наваградка, у шляхецкай сям'і. Бацька Фелікс Руцкі і маці Багуміла Корсак належалі да кальвінскага веравызнання. Пачатковую адукацыю падлетак атрымаў у першай палове 80-х гадоў у наваградскіх анабаптыстаў. Мусіць, з парады настаўнікаў бацькі накіравалі яго ў Віленскую кальвінскую школу, дзе ён студыяваў колькі гадоў, старанна вывучаючы класічныя мовы — лаціну, грэцкую і іўрыт.

У 16-гадовым веку Я. В. Руцкі накіроўваецца за мяжу, каб прадоўжыць навучанне. Нейкі час ён слухае лекцыі ў славутым Пражскім Карлавым універсітэце, затым тры гады праводзіць у Нямеччыне і з выдатнымі адзнакамі заканчвае Вюрцбургскі універсітэт. Матэрыяльную падтрымку ў часе навучання за мяжой ён меў ад маці, бо бацька памёр у 1590 г., яшчэ да ягонага ад'езду ў Чэхію. Але адданая кальвінізму Багуміла Корсак, неяк дачуўшыся пра сімпатыі сына да Каталіцтва, пазбавіла яго ўсялякіх сродкаў да існавання. Пракуратар велікакняскай і польскай каталіцкіх правінцыяў айцец Бокса, які пазнаёміўся з Руцкім, даведаўшыся пра яго фінансавыя цяжкасці, параіў юнаку ехаць у Рым і паступіць у Грэцкі калегіум, дзе багаслоўскую адукацыю можна было атрымаць бясплатна. Руцкі так і зрабіў, блізу 1600 года ён быў залічаны ў Грэцкі калегіюм у Рыме. Тады ж адбылася вельмі важная ў ягоным жыцці падзея, ён урачыста пакляўся заўсёды трымацца ўсходняга веравызнання, бо гэта было адной з умоваў прыняцця ў калегіум.

Дзесьці ў 1601 г. Я. В. Руцкі вярнуўся на Радзіму. Сустрэўшыся ў Вільні з І. Пацеем, асвечаны юнак прапанаваў свае паслугі й веды на карысць Уніяцкай Царквы. Але мітрапаліт стрымана паставіўся

да прапазіцыі выхаванца еўрапейскіх універсітэтаў і параіў яму накіравацца ў новае падарожжа па Еўропе з дзецьмі віленскага ваяводы князя Радзівіла. Разгублены і занепакоены няўдачай, Я. В. Руцкі едзе ў Руту да маці, каб адпачыць і вызначыцца з будучым заняткам.

Час няпэўнасці быў кароткі. У 1602 г. памёр рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі Пётра Федаровіч, і І.Пацей, пасля настойлівай просьбы каталіцкага біскупа Бенядзікта Войны, згадзіўся прызначыць Я. В. Руцкага кіраўніком семінарыі. З гэтага моманту пачалася яго сталая дзейнасць.

На пасадзе рэктара, якую Я. В. Руцкі займаў на працягу трох гадоў, выявіўся яго бліскучы педагагічны талент і здольнасці рэфарматара. Як творчая асоба Я. В. Руцкі адразу ж ажыццявіў шэраг зменаў у сістэме навучання у Віленскай семінарыі і падрыхтаваў выдатны паводле свайго зместу навукова-педагагічны трактат пад тытулам «Дыскурсус» (блізу 1605 г.), у якім якраз абгрунтаваў неабходнасць карэнных рэформаў у сферы адукацыі і выхавання. Гэтыя рэформы, на яго думку, мусілі істотна змяніць жыццё ўсёй Уніяцкай Царквы.

Рэктар Віленскай семінарыі не меў, аднак, рэальных магчымасцяў карэнным чынам рэфармаваць сістэму навучання ўсёй Уніяцкай Царквы. Ягоныя радыкальныя педагагічна-асветніцкія праграмы хоць і знайшлі разуменне сярод іерархаў, відочна не маглі быць здзейсненыя ў найбліжэйшым часе ў маштабах усяе Царквы. Магчыма, што й сам ініцыятар рэформаў не выявіў тады асаблівай настойлівасці і паслядоўнасці ў дасягненні пастаўленай мэты.

У 1606 г., захапіўшыся місіянерскай ідэяй, Я. В. Руцкі накіроўваецца ў Маскву, дзе ўбачыў магчымасць рэалізаваць сябе, ажыццявіць свае задумы ўдасканалення Хрыстовай Царквы. На маскоўскім пасадзе на той момант знаходзіўся цар Дзмітрый І (пазней названы Ілжэдзімітрыем), які ў 1605 г. прывёў у Маскву беларускія і польскія вайсковыя аддзелы.

Я. В. Руцкі меў цесныя стасункі з новым маскоўскім гаспадаром і неаднаразова прапаноўваў яму накіроўваць юнакоў па навуку ў Вялікае Княства Літоўскае з тым, каб пасля, з іх дапамогай, праводзіць дзяржаўныя і царкоўныя пераўтварэнні ў Маскоўскім княстве. Але і ў Маскве здзейсніць свае задумы Я. В. Руцкі не змог, бо ўлада Дзмітрыя І неўзабаве пахіснулася, пачаліся ўнутраныя забурэнні, у выніку якіх цар быў забіты, а ў Маскоўскім княстве наступіў «смутны час».

Увесну 1606 г. Я. В. Руцкі, сутыкнуўшыся ў Маскве з неспрыяльнымі для рэформаў умовамі, намерыўся паехаць разам з кармелітам Паўлам у Персію. Праўда, падарожжа на Усход не адбылося. Як апавядае легенда, па выездзе місіянераў з Масквы, праз суткі блуканняў, яны раптам зноў апынуліся ля яе сцен, хоць іх і суправаджалі дасведчаныя праваднікі. Руцкі ўспрыняў гэтае здарэнне як Божы знак, адмовіўся ад наведвання Персіі і ў хуткім часе вярнуўся на Радзіму.

У Вільні Я. В. Руцкі зблізіўся з манахам Свята-Траецкага манастыра Язафатам Кунцэвічам і, мусіць, пад ягоным уплывам 6 верасня 1607 г. падаўся ў уніяцкі манастыр. 1 студзеня, па сканчэнні тэрміну выпра-

бавання, адбылося яго пастрыжэнне ў манахі пад імем Язэпа. У тым жа годзе архімандрыт Свята-Траецкага манастыра Самуль Сянчыла пасвяціў Я. В. Руцкага ў дыяканы, а затым надаў яму сан прасвітара. З гэтага моманту жыццё і чыннасць Я. В. Руцкага становяцца цалкам знітаванымі з Уніяцкай Царквою.

Пасля таго як Свята-Траецкі манастыр папоўніўся моладдзю, пераважна шляхецкага паходжання, Я. В. Руцкаму было даручана яе выхаванне. Ён чытаў навіцыянам лекцыі з багаслоўя, навучаў лацінскай і царкоўнаславянскай мовам. Менавіта ў перыяд знаходжання ў Віленскім уніяцкім манастыры, ад 1607 да 1613 г., канчаткова сфармавалася філасофска-тэалагічная дактрына Я. В. Руцкага, пра што красамоўна сведчаць ягоныя «Тэзісы», выдадзеныя на старабеларускай і польскай мовах недзе ў канцы 1607 ці на самым пачатку 1608 г.

Нягледзячы на тое, што Я. В. Руцкі не займаў нейкіх значных царкоўных пасадаў, ён паступова станавіўся ўсё больш аўтарытэтнай асобай сярод віленскіх уніятаў. Таму спрыялі ягоныя неаднаразовыя выступленні ў часе дыспутаў, паспяховая педагагічная дзейнасць і, несумнеўна, асабістая абаяльнасць. Па-еўрапейску асвечаны чалавек, ён досыць лёгка заваёўваў сімпатыі людзей, без асаблівых цяжкасцяў знаходзіў агульную мову з прадстаўнікамі розных канфесіяў, а таксама дзяржаўнымі дзеячамі Вялікага Княства Літоўскага. Невыпадкова мітрапаліт І. Пацей у ліпені 1608 г. прызначыў менавіта Я. В. Руцкага сваім намеснікам, хоць гэтую пасаду, паводле заведзенага звычаю, мусіў заняць архімандрыт Віленскага Свята-Траецкага манастыра. З гэтым прызначэннем на яго плечы лёг увесь цяжар кіраўніцтва Уніяцкаю Царквою, бо састарэлы і хворы І. Пацей быў не ў стане штодзённа «даглядаць духоўныя парадкі». Перад Я. В. Руцкім паўстала найскладанейшая задача: праз рэформы ўмацаваць Царкву — арганізацыйна і эканамічна, зрабіць яе прыцягальнай для вернікаў, узняць аўтарытэт у вачах Хрысціянскага свету. І ён, як паказаў час, змог дасягнуць пастаўленых мэтаў.

Перш за ўсё Я. В. Руцкі дамогся канчатковага захавання Траецкага манастыра за уніятамі, бо праваслаўныя, не зважаючы на вырак манарха, у сакавіку 1609 г. паспрабавалі сілай авалодаць ім. Архімандрыт 20 сакавіка 1609 г. падаў скаргу ў магістрат, патрабуючы пакарання вінаватых. Яго падтрымаў І. Пацей. 30 красавіка 1609 г. у адказ на дзеянні уніятаў Віленскае праваслаўнае брацтва выступіла з заявай, у якой адзначалася, што праваслаўныя ніколі не прызнаюць яго рашэнняў. Яны не абмежаваліся толькі словамі. Праваслаўны месціч Максім Шэмбель зрабіў замах на жыццё Я. В. Руцкага, і толькі дзякуючы шчасліваму збегу абставінаў архімандрыт застаўся жывы.

Найважнейшы кірунак дзейнасці Я. В. Руцкага на шляху ўмацавання Уніяцкай Царквы — пабудова новых бажніцаў і заснаванне манастыроў, якія сталі грунтам, фундаментам новай Царквы. Так, Я. В. Руцкаму і яго аднадумцу Кунцэвічу ўдалося схіліць багатага шляхціца Рыгора Трызну да думкі аб пабудове ў Быцені мужчынска-

га манастыра. Дзякуючы іхным намаганням блізу 1613 г. на месцы бажніцы ў Жыровічах таксама быў закладзены уніяцкі манастыр, які з часам стаўся выбітным асяродкам хрысціянскай культуры. Сродкі на яго пабудову ахвяраваў смаленскі кашталян Ян Мялешка. Пад уплывам Я. В. Руцкага і Кунцэвіча Я.Мялешка схіліўся да уніяцкай веры і з часам стаў адным з найбольш актыўных яе прапагандыстаў сярод шляхты. Плён намаганняў Я. В. Руцкага і яго манахаў-аднадумцаў — адкрыццё буйнога уніяцкага манастыра ў Наваградку.

Мітрапаліт І.Пацей, які стаяў ля вытокаў Уніяцкай Царквы, высока ацэньваў чыннасць Руцкага і цешыўся з таго, што не памыліўся ў сваім выбары. 16 чэрвеня 1612 г. ён выдаў прывілей аб узвядзенні архімандрыта Траецкага манастыра на епіскапію Галіцкую і наданні яму сана «надворнага ўладыкі» — кіраўніка ўсёй царкоўнай адміністрацыі.

Да найбольш значных заслугаў Я. В. Руцкага належыць і далучэнне да Уніяцкай Царквы Мінскага Узнясенскага манастыра. Менавіта з яго хадайніцтва Жыгімонт Ваза 30 сакавіка 1613 г. выдаў Прывілей, паводле якога гэты старажытны куток царкоўнай духоўнасці станавіўся уніяцкім.

Не на апошнім месцы ў дзейнасці Я. В. Руцкага быў і клопат пра навучанне моладзі і падрыхтоўку новых пастараў. Ён не толькі ствараў умовы для паляпшэння навучання ў школцы пры Траецкім манастыры, але й па дамове з каталіцкімі іерархамі накіроўваў моладзь у Нясвіжскі, Калішскі і Пултускі езуіцкія калегіумы, дзе падлеткі мелі магчымасць атрымаць выдатную адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Пасля некалькіх аўдыенцыяў у вялікага князя Я. В. Руцкі 31 сакавіка 1613 г. дастаў Прывілей на заснаванне школаў у Мінску, Наваградку і іншых месцах, падпарпадкаваўшы іх выключна духоўным уладам. У заснаваных навучальных установах, паводле прывілею, прадугледжвалася навучанне пяці мовам — беларускай, польскай, царкоўнаславянскай, грэцкай і лаціне, а таксама выкладанне цыкла «вызваленых мастацтваў». Да таго ж пазней, у снежні 1615 г., Я. В. Руцкі дамогся ад папы рымскага пацверджання для ўсіх уніяцкіх школаў тых правоў, якія мелі езуіцкія калегіумы.

Новы этап у жыцці Я. В. Руцкага пачаўся па смерці уніяцкага мітрапаліта І.Пацея, які адышоў у нябыт 8 жніўня 1613 г. Праз некалькі дзён пасля пахавання І. Пацея Жыгімонт Ваза выдаў Прывілей, паводле якога новым уніяцкім мітрапалітам прызначаўся менавіта Я. Руцкі. З гэтым прызначэннем Уніяцкая Царква без забурэнняў і прыкметных зменаў уступіла ў новы перыяд, які стаўся найбольш значным ува ўсёй яе гісторыі. Што асабіста да Я. В. Руцкага, дык ён разам з новым санам атрымаў дадатковыя землі і маёнткі, перадусім тыя, што калісьці належалі М. Рагозу і І. Пацею, а таксама маёнткі ў Наваградку і Прылепічах.

Па ўзыходзе на мітраполію Я.Руцкі разгарнуў яшчэ большую дзейнасць, накіраваную на ўмацаванне Уніяцкай Царквы, якая на той

момант улучала 5 буйных царкоўна-адміністрацыйных адзінак — архіепіскапіяў: Полацкую, Уладзімірскую, Пінскую, Холмскую і Смаленскую. Ён найперш пачаў дамагацца палітычных правоў для Уніяцкай Царквы, увядзення яе найвышэйшых іерархаў у склад Рады — найвышэйшага выканаўча-распарадчага органа Вялікага Княства Літоўскага. Захаваўся дакумент ад 20 студзеня 1615 г., у якім якраз паведамлялася пра настойлівую просьбу мітрапаліта да дэпутатаў, абраных на Генеральны Сойм ад Слоніма, паставіць перад заканадаўчым органам пытанне пра ўлучэнне некалькіх прадстаўнікоў Уніяцкай Царквы ў склад Рады. Я. В. Руцкі звярнуўся і да папы рымскага Паўла V, каб той са свайго боку падтрымаў гэтыя справядлівыя патрабаванні і паўплываў на Жыгімонта Вазу. Нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, ён праз нейкі час усё ж дамогся свайго, і некалькі уніяцкіх іерархаў увайшлі ў Раду.

Я. В. Руцкі няспынна наведваў епархіі, манастыры і прыходы, каб ведаць рэальнае становішча і ажыццяўляць кантроль за дзейнасцю іерархаў. Гэта дазволіла мітрапаліту зрабіць шэраг удалых і своечасовых перамяшчэнняў сярод найвышэйшага і асабліва сярэдняга святарства. Так, архімандрытам Віленскага Траецкага манастыра ён у 1617 г. паставіў Льва Крэўзу. 3 ліпеня 1614 г. Я. В. Руцкі ўзвёў на Уладзімірскую кафедру свайго паплечніка І. Марахоўскага, а архіепіскапам Полацкім, на змену Гедэону Бральніцкаму, зрабіў адданага уніяцкага дзеяча Язафата Кунцэвіча.

Я. В. Руцкі таксама спрабаваў падпарадкаваць Уніяцкай Царкве праваслаўныя асяродкі Кіева, найперш славутую Кіева-Пячорскую лаўру. Працяглае змаганне уніятаў за лаўру скончылася, аднак, безвынікова; яна засталася ў руках праваслаўных.

Я. В. Руцкі дзейнічаў у досыць складаных абставінах жорсткага супрацьстаяння з праваслаўнымі. Аднак ні супраціў апанентаў, ні ўнутраныя перашкоды не спынілі яго. Ён пачаў падрыхтоўку да карэнных, глыбокіх рэформаў Царквы, найперш манастырскага жыцця. Найважнейшы крок на гэтым шляху, паводле яго задумы, — утварэнне ордэна, на які ўскладалася б функцыя флагмана, збіральніка ўсіх духоўных сілаў Царквы.

Вынік шматгадовай аналітычнай працы Я. В. Руцкага — аб'ёмны рукапісны том «Правілаў манаскага жыцця», закончаны да 1617 г., дзе дэталёва вызначаліся структура новага ордэна, яго мэты і характар дзейнасці. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, афармленне Базыльянскага ордэна, набыццё ім пэўнага юрыдычнага статуса адбылося ў часе шасці з'ездаў прадстаўнікоў манастыроў — у Навагрудку (1617), Лаўрышаве (1621, 1626), Руце (1623), Жыровічах (1629) і Вільні (1636).

Абсалютнаму трыумфу Уніяцтва на абшарах Вялікага Княства Літоўскага перашкодзіла, аднак, узнаўленне ў 1620 г. ерусалімскім патрыярхам Тэафанам Праваслаўнай мітраполіі. У 1621 г. Я. В. Руцкі распачаў літаратурную палеміку з праваслаўнымі. Ён апублікаваў два публіцыстычна-палемічныя трактаты — «Падвойная віна» (1621) і «Экзамен абароны» (1621). Літаратурная дыскусія, вядома, не зняла

ўсіх пытанняў. Мітрапаліту давялося наладжваць дачыненні з Праваслаўнй Царквой.

Пасля працяглых філасофскіх разважанняў Я. В. Руцкі прыйшоў да высновы, што напружаныя дачыненні паміж праваслаўнымі і уніятамі ў Княстве можна грунтоўна ўрэгуляваць толькі праз утварэнне Патрыярхіі ў ВКЛ. Такім чынам, галоўную мэту ўтварэння Патрыярхіі Я. В. Руцкі бачыў у дасягненні кансалідацыі ўсіх вернікаў усходняга абраду, зліквідаванні інстытуцыянальных і дактрынальных падставаў для грамадскага напружання на рэлігійнай глебе. Грандыёзны праект Патрыярхіі — найвышэйшага інстытута ўлады для вернікаў усходняга абраду — не быў, аднак, з-за шматлікіх прычын ажыццёўлены.

Я. В. Руцкі выявіў сябе як выдатны літаратар, майстар мастацка-публіцыстычнага слова, філосаф і аналітык. У сваіх творах ён прапанаваў развязванне актуальных пытанняў грамадскага і царкоўнага жыцця.

Закранаючы на старонках сваіх твораў праблему ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнай уладамі, Я. В. Руцкі схіляўся на бок дактрыны аб прыярытэтнасці свецкіх уладаў у краіне. У «Падвойнай віне» ён падкрэсліваў: «У многіх хрысціянскіх краінах — Грэцыі, Балгарыі, Сербіі, Валахіі, Маскові ніхто без дазволу манарха не можа займаць пасады мітрапалітаў і епіскапаў».

Я. В. Руцкі абгрунтоўваў антызаконнасць узнаўлення праваслаўнай мітраполіі ў ВКЛ. У творы «Экзамен Абароны» пісьменнік-палеміст раскрытыкаваў праваслаўную дактрыну, рэзка асудзіў «разбуральную» дзейнасць праваслаўнага святарства. Назваўшы М. Сматрыцкага, аўтара «Абароны Верыфікацыі», чалавекам «абмежаваных здольнасцяў», які імкнецца «сцвярджаць ісціну не фактамі і аргументамі, а непрыстойнай лаянкай і абразамі», Я. В. Руцкі сфармуляваў пяць асноўных антытэзісаў супраць узнаўлення праваслаўнай іерархіі Вялікага Княства Літоўскага. У сваіх творах пісьменнік даводзіў, што ў ВКЛ здаўна існуе закон, паводле якога менавіта манарх прызначае («прэзентуе») на найвышэйшыя духоўныя пасады ў Княстве, а патрыярх толькі робіць пасвячэнне. Мітрапаліт Я.-В.Руцкі, абураўся дзеяннямі патрыярха Тэафана, выступаў супраць яго з рэзкім пратэстам, называў «парушальнікам спакою», «маскоўскім агентам», і «турэцкім шпіёнам». Ён заклікаў вялікага князя і ўрад любым шляхам спыніць «разбуральную дзейнасць дызунітаў».

Я. В. Руцкі паслядоўна адстойваў ідэю паяднання ўсіх «вернікаў адзінага народа» на грунце грамадзянскасці. Абураючыся фактамі міжканфесійнай канфрантацыі, ён заклікаў да паразумення, супольнага і мірнага вырашэння спрэчных пытанняў: «Тыя прыкрасці паміж намі, людзьмі адзінага народу і набажэнства, не гвалтоўным і бяздумным наступленнем на нас, як цяпер, не трыбунальскімі, не сеймікавымі, не соймавымі пастановамі, як заклікае Верыфікатар, галасамі і дамаганнем тых ды іншых канстытуцыяў, бо тыя сродкі дагэтуль толькі ўзмацнялі варажнечу. Але толькі з’ехаўшыся ў адзінае месца, і зносінамі

супольнымі ў міласці братэрскай, маючы перад вачыма толькі Пана Бога і яго праўду, супакоіцца патрэбна».

Пісьменнік-палеміст усебакова абгрунтоўваў неабходнасць поўнай еднасці вернікаў усходняга абраду, прапануючы дзеля гэтага толькі мірныя сродкі: «Мэта нашай справы, — пісаў ён, — памнажэнне еднасці. Сродак — згуртаваць работнікаў добрых. І менавіта такога сродку патрабуе браная мэта. Бо не праз анёлаў, а праз людзей. А людзей належыць пабажна і ўмела весці. Чым болей іх будзе, тым спарней справа пойдзе. І мы не чынілі інакш. Толькі гэтак! Таму лучнасць пашыраецца. Той сродак добры з гледзішча Бога і з гледзішча людзей. Ён з моцы нашай. Добрае паразуменне сярод нас».

Я. В. Руцкі запэўніваў у цвёрдасці і нязменнасці абранага шляху: «Не чакаем узнагароды за працу рук нашых ад тых людзей, дзеля якіх працуем. Але й няўдзячнасць, зласлоўе, дзякуючы Божай помачы, у той справе нас не спалохае». Сваіх шматлікіх паслядоўнікаў і аднадумцаў Я. В. Руцкі параўноўваў з жаўнерамі, добра падрыхтаванымі да бою.

*Іван Саверчанка*

## ПАДВОЙНАЯ ВІНА

### Парушэнне «права надавання», калі хто пасвячаецца, не атрымаўшы прэзентацыі

Фундамент, на якім будуе Верыфікатар усю сваю абарону тэзіса аб тым, што не абразіў маястату, калі атрымаў пасвячэнне ад таго чужаземца без прэзентацыі яго каралеўскай міласці, наступны: «Дзве рэчы ў епіскапстве — духоўны сан (dostoiecstwo) і пасада (benificium). Духоўны сан і намінацыя на яго — у руках саміх духоўных. Пасада (benificium) і надаванне яе — у каралеўскіх руках. Праз сваё пасвячэнне яны здабылі першае, да чаго кароль яго міласць не мае аніякага дачынення. А другое яны і браць не хацелі, бо гэта сапраўды павінен даць ім яго міласць кароль, у руках якога прызначэнне на пасады».

Як пабурым той фундамент, дык усё, што ён на ім узвёў, мусіць паваліцца. Яго пабурым, калі пакажам, што прэзентацыя мусіць папярэднічаць пасвячэнню, а не за ім ісці.

## Праваслаўныя епіскапіі не вольныя ад надання каралёў польскіх

Кажа Верыфікатар: «Тое права неаднаразова прымянялася пры ўсіх мітрапалітах, калі за пасвячэннем у патрыярхаў мітрапаліты ехалі без прэзентацыі каралёў».

Давядзём перадусім, як робіцца ва ўсіх іншых краінах, дзе ёсць Грэцкае набажэнства.

У Грэцыі — аж жах прыгадваць! Там гандлююць святымі рэчамі: хто больш дасць, становіцца патрыярхам, нават пры жывым папярэдніку. Скажу, аднак, не дзіўна гэта, бо яны ў нявол ў ворагаў Хрысціянства

У Балгарыі, Сербіі, Італіі, як ўсім вядома, духоўныя асобы ў санах і пасадах сваіх залежныя ад свецкіх уладароў. З таго вынікае, што свецкія паны адных духоўных узводзяць, іншых здымаюць паводле ўласнай волі. Нават ў Маскве, дзе тая вольнасць духоўная мусіла б захоўвацца, бо там усе аднае веры і аднаго набажэнства, як сам манарх, гэтак і яго падданыя, але й там ніхто не можа без волі свецкага гаспадара ўзысці на духоўны пасад, пакуль не будзе пазнаны in bonis, vita et honore.

## Добрыя ўчынкі уніятаў

Айцы нашыя, каторыя лучнасць святую ў тым каралеўстве даўно заснавалі і ўгрунтавалі, аднавілі паводле той сентэнцыі — diu delibera, cito fac (доўга думалі, імгненна вырашылі. — *І. С.*) — захавалі яе і насуперак тым правілам «добрай парады», вышэй памянёным, ні яны, ні мы не пакінулі яе, а, наадварот, ва ўсім дастаткова ўмацавалі.

Што да першай часткі той сентэнцыі, досыць доўга дэліберавалі, чаго нельга было на той час прыспешваць. Няхай так будзе, як гаворыць Верыфікатар, адзін год, хоць узапраўды і тры гады было. Для той справы, якую не яны зачыналі, досыць было часу, бо паўтараста гадоў перад тым закручаная яна была сусветным саборам Фларэнційскім. А хто сабора сусветнага не шануе — няхай будзе як паганец, аб чым гаворыць напісаны і зацверджаны дэкрэт найвышэйшага суддзі.

Учынілі досыць і другой частцы сентэнцыі — cito fac, бо затрымаліся з той справай даўжэй, чым належала. Прычына ў тым, што некаторыя з свецкіх паноў нашага набажэнства (тыя, якія самі выступілі ініцыятарамі справы яднання перад айцом уладыкам) пачалі радзіцца з ерэтыкамі, а менавіта з новахрышчэнцамі, каб толькі нічога не здарылася з такой добрай

справай. Сам Пан Бог на той момант імі кіраваў, што ў той справе паступалі абачліва, каб непрыяцель душаў людскіх не пашкодзіў.

Што да рэгулаў «добрай парады», то ім таксама досыць учынілі. Так скажу, тое было ўзважаным сродкам, з улікам канчатковай мэты. Мэта ж іх была — з'яднацца з братамі сваімі, з якімі перад тым разам былі, і з пастырам тым, якому падпарадкоўваліся нашыя святыя айцы, маючы нядаўнія прыклады некалькіх мітрапалітаў праваслаўных, якія жылі паводле пастановаў Фларэнційскага сабора, поўнасцю прымаючы яго.

Схіліліся да наступнага сродку, з дапамогай якога можна было дасягнуць канчатковай мэты, г. зн. пастанавілі, каб мітрапаліт і ўладыкі аддаліся ў паслушэнства рымскаму біскупу. 1. Згадзіліся на тое ўсе, nemine penitus penitusque repugnante, бо і Капысценскага, уладыкі перамыскага, і Балабана, львоўскага, маем подпісы. 2. У тым сродку нічога злога не было! Нічога не супярэчыла аніякаму праву! Бо найвышэйшае права — гэта права сусветных сабораў. Менавіта пастановы Фларэнційскага сабора давалі ўпэўненасць, яны былі найпэўнейшымі на свеце! Ідучы за імі нельга было заблудзіць! І таму сродак той — слушны, бяспечны дабру ўнутранаму і вонкаваму. 3. У моцы тых нашых іерархаў быў і яшчэ адзін сродак — з'ехацца, дазволіць, спісацца, да караля яго міласці выправіцца. Надзвычай добрая рада была ў айцоў нашых. Таму беспадстаўна Верыфікатар называе тую справу няўзгодненай змовaю.

Мэта нашай справы — памнажэнне еднасці. Сродак — згуртаваць работнікаў добрых. І менавіта такога сродку патрабуе такая мэта. Бо не праз анёлаў, а праз людзей. А людзей належыць побажна і ўмела весці. Чым болей іх будзе, тым спарней справа пойдзе. І мы не чынілі інакш. Толькі гэтак! Таму лучнасць пашыраецца. Той сродак добры з гледзішча Бога і з гледзішча людзей. Ён з моцы нашай. Добрае паразуменне сярод нас.

Пытаеце, якая карысць з тае еднасці?

Адказваю. Збавенне душам, якое без яе не можа быць. «Адзін Бог, адна вера, адзін крыж» (Эфес. 4), — кажа апостал. Таму і адна царква мусіць быць. Іншых, зямных даброцяў у той справе і не шукаем, і наагул, вялікая заслуга быць у пашане Пана Бога. Не чакаем узнагароды за працу рук нашых ад тых людзей, дзеля якіх працуем. Але й няўдзячнасць, зласлоўе, дзякуючы Божай помачы, у той справе нас не спалохае.

Кажаце, што дваццаць пяць год як зачалася тая еднасць, а не ведаеце яе.

Адказваю. 1.Ведаеце добра, але разумець не хочаце. Спачатку жаўнера ўзбройваюць і навучаюць у справах рыцарскіх, а по-

тым вайну распачынаюць. Што чынілі ў тыя дваццаць пяць год, тое і цяпер чынім. Няўжо не знаеце здатных да бою жаўнераў у набажэнстве нашым! Была патрэба збіраць моладзь, даваць ім добрае выхаванне, як у пабажнасці, гэтак і ў навуцы. І такіх, за ласкай Божай, ужо маем у сваім законе больш за сто. Вядома, з імі яшчэ давядзецца доўга працаваць, пакуль яны авалодаюць навукамі патрэбнымі дзеля той справы, а затым самі пачнуць уласную чыннасць. Не дзіўна, што дзеля гэтага патрэбна шмат часу. Але не сумуй, як арэш ды сееш, што не адразу жнеш! Чакай, пакуль колас дазрэе! 2.На саборах нашых, якія праводзім штогод па ўсіх епіскапіях, прысутнічаюць і тыя папы, што ў вялікай колькасці ў Літоўскіх краях засталіся ў схізме. Сярод іх і яўныя парушальнікі царкоўнага права, якія пазбягаюць пакарання. Ці ж прыганяе іх хто да еднасці, ці прадпісвае ім хто яе! 3. Цяпер у той Уніі заслужаныя людзі не толькі ніжэйшых, але й найвышэйшых станаў, гэта значыць — сенатары, ураднікі земскія і дворныя, і павятовыя, шляхта і мяшчане ў гарадох, а пра люд просты і казаць не варта, той, нібы авечкі, ідзе, куды яго павядуць духоўныя айцы і святыя, абы ў царкве ўсё было па-старому. 4. Не надта імкліва ўсталёўваецца Унія, але таму ёсць вялікія і важкія прычыны.

Найперш, поглядам Пана Бога, гнеў Яго справядлівы за шматгадовае адшчапенства. Ён вельмі цяжкі, уключае пакаранне за дзве вышэйпамянёныя схізмы. У Старым Законе, апрача іншых учынкаў у духоўным і свецкім стане, праклён Божы за сабой цягнуць наступныя: абрыдлае п’янства сярод духоўных асобаў, а таксама хаджэнне без споведзі да алтара Божага і прыманне ў замерзлыя страшныя вусны святасць Цела і Крыві Панскай, без усялякіх пакутаў сумлення. Яны або не вераць, што ў найсвяцейшым сакраменце ёсць праўдзівае цела Панскае, або калі вераць і так робяць, дык яны вялікія злачынцы перад Панам Богам. Прычым не ведаюць і не імкнуцца ведаць, як належыць паводзіць сябе асобам капланскага стану [...]

Не малая перашкода пашырэнню Уніі — цяжкасці з нашымі братамі. Адны толькі нямыя і глухія размаўляць з намі і слухаць нас не хочуць! І такіх вельмі шмат. Ім надта цяжка што-небудзь параіць, толькі трэба прыйсці з гары таму Медыку, каторы вылечыў нямога і глухога. Іх не змаглі вылечыць вучні Яго, хоць іншых і вылечвалі. Толькі тое нас суцяшае, што тая хвароба ў моцы кожнага, тая хвароба залежыць ад хворага, можа яе пазбавіцца кожны, калі захоча. Тое нам патрэбна, мілыя браты, каб выказаліся і пачулі свой голас, не будзе гэта без карысці [...]

Тыя прыкрасці паміж намі, людзьмі адзінага народа (iednego narodu) і набажэнства, не гвалтоўным і бяздумным наступленнем на нас, як цяпер, не трыбунальскімі, не сеймікавымі, не соймавымі пастановамі, як заклікае Верыфікатар, галасамі і дамаганнем тых ды іншых канстытуцыяў, бо тыя сродкі дагэтуль толькі ўзмацнялі варажнечу. Але толькі з’ехаўшыся ў адзінае месца, і зносінамі супольнымі ў міласці братэрскай, маючы перад вачыма толькі Пана Бога і яго праўду, супакоіцца патрэбна.

## ТЭЗЕС, СИРЕЧ ИЗЪВЕСТНЫ ПРЕДЪЛОЖЕНІЯ ОТ УЧЕНІЙ, ЕЖЕ О ТАЙНАХ ЦЕРЪКОВНЫХ. НА РАЗМЫШЛЕНІЕ КЪ ОБЪЩЕМУ СОСТЕЗАНІЮ ДАННЫ ЧЕСТНЫМ ОТЦЕМ ІОСИФОМ ВЕЛЯМИНОМ РУТЪСКИМ, ИНОКОМ ЗАКОНУ СВЯТАГО ВАСИЛІЯ В МОНАСТЫРУ ВИЛЕНЪСКОМ СВЯТОЕ ЖИВОНАЧАЛНОЕ ТРОЙЦЫ. СОСТЯЗАНІЕ ЖЕ СЕ НА ОБЫЧНОМ МЕСТЕ УЧЕНІЙ БУДЕТ, ПРЫ МОНАСТЫРИ ПРЕД РЕЧЕННОМ. РОКУ ОТ НАРОЖЕНЯ ХРИСТОВА 1608, МЕСЯЦА ГЕНВАРЯ, ДНЯ 11, ЧАСУ ВТОРОГО ПО ПОЛУДНИ

1

Понеже человек от душа ест составлен и тела. Подобне благій Бог, кроме иных изрядъных образ ими же своя дарованія души невидимо уделяет строити обыче, видимая знаменія ими же нами въспріемлемыми подает грехом прощеніе и изобильно благодати умноженіе. Прелесть убо изъобретенъна от многа уже времени супостаты православныя веры, и ныне некими ереси казательми отновленъна. Судити неподобъну быть вещ христіяном вне удиых знаменій къ содеянію спасенія требоваті.

2

Суть некая знаменія вне удия, яже по достоянію отцы святые, именем от тых писаній и святых апостол прыятым, елиньски *misterion*, латиньски *сакраменъта* нарицают. Въ словенском же языку *тайны* именоватися могут. Имя се *тайна* особне сему приподаетъся. Еже знаменіем ест чувъственным, вещы святыя освящающыя человека, еже существа тайны ограниченье еди-

ногласно прыподаетъся, и Ветхаго Завета тайнам и Новаго. Сего ради несть умышлейно имя се тайна. Яко же глаголет Кальвин, от человек само извольне. А ограниченье тайны, еже вносять лютерани, новокрещеньцы и кальвиніани, ученію правоверныя церкви суть противны.

3

Ко соверъшенію тайны новозаветныя трех вещей требе ест: вещы, образа и воле тайну действующаго. Сице яко недостающы или единой от трех — тайна не соверъшается. Матерыя ест вещ ко содеянію тайны от Бога узаконенъна, яко вода в тайне Крещенія, хлеб и вино в тайне Евхаристии. Форъма паки, словеса суть, Богом узаконенъна. Ими же тайна совершается. Матерыя сугуба ест, далечайша, вещы суть самыя. А ближайша, вещы требованіе. В словесех пременение, егда сущаго разума от Христа подайного не разоряет ко соверъшенію тайны довлеет, и яко же ничто же, ни въ вещы, ни въ образе от Христа преданных пременити возможно естъ. Тем же нелепо Лютер, Бреит и Звинкгель измененія о словесех таинъственных шыроко изволяют. Зле же и Кальвин образ таинъственный, ученіе казатель о обещаніях Божественных, быть непщует.

4

Тайны новозаконныя поистинне суть орудія Божественна. Ими же Бог оцыщает грехи и благодать свою на душу изливает, еже излияніе ест истиннодейство дару сотворенънаго. Его же отцы святые благодатію Божественною нарыцают. Имуть убо тайны, яко орудія Божественъная, силу отпущенія грехом и посвещенія душа. Тако яко не токмо знаменьми суть являющими, но и содевающыми благодать. Ибо прелестне учит Кальвин. Дабы тайны были узаконенъны от Бога на возбуженіе веры токмо. О обещаніих Господних, Писанію паче веруем, еже учит нас яко действо вещы таинъственъныя, благодать кровію Сына Божія содеянъную нам подает. И исповедуем, яко не прелщатися Вселенъней Правоверъней Церъкви, яже детей не ожидающе времени даже уверять, ради истинънаго греха прощенія, и поданія благодати Божія, тайну святаго Крещенія, и Миром помазанія, Тела и Крове Христовы от апостол наученъна подает.

5

Всяка вещ сътворенъна творъцы своему повинуется, въ исполненіе и въ воспріятіе всякого съверъшенъства, паче естества своего, отнюду же указаніем Писанія. И святых отец праведъно богословы наказуют, яко тайны не токмо нравоучительным нравом, но и вещезрительным, или физицъским детелію своею, яко же вне уду касающися телеси, тако и внутр уду силою от Бога на се воспріятою касающися душа, очищают ону от греха и благодати Божія дар на ней исполъняют. От Писаній наказаніе се, от отец исчерпаем. Сего ради несть умышленіе наго и смерътоносно, яко же дух Кальвинов молъвит.

6

Тайн от Христа в Церъкви Хрістіянъской Вселенъской Православной узаконенъных ест седм — Крещеніе, Миропомазаніе, Тело и Кров Господня, Покаяніе, или Исповеданіе, Свещенъство, Брак, и последнее, Маслом помазаніе. Непреклонъна же о тайнах и единомысленъна вера, и ученіе, съединенія знаменіем ест святыя Божія Церъкви. Ему же противустоятель Зизанія не покараяся Писанію, святым отцем противу исповеданія веры Никейскаго и Костанътинополского Собора исповести не хощет, лист [...], но по Дню Судном. Нововеръници о тайнах лестне, иже или един токмо яко Лютер. Или два токмо, яко неціи лютерани, или три токмо, яко Калвин. Наймнее, иеже седм, или вящъше тайн исповедуют.



# ЯН КАЗІМІР ПАШКЕВІЧ

## *(Першая палова XVII ст.)*

Ян Казімір Пашкевіч — паэт першай паловы XVII ст. Біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Вядомы яго адзіны патрыятычны верш на беларускай мове «Полска квітнет лаціною…».

Аўтарства Я. К. Пашкевіча пацвярджаецца надпісам: «Ян Казимир Пашкевич рукою властною писал. Року тисяча шестьсот двадцать первого, месяца августа двадцать второго дня».

Асноўны матыў верша — ухваленне роднай мовы, падкрэсліванне яе выбітнага месца ў жыцці грамадства і кожнага чалавека. Паводле канцэпцыі аўтара, менавіта мова — зарука вечнай славы, падмурак сацыяльнага і нацыянальнага аптымізму беларусаў-літвінаў.

*Іван Саверчанка*

Полска квітнет лаціною,
Літва квітнет русчізною.
Без той ў Польсце не пребудзеш,
Без сей ў Літве блазнем будзеш.
Той лаціна язык дает,
Та без русі не вытрвает.
Ведзь жэ юж, русь, іж тва хвала,
Па ўсім свеце юж дойзрала.
Весяліся ж ты, русіне,
Тва слава нігды не згіне!



# ЯЗАФАТ КУНЦЭВІЧ

*(1580—1623)*

Язафат Кунцэвіч — беларускі пісьменнік-палеміст, філосаф і рэлігійны дзеяч. Займаў пасады ігумена Быценскага, Жыровіцкага і Віленскага Троіцкага манастыроў. З 1618 г. полацкі уніяцкі архіепіскап. З'яўляўся прыхільнікам жорсткай лініі ў дачыненнях з праваслаўнымі. У 1623 г. быў забіты ў Віцебску.

Я. Кунцэвіч пакінуў значную літаратурную спадчыну. Сярод яго твораў найбольш значныя: «Аб фальшаванні славянскіх кніг» (Рукапіс б-кі РАН у Санкт-Пецярбургу, фонд П. Дабрахотава. N 79. Арк. 7), «Правілы для прэсвітэраў» (рукапіс РАН у Санкт-Пецярбургу, фонд П.Дабрахотова, № 33. Арк. 195 адв. — 206 адв.), «Катэхізіс» (Рукапіс б-кі РАН у Санкт-Пецярбургу, фонд П.Дабрахотова. № 33. Арк. 182—195 адв.), шэраг лістоў, а таксама два рукапісныя тамы «Казанняў» на розныя тэмы ( Зборнік б-кі Акадэміі навук Літвы. № 261. Арк. 68 — 198)

Вельмі каштоўнымі для разумення творчага метаду Я. Кунцэвіча з'яляюцца «Правілы для прэсвітэраў», у якіх аўтар выказвае патрабаванне, каб святары ўласным прыкладам навучалі людзей, служылі для іх добрым узорам: «Священници мают прикладом живота своего побожности людей учити, бо живот побожный священическій — ест казаннем потужным людем простым».

Вельмі каштоўным літаратурным помнікам і адначасна гістарычнай крыніцай з'ўляецца «Ліст да канцлера Л. Сапегі» (21 студзеня 1621 г.). У ім Я. Кунцэвіч прапануе канцлеру не ісці на глыбокія і неапраўданыя кампрамісы з «схізматыкамі» (праваслаўнымі) і заклікае ўрадоўцаў прадухіліць рэгулярныя ўмяшанні Масквы ў царкоўныя справы Вялікага Княства Літоўскага: «Тое і не дзіва, бо Масква была б рада, каб мы перадалі ўсе каталіцкія касцёлы схізматыкам».

У «Лісце да канцлера Л. Сапегі» Я. Кунцэвіч падае насычаны дэталямі гістарычны сюжэт пра пераход у 1460 г. Ноўгарада Вялікага пад уладу князя Казіміра і пра падпарадкаванне ноўгарадскіх уладыкаў духоўнай уладзе кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя, прызначанага на пасаду папам рымскім. Пісьменнік піша пра жорсткую расправу з наўгародцамі, учыненую царом Іванам Васільевічам, «дзедам Тырана», за зроблены імі выбар на карысць дачыненняў з Захадам.

Значнае месца ў творчай спадчыне Я. Кунцэвіча займае «Ліст да мітрапаліта Я. В. Руцкага» (1622). У ім Я. Кунцэвіч раскрывае характар супрацьстаяння паміж уніятамі і праваслаўнымі, з абурэннем піша пра інтрыгі полацкіх і магілёўскіх месцічаў, што не жадалі прызнаваць яго духоўнай улады, ужывалі ўсе даступныя ім сродкі, перадусім, паднашэнні і хабар: «Повезли тых бестый косматых — соболев, рысев, вепров. Уже теж его полочане и могилевцы аж назбыт уславили тыми подарками по всем краю русском, бо што дадут, або мают дати, в чом кажут».

«Казанні і павучанні» Я. Кунцэвіча — выдатны ўзор літаратурнага красамоўства і філасофска-рэлігійнай думкі Беларусі. У іх пісьменнік вучыў пра чатыры фундаментальныя «цноты» сапраўдных хрысціянаў — мужнасць, справядлівасць, міласць і спраўнасць, сфармуляваў думку пра сем цялесных і сем духоўных грахоў. Я.Кунцэвіч дэталёва раскрыў сутнасць сямі дарункаў Святога Духа.

*Іван Саверчанка*

## КАТЕХИЗМ
## ОД СЛУГИ БОЖОГО ИОСАФАТА СОЧЕТАННЫЙ

*Вопрос*. Што ест быти христіанином?

*Ответ*. Есть быти крещеным въ имя Отца и Сына и Святого Духа. Верити и вызнавати закон Ісус Христов.

*Вопрос*. Што мает умети тот, што вызнавает Закон Ісус Христов?

*Ответ*. Тые четыри речи: Напрод — вызнанне веры, второе — молитися Богу; третее — што чинити а чогося стерегчи, жебыся [подобал] Богу; четвертое — яко набывати ласки Божая альбо помнажатися в ней. Хто то умеет чинити — есть истинным христианином и будет избавленным.

*Вопрос*. Яко ся могут научити лацно того?

*Ответ*. Научитися мают напрод — Символу албо Складу веры. Второе — молитвы Господней, то ест «Отче наш». Третее — десяти заповедей Божих. Четвертое — О седми тайнах [праведных].

## Ч а с т ь п е р в а я
## О ВЕРЕ

*Вопрос*. Который ест Символ, албо Склад веры?

*Ответ*. Верую во единого Бога Отца Вседержителя, Творца небу и земли. Второе. И въ Іисуса Христа Сына Божія Господа нашего. Третее. Заченъшагося от Духа Святого, рожденнаго от Девы Марія. Четвертое. Страдавшаго и Погребенна. Пятое. Съшедшаго въ Ад и воскресшаго из мертвых. Шестое. Возшедшаго на небеса и седящаго одесную отца Вседержителя. Семое. Оттуду паки грядущаго судити живым и мертвым. Осмое. Верую в Духа Святаго. Девятое. Святую Церковь Соборную, Святых общеніе. Десятое. Оставленіе грехов. Одинадцатое. Плоти воскресеніе. Дванадцатое. Жизнь вечную.

А то ест Символ Апостольскій, к тому есть и Никейскій, который при службе Божественной и в Правиле Церковном заховывает.

*Вопрос*. Чому его Символом зовут?

*Ответ*. Символ по гречески, а по нашему Склад.

*Вопрос*. Чому Его Апостольским зовут?

*Ответ*. Иж его Апостолове Святые зложили, кгды ходили на проповедь Евангеліи по всем міре.

*Вопрос*. Што се замыкаем в том Символе.

*Ответ*. Дванадцать члонков веры Христианскои. Один мовит о Отци, шесть о Сыне, пять о Духу Светом.

*Вопрос*. Што значит словко верую?

*Ответ*. Значит иж моцно держу и за реч певную маю все то што ест в тых дванадцати члонках. Для чого иж научил Апостолов сам Бог, Апостолове зась научили Церков, а Церков научила нас. А иж неподобна реч жебы Богу мел кламати, для того тые речи за певнейшие маю, ниж оные которіе очима вижду и рукамасе тыкаю.

*Вопрос*. Што значит словко, верую во единаго Бога?

*Ответ*. Значит, иж хотя особные суть ипостаси — Отец и Сын и Дух Светый, вшак же тыи тры суть единым творцою всех речей и единым Господем, хотя Отец ест Бог, и Сын ест Бог, и Дух Святый ест Бог — един, не три Бога, але один Бог, иж тых трех ипостасій ест Едино Божество и едино Существо, и ест таемница Пресвятой Тройци.

*Вопрос*. Чи можем мы дати якое подобенство Пресвятое Тройци?

*Ответ*. Могу. Душу человеческую, которая сотворена на образ Божій. Тая ест едина во своем существе, а мает три силы — розумь, память, волю.

*Вопрос*. Што значит словце «Отца»?

*Ответ*. Значит же Он ест правдимым прирожоным Отцем Единородного Сына своего, есть отцем нашим, але през ласку неприрожоным.

*Вопрос*. Который ест другий члонок?

*Ответ*. И в Іисуса Христа Сына Его Единороднаго Господа нашего.

*Вопрос*. Хто ест Христос?

*Ответ*. Есть Сын Бога Отца предвечни от него урожоный, такъ всемогущый, и так мудрый, яко он, который ся стал для нас чловеком в животе Пресвятое Девы Маріи.

*Вопрос*. Яко се то стало?

*Ответ*. Не справою человечею, але справою Духа Святаго. Поневаж она девицею зостала, якъ пред пороженем, такъ и по пороженю. А такъ Сын Божий на небесах не мает матки, ани на земли не мает Отца.

*Вопрос*. Чому ж был распятый и погребен?

*Ответ*. Для нас мизерных людей и для нашего Спасенія, абы нас очистить от грехов наших, и вырвал з рук неприятелей наших — Діавола и Пекла. А такъ откупил нас кровію своею пренадорожшою на древе креста святаго.

*Вопрос*. То и мы были неволниками и гды нас откупил.

*Ответ*. Воистинну былисмы невольниками грехов наших, смерти, Діавола и Пекла.

*Вопрос*. Што ж вчинил Збавител наш, кгды во Ад заступил?

*Ответ*. Вывел отцов святых души и инные святые души, которые были въ преисподних зем[лех] близ Ада, ждучи Святого хвалебного пришествія Его [у арыгінале адсутнічаюць аркушы 184—188. — *І. С.*].

## Ч а с т ь т р е т я я
## О ДЕСЯТИ ЗАПОВЕДЕХ БОЖІИХ

*Вопрос*. Которая ест третяя часть повинности христианское?

*Ответ*. Десять заповедей Божих, в которых замыкается, што мает чинити и чого ся стерегчи.

*Вопрос*. Мов же десять заповедей Божих?

*Ответ*. Первая. Аз есм Господь Бог твой да не будут тебе Бози [иншие] разве мене.

Вторая. Не прети имени Господа Бога твоего всуе.

Третея. Помни день неделний святити Его.

Четвертая. Чти отца твоего и матер твою.

Пятая. Не убий.

Шостая. Не любодей.

Семая. Не укради.

Осмая. Не послушествуй на друга твоего сведитилства ложна.

Девятая. Не пожадай жоны искреняго твоего.

Десятая. Не пожадай дому ближняго твоего, ни села его, ни раба его, ни рабыни его, ни вола, ни осла его, ни всякого скота его, вся елика ближняго твоего сут.

*Вопрос*. Коли Бог тую десять Заповедій уставил?

*Ответ*. Первей в Законе Старом, потом Христос в Новом потвердил.

*Вопрос*. Яко се деет?

*Ответ*. Першые три ку хвале Божой, а седм остатних къ пожитку ближнего належат.

*Вопрос*. Яко ж тры належат ку хвале Божой?

*Ответ*. Иж хочет Господь Бог абысть же ему служили напрод сердцемь, потом словне, на остаток и учинками.

*Вопрос*. Яко заховуем першую заповедь?

*Ответ*. Хвалячи одного самого Бога, того ся боючи, и во учтивости Его маючи, и служачи Ему зо всею сердца своего, и ждучи от Него всякаго лекарства, и иншых заплат, яко от начална всего доброго.

*Вопрос*. Хто грешит противко той заповеди?

*Ответ*. Тыя особливе, которіи ся бавят балвохвалством, забобонами, ворожъками, играми, которыя суть против хвале Его.

*Вопрос*. Яко ж заховуем вторую заповедь?

*Ответ*. Хвалячи Господа Бога и дякуючи Ему языком нашим, и просячи от Него потреб наших.

*Вопрос*. Хто грешит противко сей заповеди?

*Ответ*. Напрод, которые блюзнят имя Божое и Святых Его, так и тыя, которіе присягают где не ест реч правдивая и потребная. Потом и тые, которые не держат шлюбов обецаных, и иншые, которые не чинят повинности и учтивости имени Божому.

*Вопрос*. Чем мовиш, где не есть реч правдивая, справедливая и потребная?

*Ответ*. Иж присяга мает быти о реч правдивую, которая бы не была фалшивая, и о которой бы первей ведал и о реч

справедливую, которая бы была позволеная о реч правдивую, которая бы была важила што бы иначей не будет без греха. И на то потреба учтивости ку тому през кого пресегает.

*Вопрос*. Ведаеш же якое лекарство же бы николи засе не присегали?

*Ответ*. Ведаю. Не хочеш ли зле присегати, николи нияко не присегай.

*Вопрос*. А яко ж мовити хоть чи при речи кому што?

*Ответ*. Такъ ест албо не так ест, правдиве, заисть. Або вем не ест то присега, але если што болш придаси то уже недобре.

*Вопрос*. Яко ж заховуем третюю заповедь, которая кажет свято святити?

*Ответ*. Показуючи з верными учинками веру и милость, которую на серце маем.

*Вопрос*. В чом же ся указавоти?

*Ответ*. Не робячи того дня, забавляючися набоженством Церковным, а мяновите слуханем службы Божое з набоженством и с пилностію старастію, стараючися абы инъшые поручоные слухали службы Божое.

*Вопрос*. Што больш чинити?

*Ответ*. Мел бы ся старати, абы тот день справити на речах, которіе належать къ службе Божой, яко на молитве в читаню книг божественных и слуханю их; в справованю учинков милосердных.

*Вопрос*. Яко ж заховует четвертое приказане с утщеню отца и матки?

*Ответ*. Мает их слухати имети с учтивостю и служити им и вспомогати их.

*Вопрос*. А если бы отец твой росказал мовити якую неправду, албо якій грех учинити, чи должен еси его слухати?

*Ответ*. Не должен ест его слухати в речах противных Богу, але толко в речах позволеных и учтивых.

*Вопрос*. Якъ розмаитые отцове найдуются?

*Ответ*. Чворакіе. Напрод, отцове прирожоные, которые нас зродили такъ же и дедове. Вторые отцове духовные, яко суть [...] преложные духовные и научителіе. Третіе кролеве, старосты и преложоные светскіе. Четвертые, старые люди для старости их. А тых всех виннисмо мети в учтивости, каждого ведлуг стану их.

*Вопрос*. Што мают чинити добрые отцове з сынами своими?

*Ответ*. Мают их учити и справовати, а на назбыт караючи, ани назбыт распущаючи, але того [своего] ведлуг розуму уживаючи.

*Вопрос*. Яко ся мают слуги албо подданые заховати ку паном своим?

*Ответ*. Яко сын отцу своему, будучи ест послушным, и чинючи ему почтивость яко Господу нашему Ісусу Христу.

*Вопрос*. А панове яко ся мают заховати противко слугам?

*Ответ*. Такъ яко отцове противко сынов, яко братия о Христе.

*Вопрос*. Которая ест пятая заповедь?

*Ответ*. Не убій.

*Вопрос*. Яко заховуем тую заповедь?

*Ответ*. Не чинячи жадного злого ближнему нашему.

*Вопрос*. Которая ест шостая заповедь?

*Ответ*. Не любодей.

*Вопрос*. Яко ся маем заховати около того приказаня?

*Ответ*. Тым способом стерегчися, вшелякое саромности телеснои и неучтивости, не толко в учинках, але и въ слове и въ умысле, яко Господь Бог в десяти заповедех заказует.

*Вопрос*. Якого лекарства заживати нам ку захованю тых заповеди?

*Ответ*. Ест немало, але то снать межи иншими.

Первое жебы мерным быти въ еденіи и в питию, второе стерегчися злого товариства, третее, не читати книг вшетечных, не мовити злого, ани спевати песней неучтивых, ани их слухати. Иле быти может. Четвертое, часто споведатися и причащатися. Пятое, просити Господа Бога о чистоти и Пречистое Девы Маріи жебы у Христа Бога одержала.

*Вопрос*. Которая ест семая заповедь?

*Ответ*. Не укради.

*Вопрос*. Што се в той заповеди замыкает?

*Ответ*. Жебысть то не брали, ани держали ничого чужого, ани кгвалтом, ани здрадою, ани помочю, ани радою, ани жадною причиною приводячи до шкоды другого.

*Вопрос*. Яко ж заховуем осмую заповедь?

*Ответ*. Не мовячи фалшу против ближнему, не мемрачи, не обмовяючи, не открываючи грехов потаемных [хиба] бы для улеченя твоих тому кому належит, албо для иншого конца доброго; не посужаючи ближняго; не мовячи неправды; але рачей мовечи о кождом добре, так яко бы хотел, жебы о тобе иншые добре мовили.

*Вопрос*. Яко заховуем девятую заповедь?

*Ответ*. Не жадаючы чужое жоны, ани жаднои иншои неучтивости. А для того потребно ест стерегчи очи их и тых смыслов

вароватися для устереженя сердца, утекатися до Молитвы для звытязства покут.

*Вопрос*. Яко заховуем десятое приказане?

*Ответ*. Не жадаючи маетности, ани жадное речи ближнего; не слушнымъ обычаем, ани ему зазрячи добра его.

*Вопрос*. Можем ли се во короткости замъкнути, што ся поведало в десяти заповедей Божественых?

*Ответ*. Можем в двох заповедех о любви, возлюбиши Господа Бога твоего над все, а ближняго яко сам себе для Господа Бога. В тых коротких словах замыкается весь Закон Божий, и все што колвек есть [во имени] святом.

*Вопрос*. Если суть иншые заповеди церковные?

*Ответ*. Суть. А личим их пять:

Першая. Свята от Церкви установленные святити, то ест службы Божое о тые дни слухати.

Второе. Постити дни певные, в которые Церков приказала заховати, и покармов заказаных в тые дни не заживати, а мяновите чотыри посты през рок.

Третяя. Споведатися грехов своих пред иереем маючим власть от старшых своих на то.

Четвертая. Тело и Кровь Христову, принамне раз в рок а звлаща в велик день приняти.

Пятая. Десятины справедливе выдавати.

*Вопрос*. Чому Церков Божая памяти святых Божих обходити и святити росказует?

*Ответ*. Абысть мы Господа Бога хвалили во святых Его. Вторая, абыст то [...] обачили хвалу, которую святые мают в небе. Третяя, жебысь то живот и добрые дела их збирали собе о такие дни, и их наследовали. Четвертая. Абысь мо ся им особливым способом в тые дни полецали, и о причину их [до Господа] Бога просили. Пятая. Иж Церков святая хочет учтити сыны свои светые, яко учтила Бога и Церков.

*Вопрос*. Чому церков уживает розмаитых обрядков и церемонiй?

*Ответ*. Напрод для болшое учтивости и притомности хвалы Божой. Вторая, для взрушеня людей ку набоженству, абы през речы позверховные вырозумели внутрнiе. Третiя, иж маем от Господа Бога душу и тело для того маем ест оным, чим душу и тело до набоженства повабити можем. И такiе сут обрядки церковные.

*Вопрос*. Суть же якiе иншые дела добрые, которiе не сут выражоные в десяти заповедей Божественых?

*Ответ*. Суть сем учинков милосердных, одны ведлуг духа, другіе ведлуг тела.

*Вопрос*. Которіе суть учинки милосердные телесные?

*Ответ*. Алчущаго накормити. Второе, жаждущаго напоити. Третье, нагаго приодети. Четвертое, вязня откупити. Пятое, недужнаго наведити. Шостое, странъного в дом приняти. Седмое, умерлого погрести.

*Вопрос*. Которые суть учинки милосердные ведлуг духа?

*Ответ*. Первая, грешнаго от греха отводити. Второе, неутешнаго научити. Третіе, вонтпливому добре порадити. Четвертое, за ближнего Богу молитися. Пятое, смутнаго потешити. Шостое, кривду скромне зносити. Семое, обрязу отпустити.

*Вопрос*. Чи много ест фундаментальных цнот?

*Ответ*. Чтыри. Первая,ростропность. Вторая, мужность. Третяя, справедливость. Четвертая, милость.

*Вопрос*. Чи много есть даров Духа Святого?

*Ответ*. Седм. Первый, мудрость. Вторый, вырозумене. Третий, порада. Четвертый, умеетность. Пятый, мужность. Шостый, побожность. Седмый, боязнь Божая.

*Вопрос*. Суть ли якіе грехи, о которых несть взменки в десятих заповедех Божиих?

*Ответ*. Суть седм головных. Первая, пыха. Вторая, лакомство. Третяя, нечистость. Четвертая, гнев. Пятая, заздрость. Шостая, обжарство. Седмая, ленивство.

*Вопрос*. Чому их зовут головными?

*Ответ*. Иж суть причиною и головою инъших грехов, а посполите суть смертелными. Хотя подчас могут быти повшехными.

*Вопрос*. Чи много ест грехов против Духови Святому?

*Ответ*. Шесть. Збытнее уфане, яко бысть могл быти збавлен без заслуг. Второе, роспач в милосердію Божому. Третяя, противитися познаню правде. Четвертая, заздрость духовного добра, которое наши ближніи мают от Господа Бога. Пятое, затверделость греха. Шостое, умерти без покуты.

*Вопрос*. Чы много ест грехов, которые о помсту до Господа Бога волают?

*Ответ*. Чтыри. Первый, мужебойство доброволное. Вторый, грех содомский. Третий, утиснене убогих, вдов и сирот. Четвертый, заплата работником задержаная.

*Вопрос*. Что ест грех?

*Ответ*. Ест то, чого хто пожадает, албо мовичи, албо чинити против воли Божое и Законови Его.

*Вопрос*. Што злого чинить грех смертелный?

*Ответ*. Чинить то иж человек тратит ласку Божую и Бога, хвалу небесную [собе] обецаную, а чинит Его винным вечныя муки.

*Вопрос*. Чому его зовем смертелным?

*Ответ*. Иж забивает душу, и чинит же она тратит живот свой, то ест ласку Божую.

*Вопрос*. А грех повшехный што чинит?

*Ответ*. Не тратит ласки Божое, ани заслугует Пекла, але чинит человека озяблого въ молитве, и службе Божой, и заслугует каране дочасное, и готует дорогу до греха смертелнаго.



# КІРЫЛА ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ

## *(апошняя чвэрць XVI ст. — 1646)*

К. Транквіліён-Стаўравецкі — выдатны ўсходнеславянскі літаратар, філосаф, прапаведнік і багаслоў. Біяграфічныя звесткі аб ім вельмі скупыя, месца і час нараджэння — невядомыя. У архівах пакуль не знойдзена паведамленняў пра навучанне і адукацыю пісьменніка. Першыя згадкі пра К. Транквіліёна-Стаўравецкага ў аналах гісторыі пачалі фіксавацца з канца 80-х гадоў, калі ён ужо працаваў настаўнікам Львоўскай брацкай школы. У 1592 г. на запросіны Фёдара Скуміна ён пераязджае ў Вільню, дзе да 1614 г. выкладае царкоўнаславянскую і грэцкую мовы, затым падарожнічае. Блізу 1626 г. Кірыла прымае Унію, а ў 1646 г. займае пасаду архімандрыта Ялецкага уніяцкага манастыра, што на Чарнігаўшчыне.

К. Транквіліён-Стаўравецкі трывала ўвайшоў у гісторыю беларускай і ўсходнеславянскай культуры як аўтар трох фундаментальных кніг — «Люстра Багаслоўя» (1618), «Евангелле навучальнае» (1619) і «Перла шматкаштоўнае» (1646). У жанравым плане спадчына К. Транквіліёна-Стаўравецкага падзяляецца на філасофска-публіцыстычныя трактаты, павучанні, вершаваныя творы. Лёс твораў пісьменніка надзвычай складаны. Адразу пасля з'яўлення яго кнігі набылі шырокую папулярнасць у Вялікім Княстве Літоўскім, Маскоўскай Русі, Балгарыі, Украіне.

Паказальна з'яўленне ўжо ў XVI ст. шэрагу рукапісных копій, перакладаў з твораў К.Транквіліёна-Стаўравецкага. Найбольш цікавы сярод іх пераклад на рускую мову «Люстра Багаслоўя», выкананы Феафанам, бібліятэкарам Чудава манастыра. На тытуле перакладчык зазначыў: «Книга глаголемая Зерцало Богословии, собрана от многих богословских, и трудолюбием составлена иеромонаха Кирилла Транквилиона и проповедника Слова Божия... Ныне же преписася и переправися многогрешным диаконом Феофаном с *белороссийскаго языка* на истинный словенороссийский язык во обители Пречестной Рождества Богородицы...» Гэты запіс каштоўны ў першую чаргу тым, што ў ім маскоўскі перакладчык XVII ст. дакладна акрэсліў прыналежнасць твораў К. Транквіліёна-Стаўравецкага менавіта да старабеларускай кніжнай культуры. І гэта не супярэчыць ісціне. На старабеларускай мове апрача «Люстра Багаслоўя» напісана і «Перла шматкаштоўнае». «Евангелле навучальнае» — выключэнне з правілаў. Імкнучыся як

мага шырэй абвясціць свае ідэі, аўтар свядома выбраў для гэтага выдання царкоўнаславянскую мову, як універсальную ва ўсім славянскім праваслаўным рэгіёне.

У Маскоўскім княстве творы К. Транквіліёна-Стаўравецкага былі сустрэты варожа, аб чым сведчыць «Світак дакораў» ігумена Іллі і святара Івана Шэвеля. Больш за тое, паводле царскай волі і загаду патрыярха Філарэта кнігі Кірылы сабралі з манастыроў і цэркваў, пасля чаго публічна спалілі. «На Москве и во всех городах, — гаварылася ў загадзе, — литовскія печати Учительные Евангилья архимандриты Транквиліона-Ставровецкого и иныя книги его кирилова слогу собрати и на пожарех сжеч, чтоб та ересь и смута в мире не была».

Найбольшай папулярнасцю творы К. Транквіліёна-Стаўравецкага карысталіся ў Беларусі. Красамоўнае пацвярджэнне таму — іх перавыданне ў Магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі («Евангелле навучальнае», каля 1697; «Перла шматкаштоўнае», 1699).

Папулярнасць твораў К.Транквіліёна-Стаўравецкага, як і татальная забарона іх, у прыватнасці, у Маскве, — вельмі паказальныя. Яны напісаныя таленавітым майстрам слова, які да таго ж знаходзіўся ў цэнтры дыскусій, што адбываліся вакол актуальных філасофска-багаслоўскіх, сацыяльна-грамадскіх і маральна-этычных праблемаў.

К. Транквіліён-Стаўравецкі валодаў унікальным *літаратурным* талентам. У казаннях К.Транквіліёна-Стаўравецкага дамінавалі эсхаталагічныя матывы. Істотны момант яго эсхаталагічнай дактрыны — прыхільнасць да ідэі чатырох брамаў, якія наканавана пераадолець чалавеку: смерць, Божы суд, геенскія пакуты — для грэшнікаў і нябесныя царскія вароты — для праведнікаў. Тэма смерці распрацоўвалася пісьменнікам асабліва дэталёва. Ён нагадваў чытачу пра ўсеўладнасць смерці, яе здольнасць імгненна ператвараць вясёласць — у смутак, спакой — у адчай, музыку — у стогны. Смерць замест парфумаў нясе смурод; пекнасць і прыгажосць ператварае ў брыду і пачварнасць («шпетнасць»); з яе прыходам выяўляецца і сапраўднае стаўленне да памерлага людзей, што пры жыцці былі поплеч з ім.

К. Транквіліён-Стаўравецкі намаляваў каларытныя сцэны смерці грэшнікаў і праведнікаў. Смерць для распуснікаў, клятваадступнікаў, срэбралюбцаў і іншых грэшнікаў — невыносная пакута. У момант разлучэння душы з целам грэшнік бачыць праваруч Божых анёлаў, якія смяюцца і прамаўляюць: «Не ведаў годнасці — стаў скацінай». З левага боку да яго набліжаюцца зласлівыя д'яблы, якія, нібы галодныя львы, чакаюць яго душы. Уверсе грэшнік бачыць, як суддзя адварочвае свой твар ад яго. Унізе — стаіць Смерць, як люты кат, а пад ёю пекла і бяздоннае мора сернага агню.

У такіх жахлівых умовах памірае грэшнік — у роспачы, без пакаяння. Да яго прыходзяць д'яблы, гвалтам выдзіраюць душу і нясуць яе ў цёмныя месцы. Там яна ў пакутах будзе сядзець з дэманамі да суднага дня. Праведнік пакідае зямное жыццё інакш. Ён адыходзіць з вясёлай душой, усцешаны тым, што развітваецца з «домам цямніц»,

«тварам няпраўды», «цемрай граху», «дэманскім асяродкам». Яму спадарожнічае вяселле і радасць з нагоды выхаду з «няволі Егіпта», з «грэхатворнай краіны»; перасялення ў «зямлю абяцаную», у «Нябесны Ерусалім», да сваёй «вечнай і радаснай Айчыны».

Божаму суду папярэднічае шэраг знамянальных падзей — прыход Антыхрыста, зруйнаванне гэтага свету вогненнай плынню, пакаранне Антыхрыста і яго слуг, стварэнне новых нябёсаў і новай зямлі, нарэшце, усеагульнае ўваскрашэнне і паўстанне перад Божым абліччам.

У кожны з названых традыцыйных хрысціянска-міфалагічных сюжэтаў К. Транквіліён-Стаўравецкі прыўносіў новыя мастацкія дэталі, адметныя тлумачэнні і павароты думак. Асабліва яркія і непаўторныя карціны ўваскрашэння праведнікаў і грэшнікаў. Уваскрэшаныя людзі будуць пазбаўленыя ўсіх «плюгаўстваў», што ідуць праз цела, як, напрыклад, пот, малако, семя. Застануцца ўнутраныя органы, якія напоўняцца «салодкімі воннасцямі». Што да пачуццяў, дык яны застануцца, як і вочы, вушы, вусны, язык, ноздры, рукі. Усе ўваскрэшаныя праведнікі будуць людзьмі аднаго веку; і старыя і маладыя ў Хрыстовым веку, трыццаці гадоў. Мужчыны і жанчыны пазбавяцца юру і пажадлівасці, між імі пачнуцца выключна духоўныя адносіны. Целы людзей атрымаюць новыя якасці: яны змогуць бесперашкодна пераадольваць каменныя муры і жалезныя брамы, імгненна пераадольваць любыя адлегласці, апынацца там, дзе пажадае душа. Грэшнікі таксама ўваскрэснуць, выйдуць з магілаў сваіх. Аднак целы іх будуць чорныя і гідкія, смуродлівыя, «як гнілыя псы». Грэшнікі, у адрозненне ад праведнікаў, уваскрэснуць у непрывабным выглядзе з усімі фізічнымі і цялеснымі хібамі, якія мелі ў зямным жыцці — бязрукія, бязногія, сляпыя, паршывыя, шалёныя.

Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі — яркі прадстаўнік беларускай *паэзіі* эпохі Барока, з характэрным для яе філасофска-тэалагічным ухілам. Ужо першыя яго трактаты — «Зярцала багаслоўя» (1618) і «Евангелле вучыцельнае» (1618) — уключалі шмат паэтычных тэкстаў. Твор «Перла шматкаштоўнае» быў амаль напалову напісаны вершамі. Прычына таму — імкненне аўтара данесці да чытача ў даходлівай, эстэтычна мілагучнай форме вучэнне пра Бога і сусвет.

Надзелены унікальным паэтычным талентам, паэт выклаў «у метрах» сваё вучэнне аб Тройцы, анёлах, растлумачыў кожны радок Гасподняй малітвы «Ойча наш», а таксама перадаў вершамі свае адносіны да святых апосталаў («Пахвала апосталам святым»), пакутнікаў за хрысціянскую веру («Пахвала святым пакутнікам»), тэолагаў мінулага («Пахвала свяціцелям альбо багаслоўцам») і манахаў («Пахвала нявіннікам праўдзівым»).

У склад «Перла шматкаштоўнага» увайшоў вялікі цыкл вершаў, напісаных з нагоды найважнейшых падзеяў Хрысціянскай царквы: «Пахвала на слаўны дзень Нараджэння Госпада Ісуса Хрыста», «Пахвала на прасветлы дзень Уваскрашэння Хрыстова», «Песня пахвальная на слаўны дзень Узнясення Хрыстова», «Песня пахвальная

на прасветлы дзень Зыходу Духа Святога», «Пахвальная песня на слаўны дзень Пераўтварэння Хрыстова», «Пахвала на слаўны дзень Богаз'яўлення».

Напісаныя таленавітым паэтам, філосафам і вучоным, вершаваныя творы Транквіліёна-Стаўравецкага вызначаліся глыбінёй думкі, высокай мастацкасцю і вытанчанасцю формаў.

К. Транквіліён-Стаўравецкі выявіўся як выдатны нацыянальны *філосаф*. На старонках сваіх твораў ён выказаў шэраг арыгінальных натурфіласофскіх ідэй, якія ўрэшце аформіліся ў вучэнне пра найвышэйшы элемент светабудовы — Абсалюту (Бога), чатыры «сусветы» — «нябачны», «бачны», «малы», «зласлівы», а таксама два адмысловыя месцы — «вавілонскае» і «цудоўны нябесны Ерусалім».

Да першага нябачнага сусвету К.Транквіліён-Стаўравецкі залічваў свет анёлаў, або «анёльскую бытнасць». Паводле ягоных дэманалагічных уяўленняў, анёлы створаны Богам у імгненне вока, у невымернай колькасці: іх лік вядомы толькі Госпаду. Колькасць анёлаў не ўзрастае і не памяншаецца, яны не нараджаюцца і не паміраюць. Анёлы не маюць плоці, іх нельга адчуць дотыкам, яны агняносныя і самаўладныя, валодаюць выключнай сілай і неабмежаванымі магчымасцямі. Здольныя ў адно імгненне зруйнаваць усё, што пад сонцам. Перамяшчаюцца нібы бліскавіца або чалавечая думка. Без перашкод праходзяць праз усялякае цела, нават каменныя муры і жалезныя дзверы. Анёлы не абмежаваныя нейкім пэўным месцам жыхарства: яны паўсюль і ва ўсім. Між сабой яны абменьваюцца інфармацыяй без голасу і слова. Яны ўсе падобныя сваёй існасцю, але не роўныя, між імі існуе нейкая іерархія, вядомая толькі Богу.

Госпад пасля стварэння анёлаў раздзяліў іх сваёй воляй на 10 палкоў, над кожным з якіх, нібы мудры гетман, паставіў старэйшага, ці ваяводу. Дзесяты анёльскі полк на чале з Люцыферам неўзабаве схіліўся да злога і адпаў ад Бога. Астатнія дзевяць засталіся ў «Божай даброці і пры ласцы свайго стваральніка».

У адпаведнасці з функцыямі, добрыя анёлы, згрупаваныя ў дзевяць хораў, ці палкоў, маюць адметныя назовы і ўласцівасці. Анёлы Троны — знаходзяцца побач з Госпадам, напоўненыя яго святлом, ад якога прасвятляецца розум, яны першыя і найбліжэйшыя слугі Бога. Херувімы — маюць невымерны розум, паколькі сузіраюць дзівосную і велічную Божую прамудрасць. Серафімы — шасцікрылыя, агняносныя знішчальнікі ўсякай цемры, маюць сярэднюю моц розуму, не могуць глядзець на высокі свет, што выпраменьваецца ад Госпада. Іхныя ногі сімвалізуюць скараходную моц разумнага бачання, а пёры — лёгкасць розуму. Анёлы Гаспадарствы — вольныя ад працы сярод дольнага свету, не служаць матэрыяльным рэчам. Анёлы Сілы — здольныя вытрываць моцнае, недаступнае для іншых святло. Анёлы Улады — маюць агромністую ўладу («власть их неудержанна»), уладарным поглядам сузіраюць уладатворную моц Госпада, валодаюць бачнымі і нябачнымі рэчамі. Анёлы Пачаткі — у вытокаў свайго быцця адразу ж

скіравалі сваю зрокавую моц да першапачатковага свету («ненасытныя салодкасці ў светласці дзівоснага Боства»). Арханёлы — пастаўленыя над анёламі, духоўныя служкі Божых тайнаў. Анёлы Пасланцы — пастаўленыя Госпадам блізу бачнага свету, зямнога жыцця. Да кожнай стыхіі Богам пастаўлены анёлы — вогненныя, водныя, паветраныя, зямныя.

Што да Люцыфера, або Святланосцы, дык тым авалодала пыха, і ён скіраваў на зло дадзенае яму Госпадам самаўладдзе, адступіў ад Божай ласкі разам з усім падпарадкаваным яму анёльскім палком. Ён пакінуў святло і перайшоў у цемру, ператварыўшыся з прыгожага і светлага анёла ў брыдкага і цёмнага Дэмана. Прыняўшы цемру, Д'ябал навекі прывязаўся да яе. Ён разам са сваім злым палком апанаваў тры месцы: паветраную прастору над водамі, зямлю і апраметную бездань пад зямлёю. Паўсюль яны чыняць паганыя справы, прыносяць шкоду чалавеку. Яны спакушаюць людзей, каб зрабіць іх сваімі слугамі. Праўда, часам людзі самі, праз грэх, трапляюць у няволю.

Арыгінальныя ідэі К. Транквіліён-Стаўравецкі выказаў, характарызуючы другі «бачны» сусвет, да якога ён адносіў пяць стыхій: агонь-святло, паветра, ваду, зямлю і «нябесны круг».

Фармальна не адмаўляючы крэацыянізму — аднаактнага стварэння Зямлі, ён зазначыў, што дакладна і адназначна вырашыць пытанне пра ўзнікненне Зямлі, прасачыць канкрэтныя шляхі і этапы яе развіцця немагчыма. К.Транквіліён-Стаўравецкі адмовіў Царкве ў манапольным праве на абсалютную ісціну біблейнага тлумачэння стварэння Зямлі і выказаў слушную перасцярогу пазнейшым вучоным, якія ў наступныя стагоддзі будуць ваяўніча абараняць свае ўласныя гіпотэзы.

Услед за «прамудрымі філосафамі» К. Транквіліён-Стаўравецкі лічыў, што Зямля з'яўляецца круглай, «яко яблоко». Своеасаблівы погляд выказаў К. Транквіліён-Стаўравецкі на будову атмасферы і Зямлі. У прыватнасці, ён геніяльна прадказаў знаходжанне ў сярэдзіне Зямлі распаленага рэчыва — магмы (грэцк. maqma — цеста, месіва), прывёўшы ў якасці неабвержнага аргумента свайго меркавання існаванне вулканаў і гейзераў. Гэтая думка К. Транквіліёна-Стаўравецкага зусім не супярэчыць сучаснай навуцы аб Зямлі, яна цалкам пацвярджаецца і навейшымі геалагічнымі адкрыццямі.

Бадай што самымі цікавымі ў натурфіласофіі К. Транквіліёна-Стаўравецкага з'яўляюцца яго ідэі аб эвалюцыйным шляху развіцця жыцця на Зямлі. Так, філосаф быў абсалютна перакананы ў тым, што на першых этапах свайго існавання ўся Зямля была пакрыта вадою і толькі пазней, пад уздзеяннем сонечнага цяпла, на ёй узнік жывёльны і раслінны свет.

Аддаючы даніну традыцыі і, як правіла, падкрэсліваючы, што ўсё адбывалася «Божай воляй», К. Транквіліён-Стаўравецкі пры гэтым не прымаў асноўных, сутнасных палажэнняў міфалагічнай канцэпцыі стварэння жыцця на Зямлі. Гэта пацвярджае і яго вывад аб тым, што ўсё жывое — рыбы, птушкі, жывёлы — утварыліся ў вадзе. Ад гэтага

сцверджання заставаўся адзін крок да прызнання таго, што і чалавек, як і іншыя жывыя істоты, узнік у выніку эвалюцыйнага развіцця прыроды. У нейкай ступені К. Транквіліён-Стаўравецкі зрабіў гэты крок, прыйшоўшы да высновы, што чалавек складаецца з тых жа элементаў, з якіх утвораны і ўсе астатнія рэчы ў прыродзе. Пры ўсім відавочным схематызме і пэўнай абстрактнасці гэтага тлумачэння ў ім, усё ж такі, выказана прынцыпова новае разуменне ўзаемаадносін прыроды і чалавека, сутнасць якога ў тым, што між імі існуе непарыўная лучнасць, пераадолець якую чалавек не ў стане, бо ён з'яўляецца неад'емнай часткай прыроды, адной з яе мнагастайных формаў.

У «Люстры Багаслоўя» К.Транквіліён-Стаўравецкі ці не ўпершыню ў беларускай філсофіі ўзняў тэму кругазвароту вады ў прыродзе, вытлумачыў прычыны акіянічных цячэнняў і даў бліскучае навуковае тлумачэнне ўзнікнення прэснай вады.

Апрача таго, за 69 гадоў да Н'ютана, якому ў гісторыі навукі адведзена месца першаадкрывальніка прычын марскіх прыліваў і адліваў, беларускі натурфілосаф ужо ў другім дзесяцігоддзі XVII ст. геніяльна прадугадаў, што прылівы і адлівы з'яўляюцца вынікам узаемадзеяння Месяца і Зямлі. Праўда, К. Транквіліён-Стаўравецкі не адказаў на ўсё кола пытанняў, звязаных з прылівамі і адлівамі; ён не выявіў колькасных заканамернасцяў сіл прыцяжэння паміж планетамі і рознымі касмічнымі целамі і, канечне, не сфармуляваў закона сусветнага прыцяжэння, што, як вядома, зрабіў пазней І. Н'ютан, але ў сваім «Люстры Багаслоўя», надрукаваным у 1618 г., ён адназначна заявіў, што прылівы і адлівы — вынік прыцяжэння Зямлі Месяцам.

Глыбінёй вылучалася вучэнне К. Транквіліёна-Стаўравецкага аб чалавеку — трэцім, «малым» сусвеце. Галоўным дасягненнем асветніка ў галіне філасофскай антрапалогіі з'ўлялася распрацоўка важнейшых гнасеалагічных пытанняў. У «Люстры Багаслоўя» ён сфармуляваў прынцыповыя палажэнні навейшай тэорыі пазнання; вызначыў дзве асноўныя ступені спасціжэння чалавекам свету — ніжэйшую на ўзроўні пяці органаў пачуццяў (смаку, нюху, слыху, зроку і датыкання), з якіх пачынаецца працэс пазнання, і вышэйшую — з дапамогай розуму і абстрактнага мыслення.

К. Транквіліён-Стаўравецкі стварыў узнёслы гімн чалавечаму розуму, гэтай, паводле яго слоў, наймагутнейшай, нічым не абмежаванай і вечнай моцы чалавечага духу, якой падпарадкоўваюцца ўсе астатнія сілы чалавечай душы: воля, памяць, разважлівасць, любоў, даброць і інш. Чалавечы розум — гэта вобраз Бога, з чаго вынікала — чалавек, дзякуючы свайму розуму, набліжаецца да самога Бога.

К. Транквіліён-Стаўравецкі вучыў, што воля чалавека і яго розум свабодныя: не ад Божага наканавання, а ад уласнага выбару чалавека, «самаўладдзя» ды «разважлівасці» залежаць яго дзеянні і лёс.

Важны аспект антрапалогіі К. Транквіліёна-Стаўравецкага — вучэнне пра даброці, дараваныя людзям Госпадам: тры бачныя і пяць нябачных. Да ліку бачных Божых дароў ён адносіў самаўладдзе душы,

здольнасць чалавека да свабоднага выбару паміж дабром і ліхам. Другі Божы дар — зямное цела, створанае як абалонка несмяротнай і вечнай душы, каб яна праз увесь час жыла ў пакорлівасці ды спадзявалася на Божую ласку, а не ўзносілася ганарліва дзеля свайго высокага паходжання. Каб душа ведала пра ўсё, што дзеецца пад Сонцам, Бог стварыў у несмяротным целе пяць «ваконцаў» — зрок, дотык, слых, нюх і смак. Трэці бачны Божы дар — пасяленне чалавека на тым месцы, з якога выпалі анёлы. Усё зямное жыццё, жывёлін і гадаў Госпад стварыў, каб яны служылі чалавеку: дрэвы давалі плады, моры — рыбу, зямля — скарбы, месяц служыў вымярэнню часу, Сонца было крыніцай святла. Святы абавязак чалавека не пераходзіць межы сваіх запатрабаванняў, разумна карыстацца Божымі дарамі. Інакш яго спасцігне пакаранне, замест карысці й дабра ён знойдзе шкоду, напасці ды непамыслоту.

На атрапалогію беларускага філосафа вызначальны ўплыў, відавочна, аказалі Васіль Вялікі («Шасцідзённік») і Грыгорый Ніскі («Пра чалавека»).

Галоўны акцэнт *тэалагічных* разважанняў К. Транквіліёна-Стаўравецкага скіраваны на праблему спазнання Бога. Пісьменнік у прынцыпе лічыў магчымым для праведнага верніка спасціжэнне нейкіх найважнейшых сутнасных праяваў творцы, праўда, пры выкананні некалькіх умоваў, — найперш сталага жыцця з «чыстым сэрцам», шчырасці памкненняў, пачуцця страху перад Госпадам і сваёй мізэрнасці перад ім. Сузіраць Бога хрысціянін можа, аднак, не ў нейкім «бурлівым духу», ці ў «полымі вогнішча», як меркавалі паганскія філосафы, а выключна ў «тонкім, пакорлівым, ціхім і прасветлым духу».

Спасціжэнне Абсалюту адбываецца праз словы, звычайныя тэрміны, што маюць, аднак, сімвалічнае значэнне. Гэта дазваляе пазбегнуць персаніфікацыі Бога. Так, на думку К. Транквіліёна-Стаўравецкага, назоўнік «вочы», ужыты пры апісанні Госпада, сімвалізуе веданне Богам усіх рэчаў, якія ён стварыў; калі ж ужываецца назоўнік «ногі», дык ён азначае імгненнасць пераадолення Госпадам розных адлегласцяў, «ноздры» сімвалізуюць чуйнасць, «вусны» — розную сілу слова, «рамёны» — Божую сілу, «вушы» — здольнасць чуць усіх, хто звяртаецца з малітвай, «сон» — Божае доўгацярпенне, «старасць» — Божую спрадвечнасць і вечнасць. Абстрактныя назоўнікі, што традыцыйна ўжываліся для характарыстыкі Госпада — свет, прамудрасць, жыццё, моц, існасць, бацькоўскасць, сыноўскасць, дух, тройца, адзінка, рух, стаянне, праўда, даброць і інш. — паводле засцярогаў К. Транквіліёна-Стаўравецкага, нельга ўспрымаць літаральна. Бог — ёсць святло, але не тое, якое ведаюць людзі, гэта «святло над святлом». Бог — ёсць прамудрасць, але не тая, якую ведаюць людзі; гэта «звышпрамудрасць і найвышэйшы розум». У блізкім рэчышчы багаслоў паказваў і сутнасць астатніх дэфініцыяў. Пры вызначэнні Божых імёнаў К. Транквіліён-Стаўравецкі, бясспрэчна, абапіраўся ў сваім тэксце на

Дыянісія Арэапагіта, ягоныя знакамітыя творы: «Пра Божыя імёны» і «Містычнае багаслоўе».

Пытанню найменне Бога як «тройцы» і «адзінкі» пісьменнік прысвяціў спецыяльны раздзел. К. Транквіліён-Стаўравецкі не бачыў супярэчнасці ў тым меркаванні, што Абсалют — адначасна «тройца» і «адзінка»: Бог адзіны, але траякі ў сваіх іпастасях. Бог Айцец, Бог Сын і Бог Святы Дух роўныя між сабою, яны бясконцыя ў часе. Тых, хто аддаваў перавагу нейкай з персонаў, багаслоў залічваў да паслядоўнікаў «ерэтыка» Арыя, бо менавіта ён упершыню ў гісторыі багаслоўскай думкі прапанаваў градацыю між Божымі персонамі. Разам з тым, кожная з іпастасяў адзінага Бога мае свае рысы, адметныя ўласцівасці, якія акурат даюць падставы гаварыць пра іх «нязлучнасць», траічнасць у адзіным. Прыкмета Айца — ненароджанасць. Сына — народжанасць, Святога Духа — выпраменьванне, або зыходжанне.

Такім чынам, К. Транквіліён-Стаўравецкі пазбягаў арыянства і ў той жа час адмяжоўваўся ад вучэння Савелія, паводле якога Божыя персоны не маюць адметнасцяў. Тры персоны злучаныя, злітаваныя ў адзінстве праз адначаснае суіснаванне, ніводная з іх не існуе паасобку. Падмацоўваючы свае тэзісы спасылкамі на царкоўныя аўтарытэты — Яна Дамаскіна, Васіля Вялікага, Рыгора Назіянзіна і Аўгусціна, К. Транквіліён-Стаўравецкі мусіў, аднак, гаворачы пра неспазнаную таямніцу «тройцы», ужываць гэтак званы экстатычны прыём — абсалютнай веры ў неспазнаную таямніцу без лагічных доказаў.

Не парываючы з хрысціянскай традыцыяй, К. Транквіліён-Стаўравецкі стаяў на прынцыпова новых ідэйна-тэарэтычных пазіцыях, чымся яго многія папярэднікі і сучаснікі. Ён улічваў ўсе дасягненні еўрапейскай навукі, імкнуўся растлумачыць эвалюцыю зямнога жыцця, выявіць заканамернасці розных прыродных з’яваў, раскрыць асаблівасці чалавечага розуму, растлумачыць сэнс зямнога быцця чалавека.

*Іван Саверчанка*

## ЛЮСТРА БАГАСЛОЎЯ

### Прадмова да Чытача

Мілы і ласкавы Чытач!

Спачатку спазнай Творцу свайго, які Ён дзіўны і вялікі. Ад дзіўнага стварэння Яго — няведамая моц Яго. Боскасць ад пачатку свету акурат праз сатварэнне пазнаецца. Таму ўмей за такія дабрадзействы Яго, вялікія і невымоўныя, што ўчыніў для цябе, падзяку выказваць, нізкі паклон чыніць і годную хвалу вуснамі сваімі памнажаць!

Па-другое, спазнай самога сябе. Як ёсць такое дзіўнае і разумнае стварэнне, кшталтам і вобразам Божым, светласцю разумнай і несмяротнасцю ўзнагароджаны ад Бога ды паміж анёламі ў таварыстве пасаджаны?

Па-трэцяе, як так вялікія і дзіўныя справы, увесь свет той бачны, з такім дастаткам, згатаваў табе для жыцця! Толькі для адзінага цела бачнага. А што ж падумаеш і зразумееш пра тое, якія даброці незразумелыя, нябачныя згатаваў табе перад пабудовай бачнага свету! Такой раскошы і даброцяў прагнуць бачыць анёлы! У гэтым свеце паставіў цябе над усімі царом і ўладаром.

Таму пільна сцеражы сваю славу і гонар, каб не згубіў іх за малую салодкасць граху. Каб не пазбавіўся Айчызны Нябеснага Сіёна і не быў залічаны да абываталяў цёмнага Вавілона, дзе Д’ябал царуе.

Ведай і тое, ласкавы Чытач, чаму ў той кнізе выкладалася простым языком славянскім, а не ўсе папросту. Па-славянску выкладалі словы багаслоўцаў і довады Пісьма Святога. Па-другое, некаторыя словы славянскай мовы цяжка на простай мове дакладна і карэктна выкласці. Прычым такіх славаў шмат сустракаецца. Праўда, толькі невукі хочуць, каб усё прасцей, а разумны і з мудрагелістым справіцца.

Пра мяне шматгрэшнага ў малітвах сваіх памятайце. Дасць Бог, і пра складанейшае распавяду, калі Ён дарованы мне талент паглыбіць, ад якога шматлікія пакуты і беды маю. Сярод прафесіі маёй дагэтуль пануюць зайздрасць, абылганне, няўдзячнасць.

Моцны Д’ябал з памочнікамі сваімі, абапіраючыся на нас (пісьменнікаў і багаслоўцаў. — *І. С.*), хоча свет праўды Божай да цемры скарыць, стралу атрутную на яго падрыхтаваную адбіць і ў адваротны бок запусціць. Нацягвае лук падрыхтаваны таемна. У хованцы здрадаў сваіх задумаў трапіць у справядлівае сэрца і хваробай разбіць. Але стрэлы іхныя скіруе Госпад Бог у сэрцы іхныя, а мне шматпакутнаму дапамогу прышле — моцную руку сваю. Да канца спадзяюся, умацуе мяне на добрую справу, і працу да працы маёй дадам, калі мне Бог паспрыяе ў новых духоўных скарбах. Калі дазволіць свет розуму адкрыць дзеля карысці і суцяшэння душаў вашых, пабачу як гэтую сціплую маю працу, выкананую з ахвотаю і любоўю, з удзячнасцю прыміце.

Ведаю, якой нязначнай у вачах людскіх здаецца гэтая кніжка, але прачытай яе з павагай. Кожны без цяжкасцяў пабачыць у ёй вялікія горы прамудрасці нябеснай і дзіўны свет розуму! Іншае, вітай Госпадзе!

## Пра чацвяракі свет.
## Пра сатварэнне першага нябачнага свету і
## пра анёлаў светласці.
## Гутарка першая.
## Раздзел першы

Бог — багаты ў міласцях і прамудры Будаўнік ўсіх рэчаў, бачных і нябачных. Той, які не мае ні пачатку, ні канца. Але заўсёды быў з Словам і Духам сваім у заўсёды існым быцці перад нявымеранымі вякамі. Ахутаны святлом непрыступнай светласці, неспасцігальны ў знатнасці велічы сваёй.

Той, які не патрабуе ані неба, ані зямлі, ані якой іншай істоты, каб шукаць ад яе якой большай славы для сябе. Сам цераз сябе ў дастатковай славе знаходзіцца без усялякага стварэння, усё ў самім сабе мае.

У дабрыні сваёй невымоўнай задумаў праявіць славу сваю спрадвечную разумным стварэнням, якіх на той час яшчэ не было.

І найперш задумаў разумных істотаў, і адразу здзейсніў задуманае: прывёў з небыцця ў быццё разумных істотаў, нябачны першы свет — анёльскае асяроддзе.

Другі свет, па трысіянным Бостве, нейкую зару адыходную, што прапаведуе вобраз нябачнага Бога.

Прывёў іх і сатварыў заўсёды існым Словам сваім. Як напісана: сказаў Бог — няхай будзе свет. І стаўся свет. Найперш светласць разумная — анёльская бытнасць. Пра тое без пярэчанняў апавядаюць усе багаслоўцы, розум якіх прасветлены зарою Духа Святога.

Сярод бачных стварэнняў найперш стварыў найтанчэйшы элемент — агонь — светласць неразумную.

Усе анёлы створаныя Богам аднаімгненна. Іх так шмат, што не злічыць — тысяча тысяч, цьма цьмушчая, мільёны. Толькі сам стваральнік ведае іх колькасць. Палкі анёльскія не павялічваюцца, не змяншаюцца; не нараджаюцца і не паміраюць, бо анёлы бясплотныя.

## Пра сатварэнне Неба і Зямлі.
## Гутарка другая.
## Пра другі бачны свет.
## Раздзел 5

Па адпадзенні Сатаны задумаў дабротлівы Бог стварыць іншае разумнае стварэнне, істоту несмяротную, падобную анё-

лу — чалавека. Другога прыхільніка і анёла ў целе, каб заняў тое месца, з якога выпалі злыя анёлы і каб быў удзельнікам вечнай хвалы Яго.

І найперш прыводзіць Бог з небыцця ў быццё ўсі бачныя стварэнні, неба і зямлю. Такім парадкам, падрыхтаваў яму спачатку дом і месца. Затым уводзіць цара ў гатовае жыллё.

Перад тварэннем гэтага бачнага свету наперад закладае фундамент з чатырох элементаў і жывёлаў. Спачатку стварыў светласць вогненную, паветра, ваду і зямлю. А затым ад гэтых чатырох элементаў стварыў усе рэчы бачнага свету, як з асноватворнай і гатовай матэрыі. Ад вогненнай светласці — Сонца, Месяц, зоркі, усё светлае, што існуе ў бачным свеце. Ад паветра — дыханне ўсім жывёлам і ўсяму адухоўленаму: звярам, птушкам і чалавеку. Ад вады — два роды адухоўленыя: рыбы і птушкі. Ад зямлі — звяры чатырохногія, плодныя дрэвы і разнастайнае насенне.

Варта ведаць пра элементы наступнае: яны не роўныя. Адны — лёгкай і безцялеснай натуры, як агонь і паветра, другія — цяжкай і грубай, як вада і зямля.

Лёгкія і безцялесныя элементы мудры Будаўнік размясціў зверху. Грубыя і цяжэйшыя, зямлю і ваду, — знізу. Зямлі апошняе месца адвёў. Вадзе — над зямлёю. Паветру, як тонкай стыхіі, — над зямлёю і вадою. Агню, як найлягчэйшай стыхіі, над паветрам, вышэй за ўсе астатнія, даў месца.

Дзве стыхіі між сабой варагуюць, вайну вядуць: вада і агонь. І таму іх прамудры Стваральнік разсадзіў на розныя месцы, далёка ад сябе: вада — нізка, агонь — высока. Паветра між імі як перагарода і міратворац. Хтосьці скажа, як змагаецца вада з агнём, дык агонь ваду высушвае, гэтаксама і вада — сілу агня пагашае. Другая варажнеча бывае, калі зыйдуцца тыя дзве стыхіі ў адзіную: агонь эфірскі з вадаю марскою.

Або ведаем, як вада марская ўзыходзіць на вышыню тонкімі выпарэннямі, васкурэннем або імглою, і пераходзіць паветра. І дайшоўшы да межаў гарачага места эфірскага, вадзяністымі воблакамі чыніць супраціўленне і шум страшны, накшталт таго, калі зялеза ў агні раскалёнае пакладзеш у ваду. Тады чуцен шум і трэск. Гэтак жа і ў паветры бывае такое супраціўленне, грамыханне, голас грома і бліскание. Бо эфірскі агонь ад гумораў кропельных, або выпарэння зямнога і воднага, запаляецца і нараджае бліскание. Пра гэта многія кажуць — іншаземныя філосафы і нашыя багаслоўцы, Васіль Вялікі і Дамаскін святы.

І тыя чатыры элементы адзін з другім мірацца, і адзін другому перадае сваёй *квалетатэс,* або якасці. Дае зямля вадзе

сцюдзёнасці., а вада паветру — макроты. Паветра ж — рух агню. Агонь — зямлі і паветру цеплыні.

## Пра агонь, першы элемент. Раздзел 6

У першы дзень быў створаны свет, як напісана. Кажа Бог: няхай будзе свет і стаўся свет бачнага агню (Быцця 1), існасць лёгкая, прасветленая, гараносная, скараходная, сагравальная, спаляльная, скрозь усё бачнае пранікальная. Ён сваёй справай ператварае ўсе рэчы матэрыяльныя ў сваю прыроду. Не закрытым святлом ззяе. Ён схаваны ва ўсіх істотах, бо прамудры Творца сілу яго раздзяліў і даў кожнай істоце і роду. Ён ва ўсім — Сонцы, Месяцы, зорках, камянях, жалезе, дрэвах і іншых відах.

Мае агонь уласцівасць згасаць. Але ён не зыходзіць як бы ў небыццё, а нябачнай сілай узыходзіць на вышыню, да сваёй першапрыроды, на ранейшае месца. Да таго агню, які на вышэйшым месцы размешчаны; яго філосафы і багаслоўцы называюць эфірскае нашэнне.

Прамудры Будаўнік Бог уважае свет за першарадную прыгажосць гэтага бачнага свету.

Калі забраць святло, дык усе справы ў цемры будуць непазнавальныя. Таму Бог, як сатварыў святло, назваў яго дзень, а цемру назваў ноч. Бо цемра — не існасць нейкая. Выпадак і пазбаўленне святла паказвае цемру.

## Пра паветра, другі элемент. Раздзел 7

Другая стыхія — паветра. Яно нябачнае, лягчэйшае за зямлю і ваду. Таму на вышыні змешчанае і абымае кожнае цела. Натурай тонкае, празрыстае, хуткаснае. Ад месца да месца колападобна рухаецца і пераходзіць — уверх і долу, налева і направа, унутр і знутры. Рассякае і раздзяляе яго ўсялякае цела адпаведна сваіх формаў, калі ляціць птушка і калі ідзе чалавек.

З другога боку, паветра служыць тром пачуццям нашым цялесным, або сэнсам. Усім — звярам, птушкам і чалавеку. Паветрам дыхаем. Душнікам, які паглынае паветра, гэта значыць, плюцамі, нібы мяхамі кавальскімі, у сябе ўбіраем, а затым выпускаем. Праз паветра бачым, як праз тонкую і рэдкую матэрыю. Праз паветра чуем, яно пераносіць голас да нашага слыху.

Ветры і віхры — гэта ўзрушанне паветра. Узрушаецца паветра ад чатырох бакоў свету справай анёльскаю і ўтварае чатыры

галоўныя ветры: ад усходу і захаду, ад поўдня і поўначы. Кожны вецер мае два свае пабочныя ветры, меншыя, нібы крылы, у падтрымку сваёй моцы.

Паводле прыроды сваёй паветра не мае аблічча. Яно даспадобы святлу і цемры. Паветра прымае ад Сонца, Месяца і зорак якраз святло, а не што-небудзь іншае. Цемра — вяршыня бездані, адпачатку закладзеная. Паветра паводле прыроды — цёплае. Ахалоджваецца ад зямлі і ад вады, а таксама — пераменамі Сонца.

Паветра дзеліцца на тры віды: умеранае, сцюдзёнае і гарачае. Прамяні Сонца адбіваюцца ад зямлі і праганяюць холад. Такім чынам, паветра ад зямлі робіцца не вельмі халодным і не надта гарачым, для зручнейшага жыцця звярам і чалавеку.

Сярэдняе месца яго — сцюдзёнае. Там змярзаюцца снягі, грады, камяні ледавіковыя.

Вышэйшае месца яго — надта гарачае, вогнепадобнае, знутры непрыгляднае. Прымае запаленне светападобнае ад тонкай пары зямной і воднай, утварае маланку і гром.

Такім чынам, названыя два элементы — агонь эфірскі і паветра — далікатныя, тонкія целы, вачам нашым нябачныя.

Два наступныя элементы — вада і зямля — грубейшыя целы, якія мы бачым вачыма.

## **Пра ваду, трэці элемент.**
## **Раздзел 8**

Трэцяя стыхія — вада. Натурай мокрая, цяжкая, лёгкая да парушэння. Угору ўзносіцца пры выпарэнні. Празрыстая. У залежнасці ад выпадку — халодная або цёплая. Варожая агню.

Прамудры Стваральнік раздзяліў воды на два віды. Першую узняў на вышыню, там згусціў і на небе на вышыні размясціў.

Стварыў Бог нейкую цвердзь пасярод воднай стыхіі і назваў яе небам. Як напісана: сказаў Бог — няхай будзе цвердзь пасярод вады, і сталася так. Раздзяліў Бог воды на дзве часткі і адну частку на вышыні размясціў, над цвердзю. А другую частку вады пакінуў унізе, пад цвердзю. Пра тую цвердзь шматлікія філосафы і тэолагі дыскутуюць. Называюць яе пятым целам, якое лягчэй і танчэй, а паводле месца вышэй за астатнія чатыры элементы. І сапраўды, яна — цела, у якое ўпіраецца наш зрок, гэта значыць, у вышыню неба бачнага, якое з выгляду блакітны колер мае.

Як Бог раздзяліў воды, паклаўшы адну частку зверху бачнага неба, а другую пад небам, дык паўсюль запанавала цемра — паветра змрочнае над безданню і воднай глыбінёй. Цемра зда-

рылася таму, што воды, якія ляжалі на цвердзі, засланілі святло першастворанага свету.

А затым узяў Бог з першабытнага святла сёмую частку светласці і паклаў у Сонца і Месяц. Драбнейшыя часткі паклаў у зоркі. Астатняе размясціў у незлічоных родах ды істотах. І потым Ён асвятліў усё бачнае стварэнне пад небам.

Патрэбна ведаць і тое, дзеля чаго Бог паклаў воды на версе цвердзі. З той прычыны, што матэрыяльнае неба, або цвердзь — сухотная, злёгку рэдкая, не шчыльная матэрыя. А Сонца і зоркі — вогненныя рэчы. Таму, каб светласць іхняя і цеплыня, адпрыродна ў вышыню імклівыя, былі цалкам адкрытыя погляду і на вышыню праходзілі скрозь тую рэдкую і тонкую матэрыю і цвердзь нябесную.

Яшчэ Бог для таго паклаў воды наверсе неба, каб не згарэла цвёрдасць нябесная ад агню эфірскага і ад Сонца, і ад зорнага мноства. Дзеля таго, каб Сонца сваё святло, прамяні і цеплыню не погляду, але на зямлю скіравала ды асвяціла ўсе бачныя істоты, цеплынёю высушыла макрату зямную.

Бо ведаем, тады зямля была сярод вод невядомая, як жаўток усярэдзіне яйка. Але пажаданнем Божым збегліся воды ў нізіны, на адзінае месца. Тады зямля з’явілася як сухая рэч — чорная, выродлівая, як нейкая багна, макротная, голая і неўпрыгожаная. Сонца ж асвяціла яе прамянямі свайго святла, асушыла і сагрэла. І тады, паводле волі Божай, прыняла сілу нараджальную і раслінную. Прарасла травамі і розныя кветкі ад натуры сваёй вытварыла, і насенне пладаноснае, і дрэвы. Такім парадкам Бог аздобіў яе голае цела.

А тыя воды, каторыя засталіся пад цвердзю, у нізіне, сабраліся ў сонмы ў адзінае месца зямное і сталіся морам вялікім акіянскім. Як напісана: і назваў Бог зліццё водаў морам. Воды акіянскага мора акружаюць усю зямлю, ад усходу да захаду, ад поўдня да поўначы. Гэта зрабіў мудры Стваральнік для выратавання зямлі, бо тая б згарэла ад гарачыні сонечнай, калі б не мела сяброўства і злучэння з вадою.

Падзяляюцца воды акіянскага мора на азёры, малыя моры, рэкі і крыніцы, якія ад каменняў і ад зямлі зыходзяць.

Марская вада — салёная і горкая. Сцвярджаюць некаторыя філосафы: яна такая таму, што доўга стаіць на адным месцы без зменаў і нерухома. Да таго ж Сонца няспынна ходзіць над морам акіянскім, выцягвае прамянямі сваімі, лёгкай парай або імглою салодкасць водную. Гэтаксама і дуга вясёлкі часта бярэ лёгкую ваду з мора і ўздымае на вышыню і ўчыняе дажджавыя аблокі.

Іншыя ж фізіёлагі, сцвярджаюць: марская вада паводле сваёй прыроды салёная. Бо калі б была не салёная і так доўга стаяла без руху на адным месцы ад сатварэння свету, дык загнілася б і засмярдзела. І смуродам сваім заразіла б усё паветра і людское жыццё загубіла б. Таму і я, дзеля той прычыны, мяркую, — вада ад прыроды салёная.

Зрэшты, так гэта або інакш — усё зрабіў цудадзейны Стваральнік прамудрасцю сваёй. А дзеля таго, каб марская вада не затрымала паветра, яна мае траякае парушэнне.

Першае паводле прыроды. Воды акіянскага мора ідуць хутка ад усходу да захаду. Затым з захаду цякуць на поўнач, а ад паўночнага мора зноўку бягуць на ўсход, наўкол абыходзяць зямлю, як Сонца неба.

Другое парушэнне маюць воды марскія. Месяц, ідучы над гарызонтам, прамянямі сваімі цягне воды за сабою. Уздымае на вышыню і апускае. Тое парушэнне часта бачаць тыя, што на ўзмор'і жывуць.

Трэцяе парушэнне ад вятроў. Яны няспынна пераварочваюць воды валамі на адзін бок, а затым на другі. І такім чынам не папускае Бог дабротлівы загніцца і засмярдзець марской вадзе.

Для жыцця твайго, мітуслівы чалавеча, Бог усё дзіўна стварыў.

Але і тое ведаць варта, адкуль прэсная вада цячэ, паколькі ўся вадзяная стыхія салёная ад прыраджэння. Наперад тое патрэбна ведаць, што ўся зямля дзіркі ў сабе мае, нібы нейкія жылы. У морах такія месцы эўрэпіны, або пупы і бездані, праз якія вада трапляе ў сярэдзіну зямлі і разыходзіцца па жылах і ўсіх тых дзірках. Ідучы скрозь зямлю, вада пакідае ў ёй грубасць горкасці і салёнасць. Урэшце, толькі тонкая і прэсная вада б'е з крыніц.

З крыніц складаюцца рэкі і азёры. Воды між гор праходзяць і трапляюць у моры.

Таксама ў гарах бываць ключы і крыніцы водныя. Іх прычына наступная. Паколькі ўся зямля круглая, нібы яблык, на якой воды ляжаць з усіх бакоў — унізе, уверсе, з бакоў, дык воды, што ідуць з аддаленых краінаў да нас, узыходзяць якраз на высокія месцы і горы, туды, куды ім Бог загадвае.

А тыя воды, што ад нашай краіны ідуць уніз, пад зямлю, там з'яўляюцца на найвышэйшых месцах, на гарах.

Такім чынам, воды праз усю зямлю на другі бок ідуць і абмінаюцца, як ім праходы ўчыніў мудры Творца.

Воды, што ідуць па зямлі, трапляюць на скалістыя, цесныя мясціны. І там ад цяснення вада гвалтам награваецца і зыходзіць

гарачая, і утварае адпрыродныя цяплярні. Некаторыя філосафы сцвярджаюць, аднак, іншае. Яны кажуць, што ў сярэдзіне зямлі ёсць месцы вогненныя, якія называюцца вулканы — агонь раздзелены на ўсе стыхіі. І калі трапіць вадзе праход блізка вулкана і камянёў распаленых, тады яна награваецца і гарачая вырываецца на паверхню. Але й гэта стварыла прамудрасць Божая не дарма. Калі не дзеля патрэбаў чалавека, дык дзеля хвалы сваёй. Каб ты, чалавеча, дзівіўся з надзвычайнай прамудрасці Божай і дабраты яго. Якія вялікія і невераемныя рэчы для цябе стварыў!

Такім чынам, водная стыхія — добрая і патрэбная чалавеку. Яна абмывае яго, прахалоджвае, поіць і спаталяе смагу, жывому целу сілу дае.

Перадусім, у адпаведнасці з воляй Божай, вада вытварыла жывую душу — рыбаў, кітоў вялікіх, цюленяў мноства і ўсялякіх гадаў і птушак, што ў паветры лётаюць. Усё гэтае мноства выйшла з вады ўладаю Божай.

І тою ж вадою хацеў Бог абнавіць застарэлую ў грахах нашую прыроду і абмыць праз Хрышчэнне брыдкасць грахоўную. І таму напачатку нашэннем Духа Святога ачысціў воды. Як сказаў Васіль Вялікі: «Вада стане месцам ачышчэння ўсялякай нечысці, калі прыме дар Духа Святога. Як у тайне Хрышчэння і другога нашага духоўнага нараджэння ў жыццё вечнае».

### Пра зямлю, чацвёрты элемент. Раздзел 9

Чацвёртая стыхія — зямля. Яна — цяжкая, сцюдзёная, напоўненая цемрай і чарнатой густой, цвёрда стаіць на месцы сваім. З небыцця ў быццё ў першы дзень Богам прыведзена. Як напісана: «Спачатку сатварыў Бог неба і зямлю і ўмацаваў яе на цвёрдасці яе».

Пра нараджэнне і ўсталяванне Зямлі ніхто не можа пэўна сказаць. Адны прарокі гавораць: усталявалася Зямля на водах. Так Давыд сказаў. Гэта азначае, што з ўсіх бакоў яе трымаюць воды. Іншыя прарокі кажуць, што Бог сваёй воляй павесіў Зямлю на нічым, усталяваў яе на яе ж цвердзі. Але ці на водах, ці на паветры яна ўмацаваная, усё адно аддадзім належную славу прамудраму і хітраму Творцу яе.

Шмат якія філосафы гэтага свету і прамудрыя багаслоўцы нашы настойваюць на тым, што зямля круглая, нібы яблык. І не толькі яна. Але і неба, і ўвесь свет круглы. Як піша пра гэта святы Васіль Вялікі ў «Экзамероне, або ў Шасцідзённіку».

Зямля з горамі і водамі павешана на паветры, пасярод неба, нібы тычка, і замацаваная нябачнай сілай Божай. І адусюль пакрывае яе і ўтрымлівае неба, якое знаходзіцца паўсюль на роўнай адлегласці — як высока над Зямлёю, гэтак і пад Зямлёю, і з бакоў Зямлі.

Спачатку Зямля была пакрытая водамі. А калі воды, воляй Божай, сабраліся ў адно месца, тады пры іх адступленні ўтварыліся даліны і горы па ўсёй Зямлі.

Усё гэта стварыў прамудры Бог на патрэбу чалавеку. Горы, каб з іх чалавек аглядаў шырыню зямлі і прасторы жылля свайго. Даліны — для праходжання рэк і крыніцаў водных. Роўныя палі — для сяўбы і жатвы, для занятку людскога. З той жа мэтай Бог аздобіў Зямлю рознымі кветкамі, накрыў яе голае цела. І ўзбагаціў насеннем, і шматлікімі пладамі — салодкімі і горкімі. І дрэвы насадзіў на ёй разнастайныя, пладаносныя. І ўпрыгожыў дом чалавека вясёлымі гаямі і высокімі горамі, і камянямі шматкаштоўнымі, і рудамі залатымі ды сярэбранымі.

І вытварыў Бог з зямлі ўсялякія роды адухоўленыя і бездухоўныя. І звяроў чатырохногіх, і гадаў паўзуноў. І даў на ёй месца для жыцця звярам дзікім і свойскім, чыстым і нячыстым. І каб птушкі з зямлі харчаваліся, ў зямную прыроду заклаў Ён сілу раслінную і пажыўную, і насенне ўрадлівае. І ад яго загадаў карміцца ўсім, хто жыве на зямлі — чалавеку, птушкам, звярам.

І ўсё тое стварыў на карысць чалавеку. Адных звяроў — на спажыву, як аленяў, сарнаў, ласёў, зуброў, авечак ды інш. Другіх — дзеля працы, як валоў, вярблюдаў, аслоў, коняў, сланоў. Трэціх — дзеля адзення, як рысяў, сабалёў, кунаў, лісаў. Іншых — дзеля астатніх патрэбаў.

Гэтаксама і птушак. Адных — дзеля спажывы, як журавоў, курапатак, пардву ды інш. Другіх — дзеля ўцехі, як сакалоў ды ястрабаў. Астатніх, пеўных птушак, — дзеля ўвесялення слыху, як салаўёў, ластавак, косаў.

Тое ж знойдзеш і ў дрэвах, у садах. Адны для спажывання прыносяць салодкія плады, іншыя для саграванне і будоўлі.

Кветкі рознай прыгажосці і прыемнага водару на зямлі з тымі ж мэтамі. Адны — дзеля ўцехі ноздраў і ўсяго цела, як ружа, майран, шпіканандрум. Іншыя — дзеля лекавання створаныя.

Усялякае тварэнне — на зямлі і ў моры, ў паветры і на вышыні — Бог стварыў дзеля патрэбаў чалавека.

## Пра веліч неба і прыгажосць яго.
## Раздзел 10

А якой прыгажосці, шырыні і вышыні неба! Яго раскінуў Бог над зямлёй, як шату паспалітую, кожнаму стварэнню бачную. Яно акружае ўсю зямлю, воды, паветра і быццё агню эфірскага. І ўпрыгожыў яго аблічча разнастайным святлом — горалётным, светаносным, скараходным Сонцам, пераменлівым Месяцам, разнастайнымі незлічонымі свяцілямі, зоркамі.

У доме чалавека горні пакроў дагледзеў і аздобіў усялякай прыгажосцю! Перадусім узвёў палац дзіўны, прасторны, з усялякім багаццем, дастаткам, раскошамі для жыцця сусветнага цара і валадара над усім у свеце — чалавека!

Вось так да гатовага жытла прыводзіць яго з небыцця ў быццё. І як прывёў ў дом гэтага свету, загадаў усім стварэнням, каб служылі і пакланяліся чалавеку нераўнуючы як цару. І так сталася воляй Божай, бо ўсе істоты дзеля карысці і патрэбаў чалавека створаны.

Сонца і Месяц — свяцільнікі ў ягоным даме. Ветры — прахалоджанне. Зямля і мора — даннікі яго. Зямля з нетраў сваіх прыносіць насенне, розныя ласункі. Мора гэтаксама, з глыбіняў сваіх — незлічоныя роды рыбаў. Месяц з планетамі паказваюць час і гады. А Сонца кругазваротам сваім чыніць перамены холаду і цеплыні, паказвае пераходам сваім чатыры пары года — зіму, вясну, лета і восень.

Неба сваім рухам і абаротам пераносіць Сонца з зоркамі ад усходу на захад і так чыніць дзень наверсе Зямлі і ноч пад зямлёю. А калі з захаду на ўсход пераносіцца пад Зямлёю, дык там дзень, а наверсе Зямлі — ноч дзеля пакою чалавеку. Астатняе розум мой не здатны спасцігнуць. І вока зрокавае прытупляецца. Хто даастатку можа распавесці пра моц справаў прамудрага Бога! Дзіўныя справы яго і вялікія, і неахопныя, і вышэй усякага розуму!

Варта і тое ведаць табе, о чалавеча, чаму не можаш дарэшты спасцігнуць тварэнне рук Божых. Дзеля таго, каб табе не здалося, што маеш пазнанне, роўнае Богу! Бо каб меў такія ж веды, як Бог пра стварэнні свае, то быў бы паводле ведаў сваіх роўны Богу, Творцу ўсіх рэчаў. Але як Бог невымоўны і неспасцігальны, гэтак і справы яго. Не адзінае толькі слова, дастаткова ёсць рэчаў для ўхвалення цудаў яго. Толькі частковыя веды маем, толькі часткова можам зразумець Бога і справы Яго, асэнсоўваем збольшага розумам нашым увесь бачны свет і прыгажосць яго і асалоду.

Дзеля чалавека ўсё створана! І таму свет гэты, дзе мы, людзі, нараджаемся, жывем і паміраем паводле прыроды і сутнасці сваёй — добры, бо стварыў яго дабротлівы Бог. А калі свет гэты бачны такой невымоўнай прыгажосці з вялікімі салодкімі раскошамі і дастаткамі падрыхтаваны і створаны Богам для адзінага бачнага, часовага і смяротнага цела, дык што ж уявіш, чалавеча, пра душу тваю! Душу нябачную, разумную і несмяротную! Якія для яе даброці і дары няведамыя Бог згатаваў перад закладаннем гэтага бачнага свету! Мусіць, гэтае месца цудоўнае і даброці прагне бачыць вока анёльскае! Яго падрыхтаваў Бог тым, хто любіць яго. Над усімі гэтымі даброцямі, бачнымі і нябачнымі, з двух бакоў, паставіў Бог чалавека царом і валадаром.

Толькі будзь, чалавеча мітуслівы, удзячны такой ласцы за такія вялікія дары Божыя! Аддавай яму нізкія паклоны скоранаю душой сваёй. І без перастанку хвалі добрага даўцу, Бога свайго. Не пагарджай дарамі Яго! Не згубі іх дзеля малой асалоды граху! І калі так будзеш рабіць, атрымаеш тое шчаслівае месца ў Царстве Нябесным ласкай Госпада нашага Ісуса Хрыста. Яму слава, гонар і валадарства, разам з Айцом і Духам Святым яго! Зараз і заўжды і на вякі вечныя! Амінь!

**Пра сатварэнне чалавека, які называецца малым светам.<br>Гутарка трэцяя.<br>Пра склад чалавека,<br>які складзены з дзвюх існасцяў,<br>і пра няроўныя пачуцці яго.<br>Раздзел 11**

Трэці сусвет — гэта чалавек. Так лічаць філосафы і багаслоўцы. У ім убачыш дзівосную прамудрасць Божую. О, чалавеча, толькі спасцігай самога сябе! Ты дзіўнае стварэнне Божае! Скарбніца прамудрасці Яго невымоўнай, якая ў табе закладзеная і схаваная!

Створаны ты з дзвюх існасцяў розных. Цела бачнае з чатырох элементаў складзенае: плоць — ад зямлі, кроў — ад вады, дыханне — ад паветра, цеплыня — ад агню. Душа нябачная, разумная і несмяротная — подыхам Божым у цела ўкладзеная. Як напісана: і дыхнуў Бог у твар Адаму і атрымаў Адам душу жывую.

Адзіная сіла той жывой душы раствораная ў целе. Яна ажыўляе і рухае ўсё цела. І пачуццямі пяццю, альбо змысламі асвойвае ўсё бачнае і нябачнае, асалоды і прыгажосці гэтага бачнага свету.

Мае ж у целе сваім розныя пачуцці і няроўныя, як і стыхіі ў свеце. Адны тонкія, іншыя — грубыя.

Смак, грубы як і зямля. Распазнае, калі датыкаецца, салодкае або горкае.

Нюх, тонкі як і вада. Сягае на адлегласць і адчувае пах ці смурод.

Слых, яшчэ танчэйшы і лягчэйшы, чымся паветра, бо далей сягае моцай сваёй. Прымае галасы здалёк і адрознівае іх.

Зрок, як і агонь, танчэй за ўсё астатняе. Вока здалёк абымае ўсялякае цела і адчувае яго. Калі ўздымешся на высокую гару, дык адтуль убачыш бяскрайнюю шырыню зямную і вышыню нябесную.

Дотык усяго цела мае сваю нейкую асобную адчувальную сілу ад жывой душы. Бо адчувае ўсялякі боль і вагу — цяжкае і лёгкае, сцюдзёнае і гарачае.

І тымі пяццю пачуццямі ўспрымае чалавек усе бачныя і нябачныя істоты. Двума пачуццямі, зрокам вачэй і дотыкам — бачнае. Трыма астатнімі — нябачнае. Смакам — нябачную салодкасць і горыч, ноздрамі абнюхвае нябачны водар, слыхам прымае нябачныя галасы.

Аднак ёсць нябачныя існасці, якія ў філасофіі і багаслоўі называюцца целамі. Ёсць таксама тыя, што не трапляюць пад катэгорыю целаў — душа, анёлы, прамудрасць і іншае. Гэта разумныя існасці. Іх спасцігае і назірае толькі розум, сваёй разумовай зрокавай моцай, якая называецца філасофія і багасловія матафізеон.

Мае чалавек дваякую асалоду, або смак.

Першы — душэўны, нябачны, толькі самой душы прыналежны. Ён бывае або з навукі, якая шануе і смакуе мудрасць, або з бачання разумовага, якое прагне засмакаваць з прыгажосці нябеснай і бачання многіх тайнаў Божых. І тое — сапраўдны смак душы і спажыва.

Другі смак — цялесны. Той вядомыя рэчы гэтага свету пачуццямі прымае. Смакам — асалоду спажывы, а таксама салодкасць і горыч напояў. Зрокам — атрымлівае асалоду ад прыгажосці жанчын, аздобы светлых шатаў, шматкаштоўных камянёў, дыяментаў, срэбнага і залатога начыння. Зрок пасе і смакуе прыгажосць тых рэчаў. Слыхам прымае асалоду ад галасоў радаснатворных, ад песняў і музыкі.

І ноздрамі засмакуе салодкі водар ад розных зёлак. І ад смеху асалода бывае. З тых асалодаў адныя — сапраўдныя, другія — падманныя, фантазіі, калі нейкая рэч смакуецца ў думках,

запаўняе думкі. Гэта падманная асалода. Толькі тая сапраўдная, якая з пачуццямі.

### Пра падзел складовых чалавека: першай, горняй — неба і другой, дольняй — зямлі. Раздзел 12

І пра тое належыць ведаць, што чалавек складам сваім мае дачыненне, або саўдзельніцтва і агульнасць, да ўсякага тварэння: зямлі — плоццю, вадзе — крывёю, дыханнем — паветру, цеплынёй — агню, дрэву — раслінней моцай, маўклівым істотам — лютасцю і похацямі, неадухоўленым — ногці, валасы, якія няхай рэжуць — не чуюць болю. Мае сувязь і з славеснымі. Як і анёлы, уласным розумам, самаўладдзем, развaжаннем, можа тварыць злое або не тварыць.

Ёсць і іншыя сілы ў душы, якія разумныя справы чыняць, падпарадкоўваючыся разумным жаданням. Дзеля іх чалавек і названы малым сусветам. Не зважаючы на малы склад, мае ў сабе дзіўную прамудрасць Божую. І сапраўды, чалавек — ёсць неба і зямля. Частка чалавека, што вышэй пупа — нябесная, ніжняя — зямная.

Як у небе, у святле непрыступным жыве Бог нябачны, самаўладны, несмяротны, які ўсё ведае, і блізу яго дзеюць сілы разумныя — анёлы, гэтак і ў горняй частцы чалавека, у галаве, у белым і бяскроўным мазгу — розум нябачны, самаўладны, несмяротны, вечны, шматзрокавы, самая першая моц душы. Ён ёсць кшталтам і вобразам неспазнанага Бога. І пры ім іншыя сілы разумнай душы — воля, памяць, дабрыня, думка, інтэлект, хітрасць, фантазіі, развaжанне, радасць, каханне. Гэта найзацнейшыя сілы разумнай душы. Яны пры розуме стаяць, як слугі ля цара.

Як слых, зрок, нюх, смак, нібы вочы цела, бачаць усю прыгажосць гэтага свету, гэтак і ў душы розум — шматзрокавае вока. Той аглядае бачнае і нябачнае, нябесных і зямных розную прыгажосць. І ад тых даброцяў мае асалоду. І ў свеце нябесным пасе свой зрок, без забаронаў, дзеля ўцехі сваёй, добраслаўленнем Творцы яго.

Калі спытаеш, ці адно і тое ж — розум і інтэлект, то варта ведаць, што не адно і тое ж. Розум — гэта адпрыродная моц душы, крыніца, падмурак усякіх ведаў чалавека. Інтэлект — звонку да душы прыходзіць. Калі нечаму ад некага навучышся і штосьці зразумееш — гэта інтэлект.

А розум у душы сам праз сябе інтэлектуальны. Ён усялякія інтэлекты ў свеце нараджае і аздабляе.

У тым розуме вобраз Божы і падабенства славы яго і несмяротнасць адлюстраваныя. І калі розум той, жывучы ў целе смяротным, сваёй воляй злучыцца з Богам і анёламі Яго, тады навечна з Богам застанецца, назаўжды адлучаны ад цела. Калі ж адхіліцца ад Бога і ад дабрыні Яго сваёй воляй да злога, як анёл-адступнік, тады з дэманамі ў вечнай цемры застанецца. Па смерці, разлучыўшыся з целам, апынецца ў няволі дэманскіх сілаў і з Богам не будзе мець аніводнай кропкі судакранання. Няма агульнага ў святла з цемрай, у дабра са злом.

У галаве чалавека ёсць слова і голас, якія — свет розуму. Яны адкрываюць ягоныя жаданні, а таксама адкрываюць яго прамудрасць, рады, таемныя ўзрушэнні душы.

Як у небе ёсць свяцілы, Сонца, Месяц, гром, бліскавіца, ветры, гэтак жа і ў галаве — вочы, нібы свяцілы; голас, нібы гром; марганне вока, нібы бліскавіца; дыханне з ноздраў, нібы вецер духа бурлівага.

Калі гаварыць пра ніжнюю частку чалавека, дык яна накшталт зямлі: паводле выгляду цёмная, макротная, пладатворная, раслінная, праз яе праходзяць воды. І як зямля раскладае многія рэчы гэтак і ніжняя частка чалавека ежу. І як звяры ў ёй іншыя сілы і дзеянні розныя — лютыя, блудлівыя, раслінныя.

Агульнае спалучэнне — душы і плоці, дабра і зла, смерці і несмяротнасці.

Стварыў Бог чалавека з двоякай існасці — нябеснай і зямной. Цела бачнае — ад зямлі, душа нябачная — ад неба. Таму чалавек ёсць святло і цемра, неба і зямля, анёл і звер. Паставіў яго на мяжы жыцця і смерці, пасярод ганарлівасці і пакоры. Дзівоснае спалучэнне — дух і плоць, смерць і жыццё!

Паводле адпрыроднай разумнай душы, чалавек — свет і анёл жывы, а неба — вобраз Божы і падабенства славы яго. А паводле цела — цемра, смерць, зямля, звер. Такім чынам, несмяротнасць і тленнасць у адзіным складзе падарожнічае праз быццё бачнага свету. Дух — дзеля хвалы вечнага Бога, цела — дзеля пакоры чалавека, каб душа не ўзносілася высока ад пыхі, святлааблічнага быцця свайго і высокага нараджэння. Калі ўзносімся душою і вялікасцю, як часткай Божай, то, паглядзеўшы на цела, добра ўсведамляем, што мы ёсць кал і марнасць. Такім чынам, душа сваё самаўзвышэнне стрымлівае і схіляецца перад Богам. Цела знаходзіцца пад уладай разумнай душы, навучаецца і пазнае тое, што яно ёсць пыл, марнасць і начынка, якая псуе абалонку.

І таму няхай не ўзносіцца ад пыхлівасці, бо анёл адшчапенец чужы застаўся ласцы Божай, свету і жыццю, назаўжды страціў гэтыя дары.

Належыць мне паўтарыць слова прамудрага Грыгорыя «Пра зліццё і разлучэнне». Вораг — міласцівы, а сябра — паклёпнік. Цела — таварыш душы паводле з'яднанасці. Але таварыш, які шкодзіць, бо ваюе супраць яе, наступае похацямі граху, патрэбамі сваімі. Таму яно найперш — вораг душы.

З другога боку, цела — міласцівы прыяцель душы, бо бароніць яе ад пыхлівасці, накіроўвае да добрага. Таксама целам магу пасціцца, маліцца, плакаць за грахі, міласціну падаваць, схіляць калені перад маястатам Божым, чаго голая душа без цела справіць не можа.

Аднак не ведаю, як могуць пазбегнуць узаемнай вайны: паўстае душа на цела і цела ваюе з душой. Дзеля цела ніжні бок люблю, дзе грэх царуе. Душой жа прагну вышняй Айчыны.

Калі скіроўваю погляд на Бога — тады вялікім і несмяротным пачуваюся, нябесным і спадкаемцам святла. А калі цялеснае схіліць мяне да дольняга свету, паставіць блізу царства Сатаны ля мяжы смерці! Цяжка мне тады! Смяротным пачуваюся, цёмным, нашчадкам агню. Бо мяжа смерці — цела грахоўнае. Мяжа вечнага жыцця — прага да Бога, бязгрэшная душа.

Між тых дваіх розум, як цар і ўладны суддзя, і сторак жыцця вечнага. Той адрознівае помыслы, што зыходзяць ад душы, ад тых, якія, відавочна, зыходзяць ад спакушальніка.

А калі душа пасецца ў межах смяротных, гэта значыць, дзеіць на карысць цела ў похацях яго, тады яна бывае адлучана ад неба і пазбаўленая ўсялякага святла, сама блудзіць у цёмным ды злаславым свеце, нібы сляпец, і туляецца пад нагамі сілаў варожых ды ўладаў цёмных.



# ТУМАШ ЯЎЛЕВІЧ

*(першая палова XVII ст.)*

Тумаш Яўлевіч — вельмі яркі паэт эпохі Барока. Нарадзіўся ён у Магілёве на Дняпры, там жа атрымаў першапачатковую адукацыю, затым працягваў вучобу ў Кракаве. З 1628 да 1632 г. ён займаў пасаду рэктара Кіеўскай брацкай школы. У 1632 г., пасля аб'яднання гэтай школы з Кіева-Пячорскай і стварэння Кіева-Магілянскай калегіі, Т. Яўлевіч быў звольнены мітрапалітам Пятром Магілам з пасады рэктара. Палічыўшы звальненне за абразу, ён пакінуў Кіеў і накіраваўся ў родны Магілёў. Аб далейшым лёсе Т. Яўлевіча звесткі адсутнічаюць.

Адзіны вядомы твор Т. Яўлевіча «Лабірынт, або Заблытаная дарога» быў напісаны ў часе яго навучання ў Кракаве і выдадзены асобнай кнігай у 1625 г. у кракаўскай друкарні Францыска Цэзарыя (Унікальны паасобнік выдання захоўваецца цяпер у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве. Збор старадрукаваных брашур былой маскоўскай друкарскай бібліятэкі. Воп. № 404 (б-ка, сейф рас.), № 4217).

На тытульным аркушы кнігі пазначана, што напісаў яе «Тумаш Яўлевіч, студэнт навук вызваленых». Паэма адрасавалася «брацтву малодшаму магілеўскаму новапачатнаму». У ёй паэт як бы прапаноўваў брацтву свае паслугі настаўніка і выхавальніка. Паэма «Лабірынт…» — гэта своеасаблівы рэкамендацыйны ліст, публічная дэманстрацыя аўтарам сваіх разумовых і літаратурных здольнасцяў.

Паводле зместу і ідэйна-мастацкай скіраванасці «Лабірынт...» з'яўляецца працягам рэнесансавых, гуманістычных традыцый. Зліццё лірычнага героя і алегарычнага вобраза Мудрасці, ад імя якіх у паэме ажыццяўляецца аповед, складае мастацка-кампазіцыйную аснову твора. Дзякуючы гэтаму дасягаецца эпічная шырыня і шматпланавасць мастацкага выяўлення.

Назва паэмы — «Лабірынт...» узнікла як вынік адметнага аўтарскага ўяўлення пра сусвет, які нагадваў яму заблытаны клубок супярэчнасцяў, з якога чалавецтва не знаходзіць выйсця.

Паэма мае невялікі 20-радковы ўступ, у якім аўтар асвятляе ўласныя прынцыпы мастацкай творчасці. На думку Т. Яўлевіча, аснову яго творчага метаду складала імкненне заўсёды і ва ўсім прытрымлівацца вялікай Мудрасці, якую могуць спасцігаць і кіравацца ў практы-

цы вершаскладання не толькі пасівелыя творцы, але й юнакі, што накіроўваюць свае памкненні на пошук дабра і справядлівасці. У кароткай прадмове да паэмы Т. Яўлевіч не забыўся нагадаць пра адрасата яго паэтычнага паслання, а таксама папрасіць прабачэння на той выпадак, калі яго «верш» каму-небудзь не спадабаецца. Аўтар паведаміў і пра маральна-этычныя прынцыпы, якімі ён кіраваўся ў сваім творы.

Галоўная тэма паэмы — роля навук і мастацтваў у жыцці грамадства. Дзеля асвятлення гэтай найважнейшай тэмы Т. Яўлевіч стварыў у «Лабірынце...» сімвалічны вобраз усепранікальнай Мудрасці. Узнёслае стаўленне Т. Яўлевіча да Мудрасці тлумачыцца тым, што ён лічыў яе адзіным выратавальнікам асуджанага на пагібель свету.

Найважнейшы матыў паэмы — услаўленне багатай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, якая ўвасобілася ў гарадах, такіх, як Магілёў, Галіч, Кіеў і інш., упрыгожаных мноствам цудоўных бажніцаў, што на працягу стагоддзяў цешылі вока праваслаўнага чалавека. У мінулым беларускага народа аўтар паэмы бачыў ідэальны, залаты век.

Тэма маральнай чысціні грамадства — асноватворная ў паэме. Т. Яўлевіча абурала згубнае распаўсюджанне п’янства, якое ён слушна лічыў найвялікшым грамадскім злом.

Неаспрэчная заслуга Т. Яўлевіча як таленавітага паэта ў тым, што ён упершыню ў беларускай паэзіі ўзняў многія вострыя грамадскія праблемы, адкрыта заявіў пра маральны крызіс і заганы грамадства, раскрытыкаваў чыноўніцка-бюракратычны апарат, які паграз у хабары і стаў абыякавы да простага чалавека. З боллю ў сэрцы паэт пісаў, што ў грамадстве, дзе пануюць барацьба за ўладу, нянавісць і здрада, страшнае невуцтва і п’янства, няма месца для Мудрасці, гармоніі і згоды.

Аўтар паэмы «Лабірынт…» не толькі крытыкаваў і абвяргаў, ён прапаноўваў станоўчую праграму дзеянняў, сутнасць якой — у маральным удасканаленні людзей, шырокім развіцці навук і асветніцтве народа.

Ад любога чалавека, незалежна ад яго сацыяльнага становішча, Т. Яўлевіч патрабаваў адказнасці за лёс Айчыны, актыўнага ўдзелу ў грамадскіх справах. Нельга замыкацца толькі ў рамках уласнай гаспадаркі, нічога не бачыць вакол сябе, папярэджваў Т. Яўлевіч, бо гэта вядзе да маральнага спусташэння і духоўнае смерці.

Усю адказнасць за вырашэнне грамадскіх праблемаў Т.Яўлевіч справядліва ўскладваў на адукаваных і таленавітых людзей, якія ў першую чаргу павінны былі, як сапраўдныя пастыры, клапаціцца пра агульнае шчасце, берагчы свой «статак» ад розных «воўчых» інтрыг, ні ў якім выпадку не адмаўляцца ад свайго вышэйшага прызначэння — клопату пра людзей.

У паэме ў мастацкай форме асветленая вострая праблема барацьбы шляхецкіх груповак за палітычную ўладу і палітычнае лідэрства. Варажнеча паміж палітычнымі дзеячамі, якія вырашаюць важныя дзяржаўныя праблемы, на думку паэта, уяўляла страшэнную грамадскую небяспеку.

Значнае месца ў паэме займае тэма навучання, адукацыі і выхавання. Свае аргументы ў абарону выключнай важнасці адукацыі і належнага выхавання аўтар падаваў у форме дыялога Мудрасці з жыхарамі Магілёва. Адказнасць за адукацыю і выхаванне дзяцей Т. Яўлевіч ускладаў на дарослых, востра крытыкуючы тых бацькоў, якія не жадаюць траціць сродкі на навучанне сваіх дзяцей.

У недастатковым развіцці навук і адукацыі Т. Яўлевіч бачыў не прыватную загану, а праблему агульнадзяржаўнай важнасці. Ён быў цвёрда перакананы, што толькі правільнае навучанне і добрая адукацыя змогуць забяспечыць стабільнае і спакойнае існаванне краіны, яе далейшае развіццё і росквіт.

Паэма Т. Яўлевіча «Лабірынт...» мела непрыхаваную дыдактычную скіраванасць. Аўтар прапаноўваў ідэальныя нормы паводзінаў і жыцця, своеасаблівы маральны кодэкс для чалавека таго часу, сцвярджаючы, што толькі збалансаваныя грамадскія стасункі, разважнасць ва ўсіх справах і ўчынках, узгодненасць асабістых памкненняў з агульнаграмадскімі патрэбамі могуць прывесці народ да шчасця.

Прынцыпова новай рысай творчага метаду Т. Яўлевіча з'яўляецца адсутнасць у яго праведэнцыялізму — уяўлення пра ўсе рэчы і з'явы як выніку наканаванасці Божай. Усё поўнасцю залежыць ад волі людзей, заўважаў паэт, няма неабходнасці спадзявацца на Бога, калі супольна, уласнымі намаганнямі можна вырашыць складаныя грамадскія праблемы і задачы.

Узнікненне ў беларускай паэзіі першай паловы XVII ст. філасофска-публіцыстычнай паэмы, узорам якой з'яўляецца твор Т. Яўлевіча «Лабірынт, або Заблытаная дарога», звязанае з узмацненнем лірычнага элемента ў спалучэнні з панарамнасцю адлюстравання і шырынёй ахопу матэрыялу. Багацце тэмаў, глыбіня пастаноўкі найгалоўнейшых патанняў жыцця грамадства, наватарскія ідэі дазваляюць сцвярджаць, што паэма Т. Яўлевіча «Лабірынт...» выходзіць далёка за межы звычайнага паслання-просьбы. Вострае сацыяльнае гучанне, высокі ўзровень мастацкасці вылучаюць паэму сярод іншых твораў таго часу, ставяць яе ў шэраг найлепшых дасягненняў паэтычнай культуры Беларусі эпохі Барока.

*Іван Саверчанка*

# ЛАБІРЫНТ, або ЗАБЛЫТАНАЯ ДАРОГА, ДЗЕ ГОЖАЯ МУДРАСЦЬ З АБАВЯЗКУ СВАЙГО ВЯЛЬМОЖНЫМ ПАНАМ МАГІЛЯВЯНАМ ДЫ ЯШЧЭ НЕКАТОРЫМ, У ПАЧЫНАННЯХ СВАІХ ПАДОБНЫМ, КАРАЦЕЙШУЮ Й ДАЛЁКА ЛЕПШУЮ ДАРОГУ ПАКАЗВАЕ.

Напісана Тумашам Яўлевічам, студэнтам вызваленых навук.

Да малодшага Магілёўскага брацтва новазаснаванага,
да сябе цалкам ветлівага, et caetera, et cetera.

У Кракаве, у друкарні Францішка Цэзарыя.
Году Гасподняга 1625.

Брацтву малодшаму Магілёўскаму новазаснаванаму
Тумаш Яўлевіч
з паклонам паслугі прапануючы etc.

Мудрасць — тая пані, што сабе дазволіць
І казаць, што хоча, і караць, і кволіць.
Мне з нягеглым пёркам смеласці замала
Хоць накрэмзаць тое, што яна казала.

Бо не да сляпоцця трэба паняў слухаць,
Асабліва ў гневе з пыхай думку рухаць.
Пані збоку стане, а слуга нявінны
Спінаю сваёю плоціць за навіны.

Хай жа й гэты скрыптык абмінуць папрокі.
У людскіх галовах думкі, як аблокі.
Барады старэчай пудзіцца дзяціна,
У духоўных досыць кары як для сына.

Толькі вам пішу я сэрцам апантаным
Маладое слова — юнакам старанным,
У якіх і дзеі ў маладым узросце,
Значыць, не дарэмна я кумекаў штосьці.

А каму верш гэты будзе не да смаку,
Той ісці да пані мусіць на аддзяку.
Тут пасведчыць Мудрасць: не мае правіны,
Што яна казала, быў пісаць павінны.

## SAPIENTIA

Я — Мудрасць, на руках свет няньчу і кунежу,
Шчадру, ратую, множу, аддаю бязмежжу.
Я — цвердзь магутная, апора ўсім дзяржавам,
Як прыслугоўваю, дык знакамітым справам.
Люд з галавы маёй, нібыта з акіяна,
Чэрпае: хапае і слузе, і пану.
Бо шыракосцю роўная я небакраю,
А вочы, як святло нябёс высокіх, маю.
І грудзі моцныя, як дыямент зацяты,
Хоць той не ўбачыць, хто на розум небагаты.
І хуткасць у нагах маіх маладзічкова —
Ледзь вымкну ў шлях, а ўжо за мной зямлі палова.
Праціўнікам нідзе ад рук маіх не дзецца,
Пакуль гады плывуць, пакуль жыццё вядзецца.
Іду — дарогу мне даюць муры і горы,
Прысяду я — задум запальваюцца зоры.
А голы меч схаплю ці кемлівасці стрэлы —
Патраплю ў яблык той высокі і даспелы.
Няма патайніка, цямніцы ці палаца,
Ад пільнасці маёй дзе льга было б схавацца.
Ледзь клёк свой варухну, дык усяму дам раду,
Пачую ў згодзе фальш, у праслаўленні — здраду.
Сумневу ў тым няма, што хутка свет шалёны
Спыніўся б без маёй надзейнай абароны.
Віном заліўшы страх і чарвяка сумлення,
Яго ўлюбёнцы ўсе рашучыя ў памкненні
Аблуднаю хлуснёй заваяваць пашану,
Абы мудрэйшыя не ўбачылі спадману.
Сачу за ўсім, хачу дзеля агульнай справы
Ад згубы ратаваць вяльможныя дзяржавы.
Між іншымі цябе, сумленнейшы народзе
Славянскі, берагу ў няшчасці й непагодзе.
Ты смуцішся цяпер, абражаны і ціхі,
Хоць некалі хмялеў ад каралеўскай пыхі.
Вачыма продкаў глянь у даўныя часіны —
І ўбачыш, як ім свет наладжваў пагасціны.
Да Адрыятыкі ад ссівярэлых водаў
Народ славянскі ўсім з дзяржаўнасцю валодаў.
Шляхамі продкаў ідучы, а не глухімі,
Славянства славілася дзеямі сваімі:

Агнём пабожнасці, паглядам шчырай згоды,
Бадзёрым сэрцам, дзе любоў жыла заўсёды.
Кляйноты славы несла з гонарам належным —
Дасюль складаюць казкі аб ваўку жалезным.
Сем міль наўкола места кіеўскае мела,
Пяць соцень цэркваў замыкала ў сабе смела.
Не толькі ў крамах срэбра й золата хапала —
На храмах ззянне аж да неба дападала.
Пад сто манастыроў свяціліся ў прасторы
І места здобілі ў каштоўнейшыя ўборы.
Як сонца ўстане з-за гары з абдоймаў ночы,
Да кола яснага бягуць людскія вочы.
І Кіеў так усе прывабліваў пагляды,
Людскому клопату дапамагаў даць рады.
Не, Галіч сёння не такі, як быў калісьці,
Ад прыгажосці толькі цені засталіся.
Дый месты іншыя, што прадзеды рабілі,
Ляжаць руінамі — нашчадкі іх забылі.
Я шмат каму памылкі паказала смела,
Магілявяне, й вас я абмінаць не смела.
Жывеце багаўлівымі гаспадарамі,
Вы не абыдзены ягонымі дарамі.
Мяшчане, з ласкі Божай маеце даволі
І жабракамі духу вам не быць ніколі.
Дастатак сам улоння вашага шукае,
Усё ручыць вам і спрыяе ў добрым краі.
Паверце, нават сонца ў вашыя вароты
Зайсці захоча, каб забыцца на турботы.
Ды толькі рэч адна хутчэй за ўсё мінае —
Фартуна гэта, што то там, то тут лунае.
Фартуна мае твар удзячны і прарочы
І спачувае невукам, як поўдзень ночы.
Як у слату прамень знікае з небасхілу,
Як рыба не ў сваёй вадзе губляе сілу,
Так рэчы, што зрабіліся нам дарагімі,
Каштоўнасць трацяць раптам, стануцца пустымі.
Хто давярае ветру і вірам рахманым,
Сустрэцца ўрэшце рызыкуе са спадманам.
Хто спіць бяспечна, той прачнецца ў небяспеку.
А сцеражоных Бог прымае пад апеку.
Не ў час нямудра злой парадаю тлуміцца,
Па шкодзе хісткаю надзеяю карміцца.

А хто абачлівасць прыстойна набывае,
У важкіх справах несур’ёзным не бывае.
Бо розумам усё спачатку прыкмячае
І ўжо з чужым сваё ён шчасце заручае.
А вы, мяшчане мілыя, не верце злосці,
Не паддавайцеся аблудзе высакосці.
Як нават бы была ў ліхіх падумках вашых
Магчымасць апраўдаць размах пацехаў важных,
Сябе не зводзьце бліскам ваблівай спажывы.
Ці толькі мроіва, ці цень, ці сон фальшывы
І творыць смех удзень і зліткі залатыя,
Што вы ўначы, як багачы, лічылі, тыя.
Дык праўду ведайце: няма ў вас і ў запасе
Нічога пэўнага ў сваім мізэрным часе.
Наліць бяздонны цэбар можна пастарацца,
Але карысць якая будзе з гэтай працы?
Год гэтак сорак праплыло сваім імпэтам,
Як, ездзячы па соймах і зімой, і летам,
Адно што з беднякоў вы жабракоў рабілі,
А непахіснасць праўды не абаранілі.
Вы шчодрыя ў сваіх дарах — ядваб, атласы,
Са срэбра шчырага і кубкі й выкрунтасы,
І камяні каштоўныя, і ўсё на свеце,
І як не скрынямі вы талеры вязеце.
«Дай!» — просяць і за кусам кус глынаюць ласа,
А ў вас саміх штогод усё ўбывае мяса.
Не дзіва: бо як хто не дапасе што вокам,
Той, кажуць, плоціць сваім мехам а ці бокам.
Як ваша дробнае пабачыць можа вока
У рэчы, што, як мора, ўсходзіцца глыбока?
За клопат маю я зямныя рэчы мерыць,
З нябесным хараством іх адпаведнасць зверыць,
Як свет з пачатку йдзе, як свет зрабіўся светам,
Як не было й друзка малога перад гэтым,
Як месціцца зямля ў сваіх халодных межах,
Як ува ўсім жыве жыццё ў сваіх хацежах.
Скуль змена месячка, зацьменне сонца, ззянне
Зор незлічоных, іх нябеснае блуканне,
Скуль людзі і звяры, адкуль агні і росы,
Адкуль Артур і Воз, і чарвякі, і косы.
Як цяжка адказаць, хоць запытаць хачу я:
Скуль гэта вінароб віна тамленне чуе?

Скуль ведае ратай, калі выходзіць з плугам,
Дзе сеяць, сад садзіць, касой вітацца з лугам?
Марнар у мора йдзе ў бязвоблачных намерах,
Хоць ён не ведае, дзе глыбіня, дзе бераг,
Хоць ціша, хоць вятры, хоць непагода злая.
Скажу: праз Мудрасць Бог нам ласку пасылае.
Так, Мудрасць над усім, бо ўсім жывым кіруе.
Багаты самы той, хто з Мудрасцю сябруе.
І хто з людзей сабе тым скарбам запаможа,
Пакуль ёсць белы свет, субожыцца не можа.
Але, пачаўшы мысліць, ад стварэння свету
Дайсці да дзён сваіх сабе вазьміце ў мэту.
Там дзеі выпрастаюць мужныя рамёны,
Там загучаць наноў славутыя імёны.
За прыклад майце (а чытаючы парады,
Пачуць пра вычыны расповед будзьце рады)
І Аляксандра Македонскага, якога
Вялікім толькі называла перамога,
Філіпа, бацьку Аляксандрава, што сына
Чакаў шчаслівы й лёсу дзякаваў няспынна.
Як сыну слыннаму на свет прыйсці прыпала,
Рэй у навуках Арыстоцель вёў трывала.
І Аляксандра навучыць ён меў натхненне
Вякам наступнасці на зайздрасць і здзіўленне.
Кароль з рукі маёй уладу браў і згоду,
Сягаў далёка ён з усходу да заходу.
Я думку быструю тады яму давала,
Паўсюль з парадаю шчаслівa паспявала:
Я з ім была на грозных войнах і ў паходах,
Разіла ворага на долах і на водах.
Я вояроў вяла на бойкі, гартавала,
Шарэнгі непрыяцельскія прабівала,
Будзіла рупнасцю ратмістравы галовы,
Непераможны гнеў мае вастрылі словы.
З ім утрапёна трупамі палі ўсцілала,
Здабычу множыла, палон вялікі гнала.
Паслоў сама я ў час спрыяльны слала,
Каб слала ўслужліва яму кілімы слава.
Калі мы без развагі мур высокі бралі,
Масты ні рэкі хітрыя нас не спынялі.
Не кожны раз груз стрэльбаў мелі мы з сабою,
А брамы самі адчыняліся без бою.

Рабілі галавой, паверыўшы разліку,
Без плачу бліжняга, без ляманту, без крыку.
Той дзень святкавалі радасна ў сваіх касцёлах,
Як дома заціхаў з баёў харугваў шолах.
Каб на зямлю пагода міру завітала,
Рэч Паспалітая мае парады брала.
На галаве маёй турботаў віснуць гроны,
Манархі многія на ёй трываляць троны.
Паводле годнасці маёй узнагароды
Я маю шчодра за паслужлівасць заўсёды.
Дзе б ні ступіла я нагой шчасліва,
Усім малітвы ўзносіць хочацца зычліва.
Абы ў палацах з імі я жыла раздольных,
Абы ў руцэ іх мела, як сваіх павольных.
А вы, мяшчане мілыя, падзякі словы
Забылі, нават з горада прагнаць гатовы
Мяне і слаўных мной. Так вашы немаўляткі
Атручаны пяшчотай, патураннем маткі.
Іх марна ў ёрмы запрагаеце такія,
Якіх не вытрываюць маладыя шыі.
Хоць гляне кіслым вокам хтось на гэты роздум,
Зазначыць мушу — ўсе кульгавыя на розум.
Мудрэйшы той, хто мае шэлегаў з ліхвою,
Хто сцежку ў вёску ўе й часінаю ліхою.
Псалтыр сынок адно адолеў ледзьве ў школе,
Тут бацька з грозьбай заключае: і даволі!
Ці ж рэдка ў тога штосьці з галавой не тое,
Хто акунаецца ў навуку з галавою?
Дбай лепей, мілы сын, пра добрае вяселле,
Бо ад навукі й кучаравыя лыселі.
Я ўладу дам табе на сілу маладую.
Ты мусіш ведаць справу, што цябе турбуе.
Калі дазволіў бацька гаспадарыць сыну,
Глядзі, каб ён не ўпаў у нейкую правіну.
Як сын задумаўся ды сам пачаў старацца,
Заўваж, яму тваёй замала працы.
Пакласці ў даламан яму сто злотых мала,
І ненавідзець простых проста звычкай стала.
На кім убранне ўбачыць з польскае сукніны,
Улезці ў італьянскае ўсё ён павінны.
А той, каму стае здагадлівых чарнявак,
Спакусліва глядзіць на капызістых павак.

Хто ў футры з рысі, той у шапцы ў пазалоцці,
Залоціць боты ён, хоць ходзіць па балоце.
І госці частыя ўжо не выходзяць з дому,
Не хоча моладзь дзёрзкая ўступаць нікому.
Хто даў багата страў, ён мусіць даць утрое,
Хоць жыду занясе начынне дарагое.
Дайшло, пісьменніка няма, каб ён Айчыну
У славу захінуў, як сонца ў аблачыну.
А чужаземныя пісцы падобны птахам,
Пакуль галодныя, віюцца па-над дахам.
А наядуцца — і ў свае лятуць мясціны.
І ў вас не дужа гнуць пустамяхоўцы спіны.
Вы хочаце, каб чалавек быўварты шаны,
Дасведчаны ў навуках і спрактыкаваны,
Які б у школах кволыя не натруджаў галовы,
Ды шмат хто з вас аж вылезці з сябе гатовы,
Абы далей з вачэй разумніка адпрэчыць,
А месца годнае нікчэмнасцю спярэчыць,
Якая б кожны кіў іх добра разумела
І перад імі гнулася, і то нясмела.
Хоць цяжка гэта, ды ламаюць чалавека,
І скача пад чужую дудку недарэка.
Бо ўсе, што маюць клёк, смак праўды адчуваюць,
Яны здалёк гак здрадлівы абабягаюць.
Людзей з’яднаць цяжэй, чымся нябёсы й долы.
Сыноў, не любячы, аддаяцё вы ў школы.
Кажу, не любіце? Задумвацца не трэба,
Вы шчыра ім шкадуеце кавалка хлеба.
Тых, што ў навуку вырваліся жывасіллю,
Бо невуцтва разбэшчанае неўзлюбілі,
Клянеце словамі апошнімі на свеце
І (так бы мовячы) вы ў кашу ім плюеце.
Дапытлівыя і галодныя на веды,
Яны ўсе ў вас — і валацугі й дармаеды.
Плашч перашыты з вашых плеч дасцё — й нявінны,
Перш чым акрыцца ім, пачуе ў спіну кпіны.
У прагавітых праца марная заўсёды:
Вы трэску бачыце, ў вачох жа ў вас калоды.
Я цямлю, калі б вы ніколі не блукалі,
Каб толькі рукі вы да справы прыкладалі,
А то не ў смак бывае помач дарагая —
Жаданне палкае ўжо ногі ледзь цягае.

Найперш за што хапацца, дзе шукаць прычыну?
А ці ў навуку йсці? Ці ратаваць Айчыну?
Ці дух падтрымліваць? Ці толькі дбаць пра ежу,
Ці клапаціцца, як і цела, пра адзежу?
Ці рупіцца, каб мець страху над галавою,
І дзень і ноч не ведаць з Музамі спакою?
Дарма ўглядаецеся, смутак марна стыне.
Вы доўга іх не ўбачыце ў сваёй Айчыне.
Багата свежых прыкладаў вам у дарозе:
І вашых фурманоў штурхаеце ў знямозе,
Прысталі коні й вочы вашыя ўглядацца,
Задоўга з кірмашу здакучыла вяртацца.
Калі скрыпіць навука, як фурманка ў крыўдзе,
Не дзіва, што да вас ніводзін з іх не прыйдзе.
Пан уратуе фурмана ў гадзіну злую,
За гэта фурман пану ўдзячна адслугуе.
Няма на сподзеў права, мілыя мяшчане,
Што нехта з іх вам потым на выгодзе стане.
Калі марнее ад навук душа жывая,
Сама па праву потым шчасце спажывае.
Калі каго з бяды ратуе хто, за тое
Уратаваны мусіць быць яму слугою.
Самім прыроддзем мы навучаныя зрання
Мясціну помніць, скуль да нас прыйшло спрыянне,
І тых удзячнасцю пачціваю аддзячыць,
Што захацелі ў цемры талент наш убачыць.
І навучыцеся ў час клопат спрэчыць лішні,
Каб ласку меў багаславіць вас Усявышні.
І тым таксама з добрай просьбы, з вашай згоды
Вам раю як шчадрэй дапамагаць заўсёды.
Бо йначай дзіўна, як гэта яшчэ ў нябогі,
У Рэчы Паспалітай выстаялі ногі.
Нібы лістоўніца старая, што ратаі
Абсеклі, а пад ёй маўчыць гара крутая.
Дрыжыць лістоўніца за нейчыя правіны,
Мацней трымаючы схуднелыя галіны.
Хістаецца ўбакі, трымаецца ўтрапёна
У небе крона, як зялёная карона.
Ды з громам грымнецца і даль залье журбою,
На дол паваліць дрэвы іншыя з сабою.
І непрыяцеляў не адмярайце жменяй,
Чым валасоў на галаве, ў вас іх не меней.

Я ведаю, на вас даўно ўжо вока маюць,
Яны пад вас бліжэй штогоду падсядаюць.
Дабро ваша пасуць, чакаючы нагоды,
Каб льга было хутчэй пазбавіць вас свабоды.
Так леў, калі яго прыцісне голад люты,
Убогі статак рэжа, множачы пакуты,
Раве, крывавымі пашчэнкамі склыгоча,
Ад страху быдла ўмлелае не заблякоча.
Такога плёну ад сыноў вы дамагліся,
Што больш у гандаль, чым у школы, падаліся.
Ці праўду я кажу? Ўсе ўзважыць змогу маюць.
Ды некаторыя галовамі ківаюць,
Бурчаць сабе: ў паганцаў да навукі прага,
Хай пнуцца, нам жа й невукамі быць няблага.
А праўда простая тут, мілыя мяшчане,
Мы за паганцаў горшыя ў сваім нядбанні.
Вялікі Саламон быў мудры і ў законе,
Вёў рэй дзяржаўны ўмела, седзячы на троне.
Ды менцяць аб ягонай мудрасці і сіле,
Што гэта рэкі Боскія яго паілі.
Раз так, сядзі сабе, набожна склаўшы рукі,
Не маючы ні клопату, ані дакукі.
Губу адстаў ды ў неба пазірай натхнёна,
Калі адтуль зляціць пячоная варона.
Дый без вячэры поснай мусіць той застацца,
Хто ні да чога не схацеў прыкласці працы.
Бывае, бачыць новае стае імпэту,
Але сваю не кожны асягае мэту.
Ушчэнт закалашмацяць і галеча й звады,
Дзе трэба пільным быць, як птаху ля прынады.
Калі на шалі пакладзем закон з хвалою,
Дык стане шаля з ім высокаю скалою:
Бо ў залатых вяках закон меў менш пакутаў,
Лацвей пражыць было без права, без статутаў.
Але прыйшлі вы да вякоў жалезных смутных,
Дзе перапоўнілася мера спраў акрутных:
І мера здрады, і хлусні, і рабаванняў,
Захопу спадчыны, фальшывых завяшчанняў,
Зладзейства, крадзяжу, забойства злога мера,
Драпежнае здабычы. І няма намеру
Ўцякаць ад усяго сцяжынай дабрачыннай,
Застаўшыся з душой адно што непавіннай.

Дзе справядлівасці мяжа ў няпэўным свеце?
Вы ценмі й формамі ад існага жывеце.
Дык ці не лепш у гэты час няладны
Ўцякаць вам да мяне? Я маю неадкладны
Магутны сродак, лекі пэўныя; нямала
Дзяржаў, што ўжо хіліліся, я ўратавала.
Мяне няшчасце ані здолее ніколі,
І лета зайздрасці не ўбавіць моцы й волі.
Людзкія зьмены не ўладараць нада мною,
Ані застрашыць Марс мяне любой вайною.
Хто мной жыве, жыве ў тым волатава дужасць.
Ніколі волаты з падступным злом не дружаць.
Вы адказаць не можаце нічога самі,
За вас гавораць грошы, вы ў іх парабкамі.
Смялее сёння хцівасць, ідучы на ловы,
Псуе няшчадна вашы кволыя галовы.
З дарогі продкаў збочылі на шлях няславы
І адвярнуліся вы ад сваёй дзяржавы.
Усё ідзе за часам, толькі тых замала,
Каму багата ад Мамоны перапала.
Замала й тых было, што ёй не слугавалі,
А дзеяй слыннымі шырока ў свеце сталі.
Не ведаў прагнасці люд даўны працавіты,
Ані хітрыў, быў мудрым правам знакаміты.
І дабрадзейнасць не статутам вымяралі,
Пілнуючыся неспаганенай маралі,
Каб згода ў сэрцах пачувалася трывала,
А з ёю і спрыянне Божае настала.
Ад бліску золата ў людзей звузелі вочы,
Вітацца зайздрасць з дабрадзейнасцю не хоча.
А празвініць званок, напомніўшы прысягу,
Хаця гады ў рады ў забытлівым абсягу,
Дзівіцца людзі пачынаюць анямела
І з недаверам на сябе глядзець нясмела.
А марната нікому не дае спачынку,
Адна і тая ж песня чуецца на рынку.
Як хочаце вы славы продкаў дамагчыся,
Дык Мудрасці — мяне не мусіце зрачыся.
Я, жалем зраненая, думкі вам адкрыю,
Што на зямлі трываліць гарады старыя.
А будзеце вы мяккімі, як тыя травы,
Без штурханіны выведу на шлях ласкавы.

Як за руку, нібы па нітцы той развітай,
Я выведу вас з лабірынту здрады скрытнай.
Адно не маю з тымі аніякай справы,
Хто час марнуе на бяздумныя забавы.
Ды цяжка радзіць гожай Мудрасці, дзе здрада,
Дзе спрэчкі, сваркі, дзе гняздо паслала звада.
Нялёгка добраму расці, дзе злосць палае,
Дзе вецер беспрытульна ў галаве гуляе.
Адступіцца ад службы й паслугач зацяты,
Калі, куды ні глянь, паўсюль памылкі й страты.
Набожлівыя ўчынкі, што ў вяках світалі,
З духоўных выйшлі параю, бо пажадалі
Жыць здраднасцю раскошы, марнасцю бяседаў.
Люд просты прыклад браў, бо іншых і не ведаў.
А каб застоллі мілыя часцей шумелі,
І, як палёгку, на калках унесці ўмелі
Заразлівую зброю зманлівых намераў,
Якой народ у слабай простасці паверыў
І за Палядыум пачаў хаваць каноны,
Каб і айцам святым мець клопат свой надзённы.
Каб пяцьдзесят разоў штогод у дом ступала
Малітва, п’яная па вушы, дзіва мала,
Калі б яна з жывымі светла гаварыла,
А то й з памерлымі, чый дом ужо — магіла.
А пахавалі — ў першы дзень, як на пяршыны,
Калі праспяцца, ў трэці дзень, як на траціны,
Там чацвярціны, а за імі дзевяціны,
І з новым півам клымаюць паўсарачыны.
І поўныя гуляюць шчодра сарачыны,
А ўжо калі паўгадавіны, гадавіны,
Ад ежы і пітва трашчаць сталы павінны,
Хай потым скрыні стануць быццам дамавіны.
Калісьці мусіў быць вол з рогам разагнутым,
Ці пяць карцоў старых стыць з жытам перад кутам,
Перш чымся з дому вынасіцьмуць з плачам цела.
Не дай Бог, каб каму праводзіць закарцела.
Калі жывым ад мёртвых спадкі застануцца,
З-за цацак людзі звадзяцца і слёзы льюцца.
Жывы не закладзе і каменя ў падмурак,
Не выклаўшы ўсё з кашалька, як на хаўтурах.
Не ўвойдзе ў хату, не аксціць дзіця шчасліва,
Пакуль не папацее добра каля піва.

Старыя і малыя йдуць сцяжынай тою,
Дзе ані мёртвым, ні жывым няма спакою.
Калі б, у гурт усіх іх збіўшы, запытала,
Дазналася б, што клопат іх турбуе мала,
Адкуль такое ў галаве расце памкненне,
Што люта ўбогі люд вядзе да вынішчэння.
На сена іншы высах бы ў сваіх намерах,
Каб паказаць, што бачыў у старых паперах.
Як ад бацькоў у спадчыну што перапала,
Даўно ад пылу й плесні як не прахам стала.
Не дужа верыцца й таму, што напісана злосцю,
Што перададзена наступнаму былосцю.
Калі б згадала я мядовыя каноны,
Дык апяяў мяне б пашаны хор натхнёны.
Бо вы на пасекі свае схілілі вочы,
Каб вам сама цякла сыта і ўдзень, і ўночы.
За хвілю могуць вашыя старыя ногі
Прайсці і дзве й тры мілі добрае дарогі.
Царква пад бокам, а для вас цяжкая праца
Хоць раз на тыдзень на сьвяты парог дастацца.
Раз у паўгода Богу прысвяціць гадзіну
Няўзмогу вам. Лепш браць на пасецы даніну.
Як прыбяжыце пахаплівыя да звону
І шумна згрудзіцеся ў гурт каля амбону,
Сцямнее, дык забудзецеся на адправу,
Разыдзецеся, каб завершыць дома справу.
І ўсё вы адкладзеце да другой нядзелі.
А так — людзей вы бачылі й на вас глядзелі.
Пасля сваіх дзяцей перəканаць гатовы,
Што мусіць доўжыцца ў царкве іх шлях жыццёвы,
Няхай навукаю свой зрок яны не змрочаць,
А шчырай працаю кароткі век надточаць,
Царкве слугуючы, як душы б іх хацелі.
Бацькі за іх раней паруціцца паспелі.
У гаспадарцы думку іншыя ўтапілі
І шчасце золатам сваё перакармілі.
І летапісцы ўсе маўчаць, як у няволі,
А на спляснелых трэбніках раздолле молі.
Што кажа Бог, няўжо самім вам цяжка цяміць?
Навуку байкамі пераплятае памяць.
Як гэта соль зямлі гнілізнаю завецца,
Альбо ў сьвятло глухая цемра ахінецца?

Бо збытак множыцца, нібыта тое мора,
І ўсё зжарэ, як ненасытная пражора.
Дай, без супыну дай царкве на паратунак,
Хоць часам вычхаецца цэланочны трунак.
А іншы даў бы келіх поўны з берагамі,
Царква і поўнілася б добрымі дарамі.
Перад цвярозасцю той расчыняе дзверы,
А той ва ўсім пілнуецца прыстойнай меры.
Той уваліўся ў грошы — ў багну залатую,
Дый, каб царкву аздобіць, грошай не шкадуе.
Паўсюль галеча ды бязладзіца ўладарыць,
Нібы, як кажуць, п’яніца тут гаспадарыць.
Урэшце ўсе павінны шчыра пастарацца
Ўмець у парадак пільным вокам углядацца.
Гляджу, бацькі адно што ўмеюць — лёс узважваць,
Сваіх дачушак упрыгожваць ды спасажваць.
Яшчэ і тое перамене вашай шкодзіць,
Што ад людзей звычайных гэта ўсё паходзіць.
Яны ад спраў царкоўных адышлі паціху
Ды на гародзе клопату гадуюць пыху.
З духоўнаю натурай да сівога веку
Успомніць любяць і пра школьную апеку,
Яны гатовы, як згультаеныя слугі,
Хрысту рабіць свае няшчырыя паслугі.
Дар у адных жыць на кватэры ў вольнай волі
Ці на бязлюддзі, дзе прыгнёт не жыў ніколі,
А клопат Госпадаў не хочуць браць на плечы,
Пра недахопы думаючы па-малечы.
А іншыя ў жніво барозны плугам гоняць,
Не думаючы, што ўраджай ані дагоняць.
Як старасць даганяць навукі маладыя
Захоча — усіх тады ўвядзе ў грахі глухія.
У ерась упадзе, бо, падкая на звады,
У Божую царкву ўнясе свае разлады.
Не ведаю, як ім удасца апраўдацца,
Што не прыклалі талент свой да пэўнай працы.
Аблудныя авечкі і у хляве й на пашы
Не могуць уцячы ад сквапнай воўчай пашчы.
Воўк драпае душу, каб не гаіцца ранам,
Бярэ зямлю царкоўную і, мабыць, зманам.
Ды пакарае справядлівы Бог за здрады,
Змяце няшчырыя й патайныя парады.

Адвернецца ад тых, хто ў цёмных знік праявах,
Ад іхных хіжых рук бязлітасна крывавых.
Святыя іх не бачаць, як і Бог ласкавы,
Мілей за іншыя яны ўзяліся справы.
І як у веры, так жа і ва ўсёй дзяржаве
У кожнага свой клопат не сядзіць на лаве.
Дабро агульнае пры ўнутранай нязгодзе
Ляжыць у смутнасці і ў патаемнай шкодзе.
Як Бог на ўсё глядзіць, пытацца захацелі
Вас шмат, а вы й сабе даць рады не сумелі.
Гібеюць гожыя навукі — вам не справа.
Таму так ваша растае, як снег, дзяржава.
Не ўбачыце вы поспеху парой любою,
Пакуль з сябе не выцісніце ўсё благое,
З чаго галеча й звады шырацца тлумліва.
Мяне хацелі слухаць, дык скажу праўдзіва,
Хай места з людам баявым ляжыць у скалах,
Бярэ багацце ў перамогі з рук ласкавых,
Ды як нягода прыйдзе, рухнуць скалы доле,
Каб местам лёгка завалодала няволя.
Як не адна дзяржава марна прападала,
Вам слухаць часу, мне паперы будзе мала.
Хаця на прыкладзе адным уяву майце,
Пра Грэцыю ў былым вялікую згадайце.
І турак княжанят, спаміж сабой нязгодных,
Пералавіў, як верабейчыкаў галодных.
Калі б на трон законны ўрэшце згода села,
Гады жаданыя тады б насталі смела
Або засмучаныя несупынным боем
Краі б суцешыліся ўспомненым спакоем.
Гранаты б перакуць на лемяшы й атосы,
А шаблі — на сярпы ды на крывыя косы,
Віры, і рэкі, й моры б неспакой пакінуў,
І падняліся б месты даўныя з руінаў.
Аднак, шляхетныя славяне, клічце (можа,
Да вас я павярнуся): «Не пакінь нас, Божа!»
Бог любіць шчырых, ён карае і мілуе,
На добрым воку мае й птушачку малую.
Узнагароджвае Бог шчодраю рукою
І падымае века скарбніцы цяжкое.
Што Бог на вас пашле, з удзячнасцю прымайце,
Ці шчасце, ці бяда — за ўсё падзяку дайце.

Па чарадзе ідзе ўсё ў свеце — плён і шкода,
То ў небе ясна, то ўз’юрыцца непагода.
То мора цішыню злагоджана люляе,
То дно сваё ўзарэ ды караблі шпурляе.
Гадзіна й тая ўсім няроўнае прыносіць,
Жабрак прасіў, і пан у жабрака папросіць.
Каму разбіты шлях, каму скакун удачы.
І злы ў сваёй бядзе падобны больш да клячы.
Гвалтоўны дождж і град датла павыб’е жыта,
А за плугамі ўслед гракі йдуць прагавіта.
Пан Бог у тратах недакладны і вясёлы,
Як пан, што поўніць апусцелыя стадолы,
Што працу лютую й галодны год суровы
Забыцца да пары прыбытак змусіць новы.
Не дзіва, дзе дамы струхлелыя згаралі,
Дык там гаспадары палацы будавалі.
Ці навучае часам Бог на пакаранне,
Ці наахвочвае на большае старанне.
Яшчэ пан Бог глядзіць, як ліха й шчасце ходзяць.
Раз дрэва ў каранях, дык ягады зародзяць.
Не апускайце рук, шляхетныя славяне,
Дбаць трэба пра сябе, пакуль жыцця вам стане.
Сумнеў мяне гняце, я сумна пазіраю
На вашу старану, але і сподзеў маю,
Бо бачу, што людзей гнеў паяднаў у сілу,
Якая думкі ўсе адчаем насяліла,
Якая вас ушчэнт разбіла, расстраляла,
Страх разняволіла, акрасы пазрывала.
Вялікія паны прыязні прысягаюць,
Бацькоўскую любоў часцей успамінаюць.
Шляхетныя мужы распроставаюць рамёны.
Ва ўсіх краёх жывуць славутыя імёны.
І войска запарожскае на моры й доле
Слыло, і грозны Марс спрыяў ваярскай долі.
Башы і мурзы кленчылі казачай сіле
І часта-густа на ілбах гузы насілі.
Ані лічыў казак гарачыя гадзіны,
Меч вырываючы з варожае грудзіны.
Казак муры валіў, і ў крэпасцях няўзятых
У турка сцятага сядзела сэрца ў пятах.
Балюча ў бубны білі, й трубы галасілі,
Грымелі стрэлы й перадыху не прасілі,

І неба не відаць было ад дыму й пылу,
І падаў вецер чорны ў ногі небасхілу.
Страляе так пярун, шалее навальніца,
Гудуць нябёсы, і лясы кладуцца ніца,
Дубы з карэннем вырывае непакора,
Страх велічэзным валам накрывае мора.
І бліскавіцы чорным хмарам пішуць оды,
І грому страшацца смяротныя народы.
Ад гулу глухне ўсё. І сілы ўздых глыбокі
Ўздымаецца вышэй, кранаючы аблокі.
Запомняць казакоў услаўленыя імі
Сіроты, з рук паганскіх вырваныя імі.
Нашчадкі з губ не пусцяць іх, пакуль у моры
Імкнуцца рэкі й сонца асланяе горы,
За ноччу дзень ідзе ўзараць свае валокі,
Пакуль не звёўся род людскі, пакуль высокі
Верх неба ззяе ў смелых зорках без заганы,
Гурт маладзецкі будзе шанаю ўвянчаны,
Кажу, і гэты ўжо народ вітае згоду,
Дае царкве самлелай вашай ахалоду
І згуртаванні, згодныя ў сваім памкненні
(Любы хрысціянін набожны з нараджэння),
І да таго схіляюцца паны львавяне,
І ганарацца тым даўно паны вільняне.
Таму і маю спадзеў, мілыя мяшчане,
Што расквітнее гэтае паўсюль старанне.
Бо бачу, ўжо і ў вашым слынным Магілеве
Расце зайздросць да тых, хто справядлівы ў гневе.
Вось і паўстала ваша маладое брацтва,
Каб весялей было за вечны клопат брацца.
Так неба добрае нясе світанню зоры,
Страсае кроплі перлаў кветкамі пакоры.
Як сон-трава вясной, улетку медуніца,
Як астра ўвосень, як травіца-шаўкавіца,
На строме елка ці явор на баравінцы,
Хваіна ў садзе, а ці ліпа на дзядзінцы,
Ці пышны кіпарыс у мройлівых прысадах —
Так дзеі маладыя вырастуць не ў звадах.
Яны і ў новых школах склапацяць работу,
Яны ў старых бацьках падмаладзяць ахвоту.
І сам старым арлам знаходзіцца занятак
Вучыць высокаму палёту арлянятак.

Малых пусціўшы пад гарачае праменне,
Глядзяць, ці можна верыць маладзейшай змене.
Калі праб’е гадзіна слугавання веры
І злыя будуць у праціўніка намеры,
Ў той час ні лёт стралы, ні птаха маладога
Ані зраўняюцца ніяк са славай Бога.
Свой бег завострыць слава ў сэрцах апантаных
У маладых, дабру і шчырасці адданых.
Даўно такіх купцоў я ўдзячных выглядала.
А слава Божая ад вас таго й чакала.
І струны галасней звіняць і валададараць,
Як разам дзве рукі па іх у згодзе ўдараць.
І ў быстрых рэк хутчэй сплываецца дарога,
Як разам сыдуцца ля берага марскога.
У Мудрасці і ў веры адшукаўшы сховы,
І думка прававерная бярэ высновы.
Дзе Бог жыве ў раскошы і каму спрыяе?
Як хто ў сабе самім парадак спраўны мае.
Дзівосна Бог людзей кахае тых, якія
Свае задумы дзейсняць у часы любыя.
І ён раскольнікаў спаміж вачэй хвастае.
Я чула, завялася ў вас зараза тая,
Якая заручоныя з Хрыстом чародкі
Збівае з тропу (шлях да бездані кароткі).
Хай не звядуць вас толькі на сцяжыну зману,
Што вам духоўнымі настаўнікамі стануць.
Сляпы ён, Божы біч. І поцягі цяжкія
Абвіцца здатныя і ля святое шыі.
Прашу, каб вашыя бацькі, нібы калоды,
Не неслі на сабе глухі цяжар нязгоды.
Калі і мір, і згоду пыха раздзірае,
На небе й на зямлі яна адплату мае.
Так і ў духоўных дзеях Бог пасе вачыма,
Глядзіць, хто пачынае ціснуцца плячыма.
Як разабраць, хто без грахоў, а хто з грахамі,
Духоўныя й грахоўныя не цямяць самі.
Вам, юнакам, дарогі пілнавацца трэба,
Якую кстом сваім пазначыў Госпад з неба.
Хай спасярод ракі плыве намераў лодка.
Хай будзе ў меру вам і горка, і салодка,
Каб стала сілы вам перамагчы бяссілле,
Каб крок за крокам вы назад не адступілі

На смецце даўнае (бо клічуць успаміны),
А ці на першыя свае ж і рыгавіны.
Ды веру я, што ў вас не здзеецца такога.
Вас ад прыроддзя іншая вядзе дарога.
Хутчэе да братэрства мілага памкненне.
Вы маеце самога неба блаславенне,
Каб, апрытомнеўшы, моц іншых варухнулі
Дый самі не хісталіся і не заснулі.
І толькі разам з вамі ўсіх я заклікаю,
Хоць некаторых з літасці адно трываю,
Каб для мяне, для гожай Мудрасці, шчырэлі,
Пры мне і згоду, і ад Бога ласку мелі.
Бо сподзеў ёсць на небаўдзячную лагоду,
З ёй вернецеся ў даўную сваю свабоду,
Каб зноў дзяржаву падупалую ўтрываліць,
Зноў узвялічыць, што дамогся час умаліць.
Як дзе ўзнікаюць нестлумачаныя рэчы,
Там людзі мудрыя трапляюцца дарэчы.
Хто выйшаў з берагоў, я раю ведаць меру.
А мацаваць патрэбна неадступна веру.
Бо з занядбанай моладзі прыйшло бяссілле,
А моц з тае, што да навукі прышчапілі.
Хоць мусіць у чужых садох яна жывіцца,
Абы да смерці толькі не перакарміцца.
Але й калекамі выходзяць, як ні дзіва,
Хоць пляц адзін, адна цана, адна пажыва.
І вельмі часта нас турбуе рэч такая,
Што невылечным струп’ем іншых пакрывае.
І сёння спаміж вас кульгавасці нямала
І слепаты, што самапасам заблукала.
Шляхетныя славяне, расчыніце вочы,
Няхай цвярозы клопат вашым быць захоча.
Як найглыбей вы розум свой ускалыхніце,
Мяне пры гэтым добрым словам памяніце.
Адно ў малітвах, Богу кленчачы, шукайце
Нябеснага ратунку і надзею майце,
Што плачы й смуткі, клопаты і нараканні
Урэшце скончацца й на вас спагада гляне.
Цярплівасць вашу шчодра Бог узнагародзіць.
Пасля цямночы сонца радасна ўзыходзіць.



# БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА

*(першая палова XVII ст.)*

«Баркулабаўская хроніка» — ананімны твор, створаны ў першай палове XVII ст. Імя аўтара, на жаль, дакладна невядомае. З аналізу тэкста вынікае, што стваральнік гэтага унікальнага помніка пісьменства жыў у Баркулабаве. Ён быў удзельнікам гістарычнага Берасцейскага сабора 1596 г. Магчыма, аўтарам з'яўляецца Фёдар Пляцінскі — баркулабаўскі ўраднік.

У структурна-кампазіцыйным і жанравым аспектах «Баркулабаўская хроніка» — надзвычай стракатая і шматпланавая. Яна ўключае шэраг самастойных навелаў: пра вайсковыя кампаніі 1580 і 1633 гг.; пра пасольскія місіі — Міхаіла Гарабурды 1586 г. у Маскву, Фёдара Траякурава 1587 г. у Варшаву і Льва Сапегі 1600 г. у Маскву; пра Ілжэдзімітрыя I і Ілжэдзімітрыя II; пра соймавыя дыскусіі 1545 і 1587 гг., шляхецкія рокашы 1606 г., пра казацкія рэйды — пад кіраўніцтвам Мацюшы ў 1590 г. і Севярына Налівайкі ў 1595 г.; пра пакуты яўрэйкі Сціркі; пра стыхійныя бедствы і прыродныя катаклізмы; пра гаспадарчыя справы (ураджай, кошты на прадукты харчавання); пра ўнутрыцаркоўнае жыццё і міжканфесійныя дачыненні; аповед пра Берасцейскі сабор 1596 г.; паданне пра заснаванне Магілёва і легенда пра пабудову Баркулабаўскага замка.

У мастацкую тканку «Баркулабаўскай хронікі» арганічна ўплецены некалькі публіцыстычных твораў: «Ліст ад паслоў вялікага князя маскоўскага», урывак з «Ліста ад нейкага пана з рокашу пра навіны рокашавыя», «Універсал рокашавы» (25 верасня 1606 г.), «Ліст Жыгімонта III Вазы» (11 сакавіка 1592 г.), «Адозва праваслаўных іерархаў» (10 кастрычніка 1596 г.).

Галоўныя персанажы «Баркулабаўскай хронікі» — гэта, як правіла, рэальныя гістарычныя асобы. Галоўнае месца ў творы займае вобраз князя Багдана Саламярэцкага, крычаўскага і ольцкага старасты. Аўтар піша пра яго з асаблівай цеплынёй, асвятляе яго сямейныя справы, мецэнацкую шчодрасць, рыцарскія ўчынкі. Б. Саламярэцкі паўстае як выключна асвечаная асоба. Ён імкнецца да справядлівасці, дае свабоды і вольнасці людзям, разнявольвае іх творчыя сілы, ўзводзіць на свае сродкі раскошныя замкі і бажніцы.

Некалькімі штрыхамі аўтар абмалёўвае вобраз Корсака Баркулаба Іванавіча — заснавальніка мястэчка, мужнага і абаяльнага чалавека.

Вялікі князь Стафан Баторый (Батура) таксама атрымаў у творы станоўчыя характарыстыкі. Паводле азначэнняў аўтара, гэты манарх быў чалавек «побажны, рыцарскі, ваяўнічы, шчаслівы, праўдзівы, справядлівы».

Выключнае значэнне мае ў творы вобраз яўрэйкі Сціркі, дачкі мясцовага арандара. Аб’ектам аналіза аўтара становяцца духоўныя перажыванні гераіні, якая вырашала пакінуць традыцыйны для яе народа Іудаізм і прыняць Хрыстову веру. Яе выбар быў прадыктаваны не жаданнем выйсці замуж за хрысціяніна, а духоўнай патрэбай, унутраным поклічам новай веры. Аўтар паказвае глыбокі, непераадольны канфлікт, які ўзнік на гэтай глебе паміж Сціркай і яе маці Мар’ямкай. Траўма для маці аказалася настолькі значнай, што яна пракляла дачку, на людзях жадала ёй зла і пагібелі.

Адна з стрыжнявых тэмаў «Баркулабаўскай хронікі» — лёс людзей працы. Аўтар паказвае трагічныя моманты ў жыцці беларускага народа, голад увесну 1602 г., калі людзі мусілі пакінуць нажытыя месцы і ісці ўпрочкі, «на Ніз», прасіць «дзеля Хрыста». Сотні і тысячы жыхароў Шклова, Друцка, Дуброўны, Круглага, Бабра з-пад Віцебска, Мінска і Полацка пухлі і паміралі з голаду.

Аўтар «Баркулабаўскай хронікі» шматкроць звяртаецца да вайсковай тэматыкі. На старонках твора знайшлі адлюстраванне вайсковыя кампаніі 1579—1580 гг. пад кіраўніцтвам С. Баторыя. У цэнтры ўвагі пісьменніка — вайсковая чыннасць корпуса з 300 ваяроў, на чале з гетманам Андрэем Гудоўскім, Філонам і Багданам Саламярэцкім, якія вялі баявыя дзеянні ў раёне Смаленска і Рослаўля. У творы выказваецца шкадаванне з прычыны няўдалага штурму Смаленска, стрымана паведамляецца пра страты, нанесеныя гаспадарцы вайной — выпаленыя месты, зруйнаваныя паселішчы, спустошаныя палеткі.

«Баркулабаўская хроніка» адметная тым, што ў ёй пададзеныя дзве значныя батальныя сцэны. Першая адлюстроўвае бітву 1580 г. паміж харугвамі Вялікага Княства Літоўскага і маскоўскім войскам пад Магілёвам. Аўтар раскрывае ўдалы вайсковы манеўр, адначасны наступ беларускіх харугваў з трох бакоў — з Шупеня, Баркулабава, Шклова і Копысі, у выніку якога варожыя войскі былі акружаныя і ўшчэнт разгромленыя.

Другая значная батальная сцэна ў «Баркулабаўскай хроніцы» — бітва паміж урадавымі войскамі пад кіраўніцтвам гетмана Мікалая Буйвіда і паўстанцкіх казацкіх аддзелаў Севярына Налівайкі, што адбылася ў канцы 1595 г. на Буйніцкім полі, таксама пад Магілёвам. Топіка гэтай батальнай сцэны надзвычай насычаная: падаюцца звесткі пра колькасць войскаў з аднаго і другога боку, указваецца дыслакацыя і перамяшчэнні харугваў, акрэсліваецца геаграфічна-тапанімічная прастора кульмінацыі бою, раскрываецца спецыфіка вайсковай тактыкі, фіксуецца часавая працягласць бітвы, паведамляецца пра агульныя

страты з абодвух бакоў, характар адступлення разгромленых казацкіх аддзелаў і пагоня за імі ўрадавых харугваў. Нарэшце, аўтар паведамляе пра перадыслакацыю войскаў пасля завяршэння бітвы.

Пра іншыя вайсковыя кампаніі — вызваленне Полацка ў 1579 г. і Пскова ў 1580 г., вайну са шведамі ў 1601 г. у творы знайшлося месца толькі для сціслых паведамленняў, пераважна аб іх выніках — людскіх і матэрыяльных стратах, тэрытарыяльных набытках. Напэўна, аўтар меў намер маштабна паказаць паход на Маскву войскаў пад сцягамі вялікага князя Уладзіслава ў 1633 г. Але ён раскрыў толькі пачатак кампаніі, даў дэталёвыя звесткі пра ўзброенасць корпуса гарматамі. Акурат на гэтым пераліку твор абрываецца.

На старонках «Баркулабаўскай хронікі» знайшлі адлюстраванне тагачасныя сацыяльныя канфлікты. Аўтар звяртаецца да падзеяў казацкіх рэйдаў: 1595 г. пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі, 1601 г. на чале з гетманам Самуэлем Кошкам і дзейнасці казацкіх аддзелаў у 1601 г. на чале з Іванам Куцковічам і Іванам Касым. Паводле канцэпцыі храніста, казацкія выступы мелі дэструктыўны, разбуральны характар. Сцэнай рабавання Магілёва, прыведзенай ў творы, аўтар яскрава засведчыў антыгуманную сутнасць дзейнасці налівайкаўцаў, паказаў іх нялюдскае аблічча. Пісьменнік пералічвае ўсе іхныя злачынствы — захоп чужой маёмасці, жарсткія забойствы бязвінных людзей, у тым ліку дзяцей і жанчын, гвалтаванне дзяўчынак. У творы паведамляецца пра незлічоныя матэрыяльныя і цяжкія людскія страты, панесеныя палачанамі і віцяблянамі пры ўварванні ў месты аддзелаў Самуэля Кошкі. Аўтар імкнецца быць дакладным, фіксуе колькасць казацкіх аддзелаў, іх узброенасць халоднай і стралковай зброяй, а таксама гарматамі, паказвае маршруты, перамяшчэнні, нарэшце аб'ёмы, памеры і віды пабораў, якія яны прымусова бралі з жыхароў гарадоў і мястэчак. Пры асвятленні падзеяў казацкага рэйду на чале з гетманам Іванам Касым аўтар засяроджвае ўвагу акурат на маштабе і геаграфіі гаспадарчых злачынстваў.

У «Баркулабаўскай хроніцы» прысутнічае тэма барацьбы палітычных груповак за ўладу і шляхецкіх кланаў за палітычны ўплыў ў краіне. Раскрываюцца падзеі, што адбываліся на соймах. У творы ёсць як разгорнутыя навелы, так і сціслыя згадкі пра соймы — Берасцейскі сойм 1644—1645 гг., Варшаўскі сойм 1587 г. Топіка соймаў у «Баркулабаўскай хроніцы» — шматузроўневая. Яна ўключае некалькі блокаў, сярод якіх: пералік і характарыстыка удзельнікаў — манарха, урадоўцаў, паслоў-дэпутатаў ад ваяводстваў і паветаў, а таксама пасольстваў ад іншых манархаў і гаспадарстваў; апісанні характару дыскусій — вусных спрэчак, забурэнняў і боек; паказ вынікаў соймаў.

На старонках твора адбілася яшчэ адна вядомая ў старажытныя часы форма крайняга, але ўзаконенага палітычнага змагання — шляхецкія рокашы. Звяртаючыся да падзеяў Сандамірскага рокаша 1606 г., аўтар указвае на шырокі ўдзел ў ім прадстаўнікоў розных народаў і канфесіяў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. Асуджаючы

рокаш як сродак вырашэння грамадскіх праблемаў, храніст адзначае яго працягласць («месяцей шесть»), гаворыць пра нікчэмныя праўныя вынікі, канстатуе адсутнасць усялякіх пазітыўных здабыткаў ад рокаша. У хроніцы паказаныя разбуральныя вынікі рокаша 1607 г, які прывёў да гібелі шматлікіх людзей, змагання шляхецкіх і ўрадавых войскаў.

У «Баркулабаўскай хроніцы» знайшлі вельмі падрабязнае асвятленне падзеі гэтак званага «тлумнага часу», узыходжанне на маскоўскі пасад самазванцаў. Першая навела аб Ілжэдзімітрыю І складаецца з наступных сюжэтных ліній: з'яўленне «Дмітраша» у маёнтку князёў Вішнявецкіх; фармаванне Ілжэдзімітрыем І вайсковых аддзелаў з паноў і казакаў; паход на Старадуб і захоп гэтага замка; рассыланне лістоў па абшарах Маскоўшчыны; наступ на Маскву, захоп Крамля і скідванне «Гадуна»; урачыстае каранаванне на пасад маскоўскага цара; раскол у асяроддзі маскоўскай эліты, рост незадавальнення сярод часткі святароў і баяраў дзеяннямі новага цара; пасольства ў Польшчу па нявесту; прыезд Марыі Мнішак у атачэнні вялікай світы; раскошнае царскае вяселле; змова маскоўскіх баяраў; напад на замак і выгнанне «Дмітраша»; вытлумачэнне прычынаў абурэння жыхароў Маскоўскага княства наступам новых уладаў на праваслаўную веру.

Другая навела «Баркулабаўскай хронікі» прысвечаная іншаму самазванцу — «Грышку Атрэпічу» («Дмітру Нагому»), вядомаму ў расійскай гісторыі пад імем Ілжэдзімітрыя ІІ. Аповед пра яго мае некалькі сюжэтных ліній, выкладзеных у наступнай паслядоўнасці: паход вайсковых аддзелаў «царэвіча» на Папову Гару з раёна Шклова і Магілёва; біяграфічныя звесті і паведамленні пра дзейнасць Дзмітра Нагога ў Магілёве і Прапойску перад яго аб'яўленнем; пазнанне ў самазванцу манарха «па царскіх знаках»; фармаванне вакол «цара» вайсковых аддзелаў; рассыланне лістоў па гарадах і мястэчках ВКЛ — да Магілёва, Оршы, Мсціслаўля, Крычава, Мінска з заклікам да ўсіх ісці да «цара»; стаўленне да авантурыста маскоўскіх уладаў — князя Андрэя Шуйскага і баяраў; самачыннае выступленне ўзброеных ротаў ВКЛ — Сапегі, Лісоўскага, Вялемскага, Руцкага на ўсход; бязладдзе ў Маскоўскім княстве — разбурэнні паселішчаў, рабаванні насельніцтва, масавае спойванне людзей; паход урадавых войскаў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства на Маскву ў 1608 г., пачатак маштабнай вайсковай кампаніі.

Пра трэцяга самазванца, прозвішчам Нядзведка, у хроніцы ёсць толькі сціслая згадка, нібыта ён неўзабаве пасля з'яўлення перайшоў са сваімі людзьмі на бок Шуйскага.

Адметнае месца ў «Баркулабаўскай хроніцы» займаюць навелы пра заснаванне Баркулабава і пра засяленне новымі людзьмі Магілёва і яго прыгарада. У аповедах падаюцца звесткі пра час заснавання Магілёўскага замка і мястэчка Баркулабава, адзначаецца роля заснавальніка — Корсака Баркулаба Іванавіча, прыгадваецца ўзвядзенне першай бажніцы (храма Святога Духа), працэс засялення навакольных вёсак — Ведража, Куты, Ловечы, Будзіша. Аўтар паведам-

ляе пра тое, адкуль у часы Жыгімонта Аўгуста пад Магілёў прыйшлі людзі, па якіх вёсках яны рассяліліся, нарэшце, раскрывае этымалогію места Магілёва.

«Баркулабаўская хроніка» адметная тым, што ў ёй упершыню ў беларускай літаратуры падрабязна зафіксаваны побытавыя аспекты жыцця, гаспадарчыя справы жыхароў Беларусі ў старажытныя часы. Аўтар звяртаецца да тэмы сяўбы і ўраджаю, падае звесткі пра кошты на асноўныя тавары і прадукты харчавання на рынках — збожжа, пшаніцу, авёс, грэчку.

Найбольш каларытнае ў хроніцы апісанне голаду, што здарыўся ўвесну 1602 г. Аўтар апавядае пра прычыну — стыхію восені 1601 г., калі ранняя зіма, снягі і моцныя маразы не дазволілі сабраць ураджай, у выніку чаго ўвесну людзі аказаліся без хлеба, паселішчы і гарады ахапіў голад. Пісьменнік называе землі і тэрыторыі, што пацярпелі ад бяды, канкрэтызуе, з якіх мястэчак і вёсак людзі вымушаныя былі ісці «на Ніз», пакінуўшы абжытыя месцы, паказвае маштабы трагедыі, пакуты сем'яў, якіх напаткала гора.

У «Баркулабаўскай хроніцы» знайшлі адлюстраванне надзвычайныя экалагічныя бедствы — моры 1588 і 1603 гг. У сціслай форме аўтар паведаміў пра працягласць эпідэміяў, тэрыторыю, якія яны ахаплівалі, а таксама паказаў дзеянні людзей, накіраваныя на лакалізаванне пошасці.

Аўтар «Баркулабаўскай хронікі» паказаў стыхійныя здарэнні 1587 і 1588 гг. Пісьменнік акцэнтаваў увагу на асаблівасцях кожнага з іх, а таксама прыгадаў страты, якія яны прынеслі людзям.

Значнае месца ў хроніцы адведзена царкоўнаму жыццю ў Вялікім Княстве Літоўскім. Вобразна і каларытна падаюцца звесткі пра час будаўніцтва бажніцаў — Святых Барыса і Глеба ў Магілёве, Святога Пакрова ў Ведражы на грошы Багдана Саламярэцкага (1586), Святога Духа ў Баркулабаве (1564), Нараджэння Хрыстова ў Баркулабаве (1568), іх фундатараў. Нязменны кампанент аповедаў пра царкоўнае жыццё — паведамленні пра час смерці найвышэйшых іерархаў царквы, месцы іх пахавання, а таксама заняцце духоўных пасадаў новымі святарамі. Аўтар падрабязна асвятляе візіт антыяхійскага патрыярха Ераміі ў ВКЛ і ў Масковію ў 1586 г.

Пісьменніцкі талент аўтара «Баркулабаўскай хронікі» выявіўся ў навеле пра Берасцейскі сабор 1596 г., дзе было падпісанае вядомае пагадненне паміж канфесіямі, у выніку якога на Беларусі паўстала Уніяцкая Царква. Аповед пра Берасцейскі сабор 1596 г. надзвычай насычаны: прыезд на сабор дэлегацый і іх размяшчэнне; пасольства ад святароў і рыцарства да мітрапаліта, каб ён вызначыўся з месцам (памяшканнем) для правядзення сабора; прызначэнне мітрапалітам часу і месца пасяджэнняў, выкліканне патрыяршым экзархам Нікіфарам мітрапаліта дзеля канфедэнцыйнай гутаркі і справаздачы; унікненне мітрапаліта ад гутаркі з экзархам; прыезд на сабор трокскага ваяводы і яго першы візіт да князя Канстанціна Астрожскага; адкрыццё сабора; абранне маршалка з духоўных асобаў; заслухоўванне павятовых пасольстваў; папярэднія перамовы Астрожскіх (бацькі і сына) з

даверанымі асобамі манарха — канцлерам Л. Сапегам, падскарбіем Дз. Халецкім, накіраванне імі пасольства да мітрапаліта з просьбай неадкладна правесці спатканне і перамовы; наведванне пасламі мітрапаліта і перамовы з ім; прыезд да мітрапаліта каралеўскіх паслоў на сабор; дыскусіі паміж прыхільнікамі і праціўнікамі міжцаркоўнага пагаднення ў пятніцу 8 кастрычніка; зачытванне патрыяршага дэкрэта і анафемы на мітрапаліта і епіскапаў; абвяшчэнне экзарха шпіёнам; абед у падскарбія, дзе адбылася клятва мітрапаліта і епіскапаў; заключнае казанне езуіта Пятра Скаргі ў нядзелю 10 кастрычніка; ад'езд удзельнікаў сабора.

Аўтар літаратурнай хронікі ўсебакова асвятляе міжканфесійныя канфлікты і забурэнні — 1583 г., на глебе прыняцця новага календара, сутычкі і непаразуменні паміж Касцёлам і Праваслаўнай Царквой у 1588 і 1592 гг. Пісьменнік раскрывае характар і маштабы канфліктаў, іх формы і праявы: ад узаемных абразаў і боек — да судовых скаргаў і лістоў да караля. Сімпатыі аўтара, як вынікае з тэксту, на баку праваслаўнай канфесіі.

Аўтар «Баркулабаўскай хронікі» неаднаразова звяртаецца да тэмы міждзяржаўных дачыненняў, асвятляе пасольствы Вялікага Княства Літоўскага ў Маскву — у 1560 г., 1586 г. і, наадварот, прыезд маскоўскіх паслоў ў Вільню і Варшаву — у 1587 г. на Элекцыйны сойм. Пісьменнік падае звесткі пра матывы і час пасольстваў, іх кіраўнікоў. Пры гэтым ён раскрывае мэты дыпламатычных місій, працягласць знаходжання дэлегацый за мяжой і асноўныя вынікі перамоваў на міждзяржаўным узроўні.

Адзін з найважнейшых кампанентаў паэтыкі «Баркулабаўскай хронікі» — апрацоўка легендарных звестак і вусных паданняў. Асабліва каларытна прадстаўлена легенда пра пераўтварэнне віна. Падчас службы П. Скаргі на Берасцейскім саборы 1596 г. віно раптоўна і невядомым чынам ператварылася ў брыдкую і смуродлівую кроў, а ў час службы І. Пацея — у простую ваду. Аўтар, відавочна, падае гэтыя містычныя падзеі з мэтай дыскрэдытавання прыхільнікаў Уніі.

Спецыфіка «Баркулабаўскай хронікі» выяўляецца на ўзроўні мастацкага часу. Аўтар скарыстоўвае шэсць асноўных мастацкіх механізмаў часавай арганізацыі эпічнага дыскурсу: наўпроставыя ўказанні на год падзеі, нярэдка з вельмі канкрэтным дэталізаваннем месяца, дня і нават моманту здарэння; акрэсленні перыяду кіравання епіскапа, мітрапаліта ці іншай духоўнай асобы; прывязкі да моманту княжання гаспадара, манарха або вядомага ўрадоўца; спасылкі на царкоўны каляндар з арыентаваннем на хрысціянскія святы; згадкі адметных падзей з жыцця вядомага магната — вяселле, нараджэнне нашчадка, смерць; паведамленні пра буйныя гістарычныя здарэнні — войны, узяцці замкаў, паўстанні.

*Іван Саверчанка*

## Берасцейскі сойм 1545 года

У 1545 год ад Божага нараджэння ў Берасці быў вялікі сойм, на якім прысутнічалі яго міласць кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Казіміравіч з каралевай Бонай і з каралеўнамі. Пры яго міласці быў сын, гаспадар наш, другі кароль — Жыгімонт Аўгуст з сваёй каралевай Альжбетай, дачкой Фердынанда, караля чэшскага і рымскага.

На сойме было шмат біскупаў і паноў-рад. Паны-рада Вялікага Княства, паны і ўся шляхта харугоўная, і ўсё рыцарства ўсіх земляў і Вялікага Княства. Так шмат з'ехалася людзей, што з двух бакоў і наўкол Берасця на некалькі міль стаялі.

Пры іх міласцях абодвух каралях на тым Берасцейскім сойме знаходзілася шмат паслоў, як ад хрысціянскіх гаспадароў, гэтак і ад басурманскіх.

Доўжыўся той сойм у Берасці ад святога Пятра і Паўла ажно да святога арханёла Міхаіла.

З таго сойму яго міласць гаспадар наш Жыгімонт Аўгуст з каралевай Альжбетай паехаў да Вільні. Яго міласць узяў у свае рукі ўсе справы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якія належалі яго міласці каралю Жыгімонту Старому.

На тым сойме ў Берасці князь Сямён Глебавіч Пронскі прыняў рымскую веру, узяў імя Фердынанда. На той час ён атрымаў Кіеўскае ваяводства.

## Магілёў

За часамі гаспадара яго міласці караля Жыгімонта, мітрапаліта Іоны — уладыкі полацкага, пана Храптовіча, калі горад належаў Астафею Валовічу, а кіраваў староста яго — пан Баркулаб Корсак, а пан Іван Чорны быў гараднічым, у месцы Магілёве засяліліся шмат прыезджых людзей.

На Леткаве, у напрамку Пячэрска, пасяліліся вотчычы — Сухач, Бутак, Андросавіч. Каля места — прышлыя людзі — сяляне з Княжыч, з Галоўчына і з іншых шматлікіх вёсак. За Дубровенкай — буйнічане і галынчане, а таксама сяляне з Радзівонкавіч. Радзівонкавічы ўзніклі раней за Буйнічы, але гэта старыя, даўнія паселішчы. А каторыя селі на слабадзе, на Грыўцы, на беразе Кашчовага, каля Дзесяціннай — паходзяць з Смаленска. Прышлыя смаляне — Гаўрыла Дрыстун, Іван Бяляй, Максім, Аўтушка Багаты ды іншыя — усе з Смаленска прыйшлі.

У 1526 годзе вялізны замак быў узведзены. Гара Магіла, на якой цяпер замак Магілёў узвышаецца, была істотна зменшана.

Буйнічам належалі землі ад Дняпра, уздоўж Дуброўны, ажно да Пячэрска. Княскае паселішча Буйнічы шмат хто трымаў: князь Крашынскі, князь Масальскі, пан Баркулаб, пан Солтан, пан Філон і шмат іншых паноў.

## Масква спаліла Магілёў

У 1580 годзе кароль Стафан быў пад Псковам і ўзяў горад Пскоў. А масква, князь Сярэбраны з немалым войскам, места слаўнае Магілёў спаліла. У тым жа краі гарады Шклоў, Копысь і шматлікія вёскі вакол іх вельмі спустошылі. Таксама і ў наваколлі Магілёва. Што да Оршы, Радомля і Мсціслаўля — тых замкаў не пабурылі і нават да іх не набліжаліся.

Князь Іван Чартарыйскі з войскам на той час знаходзіўся ў Баркулабаве. Пры ім быў Цемрук з татарскім войскам, якое налічвала трыста коннікаў. Тады ж у Навасёлках маскоўскую старожу перанялі. Пасля гэтага Іван Чартарыйскі пайшоў на Шупень, каб адтуль накіравацца да Магілёва. Масква ўжо паліла паселішчы пад Магілёвам. Цемрук з Баркулабава магілёўскім трактам накіраваўся да Задубровення. А войска літоўскае ў Шклове стаяла. Цяпер жа на Магілёў рушылі з трох бакоў: Чартарыйскі — ад Шупень, Цемрук — з Баркулабава, войска літоўскае — з боку Копысі і Шклова. Маскву адкінулі ад Магілёва, разбілі і адагналі.

Трупаў маскоўцаў было столькі, аж страшна глядзець. Раку Днепр мерцвякі перагарадзілі. Некалькі тыдняў не пілі вады з Дняпра і рыбы дняпроўскай не елі дзеля гнюсу трупаў маскоўскіх.

## Стыхія 11 чэрвеня 1592 года

Бура была вялікая і вельмі страшная. Пачалася яна з заходніх краёў, ад украінскіх замкаў, і захапіла Чарнігаў, Гомель, Любеч, Белую Царкву, Перэяслаўль, Стрэшын, Рэчыцу, Рагачоў, Крычаў і іншыя шматлікія месты і замкі. У вёсках і мястэчках град і бура папсавалі нямала збожжа. У барах, лясах і палях пашкодзіла бортныя дрэвы з пчоламі. Рыбалоўныя прылады, якія заставаліся на вадзе, стыхія патрушчыла. Як паведамлялі ў справаздачах, у северскіх гаспадароў бура зламала ў каго сто бортных дрэваў, у каго — дзвесце, у каго — трыста, аж страшна было чуць такое. А дарогі ад паселішча да паселішча расчышчала кожная воласць. Нават цяпер у лясах, барах і на балотах шмат відаць зламаных дрэваў.

Але той 1592 год быў велімі ўрадлівы. Збожжа, авёс, грачыха, хаця і не надта рослыя ўзышлі, але былі добрыя на ўраджай. Кошт збожжа знізіўся: пяць грошаў — за чвэрць, дваццаць грошаў — за меру.

## Рэйд Севярына Налівайкі

У 1595 годзе ад Божага нараджэння, 30 лістапада, у панядзелак, за тыдзень перад святым Міколам, з'явіўся Севярын Налівайка. Пры ім было 2000 казакаў і 14 гакоўніц.

Магілёў — места слаўнае і пабажнае, а таксама дамы, крамы і астрог — казакі спалілі. Усіх дамоў спалілі 500; а крамаў, з вялікімі скарбамі — 400. Месцічаў, баяраў, пачцівых людзей, мужчын, жанчын і малых дзетак — пабілі, пасеклі, згвалцілі. Скарбы незлічоныя пазабіралі з дамоў і з крамаў.

У пагоню за казакамі напрамку Магілёва выступіла літоўскае войска пана Радзівіла троцкага, гетмана літоўскага. Конныя ўзброеныя рыцары налічвалі: 14 000 літвы і 4000 татар. Польным гетманам над тымі рыцарамі быў Мікалай Буйвід.

Налівайка ляжаў пад Магілёвам два тыдні. Пачуўшы, што гетман з вялікім войскам і гарматамі выступіў да Магілёва, Налівайка ад Магілёўскага замка перамясціўся на гару Ільінскую, дзе цяпер царква святога Георгія стаіць, а раней яе там не было.

Урэшце на Буйніцкім полі, што належала яго міласці вяльможнаму князю Багдану Саламярэцкаму, старасту крычаўскаму і олыцкаму, літоўскае войска атакавала войскі Налівайкі і акружыла іх. Бітва працягвалася зранку да вечара, да часу вячэрняга звону. Літва з вялікім войскам націскала на войска Налівайкі. Страты з абодвух бакоў былі вельмі значнымі. Налівайка меў адну вялізную гармату, шмат невялікіх гармат (дзел) і гакоўніц, а таксама мноства пулгакоў. Яго палкі з добрымі конямі, трывалымі вазамі, падрыхтаванымі людзьмі — ішлі вельмі напорыста.

Зацны пан Грыгорый Аніхоўскі быў забіты казакамі Налівайкі выстралам з гарматы.

Нарэшце літва, адступіўшы ад казакаў, накіравалася за прыпасамі ў Магілёў. Казакі ўсю ноч ехалі да Быхава, аж да Нізу. Частка літоўскага войска гнала казакаў да Рагачова, але асаблівай шкоды ўжо не прычынілі ім.

Затым літва і татары рушылі ў накірунку Мінска, Наваградка і Вільні, назапашваючы прыпасы па ўсім краі.

Як казакі і літва ад’ехалі — стаяў зімовы час, але снег зусім не выпаў. Было не зразумела: ці зіма, ці лета, ці восень, ці вясна. Снегу не было аж да мая месяца, да святога Афанасія.

Казакі з Налівайкавага войска пачалі чыніць вялікую шкоду ўкраінскім замкам і панам.

У тым жа 1595 годзе літоўскае войска перахапіла казакаў у вёсцы Лубні, на рэчцы Суле, і пабіла іх. Панчоху чвартавалі. А Севярына Налівайку, паймаўшы па сёмай субоце, накіравалі на суд караля. Там яго, замураваўшы, трымалі аж да восені, да Святога Пакрова. Урэшце Севярына Налівайку — чвартавалі.

## Берасцейскі сінод 1596 года

Вось што дзеелася ў дзень прызначанага з’езду — 6 кастрычніка, паводле старога календара, або 16 — паводле новага.

Святарства і рыцарства, паслы і паны сышліся на пасяджэнне пад кіраўніцтвам яго міласці ваяводы кіеўскага ў доме пана Райскага. Адтуль паслалі да мітрапаліта дзвюх духоўных асобаў і дзвюх свецкіх ад кола рыцарскага з паведамленнем, што ўжо з’ехаліся на сінод. Яны таксама прасілі прызначыць месца для правядзення неабходных перамоваў.

Мітрапаліт адказаў, што яшчэ не вызначыўся з месцам і адклаў вырашэнне пытання да заўтрашняга дня, на чацвер, 7 кастрычніка. Пазней ад яго імя ў саборнай мураванай царкве была прыбіта картка, дзе паведамлялася пра месца сустрэчы.

У той жа дзень мітрапаліту была накіравана духоўная позва ад айца Нікіфара, экзарха, якога прыслаў канстанцінопальскі патрыярх Гаўрыіл, з прапановай назаўтра наведаць яго і даць тлумачэнні ў тых справах. Але мітрапаліт і ўладыка, некім папярэджаныя, схаваліся ў гаспадзе ксяндза біскупа луцкага.

У той жа дзень, у сераду, але крыху са спазненнем прыбыў да Берасця яго міласць ваявода трокскі. Неадкладна ён наведаў князя, ваяводу кіеўскага. Трокскі ваявода папрасіў князя не абражаць паслоў яго каралеўскай міласці — пана канцлера і пана падскарбнага, якія меліся неўзабаве прыбыць на сінод.

Сінод пачалі ў той жа дзень. Духоўныя спачатку абралі маршалка сінода, а затым заслухалі пасольствы з некалькіх паветаў.

У чацвер, рана на світанку, засядалі князь, ваявода кіеўскі з сынам — ваяводам валынскім у пана ваяводы трокскага. Гутарка доўжылася болей за пяць гадзін, амаль да паўдня.

Нарэшце з’явіліся пан канцлер з падскарбіем, якія адразу накіраваліся да трокскага ваяводы, дзе і засталі князя. І зноўку

нямала часу стравілі ў спрэчках. Да мітрапаліта накіравалі дэлегацыю — шэсць духоўных асоб і шэсць паслоў з местаў, — з пісьмовай просьбай, каб ён не марнаваў часу і неадкладна сустрэўся з імі для перамоваў. Яны таксама прапаноўвалі ўладыкаў-адшчапенцаў пазбавіць святарскага сану, ніскласці з духоўных пасадаў, калі яны будуць настойваць на старой веры і дабраславенні патрыярха [...]

Князь [Астрожскі] сказаў прамову, у якой падкрэсліў, што сустракаўся з іх міласцямі, і адзначыў, што ўсё чыніць адкрыта і хацеў бы далей пры іх заставацца. Потым з плачам прамовіў:

— Мы ўсе абражаны дзеяннямі тых здрайцаў нашых, якія ўсё тое заварылі, і тымі, хто ім дапамагае. Мы цярпліва зносім крыўды, пакладаючыся на Бога [...]

Праз невялікі час іх міласці каралеўскія паслы паведамілі, што хочуць быць у князя. І прыехаў пан ваявода трокскі, пан канцлер, пан падканцлер. Яны пайшлі ў пакой да князя. Іх чакалі некалькі гадзін, да змяркання. Усе былі надта абражаныя, што там надта доўга перамаўляюцца, бо не ведалі, якія таемныя пагадненні прымаюць.

Нарэшце пастанавілі з'ехацца ў пятніцу, а 14 гадзіне, і завяршыць распачатую справу. Пасля чаго з грукатам і нараканнямі раз'ехаліся. Сенатары маглі ўсё добра чуць, бо вокны выходзілі на вуліцу, а людзі гаманілі надта гучна.

Назаўтра, у пятніцу, пан падскарбі прыслаў па мяне, каб прыбыў да яго. Сабраў у сябе і шмат іншых. Пачаў агітаваць за паяднанне, паведаміўшы, якую карысць будзем мець ад згоды на ўсе часы. Але ад нас не дачакаўся станоўчага адказу, бо мы не хацелі быць такімі, як тыя адшчапенцы. Ён мне нагадаў:

— Не мусіш гаварыць ад імя ваяводы смаленскага.

Я на тое зазначыў:

— Не ад яго міласці прыехаў, але сам па сабе.

Потым паехалі да кола, да братоў сваіх [...]

У суботу зноў з'ехаліся да кола. Дэкрэт патрыярхаў і пракляцце мітрапаліта былі прачытаны па-руску, перакладзеныя з грэцкай мовы вельмі пекнымі і досыць жаласлівымі словамі.

Пан канцлер літоўскі ў той дзень звярнуўся з заклікам да віленскіх месцічаў, якія не хацелі прымаць згоды, каб наведалі яго. Ім сказаў, што яны будуць шкадаваць і мець вялікі клопат дзеля сваёй настырнасці. Аб пагрозах з яго боку месцічы паведамілі ў коле.

Наш пан маршалак указаў пану канцлеру, што паны Літву страцілі, аддалі яе Польшчы [...]

Таксама яго міласць князь, у скрусе, указаў пану канцлеру і пану падскарбію, каб яны не пагражалі яму імем караля, бо ён добра ведае свае абавязкі і надзейна служыць гаспадару. Няхай іх міласці пагражаюць яму ад свайго імя. Калі яны нешта маюць да яго, ён гатовы з імі спаткацца, дзе яны скажуць.

Потым прыслалі князя Шуйскага з нейкім ляшкам. Паведамілі, што прыходзяць да згоды ў касцёле, запрашаючы князя, калі ён пажадае. Князь адказаў, што прышле дэлегацыю. Былі абраны дзесяць чалавек з кола рыцарскага, дзесяць асобаў духоўных, дзесяць мяшчан і накіраваны, каб агучыць пратэстацыі, калі будзе дазволена. З князем былі возныя і некалькі генералаў. Калі яны прыехалі да касцёла, там іх да брамы гайдукі і слугі пана падскарбія і пана ваяводы трокскага нават не пусцілі. Яны з жалем вярнуліся назад. А тое здарылася ў суботу, пры канцы дня.

У той дзень валынскі князь, валыняне і падаляне мусілі спаткацца з панам падскарбіем на абедзе. Але ім адмовілі, што іх надта абразіла.

Аніякія нашы пратэстацыі не былі прыняты ў замку.

Мітрапаліта і ўладыкаў гвалтам прымусілі прынесці прысягу. Яны, дзеля Бога, прасілі адкласці да сойма, але арцыбіскуп львоўскі, біскуп луцкі і пан канцлер запэўнілі іх ласкаю караля і прывялі да прысягі. Там мітрапаліт з чатырма ўладыкамі прысягнулі на вернасць папу рымскаму, на новы каляндар, на артыкул, што Святы Дух паходзіць ад Айца і ад Сына, а таксама — на адзінства касцёла.

У нядзелю езуіт Скарга ў саборнай царкве імшу служыў і казанне прамаўляў. А Пацей службу служыў у касцёле, каля Ражэйскага алтара. Ля праваслаўнага алтара, дзе рымлянін службу служыў, віно ператварылася ў брыдкую і смуродлівую кроў, якой той езуіт не мог спажыць. А ля рымскага алтара, у Пацея, віно ператварылася ў звычайную горкую ваду.

Там жа, у Берасці, сярод простых людзей знайшоўся чалавек, які пранікнёныя і мудрыя словы прамаўляў, бо на памяць ведаў усё Пісанне. Ён нагадваў, каб людзі сваёй веры моцна трымаліся.

Тых лотраў — мітрапаліта і ўладыкаў — больш не бачылі, бо іх рымляны не пусцілі.

А мы ў нядзельку ўсе раз’ехаліся, паставіўшы подпісы і пячаткі пад універсаламі, якія накіравалі да каралеўскай міласці.

## Пакуты яўрэйкі Сціркі

У 1599 годзе, 27 мая, у сёмую суботу, апоўдні, у месце Баркулабаве, прыйшла да Баркулабаўскай царквы Сціркa — дачка яўрэйкі Мар'ямкі, баркулабаўскай арандаркі. Яна ўпала на калені і слёзна прасіла баркулабаўскага святара Фёдара Філіповіча навярнуць яе ў хрысціянскую веру. Святар параіўся з панамі, баярамі, зямянамі, шляхтай і зураднікам — панам Фёдарам Пляцінскім. Як высветлілася, Сціркa прагнула новай веры не дзеля замуства, не дзеля таго, каб выйсці замуж за хрысціяніна, але праўдзіва, дзеля духоўнага поклічу.

Яўрэйка Сціркa, стоячы перад царквою, перад усімі выбітнымі панамі і перад хрысціянскім людам, горача прамаўляла:

— Панове мае, ужо даўно я прагну крыжа Хрыстова. Паўтара года таму я сама далучылася да Хрыста, прасіла з слязьмі Госпада Бога і чыніла святы крыж, кладучыся і прачынаючыся, просячы, каб дазволіў мне стаць хрысціянкаю. З невымоўнай прагай і вялікім жаданнем я імкнуся здабыць Хрыстову веру.

Назаўтра, у дзень Зыходжання Святога Духа, супольна з мноствам божага народа — панамі, шляхтай, пачцівымі людзьмі, жонкамі і дзецьмі — Сціркy хрысцілі праз апусканне ў ванну. У святым хрышчэнні яна атрымала імя Алены.

У той дзень, перад хрышчэннем Сціркі, яе матка Мар'ямка прыходзіла да месца хрышчэння. Падаючы на калені, з крыкам і плачам, яна прасіла, каб не хрысцілі дачку, абяцаючы прынесці падарункі і шчодрыя ўзнагароды.

Пазней некаторыя месцічы бачылі чараванне той Мар'ямкі, якое яна чыніла сваёй дачцэ паганскімі егіпецкімі чарамі. Калі яе завезлі ў Буйнічы, да іх міласцяў князёў, тая Мар'ямка залезла ў студзёную лазню, галаву адкрыла, валасы распусціла, печку раскідала і чароўныя паганскія словы прамаўляла, праклінала, абедзвюма рукамі назад ківала, ногі свае вязала. Шмат іншага зла тварыла, праклінала, каб дачка жывая не была.

## Падзеі за 1600—1605 гады

Год 1600. Валынскія і літоўскія паны, а таксама запарожскія казакі, змовіўшыся між сабой, супольна валохаў памялі. Разбілі валоскае войска Мігаля, гармату аднялі. Ваявода мульцянскі разам з Мігалём уцяклі, ледзь не злавілі іх, гналі аж да мульцянскай мяжы. Крыху ўсё супакоілася. Казакі за тое атрымалі лежу ў Кіеве. Гетманам быў Самуіл Кошка. Ляжалі ў Гомлі, Рэчыцы, Рагачове і ў Баркулабаве, пакуль не дачакаліся новага рэйду.

У 1600 годзе, 8 жніўня, з панядзелка на аўторак пан Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага, стараста магілёўскі, пан Галубіцкі,ураднік пячэрскі, і Ян Ражаноўскі Трабух прыбылі ў Магілёў.

У 1600 годзе, 18 верасня, у чацвер, пан Ян Варшаўскі, а таксама яго міласць пан Леў Сапега, канцлер літоўскі, стараста магілёўскі, у якасці паслоў хадзілі на Маскву да ўсходняга маскоўскага цара Барыса Гадунова. З імі было мноства княжычаў і паноў выбітных. Знаходзіліся ў Маскве 20 тыдняў. Падпісалі перамір’е на 20 год.

У той жа год, 7 кастрычніка, полацкі ўладыка за свае грахі і з Божага дазволу хварэў спачатку ў Полацку, а затым у Вільні лекі ўжываў. Едучы з Вільні, на дарозе Смаргонскай, ганебнай смерцю скончыў сваё жыццё. Як на пастырства праз дзірку залез, гэтак у дзірцы, на дарозе, жыццё жахліва скончыў.

У той жа год, восенню, 17 верасня, у аўторак, здарылася незвычайнае — з захаду прыйшоў да нас моцны і вялікі гром, якія грымеў па ўсіх баках. Бліскала маланка. А ўначы быў мароз і вецер. Гэта было прадказанне падзей, пра якія ніжэй будзеш чытаць за 1602 і 1603 гады. Вялікія пакуты і хваробы, голад і моцны неўраджай. Быў страшэнны мор, які спасціг людзей, што спускаліся на Ніз. Каля чатырох тысяч мужчын, жанчын і дзетак з голаду мусілі пайсці. Страшна было глядзець, як на вуліцах, на дарогах, па гумнах, у равах сабакі елі мёртвыя целы.

У 1601 годзе распачалася вялікая вайна ў Інфлянтах з каралём шведскім за Жыгімонта Трэцяга. У той жа год запарожскія казакі ў Швецыі былі, але нічога не дапамаглі, толькі вялікую шкоду гаспадару ўчынілі — слаўнае і багатае места Віцебск заваявалі, месцічаў пабілі, паннаў паплюгавілі, незлічоныя скарбы пабралі.

У той 1601 год па Магілёўскай воласці выбранцаў выбіралі, гайдукоў да Інфлянтаў.

У 1601 годзе, за часамі караля Жыгімонта Трэцяга, мітрапаліта Пацея-адшчапенца, сусветнага патрыярха кір Рафаіла, пастаўлены на ўладыцтва Гедэон, які меў раней імя Мікалай, і той адшчапенец.

У 1601 годзе, 5 жніўня, памёр юр’еўскі святар, айцец Цімафей Алексіевіч. Выконваў іерэйскія абавязкі чатыры гады. Да яго парафіі належалі: паўместа, вёска Былевічы, Хадуцічы, Ліпаўка, Панькавічы, Навасёлкі, Трызніна слабада, Лежнева, Багданава слабада.

Год 1601 быў незвычайным. Галодныя людзі пачалі на хлеб жаць збожжа перад святам Адсячэння галавы Іаана Прадцечы.

А ў копы пачалі жаць збожжа на святога Сімяона Стоўпніка. Зерне было яшчэ надта мяккім. Дажалі збожжа перад Пакровам за два тыдні, бо без перапынку ішлі дажджы на працягу 12 тыдняў. Яравыя пачалі саспяваць на святога Пятра, а праз два тыдні пачалі ўжо іх жаць. Але зялёнае яшчэ было. А потым, пасля святога Сімяона Стоўпніка, 4 кастрычніка, глыбокі снег выпаў. Усё, што было на палетках — збожжа, авёс, пшаніца, ячмень, гарох, боб — засыпала снегам і прынесла велізарную шкоду. Пацярпеў ураджай і пацярпелі людзі. Перад тым кошт збожжа быў сярэдні. Знак падзення ўраджаю — моцны восеньскі гром 1600 года, пасля свята Уздзвіжання крыжа.

У 1601 годзе ў Швецыю хадзілі чатыры тысячы запарожскіх казакаў. Над імі гетманам стаяў Самуіл Кошка. Самуіла там забілі, а пахавалі ў Кіеве. Там, у Швецыі, казакі нічога добрага не ўчынілі. Аніякай дапамогі ні гетману, ні каралю казакі не аказалі, а толькі ўцяклі з Швецыі. Тут, на Русі, у Полацку вялікія шкоды нарабілі. Захапілі слаўнае места Віцебск, забралі шмат золата і срэбра, пачцівых людзей пазабівалі. Садомскія ўчынкі чынілі горш за злых непрыяцелеў і злых татар.

У той 1601 год, пасла 10 кастрычніка, цэлы тыдзень няспынны валіў моцны снег. Выпаў да паўголені. Таксама моцная завіруха гуляла. Пшаніцу, ярыцу, авёс, грэчку, гарох і ўсю гародніну снегам пазамятала. Жалка і страшна было глядзець на плач і цяжкія ўздыханні ўбогіх і бедных хлебапашцаў.

Снег ляжаў два тыдні, аж да Дзімітравай суботы. Днепр так замёрз, што па ім ездзілі, як сярод зімы. Але потым, ласкай усеміласцівага Госпада Бога, снег растаў і рака Днепр зноў пацякла.

Потым пачалі жаці-гараваці па снезе, у стужу. Як пачаліся вялікія маразы — агонь клалі, грэліся, аж страшна было глядзець на людскія пакуты. За дзень два-тры чалавекі нажыналі толькі снапоў 40 аўса, або ярыцы, бо ўсё палегла да зямлі.

Увесну бедныя людзі жалі-гаравалі ярыцу для ската. Самі гаспадары мусілі стравіць шмат збожжа статкамі ўвесну. Бо мак, гарох, бабы, проса, рэпа — усё наогул загінула. А хто абмалаціў ярыцу — зерне толькі знак. А калі змеле, спячэ — дык у печы спячэцца, а з лапаты ў печ не пакласці. З печы аж палоўнікам даставалі. Збожжа было зусім неўмалотным. А калі муку жытную ў хлебе спякуць, то печанае цеста становіцца салодкім. А за скарынку хоць ложку кладзі, а ў печцы не пячэцца.

Увосень аралі глебу і сеялі збожжа. Каторыя старым зернем — тое няблага ўзышло, а каторыя новым — тыя не жалі. Дзве долі тых людзей было, каторыя аралі і каторыя — не сеялі.

А той гнеў Божы і непагадзь былі ад Мінска да Полацка, Віцебска, Оршы, Мсціслаўля, Прапойска, Рагачова, Магілёва, Любашанаў.

Потым у Рэчыцы, Лоеве, Кіеве, аж на Валынь, добры ўраджай быў. Мноства людзей убогіх ад голаду на Ніз пайшлі — з жонкамі, дзецьмі, сем'ямі. Цяжка пра гэта апісаць, аж страшна было глядзець. З верху — з воласці Шклоўскай, з Друцка, Дуброўны, Круглага, Бабра, з-пад Віцебска, Полацка, Мінска і з многіх іншых краёў людзі ішлі.

У той год зіма была злая — вялізныя снягі і моцныя маразы. Людзям паадмарозіла каму нагу, каму пальцы, іншым — твар, вушы, нос, а некаторыя ад марозу памерлі.

А калі ўжо прыйшла вясна 1602 года — мноства людзей з таго находу паўміралі. Па пяць, па трыццаць — у яму. Хворых, галодных, апухлых — вялікае мноства. Страх бачыць гнеў Гасподні! Пры вялікіх местах памерлых паасобку хавалі, святары праводзілі. Тыя, што пайшлі на Ніз — усе там памерлі, мала хто застаўся. Паміралі паўсюль — па местах, на вуліцах, на дарогах, па лясах, на пустэчах, на раздарожжах, у пустых хатах, на гумнах. Бацька — сына, сын — матку, матка — дзяцей , муж — жонку, жонка — мужа пагублялі, па розных местах і вёсках разышліся. Адзін другога пакідалі, не ведаючы нічога пра блізкіх. Амаль усе памерлі.

А калі тыя хадакі — бацька з сынам, сын з бацькам, матка з дачкою, дачка з маткаю, брат з братам, сястра з сястрою, муж з жонкаю, — стоячы ля варот ці перад домам, хлеба прасілі, дык прамаўлялі горка і слёзна: «Матухна, зязюлюхна, качачка, панюшка, спадарыня, сонейка, месячык, зорачка, дай кавалачак хлеба!» Тут жа, ля плота, будуць стаяць з ранку да абеду, да паўдня, гэткім чынам просячы. Іншы пад плотам і памрэ.

А калі варыва прасілі, дык прамаўлялі такія словы: «Спадарыня, перапёлачка, зорачка, зернейка, сонейка, дай дзіцятку лыжачку варыўца сырога!»

У той 1602 год куплялі збожжа чвэрць — 40 грошаў, пшаніцы чвэрць — 50 грошаў, аўса чвэрць — 38 грошаў, грэчкі чвэрць — 40 грошаў, гароху чвэрць — 40 грошаў, канопляў чвэрць — 50 грошаў, капусты кіслай вядро — 3 грошы, бочачка капусты кіслай — 24 грошы, ячменю чвэрць — 70 грошаў.

Вясна 1602 года, з ласкі Божай, пачалася добра. Да святога Юр'я пасеянае збожжа пачало з зямлі прабівацца і ўзыходзіць. Араць пачалі на Страсны тыдзень. Некаторыя да свята пасеялі крыху маку і пшаніцы. Але, у той жа год, на Страсным тыдні,

у сераду, загрымеў вельмі грозны гром, з вялікім дажджом і бурай. Гэта быў нядобры і злы знак, бо на дзесятым тыдні таго 1602 года, у чацвер, быў моцны мароз. Што было квецені — усё памарозіў[...]

У 1603 годзе аб’явіліся запарожскія казакі на чале з гетманам Іванам Куцковічам. Пры ім было казацкага люду — 4 тысячы. Бралі прыстаўства з Баркулабаўскай і Шупеньскай валасцей: грошаў — 50 коп, збожжа — 500 мер, ялавіц — паўтараста, кабаноў — 50, свінога сала — 100, прэснага мёду — 60 пудоў, масла — 10 пудоў, курэй — 500, сена — трыста вазоў.

У 1603 годзе Іван Куцка ў месцы Магілёве здаў гетманства, паколькі ў войску пачаліся свавольствы: хто што хоча — тое робіць. Ад яго каралеўскай міласці і паноў-рады прыязджаў камісар. Ён нагадваў і грозіў казакам, каб аніякага гвалту ў месце і па вёсках не чынілі. Адзін месціч прынёс да таго камісара на руках сваю шасцігадовую дзяўчынку — ледзьве жывую, згвалтаваную і змардаваную. Было горка і страшна глядзець. Усе людзі плакалі, маліліся Стваральніку, каб тых свавольнікаў пакараў вечнымі пакутамі.

## Цар Ілжэдзімітрый І

У 1605 годзе, у краі Нізовым, а дакладней, пры двары князёў Вішнявецкіх, знайшоўся нейкі «царэвіч» — Дзімітр Іванавіч. Будучы пры двары іх міласцяў радных паноў, ён сабраў вялізнае войска з нізоўскага люду і запарожскіх казакаў, а таксама мноства праваслаўнага люду. З імі пайшоў на маскоўскі горад Старадуб і ўзяў яго.

Лісты па ўсёй маскве разаслаў, называючы сябе царом маскоўскім — Дзімітрам Іванавічам, якога Гадун хацеў падлеткам звесці са свету. Паведамляў, што замест яго было забіта іншае малое дзіцятка, а ён таемна быў вывезены на Украіну і выратаваны.

Цяжка апісаць падрабязна жыццё і пакуты таго Дзімітра Іванавіча, яго быццё, звычаі і ўчынкі, дзіўныя і жаласлівыя прыгоды. Яго гісторыя дэталёва перададзена ў іншых летапісцаў.

Праз нейкі час той Дзімітр Іванавіч, узяўшы Старадуб і Маскву, з царства свайго маскоўскага Гадуна сагнаў і сам сеў. Куды Гадун падзеўся — невядома.

Масква пазнала Дзімітра Іванавіча па даўніх царскіх знаках, і ён быў каранаваны на царскі маскоўскі пасад замест бацькі свайго Івана. Але, хоць і каранавалі яго, маскоўскія баяры не не мелі

між сабой добрай і супольнай згоды. Адна масква прымала яго за цара, а другая — не прымала. Паміж імі паўсталі вялікая нязгода і моцныя сваркі. І дужа дзіўныя рэчы пра «цара» шапталі. Хітра, мудра, скрытна, цішком раіліся, аб чым ніжэй пачуеце.

1606 год, з ласкі Божай, быў удалы, ва ўсім добры. Не такі, як папярэдні, мокры, калі жыта было вельмі кепскім (пра кошты раней пісаў), паводкі былі частыя, сена не хапала для статка. Гэты, з ласкі Божай, быў здаровы для людзей.

У той 1606 год Дзімітр Іванавіч, будучы каранаваным царом на Маскве, не параіўшыся і не папытаўшыся сыноў баярскіх, але толькі у адпаведнасці з сваёй воляй і сваімі планамі, паслаў у Польшчу сватоў і замовіў сабе зацную панну, дачку ваяводы сандамірскага. Тыя паслы ўгаварылі панну і прывезлі яе ў Маскву разам з самім ваяводам сандамірскім. З імі прыбыло мноства добрых і славутых паноў, шляхетных паннаў і паненак.

У той 1606 год згулялі вяселле ў Маскве, на якім прысутнічала мноства літвы, русі, палякаў і валынцаў, каля сямі тысяч выбранцаў, апранутых у дарагія шаты, у золаце і срэбры, у дарагіх камянях і жэмчугу. Розум чалавечы не можа ахапіць той роскашы!

Праз некалькі дзён або тыдняў масква, сабраўшыся і змовіўшыся місобку, уначы грозна ўдарыла на палац самога цара. Яны атакавалі Дзімітра Іванавіча і ўвесь почат яго — літву, русь, палякаў і пана сандамірскага. Тады забілі мноства людзей з почату Дзімітра Іванавіча — зацных паноў, люду служылага рыцарскага, прывабных паннаў і паненак. Апошніх так моцна сільнічалі і ганьбілі, як толькі магла дазволіць іх злая фантазія.

Дзе падзеўся сам цар Дзімітр Іванавіч — невядома. Адны распавядалі, ён — забіты. Іншыя — жывы ўцёк. Самога ваяводу сандамірскага і дачку яго не згубілі, а пасадзілі ў вязніцу. А з тых паноў, якіх не забілі, садралі дарагія шаты, забралі іх зброю, голых ды босых — выгналі за мяжу.

Гэта была адплата ім за літоўскі здзек і польскае насмяянне. Бо цар Дзімітр збудаваў дзеля волі жонкі сваёй касцёл у Маскве, а праваслаўныя цэрквы ганьбілі, папоў маскоўскіх зневажалі, абражалі іх. Масква ўспрыняла іх учынкі як вялікую крыўду і знявагу, не пажадала мець веры ляхавіцянскай у царстве сваім. Таму іх пабілі, памардавалі і з царства свайго Маскоўскага прэч выгналі. А сабе на царства царом памазалі Шуйскага.

## Цар Ілжэдзімітрый II

У 1607 годзе, у маі месяцы, пасля сёмай суботы, ішоў з Шклова і з Магілёва на Папову гару якісь Дзімітр Іванавіч. Тытулаваў сябе маскоўскім царом, які раней Маскву заваяваў і там ажаніўся.

Гэта быў Дзімітр Нагі, які раней працаваў у шклоўскага папа — дзетак грамаце навучаў, школку трымаў. Пазней ён пайшоў у Магілёў. Там, у святара Фёдара Сасіновіча, нікольскага, у вёсцы таксама дзетак навучаў. Дзімітр Нагі меў гасподу ў Магілёве, у Цярошкі, які заведваў праскурай пры царкве святога Міколы. Апранаўся надта бедна: кажух кепскі, шлык барановы. У тым і летам хадзіў.

А калі пачалі былі пазнаваць таго Дзімітра Нагага, ён ужо аж да Прапойска дайшоў, да вёскі Аніскoвіча Сідаровіча. Там, у Прапойску, яго злавілі. Нейкі час у вязніцы сядзеў. А потым, пан Рагоза, ураднік чачэрскі, паводле загада пана свайго, яго міласці Зяновіча, старасты чачэрскага, выпусціў таго Дзімітра Іванавіча на Папову Гару — за мяжу маскоўскую. Суправаджалі яго да мяжы слугі Зяновіча.

Калі прыбыў да Паповай Гары, там масква, па царскіх знаках і па лістах, якія ён рассылаў па замках, калі ўцякаў з Масквы, прызнала яго. Праз усе знакі пазналі яго — сапраўднага ўсходняга цара Дзімітра Іванавіча, яснае сонейка. Тут жа пачалі радавацца. У шаты і каштоўнае адзенне апранулі яго.

Потым семсот коннікаў пад яго ўладу прыбыло.

Дзімітр Іванавіч пачаў лісты пісаць да Магілёва, Оршы, Мсціслаўля, Крычава, Менска, украінскіх замкаў, каб людзі рыцарскага стану прыязджалі да яго і за добрыя грошы наймаліся на службу.

Неўзабаве ўяўны маскоўскі цар Дзімітр Нагі, узяў маскоўскі замак Старадуб.

Да яго пацягнуўся люд гуллівы, свавольны, накшталт самога Дзімітра і яго малайцоў. Прыйшоў да яго якісь найміт з Мсціслаўля.

На той час царом у Маскве быў князь Андрэй Шуйскі.

Сабраўшы вялікае войска, Дзмітраш пачаў вайну з масквою і з князем Шуйскім.

Найбольш значныя маскоўскія баяры і масква прызнавалі яго за сапраўднага цара. Але многія ў Маскве, якія добра ведалі папярэдняга цара Дзімітра Іванавіча, абвесцілі яго злодзеем і называлі яго — круцель. Масква напісала пра Дзімітра Нагага — цар-злодзей, Грыша Атрэпіч, растрыга.

Раптам аб'явіўся новы цар на Маскве, імем Нядзведка. Але той Нядзведка з шматлікім людам здаўся цару Андрэю Шуйскаму.

Неўзабаве пад уладу цара Дзімітрыя пачалі прыбываць вялікія і моцныя войскі. Адсюль з Літвы — Руцкі з ротаю, Лісоўскі, Вялемаўскі, Сапега і іншых шмат. А з Нізу шматлюдныя роты: князь Вішнявецкі з ротаю і князь Ружынскі з ротаю. Таксама валынскія і падольскія зацныя паны з ротамі падйшлі. З Польшчы — пан Стадніцкі з вялікімі ротамі.

На Маскве ў той час Бог ведае што дзеелася. Месты і замкі былі зруйнаваныя. Пад сталіцай усё лета стаялі, шматкроць штурмавалі, але не ўзялі.

Шматлікія купцы неслі ў Маскву гарэлку, чым вялізную шкоду чынілі, хоць і купцы.

Усе жаўнеры і купцы, якія былі там на Маскве, неверагодныя рэчы пра цара Дзімітра распавядаюць: вельмі дзіўна сябе ў войску паводзіць, уначы не спіць, а толькі апранаецца ў прыгожыя сукні.



# АФАНАСІЙ ФІЛІПОВІЧ

*(каля 1597 — 1648)*

У беларускай літаратуры XVII ст. ключавое месца займае постаць Афанасія Філіповіча — аўтара знакамітага «Дыярыуша, або Апісання праўдзівых падзей». Сярод гісторыкаў літаратуры, аднак, дагэтуль няма адзінства ў ацэнках ягоных поглядаў, грамадска-царкоўнай дзейнасці і мастацкай творчасці.

А. Філіповіч — неардынарная асоба, унікальны майстар мастацкага слова, чалавек рэдкага пісьменніцкага таленту нарадзіўся каля 1597 г. на Берасцейшчыне, у сям'і рамесніка. Здабыў добрую адукацыю. Некалькі год працаваў хатнім настаўнікам. Каля 1620 г. служыў пры двары канцлера Льва Сапегі, дзе навучаў «маскоўскага царэвіча» Яна Фаўстына Лубу. У 1627 г. А. Філіповіч пастрыгся ў манахі Віленскага Святадухаўскага манастыра. З 1633 г. ён займаў духоўную пасаду намесніка ігумена Дубойскага манастыра (блізу Пінска).

У 1636 г., пасля перадачы Дубойскага манастыра езуітам, А. Філіповіч пераходзіць у Купяціцкі манастыр, адкуль восенню 1637 г. адпраўляецца ў Маскву з мэтай атрымання аўдыенцыі ў цара Аляксея Фёдаравіча. Падарожжа ў Маскву пісьменнік падрабязна занатаваў у «Дыярыушы, або Апісанні праўдзівых падзей». У 1640 г. А. Філіповіча абіраюць ігуменам Берасцейскага Сімяонаўскага манастыра, што дало яму пэўны статус, права весці змаганне за ўмацаванне Праваслаўнай Царквы. Ён неаднаразова спрабуе выступіць на Вальных Соймах, але ягоныя скрайнія паводзіны і экстраардынарныя спосабы прыцягнення ўвагі да праблемаў праваслаўнай канфесіі выклікаюць абурэнне шляхты. У выніку ён неаднаразова трапляе за краты, а затым — у высылку ў Кіеў пад нагляд мітрапаліта Пятра Магілы, адкуль вярнуўся ў Берасце ў 1647 г. Аднак свабода была непрацяглай. У 1648 г. па абвінавачанні ў супрацоўніцтве з Багданам Хмяльніцкім, нібыта за пасыланне яму «нейкіх лістоў і пораху», А. Філіповіч быў растраляны. Апошнія месяцы і дні жыцця пісьменніка занатаваныя ў «Аповесці пра пакуты і смерць айца Афанасія Філіповіча», створанай невядомым берасцейскім манахам.

З творчай спадчыны А. Філіповіча да нашага часу дайшоў «Дыярыуш, або Апісанне праўдзівых падзей». Як паказвае яго ўважлівае даследаванне, гэта не адзін твор, а, па сутнасці, збор твораў пісьменніка,

аб’яднаных агульным тытулам. Першай у зборніку змешчана «Гісторыя маскоўская пра абраз Прасвятой Багародзіцы», якая ў жанравых адносінах з’яўляецца цалкам эпічным творам. Другі найважнейшы твор, што мае назоў: «Навіны, або Супліка да караля і Сената на сойме 1645 года» — утрымлівае эпічныя і публіцыстычныя кампаненты. Астатнія творы, сярод якіх: «Супліка да караля і Сената на Варшаўскім сойме 1643 года», «Парада побажная, імем Ісуса Хрыста, адкупіцеля нашага, каралю польскаму Уладзіславу Чацвёртаму, пану, пану мне міласціваму», «Прыгатаванне на суд», «Прычыны ўчынку майго ў царкве святой Кіева-Пячорскай Цудатворнай на ўсталяванне ганаровага крыжа, 1646 года» — пераважна публіцыстычныя паводле зместу і характару выкладу матэрыялу. Кожны з твораў цалкам самастойны ў жанравых і мастацка-кампазіцыйных адносінах.

Зборнік не быў апублікаваны пры жыцці аўтара і захаваўся ў двух спісах. Адзін з іх захоўваецца ў Маскве ў Дзяржаўным Гістарычным Музеі (Сінадальны збор. № 856. Арк. 148 адв. — 179. З іх аркушы 174 адв. і 175 — чыстыя). Другі спіс захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў Дзяржаўнай публічнай б-цы імя Салтыкова-Шчадрына (Q. XVII. 220. Арк. 100—185 адв.).

Найбольш ярка літаратурны талент А. Філіповіча як *пісьменніка-эпіка* выявіўся ў «Гісторыі маскоўскай пра абраз Прасвятой Багародзіцы». Яна напісана ўвесну 1638 г., падчас знаходжання аўтара ў Маскве, аб чым ён пазней паведаміў у «Навінах».

Творчая спадчына А.Філіповіча мае вялікую мастацкую каштоўнасць у аспекце *вобразатворчасці*. Пісьменнік стварыў каларытныя вобразы вядомых дзяржаўных і царкоўных дзеячаў таго часу, прапанаваў новую мастацкую канцэпцыю чалавека. Эпічныя творы А. Філіповіча адкрыта аўтабіяграфічныя, галоўны герой якіх — сам аўтар.

Сярод персанажаў твораў А. Філіповіча — рэальныя гістарычныя асобы, людзі блізкага яму асяроддзя: святары, урадоўцы, шляхта — І. Пацей, Л. Сапега, М. Сматрыцкі, К. Саковіч, Л. Карповіч, Я. Бабрыковіч, М. Крапіўніцкі, Л. Дрэвінскі, П. Магіла, С. Косаў, а таксама манархі — Жыгімонт Трэці, Уладзіслаў Чацвёрты. У творах пісьменніка з’яўляюцца безыменныя героі — Нявеста, Маладзіца, Старац, Хворы.

З гістарычных персанажаў найбольш каларытна А.Філіповіч падае вобраз уніяцкага мітрапаліта І. Пацея. Ён паўстае перад чытачом як выключна карыслівая і здрадлівая асоба. Дзеля ўласнай кар’еры, заняцця сенатарскага крэсла, высокіх ганарараў Пацей выйшаў з падпарадкавання канстанцінопальскім патрыярхам. Ён жорстка пераследуе сваіх праваслаўных братоў — «лупіць, тузае, скрабе, рознымі спосабамі мардуе», цынічна закрывае, дазвання нішчыць і руйнуе бажніцы, беспадстаўна забараняе набажэнствы, дэспатычна пераследуе тых, хто выяўляе нязгоду і самастойнасць думкі. І. Пацей малюецца як найвялікшы інтрыган, які ўпотай, кулуарна праводзіць у жыццё свае няправідныя задумы.

Аўтар шырока выкарыстоўваў класічны шлях раскрыцця персанажаў — праз іхныя ўчынкі. Адным з першых у беларускай літаратуры А. Філіповіч ужыў прыгодніцкі спосаб абмалёўкі персанажа, калі рысы героя раскрываюцца ў надзвычайных, неверагодна складаных сітуацыях. Найбольш выразная праява дэтэктыўна-прыгодніцкіх элементаў — містычныя эпізоды.

У эпічных творах А. Філіповіча змяшчэнне акцэнта ад падзейнасці і сюжэтнага дынамізму ў бок псіхалагізму адбываецца з дапамогай *маналогаў*. Яны сведчаць пра павышаную ўвагу пісьменніка менавіта да чалавека, яго ўнутранага самавыяўлення. Маналогі з'яўляюцца творчым увасабленнем рэфлекторнага тыпу адлюстравання героя. Паводле зместу — гэта аўтарскія малітвы або жанрава вельмі блізкія да малітваў. Прамаўляюцца яны часцей за ўсё ў момант адчаю.

Выключную ролю для ўвасаблення аўтарскай задумы і раскрыцця пакутаў героя адыгрывалі *дыялогі*. Дыялагічная форма дазваляла аўтару напоўніцу асвятліць рысы характару героя, яго светаразуменне, шкалу каштоўнасцяў, валявыя якасці, прынцыпы дачыненнняў з зямнымі і нябеснымі сіламі. У творах А. Філіповіча кожны з дыялогаў выконвае важную мастацкую функцыю, працуе на раскрыццё персанажа. А. Філіповіч адным з першых у беларускай літаратуры скарыстаў для раскрыцця характару пейзаж.

Асаблівае месца ў творах пісьменніка займаюць сцэны *цудаў*, якіх ў творах А. Філіповіча налічваецца звыш пяці. Паводле семантыка-тыпалагічнага крытэрыя яны распадаюцца на тры віды: цудадзейны голас, прамоўлены абразом Божай Маці да героя; з'яўленне прывіда і яго дапамога герою; цуд, які чыніць непасрэдна персанаж з дапамогай нябесных сіл.

У творчым метадзе А. Філіповіча ключавую ролю адыгрывала *прасторава-часавая* складовая. Час і прастора ў творах пісьменніка — галоўныя ўнутраныя рухавікі сюжэта, яны энергетычныя крыніцы, да якіх аўтар звяртаўся кожны раз, калі перад ім паўставала патрэба зрабіць чарговы кампазіцыйны пераход, новы сюжэтны паварот.

Выключнае месца ў арганізацыі тэкста належала мастацкай прасторы. Мастацкімі прасторавымі арыенцірамі ў творах А. Філіповіча выступалі краіны і гістарычныя вобласці — Літва, Белая Русь, Карона Польская, Каралеўства Польскае. У якасці прасторавых арыенціраў аўтарам выкарыстоўваліся паселішчы, гарады, мястэчкі, вёскі — Вільня, Шклоў, Магілёў, Копысь, Берасце, Кобрын, Купяцічы, Мазыр, Орша, Сокаль, Пінск, Бельск, Куцеін і іншыя. У прыватнасці, гарады Копысь, Шклоў, Магілёў, Галоўчын фігуруюць як кропкі геаграфічнага маршруту аўтара ў часе збору ялмужны.

Важным элементам мастацкай прасторы выступалі вадаёмы — рэкі, азёры. Так, пры ўзнаўленні адваротнага шляху з Масквы пісьменнік прыгадваў водны шлях падарожнікаў на чаўне па Дняпры. Мастацкая прастора ў эпічных творах А. Філіповіча арганізоўвалася прывязкамі

да прыродных ландшафтаў — лугоў, палёў, лясоў, пушчаў, урочышчаў, дуброваў. У асобных выпадках арыенцірамі для аўтара служылі знакамітыя збудаванні — бажніцы, манастыры, замкі. У творах пісьменніка з мэтай прасторавай арыентацыі фігуруюць: Куцеінскі манастыр, Чоўскі манастыр, Свенскі манастыр, Бранскі манастыр, храм Святога Афанасія.

У творах А. Філіповіча вельмі значны *палемічны* струмень. Пісьменнік выкарыстоўвае разнастайныя аргументы: юрыдычна-прававыя — вытрымкі з прывілеяў 1569 і 1573 гг.; схаластычныя — спасылкі на аўтарытэты — Метафраста, Хрызастома, Альфонсэ дэ Кастра і гістарычныя — падзеі Сусветных сабораў, у прыватнасці, 1 Нікейскага і Фларэнційскага.

Уласна літаратурная тэхніка А. Філіповіча вельмі развітая, асабліва на ўзроўні стылёвых *мікраэлементаў* — тропаў і фігур. Творы А. Філіповіча багатыя на метафары. Метафара «балота» выкарыстоўвалася як сімвал бруду, нечыстотаў, страчанага сумлення, адступлення ад маральных прынцыпаў. Вобраз «охмістра» А. Філіповіч ужываў у агульным значэнні кіраўніка, галавы. Вобраз «шаляў» у метафарычным значэнні выкарыстоўваў у звароце да манарха. Для А. Філіповіча «шалі» — гэта сімвал разважлівасці і справядлівасці найвышэйшага валадара. У якасці асновы для метафарызацыі пісьменнік ужываў вобраз «крыніцы» («жродла»). Яна сімвалізавала глыбіню пачуццяў і чысціню памкненняў, якія аўтар дакляраваў у звароце да Уладзіслава Чацвёртага.

А. Філіповіч выкарыстоўваў параўнанні. Ён параўноўваў свае шырокія прававыя паўнамоцтвы, як дэпутата сойма, з удачай іграка, якому трапілі добрыя карты. Пісьменнік звяртаўся да алегорыі, калі распавядаў пра ўласныя цяжкія пакуты, якія ён трываў за свае перакананні. А. Філіповіч выкарыстоўваў у сваёй творчасці багаты фонд беларускіх народных прымавак, прыказак і выслоўяў. Так, пісьменнік сінтэзуе, спалучае прымаўку: «Упадзе нечакана, як сетка на птушак» і выслоўе: «Прыйдзе неспадзявана, як злодзей», а затым у апрацаваным выглядзе ўжывае іх як пагрозу на адрас адступікаў ад Праваслаўнай Царквы: «Яко сеть на птахи и якъ злодій, прійде несподиване».

А. Філіповіч выявіў сябе як выдатны *мысліцель і аналітык*. Галоўная заслуга яго як мысліцеля і грамадска-царкоўнага дзеяча ў тым, што ён адзін з першых выказаў рэзкі пратэст супраць паланізацыі, а таксама акаталічвання беларускага праваслаўнага насельніцтва. Непрыняцце аўтарам «Дыярыуша, або Апісання праўдзівых падзей» Каталіцкага Касцёла было выклікана найперш той акалічнасцю, што менавіта праз яго тады адбывалася апалячванне шляхты. Паколькі ж у свядомасці А. Філіповіча паняцці веры і радзімы атаясамліваліся, то, натуральна, змаганне за незалежнасць Бацькаўшчыны праявілася ў ягонай творчасці ў выглядзе абароны Праваслаўя. Гэтаму, без сумневу,

паспрыяў і суб'ектыўны фактар: святарская пасада А. Філіповіча ў Праваслаўнай Царкве.

Вельмі небяспечнай для грамадства ён лічыў жорсткасць гаспадароў да сваіх падданых. Пісьменнік абураўся разбэшчанасцю шляхты, асуджаў такі стан рэчаў, калі прага ўзбагачэння, карысліваць станавіліся вызначальнымі стымуламі паводзінаў і ўчынкаў людзей. А. Філіповіч заклікаў да спакою ў гаспадарстве, міру паміж рознымі станамі. Ён раскрытыкаваў дзейнасць урадоўцаў і ў першую чаргу манарха, якія не стварылі спрыяльных умоваў для мірнага суіснавання вернікаў розных канфесіяў.

Паколькі ў першай палове XVII ст. на парадку грамадскага жыцця зноў паўстала пытанне пра форму палітычнай улады ў Вялікім Княстве Літоўскім, то А. Філіповіч не абмінуў магчымасці выказаць свае думкі наконт гэтага. Найлепшай формай кіравання ён назваў абсалютную, спадчынную манархію, выступіў за адначаснае зліквідаванне шматлікіх шляхецкіх прывілеяў і запатрабаваў рэзкага абмежавання ролі Паноў-Рады ў дзяржаўным кіраўніцтве, прапануючы пакінуць за імі толькі дарадчыя функцыі.

На старонках яго твораў выразна прагучалі гуманістычныя ідэі. Матыў абароны чалавечай годнасці, свабоды сумлення, правоў чалавека праходзіць праз усю творчасць пісьменніка. Маральны ўціск, абразы, знявага для А. Філіповіча, «аблаянага, апляванага, асмеянага і абвінавачанага», страшнейшыя, чым фізічныя пакуты.

Адно з ключавых яго патрабаванняў — неабходнасць вольнасцяў — канфесійных і сацыяльных, адсутнасць якіх прыводзіць да грамадскага крызісу, заняпаду, здзічэння. А. Філіповіч даў трапную характарыстыку няспыннай міжканфесійнай барацьбе, што не сціхала ў Вялікім Княстве Літоўскім з моманту падпісання Берасцейскай уніі 1596 г.

Выдатны праваслаўны публіцыст належаў да ліку тых пісьменнікаў Вялікага Княства Літоўскага, якія ў сваёй творчасці і грамадскай дзейнасці арыентаваліся на Маскву. У «Дыярыушы, або Апісанні праўдзівых падзей» пісьменнік закрануў ключавыя праблемы ўсходняй палітыкі Вялікага Княства Літоўскага. А. Філіповіч шукаў абароны ў маскоўскага цара, дбаў пра мір з Маскоўскім княствам. Пісьменнік рэзка асуджаў агрэсіўныя войны з аднаго і другога боку, якія прыносілі ўзаемную шкоду і разбурэнні.

*Іван Саверчанка*

# ДЫЯРЫУШ, АБО АПІСАННЕ ПРАЎДЗІВЫХ ПАДЗЕЙ

## Гісторыя маскоўская пра абраз Прасвятой Багародзіцы

Вядома няхай будзе вялікасці тваёй, Міхайле, праваслаўны цар маскоўскі, што Госпад наш Ісус Хрыстос ва ўсім свеце радца, — як мудрэц кажа: «У руках яго і мы, і словы нашыя, мудрасць і мастацтвы, і каранне» (Прамудр. Салам. 7:16) — дзіўнай пранікнёнасцю сваёй, з Літвы, з манастыра Купяціцкага, што за мілю ад Пінска, паслаў мяне з паслушнікам маім да самой царскай вялікасці за ялмужнай для збудавання царквы Узнясення Прачыстай Багародзіцы. У той царкве знаходзіцца малы абраз Маці ў хросным знаку, але вялікі цудамі сваімі. Тыя цуды не час дасканала выпісваць. Толькі коратка пра найважнейшае вымушаны, воляй Божай у Тройцы Святой праваслаўна славімага, распавесці.

Царква тая спачатку збудована была радаю праваслаўных сялян, калі над вёскай з’явіўся абраз Прачыстай Багародзіцы ў хросным знаку. Па спаленні яе татарамі зноў была ўзведзеная на тым самым месцы, дзе ў вогненным полымі праваслаўныя людзі ўбачылі той жа абраз.

У той час, калі блаславеннем Божым князю Яраславу былі даручаныя Тураўскае і Пінскае княствы, разам з местамі і мястэчкамі, Ісус Хрыстос уславіў тую царкву Маткі сваёй. Убачыўшы гэта, князь Яраслаў забяспечыў усе патрэбы царквы і тых, хто знаходзіўся пры ёй.

Фёдар Яраслававіч з жонкаю сваёй Аленаю Алелькавічоўнай не мелі спадчыннікаў, таму месты і вёскі княства перайшлі да Польскага каралеўства, і раздзялілася княства на ваяводствы і паветы.

Па нейкім часе вёску Купяціцкую з царквою Прачыстае Багародзіцы кароль польскі падараваў у вечнае карыстанне свайму мужнаму жаўнеру на імя Грыгорый Война.

Пасля яго розныя ўладальнікі той вёскі і царквы былі, і яна прыйшла да заняпаду.

Урэшце, воляй Божай року 1628, зрушаная Духам Святым пані Палонія Валовічаўна-Сокалавая Войніная, кашталянка берасцейская, з сынам сваім панам Васілём Копцем, кашталянам наваградскім, клопат пра царкву ўчынілі — купілі вёску Купяціцкую з ўсёй яе ваколіцай і ўфундавалі пры царкве мана-

стыр законнікаў чыну св. Васіля Вялікага. Ігуменам, паводле парады побажнага Іосіфа Бабрыковіча з Вільні, узялі Іларыёна Дзенісовіча, які паклікаў за сабой больш трыццаці манахаў і з тымі братамі ў паслушэнстве Хрыстовым працуе.

Даведаўшыся аб тым, святаблівы муж, яго міласць айцец Пётр Магіла, праваслаўны мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсёй Русі, экзарх святога апостальскага трона Канстанцінопальскага, даручыў Іларыёну Дзенісовічу духоўную працу ў месцы Пінску і пры цэрквах сваіх, — на той час ад уніятаў за ласкаю Божай адабраных, а перад тым у вялікім праследванні там былі праваслаўныя ад уніятаў.

Неўзабаве, у 1636 годзе, той жа святаблівы муж кір Пётр Магіла даслаў Іларыёну Дзенісовічу ліст з загадам сабраць ялмужны ў месцы Пінску і павеце на рамонт Святой Сафіі, кафедральнай кіеўскай бажніцы. І калі ўжо ў траўні 1637 года запрошаныя грошы былі адасланыя, мітрапаліт даведаўся ад пасланца спадара айца Макарыя Такарэўскага пра цудатворную царкву ў Купяцічах, якая знаходзілася ў занядбаным стане, і параіў: «Добра было б тыя грошы на царкву тамашнюю скарыстаць, але раз ужо прывезлі, то сродкі і тут дужа патрэбныя. Але даю вам ліст універсальны, каб вы праз ялмужну адрэстаўравалі яе». І калі прывезлі ліст да манастыра з дазволам на збор ялмужны для адбудовы царквы, побажны ігумен Іларыён Дзенісовіч, учыніўшы раду з ўсімі братамі ў Хрысце, у той жабраніны ўсклаў цяжар паслушэнства на мяне, смірэннага Афанасія Філіповіча, свайго намесніка ў манастыры Купяціцкім, ды паслушніка Анісіма Ваўкавіцкага.

О, дзіўныя справы Божыя! У той момант пры трапезе страх неверагодны напаў на мяне. Як здранцвелы сядзеў за сталом. Да келлі маёй даклыпаўшы, зашчаміўся і пачаў Богу Усемагутнаму ахвяравацца ў тым паслушэнстве. Па малой хвілі, калі стаяў на малітве, такі страх мяне ахапіў, што парываўся з келы сваёй уцякчы, але неяк, Божай моцай затрыманы, застаўся, доўга заліваўся слязамі. І раптам, без усякай асобы, пачуў удзячны голас такі:

— Цар маскоўскі збудуе Мне царкву, ідзі да яго!

Ад таго мяне як варам абліло. Зноў пачаў заходзіцца плачам, адчайна разважаючы, — што ж будзе?

У лістападзе 1637 года, калі набліжаўся час майго ад’езду ў тую дарогу, вяртаючыся з ютрані, распавёў пра той голас побажнаму ігумену майму. А ён, адхіліўшыся крыху набок ад сцежкі, вымавіў:

— Браце мілы, куды скіруе цябе Бог Усемагутны і Прачыстая Багародзіца — туды ідзі. А я тут з братамі буду маліцца, каб да

нас здаровым вярнуўся. А пра што ты кажаш, не ведаю, што будзе, бо і ліста ад караля пана нашага на тое няма.

Потым, перад выпраўленнем у дарогу, перахрысціліся з братамі, увайшлі ў прытвор царкоўны і, пакладаючыся ва ўсім на Божую волю, адбілі некалькі паклонаў. Потым зірнулі праз вакенца на абраз цудатворнай Прачыстай Багародзіцы, і здаўся шум дужа страшны ў царкве. Спалоханы, я хацеў быў вобмегам збегчы, але крыху асмеліўся, паўторна глянуў у вакенца, шэпчучы:

— О, Прачыстая Багародзіца, будзь са мною!

І на тое ад абраза цудатворнага Прачыстай Багародзіцы занепакоены голас пачуўся:

— І я з табою іду!

А Неемій дыякан — вобраз малёваны на левым крыласе на ўвесь рост (дыякан гэты пабажны, з маладых гадоў манах, колькі год перад тым спачыў) — нібы заікаючыся, дадаў:

— І я іду, іду з Паннай маёй!

Задумаліся мы і пачалі голасна рыдаць, баючыся, што нас чакае.

Выехалі ў дарогу з манастыра, больш нікому ні пра што не кажучы, зваліўся каптур падшыты з галавы, але мы па яго не вярнуліся.

Калі прыехалі да Слуцка, айцец Шыцік, архімандрыт, разгневаўся дужа на айца нашага ігумена Купяціцкага з тае прычыны, што яму, намесніку мітрапалітаву, не даклаў пра наш візіт на Белую Русь па ялмужну. Загадаў адабраць у нас лісты і трымаў нас праз ўсе святы Нараджэння Хрыстова ў вялікай трывозе. Потым, напалоханы страшным сном, пра які сам казаў, аддаў лісты са словамі:

— Чыню гэта дзеля Прачыстай Багародзіцы, а не для вашага ігумена. Ідзіце з Богам, дзе хочаце.

Адтуль скіраваліся да манастыра Куцеінскага, пад Оршай. Там, дачакаўшыся святаблівага мужа Іаіля Труцэвіча, ігумена тамашняга, паведамілі пра паслушэнства нашае і дагляд Божы. Сказаў ён словамі св. Дамаскіна:

— Перамагаецца натура правіламі аб Дзеве Чыстай.

Аднак пасведчання да Масквы, якога прасілі, параіўшыся з братамі, не пажадаў даваць. Пры гэтым намеснік яго Іосіф Сурта сказаў:

— Спадару ойча Афанасій, цяжка без пашпарта караля пана нашага ісці вам на Смаленск і Дарагабуж, а затым за граніцу, да Масквы. Віленскія манахі, якія ішлі таксама па ялмужну, нават з пашпартам ад караля шмат набедаваліся.

Пачуўшы такое, я змяніў шлях да Масквы, вымаліў у ігумена картак-пасведчанняў да пратапопаў і брацтваў праваслаўных і пайшоў да Копысі, да Шклова, да Магілёва, да Галоўчына. Але нідзе там ялмужны мне не далі, бо выбіралі яе старанна свайму епіскапу, спадару айцу Сільвестру Косаву, на судовую справу з Сялявам, уладыкам полацкім, уніятам.

Затым вярнуўся да манастыра Куцеінскага і паведаміў спадару айцу ігумену пра становішча сваё, пра намер вяртацца дадому, бо не маю мажлівасці ісці да Масквы. Праз нейкі час прыйшоў айцец намеснік Сурта і кажа мне:

— Ойча Афанасій, браце мілы, шкада мне цябе, што не выканаў паслушэнства свайго і вяртаешся дамоў. Раю табе, ідзі на Трубецк да Бранска. Хоць і там цяжкасці будуць, аднак воляй Божай трапіш ў сталіцу маскоўскую.

Запала мне тое на сэрца, і прадсталі мы на радзе. Сказалі аб тым спадару айцу ігумену куцеінскаму, які, бласлаўляючы мяне, пажадаў:

— Няхай будзе воля Божая з табою. — І даў мне ліст, нібыта за сваімі справамі, да князя Пятра Трубяцкога.

Так адправіліся мы ў той шлях з імем Ісуса Хрыста на Прапойск, на Папову Гару, на Старадуб, да Трубецка. І раптам бура ўсчалася. Свету не відаць. Не толькі з абеду да вечара, але і ўсю ноч у замётах блукалі і блудзілі. Ледз-ледзь у плыні Дняпра (мусіць, рагаткамі духоўнага непрыяцеля) не патанулі.

За Прапойскам, як намерыліся спыніцца на начлег ў сяле, думаў, што хамут на санях маіх ляжыць, а гэта быў пёс, які моцна за руку мяне ўеў. А ў тым сяле пажар успыхнуў, ад якога амаль з жыццём не развітаўся.

У Паповай Гары конь уначы забрыў да гасподы. Раніцай, калі я яго шукаў, зайшоў у той двор, дык там траха не забілі.

У Старадубе, на запусты, п'яніцы нас дужа турбавалі. Аднак ад усіх напасцяў Ісус Хрыстос і Прачыстая Багародзіца без шкоды нас захавалі.

У Трубецку малады князь Трубяцкі, называючы сябе стражнікам, пад пагрозай вялікага пакарання забараніў ісці за граніцу да Бранска, папытаўшыся:

— Што я ведаю пра пагромы казацкія? Што збіраюся рабіць?

За адной грамы не вярнуўся быў адтуль назад дадому. Адзінае, наважыўся наведаць манастыр у Чоўску, за паўмілі ад Трубецка. Спускаўся пад гару, ідучы пешшу перад канём, молячыся Госпаду Богу і Прачыстай Багародзіцы, і раптам страх мною апанаваў, аж усклікнуў громкім голасам:

— О, Божа мой і Прачыстая Багародзіца, змілуйся нада мною! Што ж гэта дзеецца!

І здалося мне, нібы паслушнік кажа:

— Навошта просіш людской дапамогі? Ідзі да Масквы, я з табою.

Калі ж наблізіўся паслушнік, спытаў яго, што мне гаварыў. А ён адказвае:

— Нічога табе не казаў. І наагул, трывожуся за вас. Пэўне, дарма валочымся.

Узышлі на высокую гару да манастыра таго Чоўска. Прывіталіся з манахамі. Расказаў я пра свой намер ісці да Масквы па ялмужну. Мне адзін старац і гаворыць няспешліва:

— Не дойдзеш, спадару ойча, бо цяпер час трывожны пагрому казацкага. Але калі ў цябе справа Божая, дык можа ўдасца. Ідзі да Ноўгарад-Северскага, да ваяводы пана Пятра Песячынскага. Шчасце тваё будзе, калі згадзіцца прапусціць, бо тут цяпер памежнікаў безліч.

З таго манастыра прыехалі да сяла Вялікая Зноба, дзе спыніліся на начлег. Там на гасподзе, калі ўсе паснулі, апоўначы напаў на мяне страх невымоўны. Здалося мне, быццам хтосьці гоніцца за мной з немалым войскам, шукае мяне злавіць і крычыць:

— Ёсць, ёсць! Ён тут!.

А калі ўсё спакваля суцішылася, я разбудзіў паціху гаспадара, нічога яму пра свой страх не сказаў, а толькі папрасіў, каб нас тае ж хвіліны вывеў на шлях у бок Ноўгарад-Северскага.

Даехалі да нейкае пушчы. Бядую. Не ведаю, дзе і куды едзем. Пачаў песню акафісную спяваць у гонар Прачыстай Багародзіцы: «узбройнаму ваяводзе пераможная», прыпяваючы: «Алілуйя, алілуйя». На світанні — задрамалася. І зноў страх мяне агарнуў, і з'явілася хмара чырвоная сонечная на ўсходзе. Скінуў я сон з вачэй, і бачу — дзіцятка ў мантыі: сядзіць на кані нашым, у тыл нам глядзіць і дарогу ўказвае. Ды прамаўляе той хлопчык:

— Я Неемій дыякан, суполнік ваш купяціцкі. — І знікае.

А як узышло сонца, убачылі той жа час на небе крыж, а ў ім абраз прачыстае Багародзіцы з Дзіцяткам, накшталт купяціцкага, праменнямі сонечнымі ўтвораны і аздоблены. Доўга глядзеў на яго ашаломлены. Толькі хацеў указаць на той цуд Божы паслушніку майму Анісіму, але ён, ад сну спахапіўшыся, пачаў біць каня і той абраз з неба прапаў. Нічога я не сказаў яму на той момант.

Наблізіліся да вёскі памежнай. Перад поўднем прамінулі памежную варту ноўгарад-северскага ваяводы. Фёдар Драгамір, старэйшы ў той вёсцы, стаяў наўзбоч дарогі зняўшы шапку. А калі я прывітаў яго, сказаў да мяне:

— Што то за пані, ойча? Дзе яна едзе з немалым войскам?.

Не ведаючы што адказаць, я толькі прамовіў:

— Але, але.

І адышоў да саней. Калі я пакідаў тую вёску, вялікая туча людзей — стражаў і простых людзей — выйшла аж у канец вёскі, чакаючы таго поезда.

Рухаліся мы паўз храм Святога Афанасія, які за вёскай у полі стаіць.

Перайшлі воляй Божай за граніцу, да Шэпелева — першай вёскі вашай царскай вялікасці. Тамашнія людзі прынялі нас ласкава, дзівіліся толькі, як мы адолелі мяжу. Маладзіца адна з простага люду вымавіла:

— Сапраўды, сапраўды Багародзіца з імі едзе! То ж дзіва, што стражаў мінулі!

І іншыя людзі здзіўляліся з нашай удачы, уважаючы тое за справу Божую.

Рушылі далей на Маскву. Спаткаў нас у дарозе нейкі чалавек у белай вопратцы. Той запытаў нас пра нешта нязначнае, а затым сказаў:

— Ідзіцё вы з рукавамі долу (бяспечна). Ведаю, да цара па ялмужну накіроўваецеся. І пра большае клапаціцца там пачнеце.

Потым, 10 лютага 1638 года, прыехалі ў горад Сеўск. Спачывалі ў гасцініцы тры дні. Ехаць далей было небяспечна з-за пагромаў запарожскіх казакаў, якіх там было вялікае мноства. Там жа завітаў да нас галава Мікіта Федаровіч з іншымі разрадцамі. Спытаў нас, дзеля якіх патрэбаў прыехалі. Даведаўшыся, што не маем ні ад каго лістоў да вашай царскай вялікасці, зазначыў:

— Немагчымая справа, каб гэтак дайшлі да сталіцы.

Я адказаў:

— Іду паклаўшыся на волю Божую і абраз друкованы на паперы, які вам даю.

Паверылі яны нам. Аднак нічым не пасабіўшы, адышлі.

Потым напісалі да ваяводы, просячы аб яго ласцы. Ён разгневаўся, бо быў не ваяводам, а толькі намеснікам. Убачыўшы, як мы прагінаемся, загадаў нас выгнаць.

Выгналі нас на Пуціўлеўскі гасцінец. Прыехалі да вёскі Курганоў. Там напаў на мяне страх Божы, каб я зноў павярнуў да Масквы.

Затым накіраваўся я да манастыра Успення Прачыстай Багародзіцы, што пад Бранскам.

Ехалі праз Пагрэбы, вёску баярскую, непадалёк Сеўска. Як мінулі тое паселішча, раптоўна ў дуброве, пры захадзе сонца, вельмі вялікая хмара агарнула мяне з паслушнікам. Аж узвыў паслушнік:

— Што гэта, Божа!

Зніякавеў і ўвесь закалаціўся. Я, захоплены здарэннем, пачуў такі выразны голас:

— О, Афанасій! Ідзі да цара Міхаіла і скажы яму: знішчы ворагаў нашых, бо ўжо час прыйшоў. Уздымі дзеля міласэрнасці абраз Купяціцкі на харугвах сваіх. І ў бітве той захавай здаровым кожнага чалавека, які называе сябе праваслаўным!

Ад такога страху — заблудзіліся.

Позна ноччу прыблукалі да вёскі Крыўцова, якая ляжала за пяць вёрст ад Сеўска. Там папрасіліся да хрысціяніна на начлег. Убачылі ў яго сына вельмі хворага. Я сеў каля яго і ўзмаліўся: «Уладыка чалавекалюбча, Госпадзе Ісусе Хрысце, Божа мой! Будзь міласцівы да мяне грэшніка! Пакажы тыя тайны, якія чуў і бачыў пачуццямі маімі! Сапраўдныя яны ці не? Не спакушаю цябе, Стваральніка майго. Але, калі будзе воля твая, прашу цябе я, раб твой, праз тваё дабрадзейства, вылечы гэтага нямоглага чалавека».

Назаўтра раніцай прыйшоў з другой хаты бацька хворага сына і звярнуўся да мяне:

— Старча вялікі! Калі ты святар, памаліся Богу за майго сына, каб паправіўся.

Я тады з паслушнікам маім падрыхтаваў годны столік, каб адправіць малебен. Асвяціў яго абразом Купяціцкай Прачыстай Багародзіцы, папяровай выявай на крыжы, што выдадзена была ў Кіеве.

О, дзіўныя справы Божыя! Нібы ад сну абуджаны, устаў хворы і ўсклікнуў:

— Адкуль тут прыйшла надзея мая, Багародзіца, лячыць мяне! — І адразу стаў, укленчыў Богу і служыў ля стала. Уражаныя людзі з радасцю і страхам дзівіліся таму. Бацька яго, вельмі стары чалавек, частаваў нас як мог, даў ялмужну святую і праводзіў нас на Бранскі гасцінец, раячы, каб ехалі да сталіцы, што мне глыбока на сэрца запала.

Як толькі нас пакінуў той чалавек, вялікі клопат прычыніў мне мой паслушнік Анісім, парываючыся ўцячы ад мяне. Ён лямантаваў:

— Вернемся да Літвы! Бо згінем тут! Дзеля чаго такія беды трываем і на такую небяспеку дабравольна аддаемся? Намерыўся быць ў сталіцы маскоўскай? — Ніколі не будзеш, не будзеш!

І яшчэ больш злыя словы, мусіць, злым духам натхнёны, з гневу вымавіў. Я шэптам малітву да Госпада Бога і Прачыстай Багародзіцы ўчыніў. Потым ціхенька папрасіў яго:

— Браце мілы, пабойся Бога. Сам чуў і бачыў нямала спраў Божых, якія з намі дзеяліся. Чаму ж гэтак неабачліва робіш?

І ўказаў яму пра няспынны нагляд Божы за намі. Напрыканцы дадаў:

— Нам дапамагае Прачыстая Багародзіца, паводле абяцання свайго. І анёл, якога сваімі вачыма бачыў у вобразе Неемії, дыякана купяціцкага, на тым та і тым месцы — праваднік наш.

Ён выслухаў і папрасіў прабачэння. І з таго часу ехалі далей у поўнай згодзе між сабою.

У вёсцы Брасава пераначавалі. Раніцай даведаліся шлях да манастыра Свенскага, што пад Бранскам. Нібы воляй Божай заблудзіліся і выехалі да мястэчка Лясок.

Потым падаліся да Крычава, дзе манастыр Уваскрэшання з мёртвых Ісуса Хрыста. Там Афанасій Федаровіч, шчыры ігумен, ласкава прыняў нас. Ён параіў ісці да карачоўскага ваяводы Пятра Ігнатовіча, паважанага чалавека, распавесці яму пра сябе ды папрасіць даверчы ліст да тваёй вялікасці.

Той ваявода выслухаў нашу просьбу і адказаў:

— Дзіўныя справы Божыя! Я пра іх шмат спрачацца не хачу. Кожнай Божай справе я веру шчырым сэрцам! — Даў нам ліст і праваднiка да самой сталіцы, імем Філона Пушкара. З ім ехалі на Болхава, на Белева, на Калугу і на іншыя месцы да сталіцы маскоўскай. Урэшце, за воляй Божай, спрыяннем Прачыстай Багародзіцы і добрага анёла ў асобе Неемії, дыякана купяціцкага, якому адкрытым сэрцам верую, да вашай царскай вялікасці дабраліся.

* * *

Пакінулі сталіцу маскоўскую на тыдні кветным, падчас крыгаходу. Дзіўным чынам пераадолелі рэчкі, праехалі Мажайск, Вязьму, прыехалі да Дарагабужа. Аддтуль у разводдзе цудадзейна чаўном па Дняпры на Смаленск, да Оршы і да Магілёва спусціліся. З Магілёва 16 чэрвеня 1638 года возам выехалі на Менск і Вільню. З Вільні да манастыра свайго Купяціцкага прыбылі 16 ліпеня 1638 года.

## Супліка да караля і Сената на Варшаўскім сойме 1643 года

Для таго найяснейшы пан мой міласцівы, каролю польскі, той цуд Божы вашаму маястату пакладаецца, каб унія праклятая была знішчаная на вякі. Яна шмат разоў клятая, што правам слушна даводзіцца.

О, бяда, бяда тым, якія праклятыя сваім уласным айцом духоўным!

Зрабі ласку, вашая каралеўская міласць, дзеля адпрыроднай даброці вашай і прысягі вашай каралеўскай міласці, на тое звярнуць увагу, каб вера праўдзівая Грэцкая грунтоўна была супакоеная, а унія праклятая — вынішчаная і дарэшты адкінутая. Калі унію праклятую выкараніце, а Усходнюю праўдзівую царкву супакоіце, дык шчасліва ваш век пражывеце. Калі ж не супакоіце веры праўдзівай Грэцкай і не ачысціце ад уніі праклятай, дык напэўна спазнаеце гнеў Божы.

Ужо вагі несправядлівасці да самага цэнтра прыпалі, ужо злосць людская і пыха аж з берагоў выйшлі! Духоўныя сілы прававерных людзей затлелі і змізарнелі. Акурат у такія моманты прыходзіць Божая дапамога. Той абраз Прачыстае Багародзіцы, у крыжы намалёваны — труба і знак, папярэджанне страшнага суда Божага, які бясспрэчна наступіць, паводле Евангелля святога. Блаславёныя будуць вылучаныя, пасланыя да Царства Нябеснага, а праклятых Госпад кіне (ах, бяда!) да Пекла на вечныя пакуты.

Ведаю, будзе нейкі, больш няверны, чымся закамянелы Фараон, які пачне супрацівіцца такой засцярозе. Спадзяюся, аднак, што будзе і Аўрам, верны Богу, Стваральніку свайму, які паверыць прадказанню. Усё ў чалавечай волі. Выбірай сабе, што хочаш, покі час маеш. Тыя абедзве часткі з веры. Вера табе.

* * *

Пасля такога ўчынку майго на Сойме ў караля яго міласці польскага старэйшыя айцы абвінавацілі мяне, нібыта я сам усё прыдумаў, а не з волі Божай усё здарылася. Да сканчэння Сойма ў вязніцы трымалі мяне. Потым, ад’язджаючы з Варшавы, выслалі мяне ў Кіеў.

## Навіны, або Супліка да караля і Сената на Сойме 1645 года

Найяснейшы па Ісусе Хрысце, каролю польскі, пане, пане і дабрадзею мой вельмі міласцівы! Як верны падданы вашае каралеўскае міласці, пана і пана мне міласцівага, я, убогі законнік чыну св. Васіля Вялікага так паведамляю вашай каралеўскай міласці, пану мне міласціваму, і ўсім станам вышэйшым, сярэднім і ніжэйшым аб тым, што дужа-дужа хацеў і рыхтаваўся аргументавана давесці і паказаць, справаю Духа Святога (таму шчырым сэрцам верую), на Вальным Сойме цяперашняга 1645 года. Каб засцерагчы ўсё Хрысціянства на схіле веку, у чым воля Творцы нашага ёсць. Напісаў колькі дзесяткаў аркушаў у касцёле Варшаўскім, маючы намер у прысутнасці вашай каралеўскай міласці, як у найбольш спакойны час, падаць іх розным асобам і сенатарам ды абвесціць. Не праз сябе, але праз тую моц, якую дае мне Ісус Хрыстос.

Дзіўныя, аднак, справы Бога — у Тройцы святой праваслаўна славімага і Прачыстай Багародзіцы — хадатайкі, дабрачынкі і патронкі нашай. За колькі тыдняў да таго Сойма мяне нечакана схапілі, пасадзілі ў вязніцу і закавалі ў кайданы, прыцягваючы па справе Дзімітравіча, царэвіча маскоўскага. Як слепанароджаныя вадзілі мяне ад суда да суда, шукалі тлумачэнняў у той вялікай, страшнай, паважнай і святаблівай справе.

Воляй Божай і дапамогай Прачыстай Багародзіцы выконваю сваю павіннасць — сцішаным сэрцам, як прававерны слуга Божы, падзякаваўшы Творцу майму, — пра волю Божую прасвятую і пра сябе нэндзнага тлумачу такім парадкам.

Я, гаротны Афанасій Філіповіч, з дзяцінства, з першых разумных крокаў, ласкаю Божай і малітвамі Прачыстай Багародзіцы ў веры праваслаўнай і царкве праўдзівай Усходняй заўсёды быў. Пасля навук царкоўна-праваслаўных служыў на розных месцах. У нябожчыка пана Сапегі, гетмана, служыў сем гадоў за інспектара Дзімітравічу, якомусь царэвічу маскоўскаму. Той з дазволу караля Жыгімонта Трэцяга знаходзіўся ў ягонай апецы. Там прыйшоў да ўсведамлення марнасці гэтага свету і стаў у 1627 годзе манахам, рукапакладзены спадаром айцом годнай памяці Іосіфам Бабрыковічам у Вільні пры царкве праваслаўнай Святога Духа. Як паслушнік быў у манастыры Куцеінскім пад Оршаю і ў Межыгорскім пад Кіевам. Доўгі час засвойваў волю Божую і навучаўся манаскаму жыццю. Аднак бывае і ў законнікаў перамена.

Калі скончыўся час майго паслушэнства ў Межыгор'і, перад ад'ездам, святой памяці годны муж айцец Каментарый, на той час ігумен межыгорскі, у прысутнасці айца Самуіла Барэцкага, сказаў мне на карысць такія словы:

— Браце Афанасій, чарнец манастыра Межыгорскага, запомні тры абавязковыя рэчы: першая — будзь заўсёды паслухмяны старэйшым; другая — пільнуйся царкоўных правілаў; трэцяя — размоваў жаночых сцеражыся. Калі выканаеш гэта, дасць Бог, выратуешся і будзеш карысны на службе ў царкве Хрыстовай. Ідзі з мірам.

Я адправіўся пешшу ў Вільню. За Чарнобылем, перад Мазыром, на ўзрэччы Дняпра, на дарозе ў пушчы сустрэўся мне дужа хворы чалавек. Узваліў я яго на сябе і нёс нямала. Той чалавек потым, пасля працяглых размоваў са мною (дзіўныя справы ў таямніцах Божых!), даў мне імя найсаладзейшае — Ісус Хрыстос. Паказаў на маё сэрца і параіў як тое магу захаваць: 1.Ставіцца да людзей уважана, разумна; 2. Выконваць манаскае паслушэнства, чысціню і скрушнасць; 3. Нязменна памятаць пра смерць дваякую; 4. Заўжды-заўжды ва ўсім пакладацца на волю Божую (гэта я памятаю да цяперашняй хвілі і на сэрцы маю, бо дару Божага таіць не варта); 5. Калі што насуперак Божай волі ад немачы цялеснай раптам учыню, то споведдзю і пакутаю дасканалаю сябе ачышчаць.

Я той нэндзны Афанасій, які ў Вільні заступіў належным чынам на іерэйства. З волі Божай і старэйшых маіх быў намеснікам у Дубойскім манастыры пад Пінскам. Там тры гады заўзята змагаўся са злымі духамі — бачнымі і нябачнымі.

Калі ў 1636 годзе князь Радзівіл па мянушцы Палаза, канцлер літоўскі, прыцікаў Праваслаўную царкву, адбіраючы манастыр той Дубойскі на карысць езуітаў, пабачылі ўсе на небе і на зямлі (не праз сон, а ўдзень, на яве, толькі нібы ў нейкім засланні) страшныя карціны. На небе — хмары вельмі гняўлівыя, з войскамі ўшыхтаванымі. А на зямлі — сем агнёў пякельных, на сем грахоў смяртэльных падрыхтаваных. З тых агнёў, у пятым палаючым гневе, выразна бачылі тры асобы: нунцыя-легата ў кароне папскай, караля Жыгімонта і гетмана Сапегу, якія за пераследванні Усходняй царквы сядзелі дужа смутныя. Калі паказваў тую праяву іншым, яны не маглі яе бачыць. Толькі адзін святаблівы муж, спадар айцец Іларыён Дзенісовіч, ігумен купяціцкі і пінскі, тыя справы Божыя бачыў і дзівіўся. Падстараста пінскі, пан Аградынскі, праз нейкі час пасля таго заязджаў у манастыр і голасна ўсклікваў:

— Ойча! Дзеля Бога, што гэта дзеелася?! Страх мяне абымае. Ці няма якой здрады? Ці не падпілаваны палі пад мостам? Ойча, дзеля Бога, не жартам кажу, страх мяне працінае.

І доўга калаціўся, аж да ад'езду віленскіх айцоў.

Я, з маёй адданасці святой справе, напісаў жаласлівы ліст з клопатам пра людзей праваслаўных, якіх там блізу тысячы было. Меў я добрую надзею, з веры праваслаўнай, вярнуць тых людзей да Усходняй царквы, да Праваслаўя святога. І пазначыў той ліст выявай Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай. Нямала годных людзей паставілі подпісы сваіх рук. А менавіта падпісаліся: айцец Сільвестр Краскевіч, ігумен ціперскі; Лявон Шыцік, ігумен дубойскі; Іларыён Дзенісовіч, ігумен купяціцкі; Самуіл Рогаля, друкар брацтва Віленскага; Афанасій Філіповіч, намеснік дубойскі; Себастыян Гуляніцкі, урадовец дубойскі; Іван Крупка, правінцыйны пісар дубойскі ды шмат іншых. Мяне пасля таго пакінулі на паслушэнства ў Купяціцкім манастыры, і я цярпліва скарыўся.

Я той нэндзны Афанасій, які з Купяціч для ялмужны на Белую Русь быў высланы. Дзіўнай справай Божай і засцярогамі Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай, вобраз якой ля граніцы маскоўскай на небе сапраўды быў бачны, без пісьмовых сведчанняў цудоўна даехаў да сталіцы маскоўскай. Там, за Масквою-ракой, на Ардынскай вуліцы, на гасподзе, якую мне далі, напісаў праўдзівую гісторыю аб тым, што дзеелася ў дарозе. Затым, паводле Божага ўказання, якому простым сэрцам веру, падаў яе, дзеля падтрымкі, абароны і памнажэння веры святой праваслаўнай, маскоўскаму цару.

Я той нэндзны Афанасій, які ў 1640 годзе паслухмяна з Купяціч, воляй Божай, што аргументавана пацвярджаецца, прыехаў да Берасця Літоўскага на ігуменства ў праваслаўную царкву, дзе калісьці быў закладзены фундамент праклятай уніі. Знойдзеныя правы і прывілеі, пісаныя на пергамене, у якіх утрымліваліся страшныя праклёны на уніятаў, актыкаваў да берасцейскіх гарадскіх кніг, а потым агаласіў іх у царкве і на розных месцах, указваючы воляю Божай, што той падзел русі і прыняцце уніі незвычайным чынам з неналежным пастырам — вельмі моцна праклятыя.

Потым з варшаўскіх метрык вашай каралеўскай міласці экстрактна выпісаў тыя справы і набыў прывілей з пацвярджэннем правоў на тую берасцейскую праваслаўную царкву ад вашай каралеўскай міласці, пана нам шчасліва пануючага, Уладзіслава Чацвёртага з подпісам рукі. Аднак князь канцлер і князь падкан-

цлер не захацелі нат за трыццаць цвёрдых талераў запячатваць яго. Калі быў у пакоях іх міласцяў, мовілі да мяне:

— Будзеце ўсе уніятамі — дарма запячатаем. Бо ведайце, пад клятваю нам заказана ад святога айца папежа, каб ужо больш вера Грэцкая тут не множылася.

На той час і князь клецкі быў у пакоі канцлера. Ён далучыўся да размовы, прачытаў прывілей і прасіў паставіць пячатку, але прывілей ніякім чынам не быў зацверджаны.

Потым прыйшоў да старэйшых айцоў маіх і зразумеў тое, што кожны з іх шукае прыватнага. Спадар айцец Косаў хоча дамагчыся блізу дзвюх тысяч злотых кожны год з Магілёўскай епархіі. Айцец Гулевіч баніцыю здабывае, перадаўшы Перамыскае ўладыцтва на вечнае валоданне, як пазначана ў канстытуцыі — «на унію». Айцец Жолуд здабывае права, каб толькі цагельню ў Вільні ўсталяваць. Айцец Шыцік набывае прывілеі: адзін для сябе на Аўруцкую архімандрыю, а другі Філатэю — на ігуменства Залатаверхага Міхаіла. Толькі адзін спадар айцец Варлаам Дзядкоўскі святабліва, з духоўнымі помысламі, працаваў у царкве Пячорскай. Усе іншыя айцы і законнікі таксама са сваёй прыватнай карысцю прыехалі. Кожны лямантуе:

— Я маю, я маю патрэбу ў цэрквах для сябе! Як сабе хто хоча, няхай дамаўляецца! Я не дбаю!.

І толькі пра грунтоўнае супакаенне веры праваслаўнай ані згадкі не было.

Месцічы бедныя з Сокаля, Оршы, Пінска, Бельска, Кобрына, Берасця і з іншых местаў і мястэчак плачліва лямантуюць, што не маюць ужо і людзей, з якімі б маглі даглядаць цэркваў сваіх! Няма айца і мужа святога Лявонція Карповіча, архімандрыта віленскага, і айца Іосіфа Бабрыковіча, старэйшага віленскага! Нямаш мужоў памяці годных — Міхаіла Крапіўніцкага, Лаўрэнція Дрэвінскага! І пана Мяфодзія Кісяля з калегамі яго, якія дбалі пра грунтоўнае супакаенне Грэцкай праваслаўнай веры, у полі рыцарскім не стала! Нямаш, як належыць набожным праваслаўных людзей, вольнасці нават за грошы! Ах, бяда ж! Крыжа не прыняўшыя дзеткі пакутуюць! І дарослыя без шлюбаў жывуць! І памерлых у палях, на гародах і ў піўніцах патаемна ўначы хаваюць! Нямаш, моўлю, вольнасці нат і за грошы! Тут, у панстве хрысціянскім, праваслаўныя людзі маюць і церпяць няволю, большую над турэцкай! Бо аршане бедныя, за тое, што ў брацтве сваім новую царкву збудавалі, дзвесце чырвоных залатых падканцлеру за пячатку давалі! А сакаляне сто чырвоных залатых і пяцьдзясят кароў да фальварка адной асобы толькі

за нейкую прычыну давалі! І іншыя таксама дужа ўбіваліся, але нічога не справілі. Як і ў колішнія часы, праціўнікі праўды святой, свядома (запалам злога духа), прагнучы вынішчыць тут, у панстве хрысціянскім, Грэцкую веру праваслаўную, усё, бязбожна кусаючы, ад сойма да сойма адкладалі. Нарэшце, тузаючы соймы, не дазвалялі нават уключыць у канстытуцыі, каб укрыжаваная справядлівасці здабыла.

Тое ўсё убачыўшы, я, нэндзны, з дару Духа Святога, якому простым сэрцам веру, ішоў да гасподы за касцёл Панны Марыі, праз варшаўскае новае места. Думаў сам сабе з імем Ісуса Хрыста, якое ў сэрцы маім намалёванае, і ў руплівасці аб праваслаўнай веры мовіў: «О, Божа справядлівы! Як жа то вагі несправядлівасці ледзь-ледзь не да самога цэнтра і мяжы схіліліся? Вось-вось і самі айцы нашы старэйшыя аб веры праваслаўнай і памнажэнні хвалы Божай перастануць дбаць. Ужо ўсе нібы саромеюцца яе. І нават больш — некаторыя дзеля гонару і ўцех гэтага свету, як Сматрыцкі, Скуміновіч ды іншыя, ашуканыя лацінаю і высокімі думкамі пра сябе (ах, бяда ж!), з веры праўдзівай да іншае веркі перакідваюцца. Нямала тых, хто з лацціннікамі нашымі мілымі ў адзін струп зліліся і людзям простым з сумневам пра веру праўдзівую і царкву Усходнюю распавядаюць. Нібы кульгаючы, кажуць: «О! І тая і тая вера — добрая!» Быць таго не можа, каб шмат вераў было добрых! Бо напісана: «Адзіны Госпад, адзіная вера, адзінае хрышчэнне» (Эфес. 4:5) і іншае.

Так падумаўшы, пабачыў нявесту, якая ў роспачы бегла ад касцёла Панны-Марыі распранутая і голасна лямантавала, усклаўшы рукі на галаву:

— Загіну! Украдзена ў мяне з ложка ўзгалоўе і коўдра!

Падумаў сам сабе з імем Ісуса Хрыста: «Так цяпер царква Праваслаўная тут у панстве хрысціянскім лямантуе, з-за ўкрадзеных дзённымі злодзеямі — уніятамі праклятымі — ложа мысленнага Саламона і аголеная ад прыкрыцця яе прыгожага».

Бо ў той жа час нейкі пераверцень, злодзей і блюзнерца Касян выдаў кніжку, агаляючы сакраменты прасвятой царквы праваслаўнай Усходняй. Так думаючы, параўняўся з той нявестай, даў ёй чырвоны залаты, кажучы:

— Купі сабе што можаш.

У той жа момант сышоў на мяне Дух Святы ў плачлівым жалю, і я доўга з рыданнем плакаў.

Потым у гаспадзе Стафана Русіна Пікара адпраўляў акафіст да Прачыстай Багародзіцы тымі словамі: «Ад усіх бедаў нас

аслабані». Раптам пачуў выразны голас ад абраза Прачыстай Багародзіцы:

— О, Афанасій! Суплікуй цяпер на сойме праз абраз мой — выяву на крыжы Купяціцкім — да караля польскага і рэчы паспалітай, пагражаючы гневам і страшным судом Божым, які для яго сапраўды вось-вось наступіць, калі не ўбачыць. Няхай найперш унію тую праклятую навечна зганяць, бо тое неадкладна трэба зрабіць, тады, можа, будзе добра.

Затым я ў 1643 годзе, з загаду Прачыстай Багародзіцы і моцай шчырага крыжа імя Ісуса Хрыста, што ўсё і вытлумачвае, як нейкі ігрок, які мае добрую карту, і як Ілля Прарок адданасцю Праваслаўнай веры, на сойме вальным у Варшаве падаў, праз дыякана майго, вашай каралеўскай міласці пану мне міласціваму і некаторым вельмі паважным асобам у рыцарскім коле — абраз Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай, змешчаны на крыжы, у сямі экземплярах на палатне малёваных, разам з «Гісторыяй маскоўскай» і з надпісам-перасцярогай ад гневу Божага і страшнага Суду яго. Падаў замест суплікі ад Усходняй царквы, у замку ў сенатарскай палаце. Пры тым засведчыў вернасць ва ўсім вашай каралеўскай міласці, пану майму міласціваму. Як падаваў, пад абаронай Божай голасна ўказваў на правы, прамаўляючы:

— Найяснейшы каролю польскі, пан мой міласцівы! Невыносную крыўду маем! Не хочуць нам, людзям прававерным, у справах побажных царкоўных прывілеяў друкаваць! Не хочуць з намі, што прысягнулі вашай каралеўскай міласці, абыходзіцца паводле законаў. Ужо амаль пяцьдзесят год вера праўдзівая і царква Усходняя Грэцкая ў каралеўстве Польскім смяротныя прыцясненні трывае пад вамі, паны хрысціянскія. І тое дзеецца за прычынай і дапамогай ненавісных капланаў рымскіх, перадусім езуітаў надта мудрых. Тыя езуіты адточанымі словамі і тытуламі высокімі пабралі нутро людское, душы яшчэ маленькіх дзетак, ладзячы ў школах камедыі, маючы ў касцёлах катэдры і кніжкі пераліцованыя, выдуманыя ашуканнем шайтанскім, якія раздаюць бязбожна простым людзям. Абліваюць брудам і пераследуюць прававерных хрысціянаў, самі будучы няправаверным.

Я той нэндзны Афанасій, які назаўтра, у суботу, паводле загаду некаторых паноў сенатараў, сам прыйшоў з дыяканам маім Лявонціем да пана Апалінскага, маршалка. Зрабіў справаздачу і быў пасланы панам маршалкам да яго міласці ксяндза біскупа пазнанскага Андрэя Шадроўскага, чалавека вельмі паважанага, пра якога і яго міласць айцец наш мітрапаліт Магіла гаварыў (калі быў у Кіеве гэта чуў):

— Добры то мой прыяцель!

Дык вось ён, як вярнуўся вечарам з Сената ад вашай каралеўскай міласці, з наступнай суцешнай весткай нас азнаёміў:

— Кароль, пан наш міласцівы, казаў паставіць пячатку пад тым прывілеем, якога вы патрабуеце, Прыйдзіце раніцай да князя падканцлера, а цяпер ідзіце да гасподы.

Я той нэндзны Афанасій, які не быў дапушчаны сваімі старэйшымі айцамі да запячатвання прывілея. Злымі словамі зганены, за шалёнага мянованы, наагул застаўся ва ўсім (даруй Пане Божа!) аблаяны, аплёваны, асмеяны і абвінавачаны. Толькі за тое, што ім не дакладаў, калі чыніў тыя суплікі. Няўжо ж слушна дакладаць у такіх таямніцах Божых?!

Ах, бяда ж мудрым, якая ад лаціны зыходзіць! Ужо нічога на веру не пакладаюць і волі Божай не слухаюць, але ўсё на сябе і на розумы свае прыняўшы, сваю волю выконваюць і свае сваіх прыгнятаюць. Бо там зараз у Варшаве, на Доўгай вуліцы, у гасподзе адзвернага вашай каралеўскай міласці Яна Жалязоўскага, некалькі тыдняў, амаль да раз’езду соймавага, пераследвалі мяне і трымалі, разам з дыяканам маім Лявонціем, у вязніцы. Менавіта з-за таго вязення не здолеў я аніякім чынам прывабіць і прывесці іх да духоўнай разважлівасці ў той знакамітай справе царкоўнай, якая распачалася воляй Божай. Узгарэўся я і ўзганарыўся ад адданасці Дому Божаму, а не з-за шаленства. І наагул, маючы на сваім сэрцы выбітае імя Ісуса Хрыста, жадаючы, каб апомніліся старэйшыя мае, дабравольна не баяўся сябе распранаць і вымазвацца ў балоце, абы толькі царква, любіміца Хрыстова, была апранутая і ачышчаная. Зрабіўся нібы шалёны і сам з вязніцы выйшаў голы, толькі каптур і парамант для знаку законнага на сабе маючы. У балоце ўвесь паплёскаўся і, б’ючы ў каструлю, па вуліцах варшаўскіх бегаў і крычаў немым голасам:

— Бяда праклятым і няверным! Бяда праклятым і няверным! Vae maledictis et infidelibus!

Чэлядзь уладыкі, што падсцерагала мяне ў гасподзе, пагналася за мною, калі я бег да брамы Кракаўскай, бо намерваўся на рынку ўскочыць у касцёл, а быў дзень Звеставання, і крычаць тыя словы: «Бяда, бяда праклятым і няверным!»

Там, пад брамаю, яны абкружылі мяне і загналі ў балота па калена і глыбей. Стаялі нада мной з вялікім натоўпам людзей доўгі час, пакуль ад гасподы воз не прывезлі. Тады я, нэндзны Афанасій, траха не мёртвы, вялікі холад трываў, бо быў месяц сакавік. Ледзь жывы быў прывезены на возе да гасподы ўладыкі і зноўку быў кінуты ў вязніцу.

Я той нэндзны Афанасій, які быў абвінавачаны за суплікі, пададзеныя ў Сенат праз абразы Прачыстай Багародзіцы, а таксама за агаленне маё, нібыта шалёнае, для Царквы Хрыстовай. Інстыгацыяй Даніловіча, пісара ўладыкавага, быў асуджаны старэйшымі айцамі, хоць паводле дыяцэзіі і месца соймавага яны не мелі права судзіць. Дэкрэтаваны імі быў ды пазбаўлены прэсвітэрства і ігуменства.

І ўжо на выездзе з Варшавы, не маючы дзе мяне падзець, перасылалі ад гасподы да гасподы, ад айца ўладыкі да ігумена луцкага, ад таго — да старэйшага віленскага. З гасподы зноў да айца Косава за Віслу-раку чаўном пераправілі. З-за Віслы паўторна да Варшавы пераправілі да айца старэйшага віленскага, які меў гасподу на лазні. Старэйшы віленскі, ад’язджаючы, казаў чэлядзі сваёй аддаць мяне да айца Шыціка пад генсіярэк. Той трэці раз перавозіць мяне цераз Віслу. Там я выказаў жаданне ўпэўніцца, ці запячатаваны, паводле паведамлення біскупа, прывілей у падканцлера. Не дазволіўшы мне даведацца пра гэта, старэйшыя айцы праводзілі мяне з Варшавы да Кіева.

У Кіеве ніхто не спытаўся ў мяне, у чым я вінен. Гэта мяне надта засмуціла. Асабліва тое, што пра пакой царкоўны і памнажэнне хвалы Божай не дбаюць. Вельмі занепакоілі мяне вогнішчы алхіміцкія, якія палілі ў сямі печках дзеля ашукання адной асобы, ад якой на той час шмат залежала ў справе веры Праваслаўнай і Усходняй царквы. Пра сваю заклапочанасць часткова паведаміў спадару айцу Зосіму пячорскаму і айцу Іосіфу Дунаеўскаму.

Я той нэндзны Афанасій, які зноўку, паводле злой задумы, на загад яго міласці айца нашага мітрапаліта Пётры Магілы, у Кансісторыі духоўнай быў асуджаны духоўнымі айцамі, нібы злачынца якійсьці. На тым судзе прыгадаў, як мяне ў Варшаве вадзілі ад гасподы да гасподы. Айцец Гізель сказаў:

— Як ад Аннаша да Каіфа.

Потым, бачачы, што я і без позвы з’явіўся, не мелі інстыгатара. Адразу ад усяго без дэкрэту вольным мяне ўчынілі, і за блаславеннем айца нашага мітрапаліта кіеўскага і ўсёй Русі, экзарха святога апостальскага трона Пятра Магілы, адпраўляў я з дыяканам маім неаднаразова святыя літургіі ў Пячорах і на вялікім прастоле ў царкве Узнясення Прачыстай Багародзіцы Пячорскай Цудатворнай. А той суд і дэкрэт, несправядліва на мяне ў Варшаве ўскладзены, быў патлумлены назаўжды.

Я той нэндзны Афанасій, які спачатку за воляй Божай, а затым і за пісьмовым блаславеннем яго міласці айца нашага мітрапаліта

кіеўскага зноўку, паводле жадання брацтва праваслаўнага Берасцейскага, на ігуменства прысланы.

Там, у манастыры ўбогім, годна жылі з некалькамі дзесяткамі братоў маіх, што ведама Богу і людзям. Я сам і браты мае цярпелі ад свавольных студэнтаў езуітаў і ад папоў уніяцкіх неаднаразовыя пабоі, гвалт і абразы. Нападалі на манастыр, заміналі бесперашкодна ісці шляхам на кірмаш, стваралі невыносныя пакуты. У Кобрыне нехта Аблачынскі, называючы сябе уніяцкім архімандрытам, гвалтам захапіў (О, бяда ж!) законнікаў, пасланых да мяне на маіх конях з Купяціч. Святару бараду абрэзаў, дыякана распрануў, а затым выгнаў іх. Двух коняў з возам і рэчамі на некалькі сот залатых прысвоіў. І ад іншых на многіх месцах вельмі вялікія крыўды і беды мелі і цяпер маем.

На той час у пэўных патрэбах царкоўных і манастырскіх, асаблівай Божай воляй, ездзілі да Кракава. Там прасілі яго міласць пана Сапегу, ваяводу наваградскага, як дабрадзея свайго, бо на яго міласці грунце месцімся, каб з ласкі сваёй узяў у вашай каралеўскай міласці ліст упамінальны да тых крыўднікаў, таму што нам, праваслаўным, у кожным праве цяжка здабыць справядлівасць. На кожным месцы, у дварах і ў судах лаяцца на нас і гукаюць на нас:

— Гугу, русін, люпус, рэлія, Госпадзі памілуй, схізматык, адшчапенец, Налівайка!

І больш за тое, хто іх ведае, як на агіду нас людзям падаючы, усялякага навыдумвалі. Менавіта з-за пакутаў нашых і зганьбавання ліста ўпамінальнага да тых крыўднікаў прасілі. Але перажыванні бедных — папам жарты, сказаў ён:

— Поп з папом пабіўся, якая мне да таго справа? Будзьце уніятамі, тады будзеце спакойна жыць. Або ідзіце да іх старэйшых па справядлівасць. І ліст, пісаны да мяне, у якім называеце, хто вам крыўду ўчыніў, аддаю вам як сведчанне для суда.

І тут дармо стараліся і страцілі некалькі дзесяткаў залатых.

Затым я супакоіўся. Толькі пераарыентаваўся каля места і дзеля ялмужны, пэўна воляй Божай, быў у пасла маскоўскага, нагадаўшы яму пра жыццё маё, клопатам Божым, у 1638 годзе ў сталіцы маскоўскай. А калі спытаў мяне пра Дзімітравіча, пра якога я даведаўся ў бытнасць маю ў Берасці ад пана Галенскага, намесніка гарадскога, у якім ён тут тытуле і выхаванні, я адказаў:

— Дзімітравіч і сам пра сябе не ведае, хто ён ёсць. Тым болей ніхто іншы, каторы не падпісваецца царэвічам.

Я, як пазбаўлены ўсялякай хітрасці і не маючы рэкамендацыі ні ад каго ў таямніцах аб ім, даў картку яго да мяне з гасподы

пісаную, з подпісам рукі наступнымі словамі: «Ян Фаўстын Дзімітравіч».

З Кракава ехаў да Варшавы для выкупу прывілею, пра які праз допіс юрысты Зычэўскага меў звесткі, што той прывілей, якога на сойме патрабаваў, ужо замацаваны пячаткай. Але за тую пячатку хацеў шэсць тысяч залатых, кажучы:

— Зрабіў яго праз езуітаў і коштам маім вялікім.

Я ж, бедны, да першага задатку яму ў дзесяць чырвоных залатых, на які і цяпер цэрограф яго маю, даваў яму яшчэ дваццаць чырвоных залатых, а на астатняе абяцанне даваў. Але ён не ўзяў. Тады я агледзеў той прывілей запячатаваны і ўбачыў, што яго ў метрыках няма. Таму больш не ўбіваўся, паклаўся на волю Божую і шчаслівы час.

Прыехаў я да братоў маіх да Берасця. Неўзабаве потым у кляштары айцоў бернардзінаў, калі ўбачылі прывілей замацаваны пячаткай, намалявалі абраз Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай у крыжы, упершыню са скіпрам, з ідэяй ваяўнічасці. Як намалявалі, прынеслі мне, і я набыў яго за чырвоны залаты.

Трымаў абраз ў келлі маёй. У адпаведны час адпраўляў перад ім малітвы. На тым месцы, як і ў мінулыя часы, напаў на мяне дужа-дужа вялікі страх.

Нарэшце ад абраза таго пачуў голас:

— О, Афанасій! Яшчэ раз суплікуй праз абраз мой Купяціцкі ў крыжы на сойме чарговым да караля польскага і да рэчы паспалітай пра вынішчэнне грунтоўнае уніі праклятай. Добра будзе, калі паслухаюць і вынішчаць яе. Пажывуць тады ў наступныя гады шчасліва, бо і планеты паказваюць Меркурыя для Венеры на ласкавасць у тыя гады. А парадак для Сына Майго ў такім падыходзе: напачатку спытаць Адама, а затым Еву. Напрыканцы дэкрэт страшны, як слова вымавіць злому будзе па прысудным слове.

Пасля таго сполаху быў саслабелы пяць дзён. Не піў і не еў, думаў, што рабіць: «Бяда мне казаць пра такія рэчы на такім месцы! Бяда маўчаць пра справы Божыя!» Пастанавіў, аднак, для сябе — прамаўляць.

На тым месцы прыйшло да мяне ўсведамленне і азарэнне з дару Духа Святога, бо таму простым сэрцам веру, што уніяты сваёй воляй рымлянамі ашуканыя, а рымляны — менавіта ў Божых справах і парадках духоўных — ашуканыя Шайтанам праклятым. Абраз Багародзіцы тое спраўляе, каб усе, у тым ліку і ерэтыкі, спазналі, што яна — сапраўдная Каралева Нябесная і дабрадзейка вялікая ўсяму роду людскому. Яна — паводле прыраджэння, а затым і ўсе святыя Божыя. Крыж — знак, як

герб на харугве, хуткага прыходу Хрыста на суд справядлівы. «Кажы, Афанасій, пра тыя справы мае і неадкладна крычы, галасі! Нібы труба найкрыклівейшая, верашчы, бо прабіў час! Каб усе, што тытулуюцца імем Хрыстовым, да праўды прыйшлі, гэта значыць: адшчапенцы і ерэтыкі, лютэране, арыяне, нурыяне, сасаве, цвінгліяне ды іншыя тым падобныя, хто веруе ў Хрыста Госпада. Каб прыйшлі да парадку праўдзівага, духоўнага, замацаванага сямі саборамі, гэта значыць: прылучыліся і схіліліся цяпер да правіцы, бо хутка не будуць мець часу для пакуты. Каб усвядомілі патрэбу і неабходнасць вайны з паганымі і няверными Хрыстовымі, каб быў над усімі адзін пастыр Ісус Хрыстос, а не папеж. І адна аўчарня Ісус Хрыстова, а не папежава. Бо ў Евангеллі святым не папеж кажа: «Ёсць у Мяне і іншыя авечкі, якія не з гэтай кашары, і тых трэба мне прывесці: і яны пачуюць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін Пастыр» (Яна X:16)».

Тады я, нэндзны Афанасій, змушаны такой воляй Божай, пачаў рыхтавацца да высокага тэатра гэтага свету — да сойма вальнага, які планаваўся ў Польшчы перад усім гмінам людскім. Намеціў наступнае: паднесці напісанае на некалькіх дзесятках аркушаў з абразамі Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай і з «Гісторыяй маскоўскай», як і на мінулым сойме ў Сенаце, у час знаходжання вашай каралеўскай міласці ў касцёле, па прачытанні Евангелля ў час казання. Затым, на розных месцах распачатую справу падаць і вытлумачыць розным станам каронным і Вялікага Княства Літоўскага, а таксама купцам чужаземным, калі яны будуць. Спасылацца вырашыў на Прачыстаю Багародзіцу і ўсіх святых, чаго ад нас патрабуе Усемагутны Бог на схіле веку і напярэдадні Страшнага Суда.

Што ж я, нэндзны жабрак, за вытлумачэнне пра сябе дам у тым, што Творца мой Ісус Хрыстос і Маці Яго Прачыстая Багародзіца Купяціцкая такую цяжкую, дзіўную і надта вялікую справу і паслугу на мяне пакорлівага, як на быдлятка Валаамава, вырашылі ўскласці? О, Ісусе Хрысце, мой Адкупіцелю! Чы не павінен быў я, нэндзны, сядзець у манастыры, як іншыя духоўныя айцы і браты мае, молячыся табе, Творцу майму, за сябе і за ўсю ўладу — духоўную і свецкую, а асабліва за дабрадзеяў маіх?! Чы не лічыў я так? Лічыў і лічу, дзівячыся незразумелым справам Яго святым!

Падаю тое да пабажнай павагі вашай міласці, пану і дабрадзею мне вельмі міласціваму, што мусіў я, нэндзны чалавек, прастак, гарбарчык, калугер убогі рабіць паміж гаспадарамі свету — вашай каралеўскай міласцю і царом маскоўскім — калі

б не было на тое асаблівай волі і клопату Бога ў Тройцы Святой Адзінага?! Бо і Сам гаварыў: «Без мяне не можаце нічога зрабіць» (Яна XIII).

Русь хрысцілася пры князю Уладзіміру Божай воляй у 987 годзе ад патрыярха Канстанцінопаля, Новага Рыма, праз дваццаць два гады пасля палякаў. І з таго часу належыць да духоўнага паслушэнства і добраславенства канстанцінопальскага патрыярха. Тое шмат каму ведама, а каму няведама — няхай у Длугаша, каноніка кракаўскага, ды ў іншых летапісцаў паглядзяць.

Унія — праклятая, што пацвярджаецца правам. Калі хтосьці пакіне пастыра свайго ўласнага і брацтва ды адбяжыць да другога, які яму не належыць — той няхай будзе пракляты ад Айца і Сына і Святога Духа! Няхай будзе і па смерці не адпушчаны! Няхай будзе мець праклён святых айцоў, якія сінадавалі ў Нікеі, ды ўсіх святых Божых!

А той пастыр і айцец духоўны (улада патрыярхава) сапраўды так вязаў. Канстанцінопальскай патрыярхіі сапраўды, паводле волі Божай, паміж пяццю сталіцамі духоўнымі на гэтым часовым свеце — з пэўных і вельмі важных прычын і таямніц Божых, Духам Святым утвораных і ўпарадкаваных — паміж сталіцамі, кажу, пяццю: Канстанцінопальскай, Антыахійскай, Рымскай, Александрыйскай, Ерусалімскай — адзіная ўлада і роўнасць духоўнай улады з іншымі сталіцамі дадзена. Улада праўдзівым парадкам звязваць і развязваць, паводле запавета Хрыстова: «Праўду кажу вам: што вы звяжаце на зямлі, тое будзе звязана на небе; і што развяжаце на зямлі, тое будзе развязана на небе» (Мацв. XVIII:18). Хто таго не ведае — той уніят, які ўцёк ад пастыра свайго ўласнага сваёй воляй. Ён справядліва пракляты. Ён без споведзі і пакаяння належнага зыходзіць з гэтага свету.

Ведаць і тое трэба, як Люцыпар з найвышэйшага неба нізрынуты, гэтак і уніяты з царкоўнага неба. Дзеля пажадання сталка сенатарскага сталася тое пракляцце. Грэх садомскі ды іншыя вялікія сваволі вялебных айцоў з-за пэўных прычын не заўважаюцца, але пыха праклятая найбольш мусіць ганіцца. Пацей перад уладыцтвам быў кашталянам берасцейскім і меў сталок у Сенаце. Калі ж стаў епіскапам — пазбавіўся яго. Пасля таго, думаючы пра сябе высока, у розных асобаў і ў пана віленскага Хадкевіча парады шукаў і бадаўся:

— Чаму пад каралём польскім маем вольнасці агульныя, а не засядаем за сталкамі побач з біскупамі?

Тады рымскія духоўныя парадзілі яму:

— За прычынаю караля пана. Калі будзеце мець ад айца святога, Старога Рыма папежа, блаславенне — то проста вам будзе мець паміж намі і сталок сенатарскі.

Тады Пацей, дзеля сталка сенатарскага, таемна дамовіўся з Тарлецкім, Рагозам ды іншымі спадкаемцамі сваімі. Зрабіў рэестр выбраных людзей прававерных з народа праваслаўнага — князёў, паноў, зямян, некаторых абываталяў ды імем усёй царквы рускай Праваслаўнай Усходняй здрадліва, не помнячы на клятву, якую сам для сябе пісаў і выдаваў, — рымскаму папу аддаўся ў паслушэнства, хоць той, паводле прыняцця веры і крыжа святога, народу праваслаўнаму не належаў. Аднак і за тое не атрымаў сталка. Толькі сяброўства ксяндзоў ды парады іх асаблівыя. Таксама ласку каралеўскую ў справе абароны той уніі ды царкоўныя фундацыі да апошняга часу меў.

Ад таго часу, узяўшы нянавісць, за злой афёрай сваёй і за непрыстойным нараджэннем у той праклятай уніі — як Каін Авеля ды Ізмаіл Ісака, так пракляты уніят забіваў і пераследваў свайго праваслаўнага брата. І аж да цяперашняга часу, з дапамогай карыслівых і ворагаў праўды святой, патураннем Божым, што хацеў, тое і чыніў. Людзей убогіх усялякага стану, як у брацтвах царкоўных, гэтак і ў радах усялякіх — судовых і цэхавых, бязбожна з усяго, што маюць праваслаўныя хрысціяне — з сумлення чыстага, з славы добрай і маёмасці, з усяго прыстойнага — злупляў, тузаў, скрэб, рознымі спосабамі мардаваў і забіваў. І больш за тое — цэрквы запячатваў, адбіраў, нішчыў, руйнаваў. Набажэнства вольнага сумленню побажнаму забараняў. У местах, мястэчках і сёлах, у валаданнях каралеўскіх і шляхецкіх, як то ў Любліне, Сокалю, Бельску, Полацку, Віцебску, Астрогу, Львове, Грубяшове, Бельзе, Кобрыню, Берасцю ды ў іншых аж залішне прыкрасці і злосці выяўляў і пераследваў. У многіх розных месцах у панстве тым хрысціянскім непатрэбныя калатнечы дзеля той праклятай уніі ажно да гэтага часу дзееліся.

Нарэшце, і з казакамі ўнутраная вайна непатрэбная дзеля той уніі праклятай была. Дзеля тае міласць амаль ва ўсіх высахла! Дзеля тае карыслівасць, прагнасць, зайздрасць, здрады, непрыстойнасць і асабліва пыха праклятая павелічаліся! Дзеля тае парадак духоўны і свецкі ледзь-ледзь не загінуў, пра які й самі лямантуюць:

— Непарадкі дзеяцца!

Цяпер парадак воляй Божай наступае! Цяпер наступіў час раздзялення блаславенных ад праклятых! Цяпер гнеў справядлівы Божы і суд Яго страшны на левіцу прыйшоў! Хто

мае вуха для слухання — няхай слухае, што галосяць адпаведна часу, месца і патрэбы!

А што некаторыя мовяць:

— Каралю пану вера не належыць. Ён вольны верыць, як захоча.

Сапраўды так. Не вінаваты кароль пан, калі хто блудзіць у духоўнай справе. Але ж, дзякуючы дапамозе каралёў іх міласцяў, тая унія праклятая ў панстве тым хрысціянскім з дапушчэння Божага запанавала. Трэба, каб справядлівым судом, воляй Божай ды з помаччу каралеўскай і ўпала! А хто ж павінен непарадкі ў доме суняць, калі не гаспадар, асабліва добры і чулы ў абавязках сваіх? Святыя айцы пэўне ўжо таго не выправяць, бо спачатку іх саміх трэба выправіць! Ужо тут дыспутацыі не трэба! Наглядам Божым на элекцыі шчаслівай медыятарам спакою была ваша каралеўская міласць у той справе! І на каранацыі была прысяга з грунтоўным абяцаннем прывесці да супакаення. Няхай жа ўсё супакоіцца, бо ўжо час прыйшоў! Няхай кожны на сваім баку, які сабе ўпадабаў і заслужыў, пры тым застаецца — блаславенны па правіцы, а пракляты па левіцы!

З боку Дзімітравіча добра сталася, ласкай Божай, што яго ваша каралеўская міласць пан мой міласцівы, як праўдзівы ў прыязнасці да кожнага, загадаў паслаць на прызнанне да цара маскоўскага, каб высветліць, хто ён ёсць. Бо не варта пану, справядліваму з натуры і асаблівага Божага дару, замазвацца ў несправядлівых справах. Лёгка пазнаць кожнаму, калі быў Дзмітравічам з Мнішкаўнай, ваяводзінкай сандамірскай.

Значнае прозвішча ёсць іх міласцяў паноў Мнішкаў. Як пан кухмістр каронны, стараста асецкі ды іншыя гаварылі вінавата аб тым, што вялікая справа быць сапраўдным царскім сынам. Да таго ж яшчэ з вуснаў нябожчыка Сапегі, гетмана, чуў, калі быў педагогам. Папрасіў неяк выбіць кілімы для Дзімітравіча над лужком, а гетман голасна з гневам крыкнуў:

— Навошта выбіваць над лужком! Хто яго ведае, хто ён ёсць?

Я на тое адказаў:

— Калі наведваюцца шляхецкія дзеткі пры педагогах сваіх школьных, пытаюць, кім апекаваўся?

Ён задумаўся і ўрэшце загадаў купіць кілімак і калдэрку. Я потым неўзабаве законнікам стаў, і цяпер, воляй Божай, у тым стане знаходжуся. Як наагул summatim гаворыцца: не на добрае ён тут у тытуле царскім пачаў хавацца, бо многа злога праз яго, як праз нейкі інструмент, свавольнаю купаю і хітрасцямі дужа мудрых людзей Шайтан пракляты, за дапушчэннем Божым, мог

бы чыніць. Зрэшты, калі завёўся Шайтан у цэсарскай справе, усё потым будзе вядома, бо «няма таямніцы, што не адкрыецца» (Лукі VIII:17).

Абедзве тыя справы — пра Дзімітравіча і грунтоўнае супакаенне веры Праваслаўнай Грэцкай — кладу на шалі паважанай развагі вашай каралеўскай міласці, пана мне міласцівага. Ведаю, лёгка будзе і справядлівасць святую пазнаць. Асабліва калі не ад цела і ў целе цяжкім адчуваннем, але без заслоны — ад душы і ў душы жывучым вострым розумам тую вялікую, ясную і важную рэч будуць спасцігаць. Бо для такога памеру, паводле Ліпсіуса і Дыянісія філосафаў, трэба розум, а не шнур.

Войску з гарматамі, нават калі яго мільён мільёнаў, цяжка з Богам праўдзівым ваяваць. Кожны гэта ведае. Яшчэ і тое дадаецца: войска варожае Богу, волі і парадкам Яго, не бачачы непрыяцеля, самі сябе перарэжуць праз нязгоду сваю. Трэба тое памятаць, што Бог Усемагутны, у часе адмераным, як хто зграшыць, так і карае. Непарадак непарадкам сцірае. Менавіта такі непарадак тут запанаваў, асабліва сярод духоўных іерархаў.

А запытае хто:

— Чы прарок ты, што гэтак кажаш?

У скрусе сэрца адкажу:

— Не прарок, а толькі слуга Стваральніка майго, пасланы да часу. Каб кожнаму праўду гаварыў.

Яшчэ хто запытае:

— А хто сведкам таму?

У страху Божым адказваю:

— Таямніцы яго святыя не патрабуюць вялікага выбадвання, а толькі веры. Майсей сам бачыў купіну палаючую, але не згараючую. Таксама святы Пётра — плашчаніцу спушчаную яму з markdownрознымі гадамі, каб калоў і еў, сам бачыў (Дзеян. X:11 — 12). Усе ўражваемся дзіўнымі справамі Божымі і веруем ім. Таго ж і тут патрэбна. Вера — неадʼемны фундамент збавення для кожнага, яна палягае на добрай волі чалавечай.

Пра непарадкі Касцёла Рымскага ў другой ступні, з волі Божай і часу адмеранага, асабліва калі першая ступня ў шчаслівым выніку знаходзіцца, хто праўдзіва пакажа? Менавіта мяне, нэндзнага Афанасія, Бог Стваральнік мой дзеля таго ўласна і паслаў, каб найперш пра вынішчэнне праклятай уніі абвясціў і растлумачыў. Тую паслугу, воляй Яго святой і помаччу Прачыстай Багародзіцы, з павіннасці маёй праваслаўна-службовай досыць учыніў, як тое можаце бачыць. А наастатак і ў песні, складзенай у турме, агалошваю нотна [...].

Прытым, з абавязку майго духоўнага ў асобе ўсёй царквы Усходняй, малітвы святыя ў пабажнасць і прыняцце ласкавае вашай каралеўскай міласці, пана мне міласцівага, запабягаючы, поўным сэрцам прагну, каб Бог Усемагутны вашу каралеўскую міласць з усім прасветлым Сенатам і панствам на доўгафартунныя гады блаславіў, пашыраў гаспадарства ды найлепш упарадкоўваў. Не толькі з добрых планет — Меркурый, Геркулес, Іовішаў сын, але і сам Творца ўсіх тых — Ісус Хрыстос, Сын праўдзівага Бога Айца з Духам Прасвятым, з павабаю і ўблаславеннем найміласнейшай Венеры. Марыі Прачыстай Багародзіцы, каралеве нябеснай, таму верна спрыяючы, каб імя вашай каралеўскай міласці — Уладзіслаў — на зямлі і на небе з годнымі Богу, панавала славаю на вякі. Зычу, каб шанаванне мелі з Масквы.

Дасць Бог, будзе над вашай каралеўскай міласцю блаславенства Яго святое ў цяперашнім і ў наступныя вякі!

Амінь!

## Прыгатаванне на суд

Найяснейшы каралю польскі, пан і пан мой міласцівы! У справе царквы Усходняй з майго шматгадовага досведу наступныя тлумачэнні і сапраўдныя прычыны.

Што са мной, нэндзным слугой і праўдзівым іерэем, да тых часоў дзеелася і цяпер дзеецца, — усё з волі Бога праўдзівага, творцы майго, як аргументавана паказваецца з высылання мяне да Берасця Літоўскага на ігуменства.

Ад хрышчэння ўсёй Русі ў 987 годзе належыць царква Руская, якая знаходзіцца ў гаспадарстве, да паслушэнства духоўнага сталіцы Канстанцінопальскай і Усходняй Грэцкай царквы. Доказы таму — грэцкі звычай у набажэнстве, пераклад Святога Пісання на славянскую з грэцкай, кронікі і царкоўнае права.

Спачатку законнае жыдоўскае пісьмо з левага боку і царква ў цырымоніях старазаконная былі ўлюбёныя Богам. Аднак дзеля непрыняцця праўдзівага Месіі, старазаконная царква, з усімі яе целапалельнымі ахвярамі, абрадамі і літаральным пісьмом сталася выклятая тымі словамі: «Няхай будзе дом ваш пусты!»

За прыняццем веры ў Хрыста Госпада ўсходнімі людзьмі, грэкамі, ім было дадзена і пісьмо праваручнае ўсходняе. Потым з’явілася пісьмо лацінскае, перакладзенае з грэцкага, ва ўсім з ім згоднае, апроч некаторых слоў і найменняў. І вера адзіная ў Хрыста Госпада, апостальская, кафаліцкая, усходняя на Захадзе

і ў Рыме была прынятая. Сведка — пісьмо-тытла, на крыжы напісанае жыдоўскай, грэцкай і рымскай мовамі.

У нашым панстве спачатку прынятая адзіная хрысціянская, кафаліцкая, арыентальная вера. Яна, з ласкі Божай, прынятая з Усходу і з Захаду. З Усходу — з Новага Рыма, Канстанцінопаля, русь уся хрысцілася ў 952 годзе, выданнем нявесты Вольгі, маскоўкі і пскавянкі, жонкі Ігара, князя ўсёй русі. З Захаду — са Старога Рыма, ад палякаў у 965 годзе, выданнем панны Дуброўкі, балгаркі, дачкі Багеміі, за князя польскага Мечыслава. Як бачна, усё ўзыходзіць да грэцкага пісьма.

Русь карыстаецца славянскай і рускай мовамі, а палякі — лацінскай і польскай. Адпаведна ўжываюць іх у кнігах. Таму розная вера і набажэнствы ў русі і ў палякаў. Сведчаць пра тое Божае права — у звычаі набажэнства і права людское — у законах, што абмяжоўваюць вольнасці.

Абмежаванне вольнасцяў мае варункі публічныя — у канонах, статутах і канстытуцыях, і прыватныя — у фундашах ды прывілеях.

Такім чынам, Божае права суадносіцца са звычаямі, устаноўленымі Богам Усемагутным. Права, пісанае людзьмі, ужо там згадваецца.

Варты святой памяці кароль Жыгімонт Аўгуст у 1569 годзе, за прывярненнем Валынскай і Кіеўскай земляў да Кароны Польскай, надаючы ім прывілеі, веру святую так абумоўліваў: «Абяцаем і ўскладаем на сябе абавязак дыгнігатарстваў і ўрадаў у зямлі Валынскай і Кіеўскай, духоўных і свецкіх, вялікіх і малых, як Рымскага гэтак і Грэцкага законаў, не змяншаць і не затлумляць, а ў цэласці захоўваць іх на вечныя часы».

Па жаласлівай смерці караля Аўгуста, падчас інтэрэгнум на сойме ў Варшаве ў 1573 годзе, менавіта наданні царкоўныя так агаворваліся: «Каб уся маёмасць, наданні каралеўскія, прыналежныя Касцёлу, як тое: арцыбіскупствы, біскупствы ды іншыя ўсялякія даброці, былі даваныя выключна клірыкам Рымскага касцёла, а не каму-небудзь іншаму, шляхціцам польскім, паводле статута. А даброці, прыналежныя Грэцкай царкве, павінны давацца выключна людзям той Грэцкай веры».

Тыя варункі, больш і дакладней абсталяваныя, былі прынятыя на канфедэрацыі.

Іх міласці каралі польскія, якія шчасліва адзін за другім заступалі на панства — Аўгуст, Генрык, Стафан і Жыгімонт кароль, варты святой памяці бацька вашай каралеўскай міласці, пана майго міласцівага, за прысягаю абяцалі ў цэласці захоўваць

веру святую тымі словамі. «І дзеля адрозненняў веры гарантавалі сабе некаторыя абывателі каронныя асаблівай канфедэрацыяй, што будуць захаваныя ў спакоі, а мы ім абяцаем прытрымлівацца гэтага вечна».

І потым, пасля прысягаў сваіх, каралі іх міласці польскія запэўнівалі тымі словамі: «Асабліва сцерагчы будзем спакой і цішыню паміж людзьмі розных вераў. Аніякім чынам — ні ўладаю нашай, ні ўладаю ўрадоўцаў нашых, ні ўладаю якіх іншых станаў — нікога крыўдзіць і прыціскаць у справе набажэнства не дапусцім ды самі не ўкрыўдзім і не прыціснем ніколі».

Патрыярхі канстанцінопальскія, пільнуючыся тых правоў і абавязкаў сваіх пастарскіх, праз лісты, пасланцаў сваіх ды ўласнымі персонамі, паводле часу і патрэбы, воляй Божай, заўжды сюды наведваліся. Святой памяці варты свяцейшы патрыярх Ерамія, дзеля вольнага адпраўлення спраў духоўных у цэрквах сваіх і людзьмі паслушэнства свайго, быў тут у панстве хрысціянскім у 1589 годзе з візітам. Духоўны парадак наводзіў у адпаведнасці з лістом караля яго міласці Жыгімонта Трэцяга, дадзеным яму на тое. Той ліст — відавочны аргумент кожнаму, хто хоча бачыць праўду.

На тых здрайцаў і згаршыцеляў, што адступілі і ўцяклі ад царквы сваёй духоўнай і веры праўдзівай хрысціянскай, якой кляліся, — накладзена назаўжды клятва страшная як у канонах айцоў святых, гэтак і ў фундушах парадку духоўнага брацкага ад патрыярхаў і епіскапаў.

Пацей, епіскап берасцейскі, з мітрапалітам Рагозам ды іншымі таварышамі сваімі, здрадліва, без азнаямлення пастыра свайго і парафіянаў сваіх, дзеля ўласнай карысці, дзеля гонараў рымскіх духоўных і сталкоў сенатарскіх дзеялі, прагнучы выірваць выгоды з рук свецкіх асобаў. Неналежнаму і ў набажэнстве неадпаведнаму пастыру, імем усіх праваслаўных, безразважліва і хціва аддаліся ў паслушэнства. Доказ таму — іхныя лісты, напісаныя да князя Астрожскага і да люду паспалітага.

Каралі іх міласці жаласна ў тым былі ашуканыя ад нябачных сваіх духоўных рымскіх. Той Уніі ва ўсім дапамагалі і адступных ад клятвы баранілі, выдавалі прывілеі уніятам. Уніяцкія калатнечы і злосці на розных месцах, а то й паўсюль пачаліся. І з казакамі нутраная вайна непатрэбная з-за таго ж была. У пацверджанне таму знойдзецца шмат доказаў і пратэстацый.

Кароль, пан міласцівы, святой памяці варты Жыгімонт Трэці, пан бацька вашай каралеўскай міласці, пана майго міласцівага,

дзіўнай справай Божай у 1599 годзе пацвердзіў праўдзівую клятву сапраўдных духоўных айцоў, ускладзеную на уніятаў. Тым жа прывілеем загадаў патлуміць усе абароны уніятаў.

Уніяты, якія аддаліся ў паслушэнства заходняму Рымскаму касцёлу, што ўсе Богам вучаныя выдатна зразумець могуць, сталіся яўнымі і значнымі супраціўнікамі, злоснікамі і тыранамі адзінай, святой, кафаліцкай, апостальскай, Хрыстовай Божай царквы. Выканалі і перавысілі злосці і тыранствы ўсіх злачынцаў і бязбожнікаў. А менавіта, у тых галоўных чатырох справах.

*Першая.* Мізэрна адштурхнулі праўдзівага адзінага пастыра Ісуса Хрыста ад царквы, набытай Яго ўласнай найдаражэйшай крывёю. Адцялі галаву Божую і чалавечую ад цела Яго (з лаянкай бязмежнай) і прынялі сабе на тое месца чалавека адзінага за пастыра і галаву.

*Другая.* Парушылі права паспалітае духоўнае і свецкае, публічнае і прыватнае, гэта значыць, каноны, статуты і канстытуцыі, фундушы і прывілеі. Гэтаксама значна і яўна чыняць змяншэнне і затлумленне веры праўдзівай Грэцкай, у адпаведнасці з лістом айца папежа Кліменція, які патрабаваў, каб ва ўсім захоўваліся паводле пастановаў Фларэнційскага і Трыдэнскага сінодаў, на ўзор іншых хвалілі Касцёл Рымскі Заходні. Каб вызнавалі: паходжанне Святога Духа як ад Сына, гэтак і ад Айца; сакрамент святы ў апраснаку пад адзінаю асобай; вогненны Чысцец душам па смерці; пост суботні ды іншыя пасты разарваныя; бязшлюбнасць свецкіх капланаў; адмену календара; юбілеі на непапоўненыя грахі; адпушчэнне грахоў ды ўсё іншае паводле навук выдуманых, новых, папскіх, штогод адкідваемых, а не паводле Хрыстовых, апостальскіх, сінодаў сямі і канонаў айцоў святых.

*Трэцяя.* Цэласнасць дзвюх рэлігіяў, менавіта Рымскай і Грэцкай, з даўніх часоў тут правам умацаваную і ўсталяваную, аднялі і пабурылі.

*Чацвёртая.* Прысязе сваёй уласнай, пры пасвячэнні ў патрыярха выкананай, здраднікамі сталіся.

Такім парадкам, уніяты паводле такіх сваіх учынкаў, яўных і значных, выразна адпалі ад пастыра свайго ўласнага, царквы Усходняй і веры Праваслаўнай Грэцкай. А значыць, і пазбавіліся права на маёмасць Грэцкай царквы.

Называюць Касцёл Рымскі Заходні нечуваным у Хрысціянстве імем — «уніятамі», а не царквы Усходняй Грэцкай праваслаўнымі хрысціянамі.

Дзеля тых прычынаў русь незуніяваная Божым натхненнем і справаю Духа Святога засцераглася ад тае сумнеўнай хітрасці Люцыпера праклятага. Ведаючы добра пра выбрыкі ягоныя, што можа з птаха псом і лісам перавярнуцца, з ліса — воўкам і львом, а з льва — базылішкам і цмокам пякельным стаць. Тое пазнаецца дзякуючы двум найгалоўнейшым рэчам.

*Першая,* што пад тытулам слоўка таго «унія». Гэта значыць пад імем згоды, духоўных іерархаў, на зямлі будучых, а таксама меншых уладыкаў, кажу, з біскупамі на трыумфы і працэсіі найвышэйшыя (бо не ў набажэнстве) згадзіцца задумалі. Абяцалі ім за тое сталкі сенатарскія і маёмасць земскую. Накшталт нейкага лісінага кумаўства і таварыства. Спачатку па ялмужну выпраўляе, гэта значыць, фундацыі царкоўныя ва ўладаннях і местах каралеўскіх адбірае, хочучы тым самым лёгка выдаць авечак Хрыстовых самому ваўку драпежнаму і Цмоку пякельнаму на вечнае паяданне з лаянкай. Як у той байцы. Ліска з ваўком пакумілася. Калі пайшлі па ялмужну, воўк кажа:

— Кума, пароўну дзяліць будзем.

А як сабралі, заявіў:

— І сваё і тваё я з’ем адзін!

Хто ж таго не ведае, што біскуп і епіскап нагадваюць тое ж! І абумоўлена канонамі айцоў святых, што ад аднаго пастыра над адным местам двух біскупаў быць не павінна.

*Другая,* што пад тытулам «міласці Божай». І тут схаваў, якога Бога: чы добрага, чы злога? Людзей з людзьмі словам толькі згаджае, а не справаю. Прыводзіць толькі да міласці палітычнай, свецкай, аблуднай, а не да духоўнай і праўдзівай. Лучыць сакраменты святыя, артыкулы веры і дагматы святыя. Прагнуў вораг, сапраўдную міласць знішчаўшы, як найхутчэй прывесці да заняпаду Царкву Хрыстову і веру праўдзівую, вырваць яе з памяці і розуму людскога, патлуміць і на вякі страціць. Як хацеў быў учыніць і крыжу годнаму на гары Галгофе, бо на тым месцы, паводле сведчання Метафраста і іншых гісторыкаў, пабудаваў праз жыдоў камяніцы. Аднак Алена, матка цэсара грэцкага Канстанціна Вялікага, з цяжкасцю адшукала той крыж.

Тое, кажу, ведаюць усе, хто давярае навуцы Ісуса Хрыста, які кажа: «Калі вока спакушае — выкалі яго, калі рука — адсячы яе». У адпаведнасці з гэтым, паводле права паспалітага, духоўнага і свецкага, а таксама згодна з канонамі святых айцоў, адбыўся сабор у Берасці Літоўскім, які быў правамоцным, бо праводзіўся з дазволу патрыярха і з дазволу караля, пана свайго, ад духоўных і свецкіх людзей. Скліканы універсаламі

6 кастрычніка 1596 года, маючы кворум, Сабор адлучыў ад царквы уніятаў, як адшчапенцаў, здраднікаў і непрыяцеляў галоўнай царквы Усходняй Грэцкай Праваслаўнай. Справядлівым судом Божым яны патопленыя і праклятыя на вякі вечныя. Дэкрэты, занесеныя ў кнігі Вялікага Княства Літоўскага, трыбунальскія і места Наваградка, аб тым сведчаць.

Берасцейскі сабор дзейнічаў на ўзор іншых сабораў генеральных і мясцовых. Як Арыя, прэсвітэра александрыйскага, які Ісуса Хрыста лічыў стварэннем і не прызнаваў яго роўнасці з Богам, на Нікейскім першым саборы на вякі патапілі, бо сабор кворум меў. Македонія духаборцу — на Канстанцінопальскім, Несторыя — на Эфескім, Дыяскора — на Халкедонскім, Арыгена — на Канстанцінопальскім, абразаборцаў — на Нікейскім, Ганорыя, папу рымскага, манаталіта — на Канстанцінопальскім. Ліберыя, папу рымскага, арыяніна, і Маркела, балвахвалцу, — на Рымскім саборы мясцовым. Гілдэбранда, папу рымскага, які праз чарнакніжніцтва на папства заступіў — на Брыксінскім саборы мясцовым на вякі анафеме аддалі, бо кворум мелі, і гэтак далей.

Святы Хрызастом кажа: «Там найлепшая згода, дзе гніласць адцінаецца». А каралюючы прарок кажа: «Усякі чалавек — хлусня». Нехта Альфонс дэ Кастра піша: «Усякі чалавек можа блудзіць у веры, нават сам папа».

У 1638 годзе быў я ў пошуках ялмужны на збудаванне царквы Купяціцкай ў Маскве. Без усялякага пасведчання, толькі воляй Божай і апекай Прачыстай Багародзіцы ў крыжы купяціцкім. Ездзіў таму, што тут, у панстве хрысціянскім, праўдзівая Усходняя царква з-за разарвання згоды святой і уніі той праклятай, не толькі фундацыяў, але аніякай дапамогі не мела і мець не магла. Калі быў у сталіцы маскоўскай, шчыра напісаў гісторыю майго падарожжа, з вытлумачэннем таямніцаў Божых дапамогі занядбанай Усходняй царкве. Затым на сойме 1643 года ў Варшаве падаў яе публіцы, у Сенаце да іх міласцяў паноў сенатараў, разам з суплікай. Кіраваўся я воляй Прачыстай Багародзіцы ў крыжы купяціцкім, дбаючы пра справядлівасць у дачыненні да святой Царквы.

У 1644 годзе ездзіў да Кракава, каб давесці пра крыўды і патрэбы царкоўныя, у прыватнасці, пра напад студэнтаў на царкву, пра перасleды і збіванне на вуліцах, пра захоп двух коняў з возам і з рэчамі на некалькі сот залатых ад нейкага Аблачынскага, уніята, а найбольш пра абразанне барады святару

і распрананне дыякана, а таксама пра іншыя дэспекты і крыўды невыносныя ад таго ж Аблачынскага ды уніяцкіх папоў. Ехаў, каб атрымаць напамінальны ліст караля пана да тых крыўдзіцеляў і да пана Сапегі, ваяводы навагрудскага. Вёз з сабой лісты пана маршалка Казаноўскага, слугі яго міласці, да юрысты Ваўрынца Зычэўскага. Дбаў пра прывілей, замацаваны пячаткай, на царкву праваслаўную берасцейскую.

Усе доказы пра сказанае — праўдзівыя.

### Парада побажная, імем Ісуса Хрыста, адкупіцеля нашага, каралю польскаму Уладзіславу Чацвёртаму, пану, пану мне міласціваму

З рэдкім шчыраваннем старацца і паўсюдна ў панстве хрысціянскім вынішчаць хлуслівае літаральнае пісьмо і кнігі жыдоўскія, чарнакніжныя. Паўсюль, дзе толькі можна пра іх пачуць — у Ракаве і ў Кракаве. Бо яны варожыя Богу праўдзіваму і прышэсцю другому Яго святому.

Імя людзям нянавіснае, найменню Ісуса надта брыдкае, а менавіта «езуіцкае», у панстве хрысціянскім належыць зганіць ды старацца, каб яго не было. Бо яны — значныя папярэднікі Антыхрыставы.

Родзічу свайму, міламу Жыгімонту Трэцяму, учыніць святую памятку ў выглядзе капліцы, годнай каралеўскага кошту і ўшанавання, а не на слупе. На слупе ж тым размясціць абраз цудатворны Прачыстай Багародзіцы Купяціцкай з матэрыі спіжавай або іншай, як будзе воля каралеўская.

Дзеля выбаўлення душы пана бацькі свайго каханага трэба звярнуцца з малітвамі праз лісты да пяці патрыярхаў Усходняй праўдзівай кафаліцкай царквы. За прыкладам Феадоры, нявесты побажнай, якая за мужа свайго Феафіла, цэсара грэцкага, абразаборцы, тым парадкам улагоджвала маястат Бога праўдзівага і ўлагодзіла.

Усё тое будзе рабіцца ў адпаведнасці з воляю Божай, калі галоўны сабор Захаду з Усходам спрычыніцца да прызнання веры і царквы адзінай праўдзівай, а не так, як сабор у Торуню, калі сляпы сляпога вадзіў. Бо «Не ўсякі, што кажа Мне: Госпадзі, Госпадзі! Увойдзе ў Царства Нябеснае». А таксама, не кожны, хто кажа: «кафоліс, кафоліс» — ёсць сапраўдны кафолік.

Яшчэ наастатак пра тое ж імя Хрыстова скажу: што гэта за лёс быць гаспадаром у неўпарадкаваным доме і панам у свавольным панстве!

Добра тое сталася, што капланы даюць дзесяціну з плябаній вашай каралеўскай міласці, пану мне міласціваму. Азначае гэта паніжэнне ганарлівасці Рымскага панства, якое ўжо ўпала.

## Прычыны ўчынку майго ў царкве святой Кіева-Пячорскай Цудатворнай на ўсталяванне ганаровага крыжа, 1646 года

1. Пра Ісуса Хрыста, які ўмацоўвае мяне, смутак нясцерпны ад крыўды апанаваў мною.

2. Каб справу справядлівую, распачатую воляй Божай, праўдзіва, паводле сіл нямоглых маіх, давёў да дасканаласці і прыняцця прававернымі духоўнымі і свецкімі людзьмі.

3. Каб абаронцаю імя Ісуса Хрыста мог стаць перад Уніяй праклятай.

4. Каб паказаў відавочна, што ў той справе царкоўнай не прыватным чым кіруюся, а выключна дзеля Бога, Творцы майго.

5. Каб лаянку на свой адрас вытрываў ад тых, каторыя кажуць: «Дурны тое чыніць!» І каб даведаўся, адкуль і за што цярплю ганенні.

6. Каб пыху сярод сваіх скарыў пакораю цераз мяне Ісус Хрыстовай.

7. Каб настойлівасць маю ў справе Божай, уручанай мне воляй Яго святой, захаваў і ў пэўны час выявіў.

Наагул ва ўсім узяўся выконваць волю майго Бога Ісуса Хрыста з малітвамі Прачыстай Багародзіцы, асабліва праз абраз яе святы цудатворны Купяціцкі, у крыжы намаляваны. Больш пра сябе не ведаю. Толькі волі Божай і першасвятарству вашаму пакорна сябе пакладаю.

Афанасій Філіповіч, ігумен берасцейскі.



# АПОВЕСЦЬ ПРА ПАКУТЫ І СМЕРЦЬ АЙЦА АФАНАСІЯ ФІЛІПОВІЧА

Ананімная «Аповесць пра пакуты і смерць Афанасія Філіповіча» — адзін з найбольш яркіх мастацкіх твораў першай паловы XVII ст., напісаны берасцейскім манахам, імя якога, на жаль, не ўстаноўлена. На тытуле невядомы аўтар вызначыў жанравую прыналежнасць твора, назваўшы яе «аповесцю».

«Аповесць пра пакуты і смерць Афанасія Філіповіча» мае разгорнутую кампазіцыйную будову. Яна ўключае 10 асноўных кампанентаў, сярод якіх ўмоўна вылучаюцца: уступ-зачын, гістарычная даведка-напамін, сцэны літургіі, допыту, у вязніцы, у абозе, катавання і забойства, стыхіі, адшуканне цела і перазахаванне закатаванага. Ва ўступе аўтар канкрэтызаваў творчую задуму — занатаваць апошні перыяд жыцця Афанасія Філіповіча, паказаць яго цяжкія пакуты і смерць, каб і праз вякі людзі не забыліся пра зверствы і здзекі са святара. У гістарычнай даведцы пісьменнік спыніўся на старонках біяграфіі Афанасія Філіповіча. Тут жа ён канстатаваў пераследы праваслаўных вернікаў з боку іншаверцаў.

Вельмі каларытна пісьменнік намаляваў сцэну літургіі. Асноўны акцэнт ён зрабіў на з’яўленні ў бажніцы прачыстай Дзевы Марыі Багародзіцы ўзброеных шляхціцаў і рэакцыі на іх ігумена, які адпраўляў службу.

У сцэне першага допыту аўтар асвятліў некалькі момантаў: два спектры дыскусіі — пра супрацоўніцтва Афанасія з казакамі і яго публічныя выступы супраць Уніі, абшуканне жылля ігумена, нарэшце, збіццё затрыманага.

Ключавое месца ў аповесці займае сцэна катавання і забойства героя. Яна ўключае наступныя топікі: указанне дакладнага месца ўчынення злачынства — барок за чвэрць мілі ад вёскі Гершановічы, з правага боку дарогі; характарыстыку формы катавання — палілі цела распаленым жалезам; узнаўленне апошняга слова героя, з якім ён звяртаўся да катаў; раскрыццё спосабу забойства; асвятленне апошніх хвілінаў жыцця, падчас якіх смяротна паранены Афанасій трымаецца на сваіх нагах за сасну, покуль яго не саштурхоўваюць у яму, дзе ён пераварочваецца тварам да неба і сашчэплівае крыжам рукі.

Аўтар даволі спецыфічна афармляў пераход ад аднаго эпізода да другога. Так, пераход ад уступу да гістарычнай даведкі-напаміну вы-

кананы з дапамогай выказвання: «*Напрод теды… припоминаем тое*». Пераход да сцэны літургіі абазначаны часавай прывязкай: «*А был на тот час день соботный, мяновите — першій іюля*». Таксама ў якасці інструмента пераходу ад сцэны катавання і забойства да ўзнаўлення стыхіі аўтар скарыстоўваў часавую формулу: «*Той зась ночы…*»

Аўтар «Аповесці…» выкарыстаў шырокі арсенал мастацкіх сродкаў для стварэння вобраза галоўнага героя, а таксама іншых дзейных асобаў. Пісьменнік імкнуўся да паўнаты і вычарпальнасці. Ён зафіксаваў паваротныя моманты ў лёсе Афанасія, назваў суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары, што вызначалі яго, указаў, хто і калі канкрэтна паўплываў на змену жыццёвых пуцявінаў героя. Так, паводле яго звестак, высылка з Варшавы да Кіева адбылася на падставе рашэння манарха Уладзіслава IV, а пераезд у Луцк прапанаваны епіскапам Пузынам, ініцыятарамі ўзвядзення на пасаду ігумена Берасцейскага манастыра выступілі сябры праваслаўнага брацтва, і менавіта іхную просьбу задаволіў луцкі епіскап Пузына, у дыяцэзіі якога знаходзіўся манастыр.

Пісьменнік вельмі шмат увагі аддаваў псіхалагічнаму стану героя, яго перажываннім. Так, у момант з'яўлення на парозе храма шляхціцаў, героя ахоплівае страх, наступае момант акамянення і здранцвення, з якімі ён ледзьве спраўляецца і з цяжкасцю завяршае службу.

Невядомы майстар слова паказвае героя ў крытычных сітуацыях — у момант, калі раз'юшаныя шляхціцы чыняць над ім самасуд, абражаюць і збіваюць яго.

Цалкам у барокавым стылі падрабязна абмалёўваецца закатаванае цела Афанасія, падаюцца дэталі пра кулявыя адтуліны ў галаве, счарнелыя ад распаленага металу месцы на целе, знявечаны ад стрэлу твар, выпаўшы з рота язык, які зашчаміўся паміж зубоў.

Апрача галоўнага героя ў аповесці створаны вельмі яркі вобраз Гайдука, якому загадана выканаць прысуд — застрэліць святара. Гайдук вагаецца, яго ахоплівае спалох, ён просіць прабачэння і дабраславення ў ахвяры, а затым у адчаі страляе ў лоб і забівае Афанасія. Пазней ён раскайваецца ў здзейсненым, распавядае пра свой грэх людзям.

Выключную мастацкую ролю ў аповесці адыгрываюць дыялогі. У творы пададзеныя дыялогі галоўнага героя: тры з шляхтай, два з братчыкамі, адзін з князем Радзівілам і біскупам Гэмбіцкім, адзін з катамі. У аповесці таксама змешчаны дыялог пана Шумскага з гайдукамі і дыялог пана Масальскага з шляхтай. Семантыка дыялогаў вельмі разнастайная, у іх гучаць ультыматумы, абвінавачанні, апраўданні, пагрозы, запалохванні.

Пісьменнік шырока карыстаецца рэмаркамі, уводзіць у тэкст яркія мастацкія дэталі. Яны, як правіла, фіксуюць месца знаходжання прамоўцы, ягоныя жэсты, паказваюць вонкавы стан — спакойны, узбуджаны, незадаволены.

Аўтар нярэдка падкрэслівае асаблівасці голасу персанажаў: побач з нейтральнымі — «*рекл*», «*мовил*» — падаюцца якасныя

характарыстыкі: «*мовил великим голосом*», «*крикнули*», «*выригнул свою злобу*».

У аповесці зраблена адна з першых у беларускай літаратуры спробаў падаць пейзажны малюнак у звязку з асноўнымі падзеямі ў творы. Несправядлівая смерць героя выклікала гнеў прыроды, распачалася бура, на працягу ночы паліла страшная маланка і біў гром.

З мастацкіх мікраэлементаў ананімны аўтар перадусім выкарыстоўваў параўнанні. Адно з найбольш яркіх — параўнанне паводзінаў Афанасія Філіповіча на допыце з паводзінамі апостала Паўла перад імператарам Агрыпам.

*Іван Саверчанка*

Што вачыма нашымі бачылі і што ад іншых асобаў маглі даведацца — пра пакуты і зыход з гэтага свету нябожчыка айца Афанасія, ігумена нашага, тое пішам і сведчым. Не пішам пра жыццё яго і справы, пра якія і самі ведаюць усе, а таксама творы нябожчыкавы апавядаюць дастаткова. Мы тут раскажам пра пакуты і смерць яго, каб маглі пра іх ведаць тыя, хто прагне ведаць сёння або потым.

Таму, каб парадак у той справе нашай захавалі, найперш пачнем ад таго часу, як слаўнай памяці найяснейшы Уладзіслаў Чацвёрты, кароль польскі, выслаў быў нябожчыка айца ігумена з Варшавы да Кіева, дзе ён жыў бязвыезна ажно да смерці святой памяці спадара айца Пятра Магілы, мітрапаліта кіеўскага.

Потым прыехаў яго міласць айцец Пузына, епіскап луцкі, да Кіева на пагрэб мітрапаліта і ўзяў яго з сабою да Луцка. Затым, за просьбай нашай і за просьбай свецкага брацтва, прыслаў да нас на ігуменства ў Берасце, якое належала да ягонай дыяцэзіі.

Хтосьці нядобры ў тым часе забурыў вайну з казакамі. І паўстала вялікае пераследванне і непатрэбная суспіцыя на бедную русь ад іншаверных па ўсёй Кароне Польскай і Вялікім Княстве Літоўскім.

Нічога ж нябожчык, айцец ігумен, і не гаварыў кепскага супраць уніятаў. Сядзеў сабе ціха ў манастыры падчас той трывожлівы. Але раптам паны судовыя каптуровыя Берасцейскага ваяводства, з ініцыятывы пана Шумскага, на той момант капітана гвардыі каралеўскай, прыслалі некалькі асобаў з ліку шляхты да манастыра нашага, каб узяць яго да замка.

А быў на той час дзень суботні, менавіта першы дзень ліпеня, і сам нябожчык адпраўляў літургію ў храме Нараджэння Прачыстай Дзевы Багародзіцы ў другім сваім манастыры. Калі ўбачыў тую шляхту, якая па яго прыйшла, у царкве, падчас спявання «Іжэ херувім», стоячы ля прастола, дужа ўстрывожыўся. Ён нібы

страціў прытомнасць, скамянеў, доўга нічога не адпраўляў, хоць трэба было другі раз праспяваць песню херувімскую. Потым адышоў і прадоўжыў, скончыўшы парадкам усю тую літургію. Па сканчэнні выслухаў шляхту, якая па яго прыйшла была. І адразу, з царквы, нікуды не заходзячы, узяў з сабой другога брата і накіраваўся да замка.

Там, калі паўстаў перад судовымі панамі, пачаў спачатку да іх ласкава прамаўляць, паказваючы ім вялікую павагу і шанаванне. Як Павел святы перад імператарам Агрыпам быў шчаслівы, што прамаўляе перад імі. Але тыя паны судовыя перапынілі нябожчыка і, не слухаючы далей, загадалі інстыгатару, памянёнаму пану Шумскаму, распачаць і праводзіць супраць яго справу аб дасыланні нейкіх лістоў і пораху казакам.

Айцец ігумен на тое кажа:

— Міласцівыя панове! Хлусня і выдумкі, нібыта я лісты ці порах казакам дасылаў. Вы маеце паўсюль сваіх мытнікаў, пашліце да іх, няхай яны скажуць, калі і куды я правозіў порах. А што да лістоў, няхай мне нехта прывядзе доказ на карысць таго, што я іх пасылаў.

Тады яны адразу накіравалі таго інстыгатара і іншых пры ім, каб яны ператрэслі нашыя абодва манастыры і пашукалі тых лістоў і пораху. А калі нічога там не знайшлі і ўжо назад вярталіся, вырыгнуў сваю злосць інстыгатар, рыкнуўшы да гайдукоў сваіх:

— Ей, бадай, вас пазабівала б! Не маглі падкінуць якога мяшэчка пораху, паведаміўшы, што тут у манахаў знайшлі!

Убачылі й самі судовыя паны, што няма аніякіх доказаў, а толькі пустыя словы, сапраўдная выдумка. І пакінулі яго ў спакоі.

Затым пра іншую справу пачалі распытваць, кажучы:

— Але ж ты Унію святую ганіў і праклінаў.

Адказваючы на гэта, нябожчык айцец ігумен найперш перахрысціўся, прамовіў да іх:

— Ці за гэтым, міласцівыя панове, прасілі мяне да вас прыйсці, што я ганіў і праклінаў Унію вашу? Што на сойме ў Варшаве перад каралём яго міласцю, панам сваім найяснейшым Уладзіславам Чацвёртым і сенатам яго прасветлым мовіў і заўжды паўсюль гаварыў, тое ж і перад вамі цяпер кажу: праклятая гэтая Унія ваша, і ведайце пэўна, калі яе з панства свайго не выкараніце і Праваслаўнай Усходняй царквы не супакоіце, дык зведаеце над сабою гнеў Божы!

Прамовіў гэтыя словы гучным голасам, каб і тыя, што воддаль стаялі, добра маглі чуць.

Адразу некаторыя з прысутных там, у адказ на яго словы, крыкнулі:

— Сцяць! Катаваць! На палю ўзбіць гэткага схізматыка!

І ўжо пачалі былі яго адзін да другога штурхаць і тузаць. Але судовыя паны загадалі ўсім пакінуць залу. Перамовіўшыся між сабою, кажуць да айца ігумена:

— Заслугоўваеш таго, каб цябе зараз тут ганебная смерць спаткала, якой табе не мінуць. Але цяпер пастанавілі ўзяць цябе да вязніцы, пакуль не атрымаем звестак з Варшавы.

Таго брата, які з ім быў, адпусцілі. А яго да цэйгаўзы да вязення ў тым жа замку Берасцейскім аддалі году 1648 ад Нараджэння Ісуса Хрыста, месяца ліпеня першага дня.

Затым, праз некалькі дзён, яшчэ і кайданы на ногі ўскласці загадалі. І гэтак у вязніцы сядзеў ажно да дня пятага месяца верасня таго ж года. Седзячы там, нябожчык пасылаў некалькі разоў аднаго з нас, сваіх братоў, да судовых паноў, каб мы прасілі: зрабіць палёгку для яго, адну з тых рэчаў учыніць — або каб кайданы загадалі зняць, або каб з цэйгаўзы выпусцілі. Абяцаў у кайданах хадзіць, покуль яны захочуць.

Рабіў ён гэта з тае прычыны, як нам сам паведаміў, каб давесці да іхнага ведама і разумення — неабходнасць адмены іхнай настырнасці ў справе Уніі.

Казаў:

— Бо калі гэтак ласкава са мной паступяць, мяне з кайданоў або з турмы вызваляць — значыць, і словы мае супраць Уніі выказаныя сцерпяць і прымуць. А калі нават і такую малую рэч не дазволяць — пэўне ж і большай не дазволяць, бо за Унію моцна стаяць.

А затым і пра супакаенне казаў:

— Не можам паклапаціцца пра сябе, супакою пазбавіліся з-за Уніі і крыўдаў, нанесеных Царкве Маткі нашай Праваслаўнай.

Калі ён пабачыў, што нічога яму не хочуць дазваляць, смела пачаў гаварыць:

— Не выйдзе з панства меч і вайна, пакуль канчаткова не будзе зламаная шыя Уніі! Дасць Бог неўзабаве дабраславенне заквітнее! Вось, вось заквітнее, а Унія хутка згіне!

І так часта паўтараў. Калі бачыў шляхту, да іх з цэйгаўзы праз акно прамаўляў.

Прыйшоў аднаго разу да айца ігумена брат, які ў той справе да судовых хадзіў, і кажа яму:

— Не хацелі вас паны ані з кайданоў, ані з турмы выслабаніць, таму не могуць вайны з казакамі скончыць.

Неўзабаве прыйшла да яго і шляхта з тым братам паслухаць, што адкажа айцец ігумен.

А ён пры ўсіх і кажа:

— Не спыніцца тая вайна, бо не хочуць Уніі з панства свайго выкараняць.

Шляхта, пачуўшы ад яго гэтыя словы, усклікнула: «Вой, які схізматык!» І адразу пайшла адтуль да суда.

Аднойчы, у прысутнасці князёў і біскупаў, імёны якіх тут не называем [на полі заўвага: біскуп луцкі — Гэмбіцкі; князь, канцлер — Радзівіл], загадалі судовыя паны прывесці да сябе нябожчыка ў кайданах. І запытаў яго той біскуп, ці праклінаў ён Унію. І прызнаўся нябожчык у тым, кажучы:

— Так! Бо яна і ёсць выклятая!

Біскуп, не жадаючы слухаць далей, вымавіў:

— Будзеш раніцай язык свой бачыць у руках ката!

І загадалі да вязніцы адвесці і пасадзіць.

У ноч з чацвёртага на пятае верасня таго ж года нябожчыка айца ігумена вызвалілі з вязніцы, раскавалі з кайданоў і праводзілі да абоза.

Перад тым аднак, кажуць, езуіты, ведаючы пра яго смерць, прыйшлі ўначы да вязніцы і пачалі словамі і абяцаннямі адводзіць яго ад веры праваслаўнай, а затым і вогненнымі пакутамі палохалі. Але нічога, за ласкай Божай, не дамагліся, самі назад адышлі, толькі паслалі свайго студэнта па яго, які працягваў угаворваць нябожчыка перадумаць і не даць загубіць сябе. На іхныя прапановы ён сказаў перадаць ім:

— Няхай езуіты ведаюць: як ім міла ў раскошы гэтага свету жыць, так мне міла цяпер на смерць пайсці.

Што рабілі з ім у абозе, розныя чуткі ходзяць між людзьмі. Калі яго тае ночы прывялі да абоза і хацелі перадаць пану ваяводу берасцейскаму [на полі: ваявода Масальскі], той не захацеў яго да сябе браць і так сказаў:

— Навошта яго да мяне прывялі? Трымаеце яго ў сваіх руках і чыніце з ім што хочаце.

Калі яго гэтак выдаў старэйшы, узялі яго да сябе тыя, хто даўно прагнуў яго крыві. І вялі яго да барку, які недалёка быў ад абоза, чвэрць мілі ад сяла Гершановічы, з левага боку. Там перадусім пяклі яго агнём. Адзін гайдук, што стаяў наводдаль, чуў голас нябожчыка айца, які нешта грознае ў пакутах крычаў. Потым паклікалі таго гайдука і загадалі яму мушкет забіць дзвюма кулямі. Там жа загадалі падрыхтаваць дол. Спыталі

айца наперад, ці адмаўляецца ад сваіх словаў датычных Уніі, на што ён ім адказаў:

— Што сказаў, тое сказаў. З тым і паміраю.

Загадалі таму гайдуку, каб у лоб яму стрэліў з мушкета. Гайдук, бачачы, што перад ім духоўны і добра яму знаёмы, папрасіў найперш даравання і добраславення, а потым у лоб яму выстраліў і забіў.

Той гайдук усім людзям, годным веры, пра тое расказваў. А мы ад яго даведаліся і тут напісаць загадалі.

Тое дзіва, што расказваў гайдук. Нібыта нябожчык, прастрэлены дзвюма кулямі ў лоб навылёт, абапёрся аб сасну, стаяў нейкі час у сваёй моцы, да таго часу, пакуль не загадалі саштурхнуць яго ў магілу. Але й там, кажа, яшчэ сам тварам уверх перавярнуўся, рукі на грудзях на крыж склаў і ногі выцягнуў. Потым яго знайшлі на тым месцы менавіта так ляжачага.

Тае ж начы, калі яго страцілі, вялікі страх напаў на нас і ўсіх месцічаў. З тае прычыны, што ў пагодную ноч, калі не было бачна ніводнай хмары, паліла страшная бліскавіца па ўсім небе. Таксама загадалі паны ўсім цэхам і гайдукам сабрацца ды цэлую ноч на рынку напагатове стаяць. Якраз яны бачылі ўсе тыя жахі на небе і распавялі пра іх.

Прызначаная шляхта і жаўнеры тым часам выправадзілі нябожчыка, айца ігумена, з замка на Замухавечча і вышэйапісаным спосабам страцілі яго на месцы памянёным.

Ляжаў нябожчык няведама дзе, не пахаваны намі, ад пятага верасня ажно да першага мая, восем месяцаў. Здагадваліся, што няма яго ўжо на свеце жывога, але не ведалі, дзе ягонае цела. Нарэшце хлопчык адзін гадкоў сямі-васьмі паказаў нам тое месца, дзе яно знаходзілася. Спачатку мы хацелі даведацца, ці ён гэта або хто іншы. Бо намераліся патаемна яго адтуль вывезці, таму што тая зямля, дзе ляжала цела, належала езуітам. Затым, дачакаўшыся ночы, адкапалі яго, упэўніліся, што гэта сапраўды ён, і адразу ж на іншае месца перавезлі. Побач з целам не знайшлі аніякіх рэчаў, апрача адной кашулі, і тое падранай.

Назаўтра, з дазволу яго міласці пана Феліцыяна Тышкевіча, палкоўніка харугваў паветавых берасцейскіх, праводзілі цела да свайго манастыра Нараджэння Прачыстай Багародзіцы. Потым праз некалькі дзён у храме святога айца нашага Сімяона Стоўпніка, на правым клірасе, у склепіку пахавалі. Перад тым, пагрэб яго ў адпаведнасці з парадкам царкоўным учынілі. І цяпер там ягонае цела, дабрадзействам Божым, без псавання захоўваецца.

На целе яго бачныя знакі пакутаў і смерці. Пад пахамі з абодвух бакоў голыя косці, асобныя кавалкі цела ад агню дужа счарнелыя. У галаве тры адтуліны: дзве блізу вуха з левага боку, вялікія, як бы куля мушкетная, а трэцяя — з правага боку, за вухам, нашмат большая, чымся першыя дзве. Твар яго дарэшты счарнелы ад пораху і крыві. Язык з рота між зубоў крыху выйшаў і там прысох. Здагадваемся пра прычыны, мусіць, жывога яшчэ закапалі, і ў вялікіх пакутах канання тое сталася.

Бог дабрадзействам сваім няхай умацуе і нас, дасць трываласць дзеля імені яго святога!

Амінь!



# ФЕАДОСІ БАРАВІК

*(першая пал. XVII ст.)*

Феадосі Баравік — беларускі пісьменнік, жыровіцкі манах. Біяграфічных звестак пра яго амаль не захавалася. Вядома, што менавіта пяру Ф. Баравіка належаць два творы: «Пра абразы і рэліквіі» і марыялагічная «Гісторыя, або Аповесць розных людзей пра цудадзейны абраз Жыровіцкай Дзевы Марыі».

Першы твор пісьменніка «Пра абразы і рэліквіі» — тыповы палемічна-публіцыстычны трактат, на старонках якога пісьменнік выказваў сваё стаўленне да пакланення абразам і шанавання святых прадметаў, рэліквій, вакол чаго ў тагачаснай рэлігійнай літаратуры адбываліся гарачыя дыскусіі. Палемізуючы з ідэолагамі Рэфармацыі, аўтар адстойваў традыцыйную, артадаксальную пазіцыю, даказваў выключнае значэнне абразоў і рэліквій у царкоўным жыцці.

Другі твор Ф. Баравіка «Гісторыя, або Аповесць розных людзей пра цудадзейны абраз Жыровіцкай Дзевы Марыі» — арыгінальная аповесць, у аснове якой містычныя падзеі, звязаныя з цудадзейным абразом Маці Божай Жыровіцкай.

Выразная асаблівасць паэтыкі «Гісторыі пра Жыровіцкі абраз Божай Маці» — наяўнасць дынамічнага сюжэта, найважнейшыя складовыя якога — з'яўленне цудадзейнага абраза; узвядзенне на знакавым месцы бажніцы; пажар у царкве і цудадзейная некранутасць абраза агнём; таямнічае перанясенне абраза на іншае месца; пабудова новага храма і змяшчэнне там абраза; шматлікія цуды, якія назіраюць шмат людзей.

Заключны кампанент аповесці — сведчанні людзей, што дзякуючы цудадзейнай моцы абраза выратаваліся ад хваробаў. Цудадзейныя ўласцівасці абраза пацвярджаюць вуснымі і пісьмовымі сведчаннямі прадстаўнікі розных сацыяльных станаў — святары, урадоўцы, сяляне, манахі. Яны спасылаюцца на ўласны досвед і на паведамленні сваіх родзічаў ды сваякоў.

Ключавое месца аповесці — цуды, што адбываюцца з абразом. Топіка цудаў у «Гісторыі...» надзвычай шматпланавая. Абраз мае ўласцівасць раптоўна з'яўляцца, нечакана знікаць, набываць чорную афарбоўку пры набліжэнні да яго смяротна хворага чалавека. Ён не

гарыць у агні. Пасля яго на старажытным камені застаюцца адбіткі — магічныя знакі ў выглядзе правай рукі і сядла.

Ф. Баравік выявіў сябе як выключны майстар мастацкай дэталі, пра што сведчыць яркае апісанне абраза Маці Божай Жыровіцкай, у якім аўтар звяртае ўвагу на шэраг яго спецыфічных адметнасцяў — матэрыял, з якога ён зроблены, форму малюнка, дамінантныя колеры, асноўныя зместавыя складовыя выявы, стан захаванасці, пах, які зыходзіць ад абраза — «барзо пенкный и приемныи».

Пісьменнік падкрэслівае часава-храналагічныя параметры — зусім канкрэтныя («року Господняга 1500») і вельмі ўмоўныя — «колькадзесяць лет», «па нямалым часе». Ён вельмі часта робіць геаграфічна-тапанімічныя прывязкі месца дзеяння — «ля каменя», «ля дуба», «пад гарою».

Для аповесці характэрныя некаторыя сюжэтныя адхіленні — навукова-генеалагічныя экскурсы. Пісьменнік змяшчае ў творы звесткі пра заснаванне местаў і вёсак, дае арыгінальныя тлумачэнні паходжання іх назоваў.

Найбольш яркі персанаж «Гісторыі...» — Іван Солтан. Аўтар, перадусім, указвае яго высокае сацыяльнае становішча, а затым акцэнтуе ўвагу на мецэнацкіх ўчынках, ахвяраванні на ўзвядзенне Жыровіцкай бажніцы, набыццё будаўнічых матэрыялаў.

У «Гісторыі...» цесна пераплятаецца містычнае з рэальным, выдуманае з канкрэтна гістарычным. Пісьменнік творча апрацоўвае народныя паданні, сінтэзуе іх з сапраўднымі звесткамі, пачэрпнутымі з хронікаў і гістарычных допісаў.

*Іван Саверчанка*

## ГІСТОРЫЯ, АБО АПОВЕСЦЬ РОЗНЫХ ЛЮДЗЕЙ ПРА ЦУДАДЗЕЙНЫ АБРАЗ ЖЫРОВІЦКАЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ

Маліся сардэчна кожны, хто прачытае гэта, і прамаўляй «Ойча наш».

Усяму Слонімскаму павету вядома, што каля 1500 года, на тым месцы, дзе цяпер царква і манастыр, калісьці была вялікая пушча, поўная зверыны. Мяркую, менавіта ад «жыру», што нагульвалі звяры з тае пушчы, продкі назвалі мястэчка Жыравым, або Жыровіцамі. Але, магчыма, і ад імя хлопца Жыр, які паляваў у той пушчы, узнікла назва мястэчка.

Аднаго разу пастух пана Аляксандра Солтана — рыцара Труны Господняй і падскарбнага надворнага Вялікага Княства Літоўскага, якія заслужыў Жыровіцы ў Казіміра Ягайлавіча —

гнаў быдла паўз тае пушчы і раптам убачыў на лясной грушы ўзняты абраз, што стаяў нібы ў нейкім агні. Вельмі перапалоханы, пастух паклікаў таварышаў, і ўсе ўбачылі той цуд. Але калі агонь згас, яны асмялелі, узялі той абраз і занеслі свайму пану. Той прыўлашчыў знаходку і схаваў яе ў шкатулу.

Але Госпад Бог, які праслаўляе тых, хто праслаўляе яго, не дазволіў, каб найяснейшая зорка была заслоненая аблокамі невядомасці, каб той знакаміты скарб быў у зямлю закапаны. Ён зрабіў так, каб абраз стаўся даступным усім, хто прагнуў яго бачыць. Нявытлумачана абраз знік з той шкатулы. Аднаго разу пан захацеў паказаць здабыты скарб сваім знакамітым гасцям, але не знайшоў яго ў схованцы, чаму вельмі здзівіўся.

Другі раз, калі пастухі зноўку знайшлі скарб на ранейшым месцы і прынеслі пану, той задумаўся, што з ім рабіць. Паклаўшыся на Божую волю, ён разам з пастухамі паехаў у пушчу, каб на ўласныя вочы ўбачыць тое месца, дзе з’явіўся абраз. Калі прыехаў туды, быў надзвычай уражаны, убачыўшы абраз на незвычайным месцы. Некалькі гадзін пан знаходзіўся ў экзальтаваным стане і нарэшце дакладна зразумеў Божую волю.

Пан загадаў хутка высекчы тую пушчу і будаваць на яе месцы велічную царкву. Калі царква была ўзведзена, яе аздобілі ўсялякімі ўбранствамі, а той абраз, апраўлены ў срэбра, паставілі ў ёй. Шмат святароў было запрошана для адпраўлення святочнага і статутнага набажэнства.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў царква згарэла ад выпадкова нязгашанай свечкі. Усё там ператварылася ў попел. Аднак абраз і таблічкі пры ім былі знойдзеныя некранутымі. Неўзабаве абраз знік, а пазней, воляю анёлаў, перанёсся на іншае месца— на вялізны камень, які й цяпер ляжыць на тым самым месцы, пад гарою, калі ісці да мураванае царквы. А на той час усе пра той абраз распытвалі, сумавалі і гаравалі, не ведаючы, куды ён падзеўся.

Па немалым часе дзеткі, што навучаліся ў школцы, гулялі каля папялішча і ўбачылі вельмі чароўную Панну, якая сядзела на камені ў прамяністым коле. Дзеткі ад сполаху збеглі і паведамілі святарам. Тыя не паверылі дзіцячаму аповеду і пайшлі да каменя, каб самім упэўніцца. Калі святары наблізіліся, то ўбачылі здалёк толькі свечку, але не знайшлі аніякай асобы. Пазней яны прыйшлі з крыжамі і ўбачылі абраз ва ўсёй яго моцы. Чынячы набажэнства, святары забралі абраз. Спачатку аднеслі яго да аднае хаткі, а затым — да цэркаўкі, хуценька

ўзведзенай. Прынеслі з невымоўнай радасцю. Абраз там доўгі час зберагаўся, і вялікія цуды там адбываліся.

Некалькі разоў, дзеля розных прычынаў, тая цэркаўка і кніжка, дзе ўсе здарэнні былі апісаны, згаралі. Але ўсё зноўку паўтаралася.

Паколькі мноства людзей з розных краін з балячкамі сваімі прыязджалі да святога месца і не маглі змясціцца ў той царкве, была збудавана крыху большая, з дрэва. Да яе перанеслі цудадзейны абраз. Пан Іван Аляксандравіч Солтан, маршалак надворны яго каралеўскай міласці, рыхтаваў матэрыял для ўзвядзення мураванай царквы, але не паспеў здзейсніць задуманае, бо развітаўся з гэтым светам.

Апрача таго, паведамляюць, што пасля перанясення таго святога абраза з каменя на ім з’явіліся выразна бачныя правая рука і сядло. Ад шматлікіх дотыкаў розных людзей гэтыя знакі з часам надта зацёрліся.

Сам абраз — каменны, светла-шэры, выразаны, кругладоўгі, накшталт яйка. На ім постаць Прачыстай Дзевы Марыі, выразаная ад галавы да бядра. На правай руцэ — немаўлятка Ісус — поўны, выразаны. З-за частага цалавання людзей абраз крыху сцёрся, бо дагэтуль захоўваецца без шкла. Запах мае надзвычай пекны і прыемны.

Наастатак і тое трэба ведаць, што для людзей дворных, што пагразлі ў распуснасці і смяротным блудзе, абраз раптам засланяецца нейкім чорным покрывам, а часам — зусім знікае, што некалькі асобаў на сабе зазналі.

Хто хоча спазнаць вялікасці абраза, можа з пашанотай сузіраць яго. Асобы, што ахвяруюць для тога славутага месца з шчырай верай і вялікай шчодрасцю, зазнаюць вялікія ласкі ад Госпада Бога праз старанні Царыцы Нябеснай.

Усё сказанае пацвярджаем, і сведкамі выступаюць усе, чые імёны ніжэй бачыш.

*Феадосій*, іераманах закону святога Васіля, пацвярджаю подпісам маёй рукі, што гісторыю, тут напісаную, чуў ад многіх людзей.



# СІЛЬВЕСТР КОСАЎ

*(канец XVI — 1657)*

Сільвестр Косаў — выдатны пісьменнік, таленавіты педагог-рэфарматар і праваслаўны мітрапаліт, нарадзіўся ў мястэчку Жаробічы, што знаходзілася на паўночны захад ад Віцебска (у 1939 г. паселішча зліквідаванае). Ужо змалку падлетак выявіў рэдкую схільнасць да навукі, што заўважылі настаўнікі Віленскай брацкай школы, якія і параілі яму далей працягваць навучанне. Вышэйшую адукацыю ў галіне філасофіі, рыторыкі і граматыкі С. Косаў атрымаў у каталіцкіх школах — Люблінскай езуіцкай калегіі і Замасцянскай акадэміі, дзе на той час выкарыстоўваліся прагрэсіўныя формы і методыкі навучання.

Па вяртанні на радзіму С. Косаў пачаў педагагічную дзейнасць выкладчыкам філасофіі ў Вільні, а затым Львове і Кіеве. У 1633 г. С. Косаў заняў пасаду архімандрыта Кіева-Пячорскай лаўры, у 1635 г., узначаліў Магілёўскую, Аршанскую і Мсціслаўскую кафедры, нарэшце, у 1647 г. стаў мітрапалітам Праваслаўнай Царквы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.

У гісторыі беларускай культуры С. Косаву належыць асаблівае месца. Ужо на пачатку 30-х гадоў XVII ст. ён выступіў ініцыятарам рэфармавання традыцыйнай праваслаўнай сістэмы адукацыі. У школах пачала паступова ўводзіцца заходнееўрапейская сістэма выкладання дысцыплінаў, абавязковым стаў цыкл сямі «свабодных мастацтваў» — граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі, паглыблена вывучаліся лацінская і грэцкая мовы.

С. Косаў праявіў сябе як выдатны арганізатар царкоўнага жыцця. Ён няспынна дбаў пра ўзвядзенне новых храмаў, клапаціўся пра ўмацаванне і дабрабыт епархіяў. У 1646 г. ён дамогся ў манарха прывілея на заснаванне Магілёўскага жаночага манастыра. Апрача таго, С. Косаў бараніў правы праваслаўнага насельніцтва на соймах і сойміках. Ён таксама спрыяў пашырэнню дабрачыннай і асветніцка-выхаваўчай працы, якую праводзілі Віленскае, Магілёўскае і Львоўскае праваслаўныя брацтвы.

Як найвышэйшы духоўны пастыр, С. Косаў зрабіў вельмі шмат для асветы беларускага народа, развіцця пісьменства і кнігадруку. Пад ягонай апекай і пільным наглядам дзейнічалі навучальныя ўстановы, працавалі манастырскія скрыпторыі і друкарні. Мітрапаліт спрыяў

падрыхтоўцы шэрагу куцеінскіх кнігадрукаў (Трыфалагіён, 1647; Дыёптра, 1651, 1654; Новы Запавет з Псалтыром, 1652; Буквар, 1653; Лексікон, 1653), выданняў Магілёўскай друкарні (Буквар, 1648 і 1649), а таксама Віленскай брацкай друкарні (Малітоўнік, 1652; Буквар 1652).

На працягу жыцця С.Косаў заставаўся не толькі сумленным хрысціянінам, але й самаахвярным патрыётам Бацькаўшчыны. Ён паўстаў супраць памкненняў маскоўскіх свецкіх і царкоўных уладаў падпарадкаваць сабе мітраполію ВКЛ. Мітрапаліт адкрыта асудзіў агрэсію Масквы, адным з першых выкрыў дэмагогію «единения трех братских славянских народов», за якой хаваліся імперская ідэалогія, імкненне да непадзельнага панавання і прага чужога дабра.

С. Косаў меў рэдкі талент пісьменніка-публіцыста. Яго літаратурная спадчына даволі значная. У 1635 г. С. Косаў выдаў на польскай мове пропаведзь, напісаную ў двух варыянтах, празаічным — «Cherubin przy akcie pogrzebnym... ojca Jozepha Bobrykowicza» і вершаваным — «Echo żalu na glos lamentuęcego... Iozepha Bobrykowicza». У тым жа 1635 г. ён апублікаваў «Патэрыкон, або Зборнік жыццяў святых пячорскіх айцоў», які пазней двойчы перавыдаваўся на царкоўнаславянскай мове ў 1661 і 1678 гг. Вельмі значны гісторыка-публіцыстычны твор С. Косава «Экзэгезіс», які быў створаны блізу 1635 г.

У перыяд з 1635 да 1637 г. С. Косаў рыхтаваў «навуку для святароў», напісаную ў форме катэхізіса: «Дідаскаліа, альбо Наука, которая ся первей из уст священником подавала — о седми сакраментах алболи тайнах, на Сіноде поместном в Богоспасаемом граде Могилеве, року Божего 1637, месяца октобра 19 дня, отправованым от превелебнаго его милости господина отца Сільвестра Косова, на тот час епископа мстиславскаго, оршанскаго и могилевскаго, теперешнего милостью Божею митрополита киевского, галицкого и всея Россіи. Потом през того ж в друк подана. По-трете, в тіпографіи монастыра общежителнаго Кутеенского тіпом издася року 1653, месяца мая 30 дня». Упершыню твор быў публічна прачытаны аўтарам 19 кастрычніка 1637 г. на Магілёўскім праваслаўным саборы. «Дыдаскалія» доўгі час з’яўлялася незаменным дапаможнікам для праваслаўных святароў Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.

С. Косаў на старонках сваіх твораў прадставіў і абгрунтаваў адметную канцэпцыю гістарычна-культурнай арыентацыі Праваслаўя. У «Патэрыконе», абапіраючыся на творы Баронія, Зонары, Длугаша, Гваніні, Стрыйкоўскага, «Аповесць» Нестара-летапісца, ён досыць поўна асвяціў усе асноўныя моманты шматвяковых дачыненняў кіеўскіх мітрапалітаў з Канстанцінопалем і Рымам, выказаўся па пытанні хрышчэння славянскіх народаў. Так, С. Косаў лічыў несумненным, што першы хрост славянаў здзейсніў апостал Андрэй, які пасля пропаведзі Евангелля ў Херсанесе паплыў на поўнач па Дняпры і ўзняўся ажно да Вялікага Ноўгарада, адтуль накіраваўся на захад і па дарозе ахрысціў жыхароў Падзвіння. Другі хрост славянаў, сцвярджаў

ён, адбыўся ў 863 г., калі канстанцінопальскім патрыярхам быў Фоцій, а імператарам — Міхал. Тады, паводле ягоных слоў, на просьбу князёў Святаполка, Расціслава і Коцэла якраз патрыярх і імператар, а не папа рымскі, паслалі двух адукаваных ураджэнцаў Фесалонікаў братоў Мяфода і Кірылу, якія сумленна выканалі ўскладзеныя на іх абавязкі, дбайна пашыралі Слова Божае, падрыхтавалі некалькі вучняў, стварылі славянскі альфабэт і пераклалі Новы Запавет ды асобныя творы айцоў Царквы на старaславянскую мову. Трэці хрост усходнеславянскіх земляў, паводле канцэпцыі С. Косава, адбыўся ў 886 г.; чацвёрты — у 958 г., калі жонка цара Ігара Вольга ў часе наведвання Царграда прыняла хрышчэнне ад самога патрыярха Паліеўкта. Нарэшце, пяты хрост усходніх славянаў, сцвярджаў С. Косаў, адбыўся ў 1000 годзе, у часе княжання Уладзіміра Святаславіча. Такім чынам, С. Косаў паказваў, што хрысціянская вера прыйшла да славянаў з Усходу, а не з Захаду, на чым паставілі ягоныя апаненты.

С. Косаў гэтаксама не пагаджаўся і палемізаваў з многімі уніяцкімі пісьменнікамі, у прыватнасці Л. Крэўзам, які ў творы «Пра царкоўную еднасць» сцвярджаў, што дачыненні кіеўскіх мітрапалітаў з канстанцінопальскімі патрыярхамі на працягу XI—XVI стст. былі пераважна варожыя, прыносілі толькі шкоду Царкве. Каб зняпраўдзіць гэтыя «выдумкі» ідэйных праціўнікаў, С. Косаў у трэцяй частцы свайго «Патэрыкона» падаў храналогію праваслаўных мітрапалітаў ад Міхала да Пятра Магілы, звяртаючы асаблівую ўвагу на плённыя вынікі стасункаў усходнеславянскіх мітрапалітаў з патрыярхамі.

Заслугоўвае ўвагі той факт, што пададзеныя спачатку Л. Крэўзам, а затым С. Косавым храналогіі ўсходнеславянскіх праваслаўных мітрапалітаў — гэта, апрача ўсяго іншага, яшчэ й досыць цікавыя нарысы гісторыі Праваслаўя на Беларусі і Украіне.

С.Косаў на старонках сваіх твораў звяртаўся да сатэрыялагічнай праблематыкі. Сутнасць дактрыны пісьменніка сфармуляваная ў наступных словах, змешчаных у «Экзэгезісе»: «Душы людзей па смерці іхных целаў не паміраюць і не засынаюць. Душы адных, праведнікаў, дастаюць вечнае шчасце і блаславенне, бо маюць магчымасць блізка сузіраць святло, якое выпраменьваецца ад самога Госпада Бога. Душы ж затопленых у Царстве ценяў пазбаўляюцца таго блаславення і не суцяшаюцца з Божага аблічча, ад чаго неверагодна пакутуюць». Асноватворныя моманты сатэрыялогіі пісьменніка-палеміста сфармаваліся пад уздзеяннем вучэння Юстына. На гэты факт паказваў С. Косаў, цытуючы праграмнае выказванне старажытнага багаслова: «Па выйсці душаў з целаў анёлы раздзяляюць душы справядлівых і несправядлівых; адводзяць іх да месцаў, належных ім. Душы справядлівых трапляюць у зямны рай, і там яны знаходзяць сяброўства анёлаў і арханёлаў, бачаць самога Хрыста Збавіцеля, паводле таго як сказана <у Бібліі>... І кожная з душаў будзе захоўвацца на належным месцы аж да ўваскрэсення ўсіх мёртвых, да Дня нагароды». На старон-

ках твораў С. Косава вельмі шырока прадстаўлена таксама актуальная па тым часе тэма абразоў у Хрыстовай Царкве.

У творчай спадчыне С. Косава значнае месца займала антрапалагічная праблематыка. С. Косаў, баронячы артадаксальнае вучэнне, не пагадзіўся нават з досыць памяркоўнымі сцвярджэннямі паслядоўнікаў Кальвіна, якія даводзілі, што першародны грэх у людзей існуе толькі як схільнасць да ліхога.

С. Косаў распрацаваў уласнае вучэнне пра свабоду волі; ён стаў у апазіцыю да М. Лютэра, які ў 1525 г. апублікаваў свой праграмны твор «Аб рабстве волі», асноўныя ідэі якога развівалі пазней яго паслядоўнікі. С. Косаў, крытыкуючы М. Лютэра і адказваючы праціўнікам «самаўладдзя душы», пісаў у «Экзэгезісе»: «Мы, праваслаўныя, трымаліся і трымаемся таго, што ўсемагутны Бог, стваральнік першага чалавека, і цяпер дае яго нашчадкам усе магчымасці выратавацца. Калі ж нехта абірае іншы шлях, дык гэта не Божы промысел, а вынік выбару вольнай волі кожнага канкрэтнага чалавека». Даказваючы, што чалавеку ад прыроды даецца свабодная воля і ён сам выбірае жыццёвы шлях, пісьменнік-гуманіст, такім чынам, прадаўжаў традыцыі піфагарэйцаў, Сакрата, Платона, Арыстоцеля, Эпікура, а таксама Эразма Ратэрдамскага, аўтара славутай «Дыятрыбы, або Разважання пра свабоду волі» (1524). Вучэнне пра свабоду волі мела выключнае значэнне ў гісторыі ўсёй айчыннай культуры; яно сталася найважнейшай перадумовай надыходу эпохі Асветніцтва ў Беларусі.

*Іван Саверчанка*

# ДІДАСКАЛІА, альбо НАУКА, КОТОРАЯ СЯ ПЕРВЕЙ ИЗ УСТ СВЯЩЕННИКОМ ПОДАВАЛА — О СЕДМИ САКРАМЕНТАХ АЛБОЛИ ТАЙНАХ, НА СІНОДЕ ПОМЕСТНОМ В БОГОСПАСАЕМОМ ГРАДЕ МОГИЛЕВЕ, РОКУ БОЖЕГО 1637, МЕСЯЦА ОКТОБРА 19 ДНЯ, ОТПРАВОВАНЫМ ОТ ПРЕВЕЛЕБНАГО ЕГО МИЛОСТИ ГОСПОДИНА ОТЦА СІЛЬВЕСТРА КОСОВА, НА ТОТ ЧАС ЕПИСКОПА МСТИСЛАВСКАГО, ОРШАНСКАГО И МОГИЛЕВСКАГО, ТЕПЕРЕШНЕГО МИЛОСТЬЮ БОЖЕЮ МИТРОПОЛИТА КИЕВСКОГО, ГАЛИЦКОГО И ВСЕЯ РОССІИ. ПОТОМ ПРЕЗ ТОГО Ж В ДРУК ПОДАНА. ПОТРЕТЕ, В ТІПОГРАФІИ МОНАСТЫРА ОБЩЕЖИТЕЛНАГО КУТЕЕНСКОГО ТІПОМ ИЗДАСЯ РОКУ 1653, МЕСЯЦА МАЯ 30 ДНЯ.

## Автор до Чителника

Посполитое то ест людей мудрых здане, Ласкавый Чытателю, иж той, который якого конца дойти прагнет, потреба жебы ведал о сродках през которые оного конец доступитися может. Прагнеть хто якого скарбу великого и закрытого, мусить мыслити и уважати, яким бы способом оного доступил. Прагнеть хто достат науки, а заж сродков не уживает: слуханя, читаня, писаня и иншых уставичных прац. Прагнет хто триумъфатором быти над неприятелем, а заж на оружіе не способляется. Ово згола жаден пожаднаго конца не сподобиться, гды не будет шукати пропорціоналных ему сродков. Ласки Божой и спасенія вечнаго ведаю же кожный доступити хотел бы, але ежели сродков през которые ласка Божія даватися звыкла, не захочет заживати, певне оное не получить. В якіе бы зась сродки были от Христа постановленые, сія книжица тебе, уважный Читателю, научить.

Тайны або вем, алболи сакрамента, будучи знаками видомыми — суть инструментами и сродками през которые Бог невидимо ласкою Своею души наши оздобляеть и усправедливяеть, а до спасенія вечнаго приспособляеть. Кгды в крещеніи даеть одъроженіе духовное, въ міропомазаніи — умоцнене в вере, въ еіхаристіи — соединеніе з Собою и многіе иные речи, которые ся зособна в той книжицы въ коротце выразили.

Покажы погодную тварь, Читателю Ласкавый, аптеку души твоей указуеть. Проси не лениво, бо лаконицким поступает тором. Прийми ласкаве, бо ласки Христовой потоки, которые з жродла муки Его выплынули, оповедает.

А особливе вас, іереи Христовы, до частаго читанья тоей книжицы упоминаю, поневаж вас Бог шафарами тайн своих учинил. Ваша повинност ест о седми тайнах научати. Ваша оных перестерегати. Ваша и люд Божій ими освечати.

С тым молитвы мое архіерейскіе Ласковому Читателю оферую.

**О сакраменте, или тайнах в посполитости**

*Вопрос*. Што суть сакрамента албо тайны?

*Ответ*. Сакрамента алболи тайны — суть видомые знаки и причины инструментальные ласки Божой. Абовем през оные невидимо на душу нашу ласку свою Всемогучый Бог вливает. Потвержает то Златоустый святый, тыми словы мовячи: «Господь Бог з глубокои мудрости своей, человекови, который видомым телом ест обложоный, под видомыми теж и телесными знаки невидомые дары свое небесные дает».

*Вопрос*. Чого потреба до кождого сакраменту?

*Ответ*. Потреба матеріи, формы и воли священнической до посвященья.

*Вопрос*. Што ест матеріа в кождом сакраменте?

*Ответ*. Суть речи позверховные и мыслом подлеглые, яко то в Крещеніи — вода, в Міропомазаніи — міро и прочая.

*Вопрос*. Што ест форма в кождом сакраменте?

*Ответ*. Суть слова певные вымовленые над матеріею сакраменту: яко то в сакраменте крещеніа формою суть оные слова, при поливаню воды выреченые: «Крещается раб Божій имя рек во имя Отца и Сына и Святаго Духа».

*Вопрос*. Много ест сакраментов алболи таин?

*Ответ*. Седм.

*Вопрос*. Которые?

*Ответ*. Першая — ест тайна Крещеніе. Другая — Міропомазаніе. Третяя — Евхарістіа алболи Тело и Кров Христова. Четвертая — ест Покаяніе алболи Покута. Пятая — Маслоосвященіе. Шестая — Іерейство. Семая — Малженство.

*Вопрос*. Могут ли ся все сакрамента повторяти?

*Ответ*. Не могут.

*Вопрос*. Которые?

*Ответ*. Крещеніе, Міропомазаніе и Ерейство, бо петно албо цеху на души незмазаную чинят. И для того жаден два разы креститися ани крестити, такъже міром помазоватися и іереем зоставати, албо два разы посвящати на іерейство не мает.

*Вопрос*. Много ся речій сходят да кождого сакраменту?

*Ответ*. Три.

*Вопрос*. Которые?

*Ответ*. Знак зверхный, ласка Божая, под оным и постановленье Христово (бо жадное створене постановити таин не можеть). Яко то наприклад: в Крещеніи знаком зверхним ест вода, ласка Божая — ест одрожене з грехов и одпущенье их. И постановленне Христово — гды апостолом росказал крестити вси народы.

Так розумети потреба и в инших сакраментах.

## О сакраментах зособна

*Вопрос*. Што ест *Крещеніе*?

*Ответ*. Крещеніе — ест сакрамент алболи тайна, в которой през позверховное обмыванье водою обмывается человек з всех грехов на души будучих.

*Вопрос*. Грехи одны суть пред окрещеніем, другіе по окрещенію. З яких обмывает той сакрамент алболи тайна помененая?

*Ответ*. Крещеніе обмывает з тых толко грехов, которые пред окрещеніем на души знайдоватися будут. Любо будет первородный грех, яко в малых немовлятках, любо и учинковый, яко в дорослых неокрещеных. Тые зась грехи, которые по окрещенію пополнены бывают, през тайну алболи сакрамент Покаяніа выглажены бывают, о чом будет нижей.

*Вопрос*. Которая ест матеріа сакраменту Крещеніа?

*Ответ*. Ест вода прирожоная, а не приправная. Мает еднак тая вода прирожоная посветитися для чести сакраменту и постановеня церковнаго. А если ба нужда и гвалт вытягал, может и непосвященою водою окрестити кого священник. Яко Филип святый крестил евнуха в реце одной.

*Вопрос*. Которая ест форма того жъ сакраменту?

*Ответ*. Суть тые слова: «Крещается раб Божій имя рек албо рабыня имя рек во имя Отца и Сына и Святаго Духа». Тых абовем слов, священник поливаючи водою, конечне заживати мает, ведлуг постановеня Христова, Который мовил: «Крестите во имя Отца и Сына и Святаго Духа».

*Вопрос*. Веліоракое ест Крещеніе?

*Ответ*. Трояκое. Першое ест водою, о котором мовилихмо. Другое Крещеніе — ест кровію за Христа выляною. Тым Крещеніем крестилися тые, которые без окрещеніа водного за уверенье в Христа умучены зостали. Третее — ест Крещеніе през Духа Святаго, то ест за надхненем его до сердца, абы окреститися хто прагнул и, жалуючи за грехи до Окрещенія, се готовал усердно. Таковые были оные оглашеные в стародавной Церкви, которых напрод веры учено, а потом до Окрещеніа припущано и до инших тайн.

*Вопрос*. Может ли тое розделене доводами объяснити?

*Ответ*. Может. О Крещеніи абовем водном мовит Спаситель наш: «Если ся хто не отродить от воды и Духа, — не внидет в Царство Небесное».

О Крещеніи кровію Той же Господь Бог мовити рачил: «Можете ли пити чашу, юже Азь пію, и Крещеніем креститися, им же Азь креститися имам».

О Крещеніи зась з надхненем Духа Святаго Амвросій Святый сведчит, гды о Валентыніяне цесару (который оглашеным будучи умерл) мовить: «Которого мелем окрестити албо одродити — утратилем его, але он ласки, которой ся сподевал, не утратил.

*Вопрос*. Вода сама ест ли сакраментом алболи тайною?

*Ответ*. Не ест. Але поливане водою з звышреченными словами: «Крещается раб Божій имя рек во имя Отца и Сына и Святаго Духа».

*Вопрос*. Посвящене воды ест ли сакраментом?

*Ответ*. Не ест. Але поливане ею, яко се вышей рекло, ест тайною.

*Вопрос*. Может ли хто крестити в недостатку священника?

*Ответ*. Кгды бы назбыть хорое было дитя, а о священника бы трудно, может каждый окрестити, в воде погружаючи оное и мовячи: «Крещается раб Божій имя рек во имя Отца и Сына и Святаго Духа».

*Вопрос*. Што ест *Міропомазаніе*?

*Ответ*. Міропомазаніе — ест тайна, в которой дается нам моц през Духа Святаго, абыхмо моцне могли вызнавати Христово имя. Яко в день пятьдесятый дана была апостолам в огнистых языках. Тая толко розница ест, ижъ апостолове не сакраменталным способом тую моц Духа Святаго взяли. Мы зась пріймуемо сакраменталне.

*Вопрос*. Которая ест матеріа того сакраменту алболи тоей тайны?

*Ответ*. Ест олива з балсамом змешаная, до которых и иншые олейки пахнучіе примешувутся для благоуханія, яко сведчит Кипріян святый тыми словы: «В Церкви святой хризму чинят, в которой з оливою балсам змешаны».

*Вопрос*. Которая форма того сакраменту алболи, которые слова совершают его?

*Ответ*. Суть тые слова: «Печать дара Святаго Духа». О том читай в Синоде шестом Вселенском.

*Вопрос*. Может ли посвятити священник міро?

*Ответ*. Не может. Тылко сам епископ, ведлуг канону шестаго в Картагинском Сыноде.

*Вопрос*. Может ли священник смердячим міром помазовати?

*Ответ* Не может. И для того кождого року у своего епископа повинен священник брать свежое міро.

*Вопрос*. Ест ли міро сакраментом албо посвященіе міра?

*Ответ*. Не ест. Але міром помазаніе з оными словами: «Печать дара Святаго Духа» — ест сакраментом.

*Вопрос*. Што ест *Евхаристіа* алболи тайна Тела и Крови Христовой?

*Ответ*. Евхаристіа — ест тайна, в которой нам дается правдивое Тело и правдивая Кров Христа Бога нашего под особами хлеба пшеннаго и вина, абыхмо соединилися съ Христом а выполнилися оные его слова: «Мешкайте во Мне, а Я в вас».

*Вопрос*. Кому ест дана власть шафовати такъ великою тайною?

*Ответ*. Жадному свецкому человеку не ест дана. Тылко священнику, который през рукоположеніе от епископа пріймует тую власть з призыванем Святаго Духа.

*Вопрос*. Коли Христос дал тую владзу священником?

*Ответ*. Кгды апостолам рекл: «Се творите во Мое воспоминаніе».

*Вопрос*. Которая ест матеріа того сакраменту?

*Ответ*. Ест хлеб пшеничный и вино правдивое.

*Вопрос*. Которая ест форма того сакраменту? Алболи, которые слова совершают тую тайну?

*Ответ*. Суть тые слова Христовы над хлебом: «Пріймете и ядите — се ест тело Мое». А над вином: «Пійте от нея вси — се ест кров Моя». Тых абовем слов сам Спаситель наш зажил, гды на Тайной Вечери Своей хлеб и вино в правдивое Тело и в правдивую Кров переменил. Поневажъ теды тайна тая ест великая. Повинен такъ священник, яко и свецкій кождый, очистивши сумнене свое през исповедь святую, приступоват до оное.

*Вопрос*. Веліоракое ест поживанье Евхаристіи?

*Ответ*. Троякое.

Одно ест устами толко, яко то бывает, гды хто з нечистым сердцем пріймует Тело и Кров Спасителя нашего. Яко и Юда безаконный на остатней вечери. Але таковый на згубу души своей пріймует.

Другое поживанье ест духовное, то ест, гды хто истинною верою и волею хочет Тела и Кров Христовой, але не может его приняти, яко от посполите в небытности священника бывает. Ведати теж то потреба, же и той человек поживает духовне Евхаристіи, который набожне при Божественной литургіи стоячи, розмышляеть собе страсти Спасителя нашего и волю мает истинную, сумнене свое очистивши, участником быти Евхаристіи.

Третее ест, кгды хто и чистым сердцем и устами стается участником Евхаристіи.

*Вопрос*. Евхаристіа ест ли оферою?

*Ответ*. Ест и сакраментом, ест и оферою.

Сакраментом ест, иж под видомыми знаками хлеба и вина — ест правдивое Тело Спасителя нашего.

Оферою зась ест, иж оную приносим дякуючи Богу за вси добродейства Его и за спасеніе наше.

*Вопрос*. Кому ест пожитечна тая офера?

*Ответ*. Ест пожытечна всем людем, так живым, яко и умерлым, абовем мовит Кирил святый Іерусалимскій тыми словы: «При той ублагалной офере просим Господа Бога за посполитый церковый покой, за утешеніе мира, за цара, за жолнери, за товарыство, за хорые, за утрапеные и за все помощи требующых». А што ся ткнет умерлых, так Златоустый святый в омиліи 69 до люду мовит: «Не дармо тое апостолове постановили, абы в страшливых тайнах взменка была умерлых. Ведали, иж оттоль им великій пожиток и зыск приступует».

*Вопрос*. Для чого в Церкви Восточной тую оферу приносим за святых, яко то за патріархов, пророков, апостолов, мучеников, а особливе за святую Богородицу?

*Ответ*. Просим напрод для того, абы Господь Бог за их молитвами принял молитвы наши.

Повторе зась приносим дякуючи за зветязство святых и за ласку тую, иж им яко братіи нашой дал гледети в пречистую тварь свою на небеси, в которой они, якъ в звецадле, видячи тую оферу, за себе принесенную, причиняются за нас. А особливе причиняется Пресвятая Богородица, гды тело правдивое Сына

Еи Богу оферуем. А при том дякуем за Еи увелбенье и вывышене над вси серафімы, херувімы и иные чины аггельскіе.

*Вопрос*. Ест ли теж тая офера и за грехи наши ублагалицею?

*Ответ*. Ест. Такъ бовем Златоустый святый вь книзе «О Іерействе» мовит: «Іерей за вес свет вставляется и Бога просит, абы всем людем — не толко живым, але и умерлым — грехи отпущал».

Кипріян зась светый выразне Евхаристію зовет оферою на очищеніе грехов.

*Вопрос*. Чимъся тот сакрамент от инших сакраментов делить?

*Ответ*. Напрод, иж тот сакрамент ест оферою, а иншие не суть.

Повторе, иж иншіе сакрамента — суть вчиненью и уваженью. Наприклад, Крещеніе ест, гды погружают в воде и мовят тые слова: «Крещается раб Божій имя рек во имя Отца и Сына и Святаго Духа». Вода зас сама не ест сакраментом, такъ тежъ в Міропомазаніи — міро само не ест сакраментом, але Миропомазаніе з оными словами: «Печать дара Святаго Духа».

Евхаристіа зась не кончится уживаньем, але речью трваючою за вымовенем оных слов: «Се ест Тело Мое, а се — ест Кров Моя». В коротце мовячи, иншые сакрамента пред уживаньем не суть сакраментами, а Евхаристія пред уживаньем еще стается сакраментом, скоро вышъреченые слова Христовы іерей албо епископ выречет, маючи волю и умысл, абы хлеб и вино, водлуг Христа, от Церкви Телом и Кровію Христовою были.

Потрете, иж в инших сакраментах матеріа не одменяется на тую речь, которую значит. Наприклад, вода в Крещеніи значит отроженье духовное, а не одменяется в оное одроженье. В Евхаристіи зась одменяется естество хлеба и вина в естество Тела и Крови Христовы.

На остаток и тая розница ест, иж инших сакраментов сам уживати не можеть іерей. Наприклад, не может себе окрестити, миром помазати, а поживати сам того сакраменту Евхаристіи не может.

*Вопрос*. Што называется особами хлеба?

*Ответ*. Называются приміоты хлебовые, яко то — квасность, смак, округлость, белость и проч. Такъ теж особами вина называются приміоты его, яко то — квасность, солодкость, смак и проч.

*Вопрос*. Отменяют ли ся тые особы хлеба и вина въ Тело и Кров Христову?

*Ответ*. Не одменяются, але толко естество и натура хлеба и вина, которая была под тыми особами, оставивши уступует правдивому Телу и Крови Спасителя нашего. И для того мы не

тому ся повиннихмо кланяти, што видимо жеся белым и смакуемо, то ест, особом хлеба и вина, але тому, што веруемо, то ест, правдивому Телу и Крови Спасителя нашего, которые ся под тыми особами знайдуют правдиве.

*Вопрос*. Может ли правдивая кров быти без приливаня троха воды: яко заживают?

*Ответ*. Может в правде, але з грехом. Кгды ж, в той безкровной офере заживаемо воды для двоих причин.

Напрод, на памятку того, иж з боку Спасителя нашего на кресте кров и вода выплынула.

Повторе, абыхмо тым мешанем воды з вином две натуре Спасителю нашему Бозскую и людскую выразили, которые в одной персоне Его Бозской злучаные суть. Зачим и шестый Вселенский Собор в каноне 32 заказуеть срокго, и под анафемою таковых отлучаеть, если бы хто або и самой воле, або в самом вине тую оферу одправовал.

*Вопрос*. Ест ли в том сакраменте тело Христово з хлеба, якобы з матеріи, а з вина — Кров Христова, также якобы з матеріи, яко, наприклад, бывает якій келих з сребра албо з цыну?

*Ответ*. Варуй того Боже, кгды ж иншое тело было, которое з Пречистое и Преблагословенное Панны ест взято, а иншое, которое з хлеба, также иншая бы кров. А какъ потреба ведати, же яко ноч уступует дневи, тако естество хлеба и вина уступует правдивой истности Крови Христовой и Тела в Пречистое Панны взятого, которыя ся особами хлеба и вина приодевают.

*Вопрос*. Особы хлеба и вина, яко то — белость, округлость, твердость, смак, квасность в том сакраменте, если суть на теле Христовом или хлебе?

*Ответ*. Не сут. Ани на хлебе, абовем такъ хлеба ведлуг естество своего немаш. Не сут ани на теле Христовом, абовем Тело Христово не ест округлое, ани квасное и проч.

*Вопрос*. На чом же теды свою осаду тамъ мают?

*Ответ*. Сами стоят, яко богословове мовят, през рукодержаніе Бога.

*Вопрос*. Может ли то прикладом яким з Писма Святого обяснити?

*Ответ*. Может. Абовемь ясность, которую Бог на почению сотворил, не мела жадной осады, але сама през себе стояла, аж поки Бог осаду четвертаго дня сотворил, то ест, слонце. Так о том розумеет Василій святый в книзе «Ексаменого, албо Шестодневника».

*Вопрос*. Ест ли в сакраменте Евхаристіи тая офера, которую учинил Спаситель наш, на кресте оферуючи Самого Себе Богу Отцу за вес мир?

*Ответ*. Ест тая ж и едина. Але иншым способом (а способ не рознит речи самое), то ест, въ сакраменте Евхаристіи — ест безкровным способом. А там, на кресте, была крвавым. И для того Христос Спаситель наш особно Тело, а особно Кров свою на Вечери дал, абы ся смерть Его пришлая на Кресте вспоминати могла, где Кров отдаленая была од Тела.

Затым треба ведати, же два разы Христос пред воскресеніем за нас ся оферовал.

Першій раз, на Вечери остатней безкровным способом, кгды мовил: «Се ест тело Мое, еже за вы ломимое, и се ест Кров Моя, еже за вы изливаемая во оставленіе грехов». Бо кгды тут мовит, же за вас, а не вам, офера се вызначает.

Другим способом, — крваве на кресте. О тамъ той першой офере безкровной, Киприян святый в книзе второй, в листе третем мовит: «Тое оферовал, што Мелхіседек оферовал хлеб и вино, то ест, Тело свое и Кров». То ж святый Григорій Ниский в омиліи «О Воскресеніи» также самого Себе оферу за нас оферовал, сам зараз іереем и сам баранком Божіим.

Коли ж ся тое стало? Кгды Тело свое ести, а Кров Свою пити домовником своим подал. Ведати теж то потреба, же уживане Евхаристіи — не ест оферою, але толко сакраментом. Але кгды ся Евхаристіа за нас приносит — в тот час ест оферою.

*Вопрос*. Ведлуг которого способу оферована ест іереем въ веки Спаситель наш почину Мельхиседекову?

*Ответ*. Ведлуг оферы безкровное, бо яко тамъ в Старом Законе хлеб и вино Мельхиседек оферовал, такъ и Христос себе самого под особами хлеба и вина на Остатней Вечери оферовал. И тое іерейство свое вечне заховует, кгды што день през руки іерейскіе под особами хлеба и вина себе оферует и до кончины света оферовати маеть, оное раз учиненое крвавым способом оферы на кресте, пожитки нам справуючи.

*Вопрос*. Што ест тайна *Покаяніа албо Покута*?

*Ответ*. Покаяніе — ест сакрамент алболи тайна, през который нам дается отпущеніе грехов по крещеніи пополненых, мовит абовем Христос Спаситель наш: «Если каятися не будете, вси погибнете» (Луки, 13).

*Вопрос*. Может ли хто не будучи іереем, але свецким розрешати кающагося?

*Ответ*. Не может. Абовем іереем Христос Спаситель мовил: «Пріймете Дух Святый, кому отпустите грехи — будут одпущены». И Златоустый Святый учит: «Іереи не толко кгда нас одрожають, але теж и потом мають моц даровати нам одпущеніе грехов».

*Вопрос*. Которая ест матеріа того сакраменту?

*Ответ*. Ест скруха сердечная, исповеданіе всех грехов и досить учиненье.

*Вопрос*. Которая ест форма тоей тайны?

*Ответ*. Сут слова тые от священника выреченые по исповеди: «Чадо, прощает тя Христос невидимо и аз».

*Вопрос*. Што ест тайна *Маслосвященія*?

*Ответ*. Сія тайна ест в которой през помащеніе оливою посвященною отпущеніе грехов хорому дается, которые бы позостали албо и самое здорове, если бы его Бог потребу видел.

О том сакраменте мовит Іаков святый: «[...] лееть ли хто з вас да приведеть [...] церковныя, нехай ся над ним [Арк. 27] молять, помазуючи его іелеем во имя Господне, а молитва з веры спасеть хорого, и улжить ему Господь. А если в грехах — отпущены ему будуть».

*Вопрос*. Которая ест матеріа того сакраменту?

*Ответ*. Ест помащеніе оливою посвященною.

*Вопрос*. Которая ест форма?

*Ответ*. Суть просителные в молитве слова: «Отче Святый, врачу душам и телом и проч...», якъ в молитве до Маслосвященія служачой суть написаные.

*Вопрос*. Што ест тайна *Іерейства, алболи Священства*?

*Ответ*. Тайна Іерейства — ест, в которой дается власть іереови шафовати тайнами и оные посвящати. А дается от Бога през рукоположеніе архіерея.

*Вопрос*. Которая ест матеріа того сакраменту?

*Ответ*. Рукоположеніе, алболи вскладаніе рук архіерейских в посвященію священника.

*Вопрос*. Которая ест форма того сакраменту?

*Ответ*. Суть тые слова, которые архіерей мовить посвящаючи священника: «Божественная благодать всегда немошная исцеляющая и прочая».

*Вопрос*. Много ест степеній, алболи станов Іерейства?

*Ответ*. Седм. Перший — ест вратарства, алболи вратар. Другій — чтец и певец. Третій — ексоркиста, алболи заклинатель. Четвертый — акколит, алболи свеценосец. Пятый — поддіякон. Шестый — діякон. Седмый — іерей. Але двоякіе

суть іереі: одны вышшые, которые епископами называются, а другіе низшіе, которые презвитерами суть.

*Вопрос*. В чим ся іерей од епископа делить.

*Ответ*. В посвященю и оферованю пречистаго Тела и Крови Христовой іерей ест ровным епископови. Але делится тым, иж іерей постити другого іерея не может, так теж и міра, бо тое самому епископови належить и проч.

*Вопрос*. Может ли кождый человек быти священником?

*Ответ*. Не кождый. Бо ведлуг канонов апостолских и святых богоносных отец, тот от священ [...] отдален бывает або священником быти [не может], который бы албо другую жону понял, албо две жоны мел. Так теж который вдову жону мел албо маеть, алболи вшетечницу и который явным злочинством ест помазаный. Читай о том в Канонах Апостольских 17, 18; и в Василіа Великаго, и 36 Собору Картагинского.

*Вопрос*. Што ест *брак, албо малженство*?

*Ответ*. Малженство — ест тайна, през которую мужъского полу и женского стается за благославеніем церковным злучене.

*Вопрос*. Которая ест матерія того сакраменту?

*Ответ*. Суть особы, которые в малженство вступити хотять.

*Вопрос*. Которая ест форма?

*Ответ*. Суть слова тых особ, которые шлюбуют собе [...] под священником, хотячи вступити [...] в стан малженскій. Што ся зась ткнеть близкости повиноватства врожаю, которая ест до стану малженского перешкодою, иж в Требниках ест описана, священника до оных отсылаем.

На тот час ним достатечнейшую книжицу о седми тайнах выдати сподобить нас Господь.

Тебе, Ласковый Читателю, просим, абысь помылки друкарскіе мудрым розсудком своим перебачити рачил.

Конец.



# ПІЛІП КАЗІМІР АБУХОВІЧ

*(1601—1656)*

Вядомы дзяржаўны дзеяч, смаленскі ваявода, маршалак рыцарскага кола П. К. Абуховіч увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як аўтар «Дыярыуша», у якім знайшлі адлюстраванне падзеі ад 1630 да 1654 г.

Для «Дыярыуша» ўласцівае дамінаванне аўтабіяграфічнага кампанента: аўтар апавядае перадусім пра тыя падзеі, удзельнікам якіх з'яўляўся або ў якіх ён быў добра інфармаваны. У творы ёсць асобная аўтабіяграфічная ўстаўка, дзе аўтар апавядае пра сваю службовую кар'еру, паказвае складанасці, якія ўзніклі пры атрыманні ім пасады смаленскага ваяводы.

Сярод галоўных персанажаў твора — рэальныя гістарычныя асобы. Гэта найперш вялікія князі: Жыгімонт III Ваза, каралевіч Казімір, Уладзіслаў IV, яго жонка Цэцылія Рэната. Буйныя магнаты: канцлер Леў Сапега, яго сын Казімір Лявон Сапега, пан Гансеўскі — вялікі пасол, Станіслаў Канецпольскі — кракаўскі кашталян і каронны гетман, Міхал Радзівіл, пан Пётра Вяжэвіч, Міхал Абуховіч — сын аўтара. Асобнае месца ў творы адведзена вобразу Багдана Хмяльніцкага — кіраўніка казацкага паўстання. У трактоўцы П. К. Абуховіча ён падаецца як адмоўны герой — дзяржаўны злачынец, здраднік, гвалтаўнік, разбуральнік, вораг Айчыны і манарха.

Мастацкую аснову «Дыярыуша» утвараюць найбольш значныя падзеі грамадскага і палітычнага жыцця ВКЛ. П. К. Абуховіч засяроджваецца найперш на падзеях, што адбываліся на Соймах — 1631, 1638, 1640, 1643, 1645, 1646 гг., двух соймах 1648 г. (канвакацыйным і элекцыйным), каранацыйным сойме 1649 г., лістападаўскім сойме 1649 г., снежаньскім 1650 г., лютаўскім і жнівеньскім 1652 г., сакавіцкім 1653 г. (у Берасці), лютаўскім 1654 г. (у Варшаве). Аўтар паведамляе пра галоўныя пастановы, прынятыя на соймах, асноўныя канфлікты, а таксама пра палітычныя падзеі, што адбываліся ў краіне ў перыяды, калі праходзілі соймы.

Тэма сацыяльных канфліктаў у Княстве займае ў «Дыярыушы» вельмі значнае месца. Шырокае асвятленне атрымалі ў творы падзеі казацкіх паўстанняў — пад кіраўніцтвам Суліме, што адбылося ў 1635 г., і пад кіраўніцтвам Б. Хмяльніцкага. Пісьменнік раскрывае

палітычную платформу казацкіх выступленняў, асвятляе вайсковыя сутычкі, што адбываліся між імі і каралеўскім войскам. Асабліва дэталёва пададзеная ў «Дыярыушы» бітва пад Збаражам (ўлетку 1649 г.). Аўтар занатаваў злачынствы, якія ўчынілі паўстанцы, апісаў іх нялюдскія ўчынкі.

На старонках «Дыярыуша» ўздымаецца вайсковая тэматыка. П. К. Абуховіч апавядае пра вайсковыя кампаніі Вялікага Княства Літоўскага, накіраваныя на вызваленне беларускіх земляў, гарадоў і мястэчак ад маскоўскіх агрэсараў. Аўтар згадвае пра вызваленне з-пад аблогі Смаленска ў 1633 г., якое каштавала жыццяў многіх яго сяброў.

У творы асвятляюцца дыпламатычныя стасункі беларускага гаспадарства і Маскоўскага княства. Аўтар падае звесткі пра надзвычай важную дыпламатычную місію Львова і Пушкіна ў 1644 г., вынікам якой стала падпісанне дамовы аб межах паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай. Вельмі дэталёва пісьменнік перадае падзеі вялікага пасольства ВКЛ 1651 г. у Маскву, якое завяршылася падпісаннем дамовы пра супольнае змаганне з крымскімі татарамі.

*Іван Саверчанка*

## ДЫЯРЫУШ

*Года 1630.* З Божай кары як у Кароне, так і ў Літве лютавалі паморкі, з-за чаго былі ў Наваградку і Трыбунальскія суды адкладзены, і шасцітыднёвы сойм, які меўся адбыцца 16 Dbr (16 снежня. — *В. Т.*), пажадаў кароль ягамосць перанесці на De 8 January (лац. — дня 8 студзеня), а сам з каралевай яемосцю рэзыдаваў у Тыкоціне.

*У гэтым жа годзе.* Вялікія свавольствы чынілі казакі на Украіне, на шляхту нападалі, мардавалі, а на астатак дайшло з імі да вайны. Пан Канецпольскі, гетман каронны, здабываў іх з акопаў пад Пярэстравам, і многа ў гэты час смерці справіў, але з-за неаплочанага жаўнера мусіў пачаць з імі перамовы і адступіць з войскам, бо цяжка судам Божым працівіцца.

*Года 1631.* In Februarjio сойм быў вальны шасцітыднёвы ў Варшаве, дзе ніякіх нам, з ласкі Божай, падаткаў не навязана, а панове каронныя прынялі падвойны падымны . І мір таксама, якога дай Божа нам як у Айчыне, так і ад прыгранічных суседзяў надоўга.

*У гэтым жа годзе.* In Julio каралева яемосць наша, княжна Ракуска, другая жонка па першай сястры сваёй, гэты свет у Варшаве павітала.

*У гэтым жа годзе.* З'явіўся ў Варшаве паморак, які, між іншымі, умарыў ягамосця пана Крыштофа Сапегу, пісара Вялікага Княства Літоўскага, дзіця вялікай надзеі ў Айчыне. Быў гэта сын пана Лявона Сапегі, ваяводы віленскага і гетмана Вялікага Княства Літоўскага. У гэтых жа гадах памёр князь Кшыжбраскі, кашталян кракаўскі, апошні гэтага дому патомак.

*Года 1632.* Апошніх дзён Aprylowych, мала хварэючы, кароль ягамосць, светлай памяці Жыгімонт адышоў з гэтага свету. Пахаваны ў Кракаве разам са сваёй жонкай, пасля якой жыў нядоўга, памерла ў мінулым годзе in Februarjio. Караляваў 45 гадоў, пераменным шчасцем вёў частыя войны з суседзямі, галады і паморкі дапускаў Пан Бог у ягоныя часы, а над усім Асман, султан і цар турэцкі, у годзе 1620 сам, сваёй асобай, маючы войска сто тысяч і болей, апрача орд татарскіх, стаў пад Хоцімам, дзе праз некалькі месяцаў часткова бітвай у полі, а зазвычай нечаканымі штурмамі хацеў разбіць наша войска, аднак з дапамогай Божай і справамі нябожчыка пана Яна Караля Хадкевіча, ваяводы віленскага і гетмана Вялікага Княства Літоўскага, адступіў з ганьбай, закончыўшы вайну перагаворамі. Па смерці караля ягамосці цар маскоўскі ўвайшоў у Северскія землі і Смаленск аблажыў. І з ім такая вайна вялася. Не шкода будзе й прыпомніць, што ў годзе 1621 у Варшаве, на сойме, нейякісь паляк Пякарскі, схаваўшыся ў касцёле святога Яна за дзвярыма, ідучага караля ягамосця наўмысна стукнуў некалькі разоў абухам у твар і ў галаву і, напэўна, забіў бы, калі б чаляднік спаў. Злавілі яго ў касцёле тут жа, а прыкінуўся быў ён вар'ятам. Асуджаны публічна, урэшце пакараны соймам на суровую смерць і спалены. Усяго гэтага быў я сведкам, калі ў той час выконваў пасольскую функцыю ад Наваградка. Кароль ягамосць быў росту высокага, твару прадаўгаватага, з вачэй вясёлы. Здароўе меў адразу добрае, а пры канцы гадоў сваіх, якіх меў 65 альбо 66, параліч разбіў яго ў правы бок, але, ратаваны, жыў яшчэ некалькі гадоў. Рэдка хто з людзей у яго часы дасягнуў рыцарскай узнагароды, але лайдакам і вечным пакаёвым даваў задавальненне, праз гэта й нараканні былі. Хвала таму, што, з-за веры, не крычалі. У першыя гады яго панавання быў рокаш, які, калі не занядбаюць, лепш і дакладней апішуць гісторыкі.

Па смерці караля ягамосці закончыліся суды Трыбунальскія, дзе і я быў дэпутатам ад Мазырскага павета, а пачаліся, як у Кароне, так і ў Літве, суды каптуровыя . Хутка потым, in Julio, была ў Варшаве канвакацыя ўсіх станаў, дзе, будучы паслом

ад Мазырскага павета, прысутнічаў і я. На ёй згодна абралі мы каралём Уладзіслава IV, старэйшага сына ягамосці караля, светлай памяці Жыгімонта. Каранацыя караля ягамосці адбылася ў Кракаве.

*Года 1633* in Febr. ухвалены немалыя падаткі, па шэсць збораў на два леты, на падтрымку вайны Маскоўскай; хутка пасля каранацыйнага сойма рушыўся кароль ягамосць пад Смаленск, які знаходзіўся ў цяжкай аблозе, і, прыйшоўшы з войскам in Septembri, зараз жа зрабіў вольны праход да Каралеўскай брамы. Маскву з акопаў выгнаў, дзе і нашых каля сотні самага таварыства загінула. Божа, блаславі нас супраць непрыяцеля!

*Года 1633. In Julio* святой памяці годны ягамосць Лявон Сапега, ваявода віленскі і гетман Вялікага Княства Літоўскага, пад бытнасць у Вільні караля ягамосці, адышоў з гэтага свету поўны ўсіх дароў Божых. Пячаць меншую і вялікую трымаў гадоў сорак, дабра паспалітага міласнік, пры якім з маладога веку бавіў немалы час, як у войску, так і ў двары і я. Пахаваны ў Вільні, у касцёле св. Міхала.

*У гэтым жа годзе.* De 2 сакавіка кароль ягамосць Уладзіслаў Чацвёрты, будучы з войскам пад Смаленскам, хацеў склікаць нашым станам у Вільні канвакацыю дзеля новых кантрыбуцый на падтрымку вайны Маскоўскай. На гэтай канвакацыі быў я паслом ад Мазырскага павета, куды дайшла да нас з-пад Смаленска шчаслівая навіна ад ягамосці караля, што Шэін, ваявода і гетман маскоўскі, які, маючы людзей больш за сто тысяч, цяжкай аблогай Смаленск мучыў, а потым сам меншым у лічбе войскам яго каралеўскай міласці так моцна быў атакаваны ў абозах, што не вытрымаў націску і толькі праз перагаворы, як вязень, жыццё сабе выпрасіў і выйшаў з войскам з акопаў. Сто з лішнім харугваў кінула масква пад ногі караля ягамосці, якія не адразу паднеслі, але князь ягамосць Радзівіл, ваявода віленскі, імем караля ягамосці даў ім дазваленне. Сто дваццаць медных гармат пакінуў нам Шэін на памяць, і другой зброі, і рыштунку, якіх і не злічыць. Нарэшце, сам з першымі палкоўнікамі каралю ягамосцю біў чолам аж да зямлі і, узяўшы ад ягамосці караля прystава, пайшоў з войскам да сталіцы. Пасля той шчаслівай выправы кароль, прошаны Масквою, каб дазволіў перагаворы аб міры, зараз жа ад Смаленска рушыў да Вязьмы і далей у іх землі. За што, Пане Божа, будзь ласкавы, блаславі ягамосця караля на дабро рэчы паспалітай.

*Года 1635.* Свавольны казак, называны Сулімам, з васьмюстамі казакамі, хітра і нечакана пракраўшыся з мора на Днепр,

смела ўдарыў па крэпасці, якую кароль ягамосць Уладзіслаў вялікім для рэчы паспалітай коштам загадаў паставіць і атачыць валамі на першым дняпроўскім востраве супраць казацкай разбэшчанасці: каб на мора болей чоўнамі не хадзілі і Турчына не дразнілі. Суліма, ноччу напаўшы на гэтую крэпасць, варту перабіў, капітана і многа людзей шаблямі пасёк, грошай рэчы паспалітай многа пабраў, а новую крэпасць за некалькі месяцаў зруйнаваў. Па гэтым на загад караля ягамосці быў ён аблажаны рэестровымі казакамі там жа, на дняпроўскім востраве, а калі яму не стала дроў для абагрэву, быў сваімі ж выданы і дастаўлены ў Варшаву на двухтыднёвы сойм, які сабраўся ў годзе 1636, на пачатку года, там жа з некалькімі такімі ж разбойнікамі чацвертаваны і на палю ўзбіты, годную заплаціў даніну за свае зладзействы.

*Года 1637.* Кароль ягамосць Уладзіслаў Чацвёрты Septembri De 13 урачыстай помпай адправіў у Варшаве шлюб з цэзаравай яемосцю Рэнатай, дочкай светлай памяці цэзара ягамосці Фердынанда Другога, дзе і я, будучы пры ягамосці пану Казіміру Сапегу, маршалку надворным Вялікага Княства Літоўскага, як добры дома яго прыяцель, падарункам адкланяўся.

*Года 1638.* Сойм вальны быў скліканы ў Варшаве, на якім, між іншымі публічнымі абмеркаваннямі, было абмеркаванне марскога цла (падатку. — *В. Т.*) , з якога гданьшчане, на вялікую шкоду рэчы паспалітай, найменшага гроша ў скарб даць ухіляліся. Годная ёсць думка, што калі б рэч паспалітая мела тое цло ў сваім распараджэнні, то ніколі паборы не былі б патрэбны а ні на меншую, а ні на каштоўнейшую рэч. Толькі ганаровыя і ўпартыя гданьшчане не хацелі яго выпусціць са сваіх рук і занядбалі ўсе станы, што яўна ў гэтым жа годзе паказала на камісію ў Варшаве, дзе і я быў прысутным, на якой ні да якіх перагавораў з камісарамі прыступіць не хацелі. Кароль ягамосць таксама не вельмі моцна націскаў, таму было бачна, каб мы нейкімі павагамі і ласкай чаго дачакаліся, бо сквапнасць усіх, як кажа прарок, стала на галаву.

*У гэтым жа годзе.* Без згоды рэчы паспалітай кароль ягамосць in Augusto ехаў з каралевай за мяжу, у Вену і далей за Вену на курорты, на якіх мала што здароўе паправіў. У дарозе бачыўся з іх мосцем імператарам, дзе яны некалькі дзён між сабой гаварылі. Не ў смак была гэтая дарога ўсім станам, бо рэдкая і за вякамі нашымі справа нечуваная.

У гэтым жа годзе прыйшла навіна, што каралевіча, ягамосця Казіміра, роднага брата караля ягамосці, губернатар Марсыліі,

крэпасці французскага караля, злавіў на моры каля гэтага замка і вязнем зрабіў, гаворачы, што каралевіч Казімір, едучы да гішпанскага караля на службу, бо яму адміральства Гішпаніі было пажалавана, пад'ехаў пад названую крэпасць як даглядчык, або шпег, і яго ўзялі з памылкі, якраз падчас непрыязні між тымі панамі (французскім і іспанскім каралямі. — *В. Т.*). Не дапамагло і тое, што каралевіч у цэзарскім войску меў некалькі рэгіментаў (вайсковая адзінка. — *В. Т.*) супраць французскага караля, які, будучы ў Лідзе, праводзіў вайну супраць цэзарскіх мяцежнікаў. Пра што знана ва ўсім гаспадарстве французскім, і за адкрытага непрыяцеля быў каралевіч аб'яўлены.

*Года 1639.* Ягамосць пан Казімір Лявон Сапега, маршалак надворны Вялікага Княства Літоўскага, патомак бессмяротнай славы годнага ягамосці пана Лявона Сапегі, ваяводы віленскага і гетмана Вялікага Княства Літоўскага, з плана Божага ў стан святы шлюбны узяў яемосць панну Феадору Тарнаўскую Грабянку, ваевадзянку венскую. Вясельны акт адправіўся ў Любліне.

У гэтым жа годзе. In Fbri быў сойм вальны шасцітыднёвы каралём ягамосцем скліканы ў Варшаве з нясмакам для ўсіх станаў рэчы паспалітай дзеля частага права саймавання. Быў я з павета Наваградскага паслом. Гэты сойм быў разарваны і не закончыўся з-за некалькіх мяцежнікаў, гэта значыць з-за incompatibilia (лац. — нецярпімасць) пры біскупстве пшэмышльскім князя Гэнбіцкага, канцлера каронная з абацтва Мехаўскага, з пробашчам Плоцкім. Гэтая справа хоць і невялікая, але perinwidiam (лац. — з-за зайздрасці) каронныя трымальнікі пячацяў не ладзілі між сабою на Пасольскім Коле цэлыя тры тыдні. Потым некаторыя вакансіі людзям простага стану раздавана, міма славы. Кароль ягамосць таксама не хацеў вяртаць Новы Двор ад Якабсона, што належаў Мальборгскай эканоміі. Ваяводствы Чэнстахоўскае, Собвіюш ад гданьшчанаў. Толькі курляндскае Feudium (слова незразумелае, магчыма, Кейданы ці Фейданы, мястэчкі ў Курляндыі, васальным княстве рэчы паспалітай. — *В. Т.*), міма ведама Стану Рыцарскага, князю Якубу, сыну Вільгельма Банта аддадзена. Таксама й дарога да курортаў, што была без ведама Станаў Senatus Consulta (лац. — рашэнні Сената. — *В. Т.*) , узяла больш тыдня часу. А наастатак радзілі аб тытулах княжат, пра што перад гэтым у Рэчыцы ў Канстытуцыі года 1638 было запісана: тытуляваць іх княжатамі з канцылярыі. Але каронныя ваяводствы жадалі, каб Канстытуцыя была папраўлена і сойм той замарылі. Небяспечны гэта прыклад у рэчы паспалітай, калі найлепшыя цяпер з усіх лекаў, соймы,

разрываюць. Дай, Божа, унутраныя нянавісці супакоіць, гонар скруціць, а ў Айчыне хвалу Табе і імя Тваё святое ў блаславенстве Тваім і міласэрнасці захаваць.

Года 1640, in April, ізноў кароль ягамосць сойм шасцітыднёвы з-за пагрозы вайны турэцкай склікаў. Быў я на той час паслом з Наваградка, і гэты сойм мала-мала што не разарваўся, бо ні адна не стала канстытуцыя, толькі агаварылі плату кароннаму войску. Агаварылі паны палякі, а Княства Літоўскае да гэтага не прылажылася. На гэтым сойме стаў дэкрэт аб Віленскім Зборы каб навекі ў ім кальвінскае набажэнства не адпраўлялася і каб сам Збор быў вернуты ў прыватнасць гараджанам, пры гэтым з пяці абвінавачаных трое былі асуджаны на смерць. А гэта па той прычыне, што служачы ў гэтым Зборы, нейякісь міністр Юрскі стаў прычынай страляніны да касцёла святога Міхала Паненскага. І калі камісары, вялікія людзі ex Senatu (лац. — ад Сената) гэтую справу пераглядалі, менавіта некалькі дзесяткаў стрэлаў, то Панна старшая засведчыла, што не маглі яны ніадкуль быць выпушчаны, а толькі са Збора, і ў анёльскіх фігурах была адна страла. Да гэтага было некалькі ўбогіх забіта са Збора. Так гэтая страляніна стала прызнаннем таго, што ў Зборы дзеецца замнога нядобрага. Наказана тады Панне старшай з шасцю сёстрамі, што, уласна, быццам са Збора страляна і з ведама будучых там міністраў. Тыдняў праз 8 пасля соймавага дэкрэта, былі пастаўлены Панны ў Вільні ad composium Iudicum (лац. — судовае следства) да прысягі, і хоць спадзявана на нейкі шум ад князя, пана ваяводы віленскага, старанна падрыхтаванага, аднак, з ласкі Божай, нічога такога не стала. Прысягу Панны выконвалі, трох міністраў называючы: Юрскага, Сабецкага і Хартбіюша. Былі яны на смерць асуджаны, але паўцякалі з Вільні. А Збор потым хутка замураваны, а цяпер і званы зняты. Месца для Збора прызначана за горадам, каля агароджы, там кальвіны хаваюцца. Гэтым няшчасным выракам моцна пакрыўдзілі кальвінаў, цяпер яны цярпліва трываюць, але ў будучым можа быць штосьне бяспечнае. Пане Божа, папсуй рады бязбожныя, а касцёл свой святы ад ваўкоў драпежных загадай вызваліць.

Гэтага ж года. Apr. першага нарадзіўся каралю сын першародны ў Варшаве, ахрышчаны ўзяў імя Жыгімонт Казімір, але сам кароль быў небяспечна хворы.

Гэтага ж года. Скліканы сойм у Auduscie. Будучы паслом з Мазырскага (павета. — *В. Т.*), ехаў я да Варшавы.

На гэтым жа сойме, шчасліва скончаным, за некалькі дзён да яго заканчэння, курфюрст Брандэнбургскі аддаў ка-

ралю Homadium (лац. — тут, напэўна, знак пашаны, гонару). Сустракаў яго кароль ягамосць пад Варшавай, у Закрочыне, едучы з лёгкай асiстэнцыяй коннiцы i пяхоты, а курфюрст меў з сабою 500 чалавек. Пакой яму быў прызначаны ў Вездаве.

Гэтага ж года каралевiч iхмосць Казiмiр з палону ад караля французскага па заступнiцтве караля iхмосцi i ўсiх станаў быў вызвалены. Паслом быў пан Гансеўскi, ваявода смаленскi, сын Аляксандра Гансеўскага, ваяводы смаленскага, цноты i спраўнасцi бацькi, дай Божа, каб унаследаваў патомак.

Года 1642. In Febr. сойм двухтыднёвы быў склiканы для выплаты войску кароннаму, для прызначэння ваяводствам кароным падаткаў i для пагашэння даўгоў караля ягамосцi, што называна было gralitudiem (лац. — выяўленне мiласцi) да Пана. Стаў гэты сейм feliciter (лац. — шчаслiва), толькi gralitudo (лац. — мiласць) ад нязгодных паноў каронных пайшла да наступнага сойма, а Княства Лiтоўскае дало абяцанне згодна: на чоп двойчы (падвойны падатак на ўвоз тавараў. — *В. Т.*), на мыта новае, на жыдоўскае пагалоўна, i на татарскае. Удзячна гэта кароль ягамосць прыняў ад Княства Лiтоўскага, але й гэта рэч новага прыкладу, дай Божа, каб яна не шкодзiла posteritati (лац. — на будучы час, на будучыню).

Гэтага ж года, на Святкi, адправiў кароль ягамосць вяселле сваёй сястры, каралеўне яемосцi Ганне Кацярыне Канстанцыi з Пiлiпам Вiльгельмам, князем нейбургскiм. Асiстэнцыя была не вельмi вялiкай. Вяселле трывала два днi, а святочныя аўторак i серада прайшлi без анiякiх урачыстасцей. Аддаў я падарунак ад караля ягамосцi новай укаханай на сто тысяч каштуючы.

Года 1643. У дзень 12 Fbr. быў склiканы ў Варшаве шасцiтыднёвы сойм, у час вельмi нязручны, перад самым прыняццем рашэння: на якi motivum (лац. — размовы, тэма размовы) быць сойму? Прадметам размовы на сойме стала тэма gralitudilis (лац. — мiласцi, павагi), альбо выплата прыватных даўгоў караля ягамосцi, як гаворана, на некалькi мiльёнаў набраных. Будучы ў гэты час паслом са Смаленска, справiў я, з ласкi Божай, пажаданую рэч для яго жыхароў: згодна з надзеяй зацверджаны быў канстытуцыяй артыкул Смаленскага замка, ад некалькiх дзесяткаў гадоў ужо заняпалага, i выплата грошай неаплочанай пяхоце. Бо Лiтоўскае Княства толькi ўзялося, а нiчога на справе зрабiць не хацела: муры i валы паправiць, пяхоце немалую задоўжаную суму выплацiць, апрача маёнткаў, што ясней можа iнфармаваць патомных канстытуцыя. Аплацiць даўгi караля ягамосцi чатырма прызначанымi падымнымi ўсе каронныя дазволiлi, апрача

Рускага ваяводства, на што ўгаворваць выклікаліся ехаць на соймікі некалькі дзесяткаў чалавек з Сената і шляхты; а Княства Літоўскае ўзялося аплаціць два чопавыя in Duplo (лац. — падвойна), збор новага мыта, шэсць тысяч пагалоўнага жыдоўскага і шэсць пабораў ex Aegalibus (лац. — падушнага, з кожнай душы). Прыклад папраўдзе новы і небяспечны, бо каб і ў прыйшлы час Панове, што кіруюць народам нашым, на такое не зважалі, і не пазычалі як на пэўную выплату ад Вольнага Народа, і каб потым большая частка няволі і ганьбы не перайшла на патомкі нашы. Аднак часам і мы саступалі патрэбам, даўшы тытул канстытуцыі 1643 года: «Аб скасаванні даўгоў, рэччу паспалітай узятых». І хоць кароль ягамосць на рэзюме вельмі захварэў, і без яго ўдзелу прыйшлося нам прымаць рашэнне, аднак пры развітанні, якое пры канцы аж чатыры дні дзень па дню ў гонар шасці вызначаных тыдняў адпраўлялася, быў задаволены кароль ягамосць. І хоць цяжкай хваробе, але весела жартаваў пры пацалаванні рукі і дзякаваў мне кароль ягамосць, што не сапсаваў я труднай і да заканчэння непадобнай каралю ягамосці тэмы, з-за якой маглі б іншыя і не выстаяць.

Гэты ж год і тым ёсць памятны, што вялікія халады і маразы сталі і з нечуванай цяжкасцю снягоў больш чым да палавіны мая трывалі.

Года 1643. Вялікі ўпадак быў на людзей убогіх супраць года мінулага, вельмі неўраджайнага, але й на быдла праз недахоп корму часта былі паморкі. Пане Божа, зрабі ласку, адвярні такія няшчасці ад люду свайго.

Года 1644. De 24 Marca каралева яемосць Цэцылія Рэната, жонка караля ягамосці Уладзіслава Чацвёртага, памерла ў Вільні на Замку, з вялікай для ўсёй Кароны і Вялікага Княства Літоўскага жалобай. Вельмі вялебная пані, рэдкай набожнасці і набожных учынкаў, гадоў 33 мела свайго веку, а годная траякіх такіх гадоў, калі б нашым жаданням толькі Неба спрыяла. А прычынаю гэтай смерці, апавядаю, было: у замку дзікага мядзведзя зацкавалі, і ўжо калі здалося, што ляжыць ён мёртвым, нехта ізноў крыкнуў, што мядзведзь ажыў. Ірванулася неасцярожна каралева да акна і, высунуўшыся залішне, сціснула плод, якім цяжкая была, і ад гэтага зараз жа смяротная альтэрацыя прыпала. Адны гаварылі, што плод выйшаў жывым і ахрышчаным, другія, што мёртвым. А сама няцэлыя два дні прамучыўшыся пратрывала і ў Дзень Вялікага Чацвярга, паспавяданая і прычашчоная, сканала. Марнасць гэтага жыцця, слізкасць і падманнасць шчасця перад смерцю прыпаміната. Пенкны прыклад высокаму

стану, з дому князёў Ракускіх, Фердынанда 2 дочка, Фердынанда 3-га, абодвух цэзараў дочка.

Гэтага ж года. Паслы масквіцяне Львоў і Пушкін з многімі людзьмі тамтэйшага народа прыбылі да караля ягамосці ex vi Pactorum (лац.— для дагавору), для перагавораў... або з боку вызначэння межаў як ад Кароны, так і ад Вялікага Княства Літоўскага. У Варшаве гэты акт быў адпраўлены і шчасліва закончаны. Усіх сваіх прэтэнзій Масква аж да Невеля ўступіла, а мы ім Трубецк аддалі. Прыплацілі мы з Вялікага Княства Літоўскага нямала і за межы Кароны. Толькі надзея на вечны з тым непрыяцелем мір нас цешыла, і адкінулі мы Маскве ўсякія і найменшыя прычыны да разарвання вечнага міру, а нявырашаныя межы маглі стаць прычынаю ваеннага пажару.

Года 1645. In Fbr. Сойм шасцітыднёвы ў Варшаве адбыўся, быў я з Наваградка паслом. Гэты Сойм не скончыўся дзеля камісіі з Масквою, праз якую з-за аддання Княствам Літоўскім Трубецка, вялікая стала народу крыўда. Каронныя паслы не пацвердзілі артыкуламі нам узнагароду, і з-за гэтай прычыны сойм працаваць не змог. Бо трэба было або камісію адмяніць Zege Publica (лац. — дзяржаўнага пасольства), з чаго на пэўную вайну спадзяваліся б, або, адмяніўшы адданне Трубецка, навекі ганьбу й шкоду народу Вялікага Княства Літоўскага ўчыніць.

На гэтым Сойме меншая пячаць аддадзена іхмосці пану Казіміру Сапегу, Маршалку Надворнаму Літоўскаму, за якога ледзьве гэты ўрад упрасіў, за ўсе яго цноты, горды нораў і амбіцыі.

У гэтым жа годзе адправіў я пасольства ад яго каралеўскай міласці да смаленскіх мяшчан, каб на сойміку, паводле ўсеагульнай згоды сваёй направу смаленскіх муроў зараз жа агаварылі і пачалі. Ахоўным лістом сваім, а другім да Сената, пацвердзіў іх права на вечнае карыстанне васальнымі ўладаннямі, што на мінулым сойме дадзены. На гэта кароль ягамосць не гарэў desiderio (лац. — жаданнем) і ўсё адклаў да сойма.

У гэтым жа годзе, падчас Сойма, in Martic святы айцец Інакенці X, свежа сталіцу апостальскую па памёрлым святой памяці Урбане XIII, пане каноніку, заняўшы, даў шчаслівае Salo (лац. — прывітанне, паклон) з вялікімі духоўнымі ласкамі, якія й мы, з ласкі Божай, у Варшаве адсвяткавалі.

У гэтым жа годзе, дня 22 Julji вялікі цар маскоўскі Міхайла Фёдаравіч, Філарэта мітрапаліта сын, у сталіцы сваёй памёр. Гаворана, што была падсыпана атрута, на што ў там-тага народа

няцяжка. Спадкаемцам стаў яго сын Аляксей. Гэты пасля смерці бацькі свайго, зараз жа пасла караля ягамосці пана Лемпкоўскага, кашталяна браслаўскага, затрыманага ў Маскве на доўгі час з-за неаддання Трубецка паводле заключаных дагавораў мінулага года, адправіў і паабяцаў узаемнае пацвярджэнне грамат, а хутка й пасла свайго выправіць да караля ягамосці.

Па падобнай прычыне дацкі каралевіч, сын караля ад некаранаванай маткі, якую шлюбаваў кароль ягамосць на цырымоніі левай рукой, каб толькі яе за жонку каралеўскія падданыя разумелі, праз 2 гады, маючы абяцанне ад нябожчыка цара на шлюб з Ірынай, царскай дочкай, калі туды прыехаў, новую пачуў рэч: каб найперш па-маскоўскаму парадку ахрысціўся, а потым стаў царскім зяцем, за што, калі не згадзіўся, трыманы быў у палоне, а зараз выпушчаны.

Года 1646. Кароль ягамосць Уладзіслаў Чацвёрты паўтарыў шлюб з княжною яемосцю Людвікай Марыяй з Мантуі ... патомнай Пані. Згадзіліся на вяселле ў Варшаве De 11 Mar, у нядзелю Велікапосную. Адпраўлена было ў Гданьску на Запусты. Толькі кароль ягамосць, слабы здароўем, мала што рушыўшы з Варшавы, зноў вярнуцца назад быў вымушаны. Каралева яемосць De 27 Octobri 1645 года з Парыжа выехаўшы, спынілася на мяжы, за мілю ад Замбурга, De 8 Februarji 1646 года. На яе сустрэчу пажаданы быў ад караля ягамосці наш іхмосць пан падканцлеры Сапега з аграмаднаю з выгляду світаю, каля тысячы людзей: дваран з ездавымі коньмі, драгоніі, казакаў і пяхоты. У гэты дзень сталі яны з іхмосцем ксяндзом Гневашам, біскупам куяўскім, што калегаваў Сапегу, на польскай мяжы і сустрэлі каралеву яемосць ужо на змроку. Прывітаў каралеву яемосць ад ягамосці караля ксёндз біскуп, а потым пад каралеўскім шатром, спецыяльна на гэта прыгатаваным, праводзілі яе да Замбурга на начлег. Адсюль дня 10 Febr. мела каралева яемосць начлег пад Гданьскам, у Аліце, у кляштары, а назаўтра ад каралевіча іхмосці Караля, біскупа Плоцкага, пры прысутнасці некалькіх паноў сенатараў, пры конніцы і кавалькадзе, з трыумфальным спатканнем гданьшчанаў была ўведзена ў горад. Адпачыўшы праз Мясапуст, на якім без караля ягамосці ніякіх забаваў ды ўцехаў не было, на памянёны час шчасліва ад пасла айца святога на шлюб пацвярджэнне атрымаўшы, каралеўства прынялі, а потым і вяселле сціплае, без ніякіх відовішчаў, паводле часу поснага, адправілі. З-за моцнай на буры і непагадзь зімы і з-за перанясення тэрмінаў раз in Nbri, in dbri, in Januar (лац. — раз у лістападзе, раз у снежні, раз у студзені. — *В. Т.*), на вяселле

прызначаных, а гэта ўсе з-за няпэўнасці часу прыезду каралевы з Францыі, цяжка й сказаць, якіх вялікіх намаганняў і коштаў сам кароль і мноства яго слуг далёкіх зведалі, штораз апарат дарожны рыхтуючы і, выправіўшыся ў дарогу, вяртаючыся для далейшых дакладаў. Яшчэ больш у самім Гданьску, без пэўнай весткі на час прыезду каралевы жывучы, коштаў прыбывала. За ўсё няхай будзе Бог пахвалёны, асабліва за тое, што мы здаровымі да сваіх дамоў павярталіся.

Гэтага ж года. In Martio іхмосць Станіслаў Канецпольскі, кашталян кракаўскі і гетман каронны, пасля першага шлюбу, ажаніўшыся ў доме іхмосцяў паноў Апалінскіх з маладою паннаю, сам блізка гадоў 60 маючы, месяцы са два пажыўшы, памёр. Кашталянія кракаўская аддадзена ягамосцю пану Любамірскаму, ваяводу кракаўскаму, а Булаву па ім кароль ягамосць затрымаў да сойма.

Гэтага ж года, de 26 Fbr. Скліканы быў сойм шасцітыднёвы ў Варшаве, я быў паслом з Наваградка. У Карону, а часткова і ў Літву, уведзены быў замежны жаўнер, некалькі дзесяткаў тысяч, moti (лац. — са згоды, без ведама іншых) караля ягамосці без ведама станаў абодвух народаў. Ішла нейкая прыватная карэспандэнцыя караля ягамосці да далёкіх манархаў, якія, жадаючы сабе і патомным gloriam (лац. — славы), падбухторвалі на вайну з Венетамі і з дзяржавай турэцкага імператара, нягледзячы на прынятыя пад прысягай дагаворы. Радзілі, пэўна, яму, каб у будучым зважаў і на Termopilas (лац. — слова не вельмі зразумелае. Магчыма, на грэцкую дзяржаву, на грэцкую супольнасць. — *В. Т.*) Грэцкі, сілу караля персідскага таксама абяцалі, а за ўсё прапаноўвалі яму субсідыі. З гаспадарамі Валашскім і Мультанскім звязваўся таксама кароль ягамосць, робячы ўсё гэта secreto consilio (лац. — сакрэтная рада), без ведама сената і рэзідэнтаў. Ледзьве хто быў conseisus (лац. — пагадненне), апрача некалькіх замежных каралеўскіх пакаёвых. Лісты, адпаведна, з пакаёвай пячаццю загадаў выдаць, пастоі прызначыў, крыўдамі ад жаўнера, асабліва ад замежнага, убогіх людзей абцяжарыў. Рэч нечуваная, поўная трывогі і разумення de absoluto Dominio (лац. — усёй вярхоўнай уладай), альбо аб пачатку вайны рэчы паспалітай з Турцыяй так моцна ўсіх усхвалявала, што ні аб чым другім радзіць на сойме не хацелі, толькі аб роспуску замежнага войска і каралеўскай гвардыі, якая вырасла да лічбы ў 9000, каб была яна скарочана да значна меншай часткі. На што адразу быў кароль ягамосць вельмі нязгодны, аднак уступіў просьбам падданых сваіх і жорсткімі універсаламі ад войска гэтага адмовіўся.

Гвардыі таксама абяцаў пакінуць пры боку сваім толькі дванаццаць соцень. І так гэтыя два артыкулы былі ўхвалены Канстытуцыяй. Ёсць што чытаць вольнаму грамадзяніну, было б жаданне ў прыйшлым. Была й другая, не менш трудная тэма: аб адданні Трубецка. Большая частка сойма бралася на тое, што каронныя не вырашылі: адкуль аддаць Княству Літоўскаму. Нарэшце пастанавілі аддаць Любецк і Лоеў, ад Кіева і Старадуба Княству Літоўскаму, апрача тамтэйшых службовых людзей. А патомкам Трубяцкога і яго матцы назначылі сто семдзесят тысяч за два гады ад гэтага сойма, а на другім, ардынацыйным, абяцалі заплаціць. Штогод ад гэтай сумы пастанавілі выплочваць па 12.000. Даволі, папраўдзе, стала на гэтым сойме такія складаныя тэмы былі вырашаны. Пра што няхай ведаюць патомныя, на якім моцным раменьчыку былі падвешаны свабоды вольнага народа, на якіх прыёмах і незвычайных захадах, з чаго не выпала нам на intestium bellum (лац. — міжусобная, грамадзянская вайна), і што які трэці інтэрвент не разважае на нашу апошнюю згубу. Ёсць за што хваліць дабрыню і міласэрнасць Божыя. На перагаворы са Шведамі наконт Інфлянтаў, на што кароль ягамосць яшчэ на пачатку свайго панавання абавязаў, нарэшце камісараў загадаў назваць, і мяне ў іх лік прызначыў.

Каралевіч ягамосць Казімір, выракшыся езуітаў, прыняў як бы з Consilio (лац. — рада, савет) Айца Святога бірэт кардынальскі. А ў тым часе, калі ён, як кардынал, вярнуўся да Польшчы і прыбыў у Варашаву зараз пасля сойма, вітаў ягамосця караля ў рыцарскім строі, а бірэт Айцу Святому адаслаў; якія перамены чакаюць Айчыну нашу, час пакажа. Дай Божа, на ўцеху Дома Каралеўскага і Айчыны.

Пасол Венецыі Трыполі, які гады са два жыў пры ягамосцю каралю, нагаварыў яму выправіць на мора казакаў, каб рэч паспалітая перашкодзіла вайне Венетаў з Турчынам. Абяцаў, што, калі б турэцкі імператар перанёс вайну да Польшчы, тры мільёны штогодна ў золаце давалі б каралю на ваенную падтрымку. Чым быў вельмі караля заахвоціў, бо паспешна пайшлі вярбоукі, але памыліўся кароль ягамосць на тых абяцанках, бо і грошай не прыслана, і вайна на вялікую шкоду распачата, і згоды не стала між панам і падданымі.

Года 1646. Адзіны сын караля ягамосці каралевіч Жыгімонт Уладзіслаў primis diebus Juris 40 ...primis diebus Juris (лац. — першы законны спадкаемца), на чырвоную дызентэрыю некалькі дзён хварэючы, памёр у Варшаве на восьмым годзе свайго жыцця. Годны патомак такога вялікага манарха, усіх надзея, на

вачах Айчыны нашай знікнуў з зямнога да Нябеснага жыцця і Караля Каралёў. Цела да Кракава праводжана і каля труны каралевы яемосці, святой памяці Цэцыліі, маткі яго, пастаўлена.

*Года 1648.* Цяжкія няшчасці дапусціў Пан Бог за грахі нашы: найперш кароль ягамосць Уладзіслаў Чацвёрты, выехаўшы in Maro з Вільні да Мерэча, захварэў і дня 20 у свята Узнясення Хрыстова, апоўначы, а другой гадзіне, дух Каралю Каралёў аддаў з невымоўнай жалобай і асіраценнем Айчыны нашай. Як толькі цела каралеўскае астыла, зараз жа Украіна і прылеглыя ваяводствы на пагібель дастаткаў сваіх кроў пачалі праліваць. Стала вялікае пакаранне Божае праз казацкую сваволю, якія, забыўшыся на Бога і на сваю прысягу, каралю-пану адданай, пад кіраўніцтвам якогасьці Хмяльніцкага-казака акапаліся над Дняпром, з Татарамі заключылі лігу і прывялі некалькі дзесяткаў тысяч паганых.

Найперш тады частка рэгулярнага войска над Жоўтымі Водамі была разбіта, потым наступілі на лагер пад Корсунем, дзе былі абодва гетманы: пан Патоцкі, кашталян кракаўскі, і пан Каліноўскі, ваявода Чарнігаўскі польны. Адступаючых табарам з акопаў пад Белую Цэркву казакі з аднаго боку, татары з другога аблажылі і, разам ударыўшы, табар разграмілі, абодвух гетманаў і мноства рыцарства ўзялі паганыя і казакі ў палон. Пасля такога страшнага пагрому раз'юшанае паганства па-праўдзе ўсю Украіну спустошылі і, палону на 200 000 набраўшы, De 18 Junji да сваіх кошаў адступілі.

Тая халопская сваволя штодзень памнажалася. Хмяльніцкі, акопам пад Белаю Цэрkваю стоячы, з якімісьці ўмовамі паслаў да ксяндза арцыбіскупа Гнёзненскага. І хоць не малыя каронныя войскі былі пад Глінянамі, але не злучыліся, бо калі галавы няма ва ўрадзе, то хоць трох палкаводцаў прызначылі.

Караля ягамосця святой памяці не толькі пяру майму нікчэмнаму і дасціпнасці дробязнай, але й найлепшых гісторыкаў пісьмёнам годна выславіць цяжка. Такой быў пан мудрасці, дзейнасці і шчасця, такой прыхільнасці, дабрыні і ласкавасці да падданых, што ані войнамі, ані пакоем мінулых і будучых вякоў цяжка знайсці, цяжка абяцаць падобнага. Гадоў з 53 жывучы, розныя хваробы, падагры, гарачкі часта цярпеў. На астатак на камень завохкаў, а з-за неасцярожнасці дактароў упаў у гарачку і, лекамі змучаны, пры вялікай памяці, адораны Святымі Сакраментамі, памёр. Быў пан прыгажосці рэдкай, вельмі мажны, вельмі думны, а што вялікага захаплення годны, так, гавару,

роўнага не меў сабе красамоўцы. Душа яго светалюбівая няхай адпачывае ў вечным спакоі.

Зараз пасля каралеўскай смерці, in Juljo, была склікана канвакацыя ў Варшаве князем Мацеем Любамірскім, арцыбіскупам Гнёзненскім. Тыдні два яна працягвалася, з Наваградка быў я паслом. А Хмяльніцкі ўжо так далёка па ўсёй Украіне свавольных халопаў праз бунты распусціў, што шляхта з Валыні, Кіева, Браслава, Падолля натоўпамі ўцякала. Магутныя замкі праз халопскую здраду забрана, а дзе-кольвек шляхта замыкалася, то выбрацца не магла. Тады лютай смерцю і невымоўнымі пакутамі абодва полы каралі: касцёлы рабавалі, алтары і святыні найсвяцейшай людской крывёю па-д'ябальску пакрапілі, труны зрушылі, целы выкідвалі і сабакам аддавалі. Капланаў ля алтароў забівалі, паненак гвалцілі, дзетак малых на вачах у бацькоў на рагацінах смажылі і бацькам на ежу аддавалі. А што-кольвек шалёны, з роду хамскага, на пагібель славы Божай і стану шляхецкага ад пекла найгоршага мог прыдумаць, усё без помсты тварыў, бо войска гатовага не было, а абарона на канвакацыі толькі агаворана і ніякай перашкоды не чыніла. Здалося рэчы паспалітай паслаць да яго, як і сам здрадліва праз паслоў, гаварыць аб міры. Назначаныя камісары (як ёсць запісана ў Канстытуцыі) ехалі да яго. Толькі здрайца, хітра цягнучы час і чакаючы на Арду, бавіў іх. Аж тут таксама і войска кароннае, каля 30 000, сабралася каля Львова і да той д'ябальскай лярвы падцягнулася. А тым часам у Літве і ў нас такі ж агонь гультайствам з бандаў Хмяльніцкага запушчаны, так далёка заняўся, што паветы Украіны, замкі Старадуб, Рэчыца, Мазыр, Пінск, Бярэсце і іншых нямала на Белай Русі дашчэнту знішчаны, са шляхты адны трупамі паляглі, другія, у цяжкім выгнанні туляючыся па чужых кутах, гаравалі, і чым бліжэй былі мы да пагібелі, то толькі надзеяй цешыліся ды на міласэрнасць Божую спадзяваліся ды дзякавалі Яму за такія цяжкія адведзіны. Абарона Літоўская слабая, завербаваны жаўнер, перш чым паказацца ў полі, вёў нескончоныя перагаворы аб плаце нязмернай, таму мусілі мы самі часткова павятовым жаўнерам, часткова паспалітым рушэннем даваць непрыяцелю адпор. Дапамагаў раней і цяпер не пераставаў дапамагаць вялікі сенатар ягамосць пан Казімір Лявон Сапега, падканцлер Літоўскі, які на свой кошт вялікую грамаду людзей утрымліваў і ратаваў гінучую Айчыну, за што вінавата яна яму пры любой удзячнасці так многа Каронаў, як многа Servatos Cives (лац. — грамадзянскіх абавязкаў) за тую знакамітую дзейнасць, беззапаветную для рэчы паспалітай міласць і набожнасць.

Наступiў у гэтым годзе сойм элекцыйны пад Варшавай, розных прыгодаў, нязгодаў i гонараў поўны. Апярэдзiла гэты сойм страшная i нечуваная ганьба народу кароннаму праз сраматныя ўцёкi з абоза войска, аб якiм успамiнаў я вышэй. Абоз быў закладзены пад Пiлаўцамi, замачкам пана Чэрлiнскага, мiляў тры ад Канстанцiнава. Там жа, непадалёку, па абодвух берагах рэчкi, ляжаў табарам Хмяльнiцкi. Тры днi былi сутычкi шчаслiвыя, нашы перамагалi, але на чацвёрты дзень, пачуўшы аб татарах, што быццам бы злучылiся з Хмяльнiцкiм, агарнуў нашых смяртэльны страх, i палкаводца, князь Дамiнiк Заслаўскi, ваявода сандамiрскi, пан Астрарог, падчашы каронны i пан Канецпольскi, харунжы каронны, забыўшыся на гонар рыцарскi, найперш, як апавядалi, згодна сталi ўцякаць, потым вазы нiшчыць, а за гэтым без усялякага прымусу, пакiнуўшы вазы з гарматамi, якiх было больш за сто, пачалi ў хаосе ўцякаць i харугвы. I так тое, што было набыткам Панскiм, стала здабычай непрыяцелю. «Гультайскае» войска, зразумеўшы, што ў палякаў была нейкая здрада, на абоз не нацiскала, але й назаўтра да палудня цешылася (ах, шкада) з багатых трафеяў. Падахвочаныя такiм поспехам i даведаўшыся, што наша войска нiдзе не сабралася (а было гэта дрэнна для пераможаных) i па розных i далёкiх старанах разбеглася, рушылi яны на Львоў, штурмавалi, а гараджане, не спадзеючыся на свае сiлы, праз перагаворы адкупiлiся: далi некалькi дзесяткаў тысяч, 200 штук сукна i так мiр атрымалi. Iшоў здрайца далей, аж пад Замойсце, i там спачатку мужна абаранялiся, а потым купiлi сабе мiр. Татары ж i сялянскiя купы перадавымi атрадамi Люблiн, Казiмеж, Сандамiр, Сокал i iншыя пад Вiслу гарады агнём i шабляй пустошылi. Толькi каля трох тысяч беглякоў з таго войска затрымаў князь Ярэма Вiшнявецкi, ваявода рускi, муж знакамiтай адвагi i спраўнасцi, i сам з малою грамадкаю сваiх людзей стрымаў iмпэт шалёнага бунту. Рэч паспалiтая на элекцыi абрала яго з панам Фiрлеем, кашталянам бельскiм, палкаводцам. Пасля пачатку сойма, De 8 Octobri, дзе была згода абодвух народаў, стаў я Маршалкам Кола Рыцарскага, але з-за многiх трывог i небяспек не прыйшлося нам гаварыць нi пра якiя справы, а толькi мыслiць пра спосабы бяспекi нашай.

Бачылi вокам, што нам без Пана кiраванне i розныя парады былi не на спажытак, таму згодна пастанавiлi на элекцыю i выдалi унiверсала на намiнацыю новага Пана на дзень чацвёрты Novembra. Толькi i гэтаму неспакойныя галовы, прыехаўшы пазней, нашкодзiлi. Зацягнуўся з-за iх сойм аж да шасцi тыдняў i тыдзень пасля. I найхутчэй з-за непаразумення iх мосцяў

каралевічаў, бо каралевіч Караль, біскуп плоцкі, прыцягнуўшы з сабою немалую грамаду фаварытаў, быў старэйшаму брату Яну Казіміру, шведскаму каралю, вялікай перашкодай. Дапамагаў таму судом і парадай вялікіх людзей сам Пан Бог, што браты паладзілі. Пасля чаго ўжо хутчэй прыступілі мы да элекцыі, якая на апошнім дні сойма, De 17 Novembra., per sustragia (лац. — стрымана, спакойна) згодна на караля іх мосця шведскага ўказала з ласкі Божай. Прысягу выканаў кароль ягамосць у варшаўскім касцёле святога Яна, перад вялікім алтаром solleni vitu et placesu (лац. — урачыстым чынам перад народам). Сёмы тыдзень стравілі мы на абарону, але атрымалася яна недасканалай, а пасля гэтага хутка, на in Januanrjio года прыйшлага, каранацыя назначана. Зараз жа пасля заканчэння сойма прыслаў Хмяльніцкі да караля ягамосці і да рэчы паспалітай ксяндза Мокрскага, мір абяцаючы праз гэтага ксяндза, адказ яму дадзены. Дай Божа шчасліва адвесці біч Твайго гневу.

*Года 1649.* De 17 Januanrjio кароль ягамосць Ян Казімір у Кракаве ў касцёле святога Станіслава solleni vitu (лац. — урачыстым чынам) каранаваны і там жа Juramentem (лац. — пад прысягай) усе правы і прывілеі вольнасцей нашых пацвердзіў.

Дня 18 гэтага ж месяца было пахаванне караля светлай памяці Уладзіслава Чацвёртага. Цела з рынку, ад касцёла Панны Марыі, Сенатам, вялікай колькасцю дваран і шляхты, пры афектацыі ўсяго горада праводзіў ягамосць кароль. Пасля святой, рэгулярнай для горада імшы з казаннем, у якім хваліў памёрлага ягамосця караля, выступіў ксёндз Шалоўскі. Пасля гэтага пастаўлена было цела ў каралеўскай капліцы і звычайным парадкам, перад укладаннем цела ў труну, маршалкі абодвух народаў ля Вялікага Алтара кідалі жэзлы, а канцлеры кідалі пячаці, зробленыя з гіпсу. А дрэўца кап’я, ці знака каралеўскага, паламаў і кінуў перад Алтаром пан Канецпольскі, харунжы кароны з права сваёй пасады. Другое кап’ё са шчытом каралеўскім на зямлю кінуў. І трэцяе кап’ё зламаў. Жэзлы сам ягамосць кароль падняў і аддаў пахоліку, каб аднёс у пакоі. Не даў яго, як мы спадзяваліся, князю Вішнявецкаму, які на элекцыі быў прызначаны гетманам рэчы паспалітай, бо ёсць звычай гетманам з рукі каралеўскай браць знакі ўлады, а на гэты час нікога з літоўскіх, ні з каронных гетманаў не было, то й трымаў яго кароль ягамосць пры сабе. Ніякіх паслоў замежных не было, а ні на пахаванні, а ні на каранацыі.

Die 19 Januanrjio зачаты Каранацыйны сойм, паводле даўніх звычаяў раздаваў я галасы на Дырэктара, але стала тут ад Ма-

завецкага ваяводства новая праблема, каб маршалкам ніхто не станавіўся, і ў Коле не сядзеў паслом, хто з-пад Пілавец уцёк. Стравілі на гэта цэлы тыдзень, ex odio (лац. — з-за варожасці) пана Любамірскага, старасты кракаўскага, які ў тых уцёках быў вінаватым, і папраўдзе ўвесь сойм забрала гэтая спрэчка. Закончыўся сойм за тры тыдні, як і было на элекцыі запісана, з правам працягу да чатырох дзён. У выніку стала толькі абарона... Дагаворы з Хмяльніцкім ехаў заключыць пан Кісель, ваявода браслаўскі, але ў нас у Літве казацкае войска чыніла вялікія свавольствы. Былі асадзілі Пінск, Тураў, Ляхвэ, ледзьве ратаваў наш жаўнер ад тых здрайцаў. Толькі ў Мазыры абараняліся моцна, але, здабытыя праз штурм, увесь гарадскі паспаліты люд пайшоў пад шаблю, а места засталося спаленым. У Бабруйску гараджане здаліся, а казацтва ўсё выбіта. Быў я з Наваградка разам з панам Міхаілам Радзівілам Клецкім паслом на гэтым сойме. У Польшчы і ў Літве была такая лютая зіма, што й памяць такіх лютых марозаў не трымае. У Кракаве in Februario et Martio з найдальшых паветаў паслы павярталі з санных дарог.

De 3 Mar. заручыў кароль ягамосць у святы шлюбны стан удаву, каралеву яемосць Марыю Людвіку.

De 22 Junji, не спадзеючыся на мір са здрайцам Хмяльніцкім, рушыўся кароль ягамосць з Варшавы на вайну: ішоў на Люблін, Краснystaў, Замойсце, Сокал да непрыяцеля, адначасна чакаючы дапамогі з Кароны, якая даходзіла вельмі ляніва і далёка ў меншай колькасці, чым пан канцлер кароны Малінскі абяцаў, бо з каралеўскіх харугваў мала прыбывала, і завербаваных не было. Толькі стала некалькі нямецкіх рэгіментаў, усе астатнія былі распушчаны пасля каранацыі ў надзеі на мір з казацтвам. А ў тым часе, калі кароль ягамосць рушыўся з Любліна, дадзена знаць, што Хмяльніцкі акружыў у полі войска рэчы паспалітай, якога сабралася на дзесятак тысяч. Тым ахвотней паспяшаў кароль ягамосць ім на дапамогу. Рушыўся тады з-пад Белага Каменя, прабіраючыся ў поле да Збаража, дзе было акружана войска. Потым частка войска і вазы пераправіліся праз цяжкую пераправу ў прысутнасці яго каралеўскай міласці і сталі пад Збаражам. І немалая частка палка ягамосці пана Казіміра Сапегі, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага з харугвамі іх мосці пана Вітоўскага, кашталяна сандамірскага, іхмосцяў паноў Казіміра і Крыштофа Сапегаў, з усім абозам таксама сталі за пераправай. Нахабна татары сваім кошам і станам больш за сто тысяч сталі за паўмілі ад Збаража. Сем Орд налічвалася, а кароль ягамосць не меў ад іх ніякага языка. Ударылі адны на

іхмосця пана падканцлера каля пераправы, а другія — на лагер іхмосці караля. Сустрэліся харугвы пана падканцлера, у якіх на ўласны кошт меў ён каля тысячы людзей і сам імі камандаваў, і тыя, што былі ў яго палку, мужна, але цяжка было стрываць гвалтоўны нацiск паганства. Знесеныя харугвы, вазы пайшлі на рабунак непрыяцелю, а сам падканцлер цудоўнай Божай ласкай ледзьве ўступіў у лагер ягамосці караля. Такая вялікая сіла паганства наступала, што некаторыя бунчукі і хвасты ўвайшлі ў лагер. Загінула нямала рыцарства нашага і людзей знакамітых, падкаморых, ротмістраў, харунжых, апошнюю загубу толькі ноч стрымала, бо як-кольвек акапаўшыся, давалі адпор непрыяцелю, як паганым, так і казакам. Назаўтра паслаў кароль ягамосць да хана з паведамленнем, што на гаспадарства караля іхмосці наступае і дапамагае здрайцам, мяцежнікам казацкім. І гэта ўратавала ўжо безнадзейную справу, а хан, прыняўшы ўмовы, адпісаў, быццам пра ўсё гэта ён не ведаў, што кароль ягамосць стау Панам, што завербавалі яго казакі супраць сілы некаторых паноў, аднак, дазнаўшыся аб каралю ягамосцю, далей не хоча быць ён непрыяцелем, але госцем у гаспадарстве ягамосці.

Пачаты з ханам перагаворы, ex conditionibus (лац. — па палажэнні, па дамоўленасці) і па ўмовах павінны былі яму каронныя падарункі за гадоў шэсць, а таксама вярнуць і даць хану за акружаных 40 000 татараў пад Збаражам немалую, некалькі разоў па сто тысяч, суму. А з Хмяльніцкім per speciam (лац. — па умовах) такім чынам стала, што войска казацкага 40 000 можа мець, адпісаных падданых каралеўскіх і шляхецкіх з усёй Украіны на гэтую ж лічбу, і булава на Чыгірынскае староства яму дазволена. Абяцана яму таксама прыняць да сената мітраполію, але не уніяцкую, і другія, прычым вельмі цяжкія, умовы яму пастаўлены, бо па заключаных дагаворах перапрашаў караля ягамосця гэты здрайца. Ардынскія станы адышлі за мяжу, казакі пайшлі на Украіну да сваіх табараў. Пасля тыдня аблогі рушыўся з-пад Збаража і ягамосць кароль. Наша літоўскае войска з дазволу караля ягамосці сышло з поля. Засвяціў пажаданы, дай Божа, даўгавечны мір.

У гэтым жа годзе in Novembri быў склікаты ў Варшаве шасцітыднёвы сойм, але не прыйшлося пачынаць яго з балю, бо вераломныя казацкія войны, спустошаныя па большай частцы панствы Каронныя і Вялікага Княства Літоўскага, нároўна прызначаныя падаткі, а над усім гэтым жаўнер не аплочаны і сумніцельны мір з казакамі таго патрабаваў, каб думалі мы аб сабе, а пацехі адклалі на шчаслівейшыя часы. Паўстала тады ў

абодвух народах справа збору прызначаных падчас interregnum (лац. — міжкаралеўе) падаткаў, справа пазначаная вялікімі цяжкасцямі: абарона Айчыны — ад небяспекі заслона, сцеражы нас, Божа, і ўхваленне паабяцанай ягамосцем каралём ласкі казакам пад Збаражам. Падымны ў Літве ўпершыню стаў пяцікратны: па два з палавінаю залатых з дыма; да гэтага ж доўг жаўнеру, нечуваны для Княства Літоўскага, больш чым тры мільёны, на які трэба зрабіць 50 пабораў. З-за гэтага апошняя загуба шляхецкаму стану наступала, асабліва з-за вялікага непарадку ў выбіранні падаткаў, якія праз падман і несправядлівае выбіранне зборшчыкаў так памяншаліся, што адзін летавы пабор, унесены да скарбу, ледзьве рахаваў 60 000. На гэтым жа сойме ўпартыя іншавернікі са сваім мітрапалітам Косавым націскалі на ягамосця караля, просячы яго, каб забраў ад уніятаў маёнткі з цэрквамі і аддаў ім. Выйшла грамата, па якой многія уніяцкія маёнткі і цэрквы былі аддадзены схізматыкам, а сам мітрапаліт, ведаючы за што і з якіх павагаў, аб месцы ў радзе не стараўся, хаця і было яно яму дакляравана ягамосцем каралём.

На гэтым сойме, раздаючы вакансіі, кароль ягамосць жэзл прыдворны па пану Антоні Тышкевічу памёрлым, ягамосцю пану Завішу, пісару літоўскаму аддаў, а мне пісарства. Доўга ўпарціўся і доўга адцягваў прыняцце каралеўскай міласці Завіша. Для свайго сына, пана менскага старасты, пісарства ўпрошваў. Але кароль ягамосць свае словы і абяцанні панскія міласціва датрымаў мне цвёрда.

*Года 1650.* У Вільні праведзена была камісія ex mente (лац. — па фінансах) мінулага сойма, на выплату войску. І хоць быў я прызначаны камісарам, але не цікавіўся ёю з-за многіх прычынаў. Аднак паслаў мяне кароль ягамосць да войска на супакаенне жаўнера, які пагражаў канфедэрацыяй. Прыпыніўся гэты рух з ласкі Божай, але заставаўся яшчэ доўг вялікі жаўнеру, пяцікратны падымны.

*У гэтым жа годзе.* Здрайца Хмяльніцкі нечакана ўступіў у Валахію, гаспадара Лупула мала не спаймаў, землі разам з татарамі сплюндраваў і такімі цяжкімі ўмовамі гаспадара прыняволіў, што абяцаў ён яму дачку за Цімошку, сына нікчэмнага халопа і п’яніцу аддаць. Вяселле адкладалася аж да Тройцы 1651 года. Войска кароннае абозам праз лета аж да восені пад Камянцом стаяла, з абодвух бакоў нічога... не было.

*Года 1650.* In Augusto памёр ад эпілепсіі, альбо, дакладней, падучай хваробы, канцлер каронны пан Ежы Асалінскі,

дасціпнасці высокай, мовы рэдкай, вялікім красамоўцам роўнай. Пагранічнымі пасольствамі да імператара, да Англіі, да Венетаў, да Айца слаўны. Геній яго ў справах рэчы паспалітай не кожнаму быў даспадобы, бо толькі сам, у сваёй радзе кахаўся і часта папраўдзе прыводзіў рэч паспалітую да апошняй пагібелі, пра што не змоўчыць пяро гісторыкаў нашых.

У гэтым жа годзе, in Decembri, зачаты двухтыднёвы сойм, і ў гэтым жа месяцы зноў нечуваным цяжарам сталі падаткі, шаснаццаць падымнага, гэта значыць па восем злотых з дыма, з-за невыноснага доўгу, даўняму і свежай вярбоўкі жаўнеру, не выплачанага. Паслоў вялікіх ex Senatus Consulto да цара іх мосці маскоўскага назначыў кароль ягамосць: пана Станіслава Вітоўскага, кашталяна сандамірскага, з Кароны, і мяне ад Вялікага Княства Літоўскага, сакратаром пасольства дадзены быў нам іх мосць пан Крыштоф Обрыньскі, дэкрэтны пісар Вялікага Княства Літоўскага. Бога ў Тройцы адзінага нягоднаю ўпрошваю малітваю, каб для хвалы Імя Яго і для грунтоўнага Айчыны нашай міру шчасліва нам гэтае пасольства адправіць дазволіў.

*Года 1651. In Martio,* рушылі мы да Масквы да самай мяжы саньмі, а потым вазамі ў самую распуціцу. Велікаsuccessочныя святы адправіўшы ў Вязьме, прыбылі мы да сталіцы 17 Apr. аграмадным строем палкоў конных і пешых людзей каля 10000. Пад вечар сталі мы ў Кітай-горадзе, пасольскім двары. У некалькі дзён цара ягамосця Аляксея Міхайлавіча прывітаўшы, на трактаты ці перагаворы мелі мы дэпутаваных князя Адоеўскага, двух Пушкіных, думнага дзяка Валашанінава, меншага дзяка Альмаза і пяцёра думных баярынаў, людзей знатных. Дагаворваліся мы аб злучэнні двух народаў, сіл і войска, супроць крымскіх татараў. Паказвалі лісты ад татарскага хана, якімі ён падштурхоўваў караля ягамосця на Маскоўскую вайну. Быў то дагавор немалога часу, а найхутчэй з прычыны ваеннага шчасця караля ягамосці, які тады быў пад Берастэчкам у акопах супраць хана і казакаў. Заключана пагадненне з Масквой аб Крыме і іншыя артыкулы пад пэўнымі ўмовамі, якія з часам, дасць Бог, дадуць вынік, калі нам той народ шчыра падтрымае мір. Затым, medio Junii 51, выправіліся мы са сталіцы, а выехаўшы, блізка перад святым Янам, сталі ў Смаленску, шырэй пра ўсё гэта пасольства ёсць напісаны дыярыуш.

А тым часам Хмяльніцкі пачаў вераломную вайну, прысягу сваю пад Зборавам Богу і яго каралеўскай міласці дадзеную парушыўшы. Злучыўся з Ордамі, дзе быў і сам хан, а войска

пры абодвух было на 300 000, стаў пад Берастэчкам, дзе ўжо быў і кароль ягамосць з аграмадным войскам наёмнага жаўнера і паспалітага рушэння, мала што не з усёй Кароны выпраўленага. Першыя частыя сутычкі з татарамі і казакамі сталі з ласкі Божай каралю шчаслівыя. А пасля гэтага дайшло й да вальнай бітвы, спачатку з Ордамі, а потым з казакамі, бо першым загадаў хан схапіцца сваім і срамотна прайграў. Уцякаючы, аж да Крыма бахматаў рассёдлываў, казакі, таксама многа трупаў пакінуўшы, перхнулі са свайго табара. Кароль іх мосць праявіў над імі Божую міласць, што не загадаў губіць дашчэнту. Так слаўная і ў вяках мінулых нечуваная вікторыя была атрымана праз ласку Божую і дачыненне Найсвяцейшай Панны, цудоўны абраз якой, узяты ў Хелма, з кляштара айцоў базыльянаў уніятаў, меў ягамосць кароль пры сабе. Вызваліўшыся, адправіў кароль ягамосць паспалітае рушэнне да сваіх дамоў, сам ехаў да Варшавы, а наёмнага жаўнера з каронныны гетманамі паслаў за казакамі, каб не дазволілі ім збірацца ў купы, і шаблямі астатак вайны закончылі. І сапраўды, пад Белаю Цэркваю, калі мяцежнікі, напалоханыя нашымі ранейшымі перамогамі, убачылі польскую сілу ды літоўскае войска, якое прыйшло на дапамогу кароннным, апанаваў імі страх. Зразу падаўся Хмяльніцкі на перагаворы і прасіў аб міры, упрасіўшы дваццаць тысяч запарожскага войска сабе пад рэгімент, і іншыя ўмовы пацвердзіў, веру і паслушэнства са старшынёю сваёй пад прысягаю абяцаў. Лепш і дакладней пра гэтыя выправы пяро маё напісаць не можа, дасціпней і дакладней гісторыкі пададуць свету працэс вайны, ласку і адвагу яго каралеўскай міласці, мужнасць і спраўнасць рыцарства абодвух народаў. Толькі тое прыпомню, што між каралеўскімі жаўнерамі іх мосць Сапега, падканцлер літоўскі, тысячу людзей, конных і пешых, на ўласны кошт завербаваў і сам з іх мосцем панам ваяводам віцебскім, панам абозным літоўскім, панам старастам слонімскім, панам старастам крэпаўскім, панам Крыштофам і Янам, старастам молчадскім, Сапегамі, братамі сваімі шляхетнымі, і з іх харугвамі, Фабрыцыі нашы літоўскія, праз увесь час пры баку каралеўскім знаходзіліся. Усе бітвы з татарамі і казакамі пад камандаваннем Сапегі, палкоўніка свайго, слаўна, рэдкага прыкладу мужнасцю, здароўя не шкадуючы, выйгралі. А кароль ягамосць, сам церпячы ўсе ваенныя нягоды і ахвотна аддаючы сваё сэрца супраць непрыяцеля, натхняў усіх сваім прыкладам і маладым пакаёвым не дазволіў лодырнічаць, сярод якіх і сын мой, Міхал Абуховіч, у дазорах і на вартах паказваў спрыт прыгожай маладосці.

На зыходзе гэтага года дакляраваў іх каралеўская міласць вальны шасцітыднёвы сойм у Варшаве і, паводле дэкларацыі, маскоўскаму цару дадзенай, што на шасцітыднёвым сойме пакарае тых, хто не прызнаваў і ганьбіў царскія тытулы, менавіта — каго назвала Масква ў гэтым годзе праз сваіх паслоў, паведаміў цару, каб прыслаў сваіх для слухання судоў. Пасланцам выправіў майго сына Міхала, які здаровым выканаў гэтую місію і з ласкі Божай вярнуўся на сойм.

*Года 1652.* De 26 Januar зачаўся сойм і, паводле прапановы караля ягамосці, securitatis (лац. — спакойны, бяспечны) меўся быць пачатак справы, але далёка зайшла са сваімі прапановамі палата дэпутатаў. Вельмі шкодзіў пан Геранім Радзеёўскі, нешчаслівы гэтага дома патомак, які, нядаўна стаўшы падканцлерам каронным, не меў жадання і ласкі паважаць ягамосця караля, рознымі лістамі, пасквілямі спакушаўся на славу каралеўскую, гонарам і амбіцыямі нікому не хацеў быць роўным, са сваёю жонкаю, з дому Слушкавага, ваяводзінкай троцкай, былой жонкай Адама Казаноўскага, маршалка надворнага кароннага, чыніў дамашнія сваркі, яе ганьбуючы, што справа з-за няважных яго паводзін дайшла аж да разводу. А нарэшце хутка перад соймам у Варшаве напаў ноччу з узброеным народам на жончын дом каля вала, які належаў яе першаму мужу і з якога была яна яго выгнала, і пад бокам яго каралеўскай міласці зарабіў на вялікі крымінал. Быў пазваны на суд Маршалкоўскі, а пасля падачы і падліку галасоў на выгнанне асуджаны. А вакантную падканцлераўскую пасаду хутка пасля сойма аддалі ягамосцю пану Карыцінскаму, старасту асвенцімскаму. Вялікі і ў вяках невядомы прыклад, якога сам, з-за свайго гонару, быў прычынаю, бо і пасля прысуду не толькі не захацеў зрабіць захадаў для перапросінаў караля ягамосці, але, на пагарду лёгкасці судоў каралеўскіх, ехаў да Пётркава, на Трыбунал, прысуд маршалкоўскі супраціўным Трыбунальскім аспрэчваў, розныя змовы на Кола Рыцарскае кідаў і нямала паслоў да гэтага ўцягнуў, што гэтая ж яго публіка хацела нават дамагацца яму пасады і гонару.

Такім чынам, вайна пад Берастэчкам, паспалітае рушэнне і што казакі пайшлі неразгромленымі, бо самі грамадзяне неслі варты і бралі ўдзел у сутычках, а нямецкі люд толькі стаяў у шыху, нічога з ваенных цяжараў, ды й іншыя вельмі прыватныя справы, сойм не вырашыў, бо ўвесь час забрала палата дэпутатаў. А ў самым канцы сойма са сваімі прэтэнзіямі вылезла наверх ерась. Дазволены быў працяг, і іншыя справы меліся быць на добрае заключэнне, аж на трэці дзень прадоўжанага сойма

нейякісь Сыцінскі, пасол з Упіты, разумеючы соймавы дэкрэт per gravamine (лац. — невыносным) з погляду шаснаццацікратнага падымнага, які кароль ягамосць са сваёй Шавельскай эканоміі і іншых слушна адобрыў, а Упіта з пабораў многа не дадала скарбу, выдаў пратэст супраць усяго сойма, каб дэкрэт быў скасаваны, а сам зараз жа з палаты згінуў, за Ковель з'ехаў, і так pretextem (лац. — цаною, коштам) за вольнасць, аднаго пярэчання хапіла, каб на сойме нічога не было вырашана. Сойм закончыўся, толькі спрэчкі на ім былі доўгія, якія раздувалі ўжо меншыя свістулькі. Судзілі справу Маскоўскага Цара, які выправіў двух пасланцаў. Шляхты за парушэнне царскіх тытулаў і іх перакручванне названа было на сойме больш за сто чалавек з абодвух народаў. Тых, хто не даваў пра сябе нічога ведаць, пазбаўлялі гонару; тых, хто памёр, на Дзень Суда Божага адсылалі; тых, хто ведаў пра лісты, але прыкрываўся няведаннем тытулаў, і тых, хто ні да лістоў ні да пячацяў не меў дачынення, але прысягалі, што ўчынілі не contempt (лац. — непавагу, незадавальненне) «Царскаму Велічэству», тым дазволена на Jurament (лац. — прысягу). Засталася Масква незадаволенай з дэкрэтаў, бо паводле Канстытуцыі An. 1637 perdullisionis (лац. — за дзяржаўнае злачынства) не ўказалі на ўсіх вінаватых. Вяртання Смаленска і другіх Літоўскіх замкаў патрабавалі, што ўсё было шылам у мяшку, бо яны, нас ненавідзячы, любой прычыны да вайны і разарвання прымірэння шукалі. У чым ім, Пане Божа, будзь ласкавы, ні дапамагай, а мы пачуем, як гэта будзе прынята ў сталіцы. Рашэнняў сойма ўзяць не захацелі, потым з размовамі, якія мелі з намі па гэтай справе, усе адпраўлены. Суды гэтыя кароль ягамосць, Сенат і дэпутаты з Пасольскага Кола адпраўлялі, між якімі быў я і ў Коле дэпутатам. Дасталося і нам, паслам, ад Масквы, ад няўважных грубіянаў. Праз кароннага інтрыгана абвінавацілі нас у недапісанні тытулаў у адказах, якія мы, па звычаі таго народа, каб помнілі нашы прапановы, даслалі ў сталіцу думным баярам, і не ўсе тытулы дапісвалі, бо ні адзін з іх не быў аўтэнтычным ані граматай пацверджаны, што адносіцца да дагавора і Канстытуцыі 1657 года. У адсутнасць пана кашталяна сандамірскага, майго калегі, нечакана на судзе прыйшлося адбівацца мне, і па маёй справе больш гаварыць Масква не хацела, бо была яна таксама дрэннай і поўнай глупства.

Хмяльніцкі, сабраўшы 20 000 рэестравых казакаў, падаўся да Кіева-горада і прыслаў некалькі са старшыны да ягамосці караля і да станаў рэчы паспалітай з просьбай аб прабачэнні за

мінулыя эксцэсы, абяцаў веру і дабрачыннасць, прасіў таксама аб адабрэнні на гэтым сойме Белацаркоўскай камісіі.

На гэтым сойме быў collogvium з Сенатам аб розных справах, найбольш Senatum Consilium, на многія з іх Сенат не даваў Consilium (лац. — згоды), і гэтыя справы ўладкаваны і ab utriugva (лац. — і абодвума бакамі) былі вырашаны. Выскачыў быў адзін пасол, нейякісь Замоцкі з Серадза, напомніў аб зняцці ганьбы з Радзеёўскага. Востра і таксама недарэчна гаварыў in Facie (лац. — у твар) рэчы паспалітай: у нас Lex regnat non rex (лац. — не кароль кіруе законам), што стала вялікім шумам як у Сенаце, так і ў Коле. А потым быў вымушаны publice supplex (лац. — прасіў, каяўся публічна) перапрошваць караля ягамосця, у чым яму садзейнічалі Сенат і Рыцарскае Кола.

Пасля разарванага сойма меў яго каралеўская міласць частыя рады з панамі аб бяспецы межаў нашых дзяржаваў, патаемныя рады, на якіх вольна было быць і паслам, што хацелі блізкасці між станамі. Паслалі ліст да запарожскага войска, якім запэўнівалі, што ўся і цэлая рэч паспалітая датрымае артыкулы, дадзеныя казакам пад Белаю Цэркваю, толькі б самі яны заставаліся ў веры і зычлівасці. На абмежаванне Чыгірынскага староства і на прыгляд месцаў для казацкіх слабодаў у дзікіх палях прызначаны камісары. Таксама выслалі страхавы ліст ад мінулага сойма і да кароннага войска, а да літоўскага ад яго каралеўскай міласці і ад Сената загадана выправіць маскоўскіх пасланцаў, задаволеных падарункамі, а хутка і сваіх паслоў загадаў кароль ягамосць выправіць да цара. Абвінавачваў яго за скарачэнне каралеўскіх тытулаў рознымі царскімі баярамі, што б кароль ягамосць не рабіў, калі б на тым так упарта і ганарова не стаяла Масква. Абвінавачваў, што падчас вайны з казакамі пад Берастэчкам бранскі ваявода прапускаў каля Бранска паўстанцаў з казакамі і маскоўскіх людзей, якія, пэўна ведаючы аб вечным міры, спалілі замак Рослаў і здабывалі Крычаў. У Мсціслаўскім ваяводстве спалілі некалькі дзесяткаў дамоў, шляхты нямала пазабівалі. Ад Хмяльніцкага пасольства цар прымаў, на вядзенне вайны грашыма яму дапамагаў і іншых, меншых крыўдаў нямала пералічыў. Пачуем мы, як гэта ўспрымецца, але, дай Божа, каб датрымалі яны на мір.

У мінулым годзе пачата ў Любецку камісія са шведамі, на якую назваў кароль ягамосць тых самых камісараў.

У гэтым жа годзе. In Augusto ў Варшаве быў сабраны двухтыднёвы сойм. Быў я паслом ад Мсціслаўскага ваяводства. Кароль ягамосць цяжка хварэў, таму на працягу аж чатырох

тыдняў не маглі мы прыняць рашэння. Найперш з-за нязгоды з боку дамовы аб бяспецы, і ў Вездаве, а не ў Варшаве, бо кароль ягамосць хварэў і тут знаходзіўся да лепшага часу, цэлыя два тыдні прыйшлося адкладваць рэзюме. Стала дамоўленасць: войска мець у Кароне 90 000, а ў Літве — ... 5000. Падымнага ў Літве пятнаццаць, а стала такое з прычыны нешчаслівага паражэння кароннага войска, справы пана Каліноўскага, ваяводы Чарнігаўскага і польнага гетмана, які, аблажыўшы пад Баторам абоз татарскай Арды і казацкае войска, хацеў іх разграміць. Не слухаў разумнай парады, каб акружыць у другім месцы і каб пачакаць войска, што было за Дняпром. Даў бітву ў ліхім месцы і малым у лічбе нашым войскам, загінуў сам, першыя ротмістры, палкоўнікі і многа таварыства. Прыслаў здрайца Хмяльніцкі (што далей, то горшым становіцца ён здрайцам) да ягамосця караля на сойм пры самым яго заканчэнні паклёп. Пасля гэтага сойма цэлую восень войскі лодырнічалі. Паморак дапусціў Пан Бог у Кароне, што ваяводствы не змаглі выдаць прызначаных кантрыбуцый, аж да 1653 года цэлую зіму былі бесцырымонныя мяцяжы, наёмныя войскі па-непрыяцельску пустошылі дзяржаву, нават памяць не трымае такога, ніякага права, ніякага ўтаймавання не было на жаўнера, апошняя пагібель прыйшла горш чым ад непрыяцеля. Усе шляхецкія дамы былі заняты пад пастоі, цярпелі гвалт і розную сваволю. Пасля пана Патоцкага, памёрлага кашталяна кракаўскага, аддаў ягамосць кароль польную булаву яго брату, пану Патоцкаму, чалавеку ўжо ў гадах, які зараз, пасля смерці годнага і вялебнага ў рускай рэлігіі Адама Кісяля, ёсць ваяводам кракаўскім. У Любецку з-за вялікіх і нечуваных прэтэнзій не закончана камісія, павярталіся нашы камісары адтуль, нічога не справіўшы.

*Года 1653.* Так як з-за неаплочанага жаўнера не мела рэч паспалітая ніякай абароны, а непрыяцель збіраў на нас сілу, склікаў кароль ягамосць in Martio ў Бярэсці двухтыднёвы сойм, бо ў Варшаве і ўсюды па яе ваколіцах лютавалі паморкі, што было не вельмі пажаданым каронным ваяводствам, якія праз сваіх паслоў хацелі запісаць у праве, каб такое не стала in posterum (лац. — у будучым. — *В. Т.*). Але іх затрымалі і гаварыць пра гэта не дазволілі. Зноў тады, абдумаўшы плату, — назвалі лічбу войска, якую згодна прынялі абодва станы. Рушыў пан гетман каронны абоз з-пад Ковеля пад Боўск, таксама меўся рушыцца пад Львоў і кароль ягамосць, хацеў прыглядзецца да парадкаў і пачакаць непрыяцеля. Рэзюме гэтага сойма стала

аж за чатыры тыдні (штораз усё горш удаюцца нам соймы, а гэта з-за таго, што не маюць яны права пакарання і спосабу прыняцця рашэнняў з-за нашай недысцыплінаванасці). Пасля рэзюме сойма стала вядома, што валашскага гаспадара Лупула сагнаў з трона яго ж падданы Легасфет, які патаемна змовіўся з мультанскім ваяводам і Ракоцым. Уцёк гаспадар да Камянца і быў прыняты па загаду ягамосці караля. Хмяльніцкі захацеў вярнуць яго на гаспадарства, паслаў свайго сына Цімошку, які пашлюбаваў дачку гэтага гаспадара, і некалькі тысяч казакаў і нешта з Арды. Цімошка і Лупул выгналі Легасфета з Ясаў і пайшлі за ім у пагоню. А ў гэты час прыйшло вялікае венгерскае і мультанскае войска, якое пераняло Цімошку з Лупулам над ракою Цісаю і акружыла іх у лагеры. Чакаем выніку гэтай імпрэзы. На сойме дазволіла Княства Літоўскае тры падымныя, а вайну хіба што сам Бог сваёй міласэрнасцю і паратункам скончыць, бо справа непадобная, каб гэта мог зрабіць людскі розум, бо многа ёсць тых, што маюць прыватныя інтарэсы, а не дбаюць аб міры. Гэтая нешчаслівая пяцігадовая сумятня мела адзінае сваё «дабро», якім узбагачаюцца і робяць слаўным сваё імя. Паславаў я на гэтым сойме ад Слонімскага павета. У гэтым жа годзе, на Святую Тройцу, выехаў кароль ягамосць з Варшавы да Львова, каб ісці разам з войскам, якое стаяла пад Глінянамі, на Украіну, дзе непрыяцель з Божаю дапамогаю быў бы разгромлены, але з-за грахоў нашых да такога не дайшло. Перашкодзіла камісія ў Львове, якая забрала цэлыя два месяцы, Jelium et Augustum, жаўнеру не плочана, грошай з паветаў не прывезена. Сваволя і мяцяжы, частае п’янства бралі верх, аж у канцы augusta раздадзена крыху грошай, і, толькі паважаючы караля ягамосця, цярпліва чакала войска выплаты. Рушыліся мы на Украіну, і хапіла б нам спрыяльнага часу на непрыяцеля, каб пайшлі проста, толькі не ведаю па якой прычыне, але падаліся мы да Баліча і, тыдзень там прастаяўшы, цягнуліся Падоллем да Камянца мала не шэсць тыдняў. Ведалі мы папярэдне, што казакі, некалькі дзесяткаў тысяч, прыйшлі ў Валахію, пад Сачаву, на выручку валашскай гаспадарыні, Лупулавай жонцы, якая там без мужа, які заставаўся пры Хмяльніцкім, была з дзецьмі ў палоне. А Стафан Легасфет, былы гаспадар або канцлер Лупула, каб утрымаць гаспадарства, прывёў сабе ў падсілак князя Ракоцага з Сямігродскай зямлі і здабываў Сачаву. Кароль ягамосць паслаў са свайго войска мультанскаму гаспадару некалькі тысяч з панам Конрадам, палкоўнікам, спадзеючыся, што, Сачаву здабыўшы, усё войска прыйдзе да нас, на дапамогу

супраць казацтва. Такія дагаворы і сталі з памянёнымі панамі. Трывала Сачаўская obsidia (лац. — аблога) да першых дзён Octobrovych, казакі, змораныя голадам, здаліся на імя ягамосці караля і прысягнулі, што з Хмяльніцкім лучыцца не будуць, выпушчаныя пайшлі на Украіну. Чуваць было, што не ўвязваліся яны ў мяцяжы, а заставаліся ў сваіх дамах. Ужо былі стаялі замаразкі наўкола Камянца і далей, калі рушыўся кароль ягамосць з войскам пад Бараў, а адтуль у Браслаўскі край, жадаючы запэўніць непрыяцеля і паставіць на зіму войска з-за багатага ў гэтым краі харчу. І ледзьве спыніўся ў другім ад Камянца лагеры, як атрымалі вестку, што хан злучыўся з Ордамі і ідзе на ягамосця караля. Прыйшлося паўз Камянец вярнуцца аж пад Званец і там, над Дняпром, усяго цераз раку ад замка Хоцім, ва ўмацаваным месцы закласці лагер, у якім да паслугаў ягамосці караля былі і венгры, і тут, нарэшце, дачакалася войска лёгкага харчу. Хмяльніцкі злучыўся з ханам і доўга стаяў пад Барэмам, а татарскія раз’езды чынілі нязмернае спусташэнне на Валыні, на Палессі, пад Пінскам і Берасцем. Не давялося нам пабіцца з непрыяцелем у полі, хоць, праўда, і мелі мы апошнія, сабраныя за цэлае лета і восень рэччу паспалітай, сілы, і нічога яны яму не зрабілі, толькі з-за ўпартасці паганства і казакаў змарнавалі мала не тры месяцы. Аж перад Божым Нараджэннем прыслаў хан паслоў з прапановаю аб перагаворах, якім было вызначана месца мілі са дзве ад Званца, пад Камянцом. Вялі перагаворы толькі самі татары з дэпутатамі ад ягамосці караля, панамі сенатарамі. Хмяльніцкі не адзываўся і ні аб чым не прасіў. На словах заключылі мір: абяцаў хан быць верным ягамосцю каралю і рэчы паспалітай, быць гатовым да рознага выпадку дапамагаць біць нашаму Пану казакаў, калі будуць непаслухмянымі, мы ж паабяцалі хану падарункі. З абодвух бакоў пакінуты заложнікі: ад нас — пана Ланьцкаронскага, ваяводу рускага, і пана Алешніцкага, падкаморага сандамірскага. Ад хана — знатнага мірзу.

Хутка пасля гэтага пайшлі орды ў Крым, а Хмяльніцкі, толькі з дзесяццю тысячамі казакаў, на Украіну. І ягамосць кароль на свята Трох Каралёў шчасліва павярнуў на Львоў да Варшавы. На Валыні заставаліся яшчэ нагайскія Орды, якія, па загаду караля ягамосці, з немалым палком пайшоў граміць ягамосць пан Ян Сапега, пісар польны кароны. Адразу біў паганства шчасліва, вязняў браў, аж неасцярожна, ноччу напаўшы на татарскі кош, маючы пры сабе ўсяго тры тысячы людзей, быў пабіты і разам са сваім братам, панам Крыштофам Сапегам, стаў вязнем.

Маёй фартуны кароткі шлях такі. Па смерці пана Крыштофа Хадкевіча, ваяводы віленскага, аддадзена ваяводства князю Радзівілу, старасту жмудскаму, польнаму гетману Вялікага Княства Літоўскага. Жмудскае ваяводства аддадзена ягамосцю пану Юры Глябовічу, ваяводу смаленскаму. Вольны Смаленск абяцаў ягамосць кароль іх мосцю пану Паўлу Сапегу, ваяводу віцебскаму, а Віцебск абяцаў ахвяраваць мне. Прайшло нямала часу, пакуль ягамосць пан Глябовіч з’ехаў на ваяводства, якога дабіваўся на элекцыі. І ў Auguscie, заняўшы ваяводства, падзякаваў каралю ягамосцю за падараванае крэсла. Паводле даўняга, дадзенага яшчэ на Берасцейскім сойме абяцання, смаленскі прывілей адсылае ягамосць кароль пану Сапегу, за што дзякаваў ягамосцю каралю, праслаўшы да Львова ліст, ягамосць пан Сапега. Вольным застаўся Віцебск, і аддае яго кароль ягамосць мне, і прысягу забірае, і месца ў радзе абяцае, толькі б застаўся я ў Львове пры баку яго каралеўскай міласці. Аж in Julio, за некалькі дзён перад святым Міхалам, прыбыўшы ў камянецкі лагер пад Львоў, ягамосць пан смаленскі ваявода невядома з якіх гонараў вяртае ягамосцю каралю смаленскі прывілей і выказвае жаданне застацца пры Віцебску. Рэч новая і без прыкладу. З вялікім нясмакам прыняў гэта ягамосць кароль, і мне, бачачы мяне адусюль абабранага, бо і пісарства літоўскае па мне аддаў ягамосцю пану Станкевічу, жмудскаму пісару, і доўга не гасціла ў мяне ваяводства віцебскае, з міласцівай ласкі сваёй пажадаў даць Смаленск. Пакрыўдзіла гэта многіх з маіх незычліўцаў, асабліва параніла пана Пятра Вяжэвіча, падкаморага мсціслаўскага, які, будучы ў Смаленску падваяводам, горача стараўся аб гэтым ваяводстве і настроіў супраць мяне многіх з Сената, якія надакучалі рознымі нагаворамі, пагражалі соймам і жадалі супрацівіцца наканаванню Божаму. Быў ён прыгатаваў гэтае ваяводства для сябе, але тамтэйшыя людзі хутка ўсё зразумелі і яго занядбалі. Апошнюю надзею усклаў ён на шляхецкі стан, падгаварыў бунтаваць супраць мяне, каб я не з’язджаў, і пагражаў пазачыняць брамы. Але й гэтую прыдзірку Пан Бог зганіў. Шляхта прысягала, пісалі часта, пабуджаючы мяне да прыезду. Я ж, вычакаўшы Junitescentio (лац.— слова не вельмі зразумелае, магчыма, вычакаўшы на доказы гасціннасці. — *В. Т*), дня 21 Decembra пад’ехаў да Смаленска са спадзяваннем толькі на Бога. У мілі ад Смаленска іх мосць пан Вільгельм Корфт, палкоўнік яго каралеўскай міласці, які са сваім рэгіментам ішоў у Смаленск, па загаду князя і гетмана прыслаў з паведамленнем, што чакаюць мяне з адчыненымі брамамі.

Шляхты таксама многа выехала, харугвы казацкія сустракалі, і так, з Божага наканавання, уехаў я ў муры.

Чыніў так пан Вяжэвіч, бо страціў надзею на шляхту. Па нечуванаму прыкладу аддаў замак і ключы пану Корфту, прысягаючы на гэта іменем князя ягамосця гетмана, што вельмі ўразіла ягамосця караля. Чыніў ён гэта і дзеля сваёй уласнай выгоды, бо хацеў узяць з мяне даніну, абгаворaную намі ў праве. Ключы пан Корфт затрымаў у сябе на тыдзень, а потым Вяжэвіч адаслаў іх мне і быццам бы як ад гетмана, а не ад ягамосця караля. І тут учыніў ён насуперак каралю і з нянавісцю да мяне, няхай яму яго грахі адпусціць Пан Бог. Потым пан Вяжэвіч затрымаў пры сабе харугву, якая здаўна належала смаленскім ваяводам, і гэтая дасталася мне згодна з правам. Праз такія вострыя зайздрасці і трэнні, зубны скрыгіт зласлівых людзей дамогся я з ласкі Божай, а найперш дзякуючы пану Храпавіцкаму, харунжаму смаленскаму, двараніну ад Скарбу яго каралеўскай міласці, перадачы і ўладання над гэтым ушчэнт спустошаным ваяводствам: сяляне абрабаваны, даходы і дзякло выбраны, і прыйшлося мне страваваца на вуліцы.

Пад гэты час маскоўскі цар, маючы гатовае войска, па звычаю вераломнага народа, падаў яўныя знакі да разарвання навечна прысягненага міру. Смаленск заставаўся ў штодзённых трывогах: ані муры не папраўлены, ані пяхота не аплочана, ані харчу замак не мае, усё звалілася на мае паслабленыя сілы невыносным цяжарам, які хіба што міласэрнасць Божая, Яго ўсемагутная рука адолець можа і выратаваць мяне ад ліха і далейшых цяжкасцей.

Выпраўлены ад ягамосці караля з-пад Камянца... выехаў я з ягамосцем панам мазырскім падкаморым, братам маім, якога кароль ягамосць з палком драгоніі пад камандаю пана Генрыка Дэнгофта пасылаў на дапамогу валашскаму гаспадару, пры ім штурмавалі нашы Сачаву, але няўдала, бо казакі абараняліся мужна і з немалою стратаю нашых.

Года 1654. De 11 Febr. Злажыў ягамосць кароль у Варшаве шасцітыднёвы сойм, які, дай Божа, каб шчасліва скончыўся. Здрайца Хмяльніцкі перацягнуў на свой бок маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча, які прыняў яго за свайго падданага і насупраць вечнаму прымірэнню, без ніякай прычыны, не даўшы ведаць ягамосцю каралю аб вайне, патаемна забраў Кіеў, Чарнігаў і многа іншых замкаў на Украіне. Потым новымі ад Стваральніка нашага бедамі і непакоямі былі мы адведаны ды, гледзячы на далейшыя вынікі, чакалі пакарання Божага, ці калі б яго пачаў са сваім войскам здрайца маскаль. Пасылаў цар у

мінулым годзе сваіх паслоў да ягамосця караля ў Львоў з патрабаваннем суровага закона для тых, што былі асуджаны за яго тытулы, пра што я ўспамінаў вышэй. Але й цяпер стала так, што судзіла рэч паспалітая тыя справы правам, якое ўжывае з вякоў і на якое прысягаюць польскія каралі. Прыпаміналі і аб здрайцу Хмяльніцкім, каб яго кароль ягамосць шанаваў паводле Збаражскіх дагавораў і каб на веру рускую не наступаў, на што быў дадзены адказ, што Збараўскія дагаворы Хмяльніцкі сам клятваадступніцтвам парушаў, сам цэрквы рабуе, папоў забівае, татарам прадае і што ёсць ён ужо даўно сам бязбожным басурманам. Здалося, былі задаволены яснымі аб гэтым здрайцу довадамі. Абяцалі, што адсюль будзе мець яго цар ягамосць за здрайцу і дапаможа ягамосцю каралю Хмяльніцкага разграміць. Пацвердзілі прысягу, што цар ягамосць пра вайну і не думае, але здрадлівы народ інакш чыніць. Сам цар прысягу, навечна дадзеную Богу бацькам сваім Міхаілам Фёдаравічам, парушыў: адпомсці, Божа, яўнаму вераломцу за пакуты нашы.



# ІАНІКІ ГАЛЯТОЎСКІ

*(пач. XVII ст. — 1688)*

Іанікі Галятоўскі — буйнейшы старабеларускі пісьменнік другой паловы XVII ст., тэарэтык гамілетыкі і красамоўства, энцыклапедычна дасведчаны вучоны, заснавальнік марыялагічнай традыцыі ва ўсходнеславянскай і балгара-румынскай кніжнасці, бліскучы рытар і экзэгет, рэктар Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі, архімандрыт Наўгарод-Северскага, потым Чарнігаўскага Успенскага Ялецкага манастыра.

З выдатнай кагорты пісьменнікаў-падзвіжнікаў XVII ст. І. Галятоўскага вылучае боганатхнёны талент, багатая і каларытная старабеларуская мова, даходлівая, эмацыянальна і экспрэсіўна насычаная манера выкладання. Нездарма лічылася, што лепшыя творы эпохі барацьбы за нацыянальную незалежнасць і святаайцоўскую веру (другая палова XVII ст.) належаць пяру архімандрыта Іанікія. У яго тэарэтычных працах назіраецца трансфармацыя сціплай гаміліі ва ўзвышанае, тэалагічна змястоўнае і грамадска надзённае казанне. І. Галятоўскі ўзбагаціў пропаведзь міфалагічнымі супастаўленнямі, яна дасягае асаблівай вобразнай выразнасці і моцнага ўздзеяння на чытачоў.

Настаўнікам, які вылучыў у якасці свайго энергічнага памочніка і спадзвіжніка гэтага мяккага, працавітага, сціплага, лагоднага і надзвычай здольнага чалавека, быў архіепіскап, месцаблюсціцель прастола кіеўскіх мітрапалітаў, Лазар Барановіч. На апошнім курсе акадэміі І. Галятоўскі прымае манаскі пострыг і едзе ў Купяціцкі манастыр, дзе ігуменам быў архіепіскап Лазар. Неўзабаве інак Іанікі ўзводзіцца ў сан настаяцеля Купяціцкага манастыра. У сваю бытнасць рэктарам Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі Барановіч пераводзіць настаяцеля Іанікія ў Кіеў выкладчыкам. З 31 снежня 1559 да 1652 г. іераманах Іанікі — рэктар Кіева-Магілянскай Духоўнай Акадэміі і ігумен Кіева-Брацкага манастыра. У 1662 г. ім знойдзена і ўрачыста ўнесена ў новую акадэмічную царкву цудадзейная Брацкая ікона Божай Маці.

У перыяд вострай міжканфесійнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы І. Галятоўскі ўздымае старабеларускую пропаведзь на недасяжную вышыню сваёй кнігай «Ключ разумення» (1959, 1660, 1663,

1665) і багаслоўска-педагагічным трактатам «Наука, албо Способъ зложеня казаня» (фактычна падручнік па гамілетыцы).

Паводле канцэпцыі старабеларускага рытара, казанне павінна складацца з 3 частак: «эксордыума», «початка, прыступа до самой речи, о чым хочет казанье мети» , «нарацыі», «повести, которую обецал показати, тая часть наибольшая, бо в ней все казане замыкаемая, и до ней иныя части стягаются» и «конклюзія», «конец казаня».

І. Галятоўскі заклікаў так прамаўляць, каб усе людзі разумелі, што ім у павучэнні паведамляецца, бо якім мудрым прапаведнікам быў Ян Златавусны, але і яму выгаворвала адна жанчына за цяжкую па змесце гамілію. «Навука зложеня казаня» І. Галятоўскага суправаджаецца 32 асноўнымі і 14 дадатковымі пропаведзямі. Згодна правобразнага метаду тлумачэння Іанікі вылучае ў кожнай з'яве літаральны, маральны, алегарычны і аналагічны зместы. У сваіх казаннях І. Галятоўскі дае і метафізічныя звесткі (пра сутнасць з'яў прыроды) — тлумачыць паходжанне маланкі, узнікненне ветру, змяшчае народныя прыкметы, выкладае павучальныя гісторыі і цікавыя назіранні з жыцця птушак і жывёлаў, звяртае ўвагу на лекавыя ўласцівасці кветак, зёлкаў і камянёў.

У час, калі многія праваслаўныя святары з Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, правабярэжнай Украіны таемна падтрымліваюць Унію, менавіта гурток Лазара Барановіча і І. Галятоўскі, як яго найбольш таленавіты прадстаўнік, шчыра адстойваюць Праваслаўе ад нападаў каталікоў і уніятаў. У 1676 г. была надрукавана «Бяседа Белацаркоўская», якая зафіксавала факт дыспуту ў прысутнасці караля Яна-Казіміра езуіта Андрыяна Пякарскага з І. Галятоўскім і перамогу апошняга (1663).

Для XVII ст. характэрна асабліваe ўшанаванне цудадзейных ікон Божай Маці, бо менавіта Царыца Нябесная ў 1676 г. выратавала Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае ад турэцкага палону. Сярод кніг І. Галятоўскага марыялагічнай традыцыі — аповесці пра 445 цудаў ад ікон Багародзіцы з прысвячэннем кузіне П. Магілы Ганне Патоцкай «Неба новае з новымі зорамі створанае» (на старабеларускай і польскай мовах, Львоў, 1665; Чарнігаў, 1677; Магілёў, 1699; М., 1649, 1851, 1997, адпаведна на рускай мове) і «Скарбніца пажытачная» пра цудадзейную ікону Божай Маці Ялецка-Чарнігаўскую (Ноўгарад-Северскі, 1676).

Паводле хадайніцтва свайго апекуна Лазара Барановіча, Іанікі атрымлівае блаславенне на Ялецкую архімандрыю. На Чарнігаўшчыне збірае ён мясцовыя паданні, што лягуць у аснову «Скарбніцы пажытачнай» (32 цуды ад іконы Ялецкай Адзігітрыі). Асабліва ўшаноўваў чарнігаўскі архімандрыт купяціцкую ікону, як уладкавальніцу яго ў юнацтве і маладосці, пячэрскую, што надавала мудрасць у сталым веку, ялецкую, якая апекавала старасць.

У 1667 г. па даручэнні Лазара Барановіча архімандрыт Іанікі едзе на сваю радзіму ў Літву, каб агітаваць за абранне на польскі трон царэвіча Аляксея Аляксеевіча.

«Месія праўдзівы» (Кіеў, І669) напісаны ў тактоўнай і стрыманай манеры як рэакцыя на з’яўленне сярод яўрэяў ілжэмесіі Сабатая Цві, з мэтай засцерагчы суайчыннікаў ад захаплення іудзейскай ерассю. У жніўні 1669 г. чарнігаўскі архімандрыт суправаджае па вяртанні з Масквы ў Егіпет александрыйскага Патрыярха Паісія, які, дарэчы, наведаў і нават спыніўся ў Ялецкім манастыры. У канцы 1670 г. І. Галятоўскі па царкоўна-гаспадарчых справах быў у Маскве, дзе надоўга запомніўся сваімі казаннямі і прывітальным словам да цара. У канфлікце Лазара Барановіча і Сімяона Адамовіча, нягледзячы на сваю асцярожнасць і стрыманасць, як сумленны чалавек, чарнігаўскі архімандрыт прыняў бок настаўніка.

У 1678 г. выходзіць у свет трактат Іанікія «Старая Царква» (Ноўгарад-Северскі). Як буйнейшы палеміст і абаронца нацыянальнай незалежнасці, чарнігаўскі архімандрыт вымушаны быў напісаць працу, накіраваную не толькі супраць «Старой веры» Паўла Боймы, але і «Трыбунала» Міколы Ціхановіча. Кніга прысвечаная Лазару Барановічу, у прадмове згадваюцца факты з біяграфіі архіепіскапа.

У 1683 г. выходзіць лепшы твор І. Галятоўскага — «Фундаменты». Нягледзячы на невялікі памер (100 с.) гэты надзвычай надзённы на той час твор, з дынамічнымі сюжэтнымі эпізодамі з гісторыі дыспутаў пра «filioque», згадваннем прычын шлюбаў польскіх каралёў і ўсходнеславянскіх княгіняў, фрагментамі жыцця праваслаўных святых, крыўдаў, якія ўчынілі каталікі праваслаўным: здзек з памерлых, забарона прычашчаць хворых, выгнанне святароў з храмаў, пакутніцкі адыход А. Філіповіча (калі св.свечы гарэлі на яго магіле), дзейнасць Я. Кунцэвіча. У творах І. Галятоўскага прысутнічае новы персанаж, ужо абавязковы для ХУІІ ст., крытыка Заіла. У «Фундаментах» Іанікі па-хрысціянску зміраецца перад ворагамі (заіламі), як вучыў ап. Павел, згадваючы пры гэтым, што Заіл, які высмейваў Гамера, быў павешаны Пталамеем.

У 1679 г. з падзякаю Ялецкай цудадзейнай іконе Адзігітрыі, якая абараніла чарнігаўскую архімандрыю ад туркаў (на адданне свята Успення з’явілася Багародзіца з воямі ў небе), друкуецца «Лебедзь з пяццю пёрамі». У творы чарнігаўскі архімандрыт цытуе ўрывак з «Вызваленага Ерусаліма» Т. Таса пра хцівасць і жорсткасць мусульман, заклікае не толькі да лучнасці ўкраінцаў, беларусаў, палякаў, рускіх супраць туркаў, але і да вызвалення паўднёвых славян, румын і малдаванаў ад асманскага прыгнёту. Супраць магаметан скіраваны і «Алкаран» (Чарнігаў, 1683), прысвечаны царам Іаану і Пятру Аляксеевічам.

З пазіцыі выкрыцця сутнасці арыянства (каталікі абвінавачвалі праваслаўных у падтрымцы гэтай ерасі) напісаны і «Алфавіт» — своеасаблівы дыялог праваслаўнага і арыяніна, а таксама «Сафія мудрасць». «Алфавіт» датаваны 23 чэрвеня 1681 г., змяшчае верш І. Галятоўскага, у якім аўтар зазначае, што цярпліва пераносіць нястачы і цяжкую працу з надзеяй увайсці ў Царства Божае. Сярод апошніх твораў чарнігаўскага

архімандрыта «Богі паганскія» (1686), з прысвячэннем царэўне Сафіі і «Душы памерлых людзей» (Чарнігаў, 1687). Як згадваюць хронікі, слава гэтага багаслова дасягала не толькі славянскіх і заходнееўрапейскіх святароў, але і двароў свецкіх уладароў.

*Алена Яскевіч*

## КАЗАННЕ Ў НЯДЗЕЛЮ 25 ПА СЫХОДЖАННІ СВЯТОГА ДУХА «ПРА ПЕРАВАГУ БЕДНАГА ЖЫЦЦЯ НАД ЗАМОЖНЫМ»

Хто шмат есць і шмат п’е, той не доўга будзе жыць на свеце, бо страўнік, размаітымі пакармамі і напоямі напоўнены, не можа таго стравіць, распіраецца і баліць, потым боль ад страўніка па ўсім целе разыходзіцца і Душу з цела выганяе. Тыя ж людзі, якія мала ядуць і п’юць, тыя доўга жывуць на свеце. Людзі бедныя, якія мала зямных каштоўнасцяў маюць, доўга жывуць на свеце. Заможныя ж людзі, якія шмат багацця маюць, не могуць доўга на свеце жыць, бо яны бавяць час на вясёлых банкетах, ядуць шмат, п’юць і ўпіваюцца.

Такім быў адзін багацей, які апранаўся ў пурпур і лён, вясяліўся ва ўсе дні светлыя. Не могуць і з таго багатыя доўга на свеце жыць, бо яны клапоцяцца, каб скарбаў сваіх не страціць.

Такім быў адзін юнак, якому казаў Хрыстос: «*Ідзі, прадай маёмасць тваю і раздай жабракам*». Пачуўшы тыя словы, ён адышоў у скрусе, бо меў багацця шмат.

І яшчэ ад таго не могуць заможныя доўга на свеце жыць, бо яны заклапочаныя, не ведаюць, дзе багацце сваё захоўваць.

Такім быў адзін багацей, у якога ўрадзіла ніва, ён хваляваўся, бо не меў, дзе збожжа сабранае захоўваць: «што зраблю, калі не маю, дзе захоўваць пладоў маіх».

Нарэшце, таму не могуць багатыя доўга на свеце жыць, бо яны ад Бога аддаляюцца, служаць мамоне, г.зн. багаццю свайму. Прарок Давыд з гэтай нагоды кажа: «хто ўдаляецца ад Цябе, той загіне». Заможныя людзі мамону, багацце за Бога маюць, ім служаць, а Бога, Творцу свайго, пакідаюць. Хрыстос сказаў: «не можаце Богу служыць і мамоне». Заможныя ж людзі — ідалапаклоннікі, бо золату і срэбру, як ідалу, служаць. Псалмапапеўца кажа: «ідалы — прылада срэбра і золата». Заможныя людзі задаволеныя, калі служаць золату і срэбру свайму, г. зн., яны балванам залатым і срэбраным служаць, і з-за таго

не могуць доўга на свеце жыць. За ідалапаклонства пакараў Бог смерцю раптоўнай (прудкаю) ізраільцянаў, выкараніў іх хутка са свету, так і зараз ідалапаклоннікаў, людзей багатых, раптоўнаю смерцю Бог карае і хутка са свету іх выкараняе.

Заможныя з багаццямі вашымі, якія вас ад жыцця дачасна ў Вечнасць адпраўляюць, раздайце багацці свае людзям гаротным, дапамагайце ім міласцінаю святою.

Слухайце Яна Хрысціцеля, які да вас звяртаецца: «*Той, хто мае дзве шаты, няхай дасць таму, хто не мае, і хто не мае ежы, гэтак жа да яго стаўся*».

Пакажу ў сённяшнім казанні маім, каб ахвотней міласціну гаротным давалі, якую карысць нам міласціна прыносіць, калі мы даем яе бедным. Няхай маё Казанне будзе ў гонар Бога, ласкам, дабраваленням вашым на карысць душэўную.

* * *

Карысць нам прынясе міласціна, якую мы даем гаротным, яна грахі нашыя раўнуе і зніштажае. Пра гэта гаварыў Прарок Наўхаданосару, каралю Вавілонскаму: «Цару, пажадана табе прыняць параду маю, і грахі, няpraўды свае міласцінаю засыпаць, шчодрасцю да гаротных».

Карысць ад міласціны, якую мы даем гаротным, у тым, што аддасць яе нам Бог на Страшным Судзе, дзе ўсе людзі паўстануць з памерлых перад Веліччу, Прастолам Хрыстовым, і будуць яны трымаць справаздачу, як жылі на свеце: ці ў зле, ці дабро дзеялі.

Кажа таму Хрыстос: «*Калі робіш абед ці вячэру, не кліч ні сяброў, ні братоў сваіх, ні родных, ні суседзяў заможных, нават калі і тыя цябе таксама клікалі, — і будзе табе ўзнагарода, калі ўтворыш пір і паклічаш гаротных, знясіленых, кульгавых, сляпых, і здабудзеш міласць Божую, бо не маюць бедныя, чым аддзячыць, затое аддзячыцца табе ў час Уваскрасення Праведных*».

Карысць ад міласціны, якую мы даем гаротным, спазнала адна ўдавіца з Сарэпты Сідонскай. Яна ў час голаду вялікага карміла прарока Іллю, маючы толькі жменю мукі і пляшку алівавага алею. Удавіца нічога не пашкадавала, і мука ў начынні і аліва ў пляшцы не змяншаліся, але заўсёды папаўняліся да тых пор, пакуль мінуў голад.

Так і цяпер, хто людзей гаротных корміць, поіць і апранае, дае ім усё, што ім патрэбна, той пра гэта ніколі не пашкадуе, бо заўсёды будзе ў яго ўсялякі дастатак прыбываць, прырастаць

і памнажацца. У тым запэўнівае Саламон: «*Калі даеш гаротным — не збяднееш*».

Карысць ад міласціны, якую мы даем гаротным, у тым, што ў памяці Сваёй Бог гэтую міласціну трымае і Ангелаў да нас дасылае.

Засведчана гэта было жыхару селішча Кесарыі Карнілію, сотніку войска Італійскага. Карнілій быў вельмі пабожным, даваў міласціну гаротным, дзеля таго быў пасланы ад Бога да яго Ангел, які прамовіў: малітвы твае і міласціна твая ўзышлі на памяць перад Богам.

Так і мы будзьма набожнымі і давайма міласціну гаротным, то і да нас дашле Бог анёлаў, якія заўсёды будуць сцерагчы нас ад усяго злога, а пры смерці нашай за кожнага з нас будзе Ангел хадайнічаць: малітва яго і міласціна яго ўзышлі на памяць перад Богам.

Карысць міласціны і ў тым, што, паданае гаротным, вяртаецца Богам на тым свеце, нашмат памножанае, большае, чым мы даем.

Ведаў пра гэта і Ціверый, імператар Грэцкі, які шмат скарбаў сваіх раздаў гаротным, і калі аднойчы хадзіў па палацы, пабачыў у падлозе камень, на якім быў яўлены Крыж, і прамовіў: «*Госпадзі, Крыж Твой на лоб і плечы кладзём*», таптаць яго не належыць, загадаў зараз жа падняць той камень. Пад гэтым каменем другі камень з крыжам знайшлі, а пад другім — трэці, таксама з крыжам. Пад камянямі знаходзіўся вялікі скарб: больш за тысячу камянёў золата. Ад таго часу імператар яшчэ большым міласціннікам стаў. Вось як імператару Грэцкаму Ціверыю аддаў Бог на гэтым свеце скарбы, якія былі раней аддадзеныя гаротным.

Так і мы, калі гаротным будзем даваць міласціну, аддасць нам яе Бог і на гэтым свеце. Хто больш дае, таму больш аддасць, а хто менш — таму менш і аддасць. Апостал Павел кажа: сеючы скупасць, скупое і пажне, а хто пасеяў у дабраславенні, у ласцы і пажне.

Міласціну, якую мы даем гаротным, аддае нам Бог заўсёды і на тым свеце. Ведаў пра гэта і Евагрый Філосаф, які тры камяні золата на міласціну даў Сінэзію, епіскапу Цырэнскаму. Сінэзій узнагародзіў яго запіскай даравальнай, што Хрыстос яго золата на тым свеце мае аддаць праз Збавенне. Памёр Евагрый, сыны паклалі яго ў дамавіну з тым запісам паводле завяшчання. На трэці дзень паказаўся ў сне памерлы Сінэзію і кажа: ідзі да труны маёй, вазьмі свой запіс, бо мне ўжо яго дастаткова, сведчанне

пра гэта напісана на ім рукою маёю ўласнаю. Епіскап Сінэзій, сабраўшы людзей, адкрыў дамавіну і знайшоў у руках нябожчыка свой запіс, на якім ужо былі свежыя літары рукою памерлага напісаныя ў наступных словах: я, Евагрый Філосаф, цябе, свяцейшы епіскап Сінэзій, віншую, аплочаны мне доўг, які на тым месцы тваёю рукою напісаны, сталася досыць мне золата, якое я праз цябе даў Хрысту Богу, Збаўцу нашаму. Так Евагрыю Філосафу аддаў Бог на тым свеце золата, якое ён аддаў гаротным.

Так і мы, калі будзем даваць гаротным золата і срэбра, міласціну іншую, уваздасць нам Бог на тым свеце. Эклезіяст піша: «*Пашлі хлеб твой на плынь водную* (г.зн. дай гаротным), *бо ў шматлікіх днях знойдзеш яго*».

Карысць і ў тым міласціны, якую мы даем гаротным, што мы яе Самому Хрысту ахвяруем. Ведаў пра тое і Пётр-мытнік, які, убачыўшы чалавека, беднага, голага, зняў з сябе шату каштоўную і даў яму. Чалавек гаротны не захацеў у дарагой і каштоўнай шаце хадзіць, прадаў яе. Даведаўшыся пра гэта, Пётр-мытнік упаў у роспач, што памятка міласціны яго пры гаротным не засталася. Тады яму праз сон паказаўся Хрыстос у яго шаце і прамовіў: «не турбуйся пра шату, якую падараваў мне, я ў ёй хаджу». Так і мы, калі гаротным даем міласціну, а яны яе ці прададуць, ці дзе-кольвек падзенуць, не турбуймася пра тое, бо Самому Хрысту далі тую міласціну. З-за таго Хрыстос на Страшным Судзе хадайнічае за людзей міласэрных: «што сатворыце аднаму з братоў маіх меншых, тое і мне сатворыце».

Карысць міласціны, якую мы даем гаротным, у тым, што яна выбаўляе нас ад Вечных Мук пякельных. Ведала пра гэта і Манонія, дзяўчына, што падвізалася пры храме ў Александрыі, горадзе егіпецкім. З маёмасці храма святы Макарый Прасвіцер прадаў два камяні дарагія: гіяцынт і смарагд, атрымаўшы за іх пяцьсот залатых, якія і раздаў гаротным. Манонія згадала пра тыя каштоўныя камяні, а святы Макарый, паказаўшы на мужоў гаротных, прамовіў: вось гіяцынт, потым, паказаўшы на нявестаў гаротных, прамовіў: вось смарагд. Манонія ўпала ў роспач, захварэла з вялікага хвалявання, была блізкая да смерці, бачыла мукі пякельныя, цемру апраметную, агонь непагасны, чэрвя наўсыпнага. Такія мукі напалохалі яе. Бачыла яна Ангела, светаноснага мужа, які прамовіў ёй: ад тых мукаў збавіў цябе Макарый, заклаў за цябе камяні каштоўныя гіяцынт і смарагд. Потым яна ад хваробы, як са сну ўстаўшы, пачала гаротным вялікую міласціну даваць, хаця перад тым ніякаму (жаднаму) гаротнаму міласціны даваць не жадала. Так Манонію, дзяўчыну,

што падвізалася пры храме, ад мук пякельных збавілі грошы, якія святы Макарый раздаў гаротным.

Так і мы, калі будзем даваць гаротным грошы і іншыя скарбы свае, — збавіць нас міласціна тая ад страшных мук пякельных. Пра гэта казаў і Товія сыну свайму: «Міласціна ад усялякага граха і ад смерці ратуе і не дазволіць душы хадзіць у цемры». Карысцю за міласціну, якую мы даем гаротным, будзе збудаваны за яе нам на Небе палац.

Пераканаўся ў гэтым Гандафор, кароль Індыйскі, які даў шмат скарбу свайго апосталу Фаме, каб яму збудаваў палац. Апостал жа ўсё раздаў бедным. Праз два гады кароль, вярнуўшыся з падарожжа, не пабачыў палаца і зняволіў апостала Фаму. У той час памёр брат каралеўскі, і пабачыў сам кароль у празрыстым сне прыгожы палац, пачуў голас, што гэты палац збудаваў брату яго апостал Фама за міласціну, якую ахвяраваў гаротным. На чацвёрты дзень памерлы тое ж распавёў брату свайму каралю, і адразу апостал Фама з турмы быў вызвалены і адпушчаны на волю. Так Гандафору, каралю Індыйскаму, і яго брату апостал Фама збудаваў палац на Небе за скарб каралеўскі, які раздаў гаротным.

Так і мы, калі будзем бедным скарбы і маёмасці свае раздаваць, пабудуем за тое ў Небе палацы каштоўныя, у якіх на векі будзем жыць. Да тых палацаў нябесных заправоджваюць нас людзі гаротныя, якім даём мы міласціну. Хрыстос пра гэта кажа: «сатварыце сабе, сябры, скарб ад мамоны няпраўды, і калі збяднееце, прымуць вас у вечныя хорамы». Карысць ад міласціны, якую даем гаротным: багацці і скарбы свае праз гаротных да Неба адсылаем і ў Небе хаваем. Хрыстос кажа: «*Хавайце свае скарбы на Небе, дзе няма чэрвя, ні тлі, дзе нават злодзей праз падкоп не ўкрадзе*». У іншым месцы заўважае Хрыстос: «*Ідзі прадай маёмасць сваю і раздай гаротным, і будзеш мець скарбы на Нябёсах*», калі скончыш цяперашняе жыццё нашае дачаснае. Так душы нашыя да Неба пойдуць на Жыццё Вечнае, дзе скарбы нашыя знаходзяцца.

Ведаў гэта святы Іаан Міласцівы Патрыярх Александрыйскі, які, ахвяруючы гаротным скарбы свае, да Неба іх адсылаў і ў Небе хаваў. А калі памёр патрыярх, у той час праведны Савінсвятар у Александрыі меў аб'явенне: бачыў дзяўчыну светлую, як сонца, якая вянец з ліста аліўкавага сплецены на галаве сваёй мела, яна, узяўшы за руку, праводзіла праведнага Іаана да Цара Нябеснага Бога Усемагутнага, каб здабыў жыццё на Небе, дзе скарбы яго, раздадзеныя гаротным, знаходзяцца.

Тая дзяўчына была Міласэрнасць. Так і мы, калі скончым жыццё нашае дачаснае, на той час міласэрнасць нашая засведчана будзе людзьмі гаротнымі. І дзяўчына светлая, вянцом з ліста аліўкавага сплеценым прыаздобленая, душы нашыя возьме і прывядзе да Цара нябеснага Усётрымальніка, каб яны на небе знаходзіліся, дзе і скарбы нашыя, раздадзеныя гаротным, знаходзяцца.

Для таго і казаў Хрыстос: «*дзе будзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша*». Нашто дарма клапаціцца заможнаму, што не мае, дзе збожжа свайго захоўваць. Нашто прамаўляе, што зраблю, калі не маю, дзе скласці пладоў маіх. Павінен ён тое збожжа раздаць гаротным, тады праз іх заправадзіць скарб да Неба, а ў Небе схаваць збожжа сваё і пабудаваць гумны свае.

Неразумна зрабіў багач, разбурыўшы жытніцы свае, каб большыя збудаваць, скласці там усё жыта і дабро. І кажа ён душы сваёй: «маеш шмат дабра, што захоўваецца на доўгія гады, адпачывай, еш, пі, весяліся».

І адкажа яму Бог на тыя словы: «*Безразважны, у гэтую ноч душа твая пакіне цябе, каму маёмасць пакінеш?*»

Неразумна зрабіў заможны юнак, якому Хрыстос сказаў: «*Ідзі прадай маёмасць сваю і раздай гаротным*». Ён жа, пачуўшы тыя словы, зажурыўся, бо меў багата сквапнасці. Пра яго сказаў Хрыстос: «*Прасцей вярблюду прайсці праз ігольчынае вушка, чым багатаму ўвайсці ў Царства Божае*».

Неразумна рабіў і ты, заможны, калі апранаўся ў пурпур і лён, весяліўся ва ўсе светлыя дні. Лазару ж гаротнаму, што рэшткамі са стала твайго харчаваўся, нічога смачнага не даваў. На тваёй дамавіне такі надгробак з Евангелля будзе напісаны: «памёр багаты, пахавалі яго і ў адзе ад мук падняў ён вочы свае».

Нелітасцівы багач, цяпер нагадваеш сабе і каешся, але ўжо не час, ужо па смерці, ужо ў пекле застанешся. Каешся, але, на свеце жывучы, не хацеў быць літасцівым, пра гаротных клапаціцца. Жыў у палацы светлым. Лазара ж у гноі перад брамаю, што ляжаў у знямозе, не хацеў на двор свой пусціць. Апрануты ў пурпур і лён, не жадаў Лазара голага ў якое-кольвек адзенне апрануць. Харчаваўся вычварнымі стравамі раскошнымі і не турбаваўся пра драбінкі, што са стала твайго падаюць, каб Лазара галоднага накарміць. Піў каштоўныя напоі размаітыя, а не даваў нават вады прагнаму Лазару. Слухаючы музыку вясёлую, ва ўсе дні весяліўся светла. Лазара сумнага не толькі дарамі, нават ані словам добрым не хацеў усцешыць і павесяліць. Меў

слуг даволі, але не даў Лазару гаротнаму ніводнага найменшага прыслужніка, каб дапамог у нястачы і хваробе яго.

Што ж цяпер, нелітасцівы багацей, у муках пякельных знаходзячыся, ты ўжо і міласэрнасці патрабуеш і прамаўляеш да Аўрама: «Ойча, Аўрааме, злітуйся нада мною, пашлі Лазара, няхай абмочыць рукі мае ў вадзе і астудзіць язык мой, бо пакутую ў полымі гэтым».

Але табе, нелітасціваму, ніхто не хоча міласэрнасці зрабіць. І Аўрам табе адмовіў: «Дзіця, узгадай, як успрымаў усё добрае ў жыцці тваім, а Лазар злое? Таму ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш».

І таму, каб не напаткала нас тое, што сустрэла багачоў нелітасцівых, будзьма міласэрнымі да людзей гаротных, раздавайма ім багацці свае, ратуйма іх у галечы і ўтрапенні. За тое ратунак Божы ў жахлівую гадзіну смерці нашай і ў дзень Страшнага Суда зазнаем, як Псалмапеўца прамаўляе: «*Шчаслівы, хто разумее гаротных і хворых, у дзень люты ўратуе і яго Гасподзь*».

Амінь.



# ПРАМОВА МЯЛЕШКІ

Выдатным узорам беларускай патрыятычнай літаратуры сярэдзіны XVII ст. з'яўляецца «Прамова Мялешкі», напісаная невядомым аўтарам, які, як вынікае з тэкста, належаў да шляхецкага стану. У ёй, бадай, упершыню ў беларускім пісьменстве прагучала думка пра небяспеку канчатковай і незваротнай страты беларускім народам сістэмы ўласных нацыянальных каштоўнасцяў — маральных, эстэтычных, грамадскіх, дзяржаўных, палітычных. Пісьменнік выразна сфармуляваў ідэю непарушнасці беларускіх сямейных і побытавых традыцый, адзначыў іх высокую каштоўнасць для ўсіх часоў і ўсіх пакаленняў.

У творы сцвярджаецца жыццёвая неабходнасць вяртання грамадства да старасвеччыны, калі, на думку аўтара, паўсюль на нашых землях панавалі шчырасць, адкрытасць, разважлівасць, не было месца пустой балбатні і палітыканству, падману і дэмагогіі. Праз ухваленне мінуўшчыны, нават ідэалізаванне яе пісьменнік-патрыёт даказваў, што праўда, сумленнасць, ахвярнасць дзеля Бацькаўшчыны — вышэйшыя каштоўнасці, вечны і нязменны ідэал. Аўтар меў рацыю, калі пісаў пра «залаты час Літвы», перыяд княжання Жыгімонта Старога (1506—1548), бо сапраўды ў гэты перыяд імкліва развівалася беларускае рэнесансавае мастацтва. Акурат у гэты час Ф. Скарына засноўвае кнігадрукаванне. Тады ж быў закладзены падмурак ці не першай у Еўропе прававой краіны, што замацоўвалася Статутам 1529 г. У першай палове XVI ст. Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася на ўздыме: узводзіліся новыя замкі і бажніцы, квітнела культура, мацаваўся дух нашых продкаў. У многім гэта адбылося, як справядліва гаворыцца ў «Прамове Мялешкі», дзякуючы дбайнасці манарха, які даходзіў да ўсяго сам, клапаціўся пра ўвядзенне ў дзяржаве справядлівых законаў, усяляк заахвочваў абаронцаў Айчыны.

На старонках твора аўтар уздымае балючую тэму саслаблення старой беларускай дзяржавы. Заняпад краіны пачаўся з часоў Жыгімонта Аўгуста (1548—1572), які, паводле слоў пісьменніка, забыўся на інтарэсы Княства, падпаў пад ляшскі ўплыў, злачынна перадаў Польшчы Валынь з Падляшшам, урэшце, сам пачаў лічыць сябе «ляхам». Але галоўная прычына крызісу Вялікага Княства Літоўскага, на думку аўтара «Прамовы Мялешкі», — здрада магнатаў, вышэйшых урадоўцаў,

якія следам за манархам пачалі выракацца сваіх традыцыяў, жыць на чужы лад. Міжусобнымі звадкамі яны загубілі дзяржаву, давялі да поўнай галечы просты люд. Уласныя амбіцыі і непамерная пыха засляпілі ім вочы.

Аўтар публіцыстычнай «Прамовы Мялешкі» закрануў тэму ролі і адказнасці шляхецкага саслоўя за становішча ў гаспадарстве. Ён папракае, дакарае шляхту за яе згодніцтва, якая бачыла заняпад, але баялася «баламутных радных паноў», маўчала, нібы варам абвараная, замест таго каб рашуча супрацьдзейнічаць адшчапенцам і пярэваратням. Народ-шляхта як найвышэйшы носьбіт улады ў Княстве павінны быў, паводле аўтара, узнавіць колішнія парадкі і праз сваіх абраннікаў усталяваць справядлівасць, пакараць злачынцаў.

У «Прамове Мялешкі» рэзка асуджалася паланізацыя нашага краю, агрэсіўныя намеры палякаў здабыць землі на Смаленшчыне ды Інфлянтах.

Аўтар раскрытыкаваў норавы наезджых іншаземцаў — «ляхаў» і «немчыкаў». Першыя, паводле ягоных слоў, увільвалі як маглі ад працы, кралі, што трапляла пад рукі, усё паганілі й псавалі, але пры гэтым не забываліся смачна есці й шыкоўна апранацца. Ляхаў аўтар «Прамовы...» называе нахабнікамі, бессаромнымі і непамерна ганарлівымі. Нязвыклая нямецкая ахайнасць і акуратнасць выклікаюць усмешку літвіна. У «Прамове Мялешкі» высмейваецца малпаванне чужых нораваў, мудрагелістасць вопраткі, ненатуральнасць, манернасць паводзінаў, перанятых у іншаземцаў. Адказ ад традыцыйнай маралі, народнай этыкі і эстэтыкі, паводле высновы аўтара, стаўся адной з прычынаў грамадскага заняпаду, шляхоцкай разбэшчанасці і распуснасці.

*Іван Саверчанка*

Найяснейшы міласцівы кароль і, ласкавыя да мяне, панове-браты!

Выехаўшы з дому, Богу памаліўся, каб да вас здаровым прыехаў ды вашых міласцяў здаровымі пабачыў. Прыйшлося мне з вамі радзіцца, а я ж на такіх з’ездах ніколі не бываў, з каралём, яго міласцю, ніколі не засядаў.

Толькі за часамі князёў нашых, каторыя каралявалі і каторыя ваяводамі бывалі, сентэнцый тых не было: адкрытым сэрцам шчыра гаварылі, палітыканства не зналі і ў рот праўдаю, як соллю ў вочы, кідалі!

Скора ж каралі больш немцаў, чымся нас, улюбілі. Намі грэбаваць пачалі. І што старыя нашы князі сабралі — тое ўсё немцам раздалі нашыя гаспадары!

А Жыгімонта караля, дык няма чаго і за чалавека лічыць, бо Падляшша і Валынь нашыя вытруціў. За ляха сябе лічыў!

Адзін толькі Жыгімонт Першы — салодкая памяць яго! Той немцаў, як сабак, не любіў! А літву і русь нашу ласкава мілаваў! І значна лепей пры ім нашым жылося, хоць і не хадзілі ў дарагіх світах. Пры ім чужакі без нагавіц, як бернардзіны, гулялі, сарочкі аж да костак, і шапкі аж да самага пояса насілі. Дай Божа, ізноў такой гадзіны дачакацца!

А цяпер нат я сам калі па-хатняму апранаюся, то яе міласць, пані Мсціслаўская, жонка мая, нацешыцца і наглядзецца на мяне не можа. Надта ўжо аглядаемся на ўсё тое чужое, міласцівыя панове, на тыя нудныя нямецкія штукі, што сталі ў модзе.

А калі ж то ў іх бывала. У сукнях стракатых ходзяць, і грошай без ліку маюць! А колькі гарадоў і местаў трымаюць — то не хыхі! Вельмі схільныя чыніць ліхое, маніпулююць каралём панам, рэч паспалітую (дзяржаву), як ўжо колісь было, баламуцяць!

І калі сам нямчына ідзе або жонка яго ступае — дык скураная вопратка скрыпіць, шалясціць, дарагім піжмом ваніць! Калі ж да цябе панічок прыедзе — частуй яго дастаткам! Ды яшчэ і жонку сваю каля яго пасадзі. А ён сядзіць, як бес надзьмуўшыся, шапкаю ківае і з жонкаю перашэптваецца, ды ў далоньку скрабе. А калі б гэткага чорта кулаком у морду, па твары ды па хрыбце! Так, каб кароль яго міласць не чуў, — няхай бы морды такой паганай не надзьмуваў!

Помню я караля Генрыха, каторы з заморскага нямецкага боку быў. Той зразумеў, што мы яму не шмат дазволім сваволіць. Дык ён, даведаўшыся, што тут не мёд, сам, нікому не сказаўшы, прэч паехаў у сваю краіну. Аж за мора згінуў!

Кажучы праўду, не так вінаваты кароль, як тыя радныя баламуты, што пры ім сядзяць ды круцяць. Многа тутака такіх ёсць, што хоць наша костка, аднак сабаччым мясам абрасла і ваніць! Тыя радныя, з іх баламутнямі — нас дзяруць, губяць! З-за іх нашыя пакарыстацца нічым не могуць! Краіну губяць! Валынь з Падляшшам адцяпалі ў нас!

Ведаю, прыйшлося нам так, што ходзім як падвараныя. Але таму, што іх баімся, праўды не кажам, а яшчэ й падхлебнымі языкамі падтакваем! А калі б гэткага беса кулаком у морду! Забыўся б другі муціці!

І тое, міласцівыя панове, немалая шкода, што ад слугаўляхаў маем! Давай яму сукню хвалендышавую, і кармі яго сытна. А службы з іх і не пытай! Толькі шыкоўна апранецца і на высокіх падкоўках да дзевак дыбае. І ходзіць, з высокага куфля пацмоктвае. Ты, пане, за стол, — і слуга-лях сабе за стол! Ты — боршчык, а слуга-лях, на куце — кавалак мяса. Ты за фляшку,

а ён за другую. А калі слаба трымаеш, дык ён і з рук вырве! Толькі пільнуе, як ты з дому — ён маўчком прылашчыцца да жонкі. Выгнаць гэткага чартапалоха, разам з немцамі, што да нас улезлі насуперак праву нашаму!

Ад іх міласцяў, паноў-ляхаў, гінуць нашыя старыя паклоны Смаленскія! Лепш прадзярыце вочы на Інфлянты! Бо тыя мечнікі як улезуць туды, дык іх і зублем не выкурыш, як пчол ад мёду!

Нагода пагаварыць і пра іншыя нашыя страты. І тое не малая справа — хаваць коняў дрыгантаў на стайні! Улетку і ўзімку давай ім авёс і сена, падсцілай ім нанач. Утрымлівай дзеля ўходу за імі слугу-ляха, канюшага і машталера, ды не пытай з іх аніякае іншае службы! А калі яшчэ той лях, як жарабец, іржэ каля дзевак, нібы дрыгант каля кабыл, — дык пастаў да яго двух літвіноў на стражу, бо й сам дзідка не ўпілнуе!

І тое на свеце дуроцце — гадзіннікі! Мне патрафілася на кірмашы ў Кіеве купіць. Даў за яго тры капейкі грошаў, а як паслаў да Вільні на паправу — дык ажно на пяць коп накруціў заморскі злодзей! Добры наш гадзіннік — певень, бо няхібна апоўначы кукарэкае.

І тое вельмі страшная шкода — галагудых курэй разводзіць, іх ўжываць. Няварта і іншых птушак смажыць, а таксама торты ўсякія цынамонам, міндалямі цукраваць! За маёй памяццю прысмакаў тых не бывала. Добрая была гуска з грыбкамі, качка з перчыкам, пячонка з цыбулькаю ці часначком. А калі на раскошны дастатак — каша грэчневая з шафраном. Віна вугорскага не ўжывалі. Перадусім, малмазыю толькі півалі, мядок і гарэлачку дзюбалі! Затое грошаў дастаткова мелі, муры моцныя будавалі ды вайну слаўную мацней і лепей трымалі, чымся цяпер.

І тое зусім недарэчна, што пані ў багатых сукнях ходзяць! Не зналі раней партугаляў ці фартугаляў! І падалок рухаецца і каля падалка чапляецца! А дваранін у ножку, як сокал, углядаецца, каб дзе ўшчыпнуць салодкага мяса! Я б раіў, каб нашыя белажонкі ўбіраліся ў даўнія казакінкі, шнураваныя ззаду. Насілі распоркі, а да іх ужывалі нямецкія плюндрыкі. Не так бы хутка аматары скрадывалі спакусу. А цяпер, хоць з рагацінаю стой, — такога беса ў жывыя вочы не ўпілнуеш!

Далей аб чым радзіці — не ведаю. Вашай міласці тое нагадваю, каб колькі сенатараў і паноў літоўскіх пры каралю, яго міласці, заўжды былі. І я каб быў. Толькі каралеўшчыны не маю, бо перад другімі не схапіў!

І што гаварылі тут — усё праўда.

І Уршулю, каралеўну яго міласці, у ручку пацалаваў, як і іншыя малодшыя сенатарчыкі. Не дзівіціся, міласцівыя панове-брацця! Спрадвеку гаворыцца: сівізна ў бараду — а чорт у рабро за поясам.

Дзеля добрага ведання стаўку купіў.

Не толькі ў Смаленску, але і ў Мазыры ўвесь павет пра тое радзіўся, каго б мудрага на той з’езд дзеля прамовы выправіць. Мяне, чалавека вядомага, да вашай міласці паслалі.

І як Бог даў, змог адкрыць перад каралём яго міласцю і вамі, панове-брацця, нашыя парады.

Хтосьці з вас няхай скажа лепей, толькі без баламутні, а я на тым спыняюся!



# ЛІСТ ДА АБУХОВІЧА

«Ліст да Абуховіча» — адзін з найбольш яркіх мастацкіх твораў, выдатны ўзор беларускай патрыятычнай літаратуры. Ён напісаны ананімным аўтарам з нагоды падзення Смаленскага гарнізона 23 верасня 1654 г. перад наступам войскаў Маскоўскага княства.

Найважнейшая місія «Ліста да Абуховіча» — асуджэнне псеўдаадукаванасці, маральнай недасканаласці людзей, якія навучыліся прыгожа гаварыць, на словах служыць «Сафіі, якая нарадзіла філязофію», але на справе пазбаўленыя сапраўдных вартасцяў — мужнасці, годнасці, адданасці роднай зямлі. Паняцці «Айчызна» і «Праўда» — святыя для аўтара «Ліста да Абуховіча». Яго ідэал — ахвярны барацьбіт за свабоду Бацькаўшчыны, які заўжды праўдзівы ў словах, высакародны ва ўчынках, стрыманы ў паводзінах.

Асноўны матыў «Ліста да Абуховіча» — вострая крытыка смаленскага ваяводы Піліпа Казіміра Абуховіча (?—1656), які не здолеў стрымаць аблогу Смаленска, даць належны адпор захопнікам, у адказны для краіны момант прыняў ганебнае рашэнне аб капітуляцыі смаленскага гарнізона.

Галоўны герой твора — Піліп Абуховіч, маршалак рыцарскага кола з 1648 г., пісар Вялікага Княства Літоўскага, а з 1653 г. смаленскі ваявода. Ён пададзены як адмоўны персанаж, антыгерой. На старонках твора П. Абуховіч паўстае як дробная і нікчэмная асоба. Смаленскі ваявода намаляваны надзвычай сквапным чалавекам, які за звон чырвоных залатых здатны на любы агідны ўчынак.

Сатыра пісьменніка ў дачыненні да П. Абуховіча дасягае апагею. На яго думку, П. Абуховіч — аматар весці пустыя размовы на соймах і з’ездах, яго больш цікавіць прыгожая вопратка, чымся дзяржаўныя справы. Галоўная загана П. Абуховіча — няздатнасць да рыцарскіх справаў, бяздарнасць як кіраўніка гарнізона, прадажнасць. Ён — нашчадак роду, які «вызначыўся» надта ганебнымі ўчынкамі: дзед «праславіўся» тым, што атрымліваў хабар, калі быў «генералам» у Мазыры, а бацька, мазырскі суддзя, — «у каго больш браў — таго добра судзіў». Паводле меркавання аўтара, учынак П. Абуховіча — горшы за здраду Рыгора Осціка, які вёў таемную ад урада перапіску з маскоўскім царом, за што слушна быў жорстка пакараны ў Вільні.

Аўтар супрацьпастаўляе смаленскага ваяводу гераічнаму польнаму гетману Вінцэнту Карвіну-Гасеўскаму (1628—1662), які ніколі не афішаваў сваю асобу, не выхваляўся на публіцы, а спакойна і адказна выконваў вайсковы абавязак, справамі даказваў свае вартасці як дзяржаўная асоба.

У крытыцы ваяводы аўтар «Ліста да Абуховіча» напачатку ўжывае лёгкія пакепліванні, накшталт: «Лепей, пане Піліпе, сядзець табе было ў Ліпе!» (Ліпа — родавы маёнтак Абуховічаў) або «Калі б датуль, ваша міласць, пісарам быў бы, дык чалавекам слыў бы!», а затым пераходзіць да адкрытых абразаў і здзекаў, змяшчаючы на старонках твора меркаванне «пра ўзнагароду за Смаленск». Маўляў, кароль і вялікі князь «за слаўныя справы» меў намер прызначыць яго ваяводам Кракава, ды вось толькі «ляхі дужа баяцца, каб твая міласць не прадаў яго венграм».

Аўтар «Ліста да Абуховіча», напэўна, меў падставы для знішчальнай крытыкі ваяводы П. Абуховіча ўжо хаця б таму, што Смаленск быў здадзены непрыяцелю без істотнага супраціўлення. У вытлумачэннях аўтара прычынаў паразы войскаў ВКЛ прысутнічаў відавочна асабісты момант. За ягонай крытыкай праглядаецца асабістая крыўда, магчыма, маёмасны або кланавы канфлікт з П. Абуховічам. Прычыны ж трагедыі, якая напаткала беларускі народ у сярэдзіне XVII ст., мелі, відавочна, не толькі суб'ектыўны характар.

Аўтар, аднак, імкнецца да мастацкага абагульнення, выяўлення пэўных сацыяльных заканамернасцяў. Праз крытыку канкрэтнага магната ў творы можна бачыць і выкрыццё заганаў тагачаснага беларускага грамадства, хібы ў дзейнасці вышэйшага кіраўніцтва краіны, правалы ў абарончай палітыцы, эгаізм магнатаў, кланава-шляхецкую варажнечу, канфесійныя канфлікты, якія, нібы іржа, раз'ядалі краіну, падточвалі знутры ўсё грамадства, не дазвалялі належным чынам кансалідавацца, каб стрымаць наступ агрэсараў. Беларускія харугвы і гарнізоны пацярпелі паразы ў вайне 1654—1667 гг., названай гісторыкамі «патопам», перадусім таму, што саступалі колькасна і якасна арміі Маскоўскага княства.

«Ліст да Абуховіча» мае значныя ўласна літаратурныя вартасці. У ім дамінуе зваротная форма маўлення, але ўжываюцца і іншыя тыпы выкладу матэрыялу: апавяданне — сюжэт пра продкаў Абуховіча, разважанне — аналіз намераў П. Абуховіча сабраць харугвы, каб здзейсніць спробу вярнуць Смаленск. Унутраная кампазіцыйная аднапланавасць тэкста парушаецца аднойчы — змешчанай у ім прамовай, ці, хутчэй, адвольным яе пераказам, на адным з соймаў смаленскага кашталяна пана Мялешкі, які папярэджваў манарха і дэпутатаў пра згубнасць прызначэння на адказныя пасады людзей не здольных ахвяравацца сваім жыццём дзеля свабоды Айчызны.

Мастацкасць «Ліста да Абуховіча» на мікраўзроўні выяўляецца праз шырокае выкарыстанне багатага лексічна-вобразнага фонду жывой беларускай мовы, народных і біблейна-кніжных прыказак,

запамінальных прымавак, устойлівых словазлучэнняў, надзвычай яркіх перыфразаў — «Уваляўся ў вялікую славу, як свіння ў гразь», «Сядзіць высока, гаворыць глыбока», «У Гданьску ёсць каму вал і без нас сыпаць».

Высокая ступень мастацкасці дасягалася праз ужыванне нечаканых вобразных параўнанняў: «У абмовах і ў сарамаценні сядзіш, як д'ябал у дупле!», «Праз тыя вымыслы выкурылі нашых мужыкоў, як вераб'ёў з веніка», «Заблудзіўся цяперашні розум, як каза ў лесе!», «Надзьмуўся ў Сенаце, як певень галагуцкі!»

Частыя антытэзы і супрацьпастаўленні дазвалялі беларускаму пісьменніку падкрэсліць семантыку сентэнцый, узмацніць характарыстыку персанажаў, ярчэй высвеціць прадмет: «мудрыя ў сабалях — простыя ў кажухах».

Аўтар ужывае рэдкі літаратурны прыём — літоту (рэзкае змяншэнне), супрацьлегласць гіпербалы: «ва ўсіх штурмах вашай міласці толькі аднаго ткача забілі».

Наяўнасць шматлікіх тропаў — эпітэтаў («святая праўда», «ліхое нядбальства»), метафараў («безваяводскі»), а таксама яе разнавіднасцяў — сінекдахі і метаніміі («перапуд маскоўскі», «ляхі на вашую міласць вельмі хвасты пазакачывалі») надавалі тэксту эстэтычную прыгажосць і мастацкую дасканаласць.

Рытмічная арганізаванасць тэкста, з канцавой і ўнутранай рыфмамі, яскрава сведчаць пра выключнае пісьменніцкае майстэрства аўтара.

На ўсіх узроўнях «Ліста да Абуховіча» адчуваецца віртуознае валоданне аўтарам мастацкім словам і моўнымі рэсурсамі.

У цэлым, мастацкая мэта «Ліст да Абуховіча» раскрыта пісьменнікам даволі поўна. Аўтар дасканала абмаляваў прычыны і жахлівыя наступствы паражэння войска Вялікага Княства Літоўскага ў вайне 1654—1667 гг., выдатна адлюстраваў тагачасныя сацыяльныя канфлікты і складаныя грамадскія дачыненні.

*Іван Саверчанка*

Міласцівы пане Абуховіч! Мой міласцівы пане!

З умыслу майго пасылаю служку нашага даўняга, пана Яўхіма Гаворку, зычачы здароўя вашай міласці або нездароўя, у якім на той час міласцівы Госпад дахоўвае вас пасля таго перапуду маскоўскага.

І ведаю я, нудна вашай міласці ў жыцці. Не гневайся, твая міласць, на мяне, што тытулу ваяводскага не ўжыў. Каб напісаў — ваяводу смаленскаму, — то схлусіў бы. Каб напісаў — безваяводскаму, — то вашую міласць угнявіў бы. Хоць няма чаго: калі Смаленск прадалі, то й тытул прадалі!

Багата людзей аб тым распавядалі, што ваша мосць людзей і грошы пабралі.

Лепей, пане Піліпе, сядзець табе было ў Ліпе! А то ўваляўся ў вялікую славу, як свіння ў гразь.

Горш за таго табе стала, калі хто ўпадзе ў новым кажусе ў топкае балота.

У злым разуменні, у абмовах і ў сарамаценні сядзіш, як д'ябал у дупле!

От, нам за тое, што танна масква сабалі прадавала, усю русь з людзьмі адабрала. Мы як пабачылі густыя сабаліныя каўняры, зараз пазналі, што худа будуць біцца нашыя жаўняры! І што мы, дурныя, у кажухах сем гадоў Смаленска здабывалі, тое вы, мудрыя, у сабалях, за чатырнаццаць тыдняў аддалі!

Баюся вельмі, каб за тое баба каму пупа не разрэзала.

За меншую віну, кажуць людзі, Осціка нябожчыка напалохаў кат у Вільні, аж мяса яго валялася. Толькі за тое, што картачкі пісаў да масквы неасцярожна. А мы і цара ў нагу цалавалі, і грошы пабралі! Але мала нам за тое не будзе!

Пан Гасеўскі хоць і няшмат па-лацінску ўмеў, а з меншым людам, рыштункам вайсковым і жыўнасцю Смаленска ўтрымліваў.

Мудрасць вялікая, кажуць людзі, як тая свіння: калі хто шмат яе ўжывае, то нічога не прыдбае. І калі чалавек надта ўкусіць, то й пастагнаць мусіць. І хвасту бывае няма спакою. Сафія філязофію нарадзіла: сядзіць высока, гаворыць глыбока. Кудзеля, пане, жаноцкая рэч. Ды каб пякла добра аладкі.

Ёсць у мяне старыя кнігі, ляжаць у новым куце. Заўсёды я там шмат вычытваю жаноцкай псоты і каб бабы, нас грэшных, да ліха не прывялі.

І калі б датуль, ваша міласць, пісарам быў бы, дык чалавекам слыў бы!

І таго б з нас годзе за нашае ліхое нядбальства.

Ківаюць людзі і тое на вашую міласць, быццам бы да вымыслаў незлічоных спрычыняўся не хто іншы, як вашая міласць. Праз тыя вымыслы выкурылі нашых мужыкоў, як вераб'ёў з веніка. Бо з нешматлікіх мудрых аратараў не будзе шмат ратаяў!

Як стаў паслом — праўды не гаварыў, толькі адно: бярыце копы. Дэпутам копы, камісарам копы! А тыя копы — пастрыгуць не аднаго ў халопы, і пан немаведама дзе будзе.

У Гданьску ёсць каму вал сыпаць і без нас!

Што-кольвечы людзі старыя гаварылі, тое ўсё праўда.

Добра памятаю, як быў пан Мялешка кашталянам смаленскім. На сойме быў і я, за ім з корцікам стаяў. Яго прамова з тых словаў была: «Панове, кажу вам праўду ўслед за мудрымі. Нічога на

гэтым свеце не бывае за тры хвілі. З балота чыніць золата, а з золата — балота, сваімі круцельскімі мовамі. І ён, панове, з праўды няпраўду, а з няпраўды праўду ўрабіў. Каб нас, простых людзей, не ашукалі і ў блазны не пастрыглі! Але пакуль ён тое дакажа, сам кепам стане. Надзьмуўся ў Сенаце, як певень галагуцкі! І праўды не пытай — усё баламутня! Усё трымае — так, так. А калі скажаш — тое не так, дык і піснуць не хоча».

Не баяўся караля яго мосці Зыгмунта і ўсіх сенатараў. Хоць і не ўмеў больш, адно што Часоўнік і Псалтыр прачытаў.

Заблудзіўся цяперашні розум, як каза ў лесе!

І на праўду святую ніводнага вока здаровага няма, адно — баламутня!

За той баламутняй і самі загінуць, і нас загубяць!

Ражон ім, пане, у жывот будзе!

А я такая асобка, такі чалавек.

Цівунец мой з Рыкунёў быў з сырамі на рынку, ад кагосьці там пачуў і мне прынёс, што ляхі на вашую міласць вельмі хвасты пазакачывалі. Адно толькі сойма чакаюць або з’езда. Хочуць вашую міласць аб тым турбаваць. Не кепска! Дай-та Божа, каб тое дарма не мінула.

Ці праўда тое, ці не, калі кажуць пра вашую міласць, што намерваецеся сабраць дванаццаць сотняў пяхоты, каб назад Смаленска вярнуць.

Дарэмнае старанне, вашая міласць! Калі мелі чатырнаццаць сотняў пяхоты для абароны Смаленска, людзей знакамітых і мужных, шмат гарматаў і жыўнасці — не хацеў яго бараніць. Дык цяпер маеш толькі сваю грэблю і маёнтак, якімі можна толькі падлогу засыпаць, а не Смаленска вяртаць!

Ой, пане, годзе вы так!

Як сліжа ў Нёман упусціць, не заўтра тое будзе.

Абмінуць яго і трое людзей.

І тое кажуць аргументавана: ва ўсіх штурмах вашай міласці толькі аднаго ткача забілі, і то не вельмі знатнага.

Хтосьці паведаміў, нібыта вашай міласці Кракаўскае ваяводства кароль яго міласць як ўзнагароду за Смаленск наважыўся даць. Праўда, ляхі дужа баяцца, каб твая міласць не прадаў яго венграм.

Няўжо, пане, ад роду гэта дзеецца?

Дзед тваёй міласці, калі генералам быў у Мазыры, то, як я чуў, за малыя грошы вялікую няпраўду прызнаў.

Пан, бацька вашай міласці, як быў суддзёй мазырскім, за маёй памяццю, у каго больш браў — таго добра судзіў. Калі нябожчык на той свет адышоў, мазыране вельмі радыя былі.

І калі б ваша міласць і дагэтуль за праўдай хадзіў, дык і Бог бы вам дапамагаў.

Дужа мне тое дзіўна, што вашай міласці трыста падвод пад адну пасцель масква дала. Якое гэта ліха! Не пасцель была такой цяжкай. Ведаю, кожнае пёрка ператварылася ў чырвоныя залатыя. Так была ўзнагароджаная вашая міласць за перапуд маскоўскі. Калі гэтакую кучу гною даў вывезці з Смаленска... Хмяльніцкаму да Чыгірына, і тое не без шкоды было.

Пане, у мяне гэтай брэдні ёсць нямала. Адных пярын дзевяць, акром дробных падушак. І тое адна кабыла возіць, дзе той брэдні трэба.

Меў бы і што больш да вашай міласці пісаць, але зляніўся. Ды ўжо й стар, і не магу.

Ды не гневайся, спадару. І хто ж вас аберажэ, калі не мілы, даўні твой сябра.

Дадзены з Тулян, дня 6 ліпеня, 1655 года.



# СІМЯОН ПОЛАЦКІ

*(1620—1680)*

Сімяон Полацкі (Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч) — велічная постаць беларускай і ўсходнеславянскай літаратуры, філасофіі, культуры. Узгадаваны ў Полацку, ён атрымаў бліскучую пачатковую адукацыю. Каля 1650 г. скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію з дыпломам «дыдаскала», а затым, блізу 1653 г., студыяваў у славутай Віленскай акадэміі.

У чэрвені 1656 г. С. Полацкі прыняў лёсавызначальнае рашэнне, — пастрыгся ў манахі Полацкага Богаяўленскага манастыра, дзе на працягу васьмі год выкладаў у брацкай школе. Прыкладна ў 50-я гады XVII ст. ён уступіў у Базыльянскі ордэн, утвораны беларускімі уніятамі. На прыналежнасць С. Полацкага да Ордэна Базыльянаў яскрава паказвае яго экслібрыс: «Ex libris Simeonis Piotrowski Sitnianowicz jeromonachi Polocensis Ord. S. Basilii Magni» (З кніг Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча, полацкага іераманаха ордэна святога Васіля Вялікага).

Як філосаф і бліскучы майстар мастацкага слова С. Полацкі сфармаваўся менавіта ў культурнай і інтэлектуальнай атмасферы Вялікага Княства Літоўскага. Першыя літаратурныя спробы таленавіты палачанін здзейсніў у часе навучання ў Кіеве і Вільні.

С.Полацкі пачынаў тварыць на матчынай мове, пра што пазней паведамляў у прадмове да «Рыфмалагіёна»:

Писах в начале по языку тому,
Иже свойственный бе моему дому.
Таже увидев многу пользу быти
Славенску ся чистому учити.
Взях грамматику, прилежох читати,
Бог же удобно даде ю ми знати.

У архівах знойдзены раннія творы С. Полацкага, напісаныя пераважна на старабеларускай і польскай мовах, прычым ён карыстаўся як кірыліцай, гэтак і лацінкай. У беларускі перыяд творчасці С. Полацкі стварыў цыкл вершаваных твораў дыдактычнага і панегірычнага характару, напісаў драматургічныя творы, філасофскія казанні і дэкламацыі.

Першыя значныя паэтычныя «Метры» ў гонар расійскага цара Аляксея Міхайлавіча, які ў 1656 г. праязджаў праз Полацк, з’явіліся мастацкім адказам беларускага інтэлектуала на паланізацыю Беларусі, рэзкім палітыка-ідэалагічным пратэстам нацыянальнага паэта супраць неапраўданага кампрамісу шляхты і магнатаў ВКЛ перад польскай культурнай экспансіяй:

Ты, Цару, — ёсць наша Сонца, бо Русь асвяцілася,
Як хмары ерэтыкоў ад нас аддаліліся.
Сонца, — бо вокам сваім усіх даглядаеш,
Як сонечнае кола, усіх асвятляеш.
Сонца планетам святла пазычае,
Сонца, — бо ўсё святлом тваім ззяе!

Гістарычныя абставіны прымусілі С. Полацкага пакінуць радзіму і ў 1664 г. пераехаць у Маскву. Беларускі інтэлектуал сустрэў цёплы прыём пры царскім двары, атрымаў выдатную магчымасць займацца педагагічнай і асветніцкай дзейнасцю. С. Полацкі прынёс у Расію заходнюю філасофію і эстэтыку, высокую кніжную паэзію і мастацтва школьнай драматургіі.

Менавіта ў Маскве С. Полацкі апублікаваў «Жэзл праўлення» (1667), «Буквар» (1679) і два аб’ёмныя зборнікі твораў: «Сад шматколерны» (1678) і «Рыфмалагіён» (1680). Ён напісаў і паставіў дзве п’есы: «Прыпавесць пра аблуднага сына» і «Пра Наўхаданосара-цара». Пасля смерці асветніка быў апублікаваны корпус яго казанняў у дзвюх кнігах: «Абед душэўны» (1681) і «Вячэра душэўная» (1683).

Вызначальная рыса творчага почырку С. Полацкага — энцыклапедызм, гістарычная абазнанасць і інтэлектуальная вытанчанасць. Вершы С.Полацкага — гэта, пераважна, яркія філасофскія сентэнцыі, мудраслоўі, дыдактычныя павучанні.

На старонках сваіх твораў паэт апявае кніжныя веды, стварае культ філасофіі, мудрасці, навукі і пазнання, аб чым выразна сведчаць яго вершы з красамоўнымі назвамі: «Філасофія», «Розум», «Слова», «Маўленне», «Акадэмія», «Час». У філасофскім вершы «Думка» С. Полацкі паказвае стваральную ролю канструктыўных ідэй, раскрывае іх асноватворную функцыю ў грамадскай практыцы. Паводле канцэпцыі С. Полацкага, менавіта філасофія і навукі дазваляюць дасягнуць дасканалага жыцця, робяць людзей мудрымі, разважлівымі, таленавітымі творцамі, роўнымі да анёлаў.

Філасофія і кніжныя веды маюць велізарную практычную карысць, яны дазваляюць чалавеку ўпэўнена пачувацца ў грамадстве, годна трымацца перад абліччам цароў і князёў. Філасофія і веды ўзбагачаюць духоўны свет асобы, робяць чалавека моцным, здатным пераадольваць цяжкасці, развязваць складаныя праблемы. Філасофія спрыяе маральнаму аздараўленню грамадства, выкараняе заганы і зло.

У аснове інтэлектуальнай дзейнасці чалавека, паводле слушнага меркавання асветніка — старанная праца над словам. У вершы «Слова» ён заклікае ўсіх паважліва і з выключнай пашанай ставіцца да сваіх слоў і выказванняў, зважаючы на іх духоўную моц.

У вершаваных і празаічных творах С. Полацкі сфармуляваў уласную этычную дактрыну, якая ўключала сістэму базавых канцэптаў, што вынесены ў загалоўкі многіх вершаў: «Годнасць», «Сяброўства», «Стрыманасць», «Праца», «Славалюбства», «Паклёп», «П’янства», «Хабарніцтва», «Згода».

С. Полацкі выкрываў амаральныя паводзіны і ўчынкі. У вершы «Двурушнасць» паэт асудзіў крывадушнасць і няшчырасць, якія разбураюць асобу.

Як выбітны філосаф, С. Полацкі шмат разважаў пра чалавека і грамадства. Яго антрапалагічная канцэпцыя найбольш поўна выкладзена ў казаннях: «Слова пры пахаванні саноўнага чалавека», «Слова пры пахаванні сумленнага чалавека», «Слова пры пахаванні ваяра», «Слова пры пахаванні дабрачыннага чалавека», «Слова пры пахаванні сумленнай жанчыны», «Слова ў дзень найпадобнага Аляксея». У «Слове ў дзень новага лета» пісьменнік падкрэсліваў асаблівую місію чалавека на зямлі, яго выключнае месца сярод іншых жывых істотаў: «Дзеля каго сонца дзень стварае? Дзеля чалавека!Дзеля каго існуюць усе скарбы зямныя — золата і серабро, каштоўныя камяні ў зямных нетрах і жэмчуг ў марскіх глыбінях? Дзеля чалавека!» С. Полацкі таксама адзначаў натуральнае імкненне чалавека да ўзвышанага і прыгожага.

Для творчасці С. Полацкага характэрны анталагізм — імкненне ахапіць і растлумачыць усе з’явы жыцця, прыроды і сусвету, аб чым сведчаць шматлікія вершы: «Чарадзейства», «Старасць», «Жаніцьба», «Жонка», «Удоўства», «Манах», «Леў», «Дзень і ноч», «Пахаванне», «Віно».

С. Полацкі ўздымаў вострыя сацыяльныя і грамадска-палітычныя праблемы, прапаноўваў іх адметнае вырашэнне ў творах: «Начальнік», «Суд», «Грамадзянства», «Справядлівасць», «Адрозненне». Выхаваны на ідэях Рэнесансу, ён адстойваў ідэю пабудовы прававой дзяржавы. У вершы «Закон» паэт акурат указваў на пільную грамадскую неабходнасць адшліфаваных агульнадзяржаўных статутаў, падкрэсліваў велізарную карысць ад іх для кожнай асобы і ўсёй супольнасці.

С. Полацкі ўздымаў і адмыслова вырашаў праблему ўлады. У вершы «Адрозненне» паэт, спасылаючыся на Арыстоцеля, піша, што сапраўдны цар той, хто дбае аб грамадзянах, думае пра іх патрэбы. Тыран — рабуе і крыўдзіць падданых. С. Полацкі адстойваў канцэпцыю асвечанай манархіі. У вершы «Улада» ён сцвярджаў, што ўсялякая ўлада — ад Бога. Менавіта Госпад пасылае людзям добрых ці злых уладароў. Грамадзяне павінны шанаваць уладу, дапамагаць манархам рэалізоўваць іх ствральныя задумы. У п’есе «Пра Наўхаданосарацара» праз мастацкія сродкі драматургіі сцвярджаецца неабходнасць справядлівага і мудрага манарха.

С. Полацкі — выдатны майстар мастацкага слова. Ён апрацоўвае яркія народныя прыказкі і прымаўкі, шырока выкарыстоўвае вуснапаэтычныя вобразы. Паэт шматкроць прыгадвае сентэнцыі старадаўніх філосафаў і красамоўцаў — Арыстоцеля, Платона, Фалеса Мілескага, Арыстыпа, Дыягена, Дыянісія, ацэньваючы іх выключна з станоўчага боку. С. Полацкі на старонках сваіх твораў падае сюжэты з антычнай і сярэднявечнай гісторыі, якія ён чэрпаў з сусветных хронік, выдадзеных у XV—XVI стст. у Заходняй Еўропе.

У тэкстах С. Полацкага шчодра прадстаўлены эпітэты, метафары, параўнанні і сімвалы, што надае яго творам семантычную шматзначнасць і барокавую квяцістасць.

Такім чынам, творчасць Сімяона Полацкага — арганічны сінтэз літаратуры, філасофіі і тэалогіі, умелае спалучэнне заходняй і ўсходняй патрыстыкі, антычнай і хрысціянскай эстэтыкі, што робіць яе фенаменальнай, непаўторнай з’явай беларускай, усходнеславянскай і сусветнай культуры.

На старонках сваіх твораў С. Полацкі ўзняў шырокае кола філасофскіх, сацыяльных, этычных і анталагічных пытанняў, істотна пашырыў тэматычныя абсягі беларускай і рускай літаратур, заклаў якасна новую філасофскую і эстэтычную традыцыю.

*Іван Саверчанка*

## ВИТАНЕ БОГОЛЮБИВОГО ЕПИСКОПА КАЛИСТА ПОЛОЦКОГО Ы ВИТЕБСКОГО ОД ДЕТЕЙ ШКОЛЫ БРАЦКОЕ БОГОЯВЛЕНСКОЕ, МОВЕНОЕ ПРЫ ВЪЕЗДЕ ЕГО МИЛОСТИ ДО ПОЛОЦКА А. 1657, ИЮНЯ 22

### 1

Лобзаем тебе, пастыру, нам от Бога даны,
Од цара православна на сей сан избраны.
Тебе пастырем овец своим познаваем
Ы пастырскаму гласу твойму послушаем.
Грядем камо грядешы ко своей палицы,
Обрашченны имамы очные зеницы.
А православна цара за тебе такаго,
Дай Бог весь свет много лет пастыра добраго.
Он твой жезл нам послал ест, а жезл силы ему
Да пошлет выше Господ, да враги своему

Одолеет, ы венц положыл на главе
За тя венец глав нашых пры победной славе.

2

Ликуй, радуйся, церкви российска, бо тобе
Ангел от Бога даный, чует в каждой добе.
Не спит Никон святейшы, леч отверсты очы
На вси страны мает як во дне, так в ночы,
Бы волк хытры не шкодил, на вси страны чует,
Як херовим пры раю, з агнистым вартует
Мечем слова пры церкви Божой, люб престола,
Як лвы Соломонова стерегли до кола,
Если не сам, то з свайго раменя зсылает
Пастыра, пилност, владзу оному злецает.
Як тебе до нас нине, венц як ангел Бога
Вышняго, нех з ангелы лета жывет многа.

3

Нине исполнитеся всяческия радости,
Бог прызре на ны свышше по своей милости.
Даде овцам пастыра, наставника блудным,
Заступника вдовицы церкви, а безстудным
Еретыком погубу ы обличытеля,
Неверным то противных всих посрамителя, —
Боголюбна Калиста, пастыра добраго,
Кормчыя лоды нашей ы отца шчедраго,
Нишчых ревнителя по Бозе велика,
Достыгша сего сана умна человека.
Сего ради от Бога ему многа лета
Молим, да даст пожыти пры кончыне света.

4

Образ прототипу подобны бывает,
Хто зрыт в зерцало себе, другаго видает.
Хрыста — пастыра образ ест святейшы Никон,
Ты — чулаго пастыра жыву етес Илеон.

Мы, гды тебе витаем, святителя в тобе,
А Христа познаваем в святейшей особе.
Венц, гды тебе пастыра над собою знаем,
Никона, а впрод Хрыста за пастыра маем.
Аже Хрыстос на веки Богом ест на небе,
Никона, як свой образ, бы прынял до себе
По мнозех летех, молим, ты з овцы своими
Бысь последовал ему к небесной краине.

5

Нине яви ест яко Бога работати,
Не рабом яцем быти, не царствовати.
Ибо цар православны Богу работает
И сего дела царски диадему мает.
Работает он Богу пилне ради веры,
Прыемлет брань ы труды ы тшчату без меры,
Дабы вславил повсюду Бога истыннаго,
Славима в трех лицех в Бостве едынаго.
Где бы обрел драхму, згибшею в Адаме,
И звлекл тлеюшча овца в неверия яме.
Чего ради ы тебе даде светлу свешчу,
Да просветишы мрачных, а нам даси пишчу.

6

По джджу звыкло погода на свеце бывати,
По темной слонце ночы на небе сияти.
По прыкрой зиме весна вдячная приходит,
По ляментах ы плачах веселе надходит.
Плака ти до днесь церков, без пастыра бывши
Межи лвы ы волками много лет прежывшы,
Днесь веселится, где тя, пастыра, витает,
Як вдова облюбенца, гды в свой дом прымает.
Се мы тобе мысленна церков се кланяем,
Паси нас, твое стадо, през Хрыста, желаем.
Тобе жезл ест одданы, видены пророком,
Чуйны, бысь чул над нами неусыпным оком.

7

Благий да мовит овцам, пастыра вславляет,
А православный тебе цар до нас зсылает,
Пастыра мыслных овец, да ты ны пасешы
В ограде небесной ы от волк спасешы.
Паси, пастыру, паси ны, царские люди;
Паси овца Христовы, а сам спасен буди.
Христос, яко Петрови, нас тобе вручает,
Паси овчата мои, а цар изволает
По произволению пастыра от Бога.
Сего ради да Господ даст ти лета многа.
Даст победы на враги, даст и здраву быти,
Тя, пастыра, ы овца од волков хранити.

8

Кими тя, православны цару, увенчаем,
Венцы ы тобе, отче, патрыархо маем.
Вдячност дати якую за благодат вашу,
Яко неостависта сиру церков нашу.
Послалисте нам отца, вас Отец на небе
Жывушчый на дедицтве ы прымет до себе.
Он нехай межы царми поличыт святыми
Цара, а святителя межы святейшыми.
Але первей на земли во всем пособляет
Ним нетленнымя венцы в небе увенчает.
Тобе зась, наш пастыру, много лет желаем,
Миле исполноты деспота спеваем.

## СТИХИ УТЕШНЫЕ К ЛИЦУ ЕДИНОМУ

Кто хощет людей на свете познати,
        Изволь о умных мене вопрошати.
Сам я не дурак, да блюдусь сказати,
        Чтоб мене вверх не хотели взяти.
Видете мене, как я муж отраден,
        Возростом велик и умом изряден?
Кто ся со мною может поровнати,
        Разве из мертвых Голиафу встати?

Ума излишком, аж негде девати, —
    Купи, кто хочет, а я рад продати.
Вся глава умом велми ся наткана,
    А мозгу мало, что места не стало.
Времем сквозь нос разум вытекает,
    Да Семен умен — языком приймает.
А сколько силы — не можно сказати:
    Лва на бумагу мощно мне раздрати,
Другий то Сомпсон, да нет с ким побиться:
    Кого вызову — всяк мене боится.
Да кто с богатыром бороться посмеет:
    Мечем, пистолми — все Семен умеет.
Мнози видают, как сильно борюся,
    Когда с рубашки в вечер раздегнуся,
Не один недруг тогда погибает,
    А кров от ногтей и в очи плискает.
По такой битве рад я спочиваю
    На мягкой лавке. Так трудов збываю.
Все мне по мысли. Одно то в печали,
    Что злые люди женится не дали.
Зависть проклята. Где мене полюбят,
    Там злые люди тот час мя разгудят.
Кто таков, как я, — да щастя не многа
    Ожените мя, молю вас для Бога!
Ручайте! Есть с чим молодец дороден,
    Есть што есть, пить — и велми заводен.
Свое полаты за печью имею,
    А про богатство хвалится не смею,
Чтоб вор не окрал. А стану дарити,
    Кто мя изволит скоро оженити.
И буду ему праведно служити:
    Хлеб дармо ести и вино добре пити.

## РОЗУМ

Розум — ёсць здольнасць добра развражаць,
    Жыццё і побыт годна ладкаваць.
Прадбачыць будучыню розум дазваляе,
    Ад здрадлівых учынкаў адхіляе.

## СЛОВА

Імклівa птушка з клеткі вылятае,
Нялёгка тым, хто зноў яе вяртае.
Так, вусны — проста слова нараджаюць,
Але назад ніколі не вяртаюць.
Калі надумаеш сентэнцыі казаць,
Наперад трэба добра разважаць.
Благое слова шкоду прычыняе,
Калі людскога вуха дасягае.

## ДУМКА

Як корань у дрэве, думкі ў чалавеку —
Ёсць таямніцай сучаснага веку.
Корань, глыбока ў зямлі, — нельга ўбачыць,
Думкі ў цянётах сардэчных — цяжка пазначыць.
Моц дрэва заўсёды ў карэнні хаваецца,
Велічна ў голлі й пладах выяўляецца.
Хто вырашыў дрэва ўрадлівым трымаць, —
Аб каранях мусіць клопатна дбаць.
Хто прагне справы добрыя чыніць,
Штодзень павінен з добрай думкай жыць.
Ад добрых думак — веліч і збаўленне,
Ад злых — смурод, бедлам і разбурэнне.

## ФІЛАСОФІЯ

1

Філасофіі — канец, працей людзям жыць,
І моцнаму Богу малітвай служыць.

2

Фалес Мілескі веды шанаваў,
Філасофію і навукі шмат ухваляў.

Заможныя людзі яму дапякалі,
Прычынай збяднення — мудрасць назвалі.
Ён ім пярэчыў: «Жадаю бедна жыць,
Каб у палоне золата не быць.
Як прагай багаццяў я загаруся,
Хутчэй, чымся вы, узбагачуся».
Заможныя з яго смяяцца пачалі,
На веру слоў Фалеса не ўзялі.
Фалес прыдбаў маслінныя сады
І цераз год меў шчодрыя пляды.
На кірмашы збыў масла у пару
І золата здабыў, лічы, гару.
Паклікаў да сябе сапернікаў і кажа:
«Ведайце, слова праўдзівае наша.
Вас скарбам маім пераўзыходжу,
Але асалоды ў тым не знаходжу.
Мудрасць шаную. З ёй прагну жыць,
А не маёмасці марна служыць».
Як скарб незлічоны супернікі ўбачылі,
Ад зайздрасці ледзьве яны не заплакалі.
Мудрага Фалеса ўшанавалі,
У стан ганаровы ласкава пазвалі.

## АДРОЗНЕННЕ

Хто цар, хто тыран — тое добра спазнаеш,
Калі Арыстоцеля ўсцяж прачытаеш.
Цар справядлівы — грамадзянаў бароніць,
Закон і парадак паўсюдна уводзіць.
Рабуе падданых тыран і мардуе,
Іх енкаў і стогнаў ніколі не чуе.

## ГОДНАСЦЬ

Бацькоў заслугі — дзецям не перадаюцца,
Сын мусіць сам да дабрачыннасцяў імкнуцца.
Не славай продкаў варта аздабляцца,
Найлепш — стараннай працай узвышацца!

## ПРАЦА

Улетку пчолкі пільны клопат маюць,
   Салодкі з кветак мёд для нас збіраюць.
Калі ж адна не хоча з іх рабіць, —
   Ёй не дазволяць рой сарамаціць.
Пазбавяць крылаў, выкінуць за дзверы,
   Каб людзям даць узор і прыклад веры.
Няма прыстанку лайдакам сярод людзей,
   Павінен кожны працаваць штодзень.
Уласнай працай ежу здабываць,
   А не чужы набытак спажываць.
Той, хто не хоча гаспадаркі весці,
   Не зможа смачны хлеб уволю есці.
«Гультай, будзь галодны!», — апостал сцвярджае,
   Ад імя Хрыста ўсіх нас навучае:
Лайдакоў адусюль заўжды выганяюць,
   Прылежных — да працы і справў далучаюць.



# КАМЕНТАР

## КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

### *Слова аб тым, каб не забывалі настаўнікаў сваіх (с. 51)*

Перакладзена паводле выд.: *Мельнікаў А. А.* Кірыл, епіскап тураўскі. Мн., 1997. С. 449—450.

### *Слова на сабор 318 святых айцоў (с. 52)*

Пераклад ажыццёўлены паводле публ.: *Еремин И. П.* Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды Отдела древнерусской литературы. М.-Л., 1958. Т. XV. С. 343—348.

### *Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага (с. 57)*

Перакладзена паводле выд.: *Еремин И. П.* Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды Отдела древнерусской литературы. М.-Л., 1956. Т. XII. С. 340—347.

### *Слова ў першую нядзелю пасля Пасхі (урывак) (с. 61)*

Перакладзена паводле публ.: *Еремин И. П.* Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды Отдела древнерусской литературы. М.-Л., 1957. Т. XIII. С. 415—426.

### *Малітва ў нядзелю на ютрані (с. 64)*

Перакладзена паводле выд.: Молитвы на всю седмицу. Твореніе святаго отца нашего Кирилла, инока. Вильня, 1596.

## АПОВЕСЦЬ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ *(с. 69)*

Перакладзена з царкоўнаславянскай паводле рукапісу, што захоўваецца ў Публічнай б-цы ў Санкт-Пецярбургу (Збор Пагодзіна, № 869. Арк. 318 адв. — 332).

## ІГНАТ СМАЛЯНІН

### *Хаджэнне (с. 88)*

Друкуецца з скарачэннямі паводле выдання: Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994. С. 154—163.

## ГРЫГОРЫ ЦАМБЛАК

*Слова на адсячэнне галавы святога і слаўнага прарока і папярэдніка і Хрысціцеля Іаана (с. 102)*

Пераклад выкананы паводле рукапісу «Святочніка» XVIII ст., які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў і старадрукаў НБ РБ, № 214. Арк. 267—273.

## ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ *(с. 107)*

Захавалася ў дзвюх рэдакцыях шасці летапісных спісаў. У перакладзе В.Чамярыцкага друкуецца паводле публ.: Спадчына. 1991. № 4. С. 98—99.

## ПАХВАЛА КНЯЗЮ КАНСТАНЦІНУ АСТРОЖСКАМУ *(с. 110)*

«Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму» чытаецца паводле Валынскага кароткага летапісу, які збярогся ў рукапісе Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў у Маскве (Фонд 181. Вопіс 1. Ч. 1. № 21/26. «Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму» займае арк. 72 адв. — 74 адв.).

Пераклад выкананы паводле публ.: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 125—127.

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА *(с. 114)*

Пераклады і тэксталагічныя рэканструкцыі твораў Ф.Скарыны ажыццёўлены паводле найноўшых факсімільных перавыданняў.

## МІКОЛА ГУСОЎСКІ

*«Песня пра зубра» (с. 165)*

Урывак з «Песні пра зубра» ў перакладзе Я. Семяжона друкуецца паводле выдання: Анталогія беларускай паэзіі. Мн., 1993. С.46—51.

## НАВЕЛА ПРА АЖЭНСТВА КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА З БАРБАРАЙ РАДЗІВІЛ *(с. 171)*

Пераклад выкананы паводле публ.: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 171—172.

## СТАФАН ЗБАРАЖСКІ

*Дзённік літоўскіх паслоў (с. 177)*

Рукапісны арыгінал «Дзённіка літоўскіх паслоў» захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (Фонд 384. Воп. 1. Ч. 2. № 603). Пераклад выкананы паводле публ.: Сборник князя Оболенского. М., 1838. № 5. С. 4—21.

## СЫМОН БУДНЫ *(с. 187)*

Пераклады выкананы паводле наступных выданняў: *Будны С*. Катихисіс, то ест Наука стародавная хрістіаньская от Светого Писма

для простых людей языка руского въ пытаніях и отказех събрана. — Нясвіж, 1562; *Budny S.* O urzkdzie miecza uzywaj№cem. Wyznanie Zboru Pana Chrystusowego, ktory w Litwie, z Pisma Њwiкtego krytko spisane. Przytem tegoї urzkdu Obrona przeciw wszem jego sprzeciwnikom przez Simona Budnego napisana. K temu jasne z Pisma Њwiкtego pokazanie їe chrystyanin moїe mieж poddane wolne i niewolne, gdyby ich tylo bogobojnie uїywai. Nadto List zacnego mкїa Marcina Krowicskiego teї o urzkdzie, їe ji moїe chrystyanin z dobrym sumnieniem trzymaж i zioczycce wedle rozkazania Boїego karaж. — Josk, 1583 (Zabytki Literatury z doby Reformacji. — Warszawa, 1932. N 1). S. 34—42.

## ФІЛОН КМІТА-ЧАРНОБЫЛЬСКІ

### *Лісты (с. 225)*

Пераклад лістоў Ф. Кміты-Чарнобыльскага выкананы паводле выд.: Помнікі стражытнай беларускай пісьменнасці / Уклад., уступ. арт. і камент. А. Ф. Коршунава. Мн., 1975. С. 41—109.

## ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ

### *Прадмова (с. 236)*

Пераклад «Прадмовы» да Евангелля выкананы паводле арыгінала, рукапісу Б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу (фонд Пагодзіна І. І. № 29. Арк. 267 адв. — 270).

## АНДРЭЙ РЫМША

### *Которого ся месяца што за старых веков деело короткое описаніе [Храналогія] (с. 241)*

Друкуецца паводле першакрыніцы (Астрог, 1581. Адзіны экземпляр гэтага выдання захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Шыфр 1.2 № 3).

### *На герб ясневельможного пана, пана Остафея Воловича, пана Виленского и прочих (с. 243)*

Паэтычнае чатырохрадкоўе друкуецца паводле першакрыніцы: Генадия патриарха Константинопольского, по наречению Сколяриса, Диалог, или Само друга размова. Вільня: Друкарня Мамонічаў, 1585. Арк. 2.

### *На преславные а старовечные клейноты или гербы ясневельможного пана, пана Лва Сапеги подканцлерего Великого Князьства Литовъского, слонимского, мяделского, марковского и прочихъ старосты, епикграмма (с. 243)*

Эмблематычны верш «На преславные а старовечные клейноты...» друкуецца паводле першакрыніцы: Статут Великого Князства Литовкого. Вільня, 1588. Арк. 5—5 адв.

*На гербы ясневельможного пана, пана Теодора Скумина, воеводы новгородского, епикграмма (с. 244)*

Верш друкуецца паводле першакрыніцы: «Апостол». Вільня, 1591. Тыт. арк. адв. (Паасобнік ДзПБ, 1.2.13).

## ЛЕЎ САПЕГА

*Прысвячэнне Жыгімонту Трэцяму, найяснейшаму пану, пану Жыгімонту Трэцяму, Божай міласцю каралю польскаму, вялікаму князю літоўскаму, рускаму, прускаму, жамойцкаму, мазавецкаму, інфлянцкаму ды інш. той жа Божай міласцю гаспадару і каралю дзедзічнаму шведскаму, гоцкаму, вандальскаму і вялікаму князю фінляндскаму, пану а пану, пану майму міласціваму (с. 249)*

Пераклад выкананы паводле фотакопіі арыгінала, змешчанай у выданні: Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989.

*Зварот да ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага (с. 252)*

Пераклад выкананы паводле фотакопіі арыгінала, змешчанай у выданні: Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989.

## ЛАЎРЭНЦІ ЗІЗАНІЙ *(с. 254)*

Пераклады твораў Л.Зізанія выкананы паводле наступных крыніц: *Зізаній Л.* Грамматіка словенска съвершеннаго искуства осми частій слова и иных нуждных. Ново съставленна Л. З. В Вильни, в друкарни Братской. Року Божого 1596; *Зізаній Л.* Катехизіс, албо Вызнаніе веры святое, соборное, апостольское Въсходнее церкви (1600) // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1890. Кн. 4. Отдел 3. С. 1—81; *Зізаній Л.* Поученіе при погребе Софіеи, княгыні Чарторыскои, чыненое от священноіереа Лаврентіа Зізанего, протопопы корецкого (18 мая 1618) // Крыловский А. Львовское ставропигиальное братство. Киев, 1906. Приложение. С. 53—64.

## ІПАТ ПАЦЕЙ

*Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і Абарона здзейсненых згоды й лучнасці, якія сталіся на сінодзе Берасцейскім у 1596 годзе (с. 274)*

Перкалад твора І.Пацея выкананы паводле арыгінала, які захоўваецца ў бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу (Шыфр: 1021сп.).

## ГАЛЬЯШ ПЕЛЬГРЫМОЎСКІ

### *Гутарка аднаго Паляка з Маскалём на Маскоўскім замку ў годзе 1601 (с. 298)*

Друкуецца паводле публ.: *Гальяш Пельгрымоўскі*. Гутарка аднаго Паляка з Маскалём на Маскоўскім замку ў годзе 1601 // Полымя. 1994. № 7. С. 165—170.

## МІКАЛАЙ КРЫШТОФ РАДЗІВІЛ СІРОТКА

### *Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю (с. 308)*

Урывак з «Перэгрынацыі...» друкуецца паводле публ.: Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994. С. 304—346. Пераклад твора на сучасную беларускую мову зроблены С.Шупам паводле выдання: Mikołaja Krzysztofa Radziwiła Pielgrzymka do Ziemi świętej. Tłómaczona przez X. Andrzeja Wargockiego. Wrocław, 1847.

## ФЁДАР ЕЎЛАШОЎСКІ *(с. 334)*

Гістарычныя запіскі. Друкуюцца ў перакладзе У. Свяжынскага.

## МЯЛЕЦІ СМАТРЫЦКІ

### *Лямент у света убогих на жалосное преставленіе святоблівого а в обои добродетели богатого мужа, в Бозе велебного господина отца Леонтія Карповича, архімандріта общіа обители при церкви Сошествия Святого Духа, братства церковного Віленского, православія греческого (с. 361)*

Паэтычны твор М.Сматрыцкага «Лямант на смерць Л.Карповіча» друкуецца паводле фотакопіі арыгінала: «Лямент у света убогих на жалосное преставленіе святоблівого а в обои добродетели богатого мужа, в Бозе велебного господина отца Леонтія Карповича, архімандріта общіа обители при церкви Сошествия Святого Духа, братства церковного Віленского, православія греческого» (Вільня, друкарня Брацкая, 1620).

## ЯЗЭП РУЦКІ

### *Падвойная віна(с. 384)*

Пераклад «Падвойнай віны» выкананы паводле арыгінала: *Rutski J.* Sowita wina, to iest Odpis na script, Maiestat Krola Jego Mości, honor y reputatią ludzi zacnych, duchownych y swieckich obrażaiący, nazwany «Verificatia niewinności», wydany od zgromadzenia nowej cerkwie, nazwanej S. Ducha. Przez ojce monastyra Wileńskiego Ś. Trojcy, Zakonu Ś. Bazilego. — W druk podany w Wilnie, roku Pańskiego 1621.

### *Тэзес, сиреч изъвестны предъложенія от ученій, еже о тайнах церъковных. На размышленіе къ объщему состезанію данны честным отцем Іосифом Веляминoм Рутъским,*

*іноком Закону Святаго Василія в монастыру виленъском Святое Живоначалное Тройцы. Состязаніе же се на обычном месте ученій будет, пры монастыри пред реченном. Року от нароженя Христова 1608, месяца генваря, дня 11, часу второго по полудни (с. 388)*

«Тэзісы» друкуюцца паводле арыгінала: *Руцкі Я.* TESES, сиреч изъвестны предъложенія от ученій, еже о тайнах церъковных. На размышленіе къ объщему состезанію данны честным отцем Іосифом Веляміном Рутъским, іноком Закону Святаго Василія в монастыру виленском Святое Живоначалное Тройцы [Вільня, 1608].

## ЯН КАЗІМІР ПАШКЕВІЧ

** * * Полска квітнет лаціною... (с. 391)*

Верш друкуецца паводле рукапіснага арыгінала — Слуцкага спіса Статута 1529 г, які захоўваецца ў Санкт-Пецярбургскай Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы, аддзел рукапісаў, фонд ОЛДП. № 368. Арк. 13.

## ЯЗАФАТ КУНЦЭВІЧ

*Катехизм од слуги божого Иосафата сочетанный (с. 393)*

«Катэхізіс» Я.Кунцэвіча друкуецца ў адаптаваным выглядзе паводле рукапісу бібліятэкі РАН у Санкт-Пецярбургу (фонд П.Дабрахотава. № 33. Арк. 182—195).

## КІРЫЛА ТРАНКВІЛІЁН-СТАЎРАВЕЦКІ

*Люстра багаслоўя (с. 409)*

Пераклад урыўка выкананы паводле арыгінала: *Транквіліён-Стаўравецкі К.* Сіа книга нарицаемая Зерцало Богословіи, збрана от многіх кніг богословских и трудолюбием съставлена іеромонаха Киріла Транквиліона, проповедника Слова Божіа [1618].

## ТУМАШ ЯЎЛЕВІЧ

*Лабірынт, або Заблытаная дарога, дзе гожая мудрасць з абавязку свайго вяльможным панам магілявянам ды яшчэ некаторым, у пачынаннях сваіх падобным, карацейшую й далёка лепшую дарогу паказвае (с. 428)*

Пераклад паэмы выкананы Р.І.Барадуліным паводле публ: *Tomasz Iewlewicz.* Labirynt, abo Droga Zawikłana. Kraków, 1625 // Українська література XVI—XVIII ст. та інші слов'янські літератури. Київ, 1984. С. 258—285.

## БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА *(с. 446)*

Пераклад выкананы паводле выд.: Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 174—192. Друкуецца са скарачэннямі.

## АФАНАСІЙ ФІЛІПОВІЧ

*Дыярыуш, або Апісанне праўдзівых падзей (с. 471)*

Пераклад выкананы паводле публ.: «Діаріуш, албо Список деев правдивых в справе помноженя и объясненя веры православное голошеный... року 1646» // Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 1 (Рус. ист. б-ка. СПб., 1878. Т. 4. Стб. 49—146). Шэраг месцаў удакладнены паводле фотакопіі з арыгінальнага спісу Санкт-Пецярбургскай Дзяржаўнай публічнай б-кі імя Салтыкова-Шчадрына (Q. XVII. 220. Арк. 100—185 адв.).

## АПОВЕСЦЬ ПРА ПАКУТЫ І СМЕРЦЬ АЙЦА АФАНАСІЯ ФІЛІПОВІЧА *(с. 503)*

Пераклад выкананы паводле публ.: «Діаріуш, албо Список деев правдивых в справе помноженя и объясненя веры православное голошеный... року 1646» // Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 1 (Рус. ист. б-ка. СПб., 1878. Т. 4. Стб. 146—156).

## ФЕАДОСІ БАРАВІК

*Гісторыя, або Аповесць розных людзей пра цудадзейны абраз Жыровіцкай Дзевы Марыі (с. 512)*

Пераклад выкананы паводле публ.: Известия отделения русского языка и словесности. Т. 17. Кн. 2. С. 245—249.

## СІЛЬВЕСТР КОСАЎ

*Дідаскаліа, альбо Наука, которая ся первей из уст священником подавала — о седми сакраментах алболи тайнах, на сіноде поместном в богоспасаемом граде Могилеве, року Божего 1637, месяца октобра 19 дня, отправованым от превелебнаго его милости господина отца Сільвестра Косова, на тот час епископа мстиславскаго, оршанскаго и могилевскаго, теперешнего милостью Божею митрополита киевского, галицкого и всея Россіи. Потом през того ж в друк подана. По-трете, в тіпографіи монастыра общежителнаго кутеенского тіпом издася року 1653, месяца мая 30 дня (с. 519)*

«Дыдаскалія…» С. Косава друкуецца паводле арыгінала.

## ПІЛІП КАЗІМІР АБУХОВІЧ

*Дыярыуш (с. 531)*

Пераклад «Дыярыуша» выкананы В. Таранеўскім паводле арыгінала, што захоўваецца ў Курніцкай бібліятэцы (№ 1303). Друкуецца паводле публ.: «Дыярыуш Піліпа Казіміра Абуховіча, ваяводы смаленскага, маршалка кола рыцарскага» // Полымя. 1995. № 7. С. 155—187.

## ІАНІКІ ГАЛЯТОЎСКІ

***Казанне ў нядзелю 25 па сыходжанні Святога Духа «пра перавагу беднага жыцця над заможным» (с. 564)***

Пераклад выкананы паводле выданняў: *Галятоўскі Іаанікій.* «Ключ разумення» (1659, Кіева-Пячорская Лаўра; 1665, Львоў).

## ПРАМОВА МЯЛЕШКІ *(с. 571)*

Пераклад выкананы паводле публ.: *Даўгяла Зм. І.* З беларускага пісьменства XVII стал. Менск, 1927. С. 34—39.

## ЛІСТ ДА АБУХОВІЧА *(с. 576)*

Пераклад твора выкананы паводле публікацыі: «Ліст да Абуховіча» // *Даўгяла Зм. І.* З беларускага пісьменства XVII стал. Менск, 1927. С. 27—33.

## СІМЯОН ПОЛАЦКІ *(с. 582)*

Творы Сімяона Полацкага — «Вітанне» і «Вершы суцяшальныя», напісаныя ў беларускі перыяд творчасці, друкуюцца ў адаптаваным выглядзе паводле выдання: *Симеон Полоцкий.* Вирши / Сост., подгот. текстов, вступ. ст. и комм. В. К. Былинина, Л. У. Звонаревой. Мн., 1990. Пераклады вершаваных твораў С. Полацкага выкананы паводле выдання: *Полоцкий С.* Избранные сочинения / Подготовка текста, вступ. ст. и коммент. И. П. Еремина. Л., 1953.

## SUMMARY

The present edition comprises the literary inheritance of Belarus of the 12th—17th centuries. A number of works adapted and translated into the modern Belarusian language are printed here including the works by K. Turauski, I. Smalianin, H. Tsamblaka, F. Skaryna, M. Husouski, S. Zbarazhski, S. Budny, F. Kmita-Charnobylski, V. Tsiapinski, A. Rymsha, L. Sapeha, I. Patsey, L. Zizany, H. Pelgrymouski, M. K. Radzivil «the Orphan», F. Eulashouski, Ya. Kuntsevich, Ya. K. Pashkevich, M. Smatrytski, Ya.-V. Rutski, A. Philipovich, T. Yaulevich, K. Trankviliyon-Stauravetski, F. Baravik, S. Kosau, P. K. Abukhovich, I. Haliatouski, S. Polatski as well as a number of anonymous literary works.

A wide range of different genres is represented such as epic works, poetry, publicistic writing, satire and syncretism. Each genre is prefaced with a substantial introductory article; therefore, the edition naturally combines a historical book, an anthology and a reader. The development of the Belarusian literature of the 12th —the 17th centuries is analyzed in its vertical and horizontal connections with the East and the West, with classical antiquity, Christian Middle Ages and folk traditions.

The preface, the comments and the compiling are done by Ivan Saverchanka, Dr. of Philology.



# ЗМЕСТ

**Старажытная беларуская літаратура (XII–XVII стст.)**
С 77 / Уклад., прадм., камент. І. Саверчанкі. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 608 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).
ISBN 985-6824-43-5.

Выданне ўключае літаратурную спадчыну Беларусі XII–XVII стст. У перакладзе на сучасную беларускую мову і ў адаптаваным выглядзе друкуюцца творы К. Тураўскага, І. Смаляніна, Г. Цамблака, Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Збаражскага, С. Буднага, Ф. Кміты-Чарнобыльскага, В. Цяпінскага, А. Рымшы, Л. Сапегі, І. Пацея, Л. Зізанія, Г. Пельгрымоўскага, М. К. Радзівіла Сіроткі, Ф. Еўлашоўскага, Я. Кунцэвіча, Я. К. Пашкевіча, М. Сматрыцкага, Я. В. Руцкага, А. Філіповіча, Т. Яўлевіча, К. Транквіліёна-Стаўравецкага, Ф. Баравіка, С. Косава, П. К. Абуховіча, І. Галятоўскага, С. Полацкага, а таксама корпус ананімных помнікаў пісьменства.

Трыццаць шосты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Старажытная беларуская літаратура**
**(XII–XVII стст.)**

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Кастусь Дуброўскі
Мастак Мікалай Казлоў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Карэктар Лідзія Карамазава

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 27.12.2006.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 22,68 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 22,01.
Наклад 5000 асобнікаў (першы завод 2000). Зак.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14.**
E-mail: bkniha@tut.by

Пры ўдзеле ТАА «Харвест»
Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
220013, Мінск, вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ISBN 985-6824-43-5




Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы